№2(69)
/сакавік-красавік/ 2014

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ



**2 сакавіка 2014 года**
**Беларусь страціла**
**свайго вялікага Паэта –**
**Рыгора Іванавіча БАРАДУЛІНА**

***Барадулін дужа спяшаўся ў свае апошнія восень і зіму. Тады гэта здавалася дзіўным, а пасля 2 сакавіка — зразумелым. Прынамсі, ён вельмі спяшаўся ўбачыць надрукаванымі свае вершы. Пачынаючы з верасня, практычна кожны раз, калі я бываў у Рыгора Барадуліна ў гасцях, ён даставаў рукапісныя ці машынапісныя аркушыкі і прасіў паглядзець — ці друкавалася? Калі не, дык ці можна перадрукаваць? Але дзе апублікаваць? «Дзядзька Рыгор, перадам у “Дзеяслоў”...» Першыя падборкі тых вершаў выйшлі ў снежаньскім «Дзеяслове» і ў дадатку да газеты «Новы час» «Літаратурная Беларусь». Але дзядзька Рыгор, як чараўнік, зноў выцягваў са стоса папер на пісьмовым стале рукапісныя аркушыкі і, прабачаючыся, запытальна звяртаўся: «Можа, паглядзіце...» Я перадрукоўваў і пасля прыносіў паглядзець, і амаль заўсёды мяне чакалі вершы вычытаныя і зноў, у чарговы раз, — рукапісныя. Так было ў верасні, кастрычніку, лістападзе... Не ўсе тыя вершы патрапілі тады ў апошні ў 2013 годзе нумар «Дзеяслова» — значная частка іх друкуецца цяпер. Барадулін вельмі чакаў гэтай публікацыі і па-ранейшаму спяшаўся дадаць у будучую падборку новыя вершы, часам прасіў прыходзіць нават за адным-двума вершамі. Апошні, «Мальба», прадыктаваў па тэлефоне 23 лютага. І потым неаднойчы званіў і пытаўся — ці паспелі?.. І хоць у тую нябесную далечыню, дзе Вы, дарагі дзядзька Рыгор, цяпер, звычайная нашая пошта не даходзіць, але, мусіць, Вы і самі ўжо ведаеце, што — паспелі...***

**Сяргей ШАПРАН**

### *НЫЕ...*

Белабокая, як сарока,
Аблачына
Прысела на слуп.
Недзе ў небе заспаным
Ные глыбока
Самалёт,
Як вырваны зуб...

### *ДЛЯ РАЎНАВАГІ*

Між летам і восенню
Жоўты лісток
Дрыжыць
На танюсенькай павуцінцы...

* * *

Гарматы застуджанай
Кашаль гарачы
Далёка відаць...

* * *

Кроплі смялеюць.
Святло вачэе.
Раніца
Баіцца згубіцца...

* * *

Я ведаў,
Што значыць жыццё,
Покуль змог
Выгукнуць радасна:
Мама!..

* * *

Каго Бог любіць,
Таго й нагружае,
Каго не любіць —
Не заўважае, —
Сабе ў суцеху
Чалавек разважае.

* * *

Над журбой крыніцы
Вербы гнуцца ніца.
У прымоўклым небе
Знічка знічцы сніцца...

* * *

Бліскаюць нябесныя ляды.
Усмешкамі зорак
Гусцее дол.
Каляды...

* * *

Свой клопат і ў праталін босых.
І сонцу спаць няма калі.
Хто лёгка лётае ў нябёсах,
Той цяжка ходзіць па зямлі.

* * *

Жыццё — турма
З незачыненымі дзвярыма.
Ды выйсці на волю
З яе немагчыма.

***БЯСКОНЦАСЦЬ***

Ступаецца ўпэўнена
Ранняму кроку.
П’е смага нагбом
З маладога карча.
Агонь чуе шэпт
Таямнічага змроку.
Рака прадчувае
Пачатак канца...

* * *

Шалёнай залеве
І ціхаму дрэву,
Усім, хто шануе
Турботы свае,
Самадастаткова лагоды і гневу.
Адно чалавеку
Сябе не стае...

***ЦІКАВАЕ***

Хадой упэўненай час ідзе.
Да сябе ён не дапускае нікога.

А ўсё-ткі цікава:
Калі і дзе
Адпачывае трывога?..

* * *

— Мама, калі ты прыйдзеш?! —
Малыя крычаць,
Не шануючы горла.
...Маці памёрла...

* * *

Лесу не патрэбна пахвала.
Звыкла парасчульвацца
Смала...

* * *

Каб хмурынка.
Паўдзён, як шчупак без лускі,
Задыхаецца ля ракі.

* * *

Скаціцца маленства
З гары садоў
На санках завеістага ўспаміну...

* * *

Ані ўдзень, ні ўначы
Не ўдалося яшчэ нікому
Ад самога сябе ўцячы...

* * *

У садзе старым
Бабулькі згарбелыя
Люляюць унучанятак зялёных...

* * *

Там Айчына душы,
Дзе магчыма
Пасвіць цёплыя зоркі
Вачыма...

* * *

Дажджынка бяссонная
На зыбкай галінцы дрыжыць.
І ёй, безабароннай,
Хочацца жыць...

* * *

Дзень хоча замаліць свае грахі.
А вечар не спяшаецца знарок.
І ападае ліст,
Як дождж, сухі,
І чутна,
Як цяплее лёгкі змрок...

* * *

Яшчэ заспанаму лесуну
Ледзяшынка за пазуху лезе.
Марудна спяшае ў вясну
Лес па калені ў снезе...

* * *

Па тым,
Што было калісьці,
Яшчэ дадавацьма суму
Вераб'ёў апалае лісце
З вясёлага дрэва шуму...

* * *

Найвышэйшае ў свеце мастацтва —
Натуральна жыццё пражыць
І самім сабою застацца...

* * *

Маміна слова,
Ласка твая без меж.
Толькі ты мяне
На зямлі трымаеш
І да мамы мяне павядзеш...

* * *

Для мрояў доле
Мулкая дарога.
У небе зорыцца
Птушыны шлях,
Каб светла йсці было
Душы да Бога...

* * *

Якраз
Мусіць памятаць непакора:
Даганяючы вецер,
Праз лес
Дападае рака да мора...

* * *

На сушы й на вадзе
Дзе цесна ад трывог,
Усё ў жыцці ідзе,
Як дазваляе Бог...

* * *

У сонца зліпаюцца вейкі.
Ценям хочацца дужыцца.
Маладзенькія верабейкі
Купаюцца ў цёплай лужынцы...

* * *

Над бяссоннаю крыніцай
Ноч схілілася дрымотная.
Хмара ксціцца бліскавіцай.
Далеч моліцца грымотамі...

* * *

Спакойна радаснаму караваю
Саступіць покуць
Посная куцця.
Чужых магіл на свеце не бывае —
Мы ўсе радня
Па лініі жыцця...

* * *

І як ні пнуцца затрымацца
Жыцця імклівага ўтрыманца,
Прымае ўсіх
Зямля сырая —
Яна не разбірае...

## *СНЫ САСНЫ*

І крыўды ў зааблоччы,
Як сцежкі, размінуцца.
І сны сасны аднойчы
З ракі вясны нап'юцца.
Дзень уцячэ ад ночы
Аднойчы...

## *НЕМІНУЧА...*

Як немачам сваім ні патурай,
Яны твайго ўжо не баяцца ўруччa.

На схіле год
І ты, як ураджай,
Залежыш ад надвор'я
Немінуча...

** * **

Адзін, ад галавы да ног,
Увесь у золаце і срэбры.
А іншы гэтак і не змог
Прыкрыць свае худыя рэбры.
Ды прыме ўсіх зямля сырая —
Яна не разбірае...

## *НЕАКРЭСЛЕНАСЦЬ*

А, наогул,
Як і не было.
А, наогул,
Як і не збылося.
Прытамілася трываць святло.
Моўчкі асыпаецца калоссе...

** * **

Кароцячы адлегласць
Дзень пры дні,
Мазгі цяжкія,
Як старыя жорны,
Дамолваюць
Абмецце мітусні...

* * *

Цень пацыбацеў
І дзень падрос.
Цыган прыладжвае
Ў неба драбіны.
Перабірае паганец-мароз
Ружанец ягадаў арабіны...

* * *

У маладой спагады
Хата з краю.
Адной самоце
Крыўда давярае...

* * *

Да свайго
Ад усяго чужога
Не стамляецца ўцякаць
Дарога...

**_КАБ не ЗБЕГ..._**

Калі настала шлюбная пара
І зашугаў агонь
З пажадных зрэнак,
Сабака вылаяў гаспадара,
А сам пабег
Пагаўкаць на паненак...

**_РУПІЦЬ_**

Перашэпты ценяў
                    пачуць,
Убачыць спіну
                    імгнення...

* * *

Далягляд —
Заручальны пярсцёнак.
Заручае неба з зямлёй...

* * *

Шыльдачка
Над дзвярыма душы:
«Чужым уваход
забаронены!..»

* * *

Не ўмее тужыць,
Вясёла бяжыць
Плынь вятрыстая.
Не злічыш прыстані.
А дно
Адно...

*16.VIII.2013*

## УСПАМІН ПЕРАД ДОМАМ

Цьмее родная хата
Пад ссівелай бядою.
І грымотна й крылата
Думаць разам з вадою...

*10.IV.2013*

## ЯК І...

І маманты павымерлі,
Калі
Адчулі,
Што сябе пераж*ы*л*і*...

*4.III.2013*

* * *

Рукі зарукі,
Ногі трывогі,
Губы згубы.
Увесь чалавек
Са складнікаў —
Ветравейнікаў,
Лістападнікаў...

*31.VII.2013*

* * *

На таку кулі,
У патронніку
Кулі
Чакаюць...

*5.VII.2013*

* * *

Пад страхой
Высцяжна вудаўю.
Камары раяцца.
Зоркі раяцца.
Права першай ночы
Салаўю
Дакляруе раніцы...

*27.VIII.2013*

* * *

Аднекуль голас:
*Стой!*
Ты ўжо за цішынёй,
Дзе крок на гэты свет
І крок адзін на той...

*3.VI.2012*

* * *

Стамляецца наша бяседа —
Я пра сябе кажу,
Як пра суседа...

*21.XI.2012*

* * *

Дзед, як дзіця.
Хаця...

*12.VII.2013*

***НЕ!***

Вёў не наіў
Яго да перамогі.

І ўрэшце падаіў
Сястру казла за рогі...

*21.І.2012*

* * *

Бясхмарны
Не марна
Наважыўся жыць.
Дарога здаецца такой далёкаю.
Сябе даганяеш.
А час бяжыць.
І ты ў яго выпадковым лёкаем.

Самота папросіцца на начлег.
Прызнае за свайго
Развітанне.
Халодны час
Не прыпыніць бег.
Ці жыў,
Каму задаваць меш пытанне?

*4.XI.2012*

* * *

Ува мне
Ўсё меней і меней мяне.

## УЖО, АЛЕ...

Клёцкі стынуць на стале.
Думкі пасвяцца,
Але
Гнаць у хлеў няма калі —
Абжываем шпіталі...

*6.IX.2012. Шпіталь*

## ВЫРАЙ РУК

*Дзянісу Абухоўскаму*

Вырай акрыленых рук
Маладзіць успаміны.
На даланях даўніны
Ручнікоў аблачыны.

Рух да ціхіх дзвярын
Далікатна няспынны.
Для годных бацькоў
Гадуе Айчына сына.

Летуценнаю нотай
Шэпча брага каўшу.
Профіль роднага краю
Весніць чула душу...

*10.IV.2013*

** * **

Ранішнія каханыя,
Як аблачыны закалыханыя,
Ад долу далёка.
І ўжо не хапае вока
Ахапіць
Хаця б успамінам.
А выраі журбы
Жураўліным клінам
Ляцяць высока...

*20.VII.2007*

## АЖ...

І сустрэць аднойчы,
Каб пасля
Жыць адзінай,
Што паслала доля,
Аж пакуль
Раўнівая зямля
Сарамлівіць сябе
Не зможа болей...

*15.III.2008*

## КОЛЬКІ?

Колькі важыць
Сівое крыло крумкача,
Колькі важыць
Загнутая дзюба?
Адказаў бы, напэўна,
Арак з-пад карча,

Ды яму на святле
Быць не люба.

Не замоўкне
Пытанняў жывы зарапад,
Ці знянацкасць
Адказваць гатова,
Як не хоча савець
Малады далягляд.
Колькі важыць
Апошняе слова?..

*1.VIII.2013*

* * *

Гады —
Закладнікі хады.
Са мной
Мой цень
Ідзе з гары.
Як маладзік,
Ён малады.
І як туман,
Стары...

*28.VIII. 2013*

## ПЕРАГАНЯННЕ

Дагнаць хацела
Стрэл страла.
Дапамагчы
Магла імгла.
А стрэл
Стралу
Чакаць не стаў —
Уцяў імглу
І ўміг растаў.
Смяецца
З-пад вугла
Імгла:
Застрэлься з роспачы,
Страла!..

*15.IX.2013*

### *ДА РАДАВОДУ АЛЕСЯ КАМОЦКАГА*

Шляхта наша
За пазухай
Перапёлку трымала.
І трымае
Набрыдзі рознай на злосць.
Засталося працэджанай
Да балю мала.
Значыць,
Не звядзецца ніколі,
Бо ўпарта
Ёсць!

*25.IX.2013*

### *?*

Каму са змроку
Крумкач
Рыпіць заржавела
Прабач?

** * **

Што такое пакуты,
Ведае
Да слова прыкуты...

** * **

Адганяю гадзіннік
Назад на гадзіну.
А як гады свае адагнаць
Хоць на імгненне?..

** * **

І пад вадой, відаць,
Працуе пошта.
А навошта?

** * **

Жывому спакойна
Паказвае вышыня,

Як цень ягоны
Карацее штодня...

### *ЗАХМАРНЫ ПРЫСУД*

Смеласць —
Гэта захмарны прысуд.
Мудрасць —
Гэта Боская кара.
Для пакут
Ёсць пачэсны кут.
Абароніць ад здрады
Мара.

Космас,
Як надзейны сусед,
Вучыць
Верным быць
Непакоры.
Мудрасць
Смела ступае,
А ўслед
Зацвітаюць на сцежках
Зоры...

*24.X.2010*

### *ТРОЙЧЫ*

Галоўнае пачуць,
а рэшту дакрычаць
і рэха здолее...

*
Галоўнае пачаць,
а рэшту дамаўчыць
дымліва комін...

*
Галоўнае пачаць,
а рэшту далучаць
да дня сябе захоча ноч...

*23.X.2013*

## *УРАЧЫСТАЯ ПРАЦА*

*Барысу Пятровічу (Сачанку)*

Увага —
Урачыстая праца.
Няўважлівым быць не з рукі.
Прыходзяць на свет,
Каб старацца,
Натхнёныя чараўнікі.

Увага —
Шчыруха старая —
Стараецца збыцца
Хутчэй.
І слова
Сябе давярае
Сусвету каханых вачэй.

Не моўкне зялёная сага.
Рунее паэма святла.
Не дрэмле
Пулятая ўвага,
Каб родная мова жыла!

*23.X.2013*

* * *

Кропля выцінаецца бадзёра
З леташняга заўтра
Ў сённяшняе ўчора.
Сёлета
На галінцы голай навісіцца
Кропля,
Покуль
Свой празрысты плашч
Сушыць навальніца...

*21.X.2013*

## *КРЫХУ З АТЫНКОЎКІ*

Як каньяк
З зацятага бачэнка,
Смелы дух,
Што зваліць з ног вала,
Што ў бачэнка
Спрытна выб’е дэнка,

Значыць шлях
Падрослага арла.
І ў яго найменне —
Лабадзенка.

Светла ў душах
Гаспадарыць хлеб.
Брацца за святое
Звыкла праца.
Ў поспеха пазыку
Робіць Глеб.
Не прырос шчырун
Да пахвалеб,
Бо сынамі
Мусіць паўтарацца!

*14.X.2013*

## ВЭНДЗІЛА

Някляеў —
Той агонь,
Які
Кабетам вэндзіць кумпякі!

## ДЗЕВЯТНАЦЦАЦЬ

*Наталлі Давыдзенка*

Душа сваю шануе глыбіню,
Як неба,
Як нязддзейсненую мрою.
Абмытая святлом упершыню,
Спрыяе сцежка
Зорнаму настрою.

Бяжыцца хітра
Сцежцы па тайзе
З Усходу
Ў балаганную Еўропу.
Развага,
Ў меру ўдзячная тузе,
Глухой шашой
Глынаецца зналопу.

Рух ціха спешыць
Ісціна святла.

Звык сподзеў
Ля чакання завінацца.
І сцежка,
І яна, што ёй ішла,
Узрост свой значыць
Лічбай 19!

*19.X.2013*

## АКРАПОДУМКА

**І**дзе дарога подумкай крыла.
**Г**ары з гарою хочацца сысціся.
**А**цішыць пораст не хапае тла.
**Р**ашуча плечы развінулі высі.
**Ц**ераз вякі ліняюць скразнякі.
**Я**снеюць вочы маладзюткай памяці.
**Р**адзее пыл сузор'яў трапяткі.
**Э**лектравасількам днець цёпла ў замяці.
**Ш**укае промень цень свой на вадзе.
**Ч**акае досвітак назвацца раннем.
**А**бсяг трывогу за сабой вядзе.
**Н**яспыннасць не цікавіцца зніканнем.
**К**алі сустрэнеш міг, спытай тады,
**А**дкуль святло прыйшло назаўсягды?..

*22.III.2013*

* * *

*Узгаданай Вясне*

Крыло, як дзюба.
Дзюба, як крыло.
І разбяры,
Дзе вецер,
Дзе груган.
Згадай,
Калі і што
Было.

А рана заначэе –
Запалі ў бары
Святло,
Сабраўшы тло.

Запальвай,
Покуль

Голас запальчывага святла
Ў далонях не ахрып.

Чуеш?..

*20.IV.2013*

## ЦМОК І ГЛЕБ

Чмок
Цмочыху ў шчаку –
Сабраўся ў госці
Цмок.
Конь-сон
На ўсім скаку
Ўцякаў,
Але ў сядле
Скакаць
Нядоўга змог.

Цмок –
Значыць, Глебава радня,
Абодвух вабіць глыбіня.
Цмок –
Значыць, Глебаў праваднік
Па багнішчы,
Дзе плача крык,
Што табунамі туманоў
Ноч запрашае
Бачыць зноў,
Як цямкі Цмок
Да ўсмешкі змок,
Нібы той певень
З доляй дыетычнай.
Ды гэта ўжо
Надвор'я
Не да-ты-чыц-ца!..

*15.XI.2013*

## КРУЦЯРА І ФЕРТ,
## УСЕ – НА КАНЦЭРТ!

Канцэрт Камоцкага сабраў
Сяброў,
А больш – сябровак.
Іх, ластавакабровых,

Звёў бард,
На жарсць багаты,
За сонечныя краты.

І сумных дакораў
Трывожна трапяткая
Пяе душа Алесева.
Гук кожны –
Тое крэсіва,
Што ласку выкрасне.

Вогнішча,
Ад асалоды стогнучы,
Падайся ў слухачы,
Свой смутак
Апячы!

*10.XI.2013*

* * *

Сцюдзёны ветраспеў
Агонь кранае.
Хто захацець паспеў, –
Надзею мае...

## ЗА ЦЕШЧУ...

Алесь Камоцкі –
Грунтоўны бард.
За цешчу яму –
Эпоха.
Прасунуты бард
Самагонкі варт
І ціхай усмешкі Бога...

*18.XI.2013*

## КАБ ЗАПЫТАЦЦА...

Як і твае неўміручыя продкі,
З сонцам вітаешся,
Кленчыш вадзе.
Век твой, як цень,
Цень, як век твой кароткі.
Мітаешся,
А жыццё ідзе.

Носяць жывыя вянкі
Кашалямі.
Усё жывое ў жывой чарадзе.
Родныя дзеці ў лёса ў пашане.
Зводныя збоку.
Жыццё ідзе.

Ні перагнаць,
Ні дагнаць немагчыма
Рух несупынны –
Жыццё ідзе.
Сустрэцца б з вачыма
Лёса-айчыма,
Каб запытацца,
Дзе?..

*4.VII.2012*

## *ЦВЁРДЫ НАСТАЎНІК*

Вучыць гром
Зелянець атаву
Ў навальніцы
Пад змакрэлым крылом...

*18.XI.2013*

## *ПАСПЕЎ...*

З шэрай цемры
Шустры Рысік
Рыжай лапай
Іскры высек...

## *АДКАЖЫ...*

Цыганка, паваражы,
Вавёрыста адкажы,
Хто кватараваць будзе
Ў гэтай будзе,
Калі саўюцца
Вужы на мяжы?..

*6.XI.2013*

## *АКРАШАНА*

*Уладзіміру Лапаніку*

**У** той краіне жыць, дзе першы снег,
**Л**ясамі зашаптаны, ходзіць босы,
**А**дкуль намеры пачынаюць бег,
**Д**аждамі падпіраюцца нябёсы.
**З**ямлю з блакітам сватаць, каб раслі
**І** шчырай працай рыцары слылі,
**М**аглі змагчы хлусню і позірк косы.
**І**шлі, дзе лёсам гналіся пракосы.
**Р**ос млечнашляхі род на ўсёй зямлі.
**Л**інуе настраёвыя лісты,
**А**бнылы сад ратуецца ад спёкі.
**П**апрок вачэй прымае змрок густы.
**А**дчаю шлях вяртання недалёкі.
**Н**яхай самота нашчыцца журбой.
**І** да вытокаў паплывуць аблокі,
**К**аб свой прыхмарыўся дадому рой!..

*23.XI.2013*

## *КАБ...*

Хоць у зайздроснікаў
Вылазяць зрэнкі,
Не дацягнуцца ім да
Лабадзенкі.
Лёс пасылае
Раз на сотню год
Падсмажаных.
Каб не хірэў народ!..

## *ПЛАЧ*

Хоць стае
І ўвагі, і харчоў,
Плачуць
Перапужаныя вершы,
Што саснецца
Палец дваццаць першы,
І тады не стане чытачоў.

*20.II.2011*

* * *

...і каб застацца
Падобным да сябе
Хацелася б...

## НА ПАСЕЦЫ ЖЫЦЦЯДАЙНАЙ АЙЦЕЦ УЛАДЫСЛАЎ ЗАВАЛЬНЮК

З салодкім клопатам
Усявышні яго паслаў,
Непадлеглага надзённай спакусе.
Шчырэе адданец
Айцец Уладыслаў,
Капелян пчаляроў Беларусі.

Спякоціцца крылцамі
Небадол.
Жагнаецца позірк
Праменнем.
Рой пчол расце
Ля гарачых чол,
Мяняючыся
Вясновым найменнем.

Дыхае хмаравейна дымар.
Рухам пачутае
Кожнае слова.
Пчолы рупліва
Кіруюць да мар.
Духоўны вялец
Бачыць псуйства
Сурова...

*18.XI.2013*

## СУМУЕ...

Галодны вецер
У полі сумуе.
Памянаючы лета,
Дзьмухаўцовая свечка гарыць.
І роспач,
Шкадуючы сябе самую,
Хацела б
Са знікласцю загаварыць...

* * *

Калі
Гурбе плячо
Прапяклі вугалі...

**СМАКУЮЧЫ...**

Страху няма рахубы
Пераходзіць дарогу дню.
Полымя апякае губы,
Смакуючы цішыню...

*22.IX.2013*

**КАМУ?**

Каму я тут
Пытанне задам,
А Т А М?..

**СМЯГЛАСЯ**

Тымі прысмеркамі магло б
Летуценнае стацца магчымым.
Смяглася полымю
Потны лоб
Выцерці ўласным дымам...

*16.XII.2013*

**ЖЫВЕ...**

Сцежка тупатк*а*я
Руху не ў галаве.
Пакуль уцякае,
Кола жыве...

*20.I.2014*

* * *

Ёсць неадольная сцяна,
А за сцяною ісціна.
І раіць ісціна ісці
Па ўсмешку вечара ў трысці
Сцяжынаю чаўна...

*5.VII.2013*

* * *

Спачатку
Было вясло.
Здзіўленне
Само плыло...

### ВІДАЦЬ...

І на заробак
Да жаробак
Пайшоў жарэбчык-недаробак.
Відаць, нічога не заробіць,
Як сам сябе
Ён не даробіць...

### ТАМ...

Глухім капытам
Шаптала шаша –
Радзіма там,
Дзе начуе душа...

*11.I.2014*

* * *

Раніца ў палынах перагоркла.
Губы капрызна надзьмуў суравей.
Ценька
Выпырхнуў з-за пагорка
Гук дасканалы,
Як верабейка...

*22.VI.2013*

* * *

Срэбра панасыплецца ў брую.
Цішыня аб злосць вятроў параніцца.
Права першай ночы салаўю
Перадасць расчуленая раніца...

*25.V.2013*

### НЕ ЖАДАЎ

Жывець,
Як золата важыць, –

Казалі вушацкія
Пра багача.
Бязмен не жадаў
Шкадаваць пляча.
Каб кленчылі ёй,
Прымушала н*а*жыць.

Дазволіла доля мне
Важыць ліха.
Ад марнасці ціха
Ӯцякае пыха...

*9.I.2014*

## *А ХАЦЕЛАСЯ Б...*

Як паверыць
Золкаму здзіўленню,
Што стаілася
На ўзмежку дзесьці?
Як перапалоханаму ценю,
Праз сябе заспанага,
Пралезці
З прыщемку
На светлы бок,
Каб там
Сон будзіць
Даверыць капытам...

*9.I.2014*

## *ПРАКОРМІЦЬ...*

У хітрай цішыні
Паверыць варажбе.
Ратоўна дзень пры дні
Шукаць сябе ў сабе.

Рашучасць нездарма
Прызнаецца агню,
Што больш яе няма,
Усмешыць вочы дню.

Няўтульна спрахне прах.
Нуда прысніць разгон.
Дарогу знойдзе страх.
Сябе пракорміць сон...

*24.XII.2013*

## ІСНАСЦІ

### *І. Зруш скруш!*

На крушні чаму ж
Рух настрою
Шукае душа?
Стомлены лес –
Муж.
Стомлены лёс –
Ляўша...

*5.ІІ.2014*

### *ІІ. Прыйшоў…*

Жыццю перад смерцю
Ў рудым канверце
Ліст прыйшоў
Ад прымаразкаў...

*2.ІІ.2014*

### *ІІІ. Пяты…*

Лічыць цягнік
Потайна ў цішыні,
Калі гэта
Скончацца шпалы.
Пра пяты палец
У застольніка на далані
Мроіць відэлец чатырохпалы...

*31.І.2014*

## ДЗМІТРУ ПАЎЛЫЧКУ

Сплыве па Дняпры
Набрыдзь,
Навалач,
Хлюсь.
Майдан праз вякі
Прывітае быліна.
Не схіліць чало
Спадарыня Беларусь,
Незалежная, як жыццё,
Нэнька Украіна.

*1.ІІ.2014*

## *АКРАЗДЗІЎ*

**С**вяткаваць імяніны ўраджаю
**Е**дзе думка, запрэгшы разбег.
**Р**адасць смела нуду зневажае.
**Ж**эніць сонца з прагалкамі снег.
**У**згарэлася дзвіцца настрою.
**К**аб сівець, сніць груган сам сябе.
**У**цякае мана за імглою.
**Д**орыць шлях падарунак журбе.
**О**йкала ходзіць крыўдай старою.
**У** жніўнай песні сумуе ўдава.
**Г**рэе вырай крылатай слязою.
**У** паднеб'і трывожна спакою.
**Ш**эпча жорстка ў чужыне жарства.
**А**дусюль ранішняя трапяткая
**В**есніць будзе душу мілатою.
**У**пікаць сена хоча травою...

*10.II.2014*

## *Й*

Круччо карча рэбрае
Ў балючае святло
Смутак свой
Загарнуць паспела.
І слухае,
Як плача прыцьмела
Ўсё, што наканаваннем было.
І поўня,
Як сляза начы,
Дрыжыць,
Цень у прадонні цягнучы.

*20.II.2014*

## *МАЛЬБА*

Неба — трывалая столь.
Марна стараецца люць.
Госпад!
Ачалавеч мой боль,
Свойскі мой страх збязлюдзь!

*22.II.2014*

Анатоль Кудравец



...такое яно, жыццё,

радасць не бывае доўгай...

# Гослар

***Трошкі пра Германію***

Вось ужо чацвёрты дзень, як я ў Гослары[1]. Здаецца, і адаспаўся, і супакоіўся. Трохі супакоіўся, бо сур'ёзна ўсё гэта, мусіць, ужо ніколі не прыйдзе. Старасць не радасць, а са старасцю прыходзіць усё тое, што збіралася, накоплівалася гадамі і дзесяцігоддзямі. І перш за ўсё – незадаволенасць сабой, зробленым і недаробленым. Недаробленым болей за ўсё па прычыне свайго характару, несабранасці, раскіданасці, нежадання зрабіць зараз жа, як найхутчэй, а жадання адкласці, перанесці на заўтра, ці паслязаўтра. І па прычынах знешніх, "атмасферных", створаных уладным рэжымам, і кампанія, калі знішчаецца ўсё, на што ты спадзяваўся, працаваў, у што верыў, нават у старыя часы будучы ў ЦК, не гаворачы пра "Маладосць", ці "Мастацкую літаратуру, ці "Нёман". Калі знішчаецца

[1] Гослар, горад у Германіі, размешчаны ў зямлі Ніжняя Саксонія ля падножжа горнага масіва Харц.

мова, культура, калі робіцца ўсё, каб беларускім, Беларуссю не пахла. Усё забівае папса і расейшчына – нізкапробная, разбэшчаная, нахабная, калі беларускае выстаўляецца варожым, чужым, лішнім.

У мяне харошы ўтульны пакой. Ёсць фота: Захараўна з зяцем Хельмутам, сам Анатоль Паўлавіч, кавалачак Вячы з бярозкай і яблынькай – усё гэта зялёнае, летняе, усё цвіце і раскашуе.

На дварэ таксама вясна – першая, вельмі далікатная зелень, цвітуць, а то і адцвітаюць вішні, цвітуць яблыні, бэз – і белы, і бэзавы. Жоўтым полымем гараць палі рапсу, высокага, на чалавечы рост. То некалі прыязджаў я зімой, снег ды мароз, а гэта самы росквіт – спяваюць птушкі, людзі прагульваюць сабак і самі прагульваюцца хто куды, але ўсё спакойна, запаволена, як у сне ці перад сном. Вераніка, дачка, на рабоце, а мы тут з Хельмутам, гультаі, ні болей, ні меней.

Кайзерпфальц – рэзідэнцыя караля – аграмадная будыніна на некалькі паверхаў, першы з якіх падаграваўся з дапамогай печаў, якія паліліся дровамі. Цяпло ішло па трубах і сагравала будынак і пакоі, за нейкую гадзіну тэмпература падымалася да 15 градусаў. Другі паверх не мог абаграваацца, бо былі вялікія вокны, а шкла, якім бы можна было іх зашкліць, яшчэ не вынайшлі. Рэзідэнцыя была пабудавана ў пачатку адзінаццатага стагоддзя. Цяпер у рэзідэнцыі праходзяць рэгістрацыі маладых і вяселлі – ёсць невялікая зала чалавек на 30-40, ёсць аграмадная зала, дзе праводзіліся вялікія каралеўскія прыёмы. Зала рэстаўравана ў 18 стагоддзі. Сцены распісаны батальнымі сцэнамі з часоў каралёў, усё гэта ўражвае, захапляе, гаворыць пра багацце горада – у блізкіх гарах паўночнага Харца[2] з даўніх часоў здабывалі срэбра (яно было даражэй за золата), і не толькі срэбра. І толькі ў нядаўнія часы здабыча спынілася: выцягнулі ўсё, што можна было, цяпер можна пускаць турыстаў. Тут, перад рэзідэнцыяй і ў рэзідэнцыі, бывалі ўсе правіцелі Германіі, быў і Бісмарк, і Гітлер. Помнікі Вільгельму І і Фрыдрыху Барбаросу на конях стаяць перад рэзідэнцыяй, на травяной плошчы.

Гослар – адкрыйце для сябе Гослар – сусветную спадчыну ЮНЭСКА – гаворыцца ў турыстычнай рэкламцы пра 9 старых гарадоў Ніжняй Саксоніі – Брауншвайг, Цэлле, Гёттынген, Гослар, Ганновер, Хамельн, Хільдэсхайм, Люнебург, Вольфенбюттэль.

І праўда, кожны з гэтых гарадкоў нясе на сабе сваю гісторыю і гісторыю Ніжняй Саксоніі, – і каларытную, ні на кога і ні на што не падобную, са сваімі дамамі і кірхамі, сваёй культурай і сваім парадкам, нямецкім парадкам, і чысцінёй, і кветкамі, і дрэўцамі, ці дрэвамі – дубамі, высаджанымі ўсцяж дарог, як прысады, на некалькі сотняў метраў, і ніхто іх не высякае, наадварот, кожнае дрэва беражэцца, як бы яно вырасла ў сваім двары, сваім садзе, і яго трэба берагчы, трэба радавацца яму.

Ездзілі ў Гамбург, аграмадны партовы горад на ўпадзенні Эльбы ў Паўночнае мора. Да мора 12 кіламетраў, а Эльба і шырокая, і глыбокая. Шырокая – некалькі дзясяткаў рукавоў, глыбокая – могуць заходзіць акіянскія лайнеры

[2] Харц (горны лес), паўночныя горы ў Германіі і найвышэйшыя горы ў паўночнай Германіі.



тыпу “Аіда” – турыстычны параход, дзесяціпавярховы дом на вадзе – нешта аграмаднае і страшнае; караблікі, якія суправаджаюць гэты параход, выглядаюць маленькімі гномікамі побач. Смелыя людзі, якія наважваюцца плаваць на “Аідах”, асабліва праз акіян, у Штаты ці Канаду. Здаецца, калі трапіць такі карабель у шторм – ён можа лёгка перакуліцца з-за сваіх памераў і людзей, а іх на караблі ад 2,5 тысяч да 5 тысяч, не карабель, а цэлы горад. І вось гэты горад зайшоў у Эльбу, у порт, і не адзін зайшоў, а ажно тры. Праўда, перш чым упусціць іх, давялося выселіць многія менш маштабныя судны – паруснікі на тры мачты і пяць рэяў, і меншыя паруснікі ды параходзікі, баркасы.

І порт аграмадны з докамі для рамонту караблёў, 160 тысяч работнікаў, і горад вялікі – 1 мільён 800 тысяч чалавек. Мы прайшлі праз тунель пад Эльбай. Тунель вялікі, могуць ісці людзі, ехаць аўтамабілі, а над тунелем 12 метраў вады, і па вадзе ходзяць “Аіды”, і нешта меншае бегае, носіцца, кідаецца, ганяе ваду туды-сюды, чакае прыліваў і адліваў.

На свята, прымеркаванае да спуску на ваду “Мэры”, – новага карабля тыпу “Аіды”, наехала столькі людзей, што прайсці па вулачках порта і каля яго было немагчыма, каб не зачапіцца за каго-небудзь ці пастарацца абыйсці каго-небудзь. Усе гавораць, нешта п’юць, нешта жуюць – скрозь людзі, у асноўным групамі, па некалькі чалавек, усе ў чаканні, калі гэтыя аграмадныя дзесяціпавярховыя махіны пройдуць у порт. А пасля, вечарам, будзе вясёлы канцэрт – фейерверк над портам, над горадам.

Ехалі назад не па аўтабане, а па паралельных дарогах – гэта і цікава, і разнастайна – гарадкі, пасёлкі. Палі, лясы – усё зялёнае, жоўтае – дзе цвіце рапс, ці бульба пад плёнкай – вялікая, здаецца, вось-вось павінна зацвісці. Прыехалі дамоў недзе каля 9 гадзін вечара, як і гаварыла Вера. Прыехалі стомленыя, але задаволеныя – і тым, што пабачылі, і тым, што нарэшце дома, можна выцягнуць ногі і пасядзець-паляжаць спакойна.

З убачанага, апрача караблёў-дамоў, “Аідаў”, запомніўся гатэль, у якім працуе Ян – малодшы сын Хельмута. Хлопец мае 22 гады. А ў гатэлі запомніліся не залы, дзе можна праводзіць канферэнцыі і большыя, і меншыя, дзе любяць сустракацца з журналістамі браты-цяжкавагавікі Клічко, не нумары з саунамі, не сталовыя, хаця ўсё гэта прыгожа, акуратна, дагледжана, не падвальная паркоўка – 22 эўра за ноч, а дзяцел.

Гатэль новы, некалькі гадоў як пачаў дзейнічаць, і ён палюбіўся лясному дзятлу. Той на ўзроўні пятага ці шостага паверха прабіў абшыўку сцяны, пад якой мяккі ўцяпляльнік. Работнікі гатэля на гэтае месца прымацавалі шпакоўню: жыві, дарагі. Ён у шпакоўні жыць не захацеў – прадзяўбаў новую дзірку ніжэй шпакоўні і жыве ў сваім новым гняздзе. Людзі і сам Ян бачылі, як ён залятаў і вылятаў з яго. Вось табе і горад, і цывілізацыя: дзе хачу, там і пабудую свой дом.

Ездзілі ў горы. Ішлі пешшу, вышыня, як сказала Вераніка, – тры тройкі: 333 метры. Падняліся даволі лёгка, хоць пад канец адчуваўся нейкі цяжар у грудзях. Па ўсім – хочаш-не хочаш, сэрца не падманеш. Добры лес – бук, дуб, елкі, бярозы, рабіны. Па адзін бок спуск, круты і зарослы, па другі – дарожкі, пад'ём, такі ж круты і такі ж недагледжаны, хоць і прарэджаны пілой, але непрыбраны. Холаду не было, сонца і вецер, хоць на дварэ +10. Горы і лес – гэта прыгожа, асабліва летам, калі ўсё зелена, усё, што павінна цвісці – цвіце, што павінна зелянець – зелянее. Папілі чаю на прыпынку, падзівіліся на гару пасярод выбранай пустэчы, якую скарыстоўвалі сто гадоў для дабавак у асфальт, а цяпер зрабілі зонай адпачынку. Прайшлі па вёсцы ці гарадку (ён мае такі статус), хоць увесь ён адна- двухпавярховы, а гарадскога – гатэль на шэсць паверхаў.

Цэлы дзень патрацілі на магазіны, і ўсё з-за Кудраўца, хоць я і спрабаваў супраціўляцца. Пабагацеў на рэмень, пінжак, джынсы і кепку, словам, – з галавы да ног. Пасля вячэры пайшлі пагуляць. Віллі, наш кот, пайшоў разам з намі, але па дарозе згубіўся – сустрэў сабаку і прайсці яго не змог. Ноч правёў недзе на прыродзе, сёння яшчэ не вярнуўся.

Ёсць нешта карцінна прыгожае ў гэтым Гослары – усё дагледжана, засаджана, выкашана, кожны квадратны метр, можна сказаць, кожны сантыметр, а людзей не відно – хіба ў магазінах ці на вакзале. Канчае цвісці рапс, ужо не жоўты, а зялёны з жоўтымі крапінкамі. Радуюць сваімі галасамі птушкі, самая пара для песень. Пара і мне дамоў. Учора зайшлі на банхоф – знайшлі апошні білет – і той на 31-га, з Ганновера. Ці то разабралі, ці на Мінск так мала білетаў, за Мінскам жа Расея.

Паўдня пайшло на кашэнне травы ў дворыку – Хельмут, Ахім, Кудравец. Машынка роўна такая, як была на Вячы і згарэла, а трава – так, трошкі адскочыла, пабілася белымі кветкамі, але пасля стрыжкі дворык стаў раўнешы, чысцейшы, прыемнейшы.

Пасля сядзелі за сталом, елі "грыль", хто мяса, хто каўбаскі, хто з хрэнам, хто з кетчупам, пілі піва, людзі нешта ўспаміналі, пра нешта расказвалі, нечаму смяяліся, мне было сумнавата. Без мовы заўсёды і ўсюды сумна, хоць Вераніка і старалася ўцягнуць мяне ў нармальны круг нармальных нямецкіх людзей. Пад вечар абыйшлі лясок, у якім была Хельмутава в/ч, цяпер закрытая, закінутая – стаяць, развальваюцца пустыя казармы, сталовая, лазня, высозны і аграмадны ангар, і нават Хельмут не можа зайсці ў гэтую в/ч, каб настальгічна паглядзець, што і як там выглядае. Футбольнае поле зарасло травой, і ўсё зарастае, прападае.

Прыязджалі мой брат Жора, Галя (яго жонка). Яны ўжо з дзясятак гадоў жывуць у Германіі. Прывёз іх сын Дзяніс, іх і свайго пяцігадовага жыўчыка Юліяна. Трошкі праехалі па Гослары, заехалі ў горы на пляцоўку са сталовай і многімі сталамі і людзьмі за імі, адкуль добра відзён горад – і стары з чырвонымі дахамі, і маладзейшы, бялейшы, пасляваенны. Пасля прайшлі па старым Гослары, па яго цэнтральнай частцы, з царквой і плошчай, на якой любяць адпачываць і жыхары горада, і турысты. Дзень выхадны, магазіны пазакрываныя, нешта і турыстаў мала, хаця сталоў на плошчы шмат, ды і людзей за імі таксама.

Жора спадабаўся: светлы, чысты, відно, што сам глядзіць за сабой, ды і Галя таксама, яна заўсёды была сардэчная, уважлівая, уражлівая. Жора кожны дзень робіць прагулкі ў лес, 5-6 кіламетраў, ну, а лекі само-сабой. Дзяніс разабраўся са сваім катэджам, і каля яго, цяпер сям'я, тры сыны ды крэдыты. Гэта надоўга, але работы і аптымізму пазычаць не трэба. Вось і сёння – вырашылі з'ездзіць да нас, пабачыцца, ён сеў за руль сваёй саліднай цёмна-сіняй машыны на восем персонаў і паехаў – кіламетраў 320-350.

Сустрэліся, трохі пагаварылі, паглядзелі – яны на нас, мы на іх, паабедалі, і яны назад. Што ж, такое яно, жыццё, радасць не бывае доўгай, але добра, што яна ёсць і нешта перападае нам.

Прачытаў невялічкую кніжачку навелаў Ганны Гавальда, французкай пісьменніцы, аўтара некалькіх раманаў. Як гаворыцца ў анатацыі – сусветна вядомай (перакладзенай) на многія мовы. Не ведаю, як раманы, а навелы чытаюцца лёгка, напісаныя ў простай рэалістычнай хвалі, а, улічваючы цяперашняе літаратурнае зацішша, то, відаць, і добра.

Вера прыехала з працы раней, гадзіны ў дзве. Паабедалі і паехалі ў пячоры горада Лангенштайн. Унікальнае, адзінае ў Германіі, выдзяўбанае ў гары Харц (пясчанік) паселішча, можна сказаць, вуліца на дзесяць дамоў (падворкаў). Безумоўна, усё прымітыўна ці па-першабытнаму прымітыўна, але людзі жылі ў гэтым паселішчы, гэтых дамах, у скале. Кожны дом на некалькі "пакояў" – для дарослых, для дзяцей, кухня з дзіркай-комінам, прабітым уверх, праз той жа пясчанік, каб выходзіў дым. У некаторых дамах быў закутак для жывёлы: коз, гусей, курэй. Козы пасвіліся над галавой, угары, з'ядалі траву і маладыя дрэўцы. Дрэўцы – перш за ўсё, каб не раслі і не разбуралі карэннем пясчанік, у якім і былі дамы з дзвярыма, малюсенькімі вокнамі-праёмамі. Ідэя "будаваць" такія "дамы" ўзнікла ў "пана" – ці то быў салідны фермер, ці не надта салідны памешчык, але яму належалі акружныя землі і гэтыя горы. Трохі вышэй ў іх была пабудавана-выдзяўбана крэпасць з усім неабходным для крэпасці і абароны яе. Пясчанік дазваляў весці такія "работы", "узводзіць" пабудовы. Тое, што можна для крэпасці, чаму няможна для простай забудовы? Фермеру патрэбны былі людзі. Кругом засяваліся палі. Людзі прыходзілі, маладыя, здаровыя, а жыць не было дзе. Вось і з'явілася ідэя лезці ў гару: і грошы не трэба плаціць, і цёпла і зімой, і летам. Зімой гарэў агонь на "кухні", потым зачыняліся "дзверы" і "вокны". Летам усё гэта расчынялася. Людзі працавалі на палях, зараблялі грошы і потым ці будавалі сапраўдныя, нармальныя дамы, ці куплялі пабудаваныя. Праходзіла дзесяць ці дванаццаць гадоў – і ў пасёлку з'яўляліся новыя гаспадары...

Першыя дамы і першыя гаспадары ў іх з'явіліся недзе ў 1855-58 гадах, апошнія сыйшлі ў 1900-1910 гадах. Дамы ці, тое, што засталося ад іх, стаялі, сырэлі, моклі, зарасталі, пакуль у жыхароў Лангенштайна не ўзнікла ідэя "ажывіць" іх, пачысціць, падрамантаваць, "засяліць" старой, якая некалі была, мэбляй, і паказваць людзям. Працы ў аматараў шмат, усё яшчэ наперадзе, але гэта і цікава, і патрэбна, і ім для памяці, і тым, хто прыязджае і будзе прыязджаць.

У лесе, у некалькіх кіламетрах ад Лангенштайна, у канцы вайны раскінуўся канцлагер – сорак чацвёрты год. Сюды звозілі вязняў з Бухенвальда і іншых месцаў, на якія наступалі савецкія войскі і войскі антыгітлераўскіх саюзнікаў. І хоць ужо 1944 год, вязняў прывозілі, будавалі баракі, сялілі і расстрэльвалі. Усяго ў некалькіх магілах пахавана (закапана) больш за 4600 чалавек – яўрэі, французы датчане, савецкія – людзі розных нацыянальнасцяў, розных верапалажэнняў. Фашысцкая машына працавала да канца. Красавік 1945 года, нямецкія арміі разгромлены, праз пару тыдняў будзе падпісаны пакт аб капітуляцыі, а тут – канец красавіка – працягваюць расстрэльваць людзей.

Цяпер тут зроблена нешта накшталт мемарыяла, павешаны знакі, не косіцца лужок, растуць сосны і елкі, і дубы, якія памятаюць і тыя гады, і тых людзей, якіх прывозілі сюды, каб яны адсюль ніколі не знайшлі дарогі дамоў.

Мы абыходзілі тэрыторыю лагера і ўбачылі рыжаватага зайца, ён пасвіўся на лужку, а ўбачыўшы нас, плетануў у лес. Жыццё ідзе сваім ходам.

Хадзілі ў горы. Даехалі да Ільзенбурга, гарадок на 10 000 чалавек, паставілі машыну на стаянку і пайшлі ўздоўж ракі Ільзы, каб дабрацца да скалы Ільзы з крыжам на самым версе. Некалі, у 1007 годзе, там, на мяжы адвесных скалаў, была пабудаваная крэпасць для абароны ад ворагаў. Крэпасць праз сто гадоў усё-такі развалілі. Але засталася дарога да гэтай скалы і легенда пра прынцэсу Ільзу, якая жыла на вяршыне і спускалася, каб пакупацца ў горнай вадзе ракі і прывабіць мясцовых юнакоў. Легенду некалі, у 1820-х гадах, пачуў Генрых Гейнэ, ён нейкі час жыў тут і падарожнічаў па берагах Ільзы, запісаў легенду. Цяпер на беразе ракі ёсць пешаходная дарожка, якая так і завецца – сцяжынка Гейнэ. Сцяжына прыгожая, горна-няроўная, каменная, пад нагамі, збоку, навісаюць скалы, парослыя букам і елкамі, а ўнізе нясецца, пеніцца, рвецца, вечна шукае сваю дарогу, неўтаймоўная Ільза, якую спрабуюць перагарадзіць упалыя магутныя дрэвы.

Калі паглядзець знізу, скала здаецца зусім блізка, ледзь не над самай галавой, а нам, каб да яе дабрацца і "памацаць" чорны жалезны крыж, пастаўлены ў 1814 годзе, а заадно і пасядзець на лаўцы і з'есці па бутэрбродзе і вярнуцца назад, давялося прайсці ледзь не пятнаццаць кіламетраў. Скала невысокая, 474 метры над узроўнем мора, і 150 метраў над ракой, але дарога туды і назад, хаця гэта круг пад ёй і ўгору-угору, забірае не толькі час, але і сілы.

Дні перад каталіцкай пяцідзясятніцай (троіцай). Пяць кірх праводзяць розныя мерапрыемствы, прысвечаныя гэтай вельмі важнай для вернікаў падзеі, падрыхтавалі канцэрты. Кожная свой, і ва ўсіх розныя. І ва ўсіх поўныя залы людзей.

Едзем у Лаўтэнталь – невялічкі ні то гарадок, ні то вёска ў падножжы адвеснай, як адсечанай, гары і проста ў гару ўваход – тунэль. Некалі гэта быў уваход у шахту, у якой здабывалі срэбра, свінец, цынк, і цягнулася гэта вякамі. Недзе пачынаючы з чатырнаццатага, спачатку з кіркай і ломам, пасля з адбойным малатком. Пад канец шахцёраў вазілі ў шахту на мініпаравозіку ў летніх вагончыках-клетках, дзе можна было памясціцца, толь-

кі прыціснуўшыся адзін да аднаго. Працавалі мужчыны, працавалі жанчыны, працавалі дзеці з дванаццаці гадоў. Больш за ўсё атрымлівалі інжынеры – 2-3 талеры, майстры – 1 талер, далей ішлі здабытчыкі – да 80 грошаў жанчыны, што працавалі са здабытай пародай, зараблялі грошы ад аднаго і вышэй. Максімальнае жыццё здабытчыкаў абмяжоўвалася 35-38 гадамі: пыл, грукат, свінец... Шахта даўно не працуе, стала нечым накшталт музея, месцам экскурсій для турыстаў – нешта расказваюць, нешта паказваюць, даюць шахцёрскія шлемы, грузяць у вагончыкі цягнічка, нібы тых шахцёраў, вязуць на гару, зноў расказваюць, паказваюць. І тут, у глыбі зямлі, дзе тэмпература і зімой, і летам +12, дзе навісаюць, абступаюць, заціскаюць скалы – каменне, дзе нават цяпер, пры вентыляцыі, даволі няпроста дыхаць, пачынаеш разумець, якой цаной давалася тое срэбра і якая цана была чалавеку і чалавечаму жыццю. Наш экскурсавод, ён жа машыніст паравозіка, вясёлы мужчына гадоў пад сорак з прыгожай шырокай барадой, сказаў, што і яго дзед, і дзедаў дзед працавалі на гэтай “Лаутэнталь-глюк”(“шчаслівая гучная даліна”), і вось ён тут працуе. У гары знайшлі цынк, шукаюць далей, можа, шахта яшчэ “задыміць”, дасць яшчэ агню людзям.




Паездка ў Вернігеродэ (35 тысяч чалавек), адтуль на паравозіку па вузкакалейцы на Брокэн[3] (1142м), назад у Вернігеродэ і на двайным аўтобусе ў замак-музей Вернігеродэ...

Вернігеродэ – невялікі гарадок, некалі быў ва ўсходняй Германіі, цяпер – проста ў Германіі – зялёны, чысты, забудаваны. Ад яго з чыгуначнага вакзала па вузкакалейцы (60 сантыметраў між рэйкамі) невялікі паравозік, вугальны з топкай, вадой і дымам павёз восем вагончыкаў з людзьмі, сярод якіх і мы – Вера, Хельмут і я, угару на Брокэн, на вяршыні якой высокая антэна і некалькі дамоў. Пры ясным надвор’і адсюль відно наваколле на 100 кіламетраў, але такім тут надвор’е бывае вельмі рэдка. Зіма са снегам – паўгода, лёд на вяршыні – 3-4 месяцы, то хмары, то туманы.

“Чу-чух-чу-чух!” – пыхкае дымам паравозік, аббягаючы гару і падымаючыся вышэй і вышэй. Лес – букі, елкі, бярозы, з аднаго боку спускаюцца, з другога падымаюцца. Глядзіш уніз – і страшнавата, падціскае ў грудзях. А там на невялікіх лапіках чарніцы і буякі. Чым вышэй – усё болей зламаных, вывернутых з карэннем дрэваў, перш за ўсё елак. Яны тут і не надта высокія, пакручаныя ветрам і бураломамі, а пад самы верх і зусім голыя, сухія.

Антэну ўзвялі недзе ў шасцідзясятыя гады савецкія салдаты і не толькі для таго, каб “праслухоўваць месяц”. Побач праходзіла мяжа паміж

---

[3] Брокэн – найвышэйшая гара ў Харцы, лічыцца самым вядомым “месцам сустрэчы ведзьмаў” у Еўропе. Гэтую гару Гётэ апісаў у сваім “Фаусце”.

Германіямі. У Брокэне былі савецкія вайскоўцы, яны і будавалі, нешта глядзелі, некага слухалі. За мяжой была амерыканская зона. Цяпер у адным з дамоў створаны музей – пра Брокэн з даўніх часоў па сённяшні дзень, пра яго насельнікаў – і ранейшых, і цяперашніх. Некалі тут пабываў нават Гётэ. З гары бяруць пачатак некалькі рэк, сярод якіх і Ільза, на ёй Ільзенбург.

І зноў "чу-чух", зноў Вернігеродэ, і на аўтобусіку на два аддзяленні едзем у замак Вернігеродэ. Замак высока на гары, сярод лесу, пабудаваны ў адзінаццатым стагоддзі як крэпасць, вытрымаў некалькі перабудоў і стаў рэзідэнцыяй і месцам жыцця графа зямель Вернігеродэ. Цяпер гэта музей з багацейшай экспазіцыяй даўнейшага жыцця, быту заможнага люду гэтай Германіі. Пры музеі ёсць рэстаран і ўсё іншае неабходнае, каб людзі, якія прыехалі, маглі не толькі прайсціся па залах-пакоях велічнага, высознага, ускінутага вострымі шпілямі ў неба 5-6 павярховага збудавання-тварэння, са сваімі некалі непрыступнымі сценамі і дваром, далучыцца да шматвекавой гісторыі народа, а і папросту паабедаць, адпачыць.

Перад паваротам ракі Ільзы на раўнейшыя і сушэйшыя мясціны перад Ільзенбургам, стаіць драўляны ўказальнік, абкладзены камянямі: там дарога, там горад, там горы... І задумалі Вера і Хельмут праехаць туды, куды паказвае стрэлка, – у горы. Праехалі некалькі кіламетраў, спыніліся. Блізкая восень, асыпаецца лісце – барвовае, сухое, бук шчодра дзеліцца ім. А сярод гэтага лісця і пад ім – баравічкі і маленькія, і большыя, але ўсе чыстыя, здаровыя, і чым далей – іх усё болей, быццам тут нікога ніколі не было, і грыбы чакалі, калі па іх прыедуць Вера і Хельмут. Мы не прывыклі мераць баравікі кілаграмамі, болей штукамі, але Вера і Хельмут набралі іх аж 17 кілаграмаў! Сямнаццаць кілаграмаў... І нечакана падумалася: можа, Ільза спускалася з гары не толькі, каб пакупацца ў горнай вадзе, а і пашукаць баравікоў?..



Валеры Дубоўскі



...Будзе пісацца і далей
усюдная
Кніга Быцця...

# Сэрцапіс

### *БОЖАЯ КАРОЎКА*

*Рыгору Барадуліну*

Сярод жыццёвага
марнага тлуму
на плячо маё,
як у дзяцінстве, зноўку
села – вестаўкай
вечнасці,
суму
і радасці
божая кароўка.

Гэтым плячом
я штурхаў валуны,
падпіраў дамавіны сяброў
нялоўка.

Трывалеў душой
і разгойдваў званы
над чарговай
крывіцкаю
валатоўкай.

Цягнуў ярмо
спустэчаных словаў
у легкадумнай зухвальсці,
у духоўным зыбе.
Ламал мяне,
каб я іншых надломваў
і сам, надламаны,
на святло не выбег.

Божая кароўка
на маім плячы
пасядзі яшчэ...
Не ляці...
Няйначай...
Мне не карціць
ад цябе уцячы.
Ты ж
ад Дзядзькі Рыгора,
з Вушачы.

*13.08.2005*

## *РЭШТА*

Галоўныя ці сплоціш
плацяжы –
шляху жыццёваму
ёсць рэшта нулявая.
Няпраўда хоць за праўдаю
бяжыць,
а праўда ўсё ж
няпраўду выпраўляе.

## *АПРОЧ ПАДМАНУ*

Астудзіць вецер цішыню,
Прыклоніць суму дрэўца.
Я спадзяваннем асланю
Святло, што застанецца
Па дні,
Па пройдзеных гадах
І подумках крылатых,

Што не палеглі далавах
Знібелым лісцем страты.

Зык адлятаючай вясны,
Згук чуццяў прадчуваных
Спяваюць з ветрам галасным
Усё, апроч падману.

* * *

Забагацеў
на сённяшняе неба,
на тваё дыханне
і на маю несамоту.

* * *

Над труной,
У пякельным адчаі,
У спрэчцы,
Як крыць ужо нечым,
Перад дальняй дарогай,
Спрадвечна
Да сказанага душу далучае
(Сакральнае маўчанне)
Душа чалавечая.

### *ГРАФІЦІ*

Неўтаймаваная мроя
звыкласці
выходзіць праз вуглаватыя
крылатыя графіці.

Плойма спайманых,
спыненых светлаценяў:
сценапіс,
сцэнапіс,
снегапіс,
словапіс,
сэрцапіс.

* * *

Помніць поўня,
любосці сяўня:

ты аднойчы так памылілася,
каб з табой
памыліўся я.

* * *

Нішто. Ніколі. Нідзе.
Шанцу не дасць, паратунку –
дажыць учарашні
дзень,
дадумаць учарашнюю
думку.

* * *

А надзея
страх развянчае,
хоць балюе
балючасць ізноў
у краіне дазволеных
сноў
і недазволенага маўчання.

## ДЗЕНЬ ЦНАТЛІВАГА МЯТЛІКА

Свет, адхілены ад святла.
Цыкл зямнога заканчэння:
апафеоз,
экстаз,
аргазм,
кода,
сыход,
смерць...

Дзень цнатлівага
мятліка.

* * *

Напрыканцы?
Напрыканцы...
Напрыканцы –
партрэт парадны.

Штодня накопваем капцы
з грахоў, з няпраўды.

* * *

Як думаю думку
правую –
левая думка
кульгавая.
Як толькі думаю
левую –
правая надта няпэўная.

### *УСЮДНАЯ КНІГА БЫЦЦЯ*

Як памяць мая задрэмле
шчакой ля сунічнай кветкі
на ўгрэтым баку
муравейніка,

як спелы аціхне дождж
у прадчуванні дня
і бясконцасці паўтарэння,

як нехта пакліча некага
і нехта прыйдзе,
можа, і невідушчы, але
з адкрытай душой,

як аціхнуць людскія праклёны
пад гэтым небам,
дзе сонцу больш замінаюць
зусім не аблокі,
а цені нашых грахоў,

як зразумеюць маўклівых
тыя, хто ўмее крычаць
ад напругі пустэчы,

як сыйдуць апошнія
з самых апошніх
і пахіснуцца зоры,
і не ўзляціць пчала
прасветленым ранкам...

Будзе пісацца і далей
усюдная
Кніга Быцця.

* * *

Мы, як таполі,
задзіраем галовы ў неба.
Птушкі ўзіраюцца
з неба
у нашыя мроі.

* * *

Адно для ўсіх
пытанне спрадвеку:
для чаго прарастаць
дрэву
і нараджацца
чалавеку?

## *КОНІК СКОКНУЎ*

У чэрвеньскай духмені
конік скокнуў,
ля дзедаўскага хутара,
з бружмелю,
расу апошнюю
абтросшы мне ў жменю,
да стромы вязаў,
да нябёсных кроквaў,

да продкавых
нявыплаканых слёз,
якія не стрымаць і мне
з апошняй сілы,
да безыменнай,
без крыжа магілы,
да лагернага выклятага
пылу,
што дзед з Сібіры ў Беларусь
прынёс.

У чэрвеньскай духмені
конік скокнуў...

* * *

Дзень –
прываротнік прад турботаю.
І дню заснуць –
не прэч сысці.

У дня ёсць існасць несамотная:
чутно –
ў святле пылінка лётае,
імгненне
мной пражытай вечнасці.

* * *

Чаканне –
раўнадзенства
здзіўленай душы,
якая мусіць зрушыць
раўнавагу.

## *ПЧАЛА ЛЯЦІЦЬ*

Час змяншае прастору,
Але ж
Штодня размаўляеш
З далеччу.
Пчала ляціць, панікаючы.
Панікаючы,
Ты жывеш.

І жыццё – чарговай папаскай –
Адорыць цябе здзіўленнем.
Паўдзён для яблыні
Яму ўскапаў –
Адвячоркам
Лісцем уцэнены.

Жыццё –
Найскладанейшы верш.
Да яго, як рыфму,
Падбіраеш ключы.
Далей ляціць пчала,
Панікаючы.
Далей,
Панікаючы, ты жывеш.

* * *

Выйду.
Ці конь зацугляны,
Гляну.

## ІМГНЕННЕ

*Жонцы Алёнцы*

Стрэлку лавіць пойдзем
На чэрвеньскім мурагу.
Праз паўдзень пойдзем,
На поўдзень.
Будзеш лавіць –
Памагу.

У маім неабсяжным краі
Бягу закаханым тваім.
Стрэлку не ўловіш –
Спаймаю.
Цябе.
Пастаім...

За небадол узляцеўшы,
Стажэрку пасцеражы.
Спаткаем імгненне лепшае
На зарэчнай,
Завечнай
Мяжы.

---

* стрэлка – страказа;
** стажэрка – сузор'е Плеяды, альбо Стажары.

## ВЕЧНЫ ПАЧАТАК

Небакрыліць душа
новым словам.
З незаканчанасцю
зямною
у чарзе я за днём,
ён – за мною,
непрытуленым
і гасцёвым.

Небакраіць паўдзень
абадова.
З солі і кмену
смак акрайца.
Усё праміне,
што ёсць і чакаецца,
ды вечным пачаткам
прабудзе слова.

Небасвяціць зара,
вечарова.

Будзе новы паўдзень
упатолены.
Не пытаю,
ці кімсьці дазволена,
небакрылю душу
гожым словам

### *КАЛІ Б*

Горыч і радасць
адкрыццяў дасціпных:
Без чаўна
навошта вясло?
І зерне, калі б
магло быць сціплым,
яно б ніколі
не прарасло.

### *НАЗОЎ*

Здагадкаю мяне
усё часцей праймае,
што просты –
найскладанейшы назоў:
апосталаў, пракакаў
і сяброў
у жыцці ніколі
многа не бывае.

### *СПАЛУЧАЮ*

Несвядомае
блытаю са свядомым –
спалучаю
крайнасці.
Ведаю – хто я.
Не ведаю – хто мы.
Не ведаю – з кім.
Ведаю – куды ісці.

* * *

Даўно рэаліст.
Не юнак. Не псіх.
Мары не збываюцца, –
Дарогі да іх.

## *АДХАЦЕЎ*

Зноў
прывітальныя лісты –
аблокі
ранку класці.
Пад імі
пагадзішся ты:
ў світання –
вусны мілаты,
у ночкі –
вусны жарсці.
Адкавалерыў,
адхацеў
мой дзень,
за рэчку хіліцца.
Не ўсё ён
адыграць паспеў,
а вечнасці
кладзецца спеў
на сівую
патыліцу...

## *МАЕ ІМЖЫСТЫЯ НЯБЁСЫ*

Там не пакласці
мне пракосаў,
ніводны не прайсці
пагорак.
Мае імжыстыя
нябёсы –
прытулак
і снягоў, і росаў
і стайня
незбрытаных зорак.

Там ад пачатку
і да краю,
наўсцяж –
ні суддзяў, ні дарадцаў.
Туды, дзе рэха
час гукае,
людскія душы
адлятаюць,
каб назаўсёды
уз'яднацца...

### ТРЫПУТНІК

Трыпутнік падказаў
шляхі, куды ісці,
Па іх блукаю
Да знямогі доўга.

Шлях першы – ўцеха:
Між людзьмі гасціць.

Другі – пакута:
Ісціны дайсці.

А трэці – найцяжкі:
Знайсці сябе самога.

### * * *

*Алесю Пашкевічу*

След доўжыцца,
Хоць векам карацён,

Адлюстраваннем,
Адчуваннем,
Адкрыццём.

### * * *

Вось і волі прычакаўся.
Воля ж,
Як і доля, –
Не-
    зрэдагаваны верш.
З сямі калодзежаў хоць
Мудрасці пап’еш –
З калодзежа свавольнага
Душу спатоліш.

### ЯШЧЭ НЕ ВІДНО

Збудзецца?
Знікне?
Рытм завадны.

Яшчэ не збылося.
Яшчэ не відно,
Як падаюць чуцці

Адно за адным,
Бы падае
Даміно.

Не адрынь.
Не абрані.

Яшчэ не збылося.
Яшчэ не відно.
Праб'юцца парасткамі
Карані.
До,
        Мі,
                Соль,
        Мі,
До.

### *НАТХНЕННЕ*

Наперад слова,
Як да вызнанага рання,
Наперад звона,
У які ты пазваніў,
Імкненне свеціць і не дагарае,
Каб прадчуваннем
Здзейсніцца зямным.

І незямным –
Няўлоўным, пазасветным,
І дакранальным,
Як пякельная душа,
Калі натхненне родзіцца спярша,
Чым голас звону,
Чым дыханне,
Позва,
Мэта.

Ева Вежнавец



...Нябачны свет тут,

побач...

# Усе рудыя – ведзьмакі

***Апавяданне***

*Кто рыж и бледен – тот сволочь.*

Уначы на рабым кані па чарнатропу з’ехала восень, размінуўшыся з маўклівым белым конікам, па следзе якога пасляшалі ваўкі. Святы Юрай даўно разамкнуў ім пашчы – а без гэтага зіма і не можа пачацца. Настаў той самы момант, калі з неба чуецца шум, туманныя колы становяцца вакол месяца, хмары ідуць супраць ветру, выюць сабакі і певень цягне хвост па зямлі. Ідуць снегапады і мяцеліцы.

Людзі кажуць, што неба складзена ў сем столак. Але гэта летняе. Зімовае – толькі ў тры. У сямі вёрстах ад зямлі паўстаюць высокія хмары, якія нагадваюць параскіданае птушынае пер’е. Гэта вымаражаныя нетры – ні кроплі вады, ні крышталіку лёду. У трох вёрстах ад зямлі вялікімі сіняватымі посцілкамі вісяць сярэднія хмары, якія маюць у сабе і гнеў, і боль, і ваду, і лёд. Дабра яны не абяцаюць. За вярсту ад зямлі мітусліва бягуць нізкія хмары, нібыта шэрыя авечкі. Іх яшчэ называюць пераезнымі свахамі.

Воля Сініцкая, якая выскачыла на двор пакарміць курэй, магла расказаць яшчэ больш: яна бачыла, як усе тры столкі пранізвае воблака, вялізны слуп, які рос і рос, каб ператварыцца ў грыб і дасягнуць самага верху неба. Гэта быў цёмны вал, так званы каўнер завірухі. Бура непакоіла Волю і не давала спаць, але зрабіць з ёй нічога нельга было: каб разагнаць пераезных свах, патрэбен гадзючы кій. Гадзючы кій быў толькі ў ненавіснай Пастуховай Манькі. Такі кій, які разганяе хмары, здабыць няпроста: калі ўбачыш, што вуж або гадзіна есць жывую жабу, то трэба іх разагнаць кійком так, каб распаўзліся. Дзе ты цяпер набярэшся гадзюк і жаб, ды яшчэ трэба застаць іх за такім заняткам. Маньцы кій перапаў у спадчыну ад дзеда, які ўсё жыццё быў пастухом і меў шмат нагодаў назіраць жыццё гадаў і жаб.

Ад перамены надвор'я Волі круціла рукі і ногі, бо хоць яна і была маладая, праца на ферме давала пра сябе знаць. Цiснула ёй нешта і сэрца, такі неспакой быў, што Воля павярнула люстэркі да сцяны і пахавала ўсе металічныя рэчы, якія магла. Да таго ж уначы разваліласся паленніца, што ўжо зусім кепска. Складваць дровы Воля выправіла свайго сына Пецьку, які цягаўся цяпер па двары з дрывамі, нібыта мокрае гарыць.

Магчыма, Волі было б лягчэй на душы, каб яна ведала, што яе варагіня і суседка, Пастухова Манька, таксама не знаходзіць сабе месца. Па-першае, пад печчу азваўся цвыркун, што сведчыла пра блізкае няшчасце, а па-другое, прапаў гадзючы кій, якім Манька збіралася разагнаць хмары. Напэўна, кіёк знесла яе дачка Волька дзеля сваіх дурных гульняў, але малая ўсяляк адмаўлялася. Тым не менш, для парадку Маня загадала той вымыць усю хату.

Волю і Маню ў вёсцы звалі «чорная ведзьма» і «белая ведзьма». Былі яны стрыечнымі сёстрамі, але не ладзілі яшчэ са школы. Воля – перахлябістая высокая брунетка, а Маня – бялявая пампушачка. Яны былі ўнучкамі старой Машнічанкі, шаптухі, да якой ездзілі лячыцца адусюль, так што двор яе ніколі не зарастаў травою, ды і цяпер стаяў лысаваты, хаця Машнічанка даўно выправілася на той свет. Праблема была ў тым, што на двары Машнічанкі стаялі дзве хаты – старая і новая. У старой былі толькі печ і калонка, а ў новай – печ, кацёл і ўвогуле «ўсе ўдобства». Добрая хата дасталася Сініцкім, а чорная – Маньцы з сынам, што не падняло яе і так невысокі статус пастуховых нашчадкаў. Цяпер у хатах, падзяліўшыся плотам, жылі толькі Маня і Воля з дзецьмі. Прымакі ў іх неяк не трымаліся.

Дзеці гэтыя гадаваліся на лес гледзячы, бо ў Пярэхрысці садка не было, школа толькі, ды і тая ўсё меншала і меншала на дзяцей. Мацяркі-даяркі з маленства кідалі дзяцей адных у хаце, бегучы на ранішнюю, дзённую і вячэрнюю дойкі і молячыся, каб дзеці не ўпалілі хаты, не пабіліся і не парэзаліся. Дзеці былі раўналеткі і сябравалі змалку, хаця мацяркі ўсяляк забаранялі ім, у тым ліку лупцоўкай.

Нават на дойку сёстры стараліся хадзіць паасобку і цікавалі, каб не сутыкацца ў двары. Аднак сёння не дагледзелі: калі Воля выпускала і карміла курэй, Манька вынесла вымаразіць перад Калядамі падушкі. Угледзеўшы варагіню, яна знарок пачала вешаць падушкі на сумесным плоце і малаціць па іх выбівалкаю.

– Чаго ты свае плюндры тут малоціш мне, заразу сваю распускаеш? – закрычала Воля.

– У мяне не плюндры, а лёгкія падушачкі з дранага пер'я, і насыпкі

з атласу. А вось у цябе пер'е сечанае на калодзе, падушкі цяжкія, як глевяшы! – адказвала Маня.

– Сама ты глявеш сыры! Няхай у мяне пер'е сечанае, затое не вылазіць з насыпак, а тваё ўсё клоччам лезе, як валачашчы сабака!

– Думаеш, лярва, я не ведаю, што ты мне каршэчага пер'я ў падушкі зашыла? Цяпер маё пер'е з падушак уцякае! Усё я ведаю, усе твае штучкі!

– А хто мне іголак у падушкі насаваў? Хто мне жабу пад прызбаю закапаў? Шабалда ты, курва пастухова.

– Каб ты зайграла на вяроўцы, як ты цяпер граеш!

– Каб цябе п'яўкі пілі!

– Ты на маё дабро зайздрыш, як сараччо, спаць не можаш!

– Каб тваё дабро ды чорту ў рабро! Твой род такі жадны, што з г... плеўкі дзерацё.

– Каб тваё байстручанё праз плот ка мне не лазіла!

– Маё-о-о байстручанё, а тваё мо княжанё? Пад плотам сеяна, племя крапіўнае!

– Каб ты вычарнела і выстагнала!

– Хваробу ты з'ясі і трасцаю закусіш!

На тым кожная заскочыла ў сваю хату, бразнуўшы дзвярыма.

Дома Воля першым чынам палезла за абразы, выцягнула куфэрачак са свянцонай соллю і абсыпала сабе вакол галавы, прымаўляючы:

– Соль у вочы ад суроку,
Дзяркач табе ў зубы,
Гаршчок паміж шчок,
Клубок нітак – паміж лытак.
Абношу соллю ад чорных вачэй, ад злых людзей.
Бог адзін, а злыдняў многа.

У той жа час у сваёй хаце Маня задаволілася мармытаннем:

– Як усякаму нараджонаму Божага твару не пазнаць,
Воблака не адкрыць,
Хуткіх зорак не адбіць
Ранішняе зарніцы сякераю не перасекчы.
Маладога месяца не адамкнукць,
Як мёртвым з зямлі не ўстаць,
Як з мора вады не выпіць,
Як пасеянаму пяску не ўзысці,
Так і мяне, Манечку, нікому не сапсаваць век па веку цяпер і давеку.

І помсліва завяршыла:

– Каб жа ты мяне ўспамянула, на ўласным г...е сеўшы.

Трохі супакоіўшыся, крыкнула:

– Нінка! Дзе ты?

Але малой і след прастыў. Затое ў хату нехта пагрукаўся. З сенцаў, абтупваючы з ботаў сняжок, увайшла Сытая Ірма, жанчына-шкілет, чыя дыета складалася з аднаго "чарніла".

– Манечка, кветачка, дзетачка, дай сарочых лап з вароніным вокам. Ды каб лютае было. Мышэй і пладажэрак труціць.

– Якія ў цябе мышы і пладажэркі? Што ім у цябе за наедак? Ты ж папрапівала ўсё.

– Ну ты што? І сад, і паграб поўны. Зойдзеш, а яны – шмысь з-пад носу!

– Гэта ў цябе белачка шмыгае. Глядзі, дурная галава, настойка на спірце, але не пі, бо лапкі складзеш!

– Галубухно, рыбухно, ды каб я так дыхала! На табе яечко за гэта!

– Ідзі ты са сваім яечкам. Праполіс на спірце хто летась зжор? Поможаш увесну картошку пасадзіць.

– Добра, Манечка!

Маня доўга і падазрона ўглядалася ўслед Сытай Ірме, але нічога не сказала. Урэшце, не яе справа, нашто ёй зелле. Пэўна, атруціць чыйгосьці сабаку, каб спрытней цібрыць з чужога падворку. З тых часоў, як Ірму прагналі з тартака, ёй не было за што піць. А піць трэба.

Аднак Сытай Ірме сарочыя лапы з вароніным вокам былі патрэбныя зусім не на сабаку. Зусім іншыя планы былі ў Ірмы. Выйшаўшы ад Мані, яна задрала свой маленькі счарнелы тварык і ўгледзелася ў неба, дзе ляцелі «пераезныя свахі», нават падняла наслінены палец. «Зноў бура ідзе, і зноў той Хаўер ці Ксаўер, так што і платы пазамятае», – падумала Ірма. Па снезе ёй зусім невыгодна было лазіць па селішчах – нікуды не падбярэшся, па слядах знойдуць, у каршэнь натаўкуць. А можа, наадварот, сляды пазамятае, што адпавядала б яе планам. Як, зрэшты, падгадаць.

«І чаму ж гэта буры завуць Ксаўер ці Хаўер? Ёсць у Машніцах арганісты Ксаўеры, акуратны, як ціхае лета», – падумала Сытая Ірма і падалася па сваіх справах.

Участковы, Руды Марцін, да якога Ірма збіралася завітаць на пачостку, ціхім летам не быў. Як і Ірма не заўжды была счарнелым шкілетам. Яшчэ некалькі год таму яна была гладкая, як леў. Рабіла ў школьнай сталоўцы кухаркаю, а мужык яе – Донька – пільнаваў тартак. Быў у іх і сын – Антон. Донька, аднак, пачаў співацца – то таму дроваў адпусціць, то сяму дошак, і ўсё за пляшку. У хаце пачалася калатнеча. Сытая Ірма раз вярнулася са школы, а мужык лупцуе дзіця за разлітае віно. Раздабрэлая на школьных харчах Ірма ўзяла Доньку за пас і каўнер ды і выкінула з хаты. Услед паляцелі Донькавы мэтлухі. Пасля таго Донька з’ехаў у бацькоўскую халупу пад Старыя Дарогі і дапіўся там да таго, што перастаў выходзіць па патрэбе на двор – аблягчаўся ў падпол, куды ўрэшце і сам зваліўся дый не падняўся.

– А я б яго і не хавала, – злапомна сказала Ірма. – Забіла б падпол дошкамі, дый хай бы ляжаў.

Надта зненавідзела яна мужыка за сына, бо тыя пабоі, як аказалася, былі не адзіныя, і Антошку зашкодзілі на галаву.

Спачатку Ірма з Антошкам зажылі добра. Хаця заробак кухаркі і не быў уежны, але штодня можна было прыхапіць супу, кашы, хлеба, кісялю, коржыкаў ці якіх камакоў бульбяных. А то і масла ці фаршу. Аднак, выцягнуўшыся ў падлетка, Донькаў сын «звязаўся з вулічнай кумпаніяй». Хлопцы чысцілі чужыя падполы і гаражы, не грэбавалі хусце пасцелевае ці адзежу з вяровак зняць, закаткі павыцягваць, самагонку бутлямі і дзежкамі выкочвалі. Так і выпіваць дзіця пачало. Сытая Ірма пайшла тады да Марціна і просам прасіла, каб той неяк паўплываў на дзіця, але не біў і не садзіў. Так і наклікала бяду. Бо як нехта ўкраў у Рудога Марціна яго чырвоную старасвецкую «Яву», Марцін не сумняваўся, што гэта Донькаў Антось. Завёз у лес і збіў на горкі яблык, вымагаючы прызнанне. Падлетак плакаў, прасіўся, але не прызнаўся. З хмызнякоў ён быццам бы яшчэ выпаўз жывы, але засіліўся на яблыні ў калгасным садзе, на які выходзіў Марцінаў катэдж. Што праўда, хадзілі чуткі, нібыта Руды Марцін сам яго

са злосці і падвесіў, але хто будзе вешаць хлопца насупраць свае хаты? Справу замялі, бо хто такая Сытая Ірма насуперак Марціна. Зрэшты, ніхто ў вёсцы асабліва і не рваўся даводзіць праўды – Ірму не любілі, бо бачылі, як тая адвячоркам цягала сумкі са школьнай сталоўкі, а Антося дык і ўвогуле ненавідзелі, бо вельмі ж люты быў на крадзеж і патраву. А матацыкл потым знайшоўся недзе пад плотам – яго ўзяў дурнаваты Толя, пакатаў за руль па вуліцах дый кінуў.

Сытая ж Ірма вельмі хутка пачала скочвацца ўніз. Працу кінула, і яе штодня бачылі ля магазіна, дзе яна трубіла з гарла “чарніла”, нібыта гарніст. Потым уладкавалася на тартак вартаўніцаю, але і адтуль яе хутка папрасілі. І цяпер Ірма перабівалася выпадковай работаю – ці бульбу каму пасадзіць, ці дровы паскладаць, ці сена пагрэбці. Зрэшты, працы давалі ўсё менш, бо Ірма цягнула ўсё, што кепска ляжыць. А потым, забалела ў яе сярэдзіна, падкінуўся цыроз, і Ірма спалохалася, што не паспее завітаць да Рудога Марціна.

Тым часам Руды Марцін і сам не грэбаваў выпіўкаю пасля свае адстаўкі. Уваччу яму стаяў падлетак, які жудасным плодам звісаў з яблыні ў месяцовым святле. Марцін перастаў хадзіць у магазін і на пошту, не вітаўся ні з кім, па хлеб і гарэлку ездзіў у Машніцы ці Лужок. Калі ж яму ўсё ж траплялася Сытая Ірма, ён абмінаў яе за вярсту. Куды й падзеўся фанабэрысты, гладкі міліцыянт, які пралятаў на сваім матацыкле вуліцаю – «уцякайце, куры, гусі». Быў Марцін гаспадаром пяці вёсак, быў стрыечным пракурора, улюбёнкам мясцовых жанок, ды і здзьмуўся.

У гэты снежаньскі дзень яму ўсё было нядобра, неяк цягнула пад сэрцам, ныла. А ўсё з-за сарокі. Гэта не птушка, а пацук сярод птушак, характарам разумная, але паскудная, трымаецца далей ад людскога падворка і хаваецца нанач. Аднак сарока, якая пасялілася на бярозе на Марцінавым падворку, была іншай. Яна сядала пры аканіцы, дзяўбла ў вакно і стракатала. Учора вечарам падагрэты Марцін нават расчыніў вакно і кінуў у паскуду брыкецінай, але не дапамагло. Ёй тут нібы мёдам было намазана. Зрэшты, цалкам магчыма, што дурная птушка прывілася да селішча ад мяцеліцы.

Што мяцеліца будзе, і будзе страшная – нікога й не пытай. Зайцы парабіліся тлустыя, як цецярукі, цiснуцца да вёскі, ваўкі выюць паблізу, вераб'і пахаваліся каторы дзень, і сонца сядае чырвоным слупом. Скора разнягодзіцца. Усё адно да аднаго. Прысніў сёння Донькавага смаркача. Нібыта ідзе Марцін праз сад, яблыні ўсе ў шэрані, ззяюць пад месяцам, а Антось з яблыні і кажа: «Дзядзька Марцін, не бойцеся, я не павесіўся, а пашуціў, проста стаю, калены падгабаўшы, каб маму напужаць». «Гэта добра, хлопча, добра!» – абрадаваўся Марцін, аж прачнуўся і прыгадаў, што Антося не вернеш, угледзеў, што падушка зноў мокрая ад слёз і хворага гарэлачнага поту.

У дзверы ціха пастукалі. Руды Марцін расчыніў і адхіснуўся, убачыўшы Сытую Ірму.

– Здароў, Марцін, – сказала тая. – Што ж ты ад мяне ўсё хаваешся? Нам даўно пагаварыць трэба, запрашай за стол.

– Выпіць прыйшла? – прасіпеў Марцін. Глотка не слухалася, не хацела раскрывацца, шурпатая, нібы наждак.

– Анягож. І бутылку прынесла. Харошую. Але спачатку давай сваю. Ты майго хлопца загубіў, табе і прастаўляцца.

– Ірма, я яго не вешаў.

– А зубы і гізунды паадбіваў. Ну знаю я, што паадбіваў. Але знаю шчэ, што не ты адзін яго біў. Білі майго сыночка, і было за што. Не змагла я яго вывесці ў людзі. Сама і вінавата.

– Дык ты за бутылку гатовая і забойцу прасціць? Зусім запілася.

– Я ўжо, Марцінка, да вясны не дажыву. Заснула на зямлі, нутро застудзіла, баліць мне. Вось прыйшла пагаварыць з табой, выпіць. Мы ж некалі ўхаджвалі, помніш? Можа, перапросіш мяне?

– Я перапрашу, але Антона я табе тым не падыму.

– Нічога, скора я сама да яго лягу. Налівай.

Распілі не адну, а тры Марцінавы пляшкі, пакуль Сытая дастала сваю. Калі яна сыйшла, Марцін не памятае, адключыўся, аж прахапіўся сярэдначы. Пакуль спаў, невялікі ветрык нанёс снег, чорная ноч асвяцілася блакітым святлом. На бярозе сядзела сарока і дзяўбла ў шыбу. Прыгледзеўшыся, Марцін сцяміў, што гэта зусім і не сарока, а сіняя птушка шчасця. Круціць галавою, пазірае на Марціна то адным вокам, то другім. Адчыніў вакно, але сіняя птушка ў хату не паляцела, а адсела з бярозы на яблыньку і зноў галавой круціць. Марцін накінуў кажух, насунуў боты і шапку, вылез у вакно, каб не губляць птушку з воч.

«Гэта я з трупам у садзе. Гэта ж мяне заманьваюць», – прамільгнула думка, але тут жа і згасла. Сэрца тахкала. Маніна атрута – сарочыя лапы, вароніна вока – працуе суткі. Марцін нібыта зачараваны пайшоў за птушкай, што, стракочучы, пералятала з дрэва на дрэва ўсё далей у сад. Нішто не магло спыніць яго, нават зграі ваўкоў, якія недзе бегалі ў палынных, быльнягова-белых палёх за малліннікам, шукаючы спажывы. Марознаю месяцоваю ноччу брыў ён, снег блішчэў мірыядамі агнёў, Праз хмель Марцін адчуваў, як ягонае цела прапорваюць мірыяды іголак, і праз гэтыя ўколы пад скуру й за самыя косці прабіраецца смяротны холад. Марцін спыніўся ля агароджы і застыў, прытуліўшыся да слупка. Ногі здубелі і не йшлі. «Што ж гэта за маразіла ўпала? Учора было яшчэ адлёжна», – мільганула думка. Марцін не ведаў, што гэта атрута скоўвала яго кроў і пабуджала відмы – зрэнкі яго сталі такія шырокія, што амаль пакрывалі зялёныя калёсцы вачэй. Ён разляпіў вусны і прахрыпеў: «Вось гарэлачкі б сюды, не дзевачку, дык чарачку».

– Удача табе! Двойчы й не прасі! – сказаў ціхі голас аднекуль знізу, ледзь не з-пад калена Марціна.

Марцін схамянуўся, забыўшыся пра мароз. Ля плота, напалову схаваны кустом мёртвага дзядоўніка, стаяў малы чалавек і пазіраў на Марціна. Вочы яго адсвечвалі волавам, нялюдскія, малыя, звужаныя ў ражочках, як гарбузовыя семкі.

Малы чалавек працягнуў Білі біклажку.

«Хоць чорт, хоць пёс, абы яйкі нёс», – падумаў Марцін і даў такога каўтка, што апалавініў запас. Па целе нібыта сто маланак прабегла, і Марцін зноў адчуў сябе да апошняга пальчыка ног.

– Давядзецца табе заплаціць за гэты каўток, – сказаў малы чалавек. – Хадзем са мной.

Марцін не памятаў, як пералез праз агароджу і падаўся за малым чалавекам праз пасвіска проста да балотца Лозкі, акружанага агароджай «у два кіі». Абмінуў купу высокай травы, з якой вылецела карычневая сава. І пакорліва, пакорліва ішоў за хохлікам, які паспяшаў наперадзе. У хохліка былі шэрыя, пыльныя валасы, нібыта мышыная поўстка, доўгія

вушы і маркоўныя, нібыта ў нутрыі, зубы. Вядома ж, блукаў па багнах, загуменнях і глухой крапіве ля закінутых хат. Ягоны народ сукупляўся з рапухамі, пацукамі, жабамі, ласкамі і невядомымі стварэннямі, што шуршаць пад ганкамі, прызбамі, на гарышчах і ўздоўж сцен. Вось і падабраў недзе трусіныя вушы і доўгія маркоўныя зубы. Марціну хохлік быў і смешны, і нястрашны, але мужчына пакорліва ішоў услед. Раптам хохлік спыніўся.

– Награшыў жа ты, браце, у той дзень, – сваім рыпучым, рэдка карыстаным галаском сказаў хохлік. – Я цябе на расстрэл прывёў. Паглядзі на гэты месяц – бачыш на ім мужчыну са стрэльбай?

– Які мужчына са стрэльбай – маладзік жа цяпер! – хацеў сказаць Марцін, але паглядзеў на неба і сумеўся. Там была поўня і нейкая такая ненатуральна вялікая, якой Марцін зроду не бачыў. Яна ўсё расла, прыбывала, і цяністы мужчына са стрэльбай на ёй рос, рос, прыцэльваўся ў Марціна і потым гахнуў чырвоным агнём, так што ў Марціна ў галаве ўспыхнула, і былы машнічанскі ўчастковы паваліўся ў снег ля агароджы Лозкаўскага балота.

*Ніколі не бадзяйся адзін і не адбівайся ад статку, не хадзі па начах па дарогах, лясах і канавінах, на загуменні і задворкі. Не лазь уначы ў падпол ані на гарышча. Адбіўшыся ад сваіх, уначы так лёгка прыбіцца да чужых – тых, хто вядзе сваё існаванне на водшыбах і ў невядомых прасторах. Нябачны свет тут, побач. Галоўныя заняткі яго невялікіх насельнікаў – баляванне і скокі, іігранне на дудачках. Раззлуеш іх – і будзе праз твае рэбры вецер свістаць і быльнёг прабівацца.*

Калі назіраць ужо не было каму, Марцінаў хохлік пайшоў у бок чорнай багны, гіблай плоці, халоднае смалы. Яе атачалі крывыя елкі, сасонкі і бярозы, і кожная цягнулася, каб дакінуць сваё сямянка бліжэй да цвёрдае глебы. З такой бярозкі зляцеў цяжкі, як бамбавоз, цецярук і павольна прайшоўся па полі, вышукваючы высокага сумёту. Аднак сумётаў яшчэ не было, цецярук паспяшаўся. Ксавэры падкрадваўся падступна, з адцяжкаю.

– Гэтыя сіноптыкі – дурні, саломай напхатыя, – важна сказаў Пятрок Сініцкі Пастуховай Нінцы назаўтра аб адзінаццатай раніцы. – Дзе тая бура? Дзе мароз? Прыпарашыла толькі для прыклёпу.

Дзеці паўцякалі ад крыклівых матак і сноўдалі па вуліцы. Як бы раззлавалася Маня, угледзеўшы, як дачка калупае снег і конскія яблыкі гадзючым кійком! Пятрок таксама меў кіёк, але не такі чароўны – сам выразаў з арэшыны. Дзеці збіраліся гуляць у любімую гульню, якую назвалі лапатаніма. Заключалася яна ў хаджэнні па платах. Асабліва добра было хадзіць вакол школы (там зверху штыкецін была пакладзеная яшчэ і перамычка), калгаснага саду (ніхто не роў: «Вон, смаркачы, з майго плоту!»). Найвышэйшым майстэрствам было гуляць так, каб са школьнага плата па дрэвах і кустах пералезці на садовы плот, а адтуль на лозкаву агароджу – самую складаную, бо хадзіць трэба было па круглай бярвеніне. Балансавалі і падпіраліся кійкамі, хто больш падаў, той прайграваў. Падаючы, трэба было крычаць: “Лапатаніма!” – слова выдумала Нінка, вельмі ж вясёлае. У іх было шмат такіх гульняў і словаў, цэлая мова. Бо чым больш лаяліся і чубіліся маткі, тым больш моцнай і таемнай, і салодкай, і забароненай рабілася дружба дзяцей. Хадзіць па платах перад Калядамі й Васіллем – справа страшная і займальная. Людзі білі свіней, рэзалі цялят і курэй, а галовы й капыты выкідвалі пад плот ці ў шуметнікі, адкуль іх

падбіралі сабакі і цягалі па вёсцы. Нінка з Петраком паплакалі ўжо над целам маленькага парасяткі з ружовым лычыкам («Здохла!» – сказаў Пятрок, паторкаўшы кійком), пажахаліся, углядаючыся ў шкляное вока каровінай галавы (з абрэзу глоткі тырчалі нейкія трубкі і нібыта храшчы) і зноў узлезлі на плот.

– Глядзі, а вунь нешта рыжае ляжыць! Шапка чыясьці! О, нехта п'яны заснуў! – закрычала Нінка, і дзеці з крыкам пападалі з плота і сталі асцярожна набліжацца да куста. Гэта была не шапка, а рудая галава Марціна, які паўпрыкрытымі зялёнымі вачыма глядзеў некуды нібыта сабе на грудзі.

– Ён мёртвы. У яго вочы, як у той каровы, – са страхам прашаптала Нінка. Дзеці замерлі і сквапна ўзіраліся ў адублае цела. Яны хавалі выпалых птушанят, здохлых кацянят і сабачанят, ладзілі пышныя праводзіны і магілкі «з сакрэцікам», але мёртвага чалавека бачылі ўпершыню.

– Што вы тут робіце? – пачуўся за імі жаночы, асіплы голас. Дзеці павярнуліся і ўбачылі Сытую Ірму ў ватніку, з кішэні якога тырчала пляшка. Другую пляшку, з ужо адрэзаным коркам, Сытая трымала ў руцэ.

– Дзядзька Марцін памёр! Замерз п'яны, – сказаў Пятрок.

– Ну? Вось жа ж гора. Памянуць трэба, – сказала Ірма і затрубіла ў свой горн, толькі бурбалы пабеглі ў бутэльцы. Дапіўшы "фаўста", Ірма паставіла яго ля плота, выцерла рот і прамовіла: – Ну, царства нябеснае. А вы чаго стаіце? Ведаеце, што раз вы цела знайшлі, то і вам памянуць трэба?

Ірма дастала сцізор, зрэзала пластыкавы корак і працягнула бутэльку Петраку. Той адпіў і падаў Нінцы.

– Светлая памяць, – прабляяла Нінка тое, што чула ад маці.

– Яшчэ. Што ты стаіш, як не свой, – сказала Сытая Ірма. – Піце, піце, сіроткі горкія! І валіце адсюль. Я пайду міліцыю вызаву.

– А мы ў Машніцы пойдзем! Там вялікую ёлку паставілі, з агнямі, з нашага гарышча відна. А па дарозе на Галоднай гары палазім, там Нінка летам пярсцёнак згубіла.

Дзяцей ахапіла лёгкасць, адчуванне свята і ахвота да прыгод. Аж горача ім зрабілася, паскідалі капюшоны, шапкі, пабраліся за рукі і пайшлі да Машніцаў, торкаючы кійкамі ў зямлю.

– Ідзіце, ідзіце, выблядкі рудыя, мо і вам капцы будуць. Майго сыночка не пашкадаваў, дык хай і твае байструкі памерзнуць, – праказала са злосці Ірма і зноў затрубіла ў горн.

Дарога да Машніц была, можа, і нядоўгая, бо з гарыстай Пярэхрысці Машніцы былі добра відны, але надта ж пакручастая, аббягала Лозку, Галодную гару, ішла праз густы сасоннік.

Дзеці неаднойчы ездзілі ў Машніцы возам, машынаю ці аўтобусам, і ведалі тут кожны паварот, але ўпершыню ішлі пехам, і паступова хмялёк разбаўляўся ўзбуджаным, прыемным страхам. Вось праходзяць яны пажарную вышку, з якой скінуўся ветэрынар Пашка, яму п'янаму яны пхалі кветкі ў планшэт з лекамі. Вось тры крыжы на месцы, дзе пабіліся на машыне Гардзюкі (выжыла толькі малая Гардзючка). Паступова пачынала сутоніцца, і было страшна ўяўляць, што раптам Гардзюкі выйдуць да сваіх крыжоў і крыкнуць: «Аддай сваё сэрца». Або Пашка саскочыць з вышкі і пагоніцца за імі за тое, што пхалі яму каменьчыкі і кветкі куды папала. Аднак пранесла. Што праўда, лось быў высунуў сваю вялізную морду з зімазёлу і лазы, але лось хутчэй пануры, чым страшны. Ды яшчэ Нінка збаялася прайсці па чорнай бярозе, якая была пакрытая дробнай луской і вілася па зямлі.

Ды яшчэ чорны дрозд праскакаў па дарозе. Аднак да Галоднай гары дзеці дабраліся без прыгод. Галодная гара звалася так таму, што на ёй нічога не расло. Ужо колькі разоў яе спрабавалі разараць як след, а яна так і стаяла лысая ў праплешынах, зарослая нейкім быльнягом, са старой, струхлелай дзічкай на вершаліне. Кажуць, там некалі стаяў кулацкі хутар, але іх выселілі, дом раскаталі на бярвенні, з якіх потым склалі старую школу.

Пятрок і Нінка летась даехалі на роварах да гары, пабачылі і дзічку, і стары, паўабвалены пограб (адтуль, казалі, нехта страшыць, нібыта нават дачка кулака, якая схавалася ў пограбе, як забіралі, ды там і сканала). І сапраўды, калі дзеці гукнулі ў яму, заваленую гнілымі бэлькамі, пад якімі віднеліся абкладзеныя каменем сцены, адтуль пачуўся жалобны дзіцячы галасок:

– Тууут я!

Пятрок з Нінкаю так беглі, што пакідалі ровары. А яшчэ Нінка згубіла пярсцёнак з сінім каменьчыкам, які Пятрок ёй купіў у магазіне. Бо быў пярсцёнак трохі завялікі, дык і спаў з пальца. Ровары потым, лаячыся, забралі маткі, а вось пярсцёнак (сіні-сіні і залаты-залаты) там і згубіўся. Нападпітку дзеці не баяліся голасу з пограба, дый не сцямнела яшчэ. Але колькі б яны ні рассоўвалі снег і быльнёг кійкамі, пярсцёнка не знайшлі. Затое пужанулі тоўстага зайца, які лупянуў па схіле гары, высока падкідваючы заднія ногі.

– Заяц вельмі баязлівы, бо мае невялічкае сэрца. Бог яму выляпіў надта доўгія вушы, а на сэрца не хапіла гліны, дык адарваў хвост, пакідаючы толькі адростачак, каторы потым аброс шэрсцю, да й зрабіў маленькае сэрца. Ось зачым ён усіх баіцца, а яго ніхто, – патлумачыў Пятрок. – Але калі зрабіць дудачку з савінай косткі, то ўсе зайцы будуць збірацца да цябе на музыку, толькі грай і хапай.

– Пятрок – елка! Загарэлася елка!

Яны стаялі на Галоднай гары і, зачараваныя, глядзелі на ярчэзныя каляровыя агні, што манілі да сябе.

– Лапатаніма! – закрычалі дзеці, ірванулі з гары, і іх рудыя галоўкі заскакалі ўніз, па мярцвянаму снегу, быльнягу, тумане гары, нібы агеньчыкі.

Агонь тым вечарам быў чырвоны і дровы ў печы гарэлі з трэскам, дзверы, аканіцы і весніцы рыпелі, спявалі і пішчэлі. Воліны пародзістыя каляровыя куры зараней пайшлі ў куратнік і высока пазалазілі на седала, прытуліўшыся адна да адной, як спалоханыя дзеці. Зімазёл на шыбах рос галінкамі ўверх – прароцтва доўгіх, цяжкіх халадоў. Волю гэта не надта непакоіла – яна і так ведала, што ідзе бура і мароз. Больш турбавала, куды падзеўся Пятрок і ці прыйдзе ён дахаты да цемры і непагадзі. Ісці да Манькі-паскуды і пытацца, ці дома Нінка, не выпадала. На вока ж Нінкі нідзе не было відно.

Раптам весніцы бразнулі, нехта прабухаў па сцежцы, зарыпелі сенцы і ў хату ўвалілася Сытая Ірма.

– Папіць дай і налі трохі. То скажу, куды твой малы пайшоў.

Праз некалькі хвілінаў Воля бегла па сцяжынцы, на хаду ўздзеючы кажух, вобмільгам урываючыся ў двор да суседкі.

– Маня! Маня! Нашыя дзеці ў Машніцы пасунуліся!

Сытая Ірма паслухала крык і енк суседак на вуліцы і палезла ў халадзільнік, а потым і пад высокі спружынны ложак з падузорнікам. І не

падманулася. Было і мяса, і выстраеныя пад ложкам батарэі гарэлкі. Ірма распачала доўгае баляванне ў цёплай хаце.

Маня з Воляю аббеглі ўсе хаты, але толку не дабіліся. Кабыла, што належала ФАПу, ажарабілася, «казёлчык» старшыні стаяў з паздыманымі шынамі над ямай, а Гаўрыльчыкі на сваім «Пасаце» паехалі да дочкі ў Глуск. Тэлефоны нідзе не адказвалі.

– Стройдвор! Трактар!

– Там жа пазакрывана ўсё. Ты ўмееш на трактары ездзіць?

– Сытая ўмее, і ведае, дзе там што.

Праз некаторы час па сцямнелых і прыціхлых вуліцах бег дзіўны гурт – дзве бабы пад рукі цягнулі трэцюю, якая заграбала нагамі, гнула галаву і мычэла.

Жанчыны пралезлі на тартак праз адзін з пралазаў Ірмы – дошку, што вісела на цвіку. Сабак і вартаўніка нідзе не было відаць.

– Спіць, стары казёл! – сказала Ірма, якая на тартаку вельмі ўбадзёрылася. – Ірму прагналі, Тафільевіча ўзялі. А Тафільевіч і п'е, і крадзе, як тры Ірмы!

Вароты адкрыць не ўдалося, і тры бабы іх проста вынеслі трактарам. Ірма жалезнай рукой учапілася ў стырно і рычаг. Воля і Маня сядзелі поруч і думаць забылі пра сваю варажнечу.

Між тым Ксаўер пачаў падаваць знак пра сябе, узняў такое выццё і каламуту, што не разабраць было, ці то снег валіць з неба, ці то падняўся з зямлі.

Ірма адной рукой трымалася за стырно, а другой рвала з кішэні ватніка бутэльку беленькай.

– Куды, курва?! Угробіць нас усіх хочаш? І так набралася, як рапуха твані! – сказала Воля, адбіраючы бутэльку. – Манька, паглядзі, мо ў яе і другая ў рукаве ці ў кішэні.

– Не, другой няма, але паўкілбасы сцягнула.

Волька рашуча заліла ў сябе плюх гарэлкі і, прамінуўшы Ірму, працягнула бутэльку Маньцы. Тым жа рухам адабрала ў Манькі кілбасу, адкусіла. Манька ад суседкі не адстала.

– А мне?! – закрычала пакрыўджаная Ірма.

– У цябе нос у г...не! – парыравалі хорам сёстры.

– Гэта ў вас нос у г...не! Мала таго, што байстручаняты вашыя ўпрочкі пайшлі, дык яшчэ і ё...р дапіўся і здох у кустах ля Лозкі! – пракрычала Ірма. – Там і ляжыць! Я яшчэ не заявіла.

Жанчыны прыціхлі. Трактар нёсся праз замець, дарога была ледзь відная. Пасля доўгай паўзы Маня ў роздуме сказала:

– Хай ляжыць. Што яму за ноч зробіцца ў такую буру. Дзяцей трэба шукаць.

Жанчыны маўчалі да самых Машніц, гарэлку пілі ўжо ўтраіх. Але колькі б ні піла Сытая Ірма, яна памятала, што яе таямніца павінна не ўсплываць на бурлівых водах спірытусу, а тануць – глыбей і глыбей. Тая, што прадала ёй атруту, будзе маўчаць. Ды і каму ён нарэшце патрэбны, гэты руды Марцін? Бабылёў у вёсках дзясяткі. Дарма, што гэты быў прыгожы – спіўся б і ён.

...Пятрок і Нінка сядзелі пад вялізнай Машніцкай ёлкаю, прыціснуўшыся адно да аднаго. Зблізу елка аказалася ўсяго толькі старой змрочнай елкай, на лапах якой ад ветру трэсліся і хісталіся вялікія лямпачкі з калгаснае фермы, абы-як памазаныя каляровымі фарбамі. Вакол ёлкі не было карагодаў, гулянняў, Дзеда Мароза, снягуркі, нікога не было.

– Нінка, а як жа мы дадому дойдзем? Няма нікога, цёмна, дарогу не відаць.

Нінка не паспела зарумзаць, бо ёй перашкодзіў нягучны жаночы голас.

– Як цёмна? Як дарогі не відаць? Хіба вы падурнелі, шчаняты? Ужо з гадзючым кійком яны дадому не дойдуць! Узялі кій і пасунуліся!

Перад дзецьмі стаяла кабета, высокая і худая, як дзяржальна ад грабель. Праставалосая. Валасы срэбна-шэрыя, нібыта глухі прысак, змяшаны са срэбрам; нібыта пер'е старога крумкача. І цяжкія, нібыта небялёны лён. Вецер, нібыта такі магутны, ледзь варушыў іх, і яны цьмяна свяціліся над галавой.

– Цётухно, а вы чаго тут у такі цёмны час? – спытаў Пятрок, адчуваючы, што адказу ён чуць не хоча. Цётухна адказу і не дала. Твар яе быў худы, бледны, як гусінае яйка, а вочы зялёныя і халодныя, лёд на стаялай вадзе. Рукі, прамыя, як палкі, віселі ўздоўж цела, а ногі, прамыя, як палкі, біліся адна аб адну.

– Халадна мне, – глуха сказала незнаёмка. – Ох, і халадна мне ў такія ночы. Я не па вас тут хаджу, ідзіце дадому.

Дзеці выскачылі з-пад ёлкі і пабеглі. Нінка задрала свой кій і закрычала:

– Глядзі, Пятрок, гэта ж мой пярсцёнак! На кій нанізаўся, а мы й не бачылі!

На кончыку кія, нібыта заўжды там і быў, сядзеў яе залаты-залаты пярсцёнак з сінім-сінім каменьчыкам, і гарэў той каменьчык сінім-сінім агнём. Дзеці пабеглі па сінім прамяні, які ні разу не збочыў з дарогі. А паабапал бушаваў Ксавэры.

...У трактар улезлі ўсе. Начавалі ў Волькі таксама ўсе. Бо з Маньчынай хаты страху знесла. Пятрок бажыўся, што нейкія малыя віхурныя стварэнні дралі страху, і вецер шалёны веяў вакол іх, віравала салома, лісце, пыл і смецце. Ніхто яму не паверыў, і нядзіўна. Бо віхравых русалак бачаць толькі мужчыны, надзеленыя дарам ведзьмара.

Бушаваў Ксавэры, а ў хаце было зацішна, цёпла і ўсяго хапала. Вядома ж, дом весці – не лейцамі трэсці, і Волька дастала ўсе прыпасы. Ды і Каляды якраз падыходзілі.

Потым узяла Манін гадзючы кій, выйшла на вуліцу і station пераважагнала хмары.

Пад раніцу віхура сціхла, сады Пярэхрысці стаялі ў снезе, убраныя на святы. Дзеці ў пальцішках і яркіх шапках лёталі па садзе, страсаючы з яблыняў шэрань і снег. Чыстая Ірма ў новым Воліным ватніку стаяла на ганку і пільнавала дзяцей Рудога Марціна, пакуль яго маткі трэба дояць кароваў, а бацька ляжыць у снягах Лозкі і чакае, калі яго забярэ міліцыя.

Абтрасаючы яблыкі напрадзім'і, адзін ці два трэба пакінуць зімаваць – для птушак і для тых, хто шамаціць у садах.

*8 снежня 2013 года.*



Людка Сільнова



...Яна была прыгожая, і Ён яе любіў...
Не, так не пачынаецца сучасны дэтэктыў...

# Тэхніка дэтэктыўнага пісьма

### *ТУТЭЙШЫЯ*

Мне толькі Божа дапаможа, можа,
Які мяне прыдумаў. І які
Ў Жыццё мяне пусціў, у Бездарожжа,
Як спуджанае птушаня з рукі.

Мне толькі Божа дапаможа, знаю.
Дакладнасць маху на дрыготку рук
Я нізавошта ўжо не прамяняю,
А вершы-маршы – на няўцямны гук.

Мне толькі Божа дапаможа, веру...
Калісьці, на зыходзе дня ці сну,
Ён зменіць Варту. І жаўнер жаўнеру
Адсалютуе. І напнуцца Дзверы –
Прыняць ахвяру, з Тых – яшчэ адну.

## ЦЯЧЭ ПАЎЗ НАС РАКА

***I***

Яна цячэ паўз нас, рака,
І не з вады, не з малака.

Са слоў, што творацца ў малітвах,
Узносяцца ў духоўных бітвах.

***II***

Быць хрысціянінам: абмыцца
Вадой – і ў хвалях растварыцца.

Прыняць жыцця гарачыню –
Успыхнуць, быццам куст агню!

На беразе той з рэк Ракі,
Што паглынае ўсіх вякі.

***III***

Цячэ... цячэ паўз нас... рака...
Спазнаць усё... не наракаць...

Угледзець там... чародку рыбак...
Хапіцца... целаў нашых зніклых!

(Мы шкадаваць іх не павінны)
Ў вадзе... гайдаюцца сцяблiны...

## ЦЁПЛАЯ ЗГАДКА

***I***

Надакучыла
Халадэча нам!
Уцячы б калі
Ў Маладзечна!

У валёначкі б,
Хусткі пухкія –
І на саначкі
Ў снягі пругкія!

***II***

Мне б шчакой
Да печкі прыцiснуцца,
Адагрэцца там,
Накапрызіцца.

Зноў пад дрэвам жыцця
Печкі кафельнай,
Як дзіця,
Аб’есціся вафлямі...

***III***

Думка-снежка – стук! –
Недарэчная
Ў шыбу дзён:
“Хачу ў Маладзечна я!”

У бацькоўскі дом,
У мястэчка,
Дзе азяблых нас
Грэла печка.

***IV***

Нават летнімі
Навальніцамі
Бацька печ паліў:
“Абсушыцца...”

Вераснёвымі
Вечарамі
Дзеці ведалі:
“Маці з намі”.

***V***

Мінск – заінелы
І сцвярдзелы.
Тут – замерзла я:
Пасталела.

Са сталіцы – пырх,
Як у вечнае,
У дзіцячы рай –
Маладзечна!

## ***ТУТЭЙШЫ***

...І зліўся блакітны з сінім
Так лёгка, як не было
Ні шматабяцальнай сілы,
Ні тога, што зваў “сіло”.

Я – знаю, яго згубіла
(Здагадка прыйшла наўпрост:

Я, пэўна, яго любіла!)
Кашуля, што навырост...

Ён вырваўся – страшны, кволы,
Раздзёрты надвое, голы.

Ужо скіраваны ўніз,
Крывёю прахаркаў: “Сыс!..”

## ***НА ВЫСТАВЕ ЛЬВА ДАШКЕВІЧА***
### ***Тры словаздымкі***

***I***

Не толькі зайцы – Львы
у нас яшчэ ёсць!
Як і былі:
фатограф Леў Дашкевіч.
Якой цікавасцю –
і о, якой любоўю! –
Ягоны аб’ектыў
да Краю поўны!

***II***

На сценах – фота,
а на стэндах – рэчы
Дашкевіча...
Як тут усё дарэчы!
Ад рамачкі да рамачкі
вандрую.
Мы Беларусь
не бачылі такую!

***III***

Мастак, вучоны
і вандроўны рыцар,
Ён быў –
спрадвечных мараў праявіцель...
Хачу, каб ён
і на мяне глядзеў,
Амаль біблійны,
вачэй поўны Леў!

## ***ПАНО З АБРЭЗКАЎ***

Жыву даўно-даўно-даўно-даўно
Я на зямлі валошак ярка-сініх.

І шыю ўсё пярэстае пано
З абрэзкаў дзён, сустрэч і сноў нявінных.

А вочы слепнуць і не бачаць шво,
Якім стачала жоўтыя квадраты
З чырвонымі... Перавярну шытво,
Адсуну прэч – і выйду ў цемру з хаты.

Наперадзе я ўбачу летні сад.
Ліхтар – галіны яблынь мне асвеціць;
З ім у руках – так хочацца! – назад
Не азірнуся ні за што на свеце.

## *ПАРТРЭТ У РАМЦЫ ЗА ШКЛОМ НА СТАЛЕ*

Дачкі і ўнучкі партрэт настольны
Мне быццам кажа: "Ты будзеш вольнай!

Ты будзеш вольнай – і назавешся
Найціхім словам у Божым тэксце..."

Дачкі і ўнучкі святочны выгляд,
Ён супраць сцюжы-назолы выпад!

Дачка. І ўнучка. І я... Матрошкі:
Адна з другой. Каб Вясны пабольшала!

## *ТЭХНІКА ДЭТЭКТЫЎНАГА ПІСЬМА*

Яна была прыгожая, і Ён яе любіў...
Не, так не пачынаецца сучасны дэтэктыў.

Яна была багатая. А ён – зайздросным рос...
Штудзірую прынесены сучасных кніжак стос.

Яна і ён па розныя бакі начных вітрын.
Яна – і сведкаў процьма. А ён адзін, адзін.

Яна яго заўважыла, яна схавала страх...
Пішчыць у галаве маёй і колецца ў вачах!

...Яна была прыгожая. А ён забіў яе.
На дэтэктываў тэхніку мне часу не стае.

## БЛЯШАНАЕ ВЯДРО, ПОЎНАЕ ЧОРНЫХ ЯГАД

***1. Маленства***

Вячэрняе шэрае неба.
Вядро пакацілася. Бляха
Грукоча так звонка! І хлеба
Паўзе на мяне чарапаха

Па белай цыраце ў рамонкі.
Смяецца матуля. І тата
Знімае аднекуль гармонік.
Людзей была поўная хата...

Маленства, ты поўнае ягад,
Чырвоных, ружовых і сініх!
Знайшла мяне маці не ў градах
Капусных, а ў лесе ("ў малінах").

***2. Тры ўзросты***

Я думала, што, назбіраўшы
Вядро чорных ягад па кнігах,
Засну як пшаніцу прадаўшы
І высню і Славу, і вырак...

Я думала, верная Згодзе,
Трымаючы цьмяную мапу:
"Яшчэ не адна я ў паходзе,
Мне чуюцца песні і ўсхрапы..."

Я думала (лобам у шыбу
Вакна маёй чорнае келлі),
Што знаю і звера, і рыбу,
А птушцы трымаю пасцелю...

***3. Я веру***

Аднолькава нас навучалі:
Любіце братоў нашых меншых!
Рассыпаліся, пазгасалі...
На баль не пазвалі тутэйшых.

Я веру: тутэйшая птушка
Старонкі ці крылы раскрыліць –
І выгнуцца чорныя стужкі
Радкоў, як каралі на шыі.

***4. "Тутэйшыя"***

Сышліся як ёсць! Зашумелі...
А стол быў – авальны, як лодка.

“Як рыцары памаладзелі!” –
Вось так рыфмавалася лёгка.

“Каня падвядуць”, – я шаптала.
Змяніла сукенку на латы.
Чакала, гукала, крычала...
Пакуль не пазвалі Дахаты.

Я сёння ўсяго толькі Нехта.
Архівам – блакнот і асадку...
Шлю горыч у нэтбука нетры,
Сціскаючы ў пальцах насатку.

### *5. Чорны сабачка*

Я думала: чорны сабачка
Якісь, ні малы, ні вялікі,
Ля ног маіх, пылных, заскача,
Як прыйдзецца “зняць чаравікі”...

Я думала – чорны сабачка.
А гэта – пусты мех ад смецця
Нясе па сумёце ўскудлачаным
Вецер... зноў вецер... і вецер...

### *6. Без назвы*

вялікае чорнае неба
у старасці
маткай абніме

хто мы?
і адкуль?
што нам трэба?

няўжо мы
тых зор
пілавінне?

*Снежань 2013*



Вінцэсь Мудроў



...В'енцьян, Луангпхабанг, Саванакхет... – мармычу я без асаблівай ахвоты...

# Мутны Меконг

***Апавяданне***

– Шчаслівы ты, – з робленай зайздрасцю прамаўляе сябар, узняўшы чарку. – Хутка будзеш дома.

Я задуменна лашчу бараду, уяўляю чэргі ў авіякасу – з начнымі адчуваннямі, пеpазовамі і цісканінай ля вакенца, – і брунатная, падобная да амёбы пляма на стале пачынае варушыцца ў п'яных вачах. Надоечы цэлыя суткі прастаяў у чарзе, а квіт узяў толькі да Цюмені. Кажуць, там да авіякасы наогул не прабіцца, таму давядзецца, відаць, далей ехаць цягніком.

– У Цюмені бяры на любы рэйс: на Горкі, Куйбышаў, Варашылаўград, – падае голас Аўтухоў – калега, які пяты год працуе на Поўначы. – Галоўнае праз Урал перамахнуць.

Нашая тэхнаглядаўская кантора арандуе кватэру ў драўляным двухпавярховіку. Будыніна месціцца ў цэнтры

таёжнага горада Лістападаўска, і мы, тэхнаглядчыкі, зрэдзьчасу з'язджаемся сюды з трубаправодных трасаў. Вось і цяпер, напярэдадні першага траўня, прыехалі з сябрам у горад, і цяпер п'ем гарэлку на кухні. За вакном ўжо цёмна, і ў зялёным святле ліхтара, што стаіць пасярод двара, соннай імжакай мітусіцца дробны снег.

– Канец красавіка, а на вулцы мароз, – выдыхае разам з цыгарэтным дымам Аўтух, – а дома ўжо бульбу садзяць. – Калега наш родам з Кіева.

Гарэлка апякае горла і я заядаю гаркоту кіслым агурком. Поруч са мной сядзіць аўтухоўскі зямляк – верталётчык Міша. Ён жыве ў суседнім доме і штовечару завітвае сюды, прыхапіўшы пару пляшак. Грошай у аўтухоўскага зямелі, як ён сам кажа, столькі, што можа набыць уласны ветрухал – так авіятар называе верталёты. Міша соўгае азадкам па крэсле – адзнака таго, што збіраецца паведаміць штосьці важнае.

– У ліпені хачу дахаты ехаць. Хопіць ужо матляцца па свеце. Падамся ў сельгасавіяцыю. Буду на камаўскай тарахцелцы шкоднікаў труціць.

– А дзе, апроч Лістападаўска, даводзілася лётаць? – пытаецца Алехна, спрабуючы спачатку рукой, а потым відэльцам выцягнуць кіслы гурок з трохлітровага слоіка.

– Я быў у такіх мясцінах, дзе наша Ямала-Ненецкая акруга падасца раем. Вы пра такія краіны і не чулі.

Я добра ведаю геаграфію і ўплішчваюся ў размову:

– Ну, а ўсё ж...

– Лаос! Чулі пра такі?

Алехна ведае пра маё захапленне геаграфіяй, таму адкідваецца на спінку крэсла, казеліць на мяне блазенскім вокам.

– В'енцьян, Луангпхабанг, Саванакхет... – мармычу я без асаблівай ахвоты: гарады гэтыя мне вядомыя з геаграфічнай мапы.

– Ты што, там быў? – з лёгкім хваляваннем азываецца Міша.

– Ды не... так... на мапе бачыў, – я таксама лезу ў слоік, і Алехна неўпрыкмет стукае мяне нагой па галёнцы. – Толькі тады цямлю: сябрук хоча раскруціць верталётчыка на яшчэ адну пляшку.

– Ла-аос... – летуценна гукаю я, выпусціўшы смуродныя духі з вялізнага гурка, – мне й да гэтай пары сніцца мутны Меконг (пасля такіх словаў вытрымліваю шматзначную паўзу)... і супчыку з маладога пітону давялося пакаштаваць, і рысавай самагонкі каўтнуць, і смажаную жабу на закуску з'есці. Нават у Даліне Збаноў давялося пабываць. – Я азіраюся на Аўтуха, раскрыльваю рукі: – Сярод джунгляў во-о такія гранітныя збаны. І невядома – хто, калі і дзеля чаго іх выдзеўб. – Здымак тых збаноў я бачыў на старонках Вялікай Савецкай энцыклапедыі.

Міша выпускае з роту струмень папяроснага дыму, – авіятар паліць выключна "Беламор", – нецярплівай рукой разлівае рэшткі гарэлкі па чарках.

– Ды я ля тых збаноў нават фатаграфаваўся. Шкада, фоткі дома пакінуў.

Сябрук ізноў стукае мяне нагой. Гэта азначае: згадай яшчэ што-небудзь.

Напружваю памяць і прыгадваю назву лаоскага места: Паксэ.

– Прывезлі нас аднойчы ў Паксэ... – мармычу пасля цяжкога ўздыху, задзіраю, як той бусел, галаў, маракуючы, што б такое прыдумаць, і верталётчык да адчаю суворым голасам пытаецца:

– Ты быў у Паксэ?!

– Быў, Міша, быў... – падключаецца да размовы Алехна, і Міша мітусліва лезе ў кішэню.

Па гарэлку ідзе Аўтух. Балазе, далёка хадзіць не трэба – у доме насупраць жыве “спіртавоз”, тутэйшы бутлегер.

– Наш вертухал у Паксэ два разы абстралялі. Чатыры прабоіны ў хвасце, – Міша хмурыць лоб, але тут жа схамянаецца. – Ты, відаць, з тых, засакрэчаных, што ў шэрых плашчах хадзілі? – вертухальшчык прыпальвае чарговую беламорыну. – Аднойчы ў “Лансангу” сустрэўся з адным вашым... дарэчы, у “Лансангу” спыняўся? – мімаходзь пытаецца суразмоўца, і пакуль я разважаю – што б гэта магло быць, Міша з інтанацыяй абурэння працягвае: – Падыходжу, пытаюся па-расейску, а ён мне, сволач, штосьці па-французску шпрэхае...

Уваходныя дзверы з грукатам адчыняюцца і з паўзмроку выплываюць спачатку заціснутая ў руцэ пляшка, а потым усхваляваны Аўтуховы твар.

– Чулі?! Пад Кіевам атамны спадарожнік грымнуў!

– Адкуль грымнуў? – выдыхаем мы ўсе трое.

– Адкуль, адкуль... з арбіты, вядома. Бяру зараз пойла, а тут Гуцул увальваецца. Кажа, толькі што з домам размаўляў; уся сталіца савецкай Украіны на вушах стаіць... пажаркі гойсаюць, верталёты кружаць... – Аўтух прамаўляе ўсё гэта з нейкай вар'яцкай весялосцю.

Міша перахоплівае з Аўтуховых рук пляшку, іранічна крывеліцца.

– Ну, зваліўся спадарожнік... ну, падпаліў хмызняк... такой бяды. Падгоняць аэрадромныя вадамёты – вобмігам патушаць. Вунь, у нас на аэрадроме стаіць адзін такі, на базе цягача. Цыстэрна аб'ёмам 11 тысячаў літраў!

– А радыяцыя? – падае голас Алехна.

– А што радыяцыя... Па-першае, спадарожнік мусіць на 90 адсоткаў згарэць. Ну, а па-другое, для барацьбы з радыяцыяй ёсць адпаведныя сродкі. Кастрычніцкія парады бачылі? “На пляц, чаканячы крок, выходзяць войскі супрацьхімічнай абароны...”

– Гэта яны на парадах гарцуюць, а здарыцца што – хрэн каго знойдзеш, – не сунімаецца Алехна.

– А да таго ж, абшар рассейвання радыеактыўных рэчываў можа быць даволі вялікі, – нясмела гугнявіць Аўтух (кіяўлянін у свой час працаваў у газеце і часцяком прамаўляе газетнай мовай), – і рэкі могуць запаскудзіць.

– Ды ўсё гэта плёткі старой цёткі, – басавіта гаворыць Міша. – Гуцул з кім размаўляў? З жонкай? Знайшоў каго слухаць. Якая-небудзь адрына загарэлася, а ёй усясветная рэвалюцыя прымроілася... Далібог, дарма што п'яны, завяду зараз свой “жыгуль”, паеду ў аэрапорт і па спецсувязі са сваім лепшым сябрам пагаманю. Лёшка Мазур, паляшук. Мы з ім дзесяць гадоў на Паўночным флоце адбухалі. Зараз пад Кіевам жыве, на Мі-6 лётае, – Міша галасна крэкае, з безагляднай рашучасцю адкаркоўвае пляшку і нечакана засяроджваецца ды чухае бутэлечным рыльцам сівую скронь. – Хаця не... да яго зараз не датэлефануешся. Сядзіць дзе-небудзь на Дняпры, донкі закідвае. Заўзяты рабалоў. Аднойчы дваццацікілаграмовага ментуза выцягнуў.

– Бляха, які аэрадром! – ляпае у далоні Аўтух, ды так гучна, што мы падскокваем на крэслах. – Зараз усё высветлім!

Калега бяжыць у святліцу, і за сценкай ажывае транзістар: гучыць да

болю знаёмая музычная застаўка. Мы сцішваемся, шыі нашыя выцягваюцца, веі не лыпаюць, і на бібісійнай хвалі, скрозь піск і радыёшум, прарываецца анонс галоўных навінаў: аварыя на капальні імя Засядзькі, падзенне коштаў на нафту, ушанаванне памяці кагадзе забітага шведскага прэм'ера Улафа Пальмё...

– Усё, глушы, – з урачыстай палёгкай выдыхае вертухальшчык і поўніць чаркі.

– Трэба будзе яшчэ "Свабоду" паслухаць, – Аўтух заносіць у кухню свой стары "Вэф", ставіць на падвоканне.

– Ды што там слухаць. Калі б што такое – "галасы" адразу б паведамілі, – пракурорскім тонам рэзюмуе Міша і, драпежна варушачы коўцікам, глытае трунак.

Гарэлка цёплая – увесь час, пакуль слухалі радыё, вертухальшчык трымаў бутэльку ў руцэ. Са слязьмі на вачах, з кашлянінаю, глытаю гарэліцу і падымаюся з крэсла. Раблю выгляд, што мне трэба ў прыбіральню, а сам іду ў святліцу і валюся на ложак. Тутэйшую вадзяру прадукуе Ішымскі лікёра-гарэлачны завод, і яе папросту немагчыма піць. Горшая ад сівухі.

Спрабую заснуць, ды як тут заснеш – п'яная гамэрня свідруе слых і казыча нервы. Колькі часу бяседнікі гамоняць пра спадарожнік, потым Міша млява-летуценным голасам распавядае, як у яго аднойчы, на вышыні пяцьсот метраў, заклініў аўтамат перакосу, нарэшце сцішвае голас да шэпту і просіць Алехну прачытаць што-небудзь з ягоных апошніх вершаў.

Мой сябар – вядомы паэт. Калі ехалі на Поўнач, збіраліся ўвесь вольны час прысвяціць творчасці. І вось адседзелі ў тайзе цэлы год і не напісалі аніводнага радка. А-ні-вод-на-га! А я ж з дому нават агульны сшытак прыхапіў і на вокладцы назву твора накрэмзаў: "Полацак. Гісторыя заняпаду". Хацеў паспрабаваць свае сілы ў эсэ з гістарычным экскурсам. І пачаць эсэ меркаваў з Інфлянцкай вайны, бо менавіта тады, з захопу Полацка Іванам Жахлівым, і пачаўся заняпад старога места. Зрэшты, як я цяпер разумею, горад быў асуджаны на заняпад. Здаецца, у Карамзіна прачытаў, што Полацак за часамі змагання за Інфлянты быў галоўнай літоўскай цвердзю. А якая ж гэта цвердзь, калі яе не атачаў каменны мур? Батура вунь да Пскова падышоў, паўгода пад сценамі прастаяў, пскоўскага таўкача аблізнуў ды назад пайшоў. Нібыта пры аблозе яму пораху бракавала. А насамрэч абламаў зубы аб каменныя муры ды вежы.

Інфлянцкай вайной я зацікавіўся яшчэ ў школе. Падручнік гісторыі, памятаю, пісаў пра гэтую кампанію дзіўныя рэчы. А менавіта: не паспеў Іван Жахлівы падысці ў 1563 годзе да Полацка, як значная частка месцічаў перакінулася на ягоны бок. Больш таго, палачане Іваноў ды Сафонаў паведамілі маскавітам пра набліжэнне літоўскага войска гетмана Радзівіла, а потым яшчэ нейкія тутэйшыя людзі паказалі іванажахліўцам прыхаваныя арсеналы ды запасы фуражу. Карацей, нар-р-род з радасцю сустракаў сваіх вызвольнікаў – стральцоў цара Івана Васілевіча...

Думкі-развагі перабівае зычны вокліч вертухальшчыка:

– А куды падзеўся мой лаоскі "зямеля"?

– Спаць пайшоў, заўтра дахаты едзе, – адказвае Алехна і адчайдушна аддзімаецца, чарговым разам прыклаўшыся да ішымскай сівухі. – Вінціку раніцою млосна бывае.

– А ён што, хворы?

– На жаўтуху хварэў, цяпер пакутуе з пахмялля.

– Ці не ў Лаосе падхапіў? – з клёкатам ў горле пытаецца вертухальшчык.

– А дзе ж яшчэ, – мімаходзь хлусіць Алехна.

Міша, падобна, б’е кулаком па стале і на кароткую хвіліну ўсталёўваецца цішыня.

– Вось ён, праклятушчы Лаос! Мой радыст выпіў вады з ручаіны – і гатовы! Гепатыт “А”! Тыдзень адваляўся ў в’енцьянскім шпіталі, а потым дахаты адправілі. О-хо-хо-о! – стогне Міша, гучна крэкча – таксама прыклаўся да чаркі, – і знясілена, ці не са слязінай на вачах, пытаецца: – Табе сябар распавядаў пра лаоскія жахі?

– Ды з яго слова не выцягнеш... падпіску даваў, – няўцямна, жуючы гурок, адказвае Алехна.

– Запіхнуў бы ён гэтыя падпіскі ў с...аку, – Міша з пакутай пераводзіць дых. – Прылятаем у В’енцьян (цягуткая паўза)... сыходжу з трапа – што такое? – дыхаць немагчыма... задуха, як у прымыльніку. Сорак градусаў і дождж церусіць (Міша, праўдападобна, прыпальвае папяросу). Прыехалі ў горад – дождж па-ранейшаму сыпле. Пытаюся ў перакладчыка: калі ўжо ён скончыцца? Адказвае: у кастрычніку. Ну, думаю, тут мяне, у гэтай парыльні, і закапаюць...

Каб засяродзіцца на сваіх думках, убіваю галаву ў падушку. Кухонная гамонка аціхае і ўваччу паўстае апакаліпсічная карціна: з Вялікіх Лукаў у Полацак ляціць агнядышны Трыгалоў-Базылішак ды паліць усё навокал. Спачатку захапіўся такой праявай, а потым згадаў, што гэткі цмок ужо лётаў, праўда, не на Полацак, а на Кіеў у дзіцячым фільме “Ілля Мурамец”. Не, лепш пачаць эсэ так: полацкі ваявода Станіслаў Давойна глядзіць з вежы Сафійскага сабору на супрацьлеглы бераг Дзвіны, адкуль б’е маскоўская артылерыя... Цікава, аб чым думаў, на што спадзяваўся ваявода, назіраючы, як на дробныя трэскі разлятаюцца хваёвыя стаўбуры фартыфікацый, як пырскае яскамі Вусцейская вежа і вахлачыя постаці маскавітаў мітусяцца на брудным снезе? Думаў, з дзіўным спакоем, што Дзвіна рыхтык такая ж, як Нёман у роднай Мерачы, і што маскавіты ўрэшце кінуцца па крохкім лёдзе на штурм Замка, і тады можна будзе ўдарыць з гарматаў і патапіць супарата? А можа, ні пра што не думаў. Папросту глядзеў праз вузкае вакно на Экіманскі пасад, адкуль, на дапамогу палачанам, павінна было прыйсці войска Радзівіла Рудога.

Спадзеўкі... Хаця яны й былі марнымі, ды не давалі нам памерці. Тыя ж палачане спадзяваліся на падтрымку Радзівіла Рудога; потым, ужо ўся Літва, спадзявалася на вунію з Польшчай; наступным стагоддзем гадавалі думку ўзвесці на маскоўскі пасад свайго чалавека; былі спадзеўкі, што шляхта прасякнецца патрыятычнымі пачуццямі; што БНР падтрымае кайзер Вільгельм і ўся астатняя Еўропа...

Думкі зноў блытаюцца, бо праз падушку прабіваецца надрыўны голас сябра:

– Ды што такое жанчына? Жанчына – гэта дзве наг-х-хі (“г” дарэшты фрыкатыўнае), галава, агузак, акавалак...

Аўтух нядаўна ездзіў дахаты і заспеў жонку ў чужых абдоймах. Цяпер вось, падпіўшы, Алехна ўзяўся яго супакойваць.

Я збіраўся было пазяхнуць, ды пахвінне раптам зайшлося ад свербу і давялося, у стане лёгкай панікі, падхапіцца і адсунуць ложак ад сцяны.

Там, ва ўцепленых тэхнічнай ватай сценах, вяліся блашчыцы: буйныя, мацёрыя. Яны чамусьці найбольш лютавалі ўвесну. Надоечы так дапяклі Аўтуха, што той высыпаў на ліштвы і падлогу пачак дусту “Фасфалан”, але гэта не дапамагло. Пасля дэзінфекцыі, падобна, у кватэру збегліся блашчыцы з усяго Лістападаўска.

– Ды не перажывай ты, бляха... – гэта ўжо азываецца Міша, – усіх іх адзін нячысцік маляваў. Чулі, тыдзень таму на Савецкай дом згарэў? Такая ж дзеравячына, як наша; яны ж гарацъ, як порах. І вось з агню, з другога паверху, баба выляцела, а за ёю мужык. Мужык хоць трусы паспеў нацягнуць, а баба – тая зусім голая. Аказалася, гэта жонка пілота нашага авіяатрада. Муж у Свярдлоўск паехаў, новую тэхніку атрымліваць, а ягоная палова тым часам з нейкім вахтавіком зблыталася. Прыехаў небарака з камандзіроўкі, а ў жоначкі левая нага вывіхнутая, пыса падрапаная і валасы абсмаленыя. І не толькі на галаве.

Уся гэтая балбатня даймае цяпер ужо да нервовага свербу. Таму й думкі прыходзяць раз’юшаныя. Не думкі нават, а нейкія цьмяныя відзежы: даўжэзны санны цуг цягнецца, у атачэнні ўзброеных вершнікаў, па расхлябістай дарозе. Плачуць дзеці, галосяць жанкі, усхвалявана гракаюць вароны. І ўсё гэта на тле алавянага неба, пасярод вусцішнага ляснога гушчару. Гэта Іван Жахлівы гоніць палачанаў у маскоўскае рабства. А насустрач цугу, прыхаваўшыся ў адліжнай лютаўскай смузе, рухаецца такі ж самы даўжэзны абоз. Гэта едуць у зваяваны Полацак маскавіты-навасёлы. Едуць са сваім скарбам, са сваімі святарамі, са сваёй спрадвечнай пагардай да ўсяго “нярускага”.

Немцы з палякамі і дагэтуль бядуюць з прычыны змены ў 20-м стагоддзі этнічнай “крыві” Каралеўца й Брэслаў, Львова ды Вільні. Полацак змяніў этнічны склад яшчэ ў 16-м стагоддзі. І з гэтай нагоды ніхто не бедаваў...

На кухні грыміць посуд, і Міша сіпата апавядае:

– Я ў Туркменіі, каб на яе ліха, ледзь не згарэў, разам з вертухалам... – Бяседнікі знянацку аціхаюць, і ў кілішках весела цурчыць гарэлка. – Адкамандзіравалі мяне на нафтапромыслы – гэта ў раёне Небіт-Дагу. Ліпень, спёка – тэмпература 40 ачкоў, нават болей. А тут рэзервуар з нафтай загарэўся. А чым тушыць? Поўнае бязводдзе! Вырашылі полымя падручнымі матэрыяламі збіваць. Панавезлі спісаных грузавых парашутаў, напоўнілі пяском, падчапілі да вертухалу – і наперад. Даляціш – медаль “За адвагу на пажары” атрымаеш, а не даляціш...

На кухні штосьці бразгае, Аўтух адчайдушна кашляе, і наваколле поўняць глухія ўдары па спіне: ішымская сівуха ўжо не жадае ліцца ў нутро.

– Карацей, падняў машыну, а яе матляе ў бакі і нос долу зарываецца... – доўжыць свой аповед вертухальшчык, ды Алехна яго перабівае:

– Можа, занясем Аўтуха ў пакой, пакладзем на ложак?

– Не чапай, хай на стале пакімарыць...

Я бязгучна мацюкаюся, ізноў заціскаю вушы падушкай і прыгадваю бачаную ў нейкай старой кнізе гравюру: полацкі краявід за часамі Напалеона. На ім горад проста не пазнаць, столькі там каменных гмахаў, якія потым, цягам паўтараста гадоў, спляжылі нашчадкі Івана Жахлівага. Ды што там гмахі... тут сам народ “зліквідавалі”. Былі мы ліцвінамі, а сталі беларусамі. Вазьмі любы летапіс: паўсюль нашы продкі змагаюцца з маскавітамі. Вось хтосьці з фаварытаў Кацярыне і параіў: а давайце ліцвіноў

назавем беларусамі. І ўсе пытанні адразу вырашацца. Бо гэта ліцвіны змагаліся з Маскоўшчынай, а беларусы заўсёды з радасцю сустракалі сваіх вызвольнікаў.

Як не сціскаю падушку, п'яныя галасы ўсё адно казычуць вушныя мембраны.

– А шторм абрынецца ды верталёты з палубы змые? – з няшчырай цікавасцю пытаецца Алехна. – Мяркуючы па тоне, сябрук падбівае вертухальшчыка яшчэ на адну пляшку.

– Йоп... ты хаця б уяўляеш – што такое сучасны верталётаносьбіт? – у голасе вертухальшчыка гучыць абурэнне. – Падчас шторму ўсе машыны знаходзяцца пад палубай, у ангарах.

– А як іх адтуль дастаюць?

– Як дастаюць... маюцца адмысловыя пад'ёмнікі... Э-х... у мяне такое адчуванне, што трэба яшчэ адзін бутэльмент. Без яго цяжка будзе ўсё растлумачыць.

На кухні стрымана лаюцца, пасля чаго, яшчэ больш стрымана, ляпаюць уваходныя дзверы і ў пакой зазірае сябар Алехна.

– Заходзь, я не сплю!

Сябар няпэўнай хадой уваходзіць, з вохканнем кладзецца на ложак.

– Што, чарговы заход?

– Чарговы... Сам камандзір верталёта пайшоў на віраж.

– А Аўтух дзе?

– Спіць за сталом, – тлумачыць сябар і трасе чупрынай, – ну, што ты пра ўсё гэта думаеш?

– Пра атамны спадарожнік? Нічога не думаю, галава іншым занята. Пра Інфлянцкую вайну разважаю.

– Пра што?!

Я махаю рукой, маўляў, няма ахвоты штосьці тлумачыць.

– Калі што і звалілася, дык, дзякуй Богу, не на нас. А то ўяўляеш – грымнуўся б той спадарожнік у Дзвіну?! – сябар закідвае рукі за патыліцу, з п'янаватай усмешкай глядзіць на столь.

– У якую яшчэ Дзвіну... яна і так засёртая, – няўцямна мармычу ў адказ, і сябрук, прыўзняўшыся на локці, зганяе з твару блазенскую ўсмешку.

– Не сцы, Вінцік, нічога яны табе не зробяць.

Сябруковы словы хаця і не адразу, але дапалі да свядомасці. На мінулым тыдні да мяне ў вагончык убіліся двое ў цывільным і адзін у міліцэйскай форме. Паведамілі, што даўно за мною сочаць і што я, як антысавецкі і нацыяналістычны элемент, мушу неадкладна выехаць на месца сталай прапіскі. Так што калі ліцвінаў маскавіты высялялі на ўсход, дык мне прапануюць ехаць у адваротным накірунку.

– Зробяць – не зробяць, але з Поўначы могуць паперці, – адгукаюся пасля кароткага роздуму.

– Такой бяды... паедзеш дахаты, уладкуешся на працу...

– Лёгка сказаць: уладкуешся. Калі мне тут няма месца, дык хто мяне дома возьме?

– Не драматызуй сітуацыю. Пакуль што ніхто цябе з зямной кулі спіхваць не збіраецца, – голас сябрукоў пасур'ёзнеў і злёгку ацверазеў. – Адно толькі скажу: калі на наступны дзень па прыездзе пацягнуць на "прафілактыку" – ведай: за табой цікуюць суседзі.

– Вось жа дзіўна... больш года сяджу на Крайняй Поўначы, не лістуюся,

ні з кім асабліва не кантактую, дахаты не тэлефаную і ўяўляю небяспеку для савецкай улады...

– Ды нічога ты, Вінцік, не ўяўляеш. Калі савецкая ўлада і скапыціцца, дык гэта дзякуючы савецкім генералам. Я летась на вайсковых зборах быў, і там нам, па страшным сакрэце, паведамілі – колькі ва Узброеных сілах налічваецца танкаў. Астранамічная лічба! А ўрэшце, што ты хацеў? – сябар узбівае падушку, пацірае, збіраючыся з думкамі, лабаціну. – Савецкай улады не любіш? Не любіш. Камуністаў не паважаеш? Не паважаеш. З ідэяй незалежнасці носішся? Носішся. Таму й патрапіў пад нагляд. Наглядчыкаў таксама можна зразумець: заробкі і спецпайкі атрымліваюць, з жонкамі ды каханкамі ў Крыме адпачываюць... мусяць жа і нейкую працу рабіць. А як будзеш рабіць, калі няма каго ў распрацоўку запускаць? Вось з Полацка сюды і патэфанавалі. – Пасля такога спічу сябар рашчапервае пальцы: – Нас жа, “незалежнікаў”, лічаныя адзінкі. Называю па літарах: А – Арлоў; Бэ – Бяляцкі; Вэ – Вячорка; Гэ – Глобус; Дэ – Дубавец; Е – Ермаловіч, Жэ – Ірэна Жарнасек...

“Незалежніка” на літару “З” сябрук назваць не паспеў, бо рыпнулі дзверы і Алехна ўсхапіўся на ногі. Яшчэ праз імгненне штосьці грукнула на кухні – пада мною нават здрыгануўся ложак, – я таксама усхапіўся, але тут жа лёг, бо пачуў здушанае крахтанне і кароткія мацюкі – гэта Міша з Алехнам валаклі ў суседні пакой Аўтуха, які зваліўся на падлогу.

...Паволі, ціхенька стаў наплываць сон і ўадначас, адагнаўшы на міг дрымоту, узнікла жаданне вырвацца з гэтага мышастага прыцемку, з гэтага паганага блашчычніку, з гэтага задушнага чаду, які апавіў маё жыццё. І я ўбачыў сябе самога – скурчанага, зацкаванага, шкадобы вартага, які спалохана лыпаў вачыма пасля кожнага зычнага ляманту на кухні. Было такое адчуванне, што душа вылецела з-пад сэрца і цяпер глядзела аднекуль збоку на пакінутае цела. І ўжо на самой мяжы – там, дзе сканчваецца ява і пачынаецца сон, – прыгадаў загнаных у маскоўскую няволю палачанаў, і падумаў – як ім там было моташна і, галоўнае, сорамна жыць. І яшчэ ўявіў сябе апошнім ліцвінам, і душа мая некуды паляцела, я нават пачуў свіст у вушах, потым пачала некуды правальвацца, і я размежыў павекі. Перад вачыма паўстала мутнае шкло, за якім – то ўздымаючыся, то злёгку падаючы долу, – разнасцежыўся заліты ружавізною абшар.

Штурвал цяжка трымаць. Машыну прыкметна матляе, і нос верталёта ўвесь час зарываецца долу. Гуд рухавіка, і без таго натужлівы, бярэ іншы тон – ужо зусім надрыўны. Там, на доле, матляецца тармазны парашут, па край напоўнены пяском. Сонца недзе ззаду, і перад носам верталёта бяжыць і ніяк не можа адарвацца ад пагоні ўвішны цень. Цень бяжыць па кустах, па свежай раллі і нечакана, крыху аддаліўшыся, распластана слізгае па люстры вялікай ракі.

– Меконг, – шапочуць вусны, і я дзіўлюся, што берагі лаоскай ракі зараслі не пальмамі і бамбукам, а звычайным алешнікам.

На сярэдзіне ракі машыну кідае ў бакі, я да белаты ў пальцах сціскаю штурвал і заўважаю, што яго, штурвал, трымаюць чужыя рукі: цяжкія, да чарноцця загарэлыя, з наколкай “Мурманск” на правай цэўцы. У кабіне агідна пахне ёдам; міжволі цягнуся да аптэчкі – спраўдзіць, ці не пабілася якая пляшачка, – верталёт рэзка нахіляецца, і я аберуч, чужымі рукамі, хапаюся за штурвал. На даляглядзе, за шчытнай палоскай лесу, уздымаецца ўгору белая аблачына. Неадрыўна гляджу на яе – дзесьці там грымнуў

долу спадарожнік, – і заўважаю купку людзей і каня пасярод узаранага поля. "Дома ўжо бульбу садзяць", – гучаць у вушах Аўтуховы словы. Людзі глядзяць з-пад рукі на верталёт, а нейкі падшыванец бяжыць па разоры, махаючы мне рукою. Скідваю хуткасць, і нос верталёта падаецца ўгору. Што яны тут робяць? Няўжо яны не ведаюць, што вунь там, за тым ляском, разбіўся атамны спадарожнік?! Наперадзе яшчэ адна рака. Двое малых ідуць з вудамі да берагу і таксама махаюць мне рукамі. Верталёт караценька падае, потым уздымаецца, завальваецца на левы борт.

– Бяжыце адсюль! Не падыходзьце да ракі! – крычу, адчыніўшы люфцік, і прачынаюся.

З кухні далятае бразганне лыжак у шклянках і прагнае, са стогнам і незласлівымі мацюкамі, пасёрбванне.

"Які дзіўны сон!" – думаю, мружачыся на гадзіннік, які апошнім часам не здымаю з рукі. Звычайна сны адразу ж забываюцца, а гэты яскрава адбіўся ў памяці. І не толькі сон, але адчуванне, якое ён спарадзіў: нейкай няўцямнай трывогі. Тое, што я кіраваў у сне верталётам – рэч зразумелая. Цэлы вечар балбаталі пра тыя вертухалы. Але адкуль узяліся чужыя рукі – вось загадка. У мяне і раней было такое адчуванне, што душа ў сне ўбіваецца ў нечае цела. Я нават хацеў распавесці пра гэта сябру, ды той відавочна пакруціць пальцам ля скроні. І ўсё ж цікава: чые гэта рукі трымалі штурвал? Можа, мне прысніўся сам Міша? Але ж у яго няма на руках наколак. А можа, гэта быў ягоны сябар, што жыве пад Кіевам? Вечарам абавязкова распытаю вертухальшчыка – ці ёсць у ягонага сябра-палешука наколка на правай руцэ. Адчайдушна пацягваюся і згадваю, што Мішы ўжо не пабачу, бо ўвечары буду штурмаваць цюменскую авіякасу. А яшчэ праз два дні буду ў Полацку. І са шчаслівым, з дзяцінства знаёмым пачуццём, калі можна яшчэ хвіліну паваляцца ў ложку, пазяхаю і нацягваю коўдру да падбароддзя.

Леанід Дранько-Майсюк



...ёсць француз
у той velcom'кі...

# Вершы для Хомкі

***З новай кнігі***

### *ХОМКА І ТРАВА*

Як салодкую халву,
Хомка нюхае траву.
А як знойдзе што ў траве, –
Гаўкне, глянуць пазаве.

Тое што, ды так – нішто,
Проста глупства – тое што...
І збянтэжыцца Хама,
Што загаўкаў ён дарма.

Лапай вуха пашкрабе,
Скоса зіркне на цябе,
Зноў панюхае траву,
Як салодкую халву.

### ХОМКА І ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Дні свае, дні нараджэнняў,
Чалавечыя стварэнні,
Дачакаўшыся, святкуюць –
П’юць, пяюць і лямантуюць.

І на звычку на такую
Хомка толькі падзівіўся:
“Я ніколі не святкую
Дзень, калі я нарадзіўся!

Дата там, а ці не дата,
Дзень прыйшоў – прыйшло і свята...
Доля светлая мая –
Кожны дзень святкую я!”

### ХОМКА-МАСТАК

У сваім любімым скверы
Хомка зранку на пленэры.

Лісце падае – о, Божа! –
Далікатна і прыгожа.
А на сонцы больш агнісцей
Выяўляе фарбы лісце.

Кветкі познія і зёлкі
Маюць колеры вясёлкі...

А Хама наш талент мае –
За мальбертам і з палітрай,
З духам паляўніча-хітрым
Шчыра восень вывучае...

Многа на зямлі сабак,
А Хама адзін мастак!

### ХОМКА І ПЯСОК

Не зуб у Хомкі на пясок,
А так – маленечкі зубок:
“Не трэба, каб ляжаў пясок!”

Таму Хама пясок знарок
Назад адкідвае і ўбок.

Без пылу, бо яшчэ не ссох,
Ва ўсе бакі ляціць пясок.

Драбінкі гэнага пяску
У Свіслач падаюць раку,
На бераг, вёслы і чаўны,
І мне, на новыя штаны.

### *ХОМКА І НЮХ*

Што айфоны?! Што айпэды?!
Інтэрнэтная дрыгва...
Хомка здабывае веды
Нюхам...
Хомка – галава!

Ён адкрыў закон: адвеку
Недарэку мучыў дух;
Шчаслівела недарэку,
Калі дух мяняў на нюх!

### *ХОМКА І ДЭПЕША*

Атрымаў Хама дэпешу:
“Калі ёсць машына ў Вас,
То ці ходзіце Вы пешшу?
Дайце хуткі нам адказ!”

Адказаў Хама чын чынам:
“Не патрэбна мне машына!
Пешшу скрозь я – тут і там,
І таго жадаю й Вам!”

### *ХОМКА І НЯЎДАЛАЯ ЎДАЧА*

Неяк Хомка наш лайдачыў,
Думаючы аб удачы:
“Трэба ведаць – так ці йначай, –
Што ва ўдачы ёсць няўдача,
І такая ўдача плача,
Бо няўдалая ж удача!”

### *ХОМКА І ЖАБКА*

Нахіліўшыся над жабкай,
Хомка жабку торкнуў лапкай...

Жабка – скок!
Хама – убок!
Напалохаўся, вядома,
І паджгаў хутчэй дадому,
Каб схавацца ў свой куток
З філасофіяй балючай:
“Страх малы – на ўсе вуглы!
Бо заўсёды нерваў кучу
Забірае страх малы!”

### *ХОМКА І ГАЛАВАЛОМКА*

Колькі будзе пяць і пяць?
І яшчэ па пяць дадаць?
А яшчэ ў квадрат узвесці
І прыкласці лічбу дзвесце?! –

Над такой галаваломкай
Па дарозе ў парк Купалы
Думае заўсёды Хомка –
Матэматык наш удалы:

“От задача дык задача!
Каб рашыць яе практычна,
Трэба скончыць мне, няйначай,
Факультэт матэматычны!”

### *ХОМКА І ТАСЁМКА*

На дарожцы, бачыць Хомка,
Нечая ляжыць тасёмка.
Стаў у роздуме Хама:
“Дык чыя ж ляжыць тасьма?”

І калі яе абнюхаў,
Вуха лапаю пачухаў:
“Згублена тасьма, магчыма,
Незнаёмаю жанчынай?!”

Тут ускінуў Хомка вочы,
Бачыць: спераду прасвет,
А ў прасвеце тым – жаночы
Элегантны сілуэт!

І дагнаўшы незнаёмку,
У зубах падаў тасёмку...

“За тасёмку дзякуй, Хомка!” –
Так сказала незнаёмка.

### *ХОМКА І САЛОМКА*

На Хаму не стог саломы,
А саломінка-саломка
Зверху ўпала і, вядома,
Не спалохаўся наш Хомка.

Што палохацца саломку,
Калі гэтая саломка
Мякка ўпала так на Хомку,
Што і не заўважыў Хомка!

### *ХОМКА І КУЧОМКА*

Вецер дзедаву кучомку
Нёс і кінуў перад Хомкам.
Гэта захапіла Хомку, –
Стаў гуляцца ён з кучомкай!

І гуляўся да абеду,
А тады набок: маўляў,
Забірай кучомку, дзеду,
Я ўжо з ёю адгуляў!

Але дзед, глухі нібыта,
Не пачуў ніякіх слоў...
Дзед Кузьма, а ці Мікіта
Па кучомку не прыйшоў.

Гэта засмуціла Хомку
І, як той інтэлігент,
Ён у зубы ўзяў кучомку
І занёс у second-hand.

### *ХОМКА КЛАПАТЛІВЫ*

Клапатлівы Хомка ў меру
І ўсё робіць па чарзе...
Ён плаціў бы за кватэру
Раз у месяц, як і ўсе!

Ранкам, вечарам – на шпацыр!
Спіць удзень, як дэпутат!

Вольгу з працы дачакацца
Хомка асабліва рад!

Васіля з пяшчотай яснай,
Як вяртаецца з Масквы,
Ён абліжа палка, страсна
З ног да самай галавы!

І як той жыхар тутэйшы,
Хітра хвосцікам вільне:
“Ну, а зараз, Лёня, вершык
Зноў прыдумай для мяне!”

### ХОМКА І СЛОН

Глянуў Хомка: гэта ён?!
Прыглядзеўся: праўда, слон!
Сэрца ў Хомкі: ёк-ёк-ёк...
З цырка слон вялізны ўцёк!

Важыць тоны ён чатыры...
І ў тралейбус раптам сеў!
Паўцякалі пасажыры,
Страхам гнаныя, усе!

І тралейбуснік-вадзіла
Драла даў пад дзікі гам...
Крыкнуў Хомка: “Ну, і дзіва!..” –
Бо тралейбус рушыў сам!

І сказаў Хама пра гэта:
“Я, сябры, на тым стаю,
Што паехаў без білета
Слон у Афрыку сваю!”

### ХОМКА І ХЛОПЧЫК

Нейкі хлопчык у раку
Часта апускаў руку.

Ён хацеў усю раку
У адну схаваць руку!

Не хавалася рака,
Бо малой была рука!

Хомка глянуў на раку
І прамовіў хлапчуку:

“Лапай у тваю руку
Зараз паганю раку!
Аж прыгнецца асака!
Пырскі – аж на ўсе кусты!
І схаваецца рака,
Бо заплюшчыш вочы ты!”

### ***ХОМКА Ў БАНКУ***

Хомка ж у ашчадным банку
Перастойваў дождж уранку.
Што рабіць Хаме было?
Аж да вечара ліло!

Людзі ж у вялікай зале
Грошы клалі, забіралі...
А Хаме?
Ну, што Хаме –
Грошы тыя не наўме!

Змарнаваўся дзень цалюткі,
Добра, што ліло не суткі...
Надта моташна адранку
Перастойваць дождж у банку!

### ***ХОМКА І МУХА***

Нечакана Хомку ў вуха
З бзыкам заляцела муха!
Хомка (я хлусіць не буду)
Ажно скокнуў з перапуду!

І над жоўтаю ліствою,
Заматляўшы галавою, –
З усяго, як кажуць, духу
Выгнаў з вуха тую муху!

А пасля цвяроза, суха,
Лапай чухаючы вуха,
Ён падумаў: “У-у, якая,
Муха позняя і злая!..”

### ***ХОМКА І МАЛЕНЬКІ ДУРАНЬ***

Ясь ваду наліў у скрыпку
І пусціў у скрыпку рыбку.

Так акварыумам скрыпка
Стала, бо жыве ў ёй рыбка...

Але здохла тая рыбка,
Ад вады збабоўкла скрыпка,
І сумуе Ясь па рыбцы
Гэтак жа, як і па скрыпцы.

У Хамы душа зайшлася:
“Дурань ты, маленькі Ясю,
У раку пусціў бы рыбку
І ў музей аддаў бы скрыпку!”

## *ХОМКА І VELCOM’КА*

“Хомка, гэта што за дом
З яркай шыльдаю Velcom?”
І Хама, кліент Velcom’а,
Так сказаў пра сутнасць дома:

“Аператар мой Velcom
Засяліўся ў гэты дом;
Тыя людзі ў гэтым доме,
Што працуюць у Velcom’е!”

“А яшчэ, – успомніў Хомка, –
І такая навіна:
Там жыве адна velcom’ка...
Ну, француржанка адна...

Ёсць француз у той velcom’кі,
У француржанкі тае,
І я рады за яе!” –
Вочы бліснулі... у Хомкі.

## *ХОМКА ВОПЫТНЫ*

Хомка наш пражыў даволі
І сказаць ён можа вам:
“Не сумую я ніколі,
Сумна толькі шчанюкам!”

проза

Андрэй Стэфановіч



...ці можна інтэрпрэтаваць мора
як метафару вар'яцтва...

# Нататкі пра Эрнэста Саву, вандроўніка і вар'ята

...А ты выйдзеш да берага мора і акунешся ў моры,
і пасля, каб не будаваць сабе хаціну,
паселішся ў зацемненай і вільготнай пячоры,
і будзеш па раніцах казаць сонцу: "Свяці, ну!"

І тады яно ўзыдзе на гэтым ускрайку зямлі.
І памяць будзе твой дом.
І ўспаміны будуць твае караблі.

*Э. Сава [фрагмент], пераклад А. Стэфановіча*

***

Эрнэст Сава быў таямніцай нашай сям'і. Не – ён быў таямніцай, якая ў нашай сям'і памерла. Не так ужо і шмат гадоў мінула з дня яго смерці, а ўзнавіць хоць які эпізод яго жыцця падаецца справай немагчымай. Але гэты чалавек наўрад ці думаў пра тое, што аднойчы камусьці захочацца ўзнаўляць яго гісторыю. Ён проста вандраваў

па жыцці, нідзе асабліва не спыняючыся і нічога асабліва не беручы да ўвагі. Адзінае падарожжа, якое напраўду чапляла яго і пакідала нейкія ўражанні, – гэта падарожжа па сваім унутраным свеце, а адзіны ландшафт, які трапляў у поле яго зроку, – гэта ландшафт уласнае душы.

***

Вершы Эрнэста Савы, напісаныя па-французску, аказаліся ў маіх руках у трынаццаць гадоў, незадоўга да смерці майго бацькі, якому на той момант было пяцьдзясят чатыры. Але зацікавіўся я імі гадоў пяць таму, калі перад ад'ездам у Лондан пачаў разбіраць старыя паперы і натрапіў на тое, што засталося ад архіва даўняга сябра майго дзеда. Спачатку я падумаў, што яго вершы – гэта дзіўныя фантазіі беларускага габрэя, які выбраўся з Савецкага Саюза жывым і, перш чым сустрэцца з Элагімам Аданаі, паспеў некаторы час пражыць на гістарычнай радзіме. Але бабуля сказала, што Эрнэст Сава габрэем не быў – яна дакладна памятае ўсе рэдкія згадкі дзеда пра дзяцінства і сяброў юнацтва. Магчыма, яе падвяла памяць. Але магчымасць гэтая здаецца мне занадта мізэрнай для таго, каб надаваць ёй значэнне, бо ў нашай сям'і памяць – гэта адзіная каштоўнасць, якую цягам дваццатага стагоддзя мы не страцілі. Гэтая вера ў памяць, нашая непахісная ўпэўненасць у тым, што ўсе падзеі, якія зачапілі нас і паўплывалі на наш лёс, ніколі не страчваюць свайго значэння, і змусіла мяне, відаць, узяць рэшткі архіву з сабой і не адну ноч праседзець над пылам, тлом, над прывідам таго, што ніколі і нікім не будзе вернутае да жыцця. Гэтая ж вера прымусіла майго дзеда да апошняга захоўваць нікчэмныя дакументы мінулае эпохі, да якое ён мог мець нейкі сантымент, – а мог і не мець і проста ўпарта трымацца меркавання, што пакуль ён жыве, усё мусіць захоўвацца, усё мусіць мець сваё месца ў рэестры.

Упэўненасць бабулі ў тым, што Эрнэст Сава быў самым сапраўдным, самым карэнным і самым этнічным беларусам, прымусілі мяне задацца яшчэ адным пытаннем: а ці бываў ён у Ізраілі, гэтым міфічным краі, які быў тады проста палесцінскай зямлёй? Відаць, таксама не бываў. Бабуля сцвярджае, што з Еўропы ён адразу выправіўся ў Канаду, нікуды па дарозе не збочваючы, але казаць тут штосьці дакладнае нельга: мы не маем ніякіх сведчанняў ні за, ні супраць гэтай версіі, апроч трывалай бабулінай памяці, якая ў сваю чаргу абапіралася на трывалую памяць дзеда. Але нават самая трывалая памяць можа злосна пакпіць з тых, хто занадта ёй даверыўся: яна надзейна ахоўвае тое, што ёй належыць, але не дае ні намёку на тое, што не трапіла ў яе сховішча.

А таму я не мог тады да канца зразумець, якому свету належыць гэты пейзаж: “У тых краях, дзе алеандраў квет, дзе соллю абсыпаюцца барханы...” Мне бачыліся пустэльні і дзівосныя азіяцкія сады, па якіх, як зачараваны, блукаў Эрнэст Сава, зануураны ў развагі пра найвышэйшую сілу, што закінула яго ў гэтую частку свету. Але калі верыць памяці, ні пустыняў, ні дзівосных садоў не было, а было толькі нуднае падарожжа праз Атлантычны акіян, халодны Квебек, а далей – канадская глуш, “пустэча ў лесе на ўзбярэжжы” (відаць, адзінае месца ў вершах Эрнэста Савы, якое хоць неяк адпавядае вонкавай рэчаіснасці). Пазней я зразумеў, што паміж лесам і пустэчай для яго не было ніякай розніцы, бо любы пейзаж ён успрымаў не больш як фон для падзеяў, якія адбываліся ў яго душы. Ён падарожнічаў па сваім унутраным свеце, а каб яму не перашкаджалі,

прыдумаў сабе вар'яцтва, за якое і схаваўся ад чужое цікаўнасці. Зрэшты, яно не перашкаджала яму займацца сваімі справамі, а калі трэба – рабіць вылазкі ў навакольны свет і на хуткую руку здабываць неабходнае для жыцця.

Я ўпэўнены, што яго ўнутраныя вандроўкі былі вельмі небяспечнымі і поўнымі сумнеўных авантураў. Не магу толькі зразумець, які свет быў для яго больш варожы, якія гарады і "іншыя ўскраіны" ён называў чужымі і якія "прымроеныя" завулкі скрыўляліся для яго ў "здзеклівай пасткі ашчэр". Хутчэй за ўсё, менавіта ўнутраны свет са сваімі ўнутранымі завулкамі, ускраінамі і гарадамі. Бо бабуля не памятае пра хоць які сур'ёзны канфлікт Эрнэста Савы са светам навакольным. Яна сцвярджае, што ёй заўсёды здавалася, нібыта гэты чалавек падладзіў пад сябе сусвет так, каб не мець з ім ніякага клопату. Безумоўна, ён, як і іншыя, перажыў голад і некалькі войнаў, але нічога такога ні ў яго вершах, ні ў іншых запісах не згадваецца. Цалкам магчыма, што ён іх проста не заўважыў альбо дамовіўся з кімсьці наверсе, што ўся гэтая валтузня абыдзецца без яго ўдзелу. Так яно і атрымалася.

***

Мой дзед нарадзіўся ў 1900 годзе, а значыць, быў на тры гады маладзейшы за Эрнэста Саву. Ужо ніколі не атрымаецца дазнацца, што звязвала гэтых двух юнакоў, наколькі моцным было іх сяброўства і ці існавала яно ўвогуле. Уцякаючы за мяжу, Сава пакінуў Тэадору Стэфановічу ўсю сваю бібліятэку разам з часткай беларускага архіву, якая на той момант была яшчэ не знішчаная. Большая частка нататак тых гадоў, аднак, трапіла ў агонь, і штосьці мне падказвае, што самакрытычнасць Эрнэста Савы не была тут празмернай. Бо нават тое, што засталося, а дакладней тое, што дайшло да мяне (а гэта нашмат менш за тое, што сябар аддаў перад ад'ездам майму дзеду), не пакідае ніякіх ілюзіяў наконт таленту гэтага маладога тады чалавека.

Тэадор Стэфановіч тым не менш сумленна перачытаў увесь архіў Эрнэста Савы і амаль усю яго бібліятэку. Бібліятэка была вялікая, вольнага часу ў дзеда было мала, таму справа рухалася павольна. А потым пачалася вайна, і кнігі загінулі. Бабуля трымалася меркавання, што Эрнэст Сава зрабіўся вар'ятам, бо прачытаў усе свае кнігі занадта хутка, і, нягледзячы на яго цудоўную здольнасць асэнсаваць многія тысячы старонак, механізм, які адказваў за сувязь з навакольным светам, ад перанапружання пашкодзіўся і пачаў працаваць з перабоямі. Дзед жа такой здольнасці не меў, ды і не збіраўся прыспешваць час, а таму расцягнуў кнігазбор на доўгія гады так, каб змест кожнай кнігі добра адклаўся ў памяці. Ён цытаваў на памяць цэлыя паэмы, але адмаўляўся прачытаць уголас хаця б адзін з вершаў свайго сябра, як яго бабуля ні прасіла.

***

Цень паразы лунае амаль над кожным вершам Эрнэста Савы. Ён у любы момант гатовы да таго, што жыццё пераможа яго. Асабліва моцна гэтая тэма гучыць у вершы "Паданне" і – яшчэ мацней – у "Відзежы, што папярэджвае". Цікава, што ў сшытку другі ідзе раней за першы. Я спадзяюся, што гэта добры знак. Што чым бліжэй да канца, тым больш Эрнэст Сава адыходзіць ад думкі, нібыта магчымасць згубіцца "між

пластоў геалагічных" і папаўзці "з мінуўшчынай дасветнай на сустрэчу" – гэта адзіная наканаваная яму будучыня. Але чым быў для яго Сінай? Дарам бесстаронняга назірання за светам, гэтым разам навакольным светам, на які ён амаль не звяртаў увагі? Безумоўна, я не дапускаю ніякай думкі пра рэлігійны экстаз, спазнанне найвышэйшай сілы ці зліццё з ёй, бо разважаў ужо калісьці ў гэтым рэчышчы і прыйшоў да высновы, што біблейскія метафары былі для яго не больш як сімваламі самых старажытных пластоў нашае падсвядомасці. Гэтыя геалагічныя пласты цікавілі Эрнэста Саву найбольш, хаця ён і ўсведамляў небяспеку паглыблення ў іх. А магчыма, прычынай свайго асэнсаванага вар'яцтва ён лічыў тое, што ў яго падсвядомасці гэтыя пласты залягалі занадта блізка ад зямное паверхні, і не было абарончае праслойкі, якая ратавала б яго ад пачвараў чалавечага мінулага.

***

Мой бацька Ігнацы Стэфановіч нарадзіўся напярэдадні вайны, у 1940 годзе. Ён быў першым і адзіным дзіцём майго дзеда і рос у цішыні яго ўспамінаў, якую парушалі толькі доўгія і няспешныя размовы з бабуляй. Эрнэст Сава ад самага пачатку ўвайшоў у яго жыццё і зрабіўся чымсьці накшталт вечна адсутнага сваяка, чые рэчы акуратна захоўваюцца ў доме і чый пакой заўсёды гатовы прыняць падарожніка. Ігнацы Стэфановіч маляваў у сваім уяўленні загадкавага вандроўніка, які абавязкова прыедзе ў адведкі і прывязе яму, дарасламу ўжо хлопчыку, кавалачак далёкае і нязнанае краіны. Часам яму здавалася, што госць ужо прыехаў, і тады ён стараўся хадзіць па доме як мага цішэй, каб не перашкодзіць яго адпачынку і не спудзіць таго натхнення, з якім госць раскажа потым пра свае бадзянні. А часам уяўляў, што Эрнэст Сава абавязкова мусіць напісаць яму ліст. Пра тое, што ліст ужо прыйшоў, але быў адрасаваны бацьку, ён не ведаў. Зрэшты, няспраўджаныя чаканні Ігнацы Стэфановіча не бянтэжылі, бо дзіцячыя чаканні ўвогуле рэдка спраўджваюцца, і досыць хутка ён пачаў успрымаць гэтую прысутную адсутнасць Эрнэста Савы чымсьці дадзеным раз і назаўсёды. І нават калі пазней ён даведаўся, што той памёр, нічога не змянілася.

Затое ўсё змяніла смерць бацькі, якая зрабілася для Ігнацы Стэфановіча ўдарам, што надоўга перацяў дыханне і выбіў яго з павольнай плыні асэнсаванага жыцця. Калі першыя пакуты трошкі суцішыліся і ў галаве ўрэшце паяснела, ён з усёй дакладнасцю зразумеў, што ў яго застаўся толькі адзін сябар (маці ў такіх выпадках ніколі не лічыцца), і што гэты сябар – Эрнэст Сава.

***

Бабуля лічыла, што дзеда зламала зусім не вайна, хаця ён вярнуўся з яе з цяжкім раненнем, якое нагадвала пра сябе да самай смерці. Гады маўчання перацяклі пасля вайны ў гады адноснага спакою, якія ад папярэдніх адрозніваліся толькі тым, што цяпер Тэадору Стэфановічу было з кім паразмаўляць. Пераломны момант адбыўся дзесьці ў пачатку пяцідзясятых: тады да дзеда акурат даехала другая частка архіву Эрнэста Савы, неабвержна засведчыўшы яго смерць і акуратнасць паверніка, які здолеў зрабіць немагчымае. Атрымаўшы рукапісы сябра, дзед старанна іх перагледзеў, а потым надоўга пахаваў на старым хутары, які перайшоў

да яго ад сваяка (ён застанецца ў гэтай гісторыі безаблічным ценем, хаця дзякуючы яму ў пэўнай ступені далейшыя падзеі склаліся так, як склаліся), памерлага за ваенным часам.

Бабуля кажа, што дзед больш ніколі не вяртаўся да гэтых рукапісаў і нібыта забыў дарогу на гарышча, дзе яны былі надзейна схаваныя ад чужога цікаўнага вока. Прынамсі, яна не бачыла, каб ён туды падымаўся, а гэта шмат пра што сведчыць: нягледзячы на замкнёнасць Тэадора Стэфановіча, ён наўрад ці рабіў бы што-небудзь употайкі. Бабуля была надзейнай ахоўніцай яго таямніцаў, і яму ў галаву не прыйшло б хаваць ад яе такія рэчы. Ён мог штосьці недагаварыць альбо паведаміць наўпрост, што пра гэта расказваць не жадае, аднак ніколі не зрабіў бы нешта за яе спінай.

Але пасля таго, як беларуская і канадская часткі архіва Эрнэста Савы ўз'ядналіся і на доўгія гады знайшлі прытулак на хутарскім гарышчы, бабуля зразумела, што воля да жыцця дзеда пакінула. А можа, справа зусім не ў архіве, казала бабуля, а ў развітальным лісце – яна ж амаль нічога пра яго не ведала і не магла меркаваць, як ён падзейнічаў на дзеда. Што б там ні было, Тэадор Стэфановіч, як заўсёды, вонкава спакойны і ўраўнаважаны, пачаў растварацца ў навакольным асяроддзі, нібыта жадаючы выйсці са свае цялеснае абалонкі і пранікнуць у найтанчэйшую тканку свету. У пяцьдзясят пятым ад яго ўжо амаль нічога не засталося, і адным ранкам ён проста не прачнуўся.

***

Калі Эрнэст Сава ратаваўся ва ўцёках, дзед ратаваўся ва ўласных думках. Бабуля нічога не расказвала пра тое, як ён жыў у перыяд паміж ад'ездам сябра і знаёмствам з ёй. Па ўсім відаць, што ён быў вялікім маўчальнікам і аскетам, які звонку нічым не адрозніваецца ад сваіх шэрых суайчыннікаў. Увесь час, калі ён не быў на працы, ён сядзеў дома і чытаў кнігі з бібліятэкі Эрнэста Савы альбо проста думаў. Але гэта толькі мае здагадкі, і хаця я сам амаль у іх паверыў, тым не менш, з усяе моцы спрабую трымацца за думку пра тое, што насамрэч за гэты час маглі здарыцца многія рэчы, якія не трапілі ў расстаўленыя памяццю пасткі і засталіся на волі. Дакладна вядома толькі тое, што калі ён пазнаёміўся з бабуляй, яму было сорак і ён працаваў начным вартаўніком.

***

Бабуля лічыла (і, думаю, мела для гэтага нейкія падставы), што Эрнэст Сава ніколі нікога не кахаў. І ў гэтым палягае самая вялікая неадпаведнасць у гісторыі дзедавага сябра. З аднаго боку, з бабуляй цяжка не пагадзіцца. Немагчыма ўявіць, што зрабіла б каханне з такім чалавекам. З другога боку, у вершы "Нязбытны сон" наўпрост гаворыцца пра каханне, і мяне не пакідае думка пра тое, што гэта не проста вобраз ці пустое для Эрнэста Савы слова. З гэтай думкай я пражыў некалькі гадоў, пакуль аднойчы мяне не працяла новая ідэя: магчыма, бабуля ўсё ж мела рацыю, і кахання, якім яно ёсць у агульным разуменні, Эрнэст Сава ніколі не ведаў. Каханне было спосабам існавання яго душы і заўсёдным спадарожнікам ва ўнутраных вандроўках, але ён не ставіўся да яго як да нейкай патрэбы ці жадання. Гэтае каханне не трывожыць "нават цень апошняга спаткання". Думаю, каханне тут – не столькі цяга да іншага, колькі раздвоенасць аднаго чалавека, яго замкнёнасць на ўласнай душы, у якой разам з ім

існуе хтосьці яшчэ. Часам мне здаецца, што менавіта гэта магло абудзіць вар'яцтва Эрнэста Савы: у ім нібыта жыло адначасова два чалавекі. Але сон выяўляецца нязбытным, бо ўнутранай прасторы для дваіх не хапае.

***

Сёння цяжка сказаць, што захоўвалася ў архіве Эрнэста Савы за часамі майго дзеда. Відавочна, там быў як найменш адзін сшытак вершаў на французскай мове, ад якога засталося ўсяго некалькі аркушаў: апошнія шэсць радкоў нейкага досыць расхістанага твора (магчыма, гэта быў санет, але такі санет, які амаль забыў пра сваю прыналежнасць да дакладна выпрацаванай формы) і яшчэ некалькі кароткіх вершаў. Я вырашыў перакласці гэтыя вершы, каб хоць трошкі наблізіцца да разгадкі таямніцы, якой зрабіўся для мяне Эрнэст Сава, чалавек, што амаль бясследна знік у мінулым, забраўшы з сабой ключ і да майго мінулага таксама. Рыхтуючы гэтыя пераклады да друку, я доўга думаў, у якой паслядоўнасці трэба іх змяшчаць, але не прыдумаў нічога лепшага, чым размясціць так, як запісаў іх у сваім сшытку Эрнэст Сава.

Не ведаю, ці мусілі гэтыя вершы расказваць гісторыю ўнутраных падарожжаў сябра майго дзеда, ці проста запісваліся ў адвольным парадку і былі не больш як урыўкамі яго бачанняў. Мне хочацца верыць, што нейкая сістэма ў гэтым гармідары ўсё ж была. Ён пачынаецца адкрыццём памяці як механізму вяртання, а завяршаецца "апошнім сном", які дае надзею на тое, што ў канцы гэты чалавек знайшоў калі не шчасце, дык хаця б спакой. Праўда, ад гэтага спакою "скалануўся свет", відавочна, той самы ўнутраны свет, даследаванням якога прысвечаныя астатнія вершы, што захаваліся да майго часу. А можа, гэтае скалананне і прывяло да смерці Эрнэста Савы, якая разышлася колам па вадзе і ўрэшце зачапіла майго дзеда. У такім разе Сава зразумеў, што прайграў, але яму хапіла мужнасці з годнасцю прыняць паразу і не кінуцца ў развагі пра марнасць усяго існага, а проста спакойна сачыць за руйнаваннем свайго ўнутранага свету.

***

У дзяцінстве мой бацька меў вельмі цьмяныя ўяўленні пра архіў Эрнэста Савы. Безумоўна, ён ведаў пра хутар. Пасля вайны дзед часам вазіў туды на лета сям'ю – жонку і сына. Аднойчы сям'я з усёй асцярожнасцю пераправіла туды нейкія паперы, і Ігнацы Стэфановіч здагадаўся, што паперы гэтыя неяк звязаныя з Эрнэстам Савой, а таму вельмі важныя. Доўгі час ён абыходзіў гарышча бокам, чакаючы моманту, калі можна будзе з чыстым сумленнем занурыцца ў архіў, але момант усё не надыходзіў. Ён, як пустэльнік, прызначыў сабе бестэрміновы пост і быў упэўнены, што патрэбны дзень так ці інакш надыдзе, і тады ўсё здарыцца належным чынам, як яно і мусіць быць. І калі ў канцы пяцідзясятых такі дзень напраўду настаў, Ігнацы Стэфановіч зразумеў усю няўмольнасць жыцця, з якой ён сам ніколі не здолее справіцца. Пацукі дабраліся да архіву нашмат раней за яго, і многія паперы былі незваротна папсаваныя.

Але нават гэта не пахіснула яго ўпэўненасці ў тым, што ўсё ў свеце мае свой час і сваё месца. З гэтага моманту ён узяў сабе за правіла два разы на год (часцей за ўсё гэта быў канец красавіка і сярэдзіна кастрычніка) наведвацца на хутар і правяраць умовы захоўвання папераў, якія ён ужо ведаў ледзь не на памяць. Такі абавязак, безумоўна, трохі яго звязваў,

але затое мой бацька, у адрозненне ад многіх іншых, меў неаспрэчную перавагу: яму ніколі ў жыцці не было самотна.

Перавагу гэтую Ігнацы Стэфановіч амаль не ўсведамляў. Бабуля была ўпэўненая, што ён проста не разумеў, што такое самота, і калі сустракаў гэтае слова ў кнігах ці чуў ад знаёмых, то проста прапускаў міма вушэй, справядліва мяркуючы, што кожны чалавек мае права на дзівацтва. З гэтай самай прычыны ён трымаўся са сваёй маці крыху адасоблена: яму здавалася, што калі бачыш людзей занадта часта, вакол робіцца невыносна шумна.

***

Беларуская мова была для Эрнэста Савы інструментам, які ён без шкадавання выкінуў, як толькі зразумеў, што не здольны з яго дапамогай зрабіць хоць штосьці цікавае. Ён кінуў спробы пісаць беларускія вершы яшчэ да сваіх уцёкаў за мяжу, і, наколькі мне вядома, больш ніколі да іх не вяртаўся. Я пішу гэта амаль з поўнай упэўненасцю, бо ў тых французскіх вершах, якія дайшлі да мяне, няма і ценю настальгіі, апроч настальгіі па ўнутраным свеце, па іншым беразе рэальнасці, куды ўсе мы трапляем толькі ў сне ці ў вар'яцтве, а з той прычыны, што Эрнэст Сава вар'ятам быў, ён ведаў пра тую рэальнасць трошкі больш, чым мы – тыя, каго сучасная медыцына залічвае да псіхічна здаровых. Не ведаю, ці вяртаўся ён у Беларусь ва ўспамінах, але ўпэўнены: пакінуўшы сваю радзіму, ён ніколі не вяртаўся туды ў сваіх вершах. Занадта абстрактныя атрымліваюцца ў яго пейзажы і занадта далёкія ад любых ландшафтаў, дзе давялося яму пабываць пры жыцці.

***

Мне здаецца, дзед прадбачыў многія наступствы прыходу савецкай улады, а таму адразу пачаў хавацца. Ён пайшоў на завод, але праз некалькі гадоў змяніў працу, уладкаваўшыся начным вартаўніком. Эрнэст Сава нікуды працаваць не пайшоў, а калі зразумеў, што яго жыццю пагражае небяспека (бабуля казала, што ў яго была добрая інтуіцыя, а ўсе пачуцці ў сувязі з душэўнай хваробай моцна абвастрыліся), то ўцёк за мяжу. Яму пашанцавала, лічыла бабуля, але гэтае шанцаванне каштавала яму дарагога. Яму заўсёды шанцавала што да нейкіх вонкавых праяваў жыцця: грамадзянская вайна яго не зачапіла, а Другая сусветная – абмінула, ён здолеў пакінуць сацыялістычную дзяржаву яшчэ на самым пачатку яе будавання і заўсёды ўмудраўся здабываць грошы, трацячы на гэта мінімум высілкаў. А іначай як патлумачыць тое, што ў Канаду ён плыў першым класам, хаця ў Еўропу выправіўся без сродкаў да існавання? Пра нудныя тыдні на моры, хай сабе і адзначаныя ўсімі выгодамі добра забяспечанага падарожжа, дзед даведаўся нашмат пазней, пасля смерці Эрнэста Савы. Разам з архівам дзеду прывезлі і развітальны ліст смяротна хворага сябра, які расказаў пра сваё жыццё за мяжой. Бабуля казала, што дзед знішчыў ліст адразу па прачытанні і больш ніколі пра яго не згадваў, пакінуўшы ў памяці ўсё напісанае. І тут хаваецца яшчэ адна пастка нашых успамінаў: калі імі ні з кім не дзяліцца, як трывала ні аберагаем мы іх ад забыцця, яны паміраюць разам з намі. Але бабуля ведала, што да гэтага ліста дзед неаднаразова звяртаўся: калі ён памёр, у яго шуфлядзе знайшлі некалькі пачатых лістоў, якія, відаць, пісаліся ў адказ на гэты, знішчаны.

***

У канцы сямідзясятых, незадоўга да майго нараджэння, бацька набыў лецішча і разабраў хутарскі дамок, які на той момант мог прыдацца хіба для распальвання печы. Архіў Эрнэста Савы пераехаў у нашую кватэру, дзе яшчэ на паўтара дзесяцігоддзі згубіўся на захламленай антрэсолі. Ніякія пацукі яму там не пагражалі, і бацька мог з чыстым сумленнем хаваць яго колькі заўгодна часу.

Безумоўна, я не мог пакінуць такую цікавую рэч па-за ўвагай. Але рукапісы выявіліся занадта неразборлівымі і малачытэльнымі, да таго ж многія паперы былі напісаныя па-французску, а я на той момант ведаў гэтую мову не настолькі добра, каб разбіраць заблытаны почырк Эрнэста Савы. Я адклаў яго запісы, думаючы заняцца імі калі-небудзь пазней, але смерць бацькі ў дзевяноста чацвертым надоўга выбіла мяне з каляіны. Ні пра якія рукапісы я тады думаць не мог і хутка пра іх забыў.

Не думаю, што смерць прыйшла да Ігнацы Стэфановіча ў час, прынамсі, не ў той час, які быў прызначаны яму жыццём. Верагодна, яна палічыла, што калі ўжо архіў Эрнэста Савы трапіў у рукі новага захавальніка, то місія бацькі на гэтым свеце скончаная і ён можа выправіцца ў наступны... Тады сваім прыходам яна абвергла спосаб бацькавага існавання і зрабіла яму яшчэ адзін, гэтым разам апошні, сюрпрыз. Але не думаю, што яна заспела бацьку знянацку. Яго адзіны сябар меў з гэтай спадарыняй нейкае таемнае пагадненне, што давала бацьку дадатковы прывілей прадчуваць і здагадвацца. Бацька такія падарункі прымаў як належныя.

Але я сцвярджаю, што жыццё прызначыла яму іншы час. Усё вельмі проста – праз два гады пасля яго смерці суседзяў зверху заліло, і вада, якая трапіла ў антрэсолі, знішчыла яшчэ траціну рукапісаў. Так смерць уратавала Ігнацы Стэфановіча ад жыцця, якое захацела адпомсціць яму за паразы, зазнаныя з боку Тэадора Стэфановіча і Эрнэста Савы. Але жыццё прайграла і тут.

***

Жаданне захаваць архіў Эрнэста Савы, магчыма, сталася для майго дзеда своеасаблівым бунтам. Не думаю, што ён быў занадта баязлівы для таго, каб бунтаваць неяк па-іншаму, больш актыўна і больш дзейсна. Ён не мог не разумець, што спадчына яго сябра ніколі не будзе лічыцца нейкай асаблівай каштоўнасцю з гістарычнага ці літаратурнага гледзішча, і ніякім чынам не збіраўся пакідаць гэтыя рукапісы для нашчадкаў, якія могуць раптам зацікавіцца нікому не вядомым вар'ятам. Гэта не быў бунт супраць таталітарнага грамадства ці супраць грамадства ўвогуле. Гэта быў бунт супраць таго самага жыцця, якое пазней зробіць Ігнацы Стэфановічу такі непрыемны сюрпрыз. Але калі мой бацька прыме жыццё з усёй яго няўмольнасцю і неапраўданай жорсткасцю, дзед паспрабуе ўсталяваць для сябе іншыя законы. Я не ведаю, ці можна лічыць смерць Тэадора Стэфановіча сведчаннем таго, што жыццё яму паддалося, ці, наадварот, знакам бессэнсоўнасці яго змагання. Сам ён, аднак (калі верыць бабулі), ніколі не ставіўся да свайго змагання як да чагосьці бессэнсоўнага. Мне здаецца, што кожная хвіліна маўчання, а пазней кожная хвіліна, праведзеная ў размове з бабуляй (а гэтыя размовы таксама можна лічыць тым маўчаннем, з якога ўсё пачалося і якое ёсць самым натуральным станам сусвету), мела вельмі істотнае для яго значэнне.

Дзед змагаўся з жыццём пры дапамозе памяці. Магчыма, архіў быў для яго тым, што гэтую памяць ажыўляе. А часам такое ажыўленне і не было патрэбным, бо хапала проста ўспаміну. Знішчыў жа ён развітальны ліст Эрнэста Савы адразу пасля прачытання. Думаю, напісанае ў лісце так добра адбілася ў яго памяці, што любыя іншыя спосабы захаваць уражанне рабіліся збыткоўнымі і нават маглі пашкодзіць чамусьці, што было для Тэадора Стэфановіча асабліва дарагім.

Зрэшты, архіў мог выконваць яшчэ адну функцыю – быць крыніцай дзедавай памяці, а дакладней, крыніцай многіх успамінаў. Дзед мусіў трымаць яго ў галаве так, як трымаў змест шматлікіх кніг з бібліятэкі Эрнэста Савы, так, нібыта самога архіва ўжо не існавала. Архіў у гэтым разе ператвараўся яшчэ і ў самы апошні і самы надзейны пласт памяці, з якога можна дастаць тое, што згубілася ў іншых. Але верагоднасць гэтага здавалася дзеду такой нязначнай, што ён закінуў архіў на гарышча, не звярнуўшы ўвагі на пагрозу пацучынага нашэсця. Гэта была яго гульня з жыццём, якому ён даў шанец перамагчы. Але ў жыцця былі іншыя планы.

***

Бабуля ведала слабыя месцы гэтага свету, але ніколі не злоўжывала сваімі ведамі. Гэта дазволіла ёй з пераменным поспехам дажыць да дзевяноста дзявятага года, пахаваўшы мужа і сына, але захаваўшы ад небыцця хаця б некаторую частку іх памяці. Яна не ішла на канфлікт з рэчаіснасцю і выпраўляла памылкі жыцця, усталёўваючы сувязі паміж рэчамі, якія іначай маглі выпасці з часу і згубіцца. Яна заўсёды ведала, што трэба рабіць, і здольнасць гэтая не падвяла яе нават тады, калі да яе пастукалася смерць. Яна ведала, што гасцей трэба прымаць, кім бы яны ні былі, а таму прыняла смерць так, што ў той не з’явілася да яе ніякіх прэтэнзіяў. На той час ёй было семдзесят сем, і яна паспела расказаць мне многае, дадаўшы ў ланцуг яшчэ адно звяно, ад надзейнасці якога цяпер залежыць уся гісторыя.

Дзед, відаць, разумеў, што ў процістаянні яму неабходны саюзнік, і ў патрэбны момант гэты саюзнік з’явіўся. Магчыма, упэўненасць майго бацькі, нібыта ўсё ў свеце мае свой час і сваё месца, вырасла менавіта адтуль: ён сам стаўся вынікам дзеяння гэтага закону. А калі закон не дзейнічаў, пачынала дзейнічаць бабуля, калі толькі не лічыць яе яго выканаўцай.

Найбольш у гэтай гісторыі цікавіць мяне пытанне, якая справа была бабулі да Эрнэста Савы. Ці любіла яна гэтага чалавека, які пакуль яшчэ не знік дарэшты ў часе толькі дзякуючы яе намаганням? Ці мела яна да яго хоць якія пачуцці і ці звярталася да яго пасля смерці Тэадора Стэфановіча? Ці чытала яна яго архіў? Ці гэта быў той цяжар, які яна зняла з дзеда, каб пасля яшчэ сорак чатыры гады несці яго самастойна? У рукапісах Эрнэста Савы адказаў на гэтыя пытанні дакладна не знойдзецца. Не знойдзецца іх і ва ўсіх яе аповедах, якія захаваліся ў маёй памяці, – а скардзіцца на гэты механізм, атрыманы ў спадчыну ад тых, хто ведаў, як з ім упраўляцца, мне не даводзіцца. Сама бабуля, пачуўшы гэтае пытанне, толькі ўсміхалася, бо адказ належаў толькі ёй, і падзяліцца ім з кімсьці ёй не хацелася.

***

Лірычны герой першага французскага ўрыўка Эрнэста Савы збягае да мора, каб пачаць там новае жыццё, але гэтыя ўцёкі ператвараюцца

ў доўгія вандроўкі наступных вершаў. Вялікая спакуса суаднесці гэтыя радкі з сапраўдным (хаця ці было яно сапраўдным? А калі і было, то што мы ведаем пра гэтую сапраўднасць, якая ёсць не больш як адасобленымі ўспамінамі, што перадаюцца праз некалькі пакаленняў памяці?) жыццём, але мне здаецца, што ўсё апісанае ў вершы пачалося нашмат раней за той момант, калі Эрнэст Сава вырашыў збегчы за мяжу і такім чынам выйграць у жыцця яшчэ паўтара дзесяцігоддзі. Але чаму ён вырашыў урэшце вярнуцца да гэтага зыходнага моманту? Каб расказаць пра свае падарожжы Тэадору Стэфановічу? У гэта паверыць я не магу, як бы мне ні хацелася.

Цікава, ці можна інтэрпрэтаваць мора як метафару вар'яцтва. Лірычны герой даходзіць да мора і акунаецца ў яго, а пасля кожны дзень угаворвае сонца свяціць, і яно ўзыходзіць над яго ўскрайкам зямлі. Гэта можа сведчыць пра тое, што лірычны герой прабраўся на іншы бераг рэальнасці і зямныя законы перасталі мець над ім уладу, але яшчэ і тое, што кожны новы дзень патрабуе ад яго максімальнага напружання. Зрэшты, два гэтыя варыянты адзін аднаму не супярэчаць. Гаворачы пра лірычнага героя, я падсвядома маю на ўвазе Эрнэста Саву, бо колькі ні спрабую надаць сваім разважанням сур'ёзнасці, апелюючы да літаратуразнаўчых тэрмінаў, усё адно разумею, што мне не цікавая інтэрпрэтацыя яго вершаў сама па сабе, мне цікавы Эрнэст Сава, і калі ад яго засталіся толькі вершы і ўспаміны, даводзіцца карыстацца імі. Тым больш, што вершы – вось яны, перада мной, на паперы, і я магу паспрабаваць прачытваць іх як дзённікі. Бо інакш мне не будзе чаго дадаць у гэтую гісторыю, і тады яна застыне ў часе, рассыпаўшыся на нікому непатрэбныя кавалкі. Бо калі памяць – яе дом, а ўспаміны – яе караблі, то гэты дом цяпер будаваць мне, і мне ж весці па гэтым моры яе флатылію.

## Вершы Эрнэста САВЫ

*З французскай мовы пераклаў Андрэй Стэфановіч*

### ЧУЖЫЯ СНЫ

У чужых гарадах і на іншых ускраінах,
дзе чужая журба і дзе морак чужы,
я падгледзеў бы сны аб сукубах і каінах,
што блукаюць пад поўняй ля самай мяжы

неіснуючых люстраў, з якіх ля апоўначы
выпаўзаюць відзежы дасветных часоў,
гэты свет безнадзейнаю скрухаю поўнячы
і сплятаючы ў вязьмы шматкі галасоў.

Ад фантомаў, нібы ад віна, ап'янелыя,
вар'яцелі б сукубы, а каіны зноў
у задворкі ішлі б, нібы смерць, спалатнелыя,
забіваць сваіх бацькаў, братоў і сыноў.

Здані гэтых забойцаў, пякельных спакуснікаў,
не давалі б спакою завулкам глухім
і да самага рання шукалі б хаўруснікаў,
каб свой страшны праклён даць у спадчыну ім.

І да самага рання ў завулках прымроеных,
што скрыўляюцца ў здзеклівай пасткі ашчэр,
у чужых гарадах і на ўскраінах стоеных
я збягаў бы ад жудасных гэтых хімер.

## НЯЗБЫТНЫ СОН

У сутарэннях прывіднае мары
я разьбаваў сусвет, ствараў нанова –
і голас твой згубіў, і ў ціхіх словах
цяпер адзін шукаю ратавання.
Дазвання зніклі вочы, цела, вусны,
змяркання жах схаваў мае ўспаміны,
і нават цень апошняга спаткання
маё каханне больш не патрывожыць.
Цяпер я не хаваю таямніц.
Жыве пустэча ў лесе на ўзбярэжжы,
нішто не сведчыць, што былая веліч
была – і да апошняга глытка
мяне згадаюць толькі тыя рэчы,
якіх кранался калісь мая рука.

## ВІДЗЕЖА, ШТО ПАПЯРЭДЖВАЕ

Мне Ён наканаваў адну дарогу,
спаслаўшы літасціва вышні знак.
Я расчытаў Яго перасцярогу,
я ведаю, калі, чаму і як.

Вось будучыня нада мной лунае,
гудзе ўвушшу Яго ўрачысты гімн,
і клічу я штоночы: Аданаі,
малю нябёсы прагна: Элагім!

Ды каб Таго, хто ведае, крануць,
не хопіць мне замоў маіх ямбічных.
І я – на дне азёрным каламуць –
згублюся між пластоў геалагічных.

## ПАДАННЕ

У рухах незнаёмага жыцця
я бачу цэлы новы свет, хаця
ён невідочны і не варты разглядання.
І, дачакаўшыся амаль зліцця
са зданямі свайго іншабыцця,
раблюся я вандроўнікам з падання.

І вымываецца з маіх святынь
празрыстасць, быццам ранішняя стынь,
няўмольным і нябачным Арыманам.
І горычы Майсеевых пустынь
ужо за сорак. І не спыніш плынь,
каб ратавальным выпала падманам.

А што было ў паданні тым далей?
Кажу сабе: наступны крок здалей,
а там Сінай пабачыш ці пустэчу,
на конях паімчыш да вечных меж
ці па каменні вострым папаўзеш
з мінуўшчынай дасветнай на сустрэчу.

## АПОШНІ СОН

У тых краях, дзе алеандраў квет,
дзе соллю абсыпаюцца барханы,
дзе свет у невымоўнасць закаханы,
адкрыў мне Бог Найноўшы Запавет.

Як голы без каранаў, тораў, вед,
я паўстаю і, ведай апантаны,
гляджу: расталі ўсе фата-марганы.
І знік мой боль. І скалануўся свет.

Алесь Усеня



...Бог
ёсць
любоў...

# Грэх*

***Раман. Кніга другая***

**Часопісны варыянт.*

*Працяг. Пачатак у №№ 63-64; № 68.*

**Цнатлівіца Тэкля**

Рым і ягоныя ўскраіны звычайна абуджаліся на самым досвітку. І гэтаму быў чыста практычны вытлумак: каганцы ці свяцільні хоць і мелі прыгожыя абрысы (а часцей за ўсё дык і з вытанчаным арнаментам), аднак давалі больш сажы, куродыму і чаду, чым святла. Таму не дзіўна, што дзённым святлом даражылі.

Гэткая ж завядзёнка – падымацца яшчэ да ўзыходу сонца – існавала і ў доме Сафіі. І хоць сёння была нядзеля – дзень, які хрысціяне прысвячалі Богу, маліліся, чыталі Евангеллі і увогуле свяшчэнныя тэксты, а гаспадарчыя справы адкладвалі на потым, дзяканіса і ейныя дзеткі з самае раніцы, так бы мовіць, былі на нагах.

Ужо ў полудзень, калі дзяўчынкі ўдосталь назабаўляліся сваімі няхітрымі гульнямі, Любачка падступілася да Сафіі са звыклаю просьбаю:

– Мамачка, а раскажы нам пра Тэклю...

Гісторыю-прытчу пра гэтую пакутніцу з вуснаў маці дзеці чулі ўжо не аднойчы, ведалі яе назубок, але кожны раз Сафія пераказвала яе трохі інакш, другімі словамі, да таго ж апавядальніцай яна была адмысловаю, таму дзяўчынкі ўсё адно слухалі прытчу быццам нанова і ўспрымалі яе кожная па-свойму: Любачка – зачаравана, як казку, Надзейка – уважліва, Верачка – удумліва. Часам яны перабівалі маці нечаканымі пытаннямі, бо з кожным разам ім адкрываўся новы сэнс, і Сафія цярпліва тлумачыла дзецям, чаму пакутніца Тэкля зрабіла так, а не інакш.

– Ну, добра, раскажу, – пагадзілася Сафія, і дзеткі ўселіся вакол яе, а Любачка ўвогуле паклала галоўку на маміны калені. І Сафія ціхім, мілагучным голасам распачала свой аповед:

– Апосталы Павел і Варнава, даносячы да людзей словы святога Евангелля пра Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста, прыйшлі ў Іконію, і пасяліліся яны ў дабрачыннага Анісіфора. Часта наведвалі апосталы сінагогу, прапаведавалі там Слова Божае, настаўлялі на шлях правільны, схілялі да веры ў Ісуса Хрыста. І многія тады, слухаючы іх, бачачы знакі і цуды, якія тварылі апосталы, паверылі ў Госпада нашага... І на той час жыла ў Іконіі васямнаццацігадовая дзяўчына, а звалі яе Тэкляй. Прыгажосці яна была незвычайнай, а з роду славутага. Заручаная была Тэкля з юнаком Фамірам, таксама са знанага роду, да таго ж яшчэ і багатага...

– А гэты Фамір прыгожым быў? – падала голас Любачка, якая, дарэчы, часцей за ўсіх задавала маме пытанні, чым выклікала лёгкую незадаволенасць старэйшых сястрычак, бо звычайна перабівала аповед на самым цікавым.

– А як жа, вельмі прыгожым. Але ж галоўнае – не знешняя прыгажосць, а хараство духоўнае. Ну дык вось... Тэкля разам з іншымі слухала пропаведзі апосталаў у доме Анісіфора, і паверыла яна ў Сына Божага, і палюбіла Яго ўсёй душою. Павел жа, якому быў дадзены знак нябёсаў, стаў гаварыць Тэклі аб цнатлівасці. Ён даводзіў, што дзяўчына, якая захоўвае сваю нявіннасць дзеля Хрыста, падобная на анёла, яна – нявеста Хрысту, а Хрыстос – ейны Жаніх, які ўводзіць сваю абранніцу ў палац нябесны. Часта размаўляў з Тэкляю Павел і пераканаў яе захоўваць цноту. Так што дзяўчына цвёрда вырашыла пакінуць свайго зямнога жаніха, забыць пра ўсе вабноты свету і служыць Хрысту да скону ў чысціні сваёй. Тэкля была так узрушаная размовамі з апосталам, што тры дні і начы нічога не піла і не ела, забыўшы пра дабрадаць цялесную. Акурат як некалі Марыя, якая “села каля ног Ісуса”[1], бо сказана ў Свяшчэнным Пісанні: “Не хлебам адзіным будзе жыць чалавек, але ўсялякім словам, якое зыходзіць з вуснаў Бога”[2].

Не дзіўна, што нават Любачка не распытвала, хто такая Марыя, бо Евангеллі дзяўчынкі вывучылі на памяць.

– ...Калі ж маці Тэклі, Фяоклія, даведалася, што дачка яе паверыла ў Хрыста і старанна слухае слова Божае, дык прыйшла і забрала яе, а апосталаў гнеўна аблаяла. Потым падалася да жаніха Фаміра і сказала яму: “Што ж ты на нявесту сваю не зважаеш, калі яна знаходзіцца ў такой ашалеласці? Глядзі: яна спакусілася пропаведзямі гэтых прыхадняў-аблудаў, якія сваімі напышлівымі прамовамі захапляюць неразумных людзей. Вось ужо тры дні, як Тэкля не адыходзіць ад іх, нават пра дом свой не згадваючы”. Сустрэўся Фамір з Тэкляю і стаў ласкава яе ўгаворваць, каб адумалася. А

[1] Евангелле ад Лукі, 10:39

[2] Евангелле ад Мацвея, 4:4

дзяўчына яго і слухаць не хацела, бо ў сэрцы ўжо насіла імя іншага Жаніха, у думках гутарыла з Ім. Фамір, зразумеўшы, што Тэкля яго не кахае, вельмі засмуціўся, а Фяоклія ў гневе стала біць сваю дачку, цягала яе за валасы і таптала нагамі. Потым зачыніла ў цёмнай каморы і стала марыць голадам. Зрэшты, Фяоклія ўсё ж любіла Тэклю, бо гэта была дачка яе. Таму праз нейкі час сэрца маці не вытрымала, абняла яна Тэклю, стала цалаваць, са слязамі ўгаворваць, каб дзяўчына не адвяргала свайго жаніха – прыгожага, багатага, высакароднага. Затым і Фаміра прывяла, пасадзіла яго за стол побач з Тэкляю. А яна, адвярнуўшыся ад жаніха, сядзела моўчкі, глядзела ўніз, нічога не ела і толькі ў душы згадвала Жаніха свайго нябеснага. Калі ж Фамір, пестуючы яе, хацеў сілком абняць і пацалаваць, Тэкля плюнула яму ў вочы і вырвалася з ягоных рук, як птушка з клеткі. Тады Фяоклія зноўку разгневалася, і зноўку стала біць дачку...

– І чаму тая Фяоклія была такая злая? – задумліва мовіла Любачка, нават не пытаючыся, а разважаючы. – Чаму яна не хацела, каб Тэкля стала не зямною нявестаю, а нябеснаю? Таму што сама не верыла ў Хрыста. Але ж усё адно навошта біць родную дачушку? Вось жа ты, мамачка, ніколі на нас руку не падняла...

Сафія ўсміхнулася:

– Дык вы ж у мяне харошыя, паслухмяныя. І я буду толькі радая, калі вы захочаце стаць нявестамі Хрыстовымі...

– Любачка, не дакучай сваімі пытаннямі, – сур'ёзна мовіла Вера. – Ты імі толькі збіваеш маму з аповеду.

– Навошта ты так, Верачка? – папракнула Сафія старэйшую дачку. – Яна ж яшчэ маленькая, не ўсё разумее. Дык і няхай пытаецца...

– Я не маленькая! – пакрыўджана надзьмула вусны Любачка і, падобна, намерылася даказаць гэта, больш нічога не распытваючы, прынамсі, надалей яна слухала моўчкі.

– Ну, вядома ж, ты не маленькая, а проста меншанькая. І цікаўная, – Сафія пяшчотна пагладзіла Любачку па каштанавых кучаравінках. – Ну дык слухайце далей... Вельмі засмучаны, пайшоў Фамір да мясцовага валадара. "У нашым горадзе, – сказаў ён вяльможы, – з'явіўся адзін прыхадзень. Сваім чараўніцтвам ён спакушае народ і, зняверваючы людзей у нашых багах, заклікае пакланяцца нейкаму Ісусу Хрысту, укрыжаванаму іудзеямі. Ён спакусіў і нявесту маю, Тэклю. Спачатку яна моцна кахала мяне, а цяпер не толькі не хоча глядзець у мой бок, але і цураецца мяне як пракажонага, уцякае ад мяне, нібы ад якога-небудзь звера. І не магу я зразумець, што гэты чараўнік зрабіў з ёю". Валадар паклікаў Паўла і спытаўся ў яго, адкуль ён і што такое дзіўнае зрабіў у іхнім горадзе. А Павел, як і звычайна, стаў і валадара вучыць слову Божаму, распавядаць пра Ісуса Хрыста. Валадар суд над Паўлам адклаў да іншага часу, а пакуль што загадаў звязаць апостала і кінуць у цямніцу. Тэкля ж, даведаўшыся, што з-за яе Павел трапіў у няволю, ноччу таемна прыйшла да цямніцы, зняла з сябе ўсе залатыя рэчы і аддала іх вартавому, каб той прапусціў яе да Паўла. Вартавы спакусіўся на ўпрыгожанні і пусціў Тэклю да святога Паўла. Упала яна і з радаснымі слязамі расцалавала аковы вязня Хрыстовага. Спярша Павел, убачыўшы яе, жахнуўся, але потым, калі даведаўся, як яна пацярпела ад маці і жаніха за сваю цноту, узрадаваўся і пацалаваў яе ў галаву, блаславіляючы і ўсхваляючы яе веру і дзявоцкую цноту, называў яе нявестаю Хрыстоваю і найпершаю сваёю дачкою. І Тэкля сядзела ў цямніцы з Паўлам, як дачка з бацькам сваім, слухаючы ягонае вучэнне і адкладваючы ў сваім сэрцы як самы каштоўны

скарб. Між тым у доме Фяокліі пачалі шукаць Тэклю і ніяк не маглі знайсці. Падняўся вэрхал, крык і плач: маці галасіла па сваёй дачцэ, Фамір – па нявесце, рабы – па гаспадыні сваёй. Слугі разбегліся ў розныя бакі, шукалі, пыталіся і на вуліцах, і ў дамах, але нідзе не маглі знайсці Тэклю. І толькі праз некаторы час даведаліся, што яна знаходзіцца ў цямніцы. Прыбеглі туды і ўбачылі, што яна сядзіць побач з Паўлам, як прыкаваная, і з вялікаю ўвагаю слухае ягоныя павучанні. Схапілі яе і вывалаклі з цямніцы, а пра ўсё, што адбылося, далажылі валадару. Той, сеўшы на судзейскае месца, загадаў прывесці да яго Паўла. А народ, як толькі пабачыў апостала, закрычаў: "Валадар, гэты чалавек – варажбіт! Пакарай яго!" І асабліва Фамір настойваў, каб Паўла пакаралі смерцю. Калі ж прывялі Тэклю, дык валадар запытаўся ў яе: "Чаму ты грэбуеш сваім жаніхом, такім прыгожым і высакародным?" Тэкля ж глядзела на Паўла і нічога не адказвала. Тады Фяоклія, нібы і не было ў яе любові да дачкі, раз'ятранаю львіцаю ці раз'юшанаю мядзведзіцаю накінулася на Тэклю, стала ўтрапёна прасіць валадара: "Спалі гэтую рабыню! Яна дастойная такой смерці! Гэта не дачка мая, бо не слухае мяне, маці сваёй. Спалі яе ў прыклад іншым, хай усе гарадскія дзеўкі, бачачы гэта, забаяцца, хай не асмельваюцца яны пярэчыць мацяркам сваім, як гэтая непакорная! Не, яна не дзіця маё, а пракляты вырадак, сухая галіна. Спалі яе!" Вось так яны і патрабавалі: Фяоклія – каб спалілі дачку, а Фамір – каб забілі Паўла. Валадар доўга дапытваў святога апостала, але не знайшоў ніякае ягонае віны, акрамя пропаведзі Хрыстовай, і таму не асудзіў яго на смерць, але загадаў біць яго і выгнаць прэч з горада, каб не мог ён і іншых дзяўчат схіліць да цнатлівасці. Разам з Паўлам прагналі з Іконіі і Варнаву, і Анісіфора з ягонымі сынамі. Зрэшты, Павел і сам імкнуўся сысці з горада, і не толькі таму, што яго пераследавалі валадар, Фамір і Фяоклія, а больш з-за таго, што народ нападаў на яго і хацеў забіць за прапаведванне слова Божага і за сведчанне пра Ісуса Хрыста. І пайшлі апосталы ў Лікаанскія гарады Лістру і Дэрвію, а адтуль – у Антыохію. Праўда, спярша яны некалькі дзён прабылі ў пячоры калі Іконіі, каб даведацца, што будзе з Тэкляю. Там яны пасціліся і маліліся за яе, каб Гасподзь умацаваў яе ў веры і праявіў міласць Сваю над ёю. Так яно і сталася. Доўга валадар спрабаваў прымусіць Тэклю зноў выказаць прыхільнасць да свайго жаніха, але ўсё дарэмна. І тады, як і патрабавала Фяоклія, асудзіў дзяўчыну на спальванне. Слугі прынеслі шмат дроў, сена, хмызняку і склалі вялікае вогнішча. Потым падхапілі пад рукі Тэклю, каб завесці яе туды, але яна адштурхнула паслугачоў і сама ўзышла на вогнішча, перад гэтым перахрысціўшыся. Не палохаў яе агонь звычайны, бо сама яна гарэла агнём любові Божай. Яна глядзела ўдалеч і ўбачыла ў абліччы Паўла Госпада, які стаяў і наканоўваў ёй быць цвёрдаю. Між тым касцёр падпалілі з усіх бакоў. Аднак, на здзіўленне для ўсіх, полымя, шугануўшы высока, акружыла Тэклю, але не закранула. Усе былі ўражаныя, калі раптоўна пайшоў дождж з градам, які патушыў полымя. Валадар і насельнікі горада, ратуючыся ад граду і дажджу, паўцякалі ў свае дамы, Тэкля ж сышла з памоста. Яна, вядома ж, не накіравалася ў дом сваёй маці, а падалася з горада, каб знайсці бацьку свайго духоўнага – Паўла. Па дарозе Тэкля сустрэла вучня апостала, якога бачыла ў доме Анісіфора. Той ішоў у горад, каб купіць хлеба. "Дзе знаходзіцца Павел?" – спыталася Тэкля. І вучань павёў яе ў пячору, дзе разам з іншымі знайшоў прытулак апостал. Убачыўшы Тэклю жывой і здаровай, усе ўзрадаваліся і, ускінуўшы рукі ў неба, аддзячылі Богу за выратаванне Тэклі. Затым Павел і Варнава пайшлі ў Антыохію, прапаведуючы ў розных мясцінах Евангелле, а разам з імі – і Тэкля. Калі яны ўвайшлі ў

Антыохію, выпадкова сустрэлі нейкага Аляксандра, знанага чалавека ў гэтым горадзе. Ён быў малады, жыў юрліва, як і ўсе язычнікі. Убачыўшы Тэклю і ўразіўшыся ейнаю прыгажосцю, загарэўся нячыстаю пажадлівасцю. Думаючы, што Тэкля – жонка Паўла, Аляксандр стаў прапаноўваць апосталу шмат золата, а затым, даведаўшыся, што дзяўчына незамужняя, яшчэ большаю жарсцю распаліўся, пажадаў, каб Тэкля стала ягонай абручніцай. Але Тэкля пазбягала яго, нібы льва, які збіраецца праглынуць яе душэўную дабрыню. Аднойчы сустрэў Аляксандр Тэклю на шматлюднай дарозе і не здолеў стрымаць жарсці, схапіў яе. Тэкля ж са слязамі на вачах пачала яго ўгаворваць: “Не прымушай мяне, вандроўніцу, не прымушай мяне, рабу Божую. Я адмовілася ад жаніха, дык ці магу стаць тваёю?” І вырвалася Тэкля з рук Аляксандра, выпадкова разарваўшы на ім адзенне, чым нанесла яшчэ большае пасаромленне. Аляксандр дужа разгневаўся і, як хрысціянку, прывёў Тэклю на суд да валадара. На пытанне, чаму яна цураецца шлюбу, дзяўчына адказала: “Жаніх мой – Хрыстос, Сын Божы, з Ім я ўступіла ў духоўны шлюб”. Валадар стаў прымушаць Тэклю, каб яна адраклася ад Хрыста і выйшла замуж. Калі ж яна рашуча адмовілася, дык асудзіў на паяданне звярамі. Кара была адкладзеная да раніцы, а пакуль для аховы ў тую ноч узяла Тэклю да сябе ў дом жанчына з імем Трыфена. Была яна з царскага роду, карысталася вялікай пашанай, а праз нейкі час, дарэчы, паверыла ў Хрыста. Трыфена ўсю ноч правяла з Тэкляю ў духоўнай бяседзе, а раніцай сабралася мноства народа, каб паглядзець на відовішча. Прыйшоў і валадар, і ўсе начальнікі гарадскія. Вывелі Тэклю, як ягнятка, на пагібель, і стала яна на месца, дзе павінны былі разарваць яе звяры. Калі выпусцілі іх, усе яны сталі хадзіць вакол Тэклі, але ніводзін не дакрануўся да яе, бо Бог самкнуў у звяроў пашчы. Гледачы дзівіліся такой з’яве: крыважэрныя звяры сталі рахманымі, як авечкі. Адны ў народзе праслаўлялі Бога, якому пакланялася Тэкля, другія ж ганілі і казалі: “Яна мае чары ў сваім адзенні, таму і не чапаюць яе звяры”. І сам валадар гаварыў, што Тэкля чараўніца і заваражыла звяроў, каб яны не зрабілі ёй шкоды. Таму вырашылі назаўтра зноў кінуць Тэклю звярам, толькі ўжо больш галодным, а пакуль аддалі Трыфене. Тая вельмі ўзрадавалася, калі ўбачыла Тэклю жывою. І вось назаўтра Тэклю зноў павялі на месца кары. Услед за ёю пайшла і Трыфена, яна ўвесь час плакала з-за таго, што ні ў чым не вінаватую дзяўчыну аддаюць смерці. Тэклю паставілі на відным месцы, і бессаромны валадар загадаў раздзець яе. “У вопратцы, – сказаў ён, – маюцца чары, таму і не чапаюць яе звяры. А цяпер паглядзім, ці ацалее яна голая”. Раздзелі Тэклю, і толькі адзін сорам быў для яе покрывам, і яна паўтарала словы прарока Давыда: “сорам пакрывае твар мой”[1]... На Тэклю выпусцілі галодных, раз’юшаных звяроў – львоў і мядзведзяў. Калі выйшлі драпежнікі з клетак і ўбачылі дзяўчыну без адзення, дык схілілі свае галовы да зямлі, апусцілі вочы долу, нібы саромеючыся дзявочай галізны, адступіліся ад Тэклі, а людзі бессаромна пазіралі на яе. Вось так звяры сталі нямымі абвінаваўцамі і суддзямі на тым відовішчы: будучы крыважэрнымі ад прыроды, яны праявілі нораў цнатлівага чалавека, а людзі, хоць, здавалася б, і разумныя, ды ўпадобіліся дзікім звярам. Але чаго яны дасягнулі? Хацелі абняславіць дзяўчыну, аднак толькі ўзмацнілі ейны гонар. Адна з ільвіц падышла да Тэклі, легла побач і пачала лізаць ёй ногі, нібы аддаючы даніну дзявочай цнатлівасці. А народ, які ўбачыў, што звяры не асмельваюцца дакрануцца да Тэклі, стаў усклікваць: “Вялікі Бог, якога прапаведуе Тэкля!” Валадар жа, не па-

[1] Псалтыр, 43:16

верыўшы ў сілу Божую, захацеў іншым спосабам пагубіць Тэклю. Ён загадаў выкапаць глыбокую яму, напоўніць яе рознымі змеямі і яхіднамі і кінуць туды дзяўчыну. Аднак Той, Хто нядаўна самкнуў пашчы ў львоў, і цяпер прытупіў джалы ў змей, знішчыў іхні яд. Тэкля выйшла з ямы жывой-здароваю, і ўсе дзівіліся такому цуду. Кат не ведаў, што яшчэ зрабіць. Нарэшце ён загадаў прывесці двух дужых быкоў, прывязаць Тэклю паміж імі за ногі і распаленымі палкамі калоць жывёлін, каб яны, разбегшыся ў розныя бакі, разарвалі яе. Аднак, калі Тэклю прывязалі да быкоў, дык вяроўкі парваліся, як павуціны, а быкі ўцяклі. Тады ўжо і сам валадар прызнаў у Тэклі сілу Божую і, паклікаўшы яе, запытаўся: “Хто ты? І якую сілу маеш, калі ніхто не можа нашкодзіць табе?” Яна ж адказала: “Я раба Бога Жывога!” Валадар, забаяўшыся Бога, які ахоўвае Тэклю ад любое шкоды, загадаў апрануць яе і адпусціў. Дзяўчына пайшла ў дом Трыфены, і вялікая радасць там была. Некаторы час Тэкля прапаведавала ў Антыохіі слова Божае і многіх навучыла веры ў Хрыста. Аднак Тэкля вельмі хацела ўбачыць Паўла, свайго бацьку і настаўніка, а калі знайшла, дык вырашыла ісці за апосталам, але ён не дазволіў, сказаўшы ёй: “Ніхто не ідзе на барацьбу з нявестаю...”

Якраз у гэтую хвіліну пачуўся стук у дзверы. Ён быў ціхім, амаль нячутным, але дзяўчынкі ўсё адно здрыгануліся – настолькі яны былі захопленыя аповедам і нібы знаходзіліся там, у далёкай Антыохіі, побач з Тэкляй, а вось гэты стук прымусіў іх вярнуцца ў будзённую рэчаіснасць. Сафія ласкава адхіліла са сваіх каленяў галоўку Любачкі і пайшла адчыняць.

Яна вельмі здзівілася, калі ўбачыла перад сабою Вірсавію. Дзяўчына не наведвалася ўжо амаль месяц, і Сафія нават хвалявалася, ці не здарылася з Вірсавіяй што-небудзь благое, а тут, во, нарэшце прыйшла, але чамусьці ў нядзелю. Значыць, нешта ўсё-ткі здарылася... Сафія запытальна-занепакоена зірнула ў вочы Вірсавіі. Дзяўчына зразумела яе трывогу. паспяшалася заспакоіць:

– Усё ў мяне добра... Вось толькі...

Сястрычкі не далі Вірсавіі дагаварыць, пачуўшы ейны голас, як і звычайна, кінуліся да дзвярэй, павіслі на руках, радасна зашчабяталі.

На гэты раз Вірсавія прынесла гасцінцаў больш чым калі – анягож, столькі часу не бачыліся. Аднак Любачка нечакана запыталася:

– А ты хочаш быць падобнаю на Тэклю? Ты будзеш такою?

Вірсавія сумелася, а Сафія таропка ёй патлумачыла:

– Я ім толькі што пра Тэклю-цнатлівіцу расказвала... – і, ужо звяртаючыся да Любачкі, дадала: – Разумееш, дачушка, не кожнаму дадзена Божая ласка, не ўсякай дзяўчыне наканаваны гонар стаць нявестаю Хрыстоваю. Вірсавія, вядома ж, дастойная гэтага, але ж...

– А я дык буду нявестаю Хрыстоваю! – не дала ёй дагаварыць Любачка. – Абавязкова буду!

– Будзеш, будзеш... – усміхнулася Сафія.

– Я, мусіць, трохі перашкодзіла, – апраўдваючыся, мовіла Вірсавія, – і вы не даслухалі пра Тэклю да канца. Так? Ну дык вы на мяне не зважайце, няхай мама працягвае аповед. А заадно і я паслухаю...

Вірсавія, безумоўна, ведала прытчу пра Тэклю, але з асалодаю гатовая была пачуць яе лішні раз з вуснаў Сафіі.

– А ты не спяшаешся? – спыталася дзяканіса.

– Не, сёння ж нядзеля, увесь дзень вольны...

– Ну, тады я і праўда дакажу дачушкам пра Тэклю, тым болей што засталося няшмат. Сядайма.

Калі сястрычкі ўладкаваліся – Любачка, як і раней, на каленях у маці,

а Верачка і Надзейка па абодва бакі ад Вірсавіі, – Сафія зноў загаманіла мілагучным і па-асабліваму ўзнёслым голасам:

– Прыняўшы блаславенне ад апостала, пайшла Тэкля ў Селеўкію і пасялілася на гары ў пустыні паблізу горада. Пасцілася, малілася і тварыла многа цудаў, лекавала розныя хваробы. Навакольныя жыхары, даведаўшыся пра гэта, прыходзілі да яе і прыносілі сваіх хворых, якіх Тэкля вылечвала і вучыла веры ў Госпада нашага Ісуса Хрыста. Аднойчы міма таго месца ехаў вярхом на кані язычніцкі жрэц. Згледзеўшы Тэклю, якая збірала травы сабе на харч, ён спакусіўся прыгажосцю дзяўчыны і распаліўся нячыстым жаданнем. Панукнуўшы каня, падгарцаваў да яе, каб выканаць свой злы намер. А Тэкля, падтрыманая сілаю Божаю, схапіла жраца і так моцна стукнула яго аб зямлю, што ён тры дні праляжаў нерухома. Той, хто праходзіў міма і бачыў, што жрэц ляжыць, нібыта мёртвы, не маглі даўмецць, што з ім здарылася. Стала вядома пра гэта ў горадзе, людзі натоўпам прыйшлі паглядзець на жраца. А той ачуняў, стаў на ногі і сказаў: “Я бачыў нейкую багіню, і ад яе гэтак мне дасталося...” З цяжкасцю, пакутуючы ад болю, змог дайсці ён да свайго дома. Паклікаўшы мастака, загадаў на дошцы намаляваць аблічча васямнаццагігадовай дзяўчыны. І калі той пачаў маляваць, дык па волі Божай яму ўдалося да драбніц перадаць падабенства з Тэкляй. Прынёс мастак ікону жрацу. “Менавіта такую дзяўчыну я і бачыў!” – усклікнуў ён. Узяўшы ікону, жрэц расцалаваў яе і адразу ж зусім выздаравеў. Потым захоўваў тую ікону ў сябе дома, разам з усёй сваёй сям’ёй паверыў у Хрыста... Тэкля доўга жыла ў той мясцовасці, многім дапамагала ў нягодах, шмат хваробаў вылечыла. Лекары і варажбіты ў Селеўкіі бачылі, што хворыя ідуць не да іх, а да Тэклі, і ўсё меней у іх розных выгодаў. Разгневаліся яны на Тэклю, якая лекавала ўсіх бескарыслівa, і нанялі хібных юнакоў, каб яны Тэклю абняславілі. І так ім патлумачылі: “Чыстая Тэкля, таму і прыхільна ставіцца да яе багіня Артэміда, выслухоўвае ейныя просьбы, дае ёй сілу для лекавання нямоглых. А калі Тэкля будзе апаганена, дык не стане спрыяць ёй Артэміда, забярэцца ў яе лекарская сіла, і тады людзі зноўку пойдуць да нас”. Напаіўшы юнакоў вінам, даўшы шмат грошай, угаварылі іх аганьбаваць Тэклю. Неразумныя, яны не ведалі, што Тэкля не сілаю Артэміды, а дабрадаццю Хрыстовай вылечвае любую хваробу! Накіраваліся п’яныя і юрлівыя юнакі да Тэклі. “Дзеці, што вам трэба?” – спыталася яна. І сталі юнакі гаварыць нехарошыя словы. Пачуўшы іх і зразумеўшы іхні злы намер, уцякла Тэкля ад юрлівых юнакоў. А тыя пагналіся за ёю і пераследавалі, як зграя ваўкоў авечку. І калі ўжо дагналі, дык памалілася Тэкля Богу, каб Ён не даў яе ў рукі гвалтаўнікоў. І ў тое ж імгненне каменная гара па Божай волі расступілася, прыняла Тэклю ў свае нетры і абараніла ейную цноту. І гара тая стала труною для чыстага цела Тэклі. Так яна аддала душу сваю ў рукі Божыя. І цяпер яна ў бясконцым жыцці сваім праслаўляе Хрыста Бога, з Бацькам і Святым духам...[1]

Скончыўшы аповед, Сафія не стала распытваць у дзяцей, якія высновы зрабілі яны з прытчы: адно што ўжо абмяркоўвалі яе раней, а другое – трэба было ўдзяліць увагу Вірсавіі, бо дзяўчыну, падобна, усё-ткі турбуе нейкая нэндза.

– Вы пакуль самі пазабаўляйцеся ў сваім пакоі, а мы трохі пагамонім з Вірсавіяй, – сказала яна дачушкам. – А потым і Вірсавія да вас далучыцца. Так?

---

[1] Дзень памяці роўнаапостальнай пакутніцы Тэклі — 24 верасня.

– Ну, вядома ж, – запэўніла госця. – У мяне сёння часу шмат.

Калі дзяўчынкі гурмою сышлі, на хаду перабіраючы гасцінцы, Вірсавія спярша пераказала ўсе апошнія падзеі, якіх здарылася аж занадта, патлумачыла, чаму ёй не выпадала наведваць адправы.

– Прабач, Сафія, за тое, што я цябе не паслухалася, – апусціўшы вочы долу, мовіла напрыканцы Вірсавія. – Я цяпер у разгубленасці: што рабіць далей? Дзе шукаць Архелая? Было адно гора, а цяпер, можа, яшчэ большае...

Пасля нядоўгае развагі Сафія адказала:

– Па-першае, мяне вельмі радуе, што я не памылілася ў Гнеі. Высакародны чалавек, добрапрыстойны... А што тычыцца Архелая, дык, мне думаецца, ты яго знойдзеш. Дакладней, ён цябе знойдзе. Твой хлопец, па ўсім бачна, настойлівы, свайго дамагчыся ўмее. Вунь глядзі ж, здолеў нейкім чынам патрапіць у Рым. Безумоўна, без волі Божай не абышлося, але ж і чалавек павінен прыкласці пэўныя высілкі... Дык калі ўжо Бог наблізіў вас адно да аднаго, то, мусіць, будзе спрыяць і надалей. А ў тым, што Архелай цябе шукацьме, сумневу нямашака: для таго ж ён і імкнуўся ў Рым...

– Як жа ён будзе шукаць, калі яго самога паліцыя шукае? Патрапіць у рукі Акілы, дык літасці не мецьме...

– У Рыме чалавека знайсці не так і проста. Нават паліцыі. А твой Архелай не такі бязглузды, каб самахоць, па дурноце, ёй папасціся. Ён шукацьме цябе з асцярогаю – я ў гэтым упэўненая.

– Ты ж сама сказала: Рым такі вялікі... Архелай у ім і сам заблудзіцца, а каб знайсці некага іншага...

– На ўсё воля Божая... А набажэнствы ўсё-ткі прапускаць непажадана. Наадварот, трэба маліцца, прасіць у Бога ласкі...

Усю астачу дня Вірсавія правяла ў забавах з сястрычкамі.

Дамоў яна вярталася яшчэ да прыцемкаў, аднак не скмеціла, што ад самага дома Сафіі за ёю, трымаючыся крыху воддаль, ззаду ідуць і віжуюць два дзецюкі – высокі, як жэрдка, і прыземіста-пузаты, як капшук...

### Дзве сустрэчы імператара

Аднае раніцы імператар, прачнуўшыся, не адчуў болю ў галаве, дый увогуле цела не нагадвала пра сябе пакутнаю нямогласцю. На радасцях Адрыян паклікаў свайго сакратара Светонія.

– Далажы, хто хацеў патрапіць да мяне на прыём у гэтыя дні.

Светоній пачаў зачытваць доўгі спіс, які не выклікаў у імператара ніякае цікавасці. І толькі калі з вуснаў сакратара прагучалі словы “сенатар Гней”, Адрыян здзіўленна ўскінуў бровы:

– Як ты сказаў? Гней?

– Менавіта так. Прычым ён прыязджаў сюды тройчы. З якою патрэбаю – паведаміць не захацеў. Казаў, што нешта асабістае.

– Цікава... Гэты былы легат ніколі не нагадваў мне пра сябе. Я нават не бачыў яго з часін іудзейскае вайны... Мусіць, Гнея нешта дужа дапякло, калі дамагаецца сустрэчы. Кажаш, прыязджаў тройчы?

– У мяне тут усё запісана...

– Ну, вось што. Пашлеш ганца да гэтага Гнея. Я гатовы яго прыняць. А яшчэ – да Антаніна. Яго я таксама хачу бачыць. Сустрэчы плануй пасля полудня, бо мне закарцела прайсціся па ўсім Цібуры...

Імператар упершыню выйшаў са свайго вялізнага перыстылю, каб сустрэць Антаніна (як ужо згадвалася, такі гонар дагэтуль ён аказваў толькі свайму састарэламу швагру Сервіяну). Працягнуў рукі для абдымак, прыгарнуў да сябе. Антанін скмеціў, што Адрыян пачуваецца бадзёра, і з-за таго ў яго самога прыўзняўся настрой, бо ў Цібур ён ехаў з насцярогаю: нечаканыя і тэрміновыя выклікі да імператара звычайна нічога добрага не зычылі.

Удвох яны нетаропка прайшліся да статуі Юпітэра, прыселі.

– Як ты думаеш, для чаго я цябе сёння паклікаў? – запытаўся Адрыян.

– Шчыра сказаць, нават не здагадваюся...

– А мог бы... Для цябе ж, мусіць, не сакрэт, што па Рыме гуляюць чуткі пра майго магчымага пераемніка. І нават называецца канкрэтнае імя...

– Нешта чуў. Але ж чуткі – яны і ёсць чуткі. Ці варта ім верыць?

– Не кажы. Чуткі ніколі не ўзнікаюць на пустым месцы...

– Магчыма. Але я не ўспрымаю іх усур'ёз.

– А на гэты раз, мой любы Антанін, давядзецца ім паверыць, – Адрыян зрабіў працяглую паўзу і, надаўшы свайму голасу ўрачыстасці і велічнасці, наўпрост абвесціў: – Я сапраўды маю намер усынавіць цябе і такім чынам прызначыць сваім пераемнікам!

Антанін хацеў нешта сказаць, але імператар уладным жэстам рукі спыніў яго:

– Спярша даслухай мяне, а потым выкажашся. Дык вось, толькі ты бачышся мне ў ролі імператара, хоць хто-ніхто проста рвецца да ўлады. Думаю, ты ведаеш, каго я маю на ўвазе. Найперш гэта Сервіян. Ён збіраўся заняць трон яшчэ пасля Траяна і дагэтуль вельмі злы, што калісь я "перабег яму дарогу". Праўда, цяпер ніякай хцівасці не выказвае, падлізваецца да мяне, але я ведаю, што творыцца ў ягонай душы... Спіць і бачыць сябе на імператарскім троне! Ажно трасцу яму... Марыць аб імператарстве і ўнук Сервіяна – Педаній Фуск. Яго падтрымлівае ўся старая знаць, хоча зноўку займець на троне "свайго чалавека". Ды не будзе гэтага... Сенат, у сваю чаргу, разлічвае, што я ўсынаўлю Цярэнцыя Генцыяна. Ён, можа, і неблагі кандыдат, але я не зраблю гэта менавіта з-за таго, што ў Генцыяна шмат прыхільнікаў сярод сенатараў. Ты ж ведаеш, як я да іх стаўлюся... Проста напралом ідзе да вышэйшае ўлады прэфект Катылій Север, з-за чаго нажыў сабе нямала ворагаў, тым лікам у маёй асобе. Аднак я пакуль што трываю... Яшчэ адзін прэтэндэнт – Платорый Непота. Калісь ён быў маім лепшым сябрам. А пасля аднаго выпадку... Было, што Непота дужа захварэў. Я прыехаў яго наведаць, а ён загадаў не пускаць і на парог. Ты можаш гэта ўявіць? Мяне, імператара – не пускаць на парог! Я тады прабачыў Непоту нахабства толькі з-за таго, што ён мой сябар. Аднак крыўда ў душы ўсё адно засталася. Уяўляю, як ён зганьбіў бы мяне пасля смерці... Усе, каго я назваў, лічаць сябе галоўнымі маімі пераемнікамі. Ёсць і іншыя, але гэта драбяза, на яе і зважаць не варта...

– Ты не назваў самага галоўнага прэтэндэнта – Луцыя, – Антанін усё ж здолеў уставіць слова ў маналог імператара.

– Ды які ён прэтэндэнт? – абыякава махнуў рукою Адрыян. – Прэтэндэнт на нябожчыка... Сказаць па праўдзе, мне ўвогуле не варта было ўсынаўляць яго два гады таму. Луцый ужо тады быў настолькі хворым, што не змог нават прачытаць прамову ў Сенаце з нагоды ўсынаўлення... Была і яшчэ адна падстава, каб не набліжаць да сябе Луцыя. Ты ж ведаеш, што ён – зяць таго самага Негрына, аднаго з чатырох кансулярыяў, якія ў першыя дні майго імператарства падрыхтавалі змову, задумвалі мяне забіць, але самі былі

забітыя. Хто-ніхто думае, што гэта я загадаў Аттыяну пакараць іх смерцю, але ты, спадзяюся, гэтаму не верыш... Так што пра Луцыя забудзь.

– Але ж ён яшчэ жывы...

– А я і не кажу, што збіраюся ўсынавіць цябе заўтра ж. Луцый можа сканаць з дня на дзень, і мне трэба падрыхтавацца, вызначыцца з пераемнікам загадзя. Што я і раблю... Да таго ж я хачу, каб кандыдатура на ўсынаўленне была вылучаная не мною, а "саветам сяброў"[1]. Тады гэта выглядацьме не як мая асабістая прыхамаць, а як жаданне найбольш уплывовых людзей імперыі. І няхай цябе не хвалюе, за каго аддадуць свае галасы чальцы савета – гэта ўжо мой клопат... Зрэшты, мне, бадай, і не давядзецца рабіць шмат патуг, каб большасць прагаласавала як след. Як гэта ні дзіўна, але ты, здаецца, ухітрыўся не нажыць сабе ніводнага ворага. Я нават чуў, што хто-ніхто параўноўвае цябе з Нумай Пампіліем... А пра выпадак у Сенаце ўвогуле ходзяць узнёслыя пагалоскі[2]... Дык чаму ж я вырашыў пагутарыць з табою зараней? Ёсць дзве прычыны. Па-першае, мне ўсё ж патрэбна атрымаць тваю згоду на ўсынаўленне. А па-другое, будучы імператар павінен выканаць адну маю ўмову. Калі памрэ Луцый, табе належыць усынавіць ягонага малодшага сына – Вера. Шчыра кажучы, гэткім чынам я хачу аддаць Луцыю даніну: няхай пасля ягонае смерці ў імперыі застанецца хоць што-небудзь значнае... А яшчэ ты павінен усынавіць Марка, свайго пляменніка. Я думаю, нам з табою трэба забяспечыць пераемнасць. Мы павінны загадзя паклапаціцца, каб на троне многія дзесяцігоддзі, а магчыма, і вякі заставаліся нашыя людзі... Як сказаў мой любімы Эпіктэт[3], "ад бога паходзяць багі і людзі, і калі ты прымаеш гэта, табе ёсць чым ганарыцца: падумай толькі, як бы ты ўзнёсся, калі б цэзар аб'явіў цябе сваім сынам".

Тут Адрыян хоць і не крывіў душою, але сказаў Антаніну не ўсё. Насамрэч ён даўно кінуў вока на ягонага пляменніка Марка. Ужо з першых год хлопчык вызначаўся незвычайнай сур'ёзнасцю. Толькі-толькі "адбіўшыся" ад нянек, ён пачаў вывучаць філасофію. Настаўнікамі Марка былі самыя слынныя тагачасныя вучоныя, літаратары, мастакі. А галоўнае – Марка ўзяў пад апякунства сам Адрыян, які найперш падахвоціў хлопчыка да ўсяго грэчаскага. Можна сказаць, Марк вырас на каленях імператара, які называў яго на свой манер – Верысімам. Калі Марку споўнілася шэсць год, Адрыян даў яму ганаровае права атрымаць каня ад імперыі, а на восьмым годзе – запісаў у калегію жрацоў-саліеў[4]. Тады, дарэчы, Марк упершыню атрымаў знак, што неўзабаве ён стане імператарам. Калі ўсе па чарзе кідалі на падушку вянкі (была такая варажба), дык яны падалі ў розныя месцы, а вянок Марка трапіў на галаву Марса, быццам яго апранула нечая нябачная рука... Адрыян таму і хацеў, каб Марк стаў ягоным пераемнікам, бо пазнаваў у ім колішняга самога сябе. Дык навошта было ўсчыняць гэтую валтузню з Антанінам, ці не лепей адразу ўсынавіць Марка – і ўвесь клопат? Справа ў тым, што юнаку споўнілася ўсяго васямнаццаць гадоў. А раптам ён, Адрыян, заўтра памрэ? Марк хоць і разумны, і на дзіва вучоны, але чалавеку ў такім

---

[1] Маецца на ўвазе імператарскі савет, у які ўваходзілі прэфект, розныя начальнікі імператарскай канцылярыі, знаныя юрысты.

[2] Антанін на вачах у сенатараў своечасова працягнуў руку свайму цесцю, які спатыкнуўся, за што, ужо стаўшы імператарам, атрымаў прозвішча "Пій" — "блаславёны".

[3] Эпіктэт (каля 50-138 г.н.э.) — філасоф, прадстаўнік рымскага стаіцызму.

[4] Салії шанавалі бога Марса і бога Квірына, які ў пачатковы перыяд Рымскай імперыі нароўні з Юпітэрам і Марсам уваходзіў у галоўную трыяду рымскіх багоў.

узросце давяраць самую магутную імперыю ўсё ж рызыкоўна. Яму трэба "прыцерціся", падвучыцца, набрацца вопыту ў сталага настаўніка. І такім мог стаць толькі Антанін. Вядома ж, суразмоўцу Адрыян не расказаў пра свой стратэгічны план, пра тое, што яму, Антатніну, у гэтым плане адведзена дапаможная, пераходная роля, інакш той мог проста пакрыўдзіцца.

– Дык ты згодны выканаць маю ўмову? – гэтым пытаннем Адрыян нібы падсумаваў усё сказанае.

Што належала адказаць Антаніну? Тое, што некалі яму давядзецца стаць імператарам, ён ведаў даўно, бо адпаведныя знакі даваліся з нябёсаў. Аднаго разу, калі ён, кансулярый, падымаўся на трыбуну, сярод іншых воклічаў раптам пачуўся такі: "Аўгуст, няхай аберагаюць цябе багі!" У час ягонага праконсульства ў Азіі жрыца ў Тралах замест слоў: "Будзь здаровы, праконсул!" – выгукнула: "Будзь здаровы, імператар!" Пасля консульства Антаніна мармуровы бык, пастаўлены ў садзе, павіс рагамі на галінах дрэва, якое вырасла. Затым маланка ляснула ў ягоны дом, не нарабіўшы ніякае шкоды. У Эрутрыі пасудзіны, закапаныя ў зямлю, былі знойдзены на паверхні, а пчаліныя раі пакрылі ўсе ягоныя статуі. У сваіх снах Антанін часта атрымліваў указанні паставіць у сваіх пакоях выявы Адрыяна.

Імператар, вядома ж, спадзяваўся атрымаць імгненную згоду, бо каму ж не хочацца ступіць на трон? Аднак нечакана пачуў няўцямна-няпэўнае:

– Мне трэба падумаць... Я згодны ўсынавіць і Марка, і Вера, але... Ці гатовы я сам да імператарства? І ці трэба яно мне?

Антанін не хітраваў. Ягоная душа не ляжала да дыктатарства. Нягледзячы на прароцтвы нябёсаў, ён марыў правесці астачу жыцця ў спакоі і злагадзе з самім сабою, з людзьмі і нават з блудліваю жонкаю Фаўстынаю[1].

Ад такога адказу Адрыян спярша сумеўся, але потым узяў сябе ў рукі:

– Калі трэба падумаць – падумай, – без аніякай незадаволенасці мовіў ён. – Я не прыспешваю, час у нас ёсць. Але пра нашую размову ніхто не павінен ведаць.

– Гэта само сабою...

Яшчэ колькі хвілінаў яны пагаманілі пра будзённае, нават пра жонак (Сабіна і Фаўстына даводзіліся адна адной раднёю), і толькі потым Адрыян устаў з крэсла. Праводзячы Антаніна па вестыбюлі, ён з задавальненнем падумаў: "Гэта няблага, што Антанін не рвецца да ўлады. Значыць, не будзе за яе і трымацца: калі спатрэбіцца, "перадасць лейцы" Марку..."[2]

Што Адрыян пакліча яго на прыём ды яшчэ сам прышле адмысловага ганца, стала для Гнея нечаканкаю: калі тое было, каб імператар рабіў каму-небудзь падобную ласку. Аднак жа запрашэнне на сустрэчу не столькі ўзрадавала Гнея, колькі засмуціла. Што ён хацеў папрасіць у імператара? Каб Адрыян нейкім чынам паўздзейнічаў на Акілу, і той ці аддаў, ці прадаў Архелая Гнею. Цяпер просьба не мела сэнсу. Хіба што калі Архелая зловяць, Акіла мог бы ўжыць для раба не дужа суровую кару. Ды няхай паспрабуюць злавіць...

Аднак жа адмовіцца ад сустрэчы не выпадала: няўвага да вышэйшай

---

[1] Ужо стаўшы імператарам, калі жонка пачне папракаць яго ў тым, што ён з нейкае нагоды даў мала шчадрот радні, Антанін адкажа: "Дурніца, пасля таго, як нас заклікалі кіраваць імперыяй, мы страцілі і тое, што мелі раней".

[2] Антанін выканае гэтую ўмову, і пасля ягонае смерці ўпершыню ў гісторыі Рыма адначасна будуць валадарыць два імператары – Марк і Вер.

асобы імперыі можа выйсці бокам... І Гней выправіўся ў Цібур. За фурмана, як і зазвычай, наперадзе карукі сядзеў Дыядор.

Гнею давялося доўга чакаць з прыхаду ў вялікую імператарскую залу, у вестыбюлі. Светоній патлумачыў, што зараз імператар гутарыць з Антанінам. Неўзабаве яны абодва выйшлі ў вестыбюль і, захопленыя размовай, нават не звярнулі ўвагу на Гнея, які сядзеў побач з сакратаром. Толькі на зваротным шляху Адрыян, мімаходзь кінуўшы позірк убок, заўважыў наведніка і пазнаў яго.

– Гней? Вельмі рады цябе бачыць, – адчувалася, што імператар у добрым настроі і ягоная радасць ад сустрэчы непадробная. – Колькі часу прайшло з тае пары, як мы сустракаліся ў апошні раз?

– Два гады, адзін месяц і восем дзён... – без замінкі, на адным дыханні выпаліў Гней, быццам у ягонай галаве знаходзіўся лічыльнік.

– Адкуль такая дакладнасць? – непрыхавана здзівіўся Адрыян.

– Сустрэча з імператарам – заўсёды свята. А святы трэба помніць...

– Ах, ліслівец! – зарагатаў Адрыян. – Колісь за табою такое не заўважалася. Відаць, паспеў абрасці заганнымі рымскімі звычкамі, ліха на іх. Ну ды хай сабе... Хадзем, раскажаш, што ў цябе за нэндза. Мусіць жа, проста так сустрэчы са мною не дамагаўся б? Я правільна думаю?

– Ды яно так... – замармытаў Гней. – Але ўжо, бадай, позна, нічога не паправіш...

– Як гэта не паправіш? Мне, імператару, як богу на зямлі, падуладнае ўсё! Ці ты, можа, богам мяне не лічыш? – Адрыян зірнуў на Гнея хітравата-ўсмешліва.

– Ды ты і ёсць самы галоўны бог... – не адводзячы вачэй, адказаў Гней.

– Тады хадзем, будзем разбірацца з тваім клопатам.

Зрэшты, да асноўнае размовы яны падступіліся не адразу, колькі часу Адрыян распытваў Гнея пра ягонае рымскае жыццё-быццё, пра сенатарства, а Гней, каб не дакучаць імператару занадта доўга, адказваў па-вайсковаму кароткімі, сечанымі фразамі.

– Ну дык што цябе турбавала ці турбуе? – нарэшце Адрыян сам “пацягнуў за язык” Гнея.

– Дагнала мяне вайна... – пасур’ёзнеўшы, мовіў былы легат. – Прычым з нечаканага боку...

І ён пераказаў тое, што распавядаў Вірсавіі, – пра пагод з Ерусаліма ў Сірыю, пра “баляванне” ў гонар праконсула Адрыяна, пра Хавіву... А потым адразу пераскочыў на блізкі час, калі лёс прад’явіў яму плён таго бязглуздага гвалту ў выглядзе сына, якога завуць Архелаем і які стаў рабом Акілы.

– Ну дык і ў чым нявыкрутка? – здзівіўся Адрыян. – Хіба нельга дамовіцца з Акілам, каб ён прадаў табе свайго раба?

– Акіла не прадасць яго нізавошта, – сумна сказаў Гней. – Ён згодны толькі абмяняць Архелая на маю рабыню, якую завуць Вірсавіяй.

– А нашто яму спатрэбілася твая рабыня? Што ў ёй такога адметнага?

– Акіла ведае Вірсавію з іудзейскае пары. Заляцаўся да яе яшчэ там, у Ерусаліме... прабач, у Эліі Капіталіне... калі Вірсавія рабыняю не была, – Гней, натуральна, не заікнуўся “пра дачку хрысціянскага епіскапа”. – Але нічога не атрымалася. А тут выпадкова згледзеў яе ў мяне, юр распаліўся з новаю сілаю...

– Дык аддай ты яму тую яўрэйку! Няхай Акіла пацешыцца!

– Не магу, імператар. Вірсавія, можна сказаць, выратавала мне жыццё. Калі б не ейны дагляд на марскім шляху да Рыма, не сядзеў бы я тут, побач

з табою, бо карабель трапіў у шторм, у мяне адкрылася рана... Але галоўнае нават не гэта. Самае дзіўнае, амаль неверагоднае, аднак мой сын Архелай і Вірсавія ведаліся яшчэ ў Іудзеі. І яны моцна кахаюць адно аднаго... – Гней абачліва не абмовіўся, што Архелай быў ардынарцам Бар Кохбы. – Ці ж магу я не жадаць шчасця сыну і сваёй выратавальніцы?

– Во як усё пераплятаецца ў жыцці! – усклікнуў Адрыян. – Знарок не прыдумаеш! Тэма для Эсхіла ці Эўрыпіда!

Усхваляваны, імператар нават ускочыў з крэсла, пачаў хадзіць туды-сюды, прыгаворваючы:

– Гэта ж трэба!

Нарэшце ён супакоіўся, зноўку прысеў і рашуча мовіў:

– Калі Акіла не хоча прадаваць Архелая, дык яго выкуплю я. А потым падару табе... Як ты думаеш, пагодзіцца Акіла прадаць мне свайго раба?

– Анягож...

– І мне так здаецца, – Адрыян усміхнуўся. – Як ні круці, але я таксама маю дачыненне да гэтае гісторыі і нават трохі вінаваты ў тым, што ў цябе з'явіліся пэўныя непрыемнасці. Калі б малады цэнтурыён Гней не ўзяў лішні кілішак у гонар праконсула Адрыяна, дык не было б таго гвалту з Хавівы, а значыць, і іншых непажаданых наступстваў.

– Чаму ж непажаданых? – Гней паспрабаваў патрапіць у тон імператару. – Калі б я не піў у гонар праконсула Адрыяна, дык у мяне ніколі не было б уласнага сына...

– І то праўда! – засмяяўся Адрыян. – Во як ты павярнуў! Дык, выходзіць, да твайго Архелая я маю самае непасрэднае дачыненне! І цяпер проста змушаны яму паспрыяць, бо ён, атрымліваецца, не зусім старонні для мяне чалавек... Так што не хвалюйся, мой дружа, я тваю бяду адною рукою развяду. Заўтра ж паклічу да сябе Акілу, і ён перадасць табе Архелая без аніякіх грошай. І Вірсавія пры табе застанецца.

– Гэта немагчыма, – схіліўшы галаву, скрушна мовіў Гней.

– Чаму немагчыма? Ты думаеш, Акіла мяне не паслухаецца? Ды я яго ў парашок сатру, самога ў рабства прадам!

– Архелая ў Акілы ўжо няма, ён уцёк, – з тою ж скрухаю ціха сказаў Гней і, каб хоць неяк апраўдаць свайго сына, горача дадаў: – Архелай быў змушаны ўцячы! Акіла яго дапёк, здзекаваўся! Ён сам мне казаў, што створыць для Архелая пекла! І, мусіць жа, стварыў...

– Адкуль ты ведаеш, што Архелай уцёк?

– Таму што Акіла яго ўжо шукае. Нават у маім доме...

– Як гэта?

– Некалькі дзён таму на маёй сядзібе адбыўся вобшук. Па загадзе прэфекта. Паводле слоў цэнтурыёна Планкуса, разлічвалі знайсці беглага маладога раба...

– Пачакай, які вобшук? Ты ж сенатар! Няўжо прэфект пасмеў пайсці на такое... на такі...

– Вось жа пасмеў...

– Ну, Север! Ну, нахабнік! Зусім ужо распеpacket... 

– А каго ж яшчэ? Які беглы раб, апрача Архелая, мог бы шукаць прытулак у маім доме? Зрэшты, ёсць і другі доказ: разам з паліцэйскімі прыязджаў і Акіла. У дом ён не заходзіў, аднак я яго бачыў. Пэўна, прэфект даў дазвол на вобшук па ягонай просьбе...

– Ты глядзі: і Акіла стаў задужа шмат сабе дазваляць... Ну-ну...

Імператар раптам схамянуўся і збянтэжана-разгублена запытаўся:

– Калі Архелай уцёк, дык чым я ў такім разе магу табе дапамагчы?

– У тым і справа, што нічым... Таму я і сказаў, што позна ўжо, нічога не паправіш...

Адрыян зноў устаў з крэсла, зашпацыраваў каля статуі Юпітэра, нешта абдумваючы.

– Не варта кідацца ў роспач, – імператар у рэшце рэшт прыйшоў да кончае высновы ў сваіх развагах. – З Акілам я ўсё адно перагавару. Хай ведае, што Архелай больш яму не належыць, і хай хлопца не шукае. А шукаць будзем мы! На паліцэйскае ашмёцце, што падпарадкоўваецца прэфекту, спадзеву мала. Я даручу Турбону, каб падключыў да пошукаў сваіх прэтарыянцаў. А заадно азадачу таемных шпегаў... Тыя ўвесь Рым перавернуць, але знойдуць твайго Архелая... Так што не бядуй! Адна ўмова: калі Архелай знойдзецца, прывязі яго разам з Вірсавіяй сюды. Цікава пабачыць, што яны з сябе ўяўляюць...

Ад імператара Гней вяртаўся ўзрушаны і абнадзееены.

## Захоп

На душы ў Акілы было надта пагана.

А дзень жа, здавалася б, распачынаўся гэтак спрыяльна, з такое радаснае навіны!

Эфраім і Манасія, якія не спускалі вачэй з Гневага дома, раніцай, нарэшце, прынеслі радасную вестку: ім усё-ткі ўдалося што-кольвеч выведаць. Хай сабе яны не высачылі Архелая, але паведамілі цікавыя акалічнасці пра Вірсавію. У нядзелю дзяўчына хадзіла далёка за ўскраіну Рыма, правяла ў нейкім доме шмат часу і вярнулася ажно ў прыцемках. І дарогу, і дом браты добра запомнілі. Чаго Вірсавія там гэтак доўга бавілася? Тут і сумневу няма: пэўна ж, у гэтым доме хаваецца Архелай, і Вірсавія, выконваючы нейкае даручэнне Гнея, да яго наведвалася.

Акіла, прыхапіўшы з сабою Эфраіма, бо той быў нашмат хітрэйшы за брата, адразу ж падаўся за горад, каб на свае вочы ўбачыць дом, куды хадзіла Вірсавія. Каруку спынілі воддаль, сам Акіла з яе не вылазіў, паслаў Эфраіма, каб той ненавязліва параспытваў у месцічаў, хто жыве ў гэтай пабудове. Тое, пра што расказаў Эфраім, вярнуўшыся праз паўгадзіны, яшчэ болей заінтрыгавала і абнадзеіла Акілу. Аказваецца, у доме жыве нейкая Сафія са сваімі малымі дзецьмі. І што самае цікавае: яна – хрысціянка! Прычым не простая, а нейкая іхняя верхавода, бо людзі падказалі Эфраіму, што начамі хрысціяне ладзяць тут свае сходні. Цяпер для Акілы малюнак акрэсліўся цалкам.

Вірсавія, безумоўна, нейк знюхалася з мясцовымі хрысціянамі і хадзіла на набажэнствы. Калі ж узнікла неабходнасць схаваць Архелая, яна і падказала Гнею надзейную хованку. А што! Хрысціяне – людзі спагадлівыя, Акіла гэта добра ведае. Ці калеку, ці бегламу рабу – усім прытулак дадуць. Вось і прыгрэлі Архелая...

Заставалася дробязь: наведаць прэфекта, павінавацiцца перад ім за мінулую прамашку з вобшукам у доме Гнея і даць яму новую наводку. Ёсць спадзеў, што Север на яго, Акілу, вялікага зла не трымае, бо Гней вэрхалу не ўсчыніў, як быццам таго вобшуку і не было...

У другой палове дня Акіла акурат намерыўся зазірнуць у прэфекторыю,

аднак неспадзеўкі дома яго заспеў ганец ад імператара, паведаміў, што Адрыян загадвае яму прыбыць у Цібур, прычым тэрмінова. Што паробіш: воля імператара – закон, хоць ад падобных паспешлівых выклікаў нічога прыемнага чакаць не варта – Акіла гэта ведаў дакладна.

І ягоная апаска пацвердзілася.

Імператар зрабіў Акілу разнос за тое, што ён ініцыяваў вобшук у доме Гнея, брудна лаяўся праз гэта, нават пагражаў караю, тым лікам і для прэфекта, і што самае жахлівае – сказаў словы, якія дагэтуль стаяць у Акілы ў вушах:

– Запомні! Гней для цябе больш не існуе! Архелай і Вірсавія – таксама! Усе яны – цяпер мае рабы! Гэтак жа, дарэчы, як і ты. І мне вырашаць вашыя лёсы! Ты ўсё зразумеў?

Тады Акіла толькі паспеў кіўнуць галавою, і ў наступную хвіліну Адрыян, рэзка павярнуўшыся, пашыбаваў у перыстыль (імператар нават не спадобіўся прыняць свайго галоўнага забудоўшчыка ў зале, размова адбывалася ў вестыбюлі).

Усе надзеі-спадзяванні адначасна абрушыліся. Ужо няма патрэбы ехаць да прэфекта, трэба навекі паставіць крыж і на Вірсавіі. З апошнім Акіла не мог змірыцца ніяк. Нават нягледзячы на загад і пагрозы імператара. Вельмі ж упадабаў Акіла гэтую дзяўчыну. Яшчэ там, у Іудзеі, калі мяцеж захлынуўся ў крыві, ён спрабаваў знайсці Вірсавію, рассылаў ганцоў па ўсёй правінцыі, шастаў па Кірмашным полі, але дзяўчына як скрозь зямлю правалілася. Потым нехта падказаў яму, што ў Ерусаліме іудзеі наладзілі крывавую бойню сярод хрысціян, у жывых амаль нікога не засталося. Больш за тое, стала вядома, што загінуў і епіскап Іуда. Хутчэй за ўсё, вырашыў Акіла, такая ж доля напаткала і Вірсавію, бо яна заўсёды трымалася побач з бацькам. І Акіла змірыўся са стратаю. Душэўны боль паступова зацягваўся, ён ужо амаль знік зусім, і вось на табе – Вірсавія зноўку ўсплыла ў ягоным жыцці, развярэдзіўшы былое пачуццё, якое, выходзіць, не патухла, тлела ў глыбіні душы, каб зараз шугануць нанова. Дык ці варта адступацца ад свайго шчасця, калі яно нечакана апынулася зусім блізка?

Цэлую ноч Акіла не самкнуў вачэй, пакутліва думаў-разважаў, што яму належыць зрабіць, каб атрымаць Вірсавію. А раніцаю паклікаў да сябе Эфраіма і Манасію. Браты палічылі, што яны ўжо сваю ролю выканалі – знайшлі дом, дзе хаваецца Архелай, таму і не выправіліся з вечара на “дзяжурства” каля дома Гнея, тым болей што Акіла на гэтым і не настойваў. Аднак жа браты памыліліся.

– Назіранне за домам Гнея будзеце працягваць, – хрыплым голасам даў указанне Акіла. – Вось толькі задача ў вас ужо іншая. Архелай мяне болей не цікавіць. Калі нават і згледзіце яго – не зважайце. А віжаваць належыць за тою дзяўчынаю, якая і навяла вас на дом Сафіі. І не толькі віжаваць...

Акіла зрабіў паўзу, каб падабраць патрэбныя словы, бо па-сутнасці яму трэба было аддаць загад на злачынства. Зрэшты, каго-каго, а братоў ганебным загадам не здзівіш і не абурыш...

– Вы ўжо ведаеце, што тая дзяўчына – хрысціянка. У дом Сафіі яна ходзіць на набажэнствы. І, відавочна, адна... Прынамсі, мінулым разам яе ніхто не суправаджаў. Так?

– Так, ніхто, – пацвердзіў Манасія.

– Даць рады Архелаю, нават удвох, вы не здолелі. Дык хоць дзеўку адужаеце?

– Ты пра што, гашпадар? – з насцярогаю запытаўся Эфраім.

– Пра тое, што вам патрэбна перaняць тую дзяўчыну ў зацішным месцы, схапіць яе – толькі каб не было лішняга ляманту! – і даставіць сюды.

– Як гэта – “даставіць”? Мы што, праз увесь горад яе на плячах папром? – здзівіўся Манасія.

– Не на плячах, – заспакоіў яго Акіла. – З гэтаю мэтаю сёння я куплю каруку. Яна мне ўсё адно патрэбная – надакучыла ўжо наймаць рамізнікаў...

– А дзе мы яе трымацьмем? – Эфраім усё яшчэ насцярожана ставіўся да загаду Акілы. – Не будзе ж яна штаяць цэлымі днямі навідавоку...

– Каруку вы возьмеце толькі ў суботу. Я ўпэўнены, што менавіта ў гэты дзень, а лепей сказаць, у гэтую ноч яна вам спатрэбіцца. Чаму я так думаю? Таму што на свае сходні хрысціяне звычайна збіраюцца ў ноч з суботы на нядзелю. Гэтак і ў Ерусаліме было... Лепей за ўсё схапіць дзяўчыну, калі яна ўжо будзе вяртацца са зборышча...

– Калі ты ўпэўнены, што яна пойдзе на сходню ў суботу, дык навошта нам аціраца там у астатнія дні? – слушна запытаўся Манасія, тым самым засведчыўшы, што ён не зусім прасцяк. – Людзям вочы мазоліць будзем, падазрэнне выклічам... Дый абрыдла туляцца па завуголлях без аніякае карысці...

Акіла ўпершыню зірнуў на самарыцяніна з адценнем павагі.

– Пераканаў. Паедзеце ў суботу...

Такі дзёрзкі план даўся Акілу няпроста: злачынства, ды яшчэ супраць волі імператара... Калі што-небудзь не атрымаецца – дакладна галава з плячэй. А куды падзецца? Дзеля Вірсавіі ён гатовы рызыкнуць нават уласнаю галавою....

А ў рэшце рэшт, чым ён, Акіла, горшы за Гнея? Сенатар жа, бач, не пагрэбаваў пайсці на такое ж злачынства, выкраў Архелая. Ну дык і адплаціць яму варта тою ж манетаю...

Эфраім і Манасія – выканаўцы, вядома ж, ненадзейныя. Але з адною дзеўкаю, бадай, сапраўды могуць справіцца, староннiх выканаўцаў Акіла наймаць не адважыўся, хоць розных бандзюкоў у Рыме ўдосталь. Задзейнічаць незнаёмых людзей у такой рызыкоўнай справе ўсё ж небяспечна. Могуць проста абдурыць, а калі і не абдураць, дык знарок ці ненаўмысна дзе-небудзь ляпнуць языком пра выкраданне, і невядома, да чыіх вушэй тое дойдзе. А яшчэ могуць потым шантажаваць, вымагаць грошы ў абмен за маўчанне... Не, выпадковыя найміты не падышлі б ніяк. Самарыцяне хоць і бязглуздыя, асілкамі іх таксама не назавеш, але ўсё ж свае, праверaныя.

Акіла добра прадумаў і наступны крок. А менавіта: што рабіць з Вірсавіяй апасля, калі яна апынецца ў ягоных руках? На першым часе, каб не трапіла на чужое вока, давядзецца трымаць яе ў той клетцы, дзе зусім нядаўна месціўся Архелай. Гней, безумоўна, кінецца шукаць рабыню, аднак малаверагодна, што ён западозрыць у выкраданні яго, Акілу. Сенатару нават у галаву не ўзбрыдзе, што нехта, а тым болей Акіла, асмеліцца не выканаць загад імператара... Зусім натуральнаю і вельмі праўдзіваю выглядацьме іншая версія. Адзінокая дзяўчына цёмначы ішла дадому, у трушчобах (а на ўскраіне акурат і ёсць трушчобы) яе перанялі нейкія зламыснікі-гвалтаўнікі, завалаклі ў сваё лежбішча і, уволю нацешыўшыся маладым целам, маглі забіць. Яе ўжо шукаць няма сэнсу...

Праз тыдзень-другі Акіла спадзяваўся марскім шляхам (балазе, ёсць у яго знаёмыя гандляры) таемна пераправіць Вірсавію ў Іудзею, потым ён папросіць імператара, каб той адпусціў яго ў Элію Капіталіну, бо, маўляў,

рукі свярбяць без працы, хочацца як мага хутчэй давесці да ладу пачатае... Можна не сумнявацца, што Адрыян дасць згоду: навошта яму трымаць паблізу чалавека, які апошнім часам зрабіўся нялюбым?

Акіла не перажываў і нават не засмучаўся, што давядзецца пакінуць Рым. Наадварот, яму паспеў ужо абрыднуць гэты вялізны, мітуслівы горад, дзе адчуваеш сябе пясчынкаю. А ў Эліі Капіталіне ён, Акіла, – велічыня! Гаспадар і сам сабе, і іншым! А цяпер жыццё ўвогуле выглядацьме райскім, бо побач будзе Вірсавія...

Захапіць дзяўчыну Эфраім і Манасія наважыліся не каля Гнеевага падворка, а далёка за горадам. Разважалі так. Невядома, у які час яна будзе вяртацца ад Сафіі. Калі цёмначы, дык можна было б скруціць дзяўчыну і ў горадзе: ноччу вуліцы нібы вымiраюць, ніводнай душы нямашака, хіба што бандыты раз-пораз шастаюць. Дык яны і самі, выходзіць, цяпер бандыты... А калі дзяўчына пакіне дом Сафіі на досвітку? У такім разе ў горадзе, нават на ўскраіне, рабіць захоп не выпадае: на вуліцах ужо шматлюдна. А вось за межамі Рыма, хай сабе і раніцай, можна падцікаваць момант, калі на дарозе нікога не будзе. Акрамя таго, у горадзе няма дзе прыткнуцца з карукаю. Там, паблізу дома Сафіі, павозка падазрэння не выкліча: можа, хто-небудзь акурат і прыехаў на тое набажэнства....

Яшчэ засветла Манасія загнаў каруку ў паселішча, дзе жыла Сафія, і стаў чакаць. Эфраім жа на ўсялякі выпадак застаўся віжаваць за домам Гнея, каб упэўніцца, што дзяўчына сапраўды выправіцца на сходню.

Яна і выправілася. Але Эфраіма гэта не дужа ўзрадавала. Дзяўчына была не адна! Побач з ёю пратупаў нейкі мужчына, захінуты ў салдацкі плашч!

Трымаючыся воддаль, Эфраім пацёгся за імі следам. Ён яшчэ спадзяваўся, што мужчына трохі правядзе спадарожніцу дый вернецца назад. Ажно не, не вярнуўся, удвох яны зайшлі і ў дом Сафіі.

Правёўшы іх позіркам, Эфраім паспяшаўся ва ўмоўнае месца, дзе, разлёгшыся ў каруцы, яго чакаў Манасія.

– Ну, капец, нічога не атрымаецца, – засопшыся, на хаду выдыхнуў ён брату.

– Што, дзеўка не пайшла? – страсянуўшы галавою, каб адкінуць рэшткі сну, з трывогаю запытаўся заспеты знянацку Манасія.

– Пайшла. Але не адна. Ж ёю нейкі мужык прыцёгша...

– Што за мужык? Ці не той, каго мы бачылі, калі ён хадзіў на рынак?

– Падобна, што той.

– Дрэнь справы...

Браты надоўга прымоўклі. Кожны разумеў: калі яны сёння не прывязуць дзеўку, Акіла ўшчэнт разгневаецца, і ніякія спасылкі на “нейкага мужыка” яго не задаволяць. Ён можа проста не паверыць. Палічыць, што браты забаяліся і, каб апраўдацца, прыдумалі таго “дзецюка”. А ў Акілы ж яшчэ злосць за Архелая з галавы не выветрылася...

– Дык што рабіць будзем? – нарэшце падаў голас Эфраім.

– Як што? – напусціў на сябе ваяўнічы выгляд Манасія. – Без дзеўкі нам вяртацца нельга. Акіла са свету зжыве. Застаецца адно: даць таму мужыку па чэрапе і... Наколькі я заўважыў, ён ужо не маладзён. Удвох, можа, адужаем...

– Ты ўжо адужаў таго хлопца, які Архелая выжваляў! – асадзіў брата Эфраім. – Мацак зашраны! Я ж па выпраўцы бачыў, што гэта быў легіянер.

– Ну і што? – не здаваўся Манасія. – Хай сабе і легіянер. Але ж ён ужо струхнелы, як пень. Дый навошта нам з ім дужацца? Трэснем ззаду якім калом ці каменем па галаве – і ўся турбота. Трэба толькі пашукаць вакол што-небудзь належнае...

Эфраім задумаўся. Яно і праўда: калі знянацку, ззаду, ды яшчэ цаглінаю...

– Угаварыў, – у рэшце рэшт пагадзіўся ён. – Пакуль відно, пашукай харошую жброю...

Хрысціяне насамрэч пачалі разыходзіцца з падворка Сафіі ўжо на досвітку, так што браты разлічылі правільна. Выйшаў на вулку і легіянер, але нікуды не падаўся, стаў чакаць дзяўчыну, якая, відаць, затрымалася, каб перакінуцца словам з гаспадыняю. Вось, нарэшце, і яна...

Спадарожнікі шпаркаю хадою пашыбавалі ў бок горада. Трохі перачакаўшы, Эфраім тузануў за лейцы: цяпер ужо ён выконваў ролю фурмана.

Нейкі час павозка трымалася воддаль ад хадакоў, каня Эфраім не паганяў, і той нетаропка цокаў капытамі па брукаванцы. Калі ж наперадзе абапал дарогі паказаўся рэдкі хмызняк, Манасія загадаў брату:

– Гані!

Эфраім замахнуўся бізуном...

Хадакі пачулі ззаду тарахценне, але нават не азірнуліся, толькі саступілі з дарогі трохі ўбок, каб не замінаць павозцы. А яна, зусім наблізіўшыся да падарожнікаў, раптам суцішыла ход, у наступнае імгненне з-за полагу карукі на хаду высунуў сваё доўгае цела Манасія і тоўстым калом, які трымаў аберуч, ззаду з размаху выцяў легіянера. Біць было зручна, бо мужчына знаходзіўся бліжэй да дарогі. Манасія цэліў у галаву, ды ўсё-ткі прамахнуўся. Удар прыйшоўся ў карак, а больш у плечы. Зрэшты, і гэтага хапіла, каб легіянер, па інерцыі зрабіўшы два крокі наперад, пластом гупнуў тварам у зямлю і нават не паварушыўся.

– А-а! – жахнулася і ўскрыкнула дзяўчына.

Карука ўжо застыла на месцы, і браты, саскочыўшы, кінуліся да ахвяры. Манасія цешыў сябе думкаю, што асноўная задача выканана, легіянер замінаць не будзе, аднак ён вельмі памыліўся. Дзяўчына аказала гэткі супраціў, што лепей бы ім падужацца з легіянерам... Яна выгіналася, выслізгвала з рук, драпалася, кусалася і пры гэтым голасна клікала на помач. Манасіі давялося некалькі разоў ударыць яе ў патыліцу...

У рэшце рэшт братам удалося падцягнуць дзяўчыну да карукі, нават ускінуць лёгенькае цельца наверх. Крычаць ахвяра ўжо не магла, бо Эфраім уваткнуў ёй у рот загадзя падрыхтаваную анучу.

Захопленыя барацьбой, браты не скмецілі, як ззаду падбеглі два хлапцы...

Ад моцнага ўдару кулаком у сківіцу Манасія праляцеў некалькі метраў, і ягонае цела, развярнуўшыся ў паветры, чвякнулася вобзем побач з усё яшчэ нерухомым целам легіянера. Такую ж зубатычыну атрымаў і Эфраім. Іх абодвух, ужо ляжачых, хлопцы пачалі шчодра “частаваць” насакамі – аж да тае пары, пакуль вакол целаў не расцякліся лужыны крыві...

## У Нявіевым гаі

Нявіевы гай месціўся на ўсходзе ад Рыма і служыў прытулкам для бандыцкіх зграй. Тут яны рыхтаваліся да сваіх “акцый”, лячылі параненых,

адлежваліся пасля наскокаў на горад. Сваю “вотчыну” мела ў гаі і групоўка Эміля. Зрэшты, яна рэдка збіралася тут у поўным складзе, большасць чальцоў суполкі заставалася начаваць у горадзе, бо толькі ад ускраіны да гаю – больш як гадзіна шпаркае хады.

Прайшлі два тыдні, як Эміль прывёў сюды Архелая, і той ужо трохі занудзеў ад бяздзеяння і чакання. Эміль слушна палічыў, што Архелаю не варта пакуль што наведвацца ў горад, бо паліцэйскія, безумоўна, ужо вызыркваюць яго ў чалавечай гурме. Дый якая ў тым патрэба? У пошуках Вірсавіі з Архелая карысці аніякай, бо ён не ведае ні горада, ні людзей, а для “зладзейскага промыслу” ў яго не стае навыкаў.

Між тым “знанага рымляніна без рукі” паплечнікі Эміля па ягоным загадзе шукалі кожны дзень. І, нарэшце, пранырлівы малады грэк Філонік прынёс вестку, якая абнадзеіла:

– Бачыў я такога чалавека. Ён выходзіў з Сената.

– Ты прасачыў, куды ён падаўся потым? – строга спытаўся Эміль.

– А то як жа! Жыве на паўднёвай ускраіне. Дом – так сабе, нічога адметнага, – і, трохі запнуўшыся, дадаў: – Гэты чалавек вельмі падобны на яго, – Філонік кіўнуў у бок Архелая.

– Вось як? – Эміль таксама зірнуў на Архелая, не хаваючы ўсмешку. – Аказваецца, у Рыме ў цябе ёсць знаная радня, а ты ўтойваеш...

– Ды ў мяне ў цэлым свеце радні нямашака! – паспяшаўся запэўніць Архелай, але Эміль яго асадзіў:

– Жартую. Ці мала ёсць падобных людзей...

Філоніку, ды яшчэ шыракагрудаму асілку Дакусу, было даручана віжаваць за домам бязрукага сенатара ад усходу сонца да прыцемкаў, выявіць, ці не прыслужвае гаспадару “рабыня з мазаічнымі зрэнкамі”, якую завуць Вірсавіяй.

Праўда, асілак Дакус паспрабаваў запярэчыць Эмілю:

– Навошта нам траціць час дарма, туляцца вакол таго дома, калі можна проста ўварвацца ў яго і агледзець кожнага насельніка?

– Ні ў якім разе! Бязрукі ўсё-ткі сенатар. Потым усю паліцыю на нас нацкуе. І да таго ж, – Эміль зноўку кінуў усмешлівы позірк на Архелая, – не варта ўсчыняць гвалт з магчымай радні нашага сябра...

Архелай і сам парываўся заступіць на тое “дзяжурства” каля дома сенатара, бо яму не давядзецца пазнаваць Вірсавію, калі яна там ёсць, па нейкіх прыкметах, аднак Эміль яму не дазволіў:

– Не варта табе дачасна свяціцца. А мае хлопцы, павер, усё зробяць як след.

Філонік і Дакус “заступілі на дзяжурства” з раніцы наступнага дня, а была акурат субота. Дзіўна, але вечарам у Нявіевы гай яны не вярнуліся. Эміль і Архелай нават захваляваліся: ці не пагрэбавалі хлопцы загадам не ўсчыняць гвалт? Магчыма, усё ж палезлі напралом і трапілі ў непрыемную сітуацыю...

Пасылаць іншых людзей, каб яны ўсё выведалі, было позна, насоўвалася ноч. Вырашылі пачакаць да раніцы, і калі “шпегі” не з’явяцца, Эміль сам збіраўся падацца на паўднёвую ўскраіну, бо добра ведаў тыя мясціны і прыкладна ўяўляў, дзе знаходзіцца дом бязрукага сенатара.

Аднак выпраўляцца туды Эмілю не давялося. Сонца яшчэ не цалкам выплыла з-за акаёму, а ўжо лясную цішыню і насельнікаў лагера абудзілі ляскат-тарахцене і зычны голас Філоніка:

– Тпр-ру, ліха на цябе!

Да лагера, гулка падскокваючы на калдобінах і карэнні, па лясной сцежцы імкліва неслася дыхтоўная карука. Прымусіўшы, нарэшце, спыніцца каня, з карукі па-заліхвацку саскочыў Філонік (Дакус самавіта сядзеў ззаду) і адрапартаваў збянтэжанаму Эмілю, які яшчэ не працёр вачэй:

– Вось, атрымлівай трафей!

– Які трафей? Пра што ты вярзеш? Дзе вы ўзялі гэтую павозку?

– Законна канфіскавалі як прыладу злачынства!

– Давай усё па парадку.

Да Эміля ўжо далучыліся Архелай і астатнія “лясныя браты”, якія таксама паўсхопліваліся са сваіх лежбішчаў. Філонік ганарліва распачаў свой аповед...

Па праўдзе кажучы, у Філоніка і Дакуса ўсё ж не было вялікае жадобы цэлы дзень аціраціца каля дома бязрукага рымляніна. Калі сенатар пакіне сваё жытло, вырашылі яны, можна патрапіць у дом (спосабаў у спрактыкаваных злодзеяў-махляроў мелася ўдостатку) і агледзець усіх насельнікаў. Там, пэўна, застануцца жонка гаспадара і рабы. Калі яны і перапужаюцца, дык нічога страшнага: столькі вэрхалу, як сам сенатар, яны не наробяць, тым болей што рабаваць ці красці хлопцы на гэты раз не збіраліся.

Аднак жа сенатар на службу так і не выбраўся, таму пранікнуць у дом Філонік і Дакус не рызыкнулі.

Яны добрасумленна правіжавалі цэлы дзень і ўжо ў прыцемках намерваліся пакінуць свой “пост”, як нечакана вароты расчыніліся, і на вулцы з’явіліся дзве постаці – мужчынская і жаночая. Мужчына быў захінуты ў плашч, таму ягоны твар разгледзець не ўдалося, а вось жанчына, дакладней, дзяўчына, чамусьці акурат азіралася, і ейнае аблічча, не зусім прыкрытае паллай, пільныя хлапечыя вочы зафіксавалі добра. Безумоўна, у лёгкім паўзмроку ды яшчэ здалёк “мазаічныя зрэнкі” яны не разгледзелі, але ўсе астатнія прыкметы сыходзіліся. Дзяўчына сапраўды была неверагоднай пекнаты. Філонік нават пазайздросціў Архелаю, падумаўшы, што і сам шукаў бы такое боскае стварэнне па ўсім свеце.

“Шпегі” моўчкі пераглянуліся: памылкі быць не можа, гэта і ёсць тая самая Вірсавія.

– Лічы, заданне выканана, – задаволена сказаў Філонік. – Дзеўка, якую мы шукаем, жыве тут. Хадзем у гай, даложым Эмілю, а ён хай думае, што рабіць далей.

– Не ўсё так проста, – запярэчыў разважлівы Дакус. – Калі яна тут жыве, дык навошта выпраўляцца з дому на ноч гледзячы? Магчыма, сенатар засяліў рабыню ў іншым месцы, а тут яна толькі прыслугоўвае. Трэба прасачыць, куды яны пойдуць. У любым выпадку чым больш мецьмем звестак пра Вірсавію, тым лепей. А то, чаго добрага, Эміль палічыць, што мы справіліся з заданнем не так, як мае быць...

І “шпегі”, застаючыся далёка ззаду, рушылі ўслед за падарожнікамі. Праз некалькі крокаў перад імі з завулка вынырнуў нейкі плюгавы таўстапузы дзяцюк і падаўся ў тым жа накірунку, але хлопцы не звярнулі на яго ўвагі: ці мала хто крочыць па дарозе па сваёй патрэбе.

Злавала, што давялося адолець ладны кавалак шляху і трохі натрудзіць ногі, пакуль Вірсавія і ейны спадарожнік не зайшлі ў надта адмысловы дом. Філонік і Дакус трохі пастаялі воддаль і заўважылі, што ў гэты ж дом, папярэдне лёгка пастукаўшы ў вароты, быццам падаючы ўмоўны сігнал, раз-пораз заходзяць і іншыя прыхадні, прычым рознага ўзросту – ад зусім састарэлага да маладзёна.

– Не, – зрабіў выснову Дакус, – Вірсавія тут не жыве. Тут проста ладзіцца нейкая сходня. І нам варта дачакацца, пакуль яна скончыцца, прасачыць іхні далейшы шлях.

Сходня зацягнулася амаль на ўсю ноч. Філонік і Дакус нават умудрыліся пачаргова падрамаць.

Калі Вірсавія і ейны спадарожнік рушылі ў зваротным кірунку, хлопцы пайшлі за імі. Зрэшты, цяпер усё было ясна, і сочка ўжо не мела сэнсу, аднак шлях у горад – адзін.

Недзе на паўдарозе Філоніка і Дакуса ледзь не збіла з ног карука, якая неслася ззаду з шалёнаю хуткасцю. Хлопцы паспелі адскочыць убок, а Філонік паслаў фурману марную пагрозу:

– Ну, пападзешся ты ў мае рукі!

Дакус жа ў гэтым фурмане пазнаў таго самага дзецюка, таўстая постаць якога на дарозе мільгацела перад іхнімі вачыма яшчэ з вечара. Выпадковасць ці нешта падазронае?

Адказ на гэтае пытанне быў атрыманы праз хвіліну, калі карука, параўняўшыся з Вірсавіяй і спадарожнікам, запаволіла ход, з яе высунулася цыбатая постаць і гахнула калом па галаве ці па спіне мужчыны, з-за чаго той адразу зваліўся.

Ад нечаканкі Філонік і Дакус ажно разявілі раты, нават спынілі хаду, а затым адначасна сарваліся з месца...

Хлопцы паспелі своечасова: праз некалькі імгненняў карука панеслася б далей, бо нападнікі ўжо ўкінулі Вірсавію ўсярэдзіну і самі збіраліся на яе заскочыць. Пакуль беглі, Філонік і Дакус літаральна скрыгаталі зубамі ад злосці, яны нават крычалі, аднак нападнікі, відаць, не чулі іхніх галасоў, бо Вірсавія лямантавала яшчэ гучней. Бачылі хлопцы і тое, што даўгалыгі дзяцюк, каб суцішыць Вірсавію, некалькі разоў вутнуў яе кулаком па галаве, а другі, пузаты, засунуў ёй у рот анучу. Ад такога відовішча Філонік і Дакус проста дайшлі да шаленства...

Не дзіва, што білі яны з гэткаю лютасцю – як не ў сабе. Спыніліся толькі тады, калі ад чужое крыві забарвяніліся сандалеты і вопратка.

Вірсавіі жудасна было назіраць за гэтаю бойняю, яна нават парывалася спыніць сваіх нечаканых абаронцаў, але рот быў заткнуты анучаю, а на рукі ззаду нападнікі паспелі накінуць нейкую вяроўку.

Філонік першым чынам вызваліў Вірсавію, а Дакус падышоў да ейнага спадарожніка. Зрэшты, той ачомаўся і сам стаў падымацца на карачкі: удар ён атрымаў моцны, але, мусіць, хрыбетнік усё ж не пашкоджаны.

Толькі потым Дакус зноўку падступіўся да нападнікаў, якія па-ранейшаму ляжалі нерухома, пачаргова нахіліўся над імі і абыякава мовіў:

– Пэўна, канец абодвум. Заслужылі...

– Цябе Вірсавіяй завуць? – на ўсялякі выпадак запытаўся Філонік, хоць у яго не было сумневу, што гэта яна і ёсць.

Дзяўчына моўчкі кіўнула галавою, нават не задумаўшыся, адкуль гэты хлопец ведае яе імя.

– Сядайце ў каруку, завязём вас дадому, – прапанаваў Філонік. – Бо гэтаму, – ён позіркам паказаў на спадарожніка, – і да полудня не дабрацца.

– А хіба вы ведаеце, дзе мы жывём? – нарэшце дайшла да розуму Вірсавія.

– Ведаем... – буркнуў Філонік. – Сядайце.

Чацвярым у каруцы было цеснавата, але яны без прыгодаў даехалі да

Гнеевага дома, прычым усе маўчалі: Філонік і Дакус з-за таго, што асцерагаліся балбатнуць лішняе (немаведама, што наўме ў Эміля і Архелая), спадарожнік крактаў ад болю, а Вірсавія, пабачыўшы жорсткасць гэтых хлопцаў, проста баялася іх, хоць яны і ўратавалі ад разбойнікаў. Ужо каля самага падворка дзяўчына ўсё ж асмелілася запытацца:

– Хто вы такія? Каму нам дзякаваць?

– Нікому... – суха мовіў Філонік. – Хаця не... Падзякуй Гермесу. Есць такі грэчаскі бог, які апекуе злодзеяў...

Было б неразумна кідаць каруку і самім пешшу дабірацца да Нявіевага гаю.

– У гаспадарцы ўсё прыгадзіцца, – падсумаваў свой аповед Філонік. – У Рым цяпер ездзіцьмем як патрыцыі...

Потым, схамянуўшыся, дадаў:

– Прынамсі, ты, Эміль, будзеш ездзіць...

Архелай ад пачутага ледзь не ашалеў. Знайшлася Вірсавія! І яна блізка, можна сказць, падаць рукою! Ён парываўся зараз жа выправіцца ў дарогу, але Эміль астудзіў ягоны імпэт:

– Не спяшайся. Трэба абмазгаваць, як табе найлепш паўстаць перад вачыма сваёй абранніцы. Ад радасці ў яе і сэрца разарвацца можа... Жартую. Але за домам варта дзень-другі паназіраць, каб высветліць, у якім статусе зараз твая Вірсавія.

– Што ты маеш на ўвазе?

– Рабыня яна ці, можа, бязрукі ўжо вольную даў. Усяляк бывае. Няхай мае хлопцы трохі параспытваюць. Так што астынь. Столькі часу не бачыліся, дык і яшчэ пару дзён патрываць зможаш...

Ужо недзе праз паўгадзіны, конча супакоіўшыся і трохі пакумекаўшы, Архелай падышоў да Дакуса.

– Скажы, а як выглядалі тыя нападнікі?

– Ну, калі коратка, дык адзін пузаты, другі цыбаты.

– Я так і думаў! – Архелай даланёю ляпнуў сабе па лобе. – Гэта ж Эфраім і Манасія! Іх жа Акіла паслаў!

– Хто такі Акіла?

– А-а, ты ўсё адно яго не ведаеш. А тым дзецюкам вы добра ўсыпалі?

– Лепш не бывае. Думаю, іхнія душы ўжо адляцелі ў царства Аіда...

– Ты ўпэўнены?

– Сам правяраў.

– Ну і няхай. Так ім і трэба.

Нарэшце ў галаве Архелая малюнак акрэсліўся цалкам. Гэта ж напярэдадні Акіла вазіў яго акурат да таго дома, дзе жыве бязрукі сенатар, бо нейкім чынам пранюхаў, што там жыве Вірсавія. Хацеў яе выкупіць, ды ўгода, мусіць, не адбылася, вось і замысліў проста яе выкрасці. Адно Архелаю было няўцям: чаму Акіла вазіў яго да таго дома? Ён жа не ведае пра ягоныя стасункі з Вірсавіяй...

### Два трупы

Акіла хваляваўся: самарыцяне павінны былі вярнуцца ўжо даўно – калі не з Вірсавіяй, дык хоць бы самі, са справаздачай. І толькі бліжэй да раніцы з прыхаду пачуліся галасы, праўда, чамусьці незнаёмыя.

– Ёсць хто-небудзь у доме? – гукнуў нехта.

Акіла выйшаў у атрый. Каля дома стаяла павозка, але зусім не тая,

якую ён купіў некалькі дзён таму. Каля яе пераміналіся з нагі на нагу два дзецюкі ў простых сялянскіх туніках з кароткімі рукавамі.

– Што вам трэба? – строга запытаўся Акіла.

– Трэба, мусіць, не нам, а табе, гаспадар, – спакойна адказаў прыземісты дзяцюк сталага ўзросту. – Вунь, зірні, – ён паказаў пальцам на павозку.

З насцярогаю Акіла падышоў бліжэй. У павозцы ляжалі два целы – настолькі змардаваныя і акрываўленыя, што Акіла не адразу пазнаў у іх Эфраіма і Манасію...

– Твае людзі? – прыземісты дзяцюк запытальна зірнуў на гаспадара.

– Ш-што з імі? – замест адказу, заікаючыся, у сваю чаргу запытаўся Акіла.

– Дык твае ці не твае?

– М-мае... Але чаму яны... такія? Яны што, мёртвыя?

– Адзін, здэцца, пакуль што жывы. Ва ўсякім разе, калі мы яго грузілі на павозку, дык яшчэ стагнаў.

– Што з імі здарылася?

– А ліха яго ведае. За горадам мы іх знайшлі. Я, во, з сынам ехаў на рынак, гляджу, каля дарогі ляжаць... І крыві многа. Падышлі. Адзін – той, што даўгалыгі – ужо мёртвы быў, гэта дакладна. А другі, пузаты, яшчэ хрыпеў. Распрабаваў яго параспытваць, ды дзе там! Адны крывавыя бурбалкі з роту... Толькі і разабраць было, што “Патрыцыянская” ды “Тамфіліеў дом”. Я падумаў, што гэта ж ён свой адрас называе. Дык не кідаць жа людзей на дарозе – яшчэ сабакі на кавалкі парвуць... Ты ж ведаеш, у горад з павозкамі нельга, але з такім грузам... Паліцэйскія дазволілі, яшчэ і падказалі, як даехаць лацвей, а так паўдня твой дом шукаў бы... А кім яны табе даводзяцца? Нейкая радня? Бо на рабоў не надта падобныя...

Акіла быццам не пачуў ягонага пытання.

– Карукі побач з імі не было? – пільна-падазрона зірнуў ён на дзецюка.

– Не, не было, – прастадушна адказаў той, і Акіла зразумеў, што ён не хлусіць.

– Дык нам іх у дом заносіць, ці што?

– Заносьце... – нехаця буркнуў Акіла.

Дзецюкі, падхапіўшы целы пад пахі і за ногі, пачаргова перавалаклі іх у атрый: спярша – Манасію, затым – Эфраіма. Акіла загадаў пакласці самарыцян з прыхаду – каб не запэцкаць падлогу, бо з адзення ўсё яшчэ капала кроў.

Эфраім, падобна, пакуль што не сканаў: калі цела кінулі на мармур, пачуўся ціхі стогн.

Малодшы дзяцюк памкнуўся да павозкі, а старэйшы чамусьці не спяшаўся пакінуць дом, з-пад ілба зыркаў на Акілу.

– Што яшчэ?

– Гаспадар, ты б заплаціў нам трохі... Усё-ткі паслугу табе зрабілі, цягалі іх дый часу столькі патрацілі...

Акіла павагаўся, але дастаў з мяшэчка тры срэбныя манеты.

– Малавата будзе... – незадаволена мовіў дзяцюк.

– Досыць! – асадзіў яго Акіла. – Я вас не прасіў везці іх сюды. Можа, каб пакінулі на месцы, дык і лепей было б... А так, во, клопату займеў...

– Кім бы яны табе ні былі, ды людзі ўсё ж... – дакорліва сказаў дзяцюк, непрыязна страсянуў галавою, аднак жа пасунуўся з атрыя.

Клопату Акіла і сапраўды займеў нямала: па-першае, ягоная задума з выкраданнем Вірсавіі не прынесла плёну, па-другое, невядома, у які пе-

раплёт трапілі самарыцяне, па-трэцяе, належала вырашыць, што цяпер з імі рабіць. На добры толк, найперш варта было б паклікаць лекара, каб агледзеў і, магчыма, дапамог Эфраіму, але Акіла гэтую думку адкінуў адразу ж: самарыцянін, па ўсім бачна, ужо не жылец, праз гадзіну-другую ўсё адно сканае, а лекару трэба заплаціць немалыя грошы.

Каб не глядзець на знявечаныя, акрываўленыя целы, Акіла падаўся ў перыстыль: трэба было спакойна, разважліва ацаніць сітуацыю і акрэсліць далейшыя дзеянні.

Пры ўсім сваім жаданні і хваравітай фантазіі Акіла не мог даўмець ці проста ўявіць, што здарылася з Эфраімам і Манасіяй. Калі ўлічыць, што іх знайшлі каля дарогі, дык, падобна, яны ўсё ж спрабавалі захапіць Вірсавію, але чамусьці не здолелі. Хто-небудзь яе суправаджаў і кінуўся абараняць? Малаверагодна. Ведаючы баязлівасць братоў, можна не сумнявацца, што яны нізавошта не адважыліся б зрабіць напад, калі б побач з Вірсавіяй быў нехта іншы, тым больш мужчына. Падужацца з адною дзеўкаю яшчэ асмеліліся б, а з мужыком... Не, гэты варыянт выключаецца. Браты наскочылі на Вірсавію, калі яна сапраўды была адна, а потым нехта прыйшоў ёй на помач? Такі зыход магчымы. Але навошта было тым "памагатым" збіваць самарыцян да смерці? Ну, натаўхалі б у рэбры, ну, вызвалілі б дзеўку... А можа, ім закарцела завалодаць карукаю, і, каб не пакідаць сведкаў, іх проста забілі? У такім разе і Вірсавія ні пры чым, яе там магло і не быць.

Не, да пэўнай высновы Акілу ўсё адно не прыйсці... Яму раптам здалося, што з атрыя даносіцца голас. Прыслухаўся. Так і ёсць, падобна, Эфраім трохі ачуняў. Акіла кінуўся ў атрый.

Вочы Эфраіма былі ўжо расплюшчаныя, ён сапраўды парываўся нешта сказаць, але з вуснаў сачылася толькі крывавая пена і незразумелае мармытанне. Акіла ўбачыў, што самарыцянін дажывае апошнія хвіліны. Гэта быў апошні шанец што-небудзь выведаць, і Акіла вырашыў ім скарыстацца. Эфраім гаварыць не мог, але было бачна, што ён усё чуе і разумее.

– Слухай і адказвай на мае пытанні вачыма, – таропка загадаў Акіла. – Калі захочаш пацвердзіць тое, што я скажу, – закрый павекі.

Эфраім іх і закрыў, засведчыўшы тым самым, што ён усё зразумеў.

– Вось і добра. Вы бачылі Вірсавію? Вы паспрабавалі яе захапіць?

Эфраім міргнуў.

– Вам перашкодзілі? На вас нехта напаў?

Самарыцянін міргнуў зноўку.

– Вы пазналі нападнікаў? Ці былі сярод іх Архелай або Гней?

Эфраім уторкнуўся ў гаспадара застылым позіркам. Значыць, не было...

Акіла хацеў працягваць гэты нязвыклы роспыт, але з грудзей Эфраіма нечакана з хрыпам вырваліся словы – відаць, смерць зусім злітавалася з яго і дала не толькі палёгку, але і магчымасць вымавіць сваю апошнюю таямніцу.

– Архелай... ардынарац... Бар Кохбы... – паспеў пачуць Акіла, перш чым павекі Эфраіма заплюшчыліся навекі. Нават апошняе імгненне самарыцянін скарыстаў для таго, каб зрабіць некаму подласць...

– Што? Што ты сказаў? – схапіўшы за вопратку на грудзях, Акіла пачаў тузаць нерухомае цела, але марна. Зрэшты, словы Эфраіма ён пачуў. Але пакуль што не ўнікнуў у іхні сэнс і не задумваўся, ці прыдадуцца яны потым.

Цяпер ужо дакладна ў атрыі ляжалі два трупы, і ад іх трэба было пазбавіцца як мага хутчэй.

Акіла, вядома ж, не меў намеру ладкаваць для самарыцян належнае пахаванне, хаця б самае простае – такое, якога заслугоўваў звычайны рымлянін. Нябожчыка клалі ў атрый на высокае ложа (у багатых яно было аздобленае слановаю косткаю ці ў горшым выпадку мела такія ножкі), нагамі да выхаду. Каля ложа запальвалі свечкі, ставілі курыльніцы з водарамі і кандэлябры з каганцамі або з падпаленай смалой, пасыпалі кветкі. Перад дзвярыма на вуліцы ставілі вялікую яловую або кіпарысавую галіну, прысвечаную богу падземнага царства – як пазнаку таго, што ў доме нехта памёр. Гэтая галіна перасцерагала тых, хто крочыў міма, каб прынесці ахвяру, ад уваходу ў дом, які лічыўся апаганеным прысутнасцю нябожчыка. Колькасць дзён, на працягу якіх цела павінна заставацца ў доме, не была абавязковай. Каго хавалі ў той жа дзень, каго – назаўтра да заходу сонца, а імператараў увогуле накіроўвалі "на нябёсы" праз тыдзень.

Вяшчальнік голасна галёкаў на ўсю вуліцу, запрашаючы народ збірацца на праводзіны нябожчыка, накшталт: "Місон сканаў. Хто хацеў бы пайсці на пахаванне, дык ужо час. Яго выносяць з дома".

Для пахавальнай працэсіі багацейшыя рымляне наймалі музыкаў, факельшчыкаў і плакальшчыкаў, якія абліваліся слязамі, гучна крычалі, рвалі на сабе валасы і, паводле Гарацыя, "гаварылі і рабілі болей, чым тыя, што журылся ад душы".

Дазвол на пахаванне ў Рыме даваўся рэдка і за вялікія заслугі. Аднак агульныя могілкі існавалі толькі для самых збяднелых, жабракоў і рабоў. Людзі з дастаткам набывалі для сваіх магіл месцы за горадам, пераважна ўздоўж вялікіх дарог, у сямейным склепе.

Цела спярша спальвалі на пахавальным вогнішчы ў выглядзе алтара і толькі потым попел закопвалі...

Дык ці мог Акіла пайсці на такую затратную і клопатную працэдуру дзеля нейкіх апрыкрых самарыцян, якія, па праўдзе кажучы, яму ўжо даўно абрыдлі? Безумоўна, не мог.

Ён выйшаў на вуліцу, злавіў за руку хлапчука, які прабягаў міма, і наказаў яму:

– Збегай да магільшчыкаў, скажы ім, каб забралі з майго дома два трупы. А я табе за гэта потым сестэрцыю дам...

– Дзве! – хлапчук вытыркнуў з кулака два пальцы і патлумачыў: – Два трупы – дзве сестэрцыі!

– Ну, хай сабе і так...

Пахавальны катафалк доўга не забавіўся. Два мажныя дзецюкі ўвайшлі ў атрый.

– Гэтых? – адразу ж запытаўся граміла з пісягом на твары, а потым, згледзеўшы, у якім стане знаходзяцца целы, падазрона зірнуў на Акілу: – А чаму яны акрываўленыя? Іх забілі?

– Доўга тлумачыць... Вось вам двайная плата, і нічога не распытвайце.

У падобных выпадках магільшчыкам належыла паведаміць у паліцыю, аднак за дадатковыя грошы яны былі гатовыя і прамаўчаць, а Акіла хацеў пазбегнуць доўгага разбіральніцтва.

– Можа, дабавіш, дык мы іх пахаваем з ушанаваннем? – граміла з надзеяй зірнуў на гаспадара.

– Не трэба... Спаліце і ўсё... Як рабоў... – змрочна мовіў Акіла.

– Ну, як скажаш...

Магільшчыкі памкнуліся ўжо выносіць целы з атрыя, але пасля невялікай развагі Акіла спыніў іх:

– Пачакайце...

Ён падышоў да трупаў, нахіліўся і ўсунуў у рот кожнаму па адной сестэрцыі.

– Цяпер выносце...

Гэты звычай рымляне запазычылі ў грэкаў. Манета ў рот нябожчыка ўкладвалася для таго, каб ён заплаціў Харону пры пераправе цераз Стыкс...

## ...І сышліся тры дарогі

Пасля таго, як Гней наведаў імператара і заручыўся ягонаю падтрымкаю, у доме панаваў узнёслы настрой. Цяпер ужо, лічылі Гней і Вірсавія, ніякая небяспека Архелаю не пагражае: калі яго і знойдуць, дык будзе толькі лепей. Нават Дыядор радаваўся за свайго гаспадара і за дзяўчыну, якую ўпадабаў не толькі бацькоўскаю, але і хрысціянскаю любоўю. А ў тым, што Архелай неўзабаве знойдзецца, сумневу не было: вунь і Сафія гэта прадказала. Галоўнае ж – Акіла болей не будзе пераследаваць ні Архелая, ні Вірсавію, бо не асмеліцца пярэчыць імператару. Аднак пасля нападу на дарозе іхняя ўпэўненасць у гэтым моцна пахіснулася...

Гней доўга распытваў Вірсавію, як выглядалі тыя нападнікі. Дзяўчына да драбніц запомніла абліччы зламыснікаў: ёй жа давялося сутыкнуцца з імі літаральна тварам у твар, калі драпалася і кусалася.

Відавочна, што Вірсавію спрабавалі выкрасці. А каму яна магла спатрэбіцца? Толькі Акілу, бо ніхто іншы дзяўчыну проста не ведаў, у горадзе яна ніколі не бывала. Перабіраючы ў памяці абліччы людзей, якіх некалі давялося бачыць побач з Акілам, і параўноўваючы іх са слоўнымі партрэтамі, намаляванымі Вірсавіяй, Гней, нарэшце, згадаў, дзе і калі ён бачыў падобных людзей. Тыя два дзецюкі, якія падказалі, што штурмаваць Бетар лепш за ўсё ў суботу, акурат і назваліся тады “людзьмі Акілы”. Значыць, са сваім гаспадаром яны перабраліся і сюды, у Рым...

Выходзіць, Акіла, нягледзячы на забарону імператара, зусім не адмовіўся ад сваіх ганебных планаў і яшчэ можа нарабіць шмат паскудства!

А хто ж перашкодзіў выкраданню? Гэтае пытанне таксама вярэдзіла Гнея і Вірсавію...

Неаспрэчнае адно: тыя хлопцы апынуліся ў патрэбны час і ў патрэбным месцы зусім невыпадкова. Мусіць, яны чамусьці віжавалі ці за нападнікамі, ці за Вірсавіяй і Дыядорам. Прычым не толькі на дарозе. Інакш ніяк не растлумачыш тое, што потым без нейкіх падказак прывезлі Дыядора і Вірсавію да самага дома.

А можа, гэтыя людзі сачылі не за Вірсавіяй, а за домам Гнея, каб абрабаваць яго? Наўрад. Тут амаль няма чаго красці, дый калі мелі такую мэту, то навошта было перціся за Вірсавіяй і Дыядорам?

Сама сабою выспявала выснова: без Архелая тут не абышлося. Мусіць, ён нейкім чынам усё ж вылічыў, дзе жыве Вірсавія (а што, хлопец разумны!). Аднак жа, напэўна, сам пакуль што асцерагаецца паказацца на вочы, бо ведае, што Акіла яго шукае і, магчыма, зладзіў засаду. Вось і паслаў сваіх знаёмцаў, каб лішні раз упэўніцца, што Вірсавія жыве менавіта тут, а тыя знаёмцы акурат і заспелі нападнікаў за гнюснаю справаю. Калі Архелай паспеў з кімсьці пазнаёміцца? О, ён умее сысціся з людзьмі, дарма, што ў Рыме нядаўна, мусіць, здолеў ужо абрасці хеўраю.

Бянтэжыла толькі адно: чаму тыя хлопцы не далі пазнаку, што ведаюць Архелая? Тым не меней і Гней, і Вірсавія цешыліся надзеяй на хуткую сустрэчу з ім.

Яна, гэтая надзея, прытупляла і боль Вірсавіі: усё-ткі той цыбаты нападнік моцна настукаў ёй па галаве...

Затое Дыядор пачуваўся няблага, хоць першыя тры дні і не мог варочаць галавою – балела шыя і ныла патыліца.

Калі нехта ўвечары пастукаў у дзверы, адчыняць іх пайшоў не толькі Дыядор: у атрый аднекуль адразу ж выскачыла і Вірсавія. Усе апошнія дні яна з нецярпеннем чакала, што вось-вось з'явіцца Архелай...

Але прыйшоў не ён. Вызірнуўшы з-за пляча Дыядора, Вірсавія згледзела за парогам аднаго з тых хлопцаў, якія падсабілі ім у бядзе. Яна нават запомніла імя гэтага хлопца – Філонік, бо так называў яго паплечнік.

– У доме ёсць хто-небудзь, апрача вас і гаспадара? – з халодным выразам на твары запытаўся Філонік.

– А хто ты такі, каб цікавіцца? – насцярожыўся Дыядор.

Аднак Вірсавія збіла ягоную насцярогу, засакатала:

– Гэта ж адзін з тых, хто нас ратаваў! Хіба не помніш? Вой, ды дзе ж табе помніць, увесь час крактаў ды моршчыўся... А ты заходзь, заходзь!

Аднак Філонік не спяшаўся прыняць запрашэнне.

– Дык ёсць у доме хтосьці чужы? – паўтарыў ён.

– Не, нікога нямашака! – запэўніла Вірсавія. – А хто тут можа быць яшчэ? А-а, здагадалася, пра каго ты думаеш! Няма ў нас ніякае засады, і ўвогуле...

– Ну то і добра, – перабіў яе Філонік. – Пачакайце крыху, я зараз.

І ён растварыўся ў цемрадзі, якая паспела насунуцца.

Вірсавія прадчувала, хто зараз можа з'явіцца перад вачыма, ейнае сэрцайка вырывалася з грудзей...

Архелай вырас як з-пад зямлі: ад спуду Дыядор нават злёгку адхіснуўся, а ў Вірсавіі ледзь не падкасіліся ногі. Спярша ёй здалося, што гэта і не Архелай, а сам Гней нейкім чынам трапіў за вароты і цяпер вяртаецца дадому. І ў тым не было нічога дзіўнага: за апошнія два гады Архелай настолькі пасталеў, узмужнеў (да таго ж твар аброс шчаціннем), што ягонае падабенства з Гнеем было абсалютным – нават без папраўкі на ўзрост.

– Вірсавія! – усклікнуў ён, і толькі знаёмы голас вывеў дзяўчыну са здранцвення, яна кінулася ў абдымкі Архелая.

Моцна прытуліўшыся адно да аднаго, яны колькі хвілін стаялі моўчкі (дый ці трэба было нешта гаварыць?), слёзы Вірсавіі сцякалі на плячо каханага чалавека, а Архелай пяшчотна гладзіў абранніцу па спіне, і вочы ягоныя выпраменьвалі невыказнае шчасце...

Дыядор адчуў сябе лішнім і дробненька патупаў з атрыя. А хлопцы (акрамя Філоніка, за парогам стаяў яшчэ адзін, дагэтуль Вірсавія яго ніколі не бачыла) сысці не спяшаліся. Удавана кашлянуўшы, незнаёмец нагадаў пра сябе. Вірсавія нарэшце схамянулася, злёгку адштурхнула Архелая і вінавата мовіла:

– Што ж гэта я вас не запрашаю... Праходзьце, калі ласка!

Хлопцы і праўда ступілі ў атрый, аднак незнаёмец адразу ж патлумачыў:

– Уласна кажучы, мы не сыходзім толькі таму, што не ведаем: ты, Архелай, застаешся тут ці пойдзеш з намі? Мы можам і за варотамі пачакаць, колькі трэба...

– Тут, тут! Ён застанецца тут! – горача адказала за Архелая Вірсавія і зноўку замілавана прытулілася да ягоных грудзей.

– Пачакай, каханая, – Архелай крыху адхіліў яе ад сябе. – Ты не ўсё ведаеш. Мяне шукаюць. І могуць у любую хвіліну схапіць, нават во зараз...

– Гэта ты не ўсё ведаеш! – імпэтна зашчабятала Вірсавія. – Ніхто ўжо цябе не шукае! Мне ўсё вядома! І пра Акілу, і пра твае ўцёкі! Але цяпер нішто не пагражае! Сам імператар даў табе волю!

– Які імператар? Пра што ты?

– Імператар Адрыян! Гэта доўга пераказваць. У нас яшчэ будзе час... А пакуль што павер мне: ніякае небяспекі для цябе не існуе!

– Эміль, ты што-небудзь зразумеў? – Архелай няўцямна зірнуў на хлопца, якога Вірсавія не ведала.

– Амаль нічога, – адказаў той. – Але ў мяне ёсць адчуванне, што твая Вірсавія не хлусіць. Адбылося нешта такое, пра што мы ведаць не можам...

– Дык ты таксама лічыш, што я мог бы тут застацца... на нейкі час?

– Ды хоць назаўсёды! – усклікнуў Эміль і сцішана дадаў: – Калі, вядома, дазволіць гаспадар. Вірсавія ж, наколькі я ведаю, усяго толькі рабыня...

– Прыме яго гаспадар, яшчэ як прыме! – Вірсавія зрабіла крок да Эміля, цмокнула яго ў шчаку.

– О, лепшае ўзнагароды за ўсе высілкі мне і не трэба! – шырока ўсміхнуўшыся, сказаў хлопец.

– Эміль... – паспрабаваў уставіць слова Архелай, але сябар зразумеў, што ён хоча мовіць, і перабіў:

– Я ж сказаў: можаш заставацца тут на ўсё жыццё. Я табе дапамог, але гэта не значыць, што ты павінен заставацца ў маім атрадзе. У мяне ваяроў хапае... У рэшце рэшт кожны, у тым ліку і я, хоча знайсці сваё звыклае шчасце, а не туляцца па трушчобах... Вось ты яго і знайшоў. Ва ўсякім разе гэты дом не раўня Нявіеваму гаю... А мы можам за цябе толькі парадавацца. Ну а калі дазволіш, дык часам і наведацца. Дазволіш?

– Ды пра што ты кажаш!

– Вось і добра. А магчыма, і я табе яшчэ спатрэблюся... Нам адзін без аднаго нельга! Землякі ўсё-такі!

З таго, што сказаў гэты Эміль, Вірсавія мала зразумела, але адчувала: хлопец ён харошы, дарма што, падобна, верхаводзіць у нейкай шайцы. А яшчэ яна здагадалася, што дзякуючы Эмілю ёй удалося пазбегнуць гвалту на дарозе і што менавіта ён паспрыяў іхняй з Архелаем сустрэчы...

– Ну, мы тады пойдзем, – падсумаваў Эміль. – Бліжэйшымі днямі зазірну, можа, і не з пустымі рукамі. Пад кубак віна раскажаш мне, Архелай, як тут усе закручвалася-дзеелася...

– Абавязкова заходзь! – Вірсавія зноўку цмокнула Эміля ў шчаку – цяпер ужо на развітанне. – А віно ў нас і сваё знойдзецца.

Парукаўшыся з Архелаем, Эміль і Філонік пакінулі дом.

Усё гэта, стоячы ў табліне, завешаным фіранкаю, слухаў і назіраў Гней. У яго не ставала рашучасці ступіць у атрый.

Вірсавія разумела пачуцці Гнея і ягоную нерашучасць. Таму, як толькі хлопцы сышлі, пацягнула Архелая ў сваю спачывальню: каб падрыхтаваць яго да сустрэчы з сапраўдным бацькам, трэба было многае расказаць...

У тую ноч Архелай і Вірсавія не спалі зусім. І нават раніцаю дзяўчына не выйшла са сваёй спачывальні. Абое яны з'явіліся ў атрыі толькі ў полудзень.

Гней, каб не прапусціць гэты момант, ужо каторую гадзіну сядзеў за

картыбулам, перабіраў нейкія папірусы, хоць у гэтым не было ніякае патрэбы. Чаму яму карцела адразу ж пабачыцца з Архелаем? Гней таксама ўсю ноч не спаў, думаў, што яму варта сказаць сыну, і, здаецца, падабраў належныя словы, да таго ж, ён спадзяваўся, што Вірсавія папярэдне сама многае растлумачыць Архелаю, і не давядзецца пачынаць размову, так бы мовіць, з нуля.

З самае раніцы Гней да бляску пагаліўся, Дыядор дапамог яму апрануць сенатарскую туніку.

Першым увайшоў Архелай, Вірсавія трымалася трохі ззаду. Гней устаў, зрабіў два крокі ўбок ад картыбула.

Архелай спыніўся, нібы не асмельваючыся падысці бліжэй, і некалькі хвілін бацька і сын моўчкі пазіралі адзін аднаму ў вочы. Затым, нібы па камандзе, адначасна памкнуліся насустрач і зноў жа моўчкі абняліся, хоць Гнею адною рукою гэта было неспадручна.

Дыядор і Вірсавія сышлі з атрыя, пакінуўшы іх сам-насам.

Размова доўжылася некалькі гадзін, ва ўсім бацька і сын знайшлі паразуменне, і толькі ў адным выпадку Гней адвёў вочы ўбок, прыкрыў твар далонню. Архелай звярнуў увагу на гэты жэст і насцярожана запытаўся:

– Што-небудзь не так?

– Усё так, сынок... Не зважай...

Перад гэтым Архелай акурат распавядаў пра сваю службу ў іудзейскім войску, пра Бар Кохбу і няўзнак кінуў фразу: “Было б цікава даведацца, дзе цяпер Сімон. Загінуў? Уцёк? Трапіў у рабства?”

Архелай здагадаўся, што Гней нешта ведае і мог бы адказаць на гэтыя пытанні, таму пасняшаўся растлумачыць сваю цікавасць да лёсу Бар Кохбы:

– Ты прабач, але тады Сімон быў для мяне за бацьку... Ва ўсякім разе, ён сам так лічыў. Ды і я... Калі найміты хацелі судзіць і пакараць мяне, Сімон выратаваў мне жыццё...

– Вірсавія расказвала...

– Мне здалося, ты ведаеш, што здарылася з Сімонам...

– Ведаю... Ён загінуў. І я датычны да ягонае смерці...

– Ты яго забіў?!

– Не зусім... Пры штурме Бетара мне давялося біцца з Бар Кохбам адзін на адзін. Ён быў мужным ваяром, годным. Больш за тое, ён мяне перамог. Во гэта, – Гней паказаў позіркам на сваё абкарнанае плячо, – справа ягоных рук. Бар Кохбу заставалася толькі дабіць мяне. Ён ужо і замахнуўся... Дагэтуль я ніяк не мог зразумець, што яго тады спыніла. Бар Кохба проста застыў, як акамянелы. А цяпер мне ўсё ясна. Яго збянтэжыла нашае з табою падабенства... Выходзіць, хоць і не ведаючы мяне, хоць ускосна, але ты, Архелай, выратаваў маё жыццё...

– А што потым? – Архелай нават ускочыў з крэсла. – Што азначае тваё “не зусім”?

– Мой служка, скарыстаўшыся замінкаю Бар Кохбы, прапароў гладыусам ягоны жывот...

Архелай, як здалося Гнею, з палёгкаю ўздыхнуў: мусіць, яго ўсцешыла, што Бар Кохба загінуў па-ваярску годна, а не трапіў у палон, дзе спазнаў бы здзекі і знявагі. А яшчэ, пэўна, хлопцу усё ж было б непрыемна, калі б адзін блізкі чалавек загінуў ад рукі другога – ужо роднага па крыві...

**Дуумвір Антыох**

Апошнія дні прыносілі Акілу адны непрыемнасці. З-за таго ў ягонай душы кіпела нянавісць не толькі да Гнея і Архелая, але і выспявала злосць на Вірсавію, бо яна, падобна, ужо канчаткова выслізнула з рук. Хацелася помсціць, помсціць, помсціць... Да Архелая і Гнея яму пакуль што не падабрацца, прынамсі, Акіла яшчэ не прыдумаў, якую "жабу" ім падкласці, а вось Вірсавіі... Зрэшты, і ёй Акіла не мог зрабіць нейкае паскудства наўпрост, затое зачапіць, дапячы, зрабіць балюча – гэта зусім магчыма. Балазе, Эфраім і Манасія ўсё ж паспелі выведаць і падказаць Акілу, куды наведваецца Вірсавія кожную суботу. Саму дзеўку за ейную веру, мусіць, пакараць не ўдасца, бо яна шараговая хрысціянка, якіх у Рыме нямала – усіх не распнеш, а вось наслаць, нацкаваць каго трэба на ўсё хрысціянскае гнездзішча акурат дарэчы... Засмыліць, забаліць душа ў Вірсавіі, калі над яе аднаверцамі, і найперш над нейкай Сафіяй, навіснуць хмары! І ён ведае, як іх нагнаць! Самому Акілу "шапнуць" імператару пра хрысціянскую хеўру не выпадала: на жаль, з падачы ненавіснага Гнея Адрыян на яго пакуль што злы. Але можна зрабіць, так бы мовіць, абыходны манеўр, загрэбці жар чужымі рукамі...

Рымская імперыя складалася з правінцый, а тыя, у сваю чаргу, былі падзеленыя на муніцыпіі. Кожная муніцыпія мела так званы мясцовы сенат, на чале якога стаялі два дуумвіры. Яны ж лічыліся і вярхоўнымі суддзямі. Пры гэтым штогод адбываліся новыя выбары, і дуумвірам, каб не страціць пасаду, даводзілася дбаць пра патрэбы грамадзян, праяўляць актыўнасць.

На тэрыторыі, прылеглай да Рыма, ужо каторы год дуумвірам быў Антыох. За пасаду ён трымаўся ўчэпіста, стараўся дагадзіць і "вярхам", і "нізам".

Менавіта да Антыоха і выправіўся Акіла. Раней з дуумвірам яму сустракацца не выпадала.

Антыох жа, наадварот, Акілу ведаў, бо не раз бачыў яго побач з імператарам, таму сустрэў высокага госця ўгодліва і лісліва.

Акіла з першага позірку вызначыў, што гэты плюгавы і пляшывы таўстун з мітуслівымі вачанятамі зробіць усё як след, таму не абцяжарваў сябе балачкаю, каб увайсці ў давер да дуумвіра, адразу падступіўся да галоўнага. На ўласным вопыце Акіла пераканаўся, што на такіх людзей трэба найперш нагнаць страху, а пасля з іх можна вяроўкі віць.

– Што ж гэта дзеецца на тваёй тэрыторыі? – нахмурыў твар Акіла. – Як ты такое дапусціў?

– А што дзеецца? – усмешка імгненна сышла з твару Антыоха, вачаняты зрабіліся круглымі.

– Як? Ты нават не ведаеш? Вунь ужо амаль па ўсім Рыме чуткі ходзяць...

– Якія чуткі? – скаўтануўшы сліну, прасіпеў Антыох.

– А такія! Быццам бы ты спрыяеш хрысціянам і ў муніцыпіі іхнія суполкі пачуваюцца вельмі прывольна...

– Паклёп! – ускочыў з крэсла Антыох. – Я гэтых хрысціян на дух не пераношу!

– Так гэта, ці не так – немаведама. А я прыехаў толькі таму, што хрысціяне яшчэ ў Ерусаліме мне ў косці ўеліся... Яны ж нашых багоў бэсцяць. Праўда, калісь імператар да іншаверцаў абыякава ставіўся. Але скажу табе па сакрэту: пасля іудзейскае смуты хрысціяне для яго асабліва агідныя. Іхняя

ж вера акурат у Іудзеі нарадзілася... Вось я і вырашыў цябе папярэдзіць ад магчымага гневу імператара...

– Дзякую, але... Я сапраўды нічога не ведаю пра хрысціянскія суполкі на маёй тэрыторыі!

– Дык я табе падкажу. Ва ўсякім разе адну. Жыве паблізу Рыма нейкая Сафія. Вакол яе хрысціяне і гуртуюцца, зборні ў ейнай хаце лядзяць...

– Ды я сёння ж загадаю арыштаваць гэтую Сафію! – імпэтна ўсклікнуў Антыох.

– Не варта спяшацца, – асадзіў яго Акіла. – Тут трэба дзейнічаць разважліва. Ну, арыштуеш ты Сафію. Асудзіш. А хто пра гэта будзе ведаць? Зласліўцам, якія распускаюць чуткі, тою караю ты раты не заткнеш. Справу патрэбна зрабіць гучнаю. Для гэтага Сафію павінен пакараць не ты, а сам імператар!

– Як гэта?

– Слухай мяне ўважліва. Я ж табе казаў, што цяпер хрысціяне Адрыяну дужа неўспадоб. І для яго быў бы акурат дарэчы паказальны працэс, каб іншым у навуку сталася. І калі ты паведаміш імператару пра гэтую Сафію, ён табе толькі ўдзячным будзе. Можа, яшчэ і ўзнагародзіць...

Згадка пра магчымую ўзнагароду натхніла Антыоха, ён адразу пажвавеў, аднак праз хвіліну патух:

– А як жа я да імператара траплю? Ён жа, кажуць, хварэе, нікога не прымае...

– Старыя ў цябе звесткі. Апошнімі днямі Адрыян пачуваецца няблага. Больш за тое, цалкам паглыбіўся ў дзяржаўныя справы, да яго хадакі цугам ідуць.

– Гэтак? Тады я, мусіць, заўтра ж у Цібур паеду.

– Правільна. А сёння пашлі сваіх людзей да тае Сафіі, няхай яе ў абарот возьмуць, заадно павартуюць, каб не збегла. І вось што яшчэ... Было б лепей, каб імператар не ведаў, што гэта я падказаў табе пра Сафію. Няхай выглядае, што ты сам даўмеўся...

## Супрацьстаянне

Хваробы ці адпусцілі, ці ўвогуле злітаваліся над Адрыянам, ён пачуваўся бадзёра, імпэтна, як некалі ў маладыя гады, калі душа перапаўнялася прагаю хоць якой-небудзь дзейнасці. Вось і зараз прачнулася жаданне заняцца дзяржаўнымі справамі, напоўніцу акунуцца ў патрэбы сваёй імперыі. Адрыян штодня прымаў наведнікаў, гутарыў з імі, з гэтае нагоды ён нават часова пакінуў Цібур, перабраўся ў сваю рымскую рэзідэнцыю.

Адрыян спадобіўся прыняць нават дуумвіра Антыоха, дробнага па мерках імперыі чыноўніка. Праўда, тое, пра што расказаў дуумвір, выклікала ў Адрыяна непадробны інтарэс.

На першы погляд, данос Антыоха на нейкую Сафію, якая верхаводзіць у хрысціянскай эклексіі паблізу Рыма, уяўляўся нязначным, не вартым імператарскае ўвагі: хіба ў валадара такой вялізнай тэрыторыі і шматмільённай колькасці насельнікаў няма большага клопату, чым "паставіць на месца" нейкую хрысціянку? Іншым разам Адрыян і слухаць не стаў бы таго дуумвіра, на тое і ён і гаспадар у сваёй муніцыпіі, каб сачыць там за парадкам.

Аднак жа імператар не збэсціў гэты дробязны данос, і на тое было некалькі прычын.

Колісь Адрыян паблажліва ставіўся да хрысціян, як і ўвогуле да прыхільнікаў іншых багоў. Гэтую паблажлівасць ён пераняў у Траяна: той у апошнія гады свайго жыцця не зважаў на іншаверцаў, быццам іх не існавала зусім, яго больш турбавалі вайсковыя справы і шматлікія войны, якія Траян распачынаў, каб пашырыць межы імперыі.

Перахапіўшы лейцы, Адрыян яшчэ болей іх паслабіў у дачыненні да іншаверцаў, а калі ў чарговы раз наведаўся ў любімую Грэцыю і Малую Азію, да імператара здолелі падступіцца знаны хрысціянін Арыстыд і афінскі епіскап Кадрат. Яны перадалі Адрыяну свае апалогіі, у якіх тлумачылі сутнасць новае веры і выказвалі свае довады ў абарону хрысціян. Апалагеты Арыстыд і Кадрат зрабілі сваю справу адмыслова: Адрыян запаважаў новую рэлігію, больш за тое, хацеў нават залічыць Ісуса Хрыста ў кагорту рымскіх багоў![1] А галоўнае – як чалавек дапытлівы, схільны да філасофіі, ён дэталёва спасціг сутнасць хрысціянскага вучэння.

Напэўна, Адрыян да скону скрозь пальцы глядзеў бы на хрысціян, на іхнюю адасобленасць ад жыцця іншых насельнікаў імперыі, калі б не апошняя іудзейская вайна...

Па сутнасці, яўрэі былі ў імперыі адзіным народам, які не прызнаваў рымскіх багоў (прыхільнікаў Серапіса Адрыян у разлік не браў, вера, якая існавала з часін фараонаў, паступова затухала, сыходзіла на нішто). Іудзеі гуртаваліся вакол свайго суровага бога, прытрымліваліся наканаванага ім Закону, і як толькі рымская ўлада спрабавала хоць у дробязі замахнуцца на іхнюю веру, браліся за зброю. Менавіта вера аб'ядноўвала іудзеяў у адну вялікую суполку, гатовую паўстаць нават супраць магутнае рымскае арміі.

Цяпер Адрыян упэўніўся: любая суполка, любое аб'яднанне народаў ці асобных людзей вакол багоў, сімвалаў і ідэй, адрозных ад рымскіх, нясе для імперыі вялізную пагрозу. Адрыян, нарэшце, зразумеў бязглузды, як тады здавалася, учынак Траяна. У той год ва ўсёй імперыі стаяла засушлівае надвор'е, паўсюль бушавалі пажары. Кіраўнік адной з правінцый Пліній звярнуўся да імператара, каб той дазволіў стварыць у горадзе пажарную каманду. Нягледзячы на відавочнасць і разумнасць такой просьбы, Траян згоды не даў. І толькі па адной прычыне: маўляў, пажарная каманда – гэта суполка, а ў кожным згуртаванні могуць саспець непажаданыя для імперыі думкі, а там і да змовы недалёка...

На фоне іудаізму, які пусціў сваё карэнне ў глыбіню вякоў, у параўнанні з фанатычнай еднасцю яўрэяў, змацаванаю вераю ў свайго бога, раней прыхільнікі Хрыста і іхнія не надта шматлікія суполкі-эклексіі выглядалі несамавіта, таму ўлада амаль не звяртала на іх увагі. Цяпер жа, калі іудзеяў або знішчылі, або рассеялі па ўсёй зямлі, хрысціяне нібы вынырнулі з небыцця, пачалі пладзіцца з неймавернаю хуткасцю, і іхнія суполкі засталіся адзінымі, якія не прызнаюць ні рымскіх багоў, ні рымскіх ідэалаў. Тут ужо хочаш – не хочаш, а без увагі іх пакінуць нельга.

У рымскім грамадстве існавалі тайныя і яўныя нормы, якія ў сукупнасці называліся religio: багі, законы, маральныя і сямейныя каштоўнасці. Уласна кажучы, на гэтым religio і трымаўся грамадскі парадак. Любое адхіленне ад звыклых нормаў, любы супраціў ім парушалі еднасць імперыі і яе народаў, пра што і Адрыян, і іншыя імператары дбалі найперш. Хрысціяне акурат і "плылі супраць цячэння", выклікаючы нянавісць нават у шараговых рымскіх

[1] Ва ўсякім разе, так сцвярджае Лампрыдый, рымскі гісторык позняга перыяду (загінуў пасля 475 г.н.э.).

грамадзян. Гэтая нянавісць падмацоўвалася жахлівымі чуткамі пра тое, што менавіта прыхільнікі Хрыста насылаюць на людзей мор і розныя хваробы, а калі не самі, дык гэта рымскія багі гневаюцца на народ за тое, што ён дазваляе існаваць у сваім асяроддзі адступнікам. Толькі па гэтай прычыне Адрыяну варта было прыняць падказку дуумвіра Антыоха, каб паказаць і рымлянам, і хрысціянам, хто ў доме гаспадар.

А яшчэ – Адрыяну карцела лішні раз даказаць сваім прыбліжаным, што ён самы разумны, самы дасведчаны, самы вучоны чалавек ва ўсёй імперыі. У яго і ў думках не было абавязкова пакараць гэтую Сафію. Адрыян быў упэўнены: каго-каго, а звычайную жанчыну, ды яшчэ маці траіх дзяцей, ён здолее пераканаць, каб яна дабрахоць адмовілася ад веры ў Хрыста і ўспрыняла рымскіх багоў як самых існых. І гэта мецьме большую карысць, чым любая кара, пакажа іншым хрысціянам, што іхняя вера не такая ўжо непарушная. А ведаў і красамоўства, лічыў Адрыян, у яго хопіць. Вунь і Юпітэр забраў у яго хваробы і нямогласць, дазволіў напоўніцу бліснуць моўным майстэрствам, каб вярнуць адступніцу на правільны шлях.

На наступны ж дзень пасля даносу Адрыян загадаў Турбону, каб ягоныя прэтарыянцы даставілі Сафію з дзецьмі ў Рым. Пры гэтым наказаў:

– Няхай твае людзі абыходзяцца з імі па-харошаму, без аніякага гвалту. І ў астрог іх змяшчаць не трэба – вязіце адразу да мяне.

У прасторную імператарскую залу два прэтарыянцы, злёгку падштурхоўваючы ў спіны, увялі жанчыну і траіх дзяўчынак. Асклелым позіркам Адрыян колькі хвілін моўчкі ўзіраўся ў іхнія аблiччы і для сябе адзначыў, што гэтая Сафія зусім не састарэлая, як яму ўяўлялася, а досыць маладжавая і вельмі пекная кабета з разумнымі, удумлівымі вачыма. “Гэта добра, – падумаў імператар. – Будзе гутарыць са мною калі не на роўных, дык хоць успрымацьме тое, што буду казаць я”.

Не такімі падаваліся Адрыяну і дочкі Сафіі. Разлічваў, што ўбачыць дзявок ледзь не на выданні, а тут – зусім яшчэ дзеці...

Было бачна, што Сафію зусім не запалохала і нават не збянтэжыла тое, што ўсю яе сям’ю прывезлі да самай уплывовай асобы імперыі, хоць яна выдатна разумела, чым гэта можа скончыцца. Сафія горда і годна, высока ўзняўшы галаву, пазірала проста ў вочы імператару, маўкліва выказваючы сваю пагарду.

Дзяўчынкі, учапіўшыся ручкамі за столу, з абодвух бакоў і спераду туліліся-гарнуліся да маці і таксама калюча, з-пад лобікаў, свідравалі імператара сваімі вачанятамі.

Адрыян нагнаў на твар удаваную ўсмешку, падышоў да стала, на якім стаяла прыгожая ваза з заморскаю садавінаю, спрытным рухам падхапіў яе і наблізіўся да Сафіі і дачок.

– Чаго ж гэта вы такія зацятыя? Як звяркі ўсё адно... – яшчэ шырэй усміхнуўся ён. – Вось, частуйцеся, – і Адрыян нават прысеў на кукішкі, каб дзецям лацвей было дацягнуцца да райскіх яблычкаў і гранатаў.

Аднак дзяўчынкі нават не зірнулі на вазу, а меншанькая дык і ўвогуле адвярнула свой тварык, уторкнуўшыся ім у маміну столу.

– Ну, як сабе хочаце, – ўсё яшчэ ўсміхаючыся, бадзёра мовіў Адрыян і паспрабаваў вольнаю рукою пагладзіць па галоўцы сярэднюю дзяўчынку, але і тая адхіснулася, зрабіла крок назад.

– Што ж, хай будзе так, – Адрыян спахмурнеў, паставіў вазу на стол і загадаў прэтарыянцам: – Дзяцей пакуль што забярыце, няхай пачакаюць, пакуль я з маці гутарыць буду.

Салдаты пачалі “зграбаць” дзяўчынак, каб вывесці іх у суседні пакой з прыхаду, аднак яны яшчэ мацней учапіліся ў маміну столу і ў адзін голас залямантавалі:

– Мы будзем з мамачкай! Мы нікуды без яе не пойдзем!

Толькі самой Сафіі ўдалося іх супакоіць.

– Ідзіце, дачушкі, нічога не бойцеся, – пяшчотна сказала яна. – Я буду тут, побач...

Дзяўчынкі паслухаліся і, раз-пораз тужліва азіраючыся, патупалі з залы.

– Сядай, – прапанаваў Адрыян Сафіі, калі яны засталіся сам-насам, і паказаў рукою на крэсла з выгнутымі ножкамі і адкінутаю назад спінкаю, якое месцілася з левага боку ад імператарскага трона.

Аднак Сафія нават не варухнулася, выказаўшы тым самым маўклівы дакор імператару: маўляў, ты ж мяне зусім не ў госці запрасіў.

– Ну, калі ты не хочаш садзіцца, дык і я буду гаварыць стоячы, – Адрыян быццам не заўважыў няўвагу і пагарду да сваёй вялікаможнай асобы. – Ты здагадваешся, чаму вас сюды прывезлі?

Сафія па-ранейшаму зацята маўчала, таму Адрыян сам адказаў на ўласнае пытанне:

– Таму што ты бэсціш рымскіх багоў і прапаведуеш сярод насельнікаў вучэнне Хрыста. Ды з такім імпэтам, што па ўсім Рыме пагалоскі ідуць... Ты лічыш, што я хачу пакараць цябе за гэта? Памыляешся... Дарма хтосьці думае, што імператар – жорсткі, бязлітасны чалавек, якому ўвесь час карціць засведчыць сваю ўладу суровымі мерамі. Я такі ж чалавек, як і ўсе: радуюся, сумую, часам нават і плачу... Аднак апрача ўсяго, я яшчэ і імператар. А гэта значыць – бог...

Сафія іранічна ўсміхнулася. Адрыян заўважыў гэта, ды зноўку праглынуў зняважу.

– Ну, хай сабе ты мяне богам не лічыш – свайго ідала маеш. Хай я для народа проста бацька. А для бацькі ўсе дзеці аднолькавыя: і разумнікі, і калекі, і паслухмяныя, і ўпартыя. Аднаго ён можа пахваліць за добрую справу і нават заахвоціць пачастункам, а іншаму і дзягай ніжэй спіны вутнуць, каб не дурэў... І тое, і другое бацька робіць для карысці, бо жадае сваім дзецям дабра. Абавязак у яго такі – дзе пахвалою, дзе караю выхоўваць сваіх дзяцей, і калі яны ў нечым памыляюцца, дык скіраваць на правільную сцежку. Ты ўцяміла, да чаго я хілю? Няма ў мяне мэты – абавязкова цябе пакараць, проста абразуміць хачу.

Адрыян на хвіліну замоўк, падбіраючы належныя словы, каб ягонае параўнанне выглядала больш пераканаўча.

– Імперыя – гэта мая сям’я, і я за яе ў адказе. Таму павінен дбаць, каб у сям’і былі злагада і спакой. І такой думкі прытрымліваюся не толькі я. Гэткім жа клопатам абцяжарваліся ўсе імператары-папярэднікі, такую ж мэту ставіцьмуць перад сабою і наступнікі. Вось вы, хрысціяне, лічыце, што ў пакутнай смерці вашага Хрыста вінаватыя іудзеі, бо менавіта яны патрабавалі распнуць яго на крыжы. Так ды не так... Понцій Пілат мог бы праігнараваць іхняе патрабаванне – у яго хапіла і ўлады, і войска. Але не зрабіў гэта. Чаму? Таму што імперыя была зацікаўленая ў смерці Хрыста найперш. Ён быў непаслухмяным “дзіцём” імперыі, можна сказаць, вырадкам, каламуціў народ, сеяў у душы зерне сумневу наконт нашага religio. А што такое Іудзея? Ускраінная правінцыя на мяжы з Парфіяй, вечным ворагам Рымскай імперыі. Каму ж успадоб, калі на такой небяспечнай мяжы нехта сее раздрай і смуту?

Каб трохі загладзіць віну імперыі перад хрысціянствам, Адрыян, усміхнуўшыся, дадаў:

– Між іншым, мы, самі таго не жадаючы, зрабілі для вас вялізную паслугу. Прычым яшчэ задоўга да таго, як “сышоў на зямлю” ваш Хрыстос. Колісь на моры валадарылі піраты, таму мала хто асмельваўся вазіць тавары марскім шляхам. Дык вось імператар Аўгуст прыцiснуў піратаў да пазногця, разагнаў іхнія зграі. І марскі гандаль разгарнуўся напоўніцу. На чым хрысціянства “прыехала” з Блізкага Усходу ў Еўропу і Малую Азію? На караблях. Нездарма вашых эклексій найболей у партовых гарадах ды прылеглай да іх мясцовасці. Так што калі б не імператар Аўгуст, вашае вучэнне далей Палесціны і не сягнула б. Таўкліся б “пахрышчаныя іудзеі” ў сваім котлішчы, а іншыя народы пра вашага Хрыста нават не чулі б...

Адрыян, перш чым выказаць наступную думку, зрабіў яшчэ адну паўзу.

– Вы думаеце, што ваш Хрыстос прынёс у свет нейкае Адкрыццё, новае Слова... Глупства ўсё гэта. Такія ж ідэі выказваліся і раней. Колісь у Грэцыі жыў філосаф Платон. Ён таксама далдоніў пра “неўміручасць душы і тленнасць цела”. Праўда, разважаў трохі інакш, чым вы, хрысціяне, аднак вялікай розніцы я не бачу. Як, напрыклад, Платон разумеў смерць, што для яго азначала “быць мёртвым”? Тое, што цела, аддзеленае ад душы, існуе само па сабе і што душа, аддзеленая ад цела, таксама існуе самастойна. Прычым, паводле Платона, толькі душа мае розум і бессмяротнасць. А цела – тло і зло. Яно прыносіць нам адныя турботы: цела трэба карміць, яно хварэе, падуладнае жаданням і страхам, дый іншай непатрэбшчыне, якая замінае нам думаць і разважаць. Якая ж выснова? Цела з ягонымі жарсцямі любіць не варта, пазбавіўшыся ад яго, мы аб’яднаемся з іншымі, такімі ж, як і мы, істотамі і “ўласнымі сіламі спазнаем усё чыстае, а гэта, хутчэй за ўсё, і ёсць ісціна”. Іншымі словамі, да смерці трэба ставіцца пагардліва, бо яна толькі дапамагае пазбавіцца ад цялесных аковаў. А што ж потым робіцца з душою? Грэчаскую філасофію, як і наогул усё грэчаскае, я ведаю дасканала (шчыра прызнацца, за гэта хто-ніхто нават мяне папракае), таму перакажу думку Платона даслоўна: “Калі чалавек памірае, яго геній, які дастаўся яму яшчэ пры жыцці, вядзе нябожчыка ў асобнае месца, дзе ўсе, прайшоўшы цераз суд, павінны сабрацца, каб накіравацца ў Аід з тым праваднікам, якому даручана даставіць іх адсюль туды. Набыўшы там наканаваны лёс і адбыўшы наканаваны тэрмін, яны вяртаюцца сюды пад апякунтсвам іншага праводніка, і так паўтараецца зноў і зноў праз доўгія прамежкі часу”.

Адрыян усміхнуўся і звярнуўся да Сафіі наўпрост:

– Скажы, ну чым філасофія Платона адрозніваецца ад вашых хрысціянскіх догмаў? Маўчыш? Дык я за цябе адкажу. Амаль нічым не адрозніваецца. Тая ж “тленасць цела”, тая ж “бессмяротнасць душы”, той жа суд, толькі ён у вас чамусьці называецца Страшным. А ў Платона суд над душою – звычайная, будзённая справа, і яго баяцца не варта. Чаму? Таму што душа, мовіць так, пасля “судовага працэсу” неўзабаве паляціць шукаць сабе новае цела. Толькі ў гэтым, бадай, істотная розніца паміж вамі, хрысціянамі, і грэчаскім філосафам. Вы лічыце, што кожны чалавек мае сваю асабістую душу, і яна з’яўляецца ў гэтым свеце толькі раз, а потым трапляе ці ў пекла, ці ў рай, а Платон мяркуе, што душа канкрэтнаму целу не належыць, яна перасяляецца з аднае абалочкі ў другую, прычым не раней як праз дзесяць тысяч год пасля суда. Чаму так доўга? Бо у яе проста не паспяваюць вырасці крылы для новага палёту ў гэты свет. Платон, дарэчы, так і называе душу – “крылатая калясніца”. А ці бясконца душа павінна “лётаць туды-сюды”,

з неба на зямлю? Не, не бясконца. Калі ёй удасца пераканаць і прымусіць чарговае цела пазбавіцца ад заганных страсцей, дык ёсць шанец, “стаўшы філосафам, перайсці ў род багоў”. Калі казаць па-вашаму, па-хрысціянску, дык, мусіць, патрапіць у рай... Ці ж можна лічыць вашага Хрыста, так бы мовіць, першаадкрывальнікам? Не. Аднак жа, у адрозненне ад вас, Платон не бэсціў, прызнаваў грэчаскіх багоў, якія потым сталі і нашымі, рымскімі, толькі з іншымі найменнямі.

Хоць Сафія, як і раней, маўчала, аднак Адрыян адчуваў, што жанчына ўважліва слухае, хоць і не пазірае ў ягоны бок. Гэтага было досыць, каб не спыняць “пропаведзь”.

– Не будзем, у рэшце рэшт, сягаць у далёкія вякі. Нешта падобнае выказваў і Філон Александрыйскі, сучаснік вашых Ісуса Хрыста і Паўла[1], праўда, ён болей разважаў пра так званы Логас, але я не буду тлуміць табе галаву гэтаю лухтою. Мяне асабіста зацікавіла, як ён алегарычна параўноўвае персанажы вашага Свяшчэннага Пісання. Напрыклад, Адам – гэта чалавечы розум, Ева – пачуцці, Ханаан – юнацтва, Каін увасабляе красамоўства пры неабгрунтаваных довадах, а Авель, наадварот – абгрунтаваныя доказы, выкладзеныя коснаязыка... Ну чым не нашыя Веста, Дыана, Мінерва або Вулкан? Як бачыш, гэты Філон таксама не адвяргаў нашых багоў агулам, спрабаваў сумясціць грэчаскую філасофію з вашым Свяшчэнным Пісаннем...

Ад працяглае гаманы ў Адрыяна перасохла ў роце, ён падышоў да вазы, якую толькі што падсоўваў дзецям, адшчыкнуў ад вінаграднае гронкі дзве ягадкі і, пражаваўшы іх, прадоўжыў пераконваць Сафію ў несамавітасці хрысціянства:

– А быў яшчэ і такі філосаф Сенэка[2] – ты, пэўна, пра яго не чула, але я раскажу пра ягоныя погляды, бо яны вельмі нагадваюць ідэі вашага Паўла, прычым Сенэка, здаецца, агучыў іх раней, чым апостал. Вось ягоныя словы пра цела і душу: “Я народжаны для вышэйшых памкненняў, і я вышэй за тое, каб быць рабом майго цела; у целе сваім я бачу не што іншае, як ланцугі, якія скоўваюць маю свабоду”. І далей: “Нікчэмнае цела – гэта цямніца і аковы духа, дух жа святы і вечны”. Ну, як табе? Чым не пропаведзь апостала Паўла? Да таго ж, Сенэка ўкладвае ў вусны бога (я так думаю, што Юпітэра) вось такія словы: “Грэбуйце беднасцю, грэбуйце пакутамі, грэбуйце смерцю, якая або прыкончвае людзей, або пераносіць у іншы свет. Перш за ўсё я паклапаціўся пра тое, каб нікога не стрымлівалі супраць волі: выхад адчынены. Калі вы не хочаце змагацца, можаце ўцячы. З усяго, што я палічыў патрэбным даць вам, нічога я не аблегчыў у такой ступені, як магчымасць памерці”. А што, слушная думка. Калі вы лічыце, што цела – турма для душы, дык ці не лепей знішчыць, раструшчыць “турэмныя сцены”, каб як мага хутчэй даць волю душы? Пэўна ж, вы, хрысціяне, таму і не баіцеся смерці, не шкадуеце свайго цела, калі яго распінаюць ды ірвуць на арэнах драпежнікі. Дык, можа, лепей самім увагнаць нож у чэрава – і адразу ў рай?.. Зрэшты, гэта іншая тэма. Слухай, што яшчэ піша Сенэка: “Вышэйшая дабрадаць – у розуме, а не ў пачуццях. Што ў чалавеку самае лепшае? Розум. Сілаю розуму ён пераўзыходзіць жывёл і ідзе ўпоравень з багамі. Такім чынам, розум у ягонай дасканаласці ёсць дабрадаць, уласцівая

[1] Філон Александрыйскі (каля 20 г. да н.э. — 50 г.н.э.) — яўрэйскі мудрэц, кіраўнік яўрэйскай абшчыны ў Александрыі. Ф. Энгельс назваў яго “бацькам хрысціянства”.

[2] Рымскі філосаф-стоік (4 г.да н.э. — 65 г.н.э.).

чалавеку, тады як усе астатнія пачуцці – агульныя з жывёльнымі”. Звярні ўвагу: Сенэка, як і вы, сцвярджае, што чалавек мае боскі пачатак. Але ён, у адрозненне ад вас, кажа “багі”, а не “адзіны бог”! Ты думаеш, Сенэка быў дурнейшы, чым ваш Хрыстос, каб так гаварыць?

Ад гэтых слоў Сафію аж перасмыкнула, яна памкнулася нешта абурана сказаць, але стрымалася. Адрыян зразумеў ейную рэакцыю па-свойму і загаманіў з яшчэ большым імпэтам:

– Сенэка, праўда, не называе наўпрост ні Юпітэра, ні іншых нашых багоў, але ў тым няма вялікае бяды. Кожны рымскі бог ці багіня адказвае, мовіць так, за свой участак, мае ўласную вотчыну. Скажам, Марс – бог вайны, Нептун – валадар мора, Венера – багіня прыгажосці... А Сенэка, па сутнасці, кажа тое ж самае, толькі іншасказальна. Вось паслухай: “Ты хочаш назваць бога лёсам? Не памылішся, бо ад яго ўсё ў свеце залежыць, ён прычына ўсіх прычын. Хочаш назваць яго наканаванасцю? Правільна будзе сказана, бо ягонаю мудрасцю ўсё накіроўваецца, каб не было ў свеце беспарадку і ўсё атрымлівала разумны сэнс і вытлумак. Назавеш яго прыродай? Не саграшыш супраць ісціны, бо ад яго ўсё нараджаецца, ягоным дыханнем мы жывём. Назавеш яго светам? Не памылішся, бо ён і ёсць тое цэлае, што бачыш...” Дарэчы, і пра “боскую сілу”, якая ёсць у чалавеку, Сенэка не прамінуў выказацца. Хіба ж гэта не супадае з пропаведдзю вашага Хрыста, што “царства боскае не звонку, а ўнутры нас”? Сенэка, як і вы, раіць не лезці ў палітыку, адысці ад людскае марнасці, удасканальвацца духоўна, жыць сузіральна, думаць добрапрыстойна... Нічога не запярэчу – слушныя парады. І беднасць Сенэка праслаўляў з не меншым імпэтам, чым вы. Праўда, трэба прызнаць, што сам ён ні ад сваёй маёмасці, ні ад грошай, якіх меў незлічона, чамусьці дабрахоць не адмовіўся. Дык і вашыя, хрысціянскія першасвятары, пэўна, цяпер не жабруюць... І пра “ганебнае рабства” Сенэка выказаўся адпаведна: “Раб ёсць чалавек, роўны па натуры іншым людзям: у душы раба закладзеныя тыя ж пачаткі гонару, сумнення, мужнасці, велікадушнасці, падораныя іншым чалавечым істотам, якім бы ні было іхняе грамадскае становішча”. А між тым дагэтуль лічылася, што ёсць тры віды працоўных прылад: нямыя – плугі, матыкі, рыдлёўкі; напаўгалосныя – рабочая жывёла; і цалкам галосныя – рабы. Сенэку, як і вас, хрысціян, гэта абурае: анягож, ён таксама лічыць, што ўсе людзі роўныя. Маўляў, з-за таго і бунтуюць рабы, што гаспадары лічаць іх быдлам, нават показку нагадвае: “Колькі рабоў, столькі ворагаў”. Я, дарэчы, магу даслоўна пераказаць ягоную думку, і ты не здзіўляйся, што імператар сыпле цытатамі: памяць у мяне адмысловая, а прачытаў я нямала... Дык вось што сказаў Сенэка: “Гэта мы і робім рабоў ворагамі сваімі... Гаспадары абыходзяцца з чэляддзю не як з людзьмі, а як з жывёлай, і лічаць знявагай сваёй асобы сесці за стол разам са сваімі рабамі. А ці не хочаш ты, ганарлівец, падумаць, што раб аднаго з табою паходжання, ходзіць пад тым жа небам, дыхае тым жа паветрам, роўны табе ў жыцці і смерці. Лёс можа раба зрабіць вольным, а цябе – ягоным рабом. Бывала, што чалавека знакамітага з разлікамі на бліскучую кар’еру лёс скідваў, а потым яго бачылі пастухом ці начным вартаўнікам... Навошта ж выказваць пагарду пакрыўджанаму лёсам чалавеку, у становішча якога сам можаш лёгка трапіць...” Між іншым, мне таксама неўспадоб рабства. Ты можаш запытацца: дык чаму ж ты яго не скасуеш, чаму не загадаеш рымлянам даць волю няшчасным людзям? Не ўсё так проста... Імператар хоць і з’яўляецца богам на зямлі, аднак ён, на жаль, не ўсемагутны. Як толькі я намеруся выдаць эдыкт аб забароне рабства, знаць мяне са свету зжыве... Але давай вернемся да Сенэкі. Як бачыш, яго можна

лічыць паўнавартасным хрысціянінам, хоць ён пра вашага Хрыста, магчыма, і не чуў. А трэба ж яшчэ ведаць, у якія часіны Сенэка жыў. Акурат тады імператарам быў Нерон. Як ён ставіўся да хрысціян, мусіць, і табе вядома... Дык чаму ж Нерон не пакараў Сенэку за ягонае вальнадумства? Таму што ён хоць і выказваў “крамолу”, аднак усё роўна публічна шанаваў рымскіх багоў. Разумееш, пра што я кажу?

Адрыян падступіўся да Сафіі зусім блізка, пільна зірнуў ёй у вочы, у якіх усё яшчэ стыла халодная абыякавасць.

– Разумеш, ды не хочаш успрымаць... – задуменна зрабіў выснову Адрыян. – А можа, мае прыклады не здаюцца табе пераканаўчымі, бо яны мелі месца ў мінулыя часы? Дык во табе цяперашні. Жыве сярод нас такі Эпіктэт. Дарэчы, былы раб, яго з Фрыгіі некалі прывёз адзін з ліктараў Нерона – Эпафрадыт. І ён, гэты Эпафрадыт, у парыве шаленства палкаю зламаў свайму рабу нагу. Але потым пашкадаваў яго – ці ж лёгка жывецца на свеце калекам? – і даў магчымасць Эпіктэту атрымаць філасофскую адукацыю. Цяпер ён знаны чалавек... Пакора – здаецца, гэтую рысу вы, хрысціяне, прапаведуеце як самую важную ў адносінах са сваім богам? Вось і Эпіктэт заклікае не браць да галавы пакуты, якія выпадаюць чалавеку ў жыцці. Бо яны, пакуты, і ў першую чаргу душэўныя, здараюцца не ад рэальных адчуванняў, а ілжывых думак з нагоды таго, што адбываецца. Вунь, напрыклад, і Сакрату некалі здавалася, што страшная не смерць, а страшнае ўяўленне аб смерці. Таму вельмі неразумныя людзі, якія клапоцяцца пра тое, каб падзеі развіваліся ў жаданым для іх накірунку: яны потым пакутуюць, падмануўшыся ў сваіх надзеях. Вы, хрысціяне, таксама ж увесь час прыгаворваеце: “Як Бог дасць...”, “На ўсё воля Божая...” Хіба ты, Сафія, не падпісалася б пад такімі словамі Эпіктэта: “Маёмасць, жыццё і здароўе тваёй жонкі, дзяцей, сяброў і тваё ўласнае не належаць табе і павінны быць вернутыя; ты падобны на падарожніка, які знаходзіцца ў гатэлі. Вось чаму не трэба ні бедаваць, ні раздражняцца з-за страты нейкай з гэтых даброт. Не трэба таксама наракаць і на лёс; маральны абавязак кожнага з нас – быць задаволеным сваёй доляй”. Між іншым, у Эпіктэта ёсць і другое параўнанне для таго, каб растумачыць, якімі павінны быць паводзіны чалавека ў адносінах да ўсяго, што не залежыць ад ягонай волі. Кожны з нас, кажа Эпіктэт, падобны на актора п’есы, аўтар якой указаў яму пэўную ролю. Доўгая яна ці кароткая, даводзіцца быць жабраком ці кульгавым, службовай асобай ці прыватным чалавекам, – не яму аб гэтым разважаць, трэба добра выконваць прызначаную ролю. І адсюль галоўная выснова: “адзіны шлях да свабоды ў тым, каб не зважаць на ўсё тое, што нам не падуладнае”. Да таго ж, Эпіктэт, як і вы, хрысціяне, заклікае любіць бліжніх, тварыць карысныя справы, не працівіцца злу... І вось гэты чалавек жыве на суседняй вуліцы, адкрыта выказвае свае погляды, і я, імператар, яго не чапаю. Больш за тое, падзяляю думкі Эпіктэта, ён – любімы мой філосаф! А ўсё таму, што Эпіктэт прызнае рымскіх багоў...

Адрыян быў задаволены сабою, бо, лічыў, выказаўся доказна і пераканаўча. Ён, вядома, не разлічваў, што Сафія зараз жа адмовіцца ад свайго Хрыста, але спадзяваўся, што яна хоць трохі завагаецца. Каб не ставіць жанчыну перад катэгарычным выбарам, Адрыян вырашыў даць ёй “пляцоўку для манеўра”.

– У рэшце рэшт я не настойваю, каб ты збэсціла вашага Хрыста, – сказаў імператар стомлена. – Аднак жа я патрабую, каб ты адначасна прызнала нашых, рымскіх багоў...

Раптам Сафія загаварыла (Адрыян ужо звыкся, што жанчына ігнаруе ягоныя пытанні, таму, пачуўшы ейны голас, ад нечаканкі ажно ўздрыгнуў):

– Ты хочаш, каб я прызнала вашых багоў? Ды нізавошта! Бо немагчыма прызнаць тое, чаго нямашака. Каго вы называеце сваімі багамі і з чаго яны выробленыя? Адзін – выбіты з каменя, падобнага да таго, які вы штурхаеце нагамі, другі – медзь, з якое вы выробляеце посуд для ўжытку, трэці – ужо гнілое дрэва, чацвёрты – іржавае жалеза, пяты – серабро, якое ўвесь час патрэбна вартаваць. Усё гэта выраблена з матэрыялаў, якія неўзабаве сатлеюць. Дый хто "змайстраваў" вашых багоў? Муляр, меднік, срэбнік, гаршэчнік... Дадуць ім загад, і гэтых багоў яны пераплавяць, з тае ж гліны ці жалеза вырабяць іншых ідалаў. Або ўвогуле ператвораць іх у посуд ці начныя гаршчкі... Дык што ж гэта за багі, калі яны глухія, сляпыя, без душы, без пачуццяў, без руху? Ці не гніль яны ўсе, ці не тло? І гэта вы называеце багамі, гэтаму служыце, гэтаму пакланяецеся... Ды вы ж самі з іх насміхаецеся, зневажаеце іх, калі гліняных і жалезных не ахоўваеце, а срэбных ці залатых пакідаеце на ноч пад замком, каб ніхто не ўкраў!

Адрыян не чакаў такое знявагі, аднак пакуль што стрымаў гнеў, нават усміхнуўся:

– А вашага бога ніхто не ўкрадзе?

– Не ўкрадзе. Бо Ён не з гліны і нават не з золата. Ён – у душы кожнага хрысціяніна. Не нешта зямное перададзена Богам людзям цераз Сына свайго Ісуса Хрыста. Гасподзь напоўніў сэрцы нябеснай ісцінай і дзіўным Словам Сваім. Ён не паслаў да людзей кагосьці са слуг Сваіх – анёлаў. Не паслаў і якога-небудзь зямнога валадара. А паслаў Ён Таго, Хто стварыў нябёсы і зямлю. Але не хацеў гэтым паказаць людзям Сваю ўладу, навесці на іх жах і страх. Бог паслаў Сына Свайго, каб Ён пераканаў і выратаваў, а не прымусіў, таму што Бог нікога не прымушае і не пераследуе. Вось ты спрабаваў давесці мне, што Хрыстос ніякага Адкрыцця не зрабіў, маўляў, і раней нехта выказваў тое ж самае. Не, не тое. Ды і не маглі ўсе, каго ты назваў, гаварыць ад імя Бога. Заклікалі да сціпласці ва ўсім, а самі жылі ў раскошы, ганьбілі рабства і ў той жа час мелі ўласных рабоў, разважалі пра "тленнасць цела", "бессмяротнасць душы", ухваляючы самагубства, хоць тое, што стварыў Бог, Богу і належыць... Хто з людзей ведаў, што такое Бог да тае пары, пакуль Ён не прыйшоў Сам? Ты спасылаешся і ўхваляеш пустыя і недарэчныя выразы філосафаў, якія ў розную пару называлі Богам то агонь, то ваду, то яшчэ якую-небудзь стыхію, створаную Госпадам. Усё гэта падман. Бог Сам з'явіўся – праз веру, якой адной даравана бачыць Бога. Раней Гасподзь захоўваў як таямніцу мудрую параду Сваю, здавалася, Бог пакінуў, забыўся пра нас зусім, аднак Ён усё ж перадаў Адкрыццё цераз Сына Свайго. Дагэтуль людзі рабілі што ім уздумаецца – аддаваліся страсцям, забавам, уцехам і юру. Богу гэта было неўспадоб, але Ён цярпеў нашыя грахі і рыхтаваў нас да сапраўднае праведнасці. Ён даў нам магчымасць пераканацца, што мы жылі хібна, заганна, таму самі па сабе, без дабрадаці Божае, не зможам увайсці ў Царства Нябеснае. Бог не ўзненавідзеў нас, не адвергнуў, не згадаў нашага зла, а прыняў на Сябе грахі нашыя, аддаўшы Сына Свайго для выратавання: Святога за беззаконных, Невінаватага за вінаватых, Праведнага за няправедных, Нятленнага за тленных, Бессмяротнага за смяротных. Бо што іншае магло пераважыць грахі нашыя, як не Ягоная праведнасць? Праз каго мы, грэшныя, маглі апраўдацца, як не праз Сына Божага?

Цяпер ужо Адрыян не адказваў на пытанні, даючы магчымасць Сафіі выказацца да астачы. І яна ўзнёсла працягвала:

– Хто мы такія, хрысціяне? Мы не адрозніваемся ад іншых людзей ні краінай, ні мовай, ні жыццёвымі звычаямі. Мы жывём там, дзе жывуць эліны і варвары, там, дзе каму выпала, мы прытрымліваемся мясцовых традыцый і звычаяў у адзенні, ежы дый ва ўсім астатнім. Але змушаныя пачувацца прэшэльцамі, чужымі ў сваёй краіне. Мы, як і ўсе, уступаем у шлюбы, нараджаем дзяцей, вось толькі не кідаем іх. Мы таксама жывём у плоці, але не па плоці. Мы як быццам жывём на зямлі, аднак існасць нашая знаходзіцца на нябёсах. Мы падпарадкоўваемся зямным законам, але сваім жыццём пераўзыходзім тыя законы. Мы любім усіх, і ўсе нас ненавідзяць, пераследуюць. Нас не ведаюць, але асуджаюць, нас забіваюць, але мы зноў нараджаемся, мы бедныя, але многіх узбагачаем, мы ўсяго пазбаўленыя, і ўсё ў нас ёсць, на нас паклёпнічаюць, нас знеслаўляюць, а мы благаслаўляем паклёпнікаў... Адным словам, што ў целе душа, тое хрысціяне ў свеце. Душа хоць і знаходзіцца ў целе, але не плоць, а хрысціяне хоць і жывуць у гэтым свеце, але яны – не ягоная існасць. Плоць ненавідзіць душу і ваюе супраць яе, бо душа забараняе плоці аддавацца страсцям і юру. Вось так і свет ненавідзіць хрысціян, хоць яны не робяць нічога благога, але замінаюць аддавацца заганным забавам. Душа любіць сваё цела нягледзячы на тое, што плоць душу ненавідзіць. Так і хрысціяне – любяць тых, хто іх ганьбіць і пераследуе. Душа змешчаная ў целе, але сама ўтрымлівае яго. Гэтак жа і хрысціяне, зняволеныя ў свеце, як у цямніцы, самі аберагаюць свет. Бессмяротная душа існуе ў смяротным жытле. Так і хрысціяне жывуць, як прышэльцы, у тленным свеце, чакаючы нятленнасці на нябёсах. Душа, трываючы голад і смагу, робіцца лепшаю, так і хрысціяне – чым болей іх караюць, тым узрастае іхняя колькасць. Усё гэта наканаваў хрысціянам Гасподзь, і мы ніколі не здрадзім ні Бацьку, ні Сыну Ягонаму Ісусу Хрысту, ні Святому Духу, якія б цялесныя пакуты ні давялося ператрываць...

Апошнія словы Сафія магла і не гаварыць, бо Адрыян зразумеў: гэтак жа, як і некалі хрысціянку Сімфарозу, яму не ўдалося пераканаць, перацягнуць на свой бок дзяканісу, яна, бадай, яшчэ болей фанатычная ў сваёй веры. Аднак хутчэй па завядзёнцы, па інэрцыі імператар вырашыў прадоўжыць дыялог і з прытоенаю хітрынкаю, з іроніяй мовіў:

– Дык я, выходзіць, зусім прапашчы... Прынамсі, згодна з вашаю вераю. Што ж мне, беднаму, цяпер рабіць?

Сафія, на жаль, не адчула ў голасе Адрыяна насмешку і палымяна стала яму даводзіць:

– Калі і ты пажадаеш нашае веры, дык не будзе ніякіх перашкод. Бог палюбіў людзей, для якіх Ён стварыў свет, зрабіў падуладным усё на зямлі, даў розум. Толькі людзям дазволіў Ён звяртацца да Сябе, стварыў іх паводле Уласнага аблічча і падабенства, да іх паслаў адзінароднага Сына Свайго, ім паабяцаў царства нябеснае і дасць тым, хто Яго палюбіць усёю душою. О, якою радасцю ты перапоўнішся, калі пазнаеш Бацьку! Як ты палюбіш Таго, Хто напярод палюбіў цябе! А калі палюбіш, дык зробішся пераймальнікам Ягонае дабрадаці. Не здзіўляйся, што чалавек можа быць пераймальнікам Божым. Можа, – калі Ён захоча. Бо не ў тым асалода, каб мець уладу над іншымі, каб быць дужэйшым за ўсіх, каб быць багатым і прыгнятаць ніжэйшых. Так ніхто не можа пераймаць Бога – гэта не вартае Ягонае велічы. Але той, хто спагадае бліжняму, маючы ў чымсьці перавагі, спрыяе ніжэйшаму за сябе, хто атрыманыя ад Бога дары раздае тым, каму

яны патрэбныя, і сам робіцца, так бы мовіць, Богам для іх, гэта значыць, пераймальнікам Бога. Тады ты, жывучы на зямлі, убачыш Бога на нябёсах, тады пачнеш прапаведаваць тайны Гасподнія. Тады палюбіш і падзівішся намі – тымі, хто трывае пакуты, але не адракаецца ад Бога. Ты спазнаеш аблуднасць свету, калі навучышся жыць на небе, калі будзеш пагарджаць тутэйшаю ўяўнаю смерцю, а баяцца смерці сапраўднай, якая падрыхтавана для тых, хто будзе асуджаны на вечны і пакутны агонь. Тады ты падзівішся тымі, што за праўду трываюць агонь часовы, і палічыш іх блажэннымі, калі спазнаеш той агонь...

У рэшце рэшт Адрыяну надакучыла слухаць "хрысціянскую пропаведзь", і ён перабіў Сафію:

– Ну, годзе. А то яшчэ падумаеш, што цябе прывезлі сюды не для таго, каб абразуміць, а быццам бы я захацеў зразумець і прыняць вашую веру.

Адрыяну непрыемна было ўсведамляць, што ён, філосаф і выдатны прамоўца, не здолеў пераканаць, узяць верх над звычайнай жанчынай. Гэта раздражняла, нават злавала імператара, абражала ягоную годнасць. Але прызнаць сваю паразу Адрыян не мог: калі не ўдалося атрымаць поўную перамогу, дык ён гатовы быў задаволіцца хоць бы частковым поспехам.

– Так і быць, – скрозь зубы выціснуў імператар, – я не прымушацьму, каб ты публічна адраклася ад свайго Хрыста, ад свайго бога. І нават не пакараю. Але ты ўсё адно павінна зрабіць ахвяраванне нашым багам. Напрыклад, Артэмідзе[1]. Будзем лічыць, што гэта дамова, кампраміс..

– Не можа быць кампрамісаў у веры Госпаду нашаму! – горда ўзняла галаву Сафія. – І любое адступленне ад веры – гэта здрада Яму. Дый што значыць "зрабіць ахвяраванне"? Вы, эліны, прыносячы ахвяры бяздушным і глухім істотам, выказваеце сваю дурноту. Што гэта за багі, якія патрабуюць нечае крыві і спальвання? Той, Хто стварыў неба і зямлю, не можа мець патрэбы ні ў чым, бо Сам дорыць тым, хто хоча нешта Яму даць.

– Кажаш, вашаму богу ахвяры не патрэбныя, ён сам усё мае? – злавесна прыжмурыўся Адрыян, бо палічыў, што на гэты раз яму ўдасца "схапіць за язык" Сафію. – І для хрысціян, і для іудзеяў, наколькі я ведаю, бог адзін і той жа. Дык іудзеі ж яму свае ахвяры прыносяць, ды яшчэ якія! Прычым сам бог патрабуе ахвяры! Ці ж не загадаў ён Аўрааму забіць, як тое ягня, сына свайго Ісаака, каб спатоліць свой "апетыт"?

– І што, Бог дазволіў забіць Ісаака? – Сафія трымалася непарушна. – Не, не дазволіў. Гасподзь проста хацеў праверыць, ці любіць Аўраам Бога свайго усёй душою, ці гатовы ён ахвяраваць самым дарагім, нават уласным жыццём дзеля Госпада. А што тычыцца іудзеяў... Яны хоць і прызнаюць, хоць і шануюць адзінага Бога, але ўпадабляюцца вам, элінам, прыносячы Богу ахвяры, у якіх Ён не мае патрэбы. Таму і лічым мы іх аблудамі. Зрэшты, не толькі за гэта... І ў ежы яны пераборлівыя, і наконт суботы прымхлівыя,і з абразаннем фанабэрыста крывадушнічаюць... Хіба з усяго таго, што Бог стварыў для карысці чалавека, можна адно прымаць як створанае добра, а другое адвяргаць як бескарыснае і лішняе? Хіба ж не грэх – паклёпнічаць на Бога, быццам Ён забараняе ў суботні дзень рабіць што-небудзь добрае? А хіба не вартая кпінаў пыхлівасць з нагоды памяншэння плоці, абразання,

---

[1] У грэчаскай міфалогіі — цнатлівая, заўжды юная багіня палявання, багіня ўрадлівасці, багіня жаночае цноты, заступніца ўсяго жывога на зямлі, яна дае шчасце ў шлюбе і дапамагае пры родах. У рымскай міфалогіі мае імя Дыяна. Аднак Адрыян, як прыхільнік усяго грэчаскага, называе багіню Артэмідай.

як быццам за гэта Бог іх любіць больш за ўсіх? Так што іудзеяў ты мне ў прыклад не прыводзь...

Размова зайшла ў тупік. Адрыяну стала ясна, што слоўную бітву з гэтаю хрысціянкаю ён прайграў. Ва ўсякім разе мірна-злагадна, як спадзяваўся, разысціся ім не ўдалося. Дык што, змірыццаф з гэтым, прыняць звыклыя, больш суровыя, крывавыя меры? Пакуль што ранавата. Не ўсе магчымасці скарыстаныя. І пра адну з іх Адрыян намякнуў Сафіі:

– Я разумею, што ты ні пры якіх абставінах не адрачэшся ад свайго бога. Нават пад катаваннямі. Але ж падумай пра сваіх дзяцей. Яны такія юныя, прыгожыя – жыць бы ды жыць...

– Ты надумаў зрабіць маім дзецям нешта благое? – Сафія кінула на імператара трывожны позірк.

– Пакуль я нічога не надумаў, – ледзяным голасам адказаў Адрыян. – А вось табе падумаць варта. Падумаць і адумацца. І я дам табе час на гэта. Тры дні і тры начы. А потым зноў сустрэнемся...

Адрыян расчыніў дзверы ў суседні пакой, дзе прэтарыянцы вартавалі дзяўчынак.

– Забярыце яе, – загадаў імператар. – Але не ў астрог. Няхай пакуль што ўсе яны пабудуць дзе-небудзь тут, у палацы.

Калі Сафія, горда прайшоўшы міма імператара, ужо апынулася за парогам, Адрыян іранічна запытаўся наўздагон:

– Дык ці магчыма нейкім чынам даказаць, што ваш бог сапраўды існуе?

Не зважаючы на ягоную іронію, Сафія адказала сур’ёзна:

– Даказаць немагчыма, але пераканацца можна...

Неўзабаве ў апартаментах імператара з’явілася мажная матрона з сумнымі вачыма, якія выпраменьвалі дабрыню і мудрасць. Гэта была Паладыя, даўнішняя ўдава і юнацкая сяброўка Адрыяна, з якою ён і цяпер раіўся пры пільнай патрэбе, а часам і прасіў помачы.

– Толькі што тут была хрысціянская сям’я – маці, яе завуць Сафія, і трое маленькіх дзяцей, – патлумачыў Адрыян, чаму яму давялося патрывожыць, выклікаць сюды паважаную жанчыну. – Мне не ўдалося ўгаварыць Сафію, каб яна адраклася ад свайго бога, яна нават не захацела прынесці ахвяру Артэмідзе... Што мне застаецца? Як і раней – сурова пакараць неслухаў. Інакш нельга. Але павер, Паладыя, я не прагну крыві... Няхай гэтая сям’я пажыве ў цябе тры дні. Пастарайся за гэты час укласці ў мазгі Сафіі, што яна робіць глупства, што непаслушэнства імператару тоіць вялікую небяспеку, і ў першую чаргу для яе дзяцей... Ды што мне цябе вучыць – ты лепш ведаеш, якія словы падабраць... Мне здаецца, жанчына жанчыну зразумее...

– Магчыма, і так, але не ў дадзеным выпадку, – разважліва мовіла Паладыя. – Ведаю я гэтых хрысціян. Хто-хто, а яны ад сваёй веры ніколі не адступаюцца. Так што...

– А ты ўсё ж паспрабуй! – Адрыян не даў дагаварыць Паладыі. – Для мяне гэта вельмі важна! Менавіта для мяне, а не для іх! Ты разумееш?

– Разумею... Ганарыстасць у табе разбушавалася – вось што. А як жа: не здолеў настаяць на сваім перад нейкаю жанчынаю...

– Думай, як хочаш, але зрабі ўсё магчымае, каб Сафія пагадзілася хаця б прынесці ахвяру Артэмідзе. Большага ад цябе не патрабуецца.

– Ну, пагляджу-пабачу, што там за Сафія...

**Азмрочаная радасць**

Некалькі дзён у доме Гнея панавала сапраўднае шчасце. Архелай і Вірсавія не маглі нагаварыцца, налюбавацца адно адным, Гней пазіраў на іх паблажліва – як бацька на родных дзяцей, якім пасля цяжкіх выпрабаванняў выпала, нарэшце, шчаслівая доля, а Дыядор проста радаваўся за блізкіх яму людзей. І ўсё адначасна азмрочылася пасля суботы.

З вечара Вірсавія і Дыядор наважыліся ісці на чарговую хрысціянскую адправу, натуральна, што з імі выправіўся і Архелай: адно што пасля таго нападу дадатковая ахова лішняю не будзе, а другое – Вірсавіі хацелася паказаць Сафіі свайго абранніка, можа, нават і пахваліцца ягонаю прыгажосцю.

Яшчэ на падыходзе да Сафіінага дома іх пераняла Гермія, жанчына сталага веку, якая жыла паблізу і не прапускала ніводнага набажэнства.

– Не хадзіце туды, – сумна сказала яна. – Сафію з дзецьмі ўчора забралі прэтарыянцы, так што дом зачынены і адправы не будзе... Мы ўвогуле не ведаем, калі і дзе ўдасца сабрацца ў наступны раз...

– А за што забралі Сафію? – наіўна спытаўся Архелай.

– Эх, дзетка, – цяжка ўздыхнула Гермія. – Нас, хрысціян, толькі за адно забіраюць – за нашую веру...

І на зваротнай дарозе, і ўжо дома, калі да іх далучыўся Гней, не сціхала размова пра нечаканы арышт Сафіі і ейных дзяцей. А што гэта менавіта арышт, сумневу не было ад самага пачатку. Да таго ж, іх забралі не паліцэйскія, а прэтарыянцы, якіх мог паслаць толькі адзін чалавек – імператар. А якая справа імператару да звычайнай, хай сабе і заможнай сям'і? Значыць, Адрыян убачыў у Сафіі зацятага і не зусім шараговага ворага для ўсёй імперыі.

– Відавочна, што без нечай наводкі тут не абышлося, – слушна выказаўся Гней. – Нехта шапнуў, а лепей сказаць, нацкаваў імператара на Сафію. Магчыма, нават хто-небудзь з вашых вернікаў данос напісаў...

– Такога не можа быць! – абурылася Вірсавія. – Ніхто з хрысціян не здольны на падобнае паскудства. Каму магла перайсці дарогу Сафія, можна сказаць, святы чалавек? Яна ўсім толькі дабра зычыла!

– Ты ж сама казала: да вашае суполкі розныя людзі прыбіваюцца. Некаму недадалі, кагосьці абдзялілі... А на кім злосць звычайна спаганяецца? На тым, хто навідавоку, хто ў першым шэрагу, – разважаў Гней. – Аднак жа я толькі выказваю здагадку. Можа, яно і не так. Магчыма, тут той жа Акіла парупіўся... А што! Доступ да цела імператара ён мае, ненавідзець хрысціян падставы ў яго ёсць, асабліва цяпер... – Гней выразна зірнуў на Архелая і Вірсавію. – Так што падобны варыянт не выключаецца...

Зрэшты, рабіць здагадкі, хто навёў імператара на Сафію, ужо не мела ніякага сэнсу: што здарылася, тое здарылася, нічога не паправіш. Найперш стаяла пытанне, як дапамагчы Сафіі і ейным дзеткам цяпер і ці можна дапамагчы ўвогуле. Нічога слушнага ніхто выказаць не мог, і калі ўжо конча нахлынуў адчай, Вірсавія, чамусьці вінавата адвёўшы вочы ўбок, нясмела і няўпэўнена звярнулася да Гнея:

– А можа, табе самому варта схадзіць да імператара, папрасіць за Сафію... Вунь жа наконт Архелая ён цябе ўважыў...

Гней горка ўсміхнуўся, некалькі хвілін памаўчаў і нарэшце ціха мовіў:

– Я сам пра гэта думаў, але... Спярша распавяду вам пра лёс аднаго чалавека, якога калісь, у маладосці, ведаў. Я тады толькі пачынаў служыць,

а ён ужо быў славутым военачальнікам. Пра яго легенды ў войску хадзілі. Дык вось, што чуў, тое і перакажу. Таго чалавека Плакідам звалі. Слухайце...

Плакіда паходзіў са знанага і багатага роду, меў прыгожую жонку і двух сыноў. Яшчэ тады, калі рымскае войска на чале з Цітам штурмавала ерусалімскія сцены, ён праявіў выключную мужнасць – заўжды быў у першым шэрагу свайго легіёна. Ціт гэта заўважыў і належна адзначыў.

Аднаго разу Плакіда са сваімі ваярамі выехаў на паляванне, і ім якраз патрапіўся статак аленяў. Пачалася пагоня. Плакіда заўважыў, што адзін з аленяў, самы дужы і спрытны, аддзяліўся ад статку і памчаўся зусім у другі бок – мусіць, спадзяваўся гэткім чынам адцягнуць увагу паляўнічых ад статку. Не дзіва, што Плакіда і ягоная дружына, ахопленыя не столькі прагаю да вялікай здабычы, колькі азартам, кінуліся за тым адзінокім і самым хуткім аленем. Неўзабаве коні ваяроў прытаміліся, адсталі, і толькі Плакіда працягваў пераслед.

Нарэшце алень узбег на высокую скалу, і дзявацца яму не было куды: унізе – бездань.

(Гней у гэтым месцы перапыніў аповед заўвагаю: “Ці было так на самай справе, ці гэта проста выдумка, прыгожая легенда – не ведаю. Але менавіта так расказваў мне адзін стары хрысціянін, з якім давялося пагутарыць у Ерусаліме”).

Плакіда глядзеў на аленя і раптам убачыў паміж ягонымі рагамі вогненна-прамяністы крыж, а на крыжы – распнутага Ісуса Хрыста. А затым пачуўся голас:

– Навошта ты гоніш Мяне, Плакіда?

Страх апанаваў ваяра, упаў ён з каня, знепрытомнеў. А калі ачуняў, дык запытаўся:

– Хто ты?

– Я – Ісус Хрыстос. Бог, Які хоча выратаваць цябе, далучыць да ліку рабоў Маіх.

Устаў Плакіда і сказаў:

– Веру Табе! Ты – Бог неба і зямлі. Навучы, Гасподзь, што мне цяпер рабіць.

І зноў пачуў ён голас:

– Ідзі да хрысціянскага святара і прымі ад яго хрышчэнне.

Сваім ваярам Плакіда нічога не расказаў і толькі з жонкаю падзяліўся ўбачаным і пачутым. Нечакана тая, у сваю чаргу, яму прызналася:

– Мінулаю ноччу нехта гаварыў мне такія ж словы: маўляў, ты, твой абручнік і сыны заўтра прыйдзеце да Мяне, Ісуса Хрыста, сапраўднага Бога. Дык выканаем жа Ягоную волю...

Ноччу яны ўзялі сваіх дзяцей і некаторых слуг, прыйшлі да святара Іаана. Той і пахрысціў усіх. Плакіда атрымаў новае імя – Яўстах, жонка была названая Феапістыяй, сыны сталі Агапіем і Феапістам.

Назаўтра раніцаю Яўстах паехаў на тое месца, дзе бачыў Хрыста, стаў маліцца. І Бог сказаў яму:

– Табе належыць спазнаць шмат пакут, загартавацца, як золату ў горане, перш чым прыняць вянец з Маіх рук.

І праўда, неўзабаве прыйшлі ў дом Яўстаха хваробы і смерць. Сканалі амаль усе слугі і худоба. Дый злодзеі парасцягвалі дабро. Быў Плакіда-багацей, а стаў Яўстах-жабрак. Хоць бедавалі яны з жонкаю, аднак палічылі, што

так Богам наканавана. Вырашылі Яўстах і Феапістыя стаць пустэльнікамі, каб служыць Богу. Узялі яны сваіх дзяцей дый пайшлі ў немаведамы свет. Затым і ўвогуле намерыліся пакінуць родны край. На беразе мора згледзелі карабель, які выпраўляўся ў Егіпет. А ўладальнік карабля, іншаземец, вельмі ўпадабаў Феапістыю. І калі судна прыплыло ў Егіпет, іншаземец у якасці аплаты ўзяў сабе жонку Яўстаха. Як ні супраціўляўся, як ні ўпрошваў бедны Яўстах, іншаземец на яго не зважаў дый яшчэ прыгразіў галаву адсекчы і дзяцей забіць. Што заставалася Яўстаху? Узяў ён сыноў і сышоў на бераг. А Феапістыя залівалася слязамі на караблі...

Аднак жа гора, як кажуць, адно не ходзіць. Дарогу падарожнікам перагарадзіла рака. Перанесці адразу дваіх дзяцей на другі бераг Яўстаху было не пад сілу. Узяў аднаго сына, перанёс і ступіў у ваду, каб забраць другога, ужо нават да сярэдзіны ракі дабраўся, як ззаду пачуў крык: сына схапіў леў і панёс яго ў пустыню. Кінуўся Яўстах следам за зверам, ды дзе там... А калі вярнуўся, дык і другога хлопчыка не заспеў: яго схапіла і панесла ў хмызняк ваўчыца...

Ці трэба казаць, які адчай апанаваў Яўстаха: амаль адначасна ён страціў усю сям'ю...

Праўда, не ведаў ён, што дзяцей ягоных адбілі ў драпежнікаў мясцовыя жыхары, і сталі яны гадавацца ў іншых сем'ях.

Дабрыў Яўстах да нейкага мястэчка і ажно пятнаццаць год парабкаваў за кавалак хлеба... І не здагадваўся, што дзеці ягоныя растуць у суседнім мястэчку, жонка Феапістыя таксама жывая-здаровая, нават не спазнала на сабе гвалту, бо той іншаземец адразу ж сканаў ад невядомае хваробы.

Тым часам імператарам стаў Траян. Ягоная ваяўнічасць была бязмежнаю, а для паходаў патрабаваліся новыя ваяры, і асабліва не хапала спрактыкаваных военачальнікаў. Нейкім чынам імператар дазнаўся пра Яўстаха, былога Плакіду, і паслаў да яго ганцоў...

Пасля няўдалай вайны з Парфіяй Плакіду было даручана фармаваць дадатковыя легіёны – для новай вайсковай кампаніі. А да таго часу павырасталі сыны Яўстаха, Агапій і Феапіст. Іх таксама прызвалі ў войска, і так ужо сталася, што трапілі яны на вока бацьку, хоць ён і не пазнаў сыноў. Яўстах увогуле лічыў, што ягоных дзяцей яшчэ тады парвалі драпежнікі. Аднак жа хлопцы гэтыя чамусьці прыйшліся яму даспадобы, Яўстах прызначыў іх сваімі ардынарцамі.

У вайне з Парфіяй, нарэшце, наступіў перадых, і Яўстах на чале свайго войска вяртаўся ў гарнізон. На беразе ракі каля нейкага мястэчка рымляне зрабілі прывал, разбілі лагер. І вось тут адна з мясцовых жанчын пазнала ў Агапіі і Феапісце сваіх сыноў... Ці трэба казаць, што гэта была Феапістыя, і неўзабаве ўся сям'я ўз'ядналася.

І тут прыйшла вестка: імператар Траян памёр. На ягонае месца заступіў Адрыян. Аднаго разу імператар вырашыў аддзячыць багоў за перамогу, разам са світаю военачальнікаў завітаў у храм, каб прынесці ахвяру Юпітэру Капіталійскаму. Быў у тым кагале і Яўстах. Усе зайшлі ў храм, а ён застаўся звонку. Імператар гэта скмеціў.

– Чаму ты не хочаш пакланіцца багам за тое, што і сам ацалеў у жорсткай вайне, і сям'ю сваю знайшоў дзякуючы ім? – грозна спытаўся Адрыян.

Змаўчаць бы Яўстаху ці прыдумаць нейкую прычыну, а ён адказаў наўпрост:

– Не рымскія багі мне дапамагалі, не ідалы вашыя, а Ісус Хрыстос. І ўвогуле я хрысціянін і толькі аднаго Бога прызнаю...

І пакінуў Яўстах гэтую імператарскую хеўру, чым яшчэ болей разгневаў Адрыяна.

Праз некалькі дзён Плакіда быў пазбаўлены звання і ўсіх узнагарод, а затым разам з жонкаю і сынамі кінуты на разрыванне галодным ільвам[1]...

Скончыўшы свой аповед, Гней дадаў:

– Я гэтага Плакіду на ўласныя вочы бачыў, калі ён праз Сірыю вяртаўся з Месапатаміі – там рымскія легіёны акурат паўстанне спляжылі. Зусім састарэлы ён ужо быў, ссівелы, але ў сядле трымаўся годна...

Яшчэ трохі памаўчаўшы, сенатар запытаўся:

– Не здагадваецеся, для чаго я расказаў пра гэтага Плакіду? Мусіць, здагадваецеся... Да шараговых хрысціян Адрыян ніколі жорстка не ставіўся. Было, што нават і абараняў іх. А тут – знаны военачальнік. Выходзіць, за ўсе перамогі трэба сапраўды дзякаваць нейкаму малавядомаму Хрысту, а не звыклым багам? Яшчэ ж варта ўлічыць, што ўсё адбывалася прылюдна, на вачах у іншых военачальнікаў... Што маглі б яны падумаць пра імператара, калі б ён прапусціў міма вушэй знявагу рымскіх багоў? А цяпер уявіце, як павядзе сябе Адрыян, калі я, легат, хай сабе і былы, буду прасіць яго за нейкую хрысціянку... Ды ён жа палічыць, што я і сам хрысціянін. Тады ўжо не толькі Сафію не выратую, але і мне галаву адсякуць. Зрэшты, свайго жыцця не шкада... А што з вамі будзе? Вас жа таксама не пашкадуюць...

Словы Гнея ніхто аспрэчыць не змог. Вірсавіі заставалася адно – маліцца за Сафію і яе дзетак. Яна толькі звярнулася да Архелая:

– Можа, ты папрасіў бы Эміля, каб ягоныя хлопцы выведалі, у якім астрогу трымаюць Сафію? У іх жа як быццам усюды вочы і вушы ёсць... Магчыма, Сафіі і дзецям удасца нешта перадаць, харчу якога...

– На досвітку падамся ў Нявіеў гай, – паабяцаў Архелай. – Толькі б заспець Эміля...

## У Паладыі

Паладыі спадабаліся дзяўчынкі Сафіі: ціхія, паслухмяныя. Уласных дзяцей у Паладыі не было, гэтак жа, дарэчы, як і абручніка, аб чым яна вельмі шкадавала.

Мудрая жанчына не стала ў першы ж дзень распачынаць з Сафіяй "шчырую размову", пераконваць, што ёй варта саступіць імператару, каб выратаваць і сябе, і сваіх дзяўчынак. Паладыя ведала: хрысціяне выбіраюць за лепшае пакуты і смерць, чым здраду свайму богу.

Каб зразумець, з якога боку можна ўсё ж падступіцца да Сафіі, Паладыя вырашыла таемна падслухаць размовы маці і дачок, для чаго засяліла іх у прасторнай спачывальні, якая выдатна праслухоўвалася з суседняга пакоя.

А Сафія і сапраўды амаль не змаўкала, разумеючы, што дзяўчынкам належыць вытрымаць неймавернае выпрабаванне, імкнулася давесці ім, што пакуты і смерць – гэта дабрадаць, калі яны прынесеныя ў імя Госпада. Зрэшты, Сафія і раней распавядала дзяўчынкам пра святых пакутніц: пра тую ж Тэклю-цнатлівіцу, пра Арыядну Праміскую, якую, гэтак жа, як і Тэклю, у цяжкую хвіліну праглынулі скалы, пра сясцёр Паліксенію і Ксантыпу, якія самаахвярна неслі да людзей слова Божае. Але ў тых гісторыях Бог заўсёды прыходзіў на дапамогу пакутніцам: то тушыў вогнішчы, на якіх

[1] Дзень памяці святога пакутніка Яўстаха Плакіды — 20 верасня.

яны павінны былі згарэць, то ўтаймоваў дзікіх драпежнікаў, то вызваляў пакутніц з цямніцы. Цяпер жа дзяўчынкі слухалі зусім жахлівыя аповеды, у якіх пакутнікам давялося ператрываць выпрабаванні і нават прыняць смерць, не маючы ад Бога ніякай помачы. Чаму Сафія спяшалася ўкласці ў юныя душы гэтыя жахі? Бо разумела, што зусім хутка ім самім давядзецца перажыць такія ж пакуты, і трэба, каб яны былі да іх гатовыя, не пахіснуліся, годна трымаліся ў цяжкія хвіліны.

Сафія распавяла пра Ігната Баганосца[1], якога па загадзе імператара Траяна на арэне цырка разарвалі львы. І калі некаторыя людзі прасілі злітавацца са старога чалавека, Баганосец сказаў ім: “Дазвольце мне зрабіцца ежаю для звяроў, праз якіх можна набыць Бога. Я пшаніца Божая, і павінен быць змалочаны зубамі звяроў, каб зрабіцца чыстым хлебам Хрыстовым. Нават пестуйце звяроў, каб яны сталі для мяне труною і не пакінулі майго цела, каб я пасля смерці не быў для кагосьці ў цяжар... Маліцеся Хрысту, каб я стаў ахвяраю... і калі стрываю пакуты, дык атрымаю ад Ісуса вызваленне і паўстану перад Ім вольным...”

З трапяткою ўзнёсласцю, амаль не дыхаючы, слухалі дзяўчынкі з вуснаў маці гісторыю пра апошнія дні апостала Андрэя Першазваннага:

– Правіцель горада Патры Егеат запатрабаваў у састарэлага апостала, каб ён адрокся ад Хрыста, пакланіўся элінскім багам і прынёс ім ахвяру. “Сам павер у Хрыста, – адказаў правіцелю апостал. – Я болей смуткую пра тваю пагібель, чым аб пакутах, якія належыць ператрываць мне. Мае пакуты будуць працягвацца дзень, другі, а твае – вечна”. Калі апостала вялі да крыжа, на якім збіраліся распнуць, народ крычаў: “У чым саграшыў гэты чалавек, што яму наканаваная самая ганебная смерць, якою караюць толькі небяспечных злачынцаў?” Аднак святы Андрэй супакойваў людзей: “Жанчыны і дзеці, старцы і маладыя, рабы і вольныя! Паслухайце словы мае і не думайце аб марнасці часовага жыцця, глядзіце на мяне, укрыжаванага і гатовага пакінуць сваё цела. Не трэба баяцца смерці тым, хто памірае за ісціну, бо яны атрымліваюць Божую дабрадаць. Ачышчайце сябе, не забывайце майго вучэння, усім сэрцам паверце ў Бацьку і Сына і Святога Духа”. Дні і ночы ўкрыжаваны святы старац, нягледзячы на цяжкія пакуты, не спыняў свае пропаведзі. Народ, абураны тым, што апостал ужо трэці дзень вісіць на крыжы без ежы і вады, пайшоў да правіцеля Егеата і запатрабаваў: “Дарэмна пакутуе гэты святы і мірны чалавек, які вучыць нас дабру і праўдзе. Здымі яго!” Егеат, спалохаўшыся людскога гневу, сам пайшоў да крыжа і ўжо хацеў загадаць, каб знялі апостала, аднак Андрэй сказаў яму: “Для чаго ты прыйшоў, Егеат? Калі для таго, каб паверыць у Ісуса Хрыста, дык, несумненна, атрымаеш прабачэнне, калі ж для таго, каб адвязаць мяне ад гэтага дрэва, дык марныя твае намаганні, лепей паклапаціся пра сябе. Я ўжо цешуся Царом Нябесным, кланяюся Яму, стаю перад Ім! Дык пакуль ёсць час, патурбуйся аб душы сваёй, не рыхтуй сябе для вечных пакут”. Па загадзе правіцеля ваяры хацелі ўсё ж адвязаць святога Андрэя ад крыжа, але апостал, узняўшы вочы ў неба, усклікнуў: “Не дазволь, Гасподзь, каб знялі мяне з крыжа, дазволь папакутаваць за Цябе гэтак жа, як пакутаваў Ты. Не дай пахіснуцца тым, хто спазнаў і палюбіў Цябе праз маё дабравешчанне. Захавай іх і зацвердзі ў святой Тваёй веры, каб яны праслаўлялі Цябе, сапраўднага Бога. Прымі

---

[1] Паводле Евангелля ад Мацвея (18:2-5) такое прозвішча ён атрымаў з-за таго, што Хрыстос браў Ігната-дзіцёнка на рукі. Першы буйны хрысціянскі прапаведнік неяўрэйскага паходжання. Дзень памяці — 20 снежня.

мяне!" І сапраўды: як толькі ваяры спрабавалі наблізіцца да крыжа, невядомая сіла спыняла іх. Святло, ярчэйшае, чым сонечнае, ахапіла Андрэя і хавала яго ад вачэй ваяроў. Калі ж святло знікла, дык усе ўбачылі, што святы апостал ужо аддаў дух свой Богу, і толькі твар ягоны ззяе нябесным святлом...

Скончыўшы аповед пра апостала Андрэя, Сафія патлумачыла дзяўчынкам:

– Вось глядзіце: святая Тэкля захавала для Ісуса Хрыста сваю цноту і стала нявестаю Ягонаю, Арыядна перакрывала пакуты, хоць цела яе разрывалі жалезнымі крукамі, ды не адраклася ад веры ў Госпада, не зайшла ў паганскі храм. А Ігнат Баганосец і апостал Андрэй дык і ўвогуле палічылі за шчасце загінуць у імя Госпада нашага... Вам, напэўна, таксама давядзецца зведаць пакуты, бо імператар настойвацьме, каб вы адракліся ад Ісуса Хрыста, ушанавалі рымскіх багоў. Чаму я так кажу? Бо імператар Адрыян паказаў ужо сваю існасць, апошнім часам з нас, хрысціян, здзекуецца... Я раскажу вам яшчэ адну гісторыю, якая адбылася тут, непадалёку ад Рыма, і зусім нядаўна. Праўда, вы пра яе нічога не чулі, бо на той час мы сюды яшчэ не перабраліся...

Сафія трохі памаўчала і працягвала ўжо дрыготкім голасам, бо адчувала, што неўзабаве і ёй самой, і ейным дзеткам давядзецца прайсці тым жа шляхам, што і гэтай пакутнай сям'і:

– У Цібуры ўдава Сімфароза адна гадавала семярых сыноў – Крыскента, Юліяна, Нямезія, Прамітыва, Юстына, Стракцыя і Яўгена. Празнаў імператар Адрыян, што ў гэтай сям'і ўшаноўваецца Ісус Хрыстос, і загадаў прывезці Сімфарозу ў свой палац. Спярша Адрыян ветліва папрасіў, каб Сімфароза прынесла ахвяры рымскім багам...

Сафія перапыніла аповед, каб папярэдзіць дзяўчынак:

– Любыя мае дачушкі, я хачу, каб вы ведалі вось што. Калі імператар пакліча вас да сябе, ён таксама напачатку размаўляцьме з вамі пяшчотна, абяцацьме розныя даброты – толькі для таго, каб вы ўшанавалі элінскіх багоў. Ды вы на гэта не зважайце, не верце яму, бо вуснамі Адрыяна гаварыцьме д'ябал...

– Дык мы ж і не ўзялі ягоны пачастунак! – ганарліва задраўшы носік угару, сказала Любачка.

– І правільна зрабілі... Дык слухайце далей. Сімфароза горда адказала імператару: "Мой муж Гетулій з братам Амантыем былі народнымі трыбунамі, служылі табе і Рыму. Яны перакрывалі пакуты за імя Хрыстова, адмовіўшыся прынесці ахвяры ідалам і, як Хрыстовыя ваяры, перамаглі тваіх дэманаў. Яны абралі смерць, а не адрачэнне ад Госпада. І ў смерці сваёй, хоць і перажылі людскую ганьбу, набылі вечную славу і гонар сярод анёлаў нябесных. Дык і я Госпаду нашаму не здраджу". Аднак Адрыян настойваў на сваім: "Або ты з сынамі прынясеш ахвяру ўсемагутным багам, або сама з дзецьмі станеш ахвяраю". Сімфароза ж усклікнула: "Якое шчасце, калі мне выпадзе гонар восем разоў памерці за Бога майго! І я хутчэй сустрэнуся з мужам маім любімым Гетуліем, якога ты загадаў забіць. А твае багі не змогуць прыняць мяне ў ахвяру, бо калі спаляць мяне за імя Хрыстовае, дык сваёй смерцю я хутчэй знішчу тваіх багоў". Тады імператар загадаў адвесці Сімфарозу ў храм Геркулеса, дзе яе пачалі біць і падвешваць на ўласных валасах да столі. Аднак і гэта не схіліла Сімфарозу да ідалапаклонства. Па загадзе імператара да ейнае шыі прывязалі вялікі камень і кінулі ў Цібр. Брат Сімфарозы, Яўген, які быў правіцелем у Цібуры, вылавіў ейнае цела і пахаваў за горадам... На другі дзень Адрыян загадаў прывесці

да яго ўсіх сыноў Сімфарозы і заклікаў іх прынесці ахвяры ідалам. Калі ж яны, нягледзячы на ўгаворы і пагрозы імператара, адмовіліся, Адрыян загадаў раскласці вакол храма Геркулеса сем вогнішчаў і падвесіць над імі сыноў Сімфарозы. Старэйшаму, Крыскенту, пракалолі дзідаю горла, Юліяну прабілі грудзі, Нямезію – сэрца, Прамітыву – жывот, Юстыну ўдарылі ў спіну мячом, Стракцыю прабілі бок, а самага маладога, Яўгена, павесілі ўніз галавою і рассеклі папалам... На наступны дзень целы забітых скінулі ў глыбокую яму...[1]

Калі Сафія замоўкла, дзяўчынкі, якія звычайна пачыналі шчабятаць, задаваць пытанні, абмяркоўваць пачутае, на гэты раз не вымавілі ні слова. Ранейшыя аповеды ўяўляліся ім амаль што казкамі, прынамсі, падзеі, якія ў іх адбываліся, здаваліся далёкімі, недасяжнымі. А тут усё здзейснілася зусім нядаўна, блізка, а таго імператара-пачвару яшчэ ўчора яны бачылі на ўласныя вочы...

Сафія, заўважыўшы перамену ў іхнім настроі, палічыла, што зараз самы час сказаць тыя галоўныя словы, без якіх абысціся немагчыма.

– Дачушкі мае любімыя, – пяшчотна пачала яна. – Магчыма, заўтра наступіць дзень, калі вам пашчасліціцца стаць нявестамі бессмяротнага Жаніха. І тады вы, у адпаведнасці з імёнамі вашымі, павінны паказаць веру цвёрдую, надзею несумненную, любоў шчырую і вечную. Настаў час урачыстасці вашай, калі пакутным вянцом вы будзеце вянчацца з Жаніхом сваім і з вялікаю радасцю ўвойдзеце ў Ягоны палац. Дачушкі мае, дзеля такога гонару Хрыстовага не пашкадуйце, калі спатрэбіцца, плоці сваёй, не пашкадуйце прыгажосці сваёй дзеля самага Прыгожага, і дзеля жыцця вечнага не сумуйце пра жыццё часовае, бо ваш нябесны Абраннік, Ісус Хрыстос, і ёсць вечнае жыццё, і прыгажосць невыказная. І калі целы вашыя будуць знявечаныя, Ён зробіць іх нятленнымі, а раны вашыя – светлымі, як зоркі ў небе. Калі прыгажосць вашая праз пакуты за Яго будзе адабраная ў вас, Ён упрыгожыць вас нябеснаю прыгажосцю, якой чалавечыя вочы ніколі не бачылі. Калі ж страціце вы часовае жыццё, паклаўшы душы за Госпада свайго, дык Ён узнагародзіць вас жыццём бясконцым, у якім праславіць вас навекі перад Бацькам Сваім нябесным і перад Ягонымі святымі анёламі, і ўсе нябесныя сілы назавуць вас нявестамі і спавядальніцамі Хрыстовымі. Дачушкі мае дарагія! Не спакушайцеся на дабрюты д'ябальскія, не бойцеся пакут, бо, ператрываўшы іх, вы пераможаце ворага. А я веру ў Бога майго Ісуса Хрыста, веру, што Ён не пакіне вас, пакутніц у імя Ягонае, бо Ён Сам сказаў: “Хіба ж забудзе жанчына дзіця сваё, каб не пашкадаваць сына ўлоння свайго? А калі б і забыла, дык Я не забуду цябе”[2] Неадступна Ён будзе з вамі ва ўсіх вашых пакутах...

Для Паладыі не было сэнсу падслухоўваць далей, яна ўжо зразумела, што пераканаць Сафію не ўдасца. І толькі ўвечары, калі дзяўчынкі ўлегліся спаць, матрона запрасіла дзяканісу ў атрый.

Сафія пагадзілася на размову з неахвотаю, працінала Паладыю калючым позіркам.

– Я здагадваюся, для чаго імператар прыставіў цябе да нас, – адразу ж заявіла яна. – Але твае высілкі будуць марнымі.

Паладыя незадаволена зморшчыла твар:

---

[1] Потым хрысціяне назвалі гэтае месца “Сямёра, якія перамаглі смерць”. Дзень памяці Сімфарозы і яе сыноў – 18 сакавіка.

[2] Кніга прарока Ісаіі, 49:15.

– Чаго ж ты да мяне так варожа? Асабіста я ні табе, ні тваім дзецям нічога благога не зычу. Дый хіба нам, жанчынам, няма пра што пагаварыць, акрамя веры ды багоў?

Сафія пільна зірнула ў глыбокія, сумныя вочы Паладыі і ўпікнула сябе за тое, што яна і праўда беспадстаўна ставіцца да гэтае састарэлае жанчыны з залішняю непрыязнасцю: ніякага зла ад яе пакуль што нямашака, а што імператар даручыў ёй паўшчуваць адступнікаў, дык не яе ў тым віна.

– Прабач, калі пакрыўдзіла, – светла ўсміхнулася Сафія.

– Не пакрыўдзіла, – Паладыя таксама палагоднела. – Дык прысядзьма? Раскажы мне пра сябе, пра сваю сям'ю. Вунь, гляджу, адна траіх дзяцей падымаеш... А што з мужам здарылася? Ён, пэўна, з патрыцыяў, багатым быў, бо, кажуць, дом у цябе дыхтоўны...

Сафіі раптам і сапраўды закарцела хай сабе і не паспавядацца, але хоць бы выказацца. Так ужо сталася, што ёй увесь час даводзілася выслухоўваць нечыя споведзі, даваць парады, прымаць блізка да сэрца чужыя турботы і беды. І ўсе думалі, што так і трэба, так і належыць. Але ж Сафія – звычайны, зямны чалавек, і ў яе сваіх клопатаў – цераз край, можа, нават болей, чым у іншых. Ёй бы і самой каму-небудзь выказацца, паплакацца... Дзіўна, але Сафіі здалося, што Паладыя, хай сабе і не хрысціянка, але той чалавек, якому можна выкласці душу...

Больш за гадзіну Сафія расказвала пра сваё жыццё. Пасля яе аповеду вочы Паладыі зрабіліся яшчэ болей сумнымі.

– Шкада мне цябе... – са шчыраю спагадаю сказала яна, калі Сафія замоўкла. – Маладая яшчэ, а ўжо столькі гора зведала... Дый колькі яшчэ наперадзе...

У апошніх словах прагучаў выяўны намёк на сённяшняе незайздроснае становішча, і Сафія гэта зразумела. Твар яе пасуровеў.

– Я прайду праз усе пакуты, але веры сваёй не здраджу.

– А пра дзяцей ты падумала? – Паладыя закранула самае балючае. – Яны ж яшчэ свету белага не бачылі, не жылі...

– Значыць, так Богу пажадана... – Сафія зусім не хацела гаварыць з Паладыяй наконт веры і ўвогуле пра магчымыя жахлівыя наступствы.

Аднак Паладыя ўсё ж зрабіла спробу схіліць Сафію да кампрамісу:

– Ды ніхто ж ад вас не патрабуе адмовіцца ад сваёй веры. Вам толькі і трэба, што запаліць ладан у гонар рымскіх багоў... Рукі ж з-за гэтага не адсохнуць... Мне здаецца, што такое простае дзеянне не стане перашкодаю для таго, каб потым трапіць у вашае "царства нябеснае"...

– У царства нябеснае не трапляюць, яго набываюць, – папраўіла матрону Сафія. – Бо і Гасподзь, і Ягонае царства знаходзяцца ў душы чалавека. Або не знаходзяцца. Гэтак жа, як і вера. Яна, сапраўдная, або ёсць, або яе няма, калі хоць у нечым чалавек збочвае[1]... Ды годзе пра гэта. Па ўсім бачна, я цябе ў сваю веру абярнуць не паспею, а ты мяне тым болей ні ў чым не пераканаеш...

Жанчыны трохі памаўчалі.

– Я чула, як ты дзецям пра Сімфарозу расказвала, – першай сказала Паладыя. – Усё праўда, усё так і было... Толькі ты не ведаеш, што яна,

---

[1] Пазней, у III ст.н.э., хрысціяне знойдуць выйсце, каб і веры не здрадзіць, і не наклікаць гнеў улады. Ад усіх насельнікаў імперыі валадары будуць патрабаваць пісьмовае пацверджанне таго, што яны прынеслі ахвяру рымскім багам. Хрысціяне проста выкупляцьмуць такую "даведку" ў мясцовых жрацоў за немалыя грошы.

Сімфароза, за дзень да пакутнае смерці сядзела на гэтым жа месцы, што і ты цяпер...

Сафія ажно здрыганулася.

– Гэта праўда?

– А нашто мне хлусіць? Адрыян таксама хацеў, каб я ўгаварыла яе прынесці ахвяру Артэмідзе. Я спрабавала... Ды марна... Таму і на цябе не дужа насядаю, бо на прыкладзе Сімфарозы ўпэўнілася, што вас, хрысціян, сагнуць немагчыма. Ні словам, ні бізуном...

Яны зноў на некалькі хвілін прымоўклі. І зноў першай азвалася Паладыя:

– Ты, мусіць, дый увогуле ўсе вы, хрысціяне, дужа злыя на Адрыяна: маўляў, пераследуе за іншую веру, нават забівае... Я Адрыяна яшчэ з дзяцінства ведаю. Разам раслі. Ён зусім не жорсткі чалавек, павер мне. І да іншаверцаў Адрыян заўсёды ставіўся паблажліва. Вось толькі ў апошнія гады яго як перакалініла... Не ведаю, чаму... Тым не меней, у Адрыяна не было вялікае ахвоты караць тую ж Сімфарозу і яе дзетак. Імператар пра іх нават не ведаў. А тут акурат скончылася будаўніцтва ягонае вілы ў Цібуры. Удзячны Адрыян прынёс шчодрыя ахвяры багам і запытаўся ў мясцовых жрацоў: “Як вы думаеце, ці доўга прастаіць мая віла? І што наконт гэтага думаюць багі? Вы ж з імі штодня і напрамкі зносіцеся...” А жрацы імператару і сказалі: “Будзе ўсё дрэнна, калі ты не пакараеш хрысціянку Сімфарозу. Яна акурат тут, у Цібуры, жыве, нашых багоў зневажае, свайго Хрыста ўзвялічвае...” Што заставалася Адрыяну? Ён хоць і імператар, ды ўсё адно не з рукі ісці насуперак жрацам. Вось і прывялі да яго Сімфарозу... Заўваж: Адрыян не збіраўся яе катаваць ці забіць, як таго патрабавалі жрацы. Ад Сімфарозы, а потым і ейных сыноў яму досыць было толькі сімвалічнага ўчынку: запаліць ладан у гонар рымскіх багоў. Не захацелі... Не саступілі нават у дробязі... І ў Адрыяна не было выбару... Дарэчы, я не думаю, што і тваю сям’ю імператар “згроб” самахоць. Нейкі зламыснік нашаптаў пра вас штосьці нядобрае...

Сафія ўстала і, перш чым сысці ў спачывальню, мовіла:

– Дарма ты спрабуеш апраўдаць Адрыяна. Нямашака яму апраўдання. Хіжым ідалам пакланяецца, і сам гэткі ж крыважэрны. Нават дзяцей не шкадуе, а нам, хрысціянам, ставяць у правіну, быццам мы іх забіваем і ядзім... Ды ўсё адно ні я, ні мае дочкі не баімся тырана. Бо сказаў Ісус: “І не бойцеся тых, хто забівае цела, душы яны не могуць забіць”...[1]

За два наступныя дні Паладыя болей не распачынала падобныя размовы. Адно што гулялася з дзецьмі, і Сафія была не супраць.

## Жорсткасць і спагада

Апошнімі днямі ў Сабіны быў прыўзняты настрой. І не таму, што адбыліся нейкія перамены да лепшага. Проста ад яе мужа Адрыяна раптоўна адступіліся хваробы, ён акрыяў, вярнуўся да ранейшага паўнавартаснага жыцця.

Што б ні казалі злыя языкі, Сабіна свайго мужа-імператара ўсё-ткі любіла. І ёй было прыемна ад таго, што блізкі чалавек пачуваецца няблага.

Колісь, калі Сабіна была яшчэ дзяўчынаю, да маладога вісуса Адрыяна яна ставілася абыякава. А можа, нават і пагардліва. Ёй, выхаванай у

[1] Евангелле ад Мацвея, 10:28.

добрапрыстойнай патрыцыянскай сям'і, былі неўспадоб разбэшчанасць і юрлівасць Адрыяна – пагалоскі пра гэта хадзілі па ўсім Рыме. Праўда, з часам ён суцішыўся, паразумнеў, аднак асадак у душы Сабіны ўсё адно застаўся, і яна з абурэннем успрыняла заляцанні Адрыяна, тым болей што ён рабіў гэта з прахалодаю, нібы пад чыімсьці прымусам. Зрэшты, так яно і было: Адрыян не гарнуўся да Сабіны, аднак іхняга шлюбу жадала Плоціна, жонка імператара Траяна. Сабіна тады прыклала шмат намаганняў, каб гэтага шлюбу не адбылося: плакала-галасіла, стоячы на каленях перад маці, Метыдыяй, маліла-ўпрошвала дзядзьку-імператара. І дамаглася-такі свайго: Траян адпрэчыў нялюбага жаніха.

Але трэба было ведаць Плоціну: калі яна паставіла перад сабою мэту, дык не адступіцца нізавошта. Праз нейкі час імператрыца ўсё ж даканала мужа, і той пагадзіўся на іхні шлюб. І што было рабіць Сабіне? Воля дзядзькі, а тым болей імператара – закон.

Толькі ў першыя месяцы Адрыян і Сабіна жылі як сапраўдныя муж і жонка, пры гэтым у агульным ложку не спалі, зрэдчас Адрыян наносіў ёй начныя візіты. Сабіне хацелася, каб іх не было ўвогуле. Да Адрыяна яна была нявіннаю, страту дзявоцкасці чакала з жахам, хоць сяброўкі, якія паспелі ўжо спазнаць любошчы, пераконвалі ў іхняй слодычы. Аднак ні ў першы раз, ні потым Сабіна ніякай асалоды ад тых любошчаў не зведала – толькі боль. Таму кожны візіт мужа яна ўспрымала хоць і з пакораю, але ўсім сваім выглядам паказвала, што змушаная выконваць свой жаноцкі абавязак – і не болей. Натуральна, што Адрыян, спрактыкаваны ў жарсці, адразу ж адчуў фрыгіднасць маладой жонкі, і яго гэта не надта засмуціла: спатоліць свой імпэт ён мог з любою маладзіцаю. Зрэшты, нават не з маладзіцаю: у Адрыяне раптам прачнуўся юр на хлопчыкаў і юнакоў...

Сабіна гэтаму не засмуцілася, наадварот, была радая і нават удзячная Адрыяну за тое, што ён ужо зусім не дакучае. Праўда, Сабіне ўсё ж хацелася зацяжарыць, асабліва тады, калі муж стаў імператарам. Тым болей што Адрыян і сам жадаў займець спадкаемцу на трон. З часін Веспасіяна, калі ўладу пераняў ягоны сын Ціт, нібы нейкі праклён вісеў над рымскімі імператарамі: ні ў кога з іх не нараджалася сына. Перасільваючы сябе, Адрыян і Сабіна раз-пораз рабілі спробы зачаць спадкаемцу, але без поспеху. Багі не далі ім нават дачкі.

Тое, што з часам прачнулася ў душы Сабіны, каханнем назваць нельга. Яна проста запаважала свайго мужа: за адукаванасць, за розум.

На жаль, Адрыян праяўляў да яе зусім адваротныя пачуцці. Можна сказаць, ненавідзеў. І калі ў першыя гады імператарства ён яшчэ браў Сабіну ў свае шматлікія падарожжы, дык апасля зусім на яе не зважаў. Вунь нават на апошняе баляванне не дазволіў пайсці, патлумачыўшы гасцям, што жонка захварэла, хоць насамрэч Сабіна пачувалася добра як ніколі, і таму ўсю ноч праплакала ў сваёй шыкоўнай спачывальні. Сабіна ведала, што Адрыян не раз прызнаваўся пры людзях, маўляў, ён скасаваў бы шлюб са сваёю жонкаю за яе панурасць і сварлівасць, калі б быў прыватным чалавекам, а не імператарам... Горка было Сабіне ад гэтых слоў, але яна змусілася іх праглынуць. Тым болей, што Адрыян, кажучы пра панурасць і сварлівасць, ніколькі не схлусіў і не перабольшыў. Сабіна і сама ўсведамляла хібнасць свайго характару, але перайначыць сябе не магла.

На вялізнай віле ў Цібуры іхнія сцежкі не перасякаліся, нават трапезнічалі яны паасобку. І толькі зрэдчас, будучы ў бадзёрым настроі, Адрыян спадабляўся запрасіць жонку на сняданак ці на вячэру.

Сёння з раніцы слугі падказалі Сабіне, што імператар якраз у гуморы, і хоць ён не запрасіў жонку на сумесны сняданак, Сабіна вырашыла ў пэўны час (Адрыян пільна прытрымліваўся распарадку) сама завітаць у імператарскую трыклінію. Ёй падалося, што для размовы з'явілася тэма, цікавая ім абаім.

Адрыян і праўда выглядаў імпэтна, не выказаў папрок з-за таго, што Сабіна прыйшла без запрашэння, наадварот, падхапіўся з сігмы і сам падсунуў ёй крэсла.

Спярша, пакуль размова ішла "ні аб чым", Адрыян не губляў бадзёрасці, і толькі калі Сабіна задала пытанне, якое, на ейную думку, магло б палепшыць настрой мужа, ён нечакана спахмурнеў.

– Дык як ты думаеш пакараць гэтую Сафію і яе дзяцей? – спыталася Сабіна.

Адрыян уторкнуўся ў жонку застылым, недаўменным позіркам і, нарэшце, запытаўся ў сваю чаргу:

– А адкуль ты ведаеш пра Сафію? Яе ж толькі два дні таму прывезлі ў Рым. Чуткі пра гэта распаўзціся не паспелі б, а я, здаецца, таксама свой язык пры табе не распускаў...

Хоць і не хацелася Сабіне, але яна змусілася прызнацца:

– Мне Акіла расказаў...

– Акіла?! – Адрыян ажно ўскочыў з сігмы. – А ён скуль ведае? Дый увогуле, апошнімі днямі я гэтага абэлтуса ў Цібуры не бачыў. А ты дзе з ім сустрэцца паспела?

– Тут, у Цібуры... Акіла сказаў, што з табою хацеў пабачыцца, ды не заспеў: ты ж з самае раніцы цяпер у Рым падаешся... Вось мы з ім мімаходзь і пагутарылі... А што? Гэта ж наш агульны сябар... Дый зямляк...

– Ведаю я тваіх сяброў! – узмыліўся Адрыян. – Як толькі я за парог, дык да цябе – сябры!

Сабіна вельмі пашкадавала, што абмовілася пра Акілу: каб не раз'юшваць Адрыяна, ёй варта было прыдумаць нешта іншае, ва ўсякім разе згадка пра любога мужчыну, як крыніцу інфармацыі, заўсёды была неўспадоб мужу. І рэч не ў рэўнасці, якой у душы Адрыяна ніколі не было. Каму Сабіна патрэбная, каго яна можа спакусіць на жарсць? Адрыяна абурала, што розныя нахабы дапускаюць вольнасці пры імператарскім двары! Жонка – ягоная ўласнасць, хай сабе і нялюбая. І кожны, хто без ягонага дазволу нават пажартуе з Сабінаю, павінен быць пакараны! Так яно, дарэчы, і было. Нават прэфекта прэторыя Сентыцыя Клара за залішнюю разняволенасць у прысутнасці Сабіны Адрыян прагнаў з пасады. Дый ці толькі яго аднаго[1]...

– Прабач, імператар... – паспяшалася апраўдацца Сабіна.

Аднак Адрыян усё яшчэ не мог супакоіцца.

– І што гэты Акіла наплявузгаў табе пра Сафію?

– Ну, тое, што яна адпетая хрысціянка, і сваіх дзяцей такімі выхавала. Дый наогул у цэлай хрысціянскай суполцы верхаводзіць...

– А табе якая справа да гэтае Сафіі? Чым яна табе не дагадзіла?

– Ды хоць бы тым, што нашых багоў не паважае, свайму Хрысту пакланяецца. Ты ж ведаеш, як я стаўлюся і да хрысціян, і да іудзеяў...

Што праўда, то праўда: пра лютую нянавісць Сабіны да іншаверцаў сярод рымскае знаці пагалоскі хадзілі. Была б яе воля, пасля апошняе

[1] Крыху пазней за падобныя вольнасці Адрыян прагоніць нават асабістага сакратара Светонія Транквіла, якому ў свой час за ўвішнасць надаў фактычна дзяржаўны статус.

іудзейскае смуты Сабіна ніводнага яўрэя жывым не пакінула б: гэты народ сам незразумеламу богу моліцца, дык яшчэ і хрысціян ускарміў. Цяпер яны па ўсёй імперыі распаўзліся-расплодзіліся, і ўжо не толькі яўрэі, іншыя рымскія грамадзяне гэтую веру прынялі...

Адрыян, як і ўсе эмацыйныя людзі, імгненна ўспыхваў і гэтак жа хутка астываў. Вось і на гэты раз ён доўга не кіпеў.

– Дык як жа, па-твойму, я павінен пакараць Сафію? – ужо спакойна запытаўся ён.

– Толькі смерцю!

– А з дзецьмі што рабіць? Яны ж яшчэ зусім малыя, да таго ж, дзяўчынкі...

– І дзяцей туды ж! Галовы паадсякаць! З іх жа потым яшчэ болей закасцянелыя хрысціянкі павырастаюць! Пустазелле трэба вынішчаць на карані!

– А можа, будзе досыць таго, што яны нашых багоў прызнаюць?

– Не досыць! Яны, можа, на словах і прызнаюць, а ў душы ўсё адно свайму Хрысту маліцца будуць!

– Ты хоць і ненавідзіш хрысціян, але ведаеш іх дрэнна, – сумна мовіў Адрыян. – Кажаш, прызнаюць на словах... Ці паверыш, мяне гэта задаволіла б. Але ў тым жа і справа, што не прызнаюць...

– Тады іх тым болей шкадаваць не варта! Не трэба з імі валаводзіцца ці пераконваць! Адразу – пад меч!

Адрыян зморшчыў твар:

– Не лезь у мае справы! Я – імператар, і сам буду вырашаць, што трэба рабіць...

Пасля сняданку Адрыян паехаў у Рым, і ў той дзень, напоўнены дзяржаўнымі клопатамі, думкі пра Сафію ні разу яго не наведалі. Згадаць пра яе змусіла Паладыя, якая ўжо ўвечары нечакана завітала ў імператарскі палац. Адрыян, па праўдзе, узрадаваўся яе візіту, бо вырашальная размова з Сафіяй павінна была адбыцца заўтра, і калі ў Паладыі з'явілася патрэба нешта сказаць загадзя, дык, магчыма, ёй удалося ўгаварыць Сафію, каб яна ўсё ж прынесла ахвяру рымскім багам. Гэта было б няблага, бо ў Адрыяна не ляжала душа да суровае кары, дый хіба ж іх, хрысціян, усіх пераб'еш? Проста Сафіі і яе дзецям не пашанцавала, што трапіліся пад гарачую руку. А дзеці акуратненькія, прыгожанькія... Шкада, калі давядзецца абысціся з імі жорстка... Аднак жа, магчыма, і не давядзецца. Можа, Паладыя акурат і прыйшла зараней, каб паведаміць, што не варта рыхтаваць карныя прылады, што Сафія і яе дзеці аддадуць даніну Артэмідзе самахоць...

Паладыя грузна села на шырокае крэсла.

– Ну, з чым ты прыйшла? – нецярпліва падступіўся да яе Адрыян. – Яны пагадзіліся? Ты іх угаманіла?

Пасля працяглае паўзы замест адказу Паладыя ўмольна мовіла:

– Я цябе прашу: адпусці іх! Я вельмі прашу! Згадай: хіба я прасіла ў цябе хоць штосьці? Ніколі! А цяпер прашу...

Адрыян усміхнуўся:

– Ну, вядома ж, адпушчу! Мы так і дамовіліся: як толькі ўшануюць багіню Артэміду, дык адразу стануць вольнымі. За чым заступорка? Я так разумею: яны пагадзіліся, і ты прыйшла, каб мне пра гэта паведаміць... Праўда?

Паладыя маўчала.

– Дык праўда ці не? – паўтарыў Адрыян.

– Сафія не пагадзілася, – цяжка выдыхнула Паладыя. – І ніколі не пагодзіцца... А ты іх усё адно адпусці!

Твар Адрыяна наліўся крывёю.

– Як гэта не пагадзілася? Як? Чаго ж ты сюды прыйшла? Толькі для таго, каб сказаць мне пра гэта? Дык я і сам не сумняваўся, што так і будзе. Чаго ты прыйшла? Каб папрасіць за іх? Ды я...

– Не крычы на мяне! – сама ўзбіўшыся на крык, перабіла Адрыяна Паладыя.

І ў гэтым не было нічога дзіўнага: яна адна ва ўсёй імперыі магла дазволіць сабе трымацца з Адрыянам на роўных.

– Чаго ты на мяне равеш? – працягвала Паладыя. – Што звышнатуральнага ў маёй просьбе? Я не прашу ў цябе ні грошай, ні багацця, ні зямлі. Я прашу толькі злітавацца з адной няшчаснай жанчыны і трыма ейнымі прыстойнымі дзяцьмі. У цябе такіх людзей мільёны! Цэлая імперыя! Дык няўжо ты дзеля мяне не абыдзеш гэтую сям'ю бокам? Нашто табе іхнія пакуты, іхнія жыцці? Што з таго, што яны хрысціяне? Хіба ж мала такіх у тваёй імперыі? Хіба ж ты ўжо вынішчыў усіх астатніх? Дый нашто вынішчаць? Яны ж – твае дзеці! Ты – бацька-імператар! І якімі б дзеці ні раслі – калекамі, неразумнымі, – бацькі любяць усіх аднолькава. А калек – дык, можа, нават і болей, бо ў іх і так незайздросны лёс...

– Ты мяне тут не ўшчувай! – Адрыян зыркнуў на Паладыю з непрыхаванаю злосцю. – Разважаеш, як тыя самыя хрысціяне: "палюбі бліжняга, пашкадуй дальняга"... Так, я бацька! Але ж дзеці павінны бацьку слухацца і не рабіць што каму ўздумаецца. Загадана ўсім маліцца рымскім багам – дык і няхай моляцца, а не прыдумваюць для сябе іншых ідалаў! І калі імперыя – гэта сям'я, дык усім трэба жыць па агульных правілах, якія ўстанавіў бацька! Калі ж хто не хоча, дык той заслугоўвае кары, нават самае суровае. А як жа інакш? Папусціш аднаму, дык і не скмеціш, як ад яго іншыя заразы набяруцца, вольніцы захочуць...

– Можаш казаць і рабіць, што хочаш, – Паладыя не забаялася лютасці Адрыяна, – але я цябе прашу не як імператара, а як чалавека: адпусці гэтых людзей!

– Не адпушчу! – гаркнуў Адрыян. – Калі не саступяць – не адпушчу!

Паладыя апусціла вочы долу і скрушна мовіла:

– Шкада... Толькі, мне здаецца, зусім не дзяржаўнымі інтарэсамі ты кіруешся. Гонар цябе раз'еў, асабісты гонар. А як жа! Нейкая жанчына, нейкія дзеці асмельваюцца пайсці насуперак. І каму? Імператару! Ды я іх!.. А ўсё адно нічога ў цябе не атрымаецца. Не зломіш ты іх, не зломіш! Можаш пазабіваць, а свайго дамагчыся не здолееш. І што мецьмеш? Толькі сабе ж і нашкодзіш: усё астатняе жыццё скрыгатацьмеш зубамі з-за таго, што не ўдалося ўзяць верх над нейкаю жанчынаю і нават дзецьмі... Калі ведаеш, што так і будзе, дык ці не лепей проста адпусціць іх, і ўсё гэта будзе выглядаць прыстойна, нават высакародна...

– А хто табе сказаў, што я не здолею ўзяць над імі верх? – злавесна прашыпеў Адрыян. – Хто табе сказаў? Я прымушу Сафію зрабіць усё, што загадаю. Нікуды не дзенецца...

– Што ты надумаў? – у голасе Паладыі з'явілася трывога. – Ты... ты будзеш катаваць дзяцей на яе вачах?

– Ну, калі спатрэбіцца... – твар Адрыяна перакасіла хіжая ўхмылка. – Але, спадзяюся, да такога не дойдзе...

– Але ж гэта зверства! Гэта вялікі грэх – здзекавацца з дзяцей! Нават

нашыя багі такога не ўхвалілі б, што ўжо казаць пра іхняга, хрысціянскага!

– А мне хрысціянскі бог пабоку. Што тычыцца нашых... Дык я ж дзеля іх руплюся...

– Дзеля сябе ты рупішся, дзеля ўласнага самалюбства! І рымскія багі табе таксама пабоку!

– Годзе! Прыкусі язык! Бач, расперазалася!.. – у Адрыяна больш не было жадання слухаць абразы на свой адрас, хай сабе і ад Паладыі. – А не, дык побач з Сафіяй заўтра пастаўлю! Падобна, не ты яе, а яна цябе ў сваю веру абярнула!

Паладыя сумна ўсміхнулася і ціха мовіла:

– Можа быць...

На шчасце, узбуджаны імператар гэтых слоў не пачуў.

– Ідзі дадому! – загадаў ён. – І помні: у цябе яшчэ ёсць цэлая ноч, каб пераканаць Сафію!

Паладыя ўстала і, не гледзячы ў бок імператара, цяжка перастаўляючы ногі, моўчкі пасунулася да дзвярэй. Адрыян таксама адводзіў вочы ад Паладыі, а калі б не адводзіў, дык скмеціў бы, што твар жанчыны счарнеў...

## Пакутніцы

Рэда пад'ехала да дома Паладыі ў другой палове дня.

Сафія, пачуўшы ляскат павозкі, нават адчула пэўную палёгку. Яна не ведала, калі імператар прышле прэтарыянцаў, і на ўсялякі выпадак падрыхтавалася з самае раніцы. Дзяўчынкі разумелі, што чакае іх у гэты дзень, таму трымаліся сцішана, нават гарэза Любачка не шчабятала, як звычайна.

– Ну вось, дзеткі мае, і настаў наш вырашальны час, – усхвалявана мовіла Сафія. – Давайце памолімся... Усемагутны Божа! Сатвары з намі ўсё, што ў Тваёй святой волі, не пакінь нас, а пашлі нам Тваю святую дапамогу, каб сэрцы нашыя не спалохаліся бязлітаснага ката, каб не забаяліся мы страшных яго пакут і не жахнуліся ад смерці. Хай нішто не адштурхне нас ад Цябе, Бога нашага!

Сафія не стала чакаць, калі іх пакліча Паладыя. Яна адчувала, што гэтая жанчына спачувае ім і ёй вельмі цяжка выправоджваць ні ў чым не вінаватую сям'ю на пакутнае выпрабаванне, а хутчэй за ўсё – на смерць.

– Возьмемся, дзеткі, за рукі...

Па атрыі яны прайшлі як адно цэлае, як сплецены вянок.

Падсадзіўшы дзяўчынак у рэду, Сафія азірнулася. Паладыя стаяла каля ўваходу і пазірала ім услед. Па ейных шчоках каціліся слёзы.

– Дзякуй табе за ўсё... – сумна ўсміхнулася Сафія. – Бывай.

Рэда зрушылася з месца, затарахцела па брукаванцы. Сафія здзівілася, што яна чамусьці накіравалася не ў бок імператарскага палаца, а на ўскраіну, туды, дзе здавён месціліся катакомбы, у якіх апосталы Пятро і Павел прапаведавалі яшчэ першым рымскім хрысціянам.

Нарэшце рэда спынілася, і прэтарыянец са спахмурнелым тварам коратка загадаў:

– Выходзьце!

Ступіўшы на зямлю, Сафія агледзелася. Раней у гэтым месцы ёй бываць

не даводзілася[1]. Яна ўвогуле дрэнна ведала Рым, бо была не тутэйшая, таму не паспела палюбіць гэты мітуслівы горад, дый, мусіць, не хацела.

Дзеці высыпаліся з рэды і зноўку пабраліся за ручкі.

– Ідзіце за мною, – загадаў прэтарыянец і сам накіраваўся ў дыхтоўную будыніну. Унутры яе панаваў змрок, і толькі зверху праз шырокую адтуліну ў сцяне наўскасяк хіліўся чатырохкутны слуп святла. Ён акурат выхопліваў з цемры статую Артэміды. Багіня, падаўшы наперад левае плячо, крыху нахіліла тулава ўніз і скіроўвала халодны позірк долу, нібы разглядваючы тых, хто завітаў у яе храм.

Аднекуль з цемры вынырнулі два цельпукаватыя жрацы і пачалі падпальваць паходні, уваткнутыя па баках храма. Неўзабаве ў памяшканні зрабілася амаль гэтак жа светла, як і на дварэ.

Прэтарыянец загадаў Сафіі і дзецям стаць пасярэдзіне храма, акурат пад пільны позірк статуі (мусіць, так яму было наказана), а сам адышоў убок.

Гэтае маўклівае супрацьстаянне працягвалася не менш як паўгадзіны. Зрэшты, ні Сафія, ні дзеці нават не пазіралі ўверх, на магутную рымскую багіню, нібы ў тым месцы ўвогуле нічога не было, а калі выпадкова іхнія пагляды слізгалі па статуі, дык толькі пагардліва-абыякава.

Нарэшце з-за сцен храма пачуліся цокат капытоў, ляскат колаў і адрывістыя мужчынскія галасы. Адначасна замітусіліся жрацы, папраўляючы паходні, выцягнуўся ў струнку прэтарыянец.

Імператар увайшоў у храм не праз галоўны ўваход, а з таго боку, дзе месцілася прыбудова, у якой жрацы рыхтаваліся да набажэнстваў. Ягоная хада была шпаркаю, рашучаю, хоць гэтаму замінала белая, як гусіны пух, тога, звіслая амаль да самае падлогі. Было трохі дзіўна бачыць імператара ў такой апратцы, бо апошнім часам рымляне цураліся тогі – звыклага адзення пры рэспубліканскім ладзе і ненавіснага – пры імператарскім.

А ўсё таму, што тога была самаю нязручнаю апранахаю з усяго рымскага адзення. Для яе выкарыстоўвалі кавалак палатна ў форме эліпса, звычайна ўдвая ці ўтрая большы, чым патрабавалася па фігуры. Палатно бралі абедзвюма рукамі за шырокі край, захапіўшы прыкладна траціну ўсяго кавалка, і, сабраўшы яго ў складкі, перакідвалі цераз левае плячо так, каб пакрытаю была левая рука і спераду канец звісаў да зямлі (гэты канец называўся ласінаю). Затым палатно (прыкладна ягоную траціну па шырыні) прапускалі пад праваю рукою, на вышыні сцягна зноў збіралі ў складкі і, працягнуўшы па грудзях наўскасяк, перакідвалі канец цераз левае плячо (нацягваць пярэвязь трэ было так, каб яна не душыла чалавека, але ж і не адвісала). Астатнюю частку палатна спускалі паўкругам трохі ніжэй за калена і перакідвалі канец зноў жа цераз левае плячо. Задняе крысо трохі падтузвалі ўверх і на грудзях над пярэвяззю збіралі яго ў складкі.

Апрануць тогу аднаму, без нечай дапамогі, было немагчыма. Да гэтае справы прыступалі з вечара: раб нанова рабіў складкі, пракладваючы іх тоненькімі дошчачкамі або палоскамі ліпавага лубу і прыхопліваў заціскамі, каб захаваць у патрэбным выглядзе да раніцы.

Каму ж успадоб такая валтузня? Не дзіва, што нават рымская знаць, жрацы, магістраты і сенатары апраналі тогу толькі ў афіцыйных абставінах, бо так наканаваў імператар. Зрэшты, Адрыян і сам не любіў тогу, але

[1] Дакладна вядома, што Вера, Надзея і Любоў загінулі на тым месцы, дзе цяпер знаходзіцца базіліка святога Панкрата. Рызыкну выказаць здагадку, што калісь тут стаяў адзін з храмаў Артэміды, бо менавіта гэтай багіні патрабаваў прынесці ахвяру імператар Адрыян..

яна спрадвек была выключна рымскім адзеннем, і ён не хацеў парушаць традыцый[1].

Тое, што імператар апрануў менавіта бялюткую тогу, падкрэслівала значнасць, якую ён надае сённяшняй дзеі.

Імператар спыніўся за некалькі крокаў ад Сафіі. Хвіліну яны моўчкі пазіралі адзін аднаму ў вочы: Адрыян – дзёрзка, пагрозна, Сафія – горда, з выклікам.

Адрыян зразумеў, што зламаць гэтую жанчыну яму не ўдасца, а ўшчуваць ці пераконваць – марна.

– Вывесці яе! – загадаў Адрыян, і да Сафіі адразу ж падступіўся прэтарыянец, памкнуўся схапіць яе пад руку.

– Не чапай мяне! Я сама пайду! – Сафія рэзка тузанула сваю руку і, звярнуўшыся да дачок, пяшчотна мовіла: – Дзеці мае, не бойцеся, згадайце ўсё, пра што мы гаварылі, і трымайцеся як належыць...

Калі Сафія знікла за дзвярыма, Адрыян удавана ўсміхнуўся і павярнуўся да дзяўчынак.

– Чаго ж вы, маленькія мае, пазіраеце на мяне, як ваўчаняты? Я ж не звер які...

– Звер і ёсць! – ненавісна прасвідраваўшы імператара чорнымі вачанятамі, перабіла яго Вера.

Адрыяну давялося сагнаць з твару ўсмешку, аднак голас ягоны па-ранейшаму быў лагодным:

– Я ведаю, што цябе, старэйшую, Верай завуць. Дык навошта ты, Верачка, абражаеш імператара? Я ж нічога благога вам не зрабіў... Наадварот, толькі дабра жадаю. Вунь якія вы прыгожанькія – як лялечкі! Мне самому хацелася б мець такіх мілых дзяцей. Больш за тое – я гатовы назваць вас сваімі дочкамі. Так-так, сваімі, уласнымі! І вы будзеце жыць у імператарскай сям'і, мецьмеце пашану і раскошу. А калі павырастаеце, дык я падбяру для вас найлепшых жаніхоў...

– Не трэба нам жаніхі! Мы – нявесты Хрыстовыя! – ганарліва задраўшы носік, выгукнула Любачка, і гэта было неспадзяванкаю для Адрыяна, бо ад каго-каго, а ад самай меншай ён такой дзёрзкасці не чакаў.

– Ну, ты яшчэ нічога не разумееш, – паблажліва ўсміхнуўся Адрыян. – А падрасцеш – зусім інакш гаварыцьмеш... Дык вось, я назаву вас сваімі дочкамі, і самыя знакамітыя людзі будуць схіляцца перад вамі ў паклоне. А ўзамен я прашу зусім няшмат: прынесці ахвяру ладанам усемагнутнай багіні Артэмідзе. Вунь яна, перад вамі, – Адрыян паказаў рукою на статую. – Бачыце, якая яна прыгожая. Але ж і строгая, патрабуе да сябе ўвагі...

– Мы не будзем прыносіць ахвяру тваёй багіні, бо верым у адзінага Бога і Сына Яго Хрыста! – на гэты раз азвалася Надзейка, і зноў жа імператар быў заспеты знянацку. Сярэдняя дзяўчынка мела сумныя, летуценныя вочы, і Адрыяну здавалася, што гэты чалавечак на дзёрзкасць не здольны. Расчараваўшыся, ён спахмурнеў і загаварыў ужо сурова:

– Аднак жа, калі вы не выканаеце маю просьбу, дык наклічаце на сябе вельмі шмат бедаў, бо я магу быць як добрым, так і злым. Навошта вам мяне злаваць? Падумайце пра сваю маці. Колькі гора ёй давядзецца перажыць, калі з вамі здарыцца нешта нядобрае! А вы ж яе любіце. Праўда, любіце?

Дзяўчынкі зацята маўчалі.

---

[1] Калі валадар Малой Азіі Мітрыдат прапанаваў сваім падданым пераразаць рымлян, дык прыкметаю прыналежнасці да гэтага ненавіснага народа аказалася тога.

– А хіба ж вам самім успадоб пакуты? – працягваў Адрыян. – Наперадзе ў вас усё жыццё. І яно можа быць бяспечным, вясёлым, шчаслівым! І дзеля гэтага ад вас патрабуецца толькі адно простае дзеянне: паднесці ладан да ног Артэміды. І калі вы не зробіце гэтага, я змушуся аддаць вас смерці. Так-так, забіць! І потым мае слугі выкінуць вашыя мёртвыя целы на разрыванне сабакам! Вам гэтага хочацца? І мне, паверце, не хочацца. Я люблю вас і не хачу загубіць вашую прыгажосць!

Адрыян нечакана для самога сябе ўзбіўся на крык. Адумаўшыся, зноў загаварыў спакойна:

– Вы ж бачыце: я нават не загадваю, а прашу. Я, імператар, – прашу. Такога ніколі не было... Дык што, вы ахвяруеце ладан Артэмідзе?

Вера, як старэйшая, не адводзячы пагляду, адказала за ўсіх:

– Не!

Кроў хлынула ў галаву Адрыяна, ягоныя вочы наліліся лютасцю. І было з-за чаго. Ён не пакрывіў душою, калі сказаў, што ніколі і ні ў кога не прасіў. А тут, во, упрошваючы, змусіўся ледзь не на каленях стаяць... І перад кім! Ну няхай гэтая Сафія ўпарціцца, дык яна ж дарослая жанчына, мае сталыя перакананні, і не дзіва, што гатовая аддаць жыццё за свайго бога. Такіх Адрыян ужо бачыў-сустракаў. Тая ж Сімфароза... А гэта ж дзеці! Хіба ж паспелі яны набыць уласныя перакананні, трывалую веру? І тым не меней не саступаюць... Яму, імператару, не саступаюць! А чаму? Таму што ўпэўненыя ў сваёй беспакаранасці, у іхніх маленькіх і дурненькіх галоўках не ўкладваюцца думкі пра магчымыя пакуты і нават смерць. І што ж выходзіць? Што ён, імператар, не можа даць рады нейкім пігаліцам? Не, так не будзе! Над кім-кім, а над дзецьмі ён возьме верх! Павінен узяць! Інакш грош цана яму як імператару. Цэлыя народы ўдавалася ўтаймаваць, а гэтых дзяўчынак не здолее? Здолее, яшчэ як здолее! Хай толькі пабачаць, што іх можа чакаць, дык адразу ж забудуць і пра свайго Хрыста, і пра сваю веру...

Разважаючы гэтак, Адрыян шпарка шпацыраваў па храме туды-сюды і, нарэшце, гаркнуў некаму за сцяною:

– Заносьце сюды ўсё, што прывезлі!

Дзверы расчыніліся амаль імгненна – відаць, паслугачы толькі і чакалі гэты загад. Два мажныя дзецюкі, крэкчучы, пачалі заносіць-зацягваць у храм нейкае жалеззе, складваць яго ў кут. Гэта, відавочна, былі прылады для катаванняў, і іх аказалася шмат: каб перавалачы ўсе жалязякі, дзецюкам давялося зрабіць некалькі ходак. Нарэшце адзін з іх, відаць, галоўны, запытальна зірнуў на імператара, і той скрозь зубы выцiснуў:

– Рыхтуйце!

Для падрыхтоўкі прыладаў катам патрабаваўся нейкі час, і, каб не назіраць за іхняй мітуснёю, Адрыян сышоў у прыбудову, дзе слугі ўжо абачліва паставілі шырокае крэсла і невялікі картыбул, на якім месціліся амфара з віном і зяленіва. Імператар апусціўся ў крэсла, паглыбіўся ў роздум...

Усё-ткі ён добра зрабіў, што загадаў прывезці сюды катаў з усімі іхнімі прычындаламі. Яшчэ ўчора Адрыян спадзяваўся, што яму не давядзецца ўжываць сілу, каб дамагчыся свайго, схіліць Сафію да ахвяравання. Для такога спадзеву былі важкія падставы. Па-першае, хай сабе жанчына і не шкадуе ўласнага жыцця, але ж яе, як і любую маці, павінна хваляваць доля дзяцей. І тады, пры сустрэчы, Адрыян празрыста намякнуў Сафіі, што можа абысціся з дзяўчынкамі вельмі жорстка. Па-другое, яму хацелася верыць, што Паладыі, мудрай матроне, усё ж удасца ўгаварыць Сафію, каб яна пайшла хоць бы на дробны кампраміс з імператарам. Ажно не, не ўдалося.

Больш за тое, Паладыя, падобна, і сама паддалася чарам гэтае хрысціянкі. Заставаўся яшчэ шанец самому паўплываць на дзяцей. Ужо напярэдадні выезду да храма ў ягоны клёк закраўся сумнеў: а што калі і дзяцей не ўдасца спакусіць абяцанкамі? Вунь як яны пазіралі спадылба, мусіць, Сафія добра-такі ўтрамбавала і іхнія неакрэплыя мазгі веру ў гэтага Хрыста... Тады Адрыян і наважыўся прыхапіць з сабою катаў. І нават не для таго, каб напоўніцу іх задзейнічаць. Адрыян спадзяваўся, што толькі ад аднаго выгляду катавальных прыладаў дзяўчынкі самлеюць і зробяць усё, што ім будзе загадана. Ён і Сафію выдаліў з храма, каб яна не замінала ўздзейнічаць на дзяцей, не падбадзёрвала іх сваёю прысутнасцю.

О, гэтая ненавісная Сафія! Так, цяпер ужо ненавісная, хоць напачатку ніякіх агідных эмоцый яна ў Адрыяна не выклікала. Нянавісць выспявала ў душы паступова – разам з супрацівам гэтае жанчыны. Адрыян шалеў ад таго, што нехта асмельваецца яму пярэчыць. Самому сабе ён змушаны быў прызнацца, што праўду сказала Паладыя пры апошняй сустрэчы: зусім не дзяржаўнымі інтарэсамі ён кіруецца, а асабістым гонарам. І цяпер саступіць, злітавацца над гэтаю сям'ёю – значыць, паставіць пад сумнеў сваю ўсемагутнасць. Папраўдзе, Адрыян ужо і шкадаваў, што ўзяўся за гэтую справу: не было б яе – не падвяргалася б зараз выпрабаванню ягоная годнасць... А чаму ён сапраўды ўзяўся за гэтую сям'ю? Хіба мала іншых хрысціян у ваколіцах Рыма? Дый можна было знайсці для паказальнае кары больш самавітых, больш саноўных хрысціянскіх верхаводаў, чым нейкая дзяканіса. Адрыян паспрабаваў згадаць, што паслужыла штуршком, чаму ён узяў пад увагу данос гэтага агамолка Антыоха. Бадай, вось што. Антыох тады сказаў, што Сафія – досыць заможная жанчына, ва ўсякім разе не галадае. Гэта Адрыяна і абурыла. Можна зразумець галыцьбу, якая шукаю патолю ў хрысціянстве. А як жа! Хрыстос суцешыў усё жабрацкае ашмёцце: будзеце бедаваць тут, на зямлі, аднак, калі жыцьмеце па запаведзях, захоўвацьмеце чысціню сваёй душы, дык зашыкуеце ў царстве нябесным! Ну, няхай галыцьба спатольваецца, можа, бунтаваць меней будзе. А якога ляду кідаюцца ў хрысціянства багацеі, тая ж Сафія? Чаго ім не хапае? Для іх жа "царства нябеснае" ўжо створанае тут, на зямлі, і паклапацілася пра гэта найперш улада – ён, імператар. А імператар атрымлівае ўладу па волі багоў. Прычым менавіта рымскіх, магутных, спрадвечных, зразумелых багоў, а не нейкага ціхмянага і няўцямнага Хрыста. Дык вы, багацеі, і шануйце гэтых рымскіх пакравіцеляў, будзьце ім удзячнымі, інакш яны могуць раззлавацца, і тады не толькі "нябеснага царства" не набудзеце, але і зямное страціце...

– Усё гатова, імператар! – у развагі Адрыяна ўварваўся грубы мужчынскі голас. Кат, які стаяў на парозе, не толькі падрыхтаваў сваё абсталяванне, але напагатове быў і сам: спераду ягонае тулава прыкрываў скураны фартух, а на рукі да самых локцяў былі ўздзетыя рукавіцы.

– Добра, я зараз, – Адрыян яшчэ некалькі хвілін задумена пасядзеў у крэсле і нарэшце пружыніста падхапіўся на ногі.

У залу ён увайшоў з тою ж нацягнутаю на твар усмешкаю, як і напачатку. Мімаходзь скасавурыў вока ў кут, дзе стаялі і ляжалі гатовыя да ўжытку катавальныя прылады: жалезная жароўня з краткамі паўзверх, вялізнае драўлянае кола, бізуны, абцугі, бур... Відовішча магло ўразіць і дарослага чалавека, не тое што дзяцей...

А дзяўчынкі нават не пазіралі ў той бок, невідушча глядзелі перад сабою, а на здранцвелых тварыках варушыліся толькі вусны – відавочна, яны маліліся.

– Ну, дзеці мае, цяпер вы ўпэўніліся, якія жахі чакаюць вас за непаслушэнства? – павучальным тонам загаманіў Адрыян, аднак, скмеціўшы, што дзяўчынкі зусім не зважаюць на бізуны, кола і чан, наблізіўся да іх ушчыльную і сілком стаў паварочваць дзяцей тварыкамі ў кут. Але і карныя прыстасаванні іх як быццам не ўразілі, дзяўчынкі па-ранейшаму глядзелі на ўсё адрачона, працягваючы варушыць вуснамі.

– Ды вы, мусіць, не разумееце, для чаго ўсё гэта прызначана, – прамовіў Адрыян і адразу ж загадаў дзецюку: – Распальвай печ, кіпяці смалу!

Кат кінуўся выконваць загад, балазе, для гэтага трэба было толькі паднесці паходню да вугалю, які быў пакладзены пад чан і жароўню загадзя.

– Цяпер зразумелі, што вас можа напаткаць? – задаволена спытаўся Адрыян і сам жа паспяшаўся даць адказ: – На краткі, тыя, што на жароўні, кладуць чалавека, і ён падсмажваецца, як гавяджая туша... У чане, калі смала закіпіць, таксама не надта прыемна... Вунь тым бурам можна прасвідраваць чалавеку косткі... А для чаго патрэбныя бізуны, вы, пэўна ж, і самі ведаеце...

Аднак, падобна, дзяўчынкі не чулі ці не хацелі чуць ягоных слоў, гэтак жа, як і наступных:

– Дык не прымушайце мяне асуджаць вас на такія пакуты, зрабіце тое, што я прашу, і вы выйдзеце адсюль імператарскімі дочкамі. І маці вашая будзе шчаслівая, калі ўбачыць, што яе дзеткі жывыя-здаровыя, і яны...

Толькі цяпер Адрыян заўважыў, што дзяўчынкі яго зусім не слухаюць, таму абсекся на палове фразы. Такая няўвага, хай сабе і дзіцячая, імгненна раз'юшыла імператара, гнеў ахапіў яго, як полымя – ссохлы пук саломы. І ўжо не мела значэння, хто стаіць перад ім – дзеці ці дарослыя.

– Я прымушу вас прынесці ахвяру Артэмідзе, прымушу! – ад шаленства вочы Адрыяна зрабіліся круглымі, як сестэрцыі, а голас выбухнуў з такою сілаю, што нават каты здрыгануліся ад нечаканкі.

– Сафію сюды! Зараз жа! – ад напругі Адрыян ажно стаў на дыбачкі.

Раз'ятраны крык імператара было чуваць і на дварэ, таму літаральна праз адну хвілю прэтарыянец заштурхнуў жанчыну ў храм.

– Выгадавала такіх, як сама, адчужаных ад гэтага свету, дык цяпер будзеш пажынаць плады! – накінуўся на яе Адрыян, размахваючы перад сабою рукамі. – Горкімі будуць гэтыя плады! У мяне не здрыганецца рука, каб паслаць на дыбу і цябе, і тваіх вырадкаў!

Адрыяна яшчэ болей раз'юшыла тое, што Сафія, як і яе дзеці, не зважае на ягоную лютасць, не ўціскае ад страху галаву ў плечы, наадварот, пазірае на яго з сумнаю іранічнаю ўсмешкаю.

– Смяешся? Ну дык зараз паплачаш! Кат, у цябе ўсё гатова?

– Гатова, імператар!

– Апошні раз заклікаю цябе да пакоры! Яшчэ не позна! Пашкадуй сваіх дзяцей! Гэта не я іду на грэх, а ты! Ты штурхаеш мяне на жахлівае дзейства!

Відаць, эмацыйны выбух забраў у Адрыяна шмат сіл, таму ён, як гэта часта здараецца з халерыкамі, зусім нечакана прыціх і спустошана выдыхнуў напрыканцы:

– Ну што ж, не хочаш па-харошаму, будзе па-благому... Салдат! Жанчыну і двух малодшых дачок адвядзі ў кут, няхай слухаюць і назіраюць, а я займуся старэйшай.

Сафія дабрахоць узяла Надзейку і Любачку за ручкі і адвяла іх у дальні кут. Вера засталася на месцы. Наблізіўшыся да яе, Адрыян ужо без асаблівага імпэту, але ўсё ж паўтарыў умову, якую павінна была выканаць дзяўчынка:

– Прынясі ахвяру Артэмідзе, і гэты чалавек, – ён кіўнуў у бок ката, – ніякае шкоды табе не зробіць.

Верачка адказала жарсна:

– Не ведаю я ніякай Артэміды, Бацька наш – Бог, Які жыве на нябёсах. Ён валодае нашымі жыццямі і нашымі душамі. Мы хочам быць Ім любімымі і жадаем называцца Ягонымі сапраўднымі дзецьмі. Пакланяючыся Яму і выконваючы Ягоныя наказы і запаветы, на тваіх багоў мы плюем. І тваіх пагрозаў я не баюся, бо толькі і жадаю, каб пакутаваць дзеля Ісуса Хрыста, Бога нашага!

– Ат! – махнуў рукою Адрыян. – Адно і тое ж... Паглядзім, як ты потым загамоніш... Кат, прыступай да справы!

Высачэзны дзяцюк у скураным фартуху павольна, як бы нехаця падступіўся да Веры – у параўнанні з ім дзяўчынка выглядала проста мізэрнаю, – зверху паклаў свае шырокія рукі-лапы на Верыны плечыкі і рэзка тузануў столу ў абодва бакі. Сукно гучна трэснула і разышлося да пояса – нават не па швах, а “па-жывому”. Вера міжволі ўскінула ручкі ўгору, цнатліва прыкрываючы далонямі нясмелыя, няспелыя дзявочыя грудзі. Заўважыўшы гэты сарамлівы рух, кат злавесна ўхмыльнуўся:

– Гэта ты дарэмна! Цалкам усё адно не прыкрыешся. Распрану дагала!

І ён грэбліва таўхануў дзяўчынку ў плечыкі, ад чаго яна падалася наперад, упала на мармуровую падлогу, моцна вутнуўшыся аб яе спярша каленямі, а потым і тварыкам. З носу пацякла кроў. Кат на гэта не зважаў, зачапіў пальцамі вопратку і цераз ногі сцягнуў яе адразу ўсю з хударлявага цельца. Затым, нахіліўшыся, адною рукою згроб дзяўчынку ў ахапак, паднёс да стала на высокіх жалезных ножках і плюхнуў цельца на шурпатую каменную паверхню. Пакуль кат з розгадам перабіраў бізуны, выбіраючы належны, ягоны памочнік абкідаў вяроўкаю ногі дзяўчынкі, прымацаваўшы іх да стала, а сам зайшоў спераду, ухапіўшыся за дзіцячыя ручкі, выцягнуў іх далёка наперад і стаў трымаць.

Перш чым пачаць бічаванне, кат яшчэ раз запытальна зірнуў на імператара. Той абыякава кіўнуў галавою.

Кат хрыпла хакнуў, і бізун, апісаўшы дугу ў паветры, паласнуў па плечыках. Верачка ціха войкнула, ад болю зморшчыла тварык, але адразу ж, каб не дастаўляць асалоду мучыцелям, прыкусіла ніжнюю губку і потым за ўвесь час сваіх пакутаў не падала ні слова, ні гуку...

Бізун хвастануў і другі раз, і трэці, і пяты, пакідаючы на спіне барвовыя пісягі. Кат, дайшоўшы да шаленства ад таго, што ягоныя высілкі не прыносяць плёну, з пенаю на вуснах хвастаў да тае пары, пакуль не засоп, хоць спіна дзяўчынкі ўжо нагадвала крывавую мешанку.

Адрыян пачаргова кідаў позіркі то на пакутніцу, то на яе маці і сястрычак, адсочваючы іхнія паводзіны. І калі Надзейка і Любачка, заплакаўшы і не маючы болей сілназіраць за мучэннямі сястрычкі, уваткнуліся тварыкам у маміну столу, імператар гаркнуў:

– Глядзіце! Усім глядзець! – і, ужо звяртаючыся да прэтарыянца, загадаў: – Падыдзі да іх і не адступай ні на крок! Не дазваляй ім адварочвацца!

Той подбежкам патупаў у кут, аберуч схапіў дзяўчынак, адарваў іх ад маці і паставіў перад сабою.

– Ну, досыць! – Адрыян, нарэшце, спыніў ката. – Як бачна, бізун яе не праймае. Але гэта толькі кветачкі. Ягадкі яшчэ наперадзе. Здасца, нікуды не дзенецца!

Дзяцюк у фартуху хвіліну-другую разважаў, якое катаванне ўжыць наступным, а падказку яму даў сам імператар:

– Вырві саскі з грудзей, каб яна, калі вырасце, не магла ўскарміць такіх жа, як сама!

– Гэта мы зараз... – задаволена мовіў кат і ўзяўся за абцугі.

<...>

Здавалася неверагодным, што пасля гэтакага гвалту жыццё не пакідае дзяўчынку – як быццам нейкая невядомая сіла падтрымлівае яго ў тонень-кім цельцы.

– Мамачка, не перажывай за мяне, – высільваючы з сябе словы, спрабавала ўсміхнуцца Надзейка. – Хрыстос мне дапамагае.

Аднак Сафія ўсё ж зноў павалілася вобзем, бо назіраць за пакутамі роднага дзіцяці было невыносна.

– Абліце яе вадою! Няхай глядзіць, няхай бачыць! – зароў імператар.

А Надзейка раптам скіравала свой позірк на яго і з нянавісцю прадракла:

– Цябе, мучыцель, чакае геена вогненная разам з тваімі багамі!

– Ах ты, хрысціянская выкарміца! – узвыў Адрыян і сціснуў кулакі. Ён нават памкнуўся сам узяцца за крукі, але адумаўся, спыніўся на паўдарозе: усё ж не імператарская гэта справа – катаваць уласнымі рукамі.

Тым часам каты, зняверaныя ў круках, бо яны не далі жаданага выніку, адчапілі Надзейку ад вяроўкі, паднеслі яе да чана з кіпячаю смалою.

І тут здарылася неймавернае. Ці з-за так званай “стомленасці металу”, ці з-за першапачатковага браку, а можа, і па нейкай іншай, непадуладнай для чалавечага розуму прычыне, але чан раптам трэснуў – палоска-зігзаг, як маланка, шуганула зверху ўніз, а затым і раскалоўся на дзве няроўныя палавіны. Смала пластом плюхнулася на вогнішча, ад чаго яно спярша на імгненне прытухла, а затым полымя шуганула з такою сілаю, што дацягнулася сваімі языкамі да сярэдзіны храма. Яшчэ далей стрэлілі дробныя іскры-пырскі распаленай смалы.

Да кута, дзе стаялі Сафія і Любачка, пырскі ўсё ж не даляцелі. Дзіўна, але не закранулі яны і Надзейку. Перш чым акунуць дзяўчынку ў чан, кат паклаў яе на падлогу, каб палкаю разбоўтаць смалу. І калі кіпень гупнуў у агонь, пырскі паляцелі ўверх і па баках, прынамсі, не ніжэй каленяў...

Затое напоўніцу дасталося катам, асабліва дзецюку, які нахіліўся над чанам.

– А-а-а! – дзіка зароў ён, схапіўшыся рукамі за свой твар, усеяны чорнымі крапінкамі. – Вочы, мае вочы!

Другому кату хоць і перапала менш, але ён таксама заенчыў, заверашчаў, страсаючы-скідваючы з аголеных частак цела шыпучыя кропелькі.

Імператар стаяў воддаль, тым не меней вогненны залп накрыў і яго, злёгку абсмаліўшы ссівелую кучаравую бараду. Ад апёкаў выратавала тога, якая прыкрывала цела ад шыі да пят. Яна затлела, задымілася... Адрыяну пашанцавала яшчэ і ў тым, што акурат у гэтую хвіліну ён павярнуў галаву да Сафіі, і пырскі абляпілі толькі правую шчаку. Закрыўшы яе далонню, імператар кінуўся ў прыбудову, дзе спадзяваўся атрымаць помач ад служак. На хаду крыкнуў:

– Забіце! Адсячыце галаву гэтай малечы!

Каты выканалі ягоны загад не адразу, бо ратаваліся самі. Адзін з іх, падобна, увогуле аслеп, і яму ўжо было не да таго.

Надзейка, скарыстаўшыся іхняю замінкаю, з цяжкасцю прыўзняла галаву і на адным дыханні вымавіла:

– Мамачка, будзь шчаслівaю-здароваю і згадвай дачушку сваю! Сястрычка, не заставайся тут і ты, разам паўстанем перад Святою Тройцаю!

Сафія памкнулася да дзяўчынкі, але прэтарыянец заступіў ёй дарогу.

– Нельга! Не дазволена!

– Надзейка! Дачушка! – ва ўвесь голас крыкнула Сафія. – Благаслаўлёная ты Госпадам Богам за тое, што на Яго спадзяешся, і дзеля Яго не шкадуеш жыцця свайго! Ідзі да сястры сваёй Верачкі, і разам з'явіцеся перад сваім Любым!

Гэта былі апошнія словы, якія Надзейка паспела пачуць. Ацалелы кат конча акрыяў і паспяшаўся выканаць загад імператара: стаўшы на калена, сакануў па шыі мячом зверху ўніз...

Калі Адрыян уварваўся у прыбудову, служка, які не бачыў, што адбылося ў зале, згледзеўшы задымленага імператара, спярша жахнуўся, а затым кінуўся паліваць віном (вады пад рукою не было) тыя месцы на ягоным адзенні, якія ўсё яшчэ тлелі. Неўзабаве тога пабілася чырвона-ружовымі – нібы крывавамі – плямамі...

Адрыян нават не прысеў, тупаў па пакоі туды-сюды, чмыхаў, моршчыўся ад болю, усё яшчэ прытульваючы далонь да расчырванелай шчакі. Карука ўжо выправілася-панеслася па Гермагена, якога на гэты раз Адрыян чамусьці неабачліва не прыхапіў з сабою, хоць звычайна лекар следаваў за імператарам неадступна.

Не спыняючыся, Адрыян вольнаю рукою схапіў кубак і выліў у рот рэшткі віна. Але гэта не прынесла палёгкі, думкі мітусіліся, наплывалі адна на адну...

Гэта ж трэба, не вытрымаў, трэснуў чан! Што хочаш можна падумаць... Магчыма, хрысціянскі бог даў перасцярожны знак, выказаў свой гнеў? Глупства! Няма такога бога, няма. А ёсць усемагутны Юпітэр і ягоная світа з астатніх рымскіх багоў і багінь. Дый як інакш? Хіба стварылі б такую дасканалую цывілізацыю папярэднікі-грэкі, хіба пакарыла б Рымская імперыя палову свету без іхняй дапамогі? Ды нізавошта! Не, ён, Адрыян, усё робіць правільна. А трэснуты чан – простае супадзенне. Падставы ж для гневу ёсць толькі ў Артэміды. А як жа! Нейкія ўпартыя просталюдзіны не хочуць выказаць ёй павагу... Хаця б жа багіня не скіравала свой гнеў на яго, імператара. А можа, ужо скіравала і, раскалоўшы чан, дала пазнаку, што імператар робіць не ўсё магчымае, каб схіліць гэтую сям'ю да пакоры? Намякае на больш жорсткія меры? Ды куды ўжо крывавей... Падобных пакут нават дарослыя не вытрымлівалі, адракаліся ад усяго на свеце. І толькі хрысціян ніякая трасца не бярэ, як быццам ім і не баліць... Нават дзеці трываюць... Што яны за людзі? Хіба не з такога ж цеста зляпленыя? Іхнюю самаахвярнасць можна зразумець: спадзяюцца трапіць у "царства нябеснае". Але ж як перад гэтым перанесці неймаверныя пакуты? Як прыглушыць звычайны чалавечы боль? Неверагодна... Вунь нават гэтая дзяўчынка: з яе скуру здзіраюць, а яна ўсміхаецца... Няма сумневу, што і апошняга дзіцёнка зламаць не ўдасца. Дык што, спыніць катаванне? Пакінуць яе жывою? Не, ні ў якім разе! Атрымаецца, што ён без аніякага сэнсу, марна загубіў два дзіцячыя жыцці і адначасна прызнаў сваю бездапаможнасць перад хрысціянскаю хеўраю. Трэба прайсці гэты шлях да канца, і тады сэнс з'явіцца, тады ніхто не папракне імператара ў бяссіллі, не паставіць пад сумнеў ягоную веліч. Хай сабе хрысціяне не здаліся, але затое яны сурова пакараныя, і ўсё выглядацьме, як быццам так было задумана: не скарыліся – дык вось вам смерць. У навуку іншым. Мусіць, ужо і не варта доўга валаводзіцца з апошняю дзяўчынкаю, усё адно плёну не будзе... Але ж не, хай папакутуе. І не столькі яна сама, колькі клятая Сафія, калі назірацьме за здзекамі з роднага дзіцёнка.

Імператар вырашыў не чакаць, пакуль прывязуць Гермагена. З гэтаю справаю трэба канчаць як мага хутчэй...

Смаляныя плямы на падлозе яшчэ не зацерлі, але вогнішча ўжо было патушанае. Прэтарыянцы расчынілі дзеры насцеж, і ў праём шэрымі палосамі цягнуліся рэшткі дыму.

Аслепленага ката, відаць, некуды адвялі, у храме застаўся толькі памочнік. Зрэшты, і яго аднаго было досыць, каб управіцца з апошняю дзяўчынкаю, якая тулілася да маці. Яны па-ранейшаму стаялі ў куце, бо прэтарыянцы не дазвалялі ім наблізіцца да знявечаных цельцаў.

Адрыян хоць і зняверыўся ва ўдалым зыходзе, ды ўсё ж вырашыў не адступаць ад звыклага сцэнару, зноў расцягнуў вусны ўдаванай усмешкай, праўда, цяпер яна болей нагадвала хіжы выскал, бо ягоны твар адначасна крывіўся ад болю.

– Дык, можа, ты, Любачка, будзеш паслухмянаю? – схіліўся над дзяўчынкаю Адрыян. – Я нават не прашу, каб ты прынесла ахвяру. Ты толькі скажы, што багіня Артэміда – вялікая багіня, і гэтага будзе досыць, каб я адпусціў і цябе, і тваю мамачку. А не – дык... Ты ж бачыла, як балюча было тваім сястрычкам на жароўні...

– Вялікая не Артэміда, а вялікі Бог мой Ісус Хрыстос! – голасна адказала Любачка. – А ты і твая багіня ўсё адно загінеце!

– Значыць, не хочаш... – цяжка ўздыхнуў Адрыян. – Ну, тады ідзі ўслед за сваімі сястрычкамі... Кат, пачынай!

Дзяцюк схапіўся за бізун, аднак імператар яго асадзіў.

– Не гэта... Навошта траціць час дарма? Ва ўжытку яшчэ не было вунь тое кола.

Кат схапіў Любачку ў абярэмак.

Аднаму яму цяжка было выканаць належныя дзеянні, таму памагаць кінуліся два прэтарыянцы. Цельца дзяўчынкі расцягнулі на коле – ажно хрусцелі суставы – і прывязалі да папярэчынак ручкі і ножкі. Кат узяў у руку тоўстую палку...

Ад моцных удараў туга нацягнутая скура на цельцы Любачкі трэскалася, разыходзілася, крывянілася, костачкі трушчыліся... А Любачка маўчала! Нават у самога Адрыяна скурчылася душа, калі ён уявіў, што цяпер адчувае гэтая дзяўчынка. Адвярнуўшыся, ён цераз спіну кінуў загад:

– Здыміце з кола і пакладзіце на жароўню!

У каторы раз храм напоўніўся пахам смажанай чалавечыны...

Любачка знепрытомнела і, на шчасце, пякельнага болю не адчувала. Непахіснасць дзяўчынкі і марнасць уласных патуг раззлавала не толькі імператара, але і ката. Ужо без аніякага загаду ён скінуў цельца з кратак, абліў яго вадою. Аднак гэта не прынесла жаданага плёну – Любачка па-ранейшаму ляжала нерухома.

– У-у-у! – ад адчаю ўзвыў кат і, схапіўшы жалезны бур, прыставіў яго да дзіцячых плечыкаў. Свердзел пачаў угрызацца ў косць...

Невядома, па якой прычыне, але ў гэтыя хвіліны свядомасць вярнулася да дзяўчынкі. Вярнуўся і пякельны боль...

Ці магчыма звычайнаму чалавеку, а тым болей дзіцёнку, вытрываць такія цялесныя пакуты? Толькі ў адным выпадку: калі нехта звыш надзяліў чалавека надзвычайнаю духоўнаю сілаю, мацнейшаю за любыя пакуты і боль. Напэўна, яна, гэтая сіла, дазволіла яшчэ Любачцы адрывіста вымавіць-прашаптаць апошнія словы:

– Госпадзі Ісусе Хрысце... бласлаўляю імя Тваё... за тое, што забіраеш мяне разам з сёстрамі... што дазволіў і мне ператрываць за імя Тваё...

Сафія хоць і сама была ўжо амаль непрытомная ад гора, але пачула гэтыя словы.

– Дачушка мая, дзіцятка маё любімае! – усклікнула яна. – Трымайся да канца! Для цябе ўжо сплецены вянок і расчыніліся дзверы нябеснага палаца! І Жаніх ужо чакае цябе, з вышыні назіраючы за тваім подзвігам, каб узяць тваю чыстую і беззаганную душу ў свае абдымкі і супакоіць цябе з сёстрамі тваімі! Памятайце і мяне, маці вашую, у царстве Жаніха свайго, каб ён зрабіў ласку і мне, дазволіў быць з вамі ў славе Яго святой!..

– Чаго ты марудзіш? – выскаліўся імператар на ката. – Чаго чакаеш? Хіба не бачыш, што і ад гэтай малечы толку не даб'ешся? Галаву ёй з плячэй! Зараз жа!..

Кат адкінуў бур, падхапіў з падлогі меч. І неўзабаве ўжо тры абезгалоўленыя дзіцячыя цельцы леглі ў радок з прыхаду...

— А з гэтай што рабіць? — спытаўся ў імператара кат, выразна зірнуўшы на Сафію.

Стаяць на нагах самастойна жанчына не магла, яе трымалі пад пахі два прэтарыянцы.

Адрыян злавесна ўхмыльнуўся:

— А няхай яна пажыве! Хай душа папакутуе, хай гэтая бязмозглая жанчына пагалосіць над сваімі дочкамі, палюбуецца, чаго дамаглася. Прэч яе з храма! І дзяцей услед павыкідвайце!

Выкрыкнуўшы гэтыя словы, Адрыян наўпрост, цераз галоўныя дзверы, шпарка пашыбаваў да сваёй карэты. Яго зноў закалаціла, агнём гарэла абпаленая шчака...

### Чатыры магілы

Хоць Архелаю і не выпала сустрэцца з Сафіяй, ён усведамляў, што гэтая жанчына зрабіла пэўны ўнёсак, каб іхнія з Вірсавіяй шляхі ў рэшце рэшт перакрыжаваліся. Але галоўнае – Сафія падтрымлівала ягоную абранніцу ў цяжкія хвіліны, давала слушныя парады, калі тая апынулася на раздарожжы, дый увогуле стала для Вірсавіі духоўнай настаўніцай. Таму не дзіва, што Архелай успрыняў арышт Сафіі і яе дзяцей (а гэта выглядала менавіта арыштам) як асабістую бяду. І найперш ён знайшоў Эміля, хоць выдатна разумеў, што ў гэтай сітуацыі дапамагчы не зможа ніхто.

Эміль і праўда толькі развёў рукамі. Аднак высветліць, дзе ўтрымліваецца арыштаваная сям'я, усё ж паабяцаў.

Філонік цэлы дзень аціраўся каля імператарскага палаца і сваімі пільнымі вачыма ўсё-ткі скмеціў, што жанчыну і траіх дзяўчынак пасадзілі ў рэду і завезлі ў дыхтоўны дом на Субуры. А хто ягоны гаспадар, дакладней, гаспадыня, высветліць было прасцей: нейкая Паладыя, знаная рымская матрона.

Чаму арыштаваных змясцілі не ў турму, а ў шыкоўныя апартаменты, ні Архелай, ні Эміль даўмець не маглі. Эміль, праўда, выказаў здагадку, што тое прыстанішча – часовае і што Сафіяй зацікавіўся менавіта сам імператар, бо ніхто іншы з шараговаю грамадзянкаю валаводзіцца не стаў бы – у турму яе, дый уся турбота. А Адрыян, мусіць, у дачыненні да гэтай сям'і мае нейкі пэўны намер, таму і не спяшаецца з распраўай...

З раніцы да вечаровых прыцемкаў, пачаргова мяняючы адзін аднаго, каля дома дзяжурылі хлопцы з Эмілевай хеўры: трэ было правіжаваць-даведацца,

куды патрапяць Сафія і яе дзеткі потым. Толькі на трэці дзень да дома пад'ехала прэтарыянская рэда. Сям'ю чамусьці павезлі ў супрацьлеглы ад імператарскага палаца бок. Філонік і Дакус (акурат ім выпала стаяць на пасту ў гэты час) дзе нетаропка, а дзе подбежкам памкнуліся за павозкай, балазе, па цесных і шматлюдных вулках яна не магла рухацца занадта шпарка.

Як толькі прэтарыянец завёў Сафію і дзяцей у храм Артэміды, Дакус застаўся на месцы, а Філонік кінуўся ў цэнтр горада, каб знайсці там свайго камандзіра.

Архелай і Эміль з'явіліся праз дзве гадзіны. Тэрыторыя вакол храма была ачэпленая прэтарыянцамі, і што робіцца ў будынку, можна было толькі здагадвацца. А рабілася, мусіць, нешта жахлівае, бо з таго боку часам чуліся нейкія крыкі, патыхала смаленым, а аднаго разу з расчыненых дзвярэй шуганула густое воблака дыму.

Праз нейкі час прэтарыянцы вынеслі з храма тры акрываўленыя цельцы і паклалі іх на зямлю. Яшчэ адзін прэтарыянец кінуў побач адсечаныя галоўкі...

Затым, вярнуўшыся, яны пад рукі вывалаклі з храма жанчыну, якая, падобна, самастойна ісці не магла, і таксама грэбліва шпурнулі вобзем.

Ад убачанага ў Архелая ў самога ногі зрабіліся ватнымі, яму стала млосна...

А неўзабаве ў атачэнні цэлай зграі прэтарыянцаў міма пранеслася імператарская карэта. Ачапленне не было знятае да тае пары, пакуль ад храма не выправіліся ўсе павозкі. На некаторыя з іх было ўзвалена markedly рознае жалеззе, і не даводзілася гадаць, для чаго яно прызначалася...

Яшчэ не заціхла тарахценне апошніх павозак, як хлопцы апынуліся побач з храмам. Зрэшты, не толькі яны. Архелая здзівіла, што аднекуль з бакавых завулкаў сюды памкнуліся незнаёмыя людзі – мужчыны і жанчыны, маладыя і не вельмі. Мяркуючы па тым, што ўсе яны на хаду хрысціліся, гэта былі аднаверцы Сафіі. Выходзіць, не толькі Эмілевы паплечнікі віжавалі за ўсім, што адбываецца з сям'ёй дзяканісы...

Калі Архелай убачыў знявечаныя, абвугленыя дзявочыя цельцы зблізу, сэрца ягонае аблілося крывёю. Гэта ж якія пакуты давялося ператрываць няшчасным дзецям! А Сафія? Хіба ж ёй лягчэй было назіраць за тымі здзекамі?

Хто-ніхто з хрысціян паспрабаваў падступіцца да Сафіі, неяк яе суцешыць, але спробы былі марнымі, бо жанчына нічога не бачыла і не чула. Яна, нахіліўшыся над нерухомымі цельцамі, бязгучна галасіла, прыкладвала да плячэй галоўкі, папраўляла іх, бесперапынна цалуючы. Падобна, звычайны, зямны свет з гэтага часу перастаў для Сафіі існаваць, яе думкі і душа імкнулася ўслед за сваімі дзяўчынкамі...

Эміля таксама ўразіла жудаснае відовішча, хоць у няпростым жыцці яму давялося спазнаць нямала жахаў. Тым не меней ён першы прыйшоў да розуму і пачаў аддаваць належныя загады сваім хаўруснікам.

Спярша да храма пад'ехаў пахавальны катафалк, а затым і карука, не так даўно "канфіскаваная" ў Акілы. У катафалк паклалі мёртвых дзяўчынак, туды ж дапамаглі ўзабрацца і Сафіі.

Хрысціяне, мусіць, ужо ўзгаднілі між сабою, дзе будуць пахаваныя юныя пакутніцы, і нешматлікая працэсія павольна рушыла ў той бок.

Месца, абранае для пахавання, сапраўды было адметным: пакатае ўзвышша за межамі горада, з якога перад вачыма панарамна вымалёўваліся абсягі Рыма – манументальнага і велічнага, бязлітаснага і крыважэрнага...

На самай вяршыні Архелай, Эміль і ягоныя хлопцы борздка выкапалі тры ямы. Пасля таго, як хрысціяне са слязамі на вачах памаліліся, здзейснілі

толькі ім вядомыя рытуалы, цельцы былі аддадзеныя зямлі. Над свежымі пагорачкамі ўзвысіліся часовыя, спехам збітыя крыжыкі.

Увесь гэты час Сафія па-ранейшаму толькі варушыла вуснамі – нячутна малілася і выглядала адрачонай ад усяго існага. А калі з'явіліся магілкі, яна то поўзала перад імі на каленях, то раскідвала рукі ўшыркі, як параненая птушка – крылы, нібы спрабуючы абхапіць імі ўсе тры магілкі адразу...

Неўпрыкмет насунулася цемра. Людзі, тым лікам Архелай і Эміль з паплечнікамі, пачалі разыходзіцца. Засталіся толькі дзве жанчыны. Хрысціяне дамовіліся, што пачаргова будуць прыглядаць за Сафіяй, бо ўсе адчувалі, што гэтае месца яна ўжо не пакіне нізавошта...

Назаўтра Архелай прывёз на ўзвышша Вірсавію. Схіліўшыся над магілкамі побач з Сафіяй, яна праплакала ўвесь дзень. Падобна, прыбітая горам маці дзяўчыну таксама не заўважала і не пазнала. Зрэшты, як і сама Вірсавія – Сафію. Некалі прыгожая, маладжавая жанчына ператварылася ў цень, у нямоглую істоту з запалымі вачыма і спрэс пасівелаю галавою. Цела Сафіі нібы імкнулася як мага хутчэй, амаль імгненна састарэць, адысці ў нябыт, каб даць волю светлай душы...

Напрыканцы трэцяга дня хрысціяне заўважылі, што ўжо каторую хвіліну Сафія ляжыць ніцма і нерухома. Яны спярша пакраталі, а затым асцярожна перавярнулі цела на спіну. Сафія была мёртвая. Яснымі расплюшчанымі вачыма яна пранікнёна пазірала ў неба, а на твары застыла шчаслівая ўсмешка. Напэўна, перш чым адляцець з цела, душа святое пакутніцы яшчэ здалёк згледзела анёльскія душы сваіх дачушак і з радасцю памкнулася да іх, у нябёсы...

Пахавалі Сафію побач з дзецьмі[1].

### Анёлы смерці

Мінула паўгода.

За гэты час у Рыме адбылося шмат знакавых падзей.

У студзеньскія календы[2] памёр Луцый Элій Цэзар. А напярэдадні здавалася, што хваробы пачалі ад яго адступацца. Луцый нават ужо наведваў правінцыі, напісаў бліскучую прамову, прысвечаную Адрыяну, якую збіраўся зачытаць у “дзень добрых пажаданняў” – дзень імператарскай сям'і. Аднак, выпіўшы новыя, раней невядомыя лекі, нечакана і раптоўна сканаў.

Па Рыме хадзілі чуткі, што тыя лекі па загадзе Адрыяна падсунуў Луцыю Гермаген. Маўляў, імператару ўжо абрыдла валэндацца з няўдалым, хваравітым спадкаемцам: даўно павінен ляжаць у магіле, а ўсё ніяк не

[1] Хрысціянская парадыгма пакутніц — сімвалічная. Монатэістычна фемінізаваны Творца (мудрая Сафія) у трох іпастасях: Бог-бацька, Бог-сын, Бог-дух святы. Дванаццаць апосталаў сімвалізаваныя ва ўзросце старэйшай дачкі Веры, 10 запаведзяў — у гадах Надзеі, і дзявятка (узрост Любы) — як сімвал дзявятага дня пасля смерці, калі душа знаходзіцца на шалях у Госпада. Увесь трыадзіны комплекс хрысціянскіх і агульначалавечых каштоўнасцей. Ён семантычна выяўляе ідэю суцэльнага перадаручэння сябе Богу адзінаму, дабрадаці ад знаходжання ў руках Гасподніх і ў гармоніі са светам. Язычнік-імператар увасабляе антыхрыста.

Вернікі лічаць, што нявінныя дзеці бліжэй да прастола Госпада, а Сафія — да Багародзіцы.

Дзень памяці Веры, Надзеі, Любові і маці іх Сафіі — 30 верасня. Хрысціяне спрадвеку называюць гэты дзень агульнымі жаночымі імянінамі. Прычым свята адзначаецца не адзін, а тры дні — столькі, колькі Сафія праплакала над магіламі сваіх дачок. Дзяўчынак, якія нарадзіліся ў гэтыя дні, у цэрквах хрысцяць выключна імёнамі Вера, Надзея, Любоў і Сафія.

Цяпер мошчы пакутніц захоўваюцца ў Эльзасе (Францыя), у царкве Эшо.

[2] Календы — першы дзень кожнага месяца.

акалее, замінае ўсынавіць новага пераемніка. Вось Адрыян і “падштурхнуў” яго да краю...

Так ці інакш, але імператар забараніў аплакваць нябожчыка, патлумачыўшы, што не варта азмрочваць свята – той самы “дзень добрых пажаданняў”. Тым не меней ён загадаў паўсюль узвесці агромністыя статуі Луцыя, а ў некаторых гарадах – і храмы.

Доўга не марудзячы, Адрыян усынавіў Арыя Антаніна. Цяпер рымская знаць пазірала на яго яшчэ болей паважліва – анягож, будучы імператар.

Змены адбыліся і ў жыцці самога Адрыяна. Ужо на наступны дзень пасля крывавага дзейства ў храме Артэміды імператар зноўку занядужаў. Хваробы накінуліся на яго з яшчэ большым імпэтам, чым раней. Галава ўжо не проста балела, здавалася, яна вось-вось расколецца. Лекар Гермаген не мог даць рады, і Адрыян, аберуч абхапіўшы галаву, з ранку да вечара шалёна бегаў па бяскрайніх памяшканнях сваёй вілы ў Цібуры, скрыпеў зубамі, стагнаў і нават крычаў ад болю і пакут.

Не было патолі і ўначы, калі зрэдчас Адрыяну ўдавалася прымружыць павекі. Сны былі кашмарнымі, жахлівымі, і яны дакучалі нават болей, чым хваробы. Раз-пораз Адрыяну сніліся дзяўчынкі, якіх ён загадаў закатаваць. І заўжды малюнак быў адзін і той жа: воддаль стаіць і з нямым дакорам пазірае на яго Сафія, а дзяўчынкі, пабраўшыся за ручкі, ідуць-выплываюць яму насустрач з ружовага туману, тварыкі ў іх не па-дзіцячы сур’ёзныя, задумлівыя, і меншая, Любачка, раптам прамаўляе прароцтва-праклён, якое ён пачуў у храме: “...Артэміда і ты з ёю загінеце!” Пасля гэтых слоў сон заўсёды абрываўся, Адрыян з крыкам падхопліваўся з ложка. Дзіўна, але акурат у тыя хвіліны пачынала агнём гарэць шчака, абпаленая ў храме смалою. Чым толькі ні мазаў яе Гермаген, але ўсё марна: шчака не зажывала, гнаілася, нібы бесперапынна нагадваючы Адрыяну пра ўчыненыя здзекі...

Аднаго разу пасля такога сну Адрыяну здалося, што прароцтва Любачкі збудзецца сёння ж. З рота раптам хлынула кроў, і Гермагену, які ў апошнія месяцы на ўсялякі выпадак начаваў у суседнім пакоі, не ўдавалася яе спыніць да тае пары, пакуль імператар не зрабіўся белым, як крэйда, быццам у ягоных жылах крыві проста не засталося. Аднак жа выжыў...

Затое назаўтра з самае раніцы ён выклікаў прэфекта прэтарыянскай гвардыі Турбона і падаў яму скрутак папіруса.

– Там пазначаны імёны ворагаў імперыі, якія павінны сёння загінуць, – сталёвым голасам загадаў Адрыян. – А хто не пажадае дабрахоць, дык...

Імператар мог наканаваць смерць любому рымскаму грамадзяніну без тлумачэння прычыны. Самазабойства дазваляла ахвяры захаваць гонар і годнасць. Загінуць жа ад рукі прэтарыянца лічылася ганебным.

Турбон разгарнуў скрутак і, прачытаўшы першае імя, не паверыў вачам.

– Сервіян?! – неўразумела выгукнуў ён.

– Так, Сервіян, ты не памыліўся, – абыякава мовіў Адрыян. – Надта затрымаўся швагер на гэтым свеце. Амаль век пражыў, а ўсё ніяк не сканае. Дый абнахабіўся зусім. Вось нядаўна прыслаў ежу маім рабам... Для чаго? На што намякаў? Пазаўчора без дазволу сеў на маё крэсла ў спачывальні... А ты паглядзеў бы, як ён падыходзіць да вартавых. Выпрастаўшыся, задраўшы нос! Не раўнуючы сам імператар! Зрэшты, Сервіян заўжды марыў заняць імператарскі трон. Замінаў мне, да апошняга інтрыгі плёў... Ажно хваробу яму! Гэтак жа, як і кожнаму, хто цешыў сябе надзеяй на імператарства пасля маёй смерці. Там, у спісе, яны ўсе... І не толькі...

Турбон разгарнуў скрутак да канца: і праўда, у спісе было некалькі дзесяткаў імёнаў, вядомых кожнаму рымляніну.

Заўважыўшы разгубленасць на твары галоўнага прэтарыянца, Адрыян гыркнуў:

– А як ты думаў? Нікога не пашкадую! Яны ўсё чакаюць, што я вось-вось акалею... Можа, і акалею. Але ўсіх іх таксама паганю перад сабою ў царства Аіда... Выконвай загад!

Каб управіцца за адзін дзень, Турбон стварыў некалькі атрадаў – па тузіну прэтарыянцаў у кожным. Для самавітасці іх ачольвалі трыбуны. Паміж атрадамі былі размеркаваныя ахвяры. Для свайго тузіна Турбон выбраў самыя гучныя імёны...

Сервіян прачнуўся пазней, чым звычайна, і на тое была прычына: дэбаты ў Сенаце ўчора доўжыліся да начы. А ўсё таму, што Цярэнцій Генцыян зацягнуў сваю прамову ажно на тры гадзіны. Зрэшты, такое ў Сенаце было не ўздзіў, выступоўцы балаболілі колькі ім уздумаецца, рэгламентам нікога не абмяжоўвалі.

Раб па завядзёнцы паднёс Сервіяну кубак з адварам вербены. Гэты напой састарэлы сенатар глытаў ужо дваццаць год – кожную раніцу. Колісь падахвоціўся да яго ў Брытаніі. Мясцовыя жрацы-друіды падказалі, што вербена – трава магічная, яе ўжываюць для вырабу чароўных напояў, для заклінанняў і замоваў[1]. Але галоўнае не гэта. Настой пяшчотных кветак вербены ўзбуджае любоўную жарсць, нездарма расліну ў народзе называюць “венерынай жылкай” і “сёмай травой Венеры”. Чаго-чаго, а жарсці, нягледзячы на дрымучы ўзрост, Сервіяну яшчэ хацелася...

Як толькі дзве маладзіцы накінулі на Сервіяна будзённую туніку, у ягоны пакой чарадой пасунуліся дамачадцы, тым лікам рабы і рабыні. У Рыме так вялося здавён: насельнікі дома з раніцы прыходзілі да гаспадара, каб паздароўкацца, засведчыць сваю павагу. Праўда, апошнім часам гэты звычай часцей за ўсё ігнаруецца, але ж ён, Сервіян, – чалавек яшчэ старой закваскі, захоўвае традыцыі продкаў.

Затым Сервіяна чакалі працэдуры, якія ён надта не любіў, – стрыжка і галенне. Зрэшты, яны былі неўспадоб кожнаму рымляніну. Некалі Марцыял нават абвесціў адзінаю разумнаю істотаю на зямлі казла, “які жыве з барадою”. Рэч у тым, што як след навастрыць жалезную брытву было немагчыма, а перад галеннем шчокі і падбародак толькі мачылі вадою. У таго ж Марцыяла ўвесь твар быў у шнарах і парэзах. Калі ж цырульнік дзейнічаў асцярожна, дык праца ў яго рухалася гэтак марудна, што, паводле Марцыяла, пакуль ён галіў шчокі, у кліента ўжо адрастала барада.

Але што паробіш, Сервіян усё-ткі знаны чалавек, яму належыць выглядаць як след.

Цырульнік ужо расправіўся са шчаціннем на шчоках і падступіўся да падбароддзя, і тут балючую працэдуру парушыў лёкай, які чамусьці ўсхвалявана паведаміў:

– Прабач, гаспадар, але да цябе завітаў прэфект імператарскае гвардыі...

– Турбон? – незадаволена буркнуў Сервіян. – Няхай пачакае. Ты ж бачыш, я заняты справаю. Так яму і скажы.

[1] Згодна з хрысціянскай легендай, вербена расла на Галгофе, і яе прыкладвалі да ранаў Хрыста, каб спыніць кроў.

– Зноў жа прабач, гаспадар, але прэфект не адзін. З ім прэтарыянцы...

Пачуўшы гэтыя словы, Сервіян ледзь не самлеў. Хто-хто, а ён выдатна ведаў, што візіт прэфекта ў атачэнні сваіх гвардзейцаў азначае толькі адно...

– Я... я зараз, – здранцвелымі вуснамі прашаптаў Сервіян і як быў, напалову паголены, на непаслухмяных нагах пасунуўся ў атрый.

Турбона Сервіян ведаў яшчэ смаркачом, і прэфект прэтарыянцаў ставіўся да тройчы консула вельмі паважліва. А як жа інакш? Жывая легенда, нарадзіўся яшчэ пры Нероне, да таго ж, швагер імператара...

Суровы выгляд Турбона, ды яшчэ тое, што ён быў не ў цывільным, а пры поўнай амуніцыі, канча пахавалі спадзеў Сервіяна на нейкае непаразуменне. Што ўжо казаць пра наяўнасць прэтарыянцаў у шаломах з султанамі. Застылыя, як слупы, у двух шэрагах, яны выглядалі анёламі смерці...

Тым не меней, на ўсялякі выпадак Сервіян, пільна зірнуўшы ў халодныя вочы Турбона, адрачона запытаўся:

– Я правільна ўсё зразумеў?

Турбон кіўнуў.

У падобных выпадках асуджанаму на смерць часу давалася няшмат – хіба што толькі для таго, каб напісаць ці надыктаваць запавет. Сервіянам ён быў напісаны даўно.

– Пачакайце крыху, вам паведамяць і паклічуць... – прыглушаным голасам мовіў ён, цяжка павярнуўся і, згорбіўшыся, паклыпаў з атрыя. Сервіян, мусіць, цяміў ужо затуманена, бо нямоглыя ногі па інерцыі панеслі друзлае цела не ў пакоі, дзе знаходзілася зброя, а ў тую ж цырульню, адкуль ён толькі што выйшаў. Жэстам паказаў цырульніку, каб той пакінуў памяшканне, а сам бязвольна апусціўся ў наседжанае крэсла.

Вось і ўсё... Вось і прывяла зямная жыццёвая дарога ў тупік... І што там, наперадзе, у падземным царстве?..

Сервіяну паміраць не хацелася. Хай сабе ён і пражыў амаль цэлы век. Наадварот, чым больш настойліва прыцiскалі да зямлі, горбілі плечы пражытыя гады, тым даўжэй ён імкнуўся затрымацца на гэтым свеце. Царства Аіда – яно вечнае, і немаведама, што там чакае. Магчыма, яшчэ шчаслівейшае жыццё, чым тут, а можа, панурае існаванне... У любым выпадку спяшацца туды не варта: калі прытулак у падземным царстве сапраўды будзе вечным, дык у яго, Сервіяна, мецьмецца бясконцая колькасць часу, каб спазнаць тое, дагэтуль невядомае, жыццё. З-за аднастайнасці, хай сабе і шчаслівай, яно можа нават абрыднуць. Затое гэтага, зямнога, ужо не будзе. Ніколі... О, як гэта нясцерпна ўсведамляць!

Зрэшты, Сервіян разумеў, што ягонае жыццё можа абарвацца ў любы момант. Асабліва пасля таго, як на імператарскі трон ступіў Адрыян. Ён, прадчуваў Сервіян, навекі затаіў злосць пасля прыдунайскіх інтрыг, калі ўсе навыперадкі спяшаліся паведаміць Траяну пра ягонае ўсынаўленне Нервай... Нават дзіўна, што Адрыян не расправіўся са шваграм дагэтуль. Праўда, Сервіян, як толькі Адрыян стаў імператарам, трымаўся з ім, так бы мовіць, цішэй вады, ніжэй травы. Як мог дагаджаў, ва ўсім пагаджаўся. А пра нейкія інтрыгі і думаць не смеў. Вунь нават прэфекту Катылію Северу, калі той наважыўся набіцца ў сыны да імператара, дапамагаць не захацеў. Далей ад граху! І ўсё адно дагадзіць Адрыяну не ўдалося... Імператар вырашыў нарэшце адпомсціць... І ратунку нямашака...

– Цэзоній! – хрыпла клікнуў Сервіян свайго галоўнага служку, які

ўжо здагадаўся, што за трагедыя напаткала гаспадара, і абачліва стаяў за дзвярыма, чакаючы ягоных апошніх распараджэнняў.

– Цэзоній, – ужо спакойна паўтарыў Сервіян, калі служка паўстаў перад ім. – Прынясі мне гладыус. Сюды...

Падобна, у Сервіяна ўжо не ставала сілы ці ён быў у прастрацыі, каб дабрацца да зброі самастойна.

– Слухаю, гаспадар, – сумна азваўся Цэзоній і паспяшаўся выканаць загад...

Не падымаючыся з крэсла, Сервіян праваю даланёю абхапіў залатую рукаятку і паднёс вастрыё ляза да свайго чэрава. Заставалася толькі леваю рукою, а можа, для надзейнасці і абедзвюма, рэзка таўхануць гладыус на сябе. Сервіян стагнаў, пацеў, але адважыцца на гэта не мог. І тады ён... заплакаў. Непрыгожа, смаркаючыся, па-старэчы заплакаў...

Сервіян зразумеў, што ўваткнуць меч у свой жывот ён не здолее. Не хопіць мужнасці. Аднак жа трэба нешта рабіць, каб захаваць хоць рэшткі годнасці... Ягоны позірк зачапіўся за жалезную брытву, якую, адыходзячы, чамусьці не прыхапіў з сабою цырульнік. Сервіян згроб брытву і, заплюшчыўшы вочы, адчайна паласнуў лязом па жылах, якія правадамі вытыркаліся на ссохлым левым запясці. Кроў цвыркнула фантанчыкам. Заставалася трохі пачакаць...

Але хто не мог чакаць, дык гэта Турбон. Ён трымаў у галаве, куды падаўся Сервіян, потым у гэты пакой служка ва ўсіх навідавоку занёс гладыус, і можна было спадзявацца, што ў бліжэйшыя хвіліны настане развязка. Аднак прайшло паўгадзіны, і ніхто не паклікаў прэфекта гвардыі, каб той засведчыў, што прысуд імператара выкананы.

Турбону, нарэшце, абрыдла гэтае доўгае чаканне, і ён павярнуў галаву да цэнтурыёна, які стаяў па правую руку.

– Муцый, паглядзі, што там робіцца. Калі трэба, дык... каб усё было як след.

Цэнтурыён зразумеў, што ад яго патрабуецца, і рашуча накіраваўся выконваць загад. Праз хвіліну ён вярнуўся і гучна, каб чулі ўсе, тым лікам і насельнікі дома, абвесціў:

– Сенатар Сервіян годна скончыў зямное жыццё, як і належыць сапраўднаму рымляніну!

Служкі і рабы кагалам кінуліся ў цырульню. Заліты крывёю гаспадар сядзеў у крэсле, шклянымі вачыма глядзеў удалеч. Абедзве ягоныя рукі былі сашчэпленыя на дзяржальне гладыуса, уваткнутага ў жывот...

Калі прэтарыянскі тузін Турбона завітаў у дом Педанія Фуска, малады гаспадар быў ужо на нагах, хоць напярэдадні амаль цэлую ноч правёў на баляванні ў сенатара Сіцынія.

Тлумачыць Педанію, з якой нагоды на парозе ягонага дома з'явіліся прэтарыянцы на чале з самім Турбонам, таксама не было патрэбы. Ён з самага дзяцінства марыў аб імператарстве і, натуральна, ведаў пра гэты бязлітасны рытуал. Педаній толькі і запытаўся:

– У дзеда вы ўжо былі?

Турбон адказаў коратка:

– Былі...

– Тады ўсё зразумела, – сцяўшы сківіцы, мовіў Педаній. – Адрыян вынішчае ўсіх, хто некалі спадзяваўся ўзысці на трон... Вунь нават майго дзеда Сервіяна не пашкадаваў. Хоць які са старога імператар? Адною нагою ў магіле стаяў...

Педаній крута павярнуўся і сышоў у глыбіню перыстылю. Вярнуўся ж з гладыусам у руцэ.

Турбон зразумеў, што гэтак доўга, як з папярэднікам-дзедам, з адчайным маладзёнам не будзе. І праўда, Педаній адразу ж прыставіў лязо да свайго жывата. З ягоных вачэй пырскала нянавісць, але не да Турбона, а да таго, пра каго ён прамовіў апошнія словы, перш чым націснуць на рукаятку:

– Сам канаеш і ўсіх нас за сабою ў магілу цягнеш! Вылюдак! Колькі нявінных жыццяў ты загубіў! Але нічога... Сустрэнемся ў царстве Аіда – там паквітаемся... Праклён мой табе, тыран! І каб астачу дзён ты пражыў у пакутах!..

Турбон добра ведаў, што Катылій Север з самае раніцы да позняга вечара прападае ў прэфекторыі: спраў у гарадскога галавы па горла, і свой хлеб ён адпрацоўвае як належыць. Так што не было сэнсу кіравацца да Севера дамоў – усё адно не заспееш. Пакінуўшы дом Педанія Фуска, прэтарыянскі тузін адразу ж ўзяў шлях да Субуры, у прэфекторыю.

І трэба ж такому здарыцца: акурат у гэты дзень Север трохі занядужаў, разбаleліся ныркі, і ён вырашыў першую палову дня правесці дома.

Калі Турбон са сваёю ваяўнічаю світаю з'явіўся ў прэфекторыі, там адбыўся сапраўдны пярэпалах. Гарадскія клеркі таксама мелі досвед што да падобных візітаў. І першым ачомаўся сакратар прэфекта Дуроній. Пакуль Турбон і ягоныя памагатыя высвятлялі, дзе прэфект і чаму яго сёння нямашака, Дуроній непрыкметна вышмыгнуў за дзверы прэфекторыі і ва ўвесь дух панёсся да дома свайго начальніка, каб папярэдзіць пра навіслую небяспеку.

Высветліўшы, што сёння Север на службу ўвогуле не з'яўляўся, прэтарыянцы рушылі ў тым жа накірунку. Аднак, у адрозненне ад Дуронія, тупалі няспешна, звыклаю хадою, што дазволіла сакратару апярэдзіць іх літаральна на некалькі хвілінаў.

Север зразумеў свайго сакратара з паўслова. Шчыра кажучы, апошнім часам ён чакаў візіту прэтарыянцаў з дня на дзень, асабліва пасля таго, як ягоная мара стала марнаю – Адрыян усё-ткі ўсынавіў Антаніна. Улічваючы, якім самадурам стаў імператар у апошнія гады, можна было зрабіць выснову: калі ён кагосьці аблашчыў, узнёс да нябёсаў, дык камусьці абавязкова накануе смерць... І Север разумеў, што сярод магчымых ахвяр ён будзе ледзь не першым. З нядаўняга часу да прэфекта пачалі даходзіць чуткі, што Адрыян ім назадаволены, нават выказвае пэўныя пагрозы...

Таму, выслухаўшы Дуронія, Север не стаў разважаць, што трэба зрабіць, каб пазбегнуць гібелі ўвогуле. Ён разумеў, што найперш трэба ўратавацца цяпер, у гэтыя хвіліны, не трапіцца на вочы Турбону, а потым, можа, штонебудзь прыдумаецца...

У вароты ўжо грукалі прэтарыянцы, і Север кінуўся да дзвярэй, якія адчыняліся на суседнюю вуліцу...

Адбегшы, аддыхаўшыся, ён, нарэшце, задумаўся: а што ж рабіць далей? Схавацца, знайсці прытулак дзе-небудзь на ўскраіне імперыі ці ўвогуле за яе межамі? Пра гэта і думаць няма чаго. Па-першае, з сабою ў яго няма ніводнага дынарыя, а задарма на край свету ніхто не павязе. Па-другое, імператарскія шпегі могуць пераняць яго яшчэ ў межах Рыма: гарадскога прэфекта ведае ў твар кожны бадзяжка.

Выйсце бачылася толькі адно...

Як ні ненавідзеў Север Антаніна, колькі інтрыг супраць яго ні плёў, але ў дадзеным выпадку менавіта сын імператара, спадкаемца мог на нешта

паўплываць, штосьці перайначыць. Ва ўсякім разе гэта апошні шанец уратавацца.

Антанін, у адрозненне ад бальшыні рымскае знаці, жыў на ўскраіне, бо не любіў гарадское мітусні. Так што Северу давялося яшчэ доўга праціскацца ў людское плыні, а пасля, бліжэй да ўскраіны, рухацца подбежкам. Усю дарогу розум вярэдзіла толькі адна думка: хоць бы заспець Антаніна дома, хоць бы ён куды не з'ехаў...

Северу пашанцавала: Антанін акурат бавіў час у агромністым перыстылі, сярод квецені і зяленіва (як і ў Гнея, у яго ляжала душа да прыроднага харасства, ён таксама пеставаў кожную расліну).

Выслухаўшы ўсхваляваны расповед прэфекта, Антанін спярша не паверыў ягоным словам, а пасля, усё ўзважыўшы, прыйшоў да высновы: такое можа быць, бо імператар апошнім часам вытварае немаведама што...

– Будзь тут і нікуды не высоўвайся. У маім доме цябе ніхто не зачэпіць, – наказаў Антанін прэфекту. – А я паеду да імператара...

Антанін не надта заклапаціўся лёсам Севера, хоць, як чалавек спагадлівы, пашкадаваў і гэтага, слізкага, як смоўж, аблуду-інтрыгана. Ён, магчыма, і заслугоўвае якой-небудзь кары, але смерць – гэта ўжо залішне.

Імператарскага спадкаемцу ўстрывожыла іншае. Добра ведаючы характар Адрыяна, Антанін нутром адчуў, што Север – не адзіная ахвяра. Душа ў імператара шырокая: калі адорвае дабротамі, дык многіх і напоўніцу, а як выплюхвае свой гнеў, дык на ўсіх і адразу.

На жаль, імператарская віла ў Цібуры знаходзілася за супрацьлеглай ускраінай горада, таму шмат часу давялося затраціць, каб "прасвідраваць-перасекчы" ўвесь разложысты Рым. Спрыяла толькі тое, што Антанін, ужо як член імператарскай сям'і, займеў права ездзіць па гарадскіх вуліцах у павозцы ды яшчэ ў атачэнні ўзброенай аховы. Яны, ахоўнікі, скакалі на конях паперадзе карукі, галёкалі, размахвалі бізунамі, прыціскаючы да сцен людскую гурму, выслабаняючы дарогу для павозкі. Тым не меней Антанін трапіў на вілу ў Цібуры толькі ў полудзень.

Імператар, якога ні на хвіліну не пакідаў нясцерпны галаўны боль, параненым зверам, як і зазвычай, соўгаўся з пакоя ў пакой, аберуч трымаючыся за скроні. Калі яму далажылі, што прыехаў Антанін, Адрыян вельмі ўзрадаваўся. Імператару нават здалося, што і боль трохі суцішыўся, адхлынуў. Проста Антанін цяпер быў адзінай істотай ва ўсёй імперыі, якая выклікала у Адрыяна станоўчыя эмоцыі. Астатнія чалавечыя стварэнні спараджалі агіду ці нянавісць.

Адрыян абняў свайго новаспечанага сына, моцна прытуліў да сябе, і на твары ці не ўпершыню за апошні тыдзень расквецілася ўсмешка. Аднак імператара здзівіла-засмуціла, што наследнік не азваўся такою ж радасцю.

– Што-небудзь здарылася? – ступіўшы крок назад, насцярожана запытаўся Адрыян.

– Ну, як сказаць... Са мною не здарылася нічога... А вось...

– Не трэба працягваць! – перабіў Антаніна імператар. – Я здагадваюся, што ты маеш на ўвазе. Сапраўды, я аддаў загад Турбону, і сёння многія мае ворагі сыдуць у царства Аіда. Так ім і трэба!

– Ты сказаў "многія"? – Антанін дагэтуль спадзяваўся, што гнеў імператара не захліснуў вялікую колькасць людзей, аднак цяпер конча ўявіў, якімі могуць быць памеры трагедыі...

– Так, многія! – з незразумелым гонарам і ўзнёсласцю ўсклікнуў Адрыян, а затым пачаў пералічваць імёны знаных рымлян, якім ён падпісаў смяротны

прысуд. І кожнае названае імя цвіком заганялася ў розум Антаніна. Імператарскага наследніка ахапіў жах: уявілася нават не трагедыя, а катастрофа. Лічы, квецені рымскае знаці наканоўвалася адысці ў нябыт. І, мусіць жа, большасць ужо адышла, бо Турбон, як дысцыплінаваны ваяр, сваю справу ведае... І трэба было ратаваць тых, да каго пакуль што не дайшла чарга...

– Мой імператар! Бацька! – Антанін плюхнуўся на калені, чым проста агаломшыў Адрыяна: ён нават уявіць не мог, што разважлівы, памяркоўны спадчыннік здольны на такі ўчынак, на такія эмоцыі.

– Бацька! – паўтарыў Антанін. – Дзеля мяне злітуйся з іх! Я вельмі цябе прашу!

Гэтае "бацька" гучала трохі ненатуральна, бо яны былі амаль равеснікамі. Магчыма, таму Антанін дагэтуль, нібы саромеючыся, ніколі не ўжываў гэтае слова, хоць з нядаўняга часу афіцыйна займеў статус сына.

І Адрыян, упершыню пачуўшы ад Антаніна "бацька", раптам расчуліўся, на ягоныя вочы нават нагарнуліся слёзы...

– Ты сапраўды... лічыш, што я павінен іх... памілаваць? – каўтаючы словы, выцінуў Адрыян.

– Дзеля мяне, бацька!

– Ну, калі дзеля цябе...

Праз некалькі хвілін імператарскі ганец панёсся ў Рым, да Турбона. Прэфект Катылій Север ацалеў, хоць і быў пазбаўлены пасады. Тым, да каго ўсё ж паспелі завітаць прэтарыянцы, пашанцавала меней. І іх было вельмі шмат...

У той дзень Акіла вяртаўся ў Рым ад Антыоха.

Хоць за данос на Сафію дуумвір не атрымаў ад імператара ніякай узнагароды, аднак з тае пары Акіла і Антыох пахеўраваліся. Дуумвір нават прапанаваў свайму новаму сябру амаль задарма набыць у сваёй муніцыпіі ладны кавалак зямлі, на што Акіла, безумоўна, згадзіўся. Акурат сёння купчая была падпісаная, Акіла ўнёс у казну муніцыпіі задатак і, задаволены, дабіраўся дадому.

Па дарозе яму чамусьці ўзбрыло ў галаву наведацца да знанага сенатара, нашчадка векавечнага патрыцыянскага роду Тулія Генуцыя, з якім Акіла таксама паспеў "навесці масты". Дый увогуле, прадчуваючы, што ў Элію Капіталіну імператар болей не пашле, ён імкнуўся як мага абрасці знаёмствамі.

Акіла заспеў Тулія, калі той быў амаль у прастрацыі. На пытанне, што здарылася, сенатар адрачона прастагнаў:

– А хіба ты нічога не ведаеш? Сёння з раніцы па загадзе імператара турбонаўскія шакалы рыскаюць па Рыме са смяротнымі прысудамі. Тым, хто не адважваецца сканаць самахоць, адсякаюць галовы... Дый да каго ідуць! Да лепшых людзей імперыі, якія нечым не дагадзілі Адрыяну! Кажуць, ён нават свайго швагра не пашкадаваў, змусіў старога чалавека прапароць сабе жывот... Вось і я сяджу-калачуся: хто яго ведае, магчыма, пагрукаюць і ў мае дзверы...

Ад такое навіны Акіла таксама самлеў. І на тое былі падставы.

Хоць хіжаму сінопскаму грэку і ўдалося зрабіць паскудства Вірсавіі, а заадно і хрысціянам увогуле (пра пакутную гібель Сафіі і ейных дзяцей гаманіў увесь Рым), аднак цалкам прагу помсты Акіла не спатоліў. Галоўным сваім ворагам, вінным ва ўсіх няўдачах, ён ўсё ж лічыў Гнея. І менавіта яму належала адпомсціць найперш.

І неяк акурат дарэчы згадаліся перадсмяротныя словы самарыцяніна Эфраіма, які паспеў шапнуць, што Архелай, цяпер ужо дакладна сын Гнея, некалі служыў ад'ютантам пры самім Бар Кохбу. А імператар жа люта ўзненавідзеў усіх іудзеяў, тым болей іхняга колішняга верхаводу. Калі нейкім чынам увесці ў вушы Адрыяну, што нашчадак Гнея ў свой час быў ледзь не галоўным ворагам імперыі, дык аднарукаму абоўдзілу можа добра-такі перапасці, дарма што ён цяпер сенатар. Ва ўсякім разе, так лічыў Акіла.

А ў дадатак, меркаваў сінопскі грэк, можна нашаптаць імператару, што Гней прыгрэў каля сябе зацятую хрысціянку, дый прытым дачку ерусалімскага епіскапа, дый яшчэ блізкую хаўрусніцу Сафіі! Апошняя акалічнасць (Акіла ў гэтым быў упэўнены) выкліча ў імператара асаблівы гнеў...

Пераказаць усё гэта Адрыяну ўласнымі вуснамі не выпадала ніяк. Імператар болей не запрашаў Акілу на вілу ў Цібур, а падступіцца да раз'ятранага льва па сваёй ахвоце ён не асмельваўся (што імператар азвярэў – пра тое ведалі ўсе).

Своеасаблівым рупарам магла стаць толькі жонка імператара Сабіна, з якою ў Акілы з даўняе пары складаліся прыхільныя стасункі. Пры выпадку грэк і выклаў ёй усю крамолу на Гнея. Сабіна ж, у сваю чаргу, мімаходзь абмовілася мужу...

Рэакцыя Адрыяна сталася нечаканаю і жахліваю. Як потым Сабіна пераказала Акілу, пры спробе "выліць цэбар бруду" на Гнея імператар ледзь не ўдарыў яе кулаком, а пры згадцы пра хрысціян у яго проста перакасіўся твар. Самае ж непрыемнае, што Адрыян напрыканцы ўсклікнуў:

– Ведаю, хто табе ўсё гэта нашаптаў! Акіла! Ну, я да яго яшчэ дабяруся!..

З таго часу Акіла стараўся не трапляцца імператару на вочы, але Адрыян, мабыць (о, ён злапомны – Акіла гэта добра ведае!), затаіў нядобрыя намеры і цяпер даў ім волю: паставіў колішняга сябра ўпоравень са сваімі (як ён лічыць) ворагамі, асудзіў на смерць... У гэтым Акіла не сумняваўся.

Пра тое, каб паказацца ў сваім доме на Патрыцыянскай вуліцы, і думаць не варта: там яго, безумоўна, ужо чакаюць прэтарыянцы... А паміраць Акіла не збіраўся. Яму хацелася жыць, жыць, жыць! Хай сабе ў галечы, хай дзенебудзь на ўскраіне зямлі, але жыць!

Спехам пакінуўшы сядзібу Тулія Генуцыя, ён па зацішных завулках, увесь час азіраючыся, падаўся да набярэжнай Цібра, балазе, яна знаходзілася непадалёку. Зрэшты, набярэжнай у звыклым сэнсе ў Рыме не было. Уздоўж ракі, падступаючыся да самага берага, цягнуліся шэрагі пабудоў, пераважна складоў, для разгрузкі суднаў. Ад гэтых пляцовак да самага Цібра спускаліся невысокія лесвіцы, па якіх грузчыкі ўсцягвалі тавары наверх. Акіла спусціўся па адной з такіх лесвіц і, як пацук, шмыгнуў праз напаўрасчыненыя дзверы ў нейкі склад. Там, забіўшыся ў куток, накінуў на сябе мешкавіну, што валялася побач, і заціх...

Што было ў Акілы наўме? Пакінуць небяспечны і ненавісны Рым, знайсці хованку на бязмежных абсягах імперыі. Але адразу ж кідацца на які-небудзь карабель, палічыў Акіла, неабачліва: зусім магчыма, што не ён адзін вырашыў уратавацца гэткім чынам, і турбонаўскія паслугачы, узяўшы тое ў разлік, выставілі на набярэжнай свае пасты. Так што трэба трохі перачакаць, хаця б да раніцы...

На шчасце, пры сабе Акіла меў шмат дынарыяў – удалося абдурыць дуумвіра Антыоха, і здзелка атрымалася яшчэ болей выгаднай, чым плана-

ваў. Гэтых грошай хопіць, каб заплаціць за месца на караблі і па першым часе не галадаць...

Назаўтра на самым досвітку Акіла крадком выбраўся са свае хованкі і подбежкам пераадолеў кароткі шлях да гандлёвага карабля, які акурат адшфартоўваўся ад берага. Перамовы з гаспадаром судна шмат часу не занялі...

Акілу было ўсё адно, куды плыць, – абы далей ад Рыма, ад імператарскай няміласці, а там будзе бачна...

Карабель узяў курс на востраў Кіпр.

Для Акілы пачыналася жыццё, гаспадаром якога ён ужо не адчуваў сябе ніколі...

## Жыццё як кара

Неўзабаве Антанін з усёй сям'ёй быў змушаны перасяліцца на вілу ў Цібуры, хоць яму дужа не хацелася пакідаць свой абжыты дом і асабліва расквечаны перыстыль, дзе кожная расліна была выпеставаная ўласнымі рукамі. А здарылася гэта пасля таго, як імператар зрабіў спробу кінжалам прапароць сабе жывот.

У той дзень дадаткам да звыклага болю галаву Адрыяна захліснула нейкае ачмурэнне – інакш і не назавеш. Калі дагэтуль жудасныя відовішчы бачыліся яму толькі ў кароткіх снах, дык нечакана ён пачаў трызніць наяве, пазіраючы, здавалася б, на свет відушчымі вачыма.

Шукаючы збавення ад пакут, Адрыян пасунуўся ўглыбіню вілы, дзе ніхто не мог пачуць ягоныя болесныя стогны і крыкі. Ён рабіў шырокія крокі, і раптам каля Пойкіма, акурат насупраць Вежы вятроў, вынырнуў немаведама адкуль і рушыў яму насустрач вялізны чалавечы натоўп, які штохвілінна рос, папаўняўся. Людзі ў ім нешта галёкалі, ускідвалі рукі ўгару. Кагосьці ў той гурме Адрыян ведаў, хтосьці бачыўся яму ўпершыню. Вунь Плакіда, вунь Сімфароза са сваімі сынамі, вунь Сафія з дзяўчынкамі... Крыху збоку – Сервіян, Фуск, яшчэ з дзясятак патрыцыяў... Кансулярыі Нігрын, Цэльз, Пальма, Лузій... А гэта хто? Нейкія абарванцы, а наперадзе іх – барадаты дзед з пэйсамі... І адразу кальнула здагадка: "Ды гэта ж, мусіць, Акіба са сваімі іудзеямі..." А там яшчэ падобныя згуртаванні... Здаецца, сарматы, маўрытанцы... О, як жа іх шмат! І чаму яны жывыя? Адрыян жа дакладна ведае, што па ягоным загадзе-прыхамаці яны пакінулі гэты свет. Чаму ж ідуць насустрач і нават, здаецца, пагражаюць? Агульны малюнак і выява кожнага чалавека паасобку бачыліся настолькі выразна, што наракаць на нейкі міраж не выпадала. І вось ужо нават не натоўп перад вачыма, а цэлая калона, якой няма ні канца, ні краю!.. Яшчэ хвіліна – і людская плынь захлісне, праглыне яго...

Адрыян крута павярнуўся і кінуўся наўцёкі, да сваіх апартаментаў.

– Затрымайце іх, разганіце, не пускайце! – крычаў ён збянтэжаным лёкаям, якія нічога не разумелі, але зрабілі выснову, што імператар, так бы мовіць, трохі не ў сабе.

Заскочыўшы ў бліжэйшы пакой, Адрыян гулка ляснуў дзвярыма і прытуліўся да іх спінаю. Здаецца, яму ўсё-ткі ўдалося адарвацца ад ашалелага натоўпу... Аднак, як толькі ён усцешыўся, ад супрацьлеглай сцяны выплыла і паўстала перад вачыма прыгорбленая, схуднелая постаць – менавіта такою Адрыян заўсёды ўяўляў смерць... Але гэта была не смерць. Гэта быў Сервіян. Стары моўчкі насоўваўся на Адрыяна, затым выкінуў перад сабою ссохлую клюшню-руку, стаў павольна набліжаць яе да горла імператара...

– Не трэба! Я сам! – істэрычна крыкнуў Адрыян і кінуўся да сцяны, уздоўж якой былі замацаваныя розныя гладыусы, дзіды, кінжалы. Імператар любіў зброю, сабраў яе цэлую калекцыю, і трэба ж было так здарыцца, што, уцякаючы ад пагрознае гурмы, заскочыў акурат у тое памяшканне, дзе захоўвалася ўсё гэтае вайсковае багацце.

Ён схапіў першае, што трапілася пад руку, – легіянерскі кінжал, знешне падобны на гладыус, але трохі карацейшы. У войску яго называлі “пугіем”. Спярша Адрыян прыставіў лязо да глоткі, заставалася толькі націснуць на рукаятку, аднак на гэта ў імператара не хапіла рашучасці.

Сервіян жа зданню насоўваўся на сваю ахвяру, цэлячы клюшняю ўжо нават не ў горла, а ў вочы...

– А-а-а! – узвыў Адрыян і, рэзка апусціўшы руку з кінжалам да чэрава, зрабіў адчайны рух на сябе.

Акурат у гэты момант за ягоную руку схапіўся адзін з пільных лёкаяў...

Пасля таго выпадку Антанін і перасяліўся на вілу ў Цібуры: за імператарам патрабаваўся нагляд, бо спроба самазабойства магла паўтарыцца ў любую хвіліну. Ніхто, апрача Антаніна, не смеў пярэчыць імператару, больш за тое, у адносінах са сваім сынам, і толькі з ім, Адрыян стаў паводзіць сябе рахмана, як шкадлівае кацянё.

Антанін загадаў прыбраць далей ад вачэй любую зброю. Нават нажы ў трыклініях трымаліся пад замком. З гэтае пары за імператарам неадступна, але непрыкметна сачылі прызначаныя Антанінам віжы.

Некалькі тыдняў Адрыян не казаў носа са сваіх апартаментаў: баяўся, што дзе-небудзь на абсягах вілы яго зноўку пяройме калона мерцвякоў. Зрэшты, хоць і не цэлаю гурмою, а паасобку, нябожчыкі неяк траплялі ў пакоі і паўставалі перад вачыма імператара. Хто, як Сафія са сваімі дзецьмі ды Сімфароза, проста пазіраў на свайго забойцу з нямым дакорам, а хто, як Педаній Фуск, пагрозна выстаўляў перад сабою кулак.

Гэтыя жахлівыя візіты з таго свету ды яшчэ нясцерпны боль усё часцей схілялі Адрыяна да думкі, што толькі ўласная смерць можа быць ратункам ад пакутаў. Аднак жа, бач, і сканаць яму не даюць. Задушыцца? Дык жа служкі ўсё адно выцягнуць з пятлі. З разгону трэснуцца галавою аб сцяну? Ёсць верагоднасць, што яна не расколецца, а ўсяго знявечыцца, і тады пакутаў толькі дадасца. Да таго ж, Адрыян, захаплючыся рознымі навукамі і літаратурай, усё-ткі найперш лічыў сябе ваяром. А ваяру належыць загінуць годна – ад зброі. Ды дзе ж узяць тую зброю, калі яе паўсюль выдалілі з вачэй?

Спатоліць неадольную прагу Адрыяна да смерці, дый яшчэ не ганебнае, мог толькі адзін чалавек – ягоны верны, як сабака, раб Мастар.

Мастара ён трымаў пры сабе з тых далёкіх часін, калі быў яшчэ маладым абэлтусам. І хоць потым, асабліва ў пару імператарства, паслугачоў у Адрыяна з’явілася безліч, Мастар заўсёды заставаўся найболей “набліжаным да цела”. Толькі яму Адрыян давяраў напоўніцу, браў з сабою ў кожнае падарожжа. Стары быў Мастар, нямоглы, аднак імператар нізавошта не пагадзіўся б, каб побач з ім ледзь не кожную хвіліну знаходзіўся нехта іншы.

І аднаго разу, падчас асабліва пякельнага болю ў галаве, Адрыян паклікаў свайго спракавечнага раба і скрыпучым голасам загадаў яму:

– Ты павінен мяне забіць...

Ад такога нечаканага загаду Мастар ажно прыгорбіўся і толькі здолеў прамармытаць:

– Як гэта?.. За што?

– Ты павінен мяне забіць, – паўтарыў імператар.– І не чым-небудзь, а гладыусам. Хіба не бачыш, як я пакутую? Дык зрабі апошнюю паслугу свайму гаспадару, выканай маю волю...

– Я не магу! У мяне не падымецца рука! – адчайна ўскрыкнуў Мастар.

– Зможаш... Ты ж любіш свайго імператара? Ты ж заўсёды дагаджаў мне ва ўсім? Вось і зараз дагадзі... У рэшце рэшт, гэта загад...

І праўда: пагрэбаваць загадам імператара не меў права ніхто, тым болей раб.

Мастар упаў на калені і ўзмаліўся:

– Злітуйся, імператар! Не прымушай мяне сатварыць грэх! Да таго ж, я ніколі ў жыцці муху не забіў, не тое што чалавека! А гладыус і ў руках не трымаў. Дый і дзе ж я яго вазьму? – тут Мастар, так бы мовіць, схапіўся за саломінку. – На ўсёй віле цяпер зброі нямашака...

– Знойдзеш! – гаркнуў імператар. – Ты ўсё можаш знайсці! Даю табе на гэта тры гадзіны. А я пакуль што-нішто напішу... Ідзі!

Ачумелы раб ледзьве пераступіў парог...

А неўзабаве перад дзвярыма імператарскай спачывальні тоўпілася цэлая плойма сенатараў і гарадскога чынавенства на чале з Антанінам. Калі Адрыян, хоць і з неахвотаю, пагадзіўся іх прыняць і выслухаць, яны наўзахлёб пачалі прасіць-умольваць:

– Імператар, не пакідай нас сіротамі!

– Рым чакае вялікая смута, калі цябе не стане!

– Пашкадуй нас, імператар!

І ўжо напрыканцы сваё важкае слова сказаў Антанін:

– Ты ўсынавіў мяне... А які ж сын дазволіць, каб ягоны бацька быў забіты? У такім разе я сам выглядацьму забойцам...

Пасля доўгіх угавораў-ушчуванняў вялікаможнай чэлядзі ўсё ж удалося пераканаць Адрыяна, што ягоная смерць не патрэбная ні імперыі, ні яму самому. Тым не меней, Адрыяна захліснула іншая эмоцыя – лютая злосць на свайго раба:

– Мастар! Дзе Мастар? Як ён пасмеў выдаць мой намер? Пакараць яго! Забіць!

Антанін зрабіў выгляд, што памкнуўся выконваць загад, спехам выскачыў з імператарскіх апартаментаў, быццам бы для таго, каб зараз жа знайсці і прывесці на расправу здрадніка-раба.

Зрэшты, шукаць яго не было патрэбы: Мастар, зашыўшыся ў кут у суседнім пакоі, калаціўся ўсім целам. Ён чуў, які лёс вызначыў яму гаспадар, і ўжо змірыўся з непазбежнаю гібеллю. Аднак Антанін амаль шэптам нечакана загадаў яму:

– Бяжы адсюль з усіх ног! Тут, на віле, знайдзі майго фурмана Бэбія, скажы, каб ён адвёз цябе ў мой дом. Іншай хованкі няма. Дый увогуле з сённяшняга дня будзеш жыць у мяне...

Мастар, не верачы сваім вушам, не здолеў нават зрушыцца з месца, і Антаніну давялося падштурхнуць яго ў плечы. Счакаўшы нейкі час, ён вярнуўся да імператара і з удаванаю скрухаю схлусіў:

– Твой раб некуды знік, відаць, даў драпака. Але далёка не ўцячэ. Я аддаў загад на пераслед. Так што кары яму не мінаваць...

Хоць Адрыян і прыслухаўся да сваіх васалаў, аднак праз некалькі дзён боль і пакуты ўзялі верх над іхнімі просьбамі. Думкі імператара зноўку

скіраваліся на смерць. Цяпер ён ужо не дбаў пра нейкую ваярскую годнасць – абы сканаць, спыніць, нарэшце, невыноснае існаванне.

Акрамя Мастара, у Адрыяна быў яшчэ адзін блізкі чалавек, які прайшоў з ім побач усё жыццё і якому ён давяраў як сабе. Лекар Гермаген. Да таго ж ён заўсёды мае пад рукою тое, ад чаго можна пакінуць гэты свет ціха і не балюча. Інакш кажучы, атруту.

Гермаген амаль не адыходзіў ад свайго пацыента, падсабляў яму як толькі мог, рыхтаваў і прапаноўваў самыя разнастайныя лекі. Напэўна, ва ўсёй імперыі і нават за ейнымі межамі немагчыма было б знайсці больш дасведчанага ў сваёй справе асклепія, чым Гермаген, аднак і ён не мог даць рады хваробам, якія Неба наслала на Адрыяна...

І аднаго разу лекар пачуў ад гаспадара тое, што баяўся пачуць апошнім часам.

– Гермаген, мой дружа, – папрасіў яго конча знясілены імператар. – Я не магу болей трываць... Дай мне атруту...

Штохвілінна чакаючы падобную просьбу, Гермаген быў да яе падрыхтаваны, таму адказаў адразу і без аніякага роздуму:

– Не магу, імператар. Мая справа лекаваць людзей, а не забіваць іх. Тым болей цябе... А інакш які ж я лекар? Звычайны забойца... Багі мне гэта ніколі не прабачаць...

– Я для цябе бог! – пачаў закіпаць Адрыян.

Дасканала вывучыўшы нораў свайго гаспадара, Гермаген палічыў за лепшае не распальваць яго. Сам ён ужо даўно вызначыўся, што зробіць у падобным выпадку.

– Добра, – спакойна мовіў лекар. – Я дам табе атруту. Але каб яе падрыхтаваць, патрэбен час. Хаця б гадзіны дзве...

– Дык і рыхтуй! – узбадзёрыўся Адрыян. Ён не чакаў ад асабістага лекара такой хуткай згоды.

Гермаген устаў і, прыгорблены, цяжкаю хадою пасунуўся за дзверы...

Праз дзве гадзіны служкі далажылі Адрыяну, што Гермагена знайшлі мёртвым у ягонай лякарні. Ён сапраўды падрыхтаваў атруту, але выпіў яе сам...

З-за таго, што Адрыян ашалеў, Сабіна ўжо не імкнулася паснедаць ці павячэраць разам з мужам, перакінуцца з ім двума-трыма словамі. Яна пазбягала Адрыяна як мага і, каб была яе воля, увогуле з'ехала б з ненавіснае вілы куды-небудзь у Грэцыю ці на Сіцылію. Аднак без дазволу імператара зрабіць гэта было немагчыма.

А Адрыян дазволу не даваў. Ён проста не згадваў, не заўважаў сваю жонку, як быццам яе не існавала зусім, сама ж Сабіна паткнуцца да імператара з просьбаю не асмельвалася, дакладней, баялася паказацца на вочы хвораму і не зусім адэкватнаму сатрапу.

Усіх сваіх блізкіх людзей Адрыян ужо ці загадаў забіць, ці змусіў сысці ў магілу дабрахоць. І яна, Сабіна (калі не браць у разлік Антаніна), заставалася адзінаю, хто ведаў імператара на працягу ўсяго жыцця і па-ранейшаму жыў поруч. Хіба ж гэта правільна, справядліва? Ды ні ў якім разе! Прынамсі, так палічыў Адрыян. Хто-хто, а Сабіна павінна была сысці ў іншы свет у першую чаргу, проста ў яго, імператара, рукі не даходзілі. А цяпер, во, калі нікога болей не засталося, самы час узяцца і за яе. А як жа інакш? Нельга дапусціць, каб ён, імператар, сканаў (Адрыян прадчуваў блізкую смерць), а гэтая ненавісная жанчына, якая, можна сказаць, атруціла яму жыццё,

працягвала зямное існаванне, спажываючы ягоную асалоду і любуючыся вабносцямі. О, Сабіна будзе толькі радая, калі муж пакіне гэты свет! Яшчэ і каля труны паскача! Але ж не будзе гэтага, не дачакаецца...

Калі імператарскі ліктар паведаміў Сабіне, што яе хоча бачыць муж, ад нядобрага прадчування сэрца жанчыны сціснулася ў камячок. А пачуўшы, што Адрыян чакае яе не ў спачывальні, а ў перыстылі, дзе звычайна дае аўдыенцыі афіцыйным асобам і дэпутацыям, Сабіна зніякавела зусім.

Адрыян сядзеў каля ног агромністай статуі Юпітэра, і Сабіне здалося, што не толькі імператар зыркае на яе спадылба, але і галоўны рымскі бог пагрозна працінае позіркам. Вочы ў Адрыяна былі чырвонымі, твар – азызлым, сівыя буклі на барадзе і галаве выглядалі патырчакамі.

– Ты яшчэ жывая? – замест прывітання з’едліва запытаўся Адрыян, выскаліўшы хіжую ўхмылку.

– Як гэта?.. Ты пра што? – запінаючыся, выціснула з сябе Сабіна.

– Пра тое самае! – рыкнуў Адрыян. – Мяне, вунь, з дня на дзень Харон павязе, а цябе ніякая трасца не бярэ! Муж і жонка – адно цэлае, і яны павінны сысці ў нябыт адначасна!

– Мы з табою ўжо даўно не адно цэлае... – нечакана для самой сябе ўставіла “шпільку” Сабіна.

– Тым болей! – Адрыян ускочыў з крэсла, ушчыльную падступіўся да жонкі. – Тым болей я не дазволю табе затрымацца на гэтым свеце даўжэй за мяне.

– Я-я-кім ч-чынам? – дрыготкімі вуснамі здолела запытацца Сабіна.

– А то ты не ведаеш! Зрэшты, было б значна лепей, каб усё выглядала як твой асабісты выбар... У такім разе абяцаю шыкоўнае пахаванне, як і належыць імператрыцы...

– Я не хачу паміраць... – зусім ціха прашаптала Сабіна.

– Затое я хачу! І ты памрэш! Калі ж не пажадаеш самахоць, дык... А пасля загадаю спаліць разам з рабамі і бадзяжкамі!

– Калі б гэта чуў мой дзядзька... Што сказаў бы табе Траян?

– Мне пабоку, што ён сказаў бы! Кожнаму свой час і свая ўлада! – раптам Адрыян скрывіў вусны і дробненька захіхікаў: – Кажаш, боязна паміраць? Не хочацца? А памятаеш, як ты прасіла паадсякаць галовы дзяўчынкам, дочкам Сафіі? Памятаеш? Ну што ж, я паслухаўся, паадсякаў. Вось толькі, у адрозненне ад цябе, яны трымаліся годна, смерці не баяліся, хоць і не паспелі белым светам нацешыцца. А ты ж пажыла ўдосталь... Набалявалася... Нашыкавалася... Табе б яшчэ спазнаць тыя пакуты, што выпалі дзяўчынкам... А я ж, во, іх не наканоўваю, дазваляю акалець ціха-мірна...

Сабіна ледзьве трымалася на нагах, ёй зрабілася моташна.

– Злітуйся... – толькі адно слова высіліла яна.

– Я ўсё сказаў! – пырснуў асцою Адрыян. – І помні: імператрыца ты толькі да заўтрашняй раніцы! Так што выбірай...

Сабіна апруцянела яшчэ ўвечары. На падлозе побач з ложкам валялася бутэлечка з атрутаю.

## Хрышчэнне

Бог, нарэшце, узнагародзіў Архелая і Вірсавію за ўсе нягоды, якія выпалі на іхнюю долю. Жыццё, напоўненае пакутамі, стратамі і ростанямі, толькі загартавала каханне. Цяпер у доме Гнея маладзёны пачуваліся Адамам і Евай, якіх Гасподзь, злітасціўшыся, вярнуў у рай.

Гней таксама быў удзячны лёсу за тое, што астачу дзён ён правядзе поруч з блізкімі яму людзьмі. Удзячны ён быў і імператару: што ні кажы, калі б не важкае слова Адрыяна, яшчэ немаведама, як усё склалася б... Аднаго разу Гней нават прапанаваў маладзёнам наведацца на вілу ў Цібур, бо колісь даў слова імператару, што пазнаёміць яго і са сваім сынам, і цяпер ужо нявесткаю. Аднак Вірсавія ажно закалацілася ад абурэння:

– Каб я паўстала перад вачыма гэтага злыдня? Усё адно што да д’ябла на паклон ісці... А за тое, што ён сатварыў з Сафіяй і яе дзеткамі, я нават у снах яго праклінаю!

Болей падобных размоў Гней не распачынаў, а ў імператара ўжо даўно вылецелі з галавы “эсхілаўскія героі” дый сам былы легат. Ягоную галаву запаланяла, распірала іншае...

Дыядор і Вірсавія па-ранейшаму наведвалі хрысціянскія набажэнствы, і кожны раз у няблізкую дарогу з імі выпраўляўся Архелай. Зрэшты, пасля гібелі Сафіі эклексія стала збірацца значна радзей, ва ўсякім разе не кожную суботу. Хрысціяне асцерагаліся пераследу, сустракаліся таемна і кожны раз у новым месцы, загадзя аб тым дамовіўшыся.

Архелай, як і колісь Дыядор, пакуль хрысціяне маліліся, спярша туляўся па завулках, можна сказаць, выконваў ролю дазорнага: пільнаваў, каб знянацку не наскочылі імператарскія цэрберы. Затым і сам, седзячы збоку, стаў прысутнічаць на набажэнствах. І пакупова ў ягоную душу пранікала новая вера...

Безумоўна, збольшага Архелай чуў пра вучэнне Хрыстова з вуснаў Вірсавіі, аднак сваю абранніцу ён успрымаў як роўную сабе (а можа, і трохі ніжэй...), таму да яе спробаў схіліць да хрысціянства ставіўся абыякава, а часам і з лёгкаю насмешкаю. Усур’ёз жа задумацца, што гэтая вера, бадай, самая правільная, а хрысціянскі Бог і Сын Яго Хрыстос – самыя магутныя і справядлівыя (магчыма, што і ўвогуле адзіныя), прымусіла Архелая гібель Сафіі і дзяцей. Калі ён убачыў іхнія змардаваныя цельцы і ўявіў, што давялося ператрываць дзяўчынкам, калі згледзеў, як мужна трымалася Сафія, дык тады і прарос у душы нясмелы парастак хрысціянства. Гэта ж якія сілы даў ім Хрыстос, каб яны змаглі перацярпець усе пакуты! Якую духоўную моц маюць хрысціяне, калі дзеля сваёй веры гатовыя прыняць самую жахлівую смерць!

Вірсавія адчувала змены ў душы Архелая і ціха гэтаму радавалася. І ўжо зусім не было межаў яе шчасцю, калі пачула ад свайго абранніка цвёрдыя і пранікнёныя словы:

– Я хачу, каб мяне пахрысцілі...

Натуральна, абрады хрышчэння праводзіліся з яшчэ большаю асцярогаю, чым звычайныя набажэнствы, і толькі тады, калі была падрыхтаваная значная колькасць людзей, гатовых прыняць новую для сябе веру. Месца абіралася самае надзейнае, бяспечнае, да таго ж, пажадана, каб там мелася хоць якая водная крыніца – ці рака, ці возера.

Чарговы абрад планаваўся праз два тыдні, аднак эклексія ўсё яшчэ не вызначылася, дзе ён адбудзецца.

Ахвярная смерць юных пакутніц узрушыла не толькі Архелая. Пагудкі разляцеліся за абсягі горада, і намер імператара адбіць у рымлян ахвоту да здрады традыцыйным багам прынёс адваротны вынік: многія просталюдзіны і некаторыя знаныя вяльможы зусім інакш, з прытоеным інтарэсам сталі пазіраць на хрысціян. Не дзіва, што эклексія папаўнялася, баццам возера ў паводку, а для наступнага абраду хрышчэння новых вернікаў набіралася як

ніколі. Таму і належала прыняць усе меры перасцярогі, найперш падабраць для такога вялікага скопішча людзей бяспечнае месца.

Яго прапанаваў хрысціянам сам Архелай. Праўда, папярэдне перамовіўшыся з Эмілем.

Эміль пасля ўдзелу ў пахаванні дзяўчынак пачаў ставіцца да хрысціян з павагай і спачуваннем, хоць дагэтуль пра іх амаль нічога не чуў. Ён увогуле ўспрымаў блізка да сэрца ўсе нягоды гнаных і абяздоленых, бо і сам сербануў гора ўдостатку. І калі Архелай распавёў яму пра хрысціянскую нэндзу, а потым выказаў думку, што няблага было б правесці абрад у Нявіевым гаі, Эміль нават узбадзёрыўся:

– А што! Лепшага месца хрысціянам не знайсці. Хай сабе і невялікі, але ручаёк побач з лагерам цурчыць, а мае хлопцы забяспечаць надзейную ахову.

Спярша Архелай саромеўся прызнацца, якую важлівасць для яго асабіста мае той абрад, а потым, разважыўшы, што ўтаіць усё адно не ўдасца, сказаў як ёсць. Асцерагаўся ўбачыць на твары сябра з’едлівую ўхмылку, ды нечакана Эміль пасур’ёзнеў і мовіў сцішаным голасам:

– І правільна робіш. Магчыма, і я калі-небудзь да гэтага прыйду...

Прэсвітэр, мудры, але не старэчага веку святар, прапанову Архелая ўспрыняў з імпэтам, а трохі падумаўшы, нават разважліва мовіў:

– Паглядзім, калі месца дужа здатнае, дык чаму б там не асвойтацца ўвогуле...

А прэсвітэра Архелай ужо наведваў штодня, бо гэтага вымагаў абрад, які яму належала прайсці. Любага прыхадня хрысціяне ў сваю суполку не прымалі. Спярша вывучалася ягонае жыццё: ці не бандыт або злодзей, ці прытрымліваецца запаведзей і г.д. І толькі потым распачыналася працэдура ачышчэння. Штодзённа кіраўнік эклексіі – епіскап або прэсвітэр – ускладваў руку на будучых вернікаў, заклінаў іх, каб пераканацца, што яны хочуць паўстаць перад Богам з чыстаю душою, не маючы ніякіх здрадніцкіх ці карыслівых намераў. На пяты дзень тыдня, напярэдадні абрадавай суботы, кандыдаты ў вернікі павінны былі змыць з сябе ўвесь бруд. Калі ў жанчын на гэтыя дні выпадалі месячныя, да хрышчэння іх не дапускалі, трэба было чакаць да наступнага разу.

Напярэдадні абраду, у пятніцу, Архелай нічога не еў. Пасціўся і да суботняга вечара, бо хрышчэнне павінна было адбыцца напрыканцы дня.

Да Нявіевага гаю Архелай, Дыядор і Вірсавія дабіраліся пешшу, хоць Гней і прапанаваў ім скарыстацца карукаю, якую прыдбалі не так даўно. Аднак такая раскоша была б залішняю, тым болей што прэсвітэр наказаў усім вернікам трымацца сціпла, каб за сходню ў гаі не зачапілася чужое вока.

...Перш чым адпусціць ад сябе, Вірсавія перахрысціла Архелая і прашаптала яму з пяшчотаю:

– Ну, мой любы, бласлаўляю цябе!

Дыядор жа моўчкі, па-мужчынску моцна паціснуў яму руку і таксама намаляваў у паветры крыж.

Архелай на дрыготкіх нагах (усё ж хваляваўся!) патупаў да прэсвітэра – гэтак жа, як і астатнія, каму ў тую ноч належала далучыцца да хрысціянскае веры. А іх, пакуль што не хрышчаных, згуртавалася вакол прэсвітэра не менш як паўсотні – мужчын і жанчын, старых і дзяцей.

Калі ўсе яны сталі адзінаю гурмою, прэсвітэр, узняўшы рукі ўгару і скіраваўшы позірк у зорнае неба, бязгучна заварушыў вуснамі – маліўся. Праз нейкі час ён перавёў позірк на людзей і ўзнёсла мовіў:

– Дзеці мае, памолімся ўсе разам, каб Гасподзь Бог дазволіў вам стаць Ягонымі рабамі!

Усе адначасна апусціліся на калені...

Хрысціяне, чальцы эклексіі, якіх у Нявіевым гаі сабралася значна болей, чым навічкоў, трымаліся крыху воддаль. Яны таксама сталі на калені і пачалі ўзносіць у неба свае малітвы.

Архелай ведаў, якія малітвы трэба прамаўляць у гэтыя хвіліны і што прасіць у Бога, бо быў старанным, руплівым вучнем Вірсавіі... Паступова ён стаў уваходзіць у дагэтуль нязнаны стан – адрачонасці ад усяго існага, нават экзальтацыі. Бога чалавеку сузіраць не дадзена, але затое, як здалося Архелаю, ён убачыў перад сабою Хрыста, які сваім добразычлівым, паблажлівым позіркам быццам пранікаў у самую душу. І Архелаю чамусьці хацелася заплакаць ад шчасця...

Гэтая экзальтаванасць не пакінула Архелая нават тады, калі людзі спынілі малітвы, а прэсвітэр стаў пачаргова падыходзіць да кожнага, схіліўшыся, нешта ціха гаварыць. Дайшла чарга і да Архелая. Прэсвітэр паклаў руку на ягоную галаву і нягучна мовіў:

– Сыдзі ўсякі чужы дух і ніколі не вяртайся!

Затым, набраўшы ў грудзі паветра, дзьмухнуў Архелаю ў твар, паасобку перахрысціў ягоныя лоб, вушы, ноздры.

– А цяпер устань, дзіця маё! – загадаў прэсвітэр, і Архелай паслухмяна падняўся на ногі.

Малітвы гучалі ўсю ноч. А калі ў далёкім паселішчы на ўскраіне гаю падалі свае галасы пеўні, гурма цугам пацягнулася да ручая. І зноўку ўсе пачалі маліцца – цяпер ужо над вадою.

Нарэшце прэсвітэр урачыста мовіў:

– Усім трэба распрануцца дагала. На целе не павінна быць нічога лішняга. Жанчыны, здыміце з сябе ўсе ўпрыгажэнні, распусціце на галаве валасы. Спярша хрысціцьмем дзяцей. Тыя з іх, хто могуць адказваць за сябе, няхай адказваюць. А калі немаўля ці зусім малеча, хай за іх адказваюць бацькі ці нехта з сям'і. Пасля дзяцей хрысцяцца мужчыны. І толькі потым – жанчыны.

Каля ручая распачаўся рух...

Калі Архелай выйшаў з вады, на душы было лёгка, святочна – нібы яна ачысцілася ад усяго ганебнага, прыкрага, непатрэбнага.

Архелаю здавалася, што ён толькі-толькі нарадзіўся і наперадзе ў яго зусім новае жыццё...

### "Бог на зямлі і на нябёсах"

Як даць рады лютасці і самадурству імператара? Гэтая нэндза неадступна вярэдзіла клёк Антаніна штодня. Мала таго, што Адрыян літаральна выкасіў блізкае атачэнне, дык у любую хвіліну можа накласці рукі і на сабе. Іншы наследнік гэтаму толькі парадаваўся б – анягож, з'явіцца шанец адразу ж усесціся на трон, але Антанін быў не такім: адно што зусім не прагнуў займець уладу, а другое – як прыстойны чалавек, сваё ўсынаўленне ён успрыняў на поўным сур'ёзе, а каму ж хочацца, каб бацька сканаў без пары?

Боль, ад якога, уласна, Адрыян і вар'яцеў, выдаліць з ягонай галавы не мог ніхто, дык хоць бы разагнаць з гэтай галавы вар'яцкія думкі. Трэба было ўкласці ў свядомасць імператара, што ён сапраўды бог на зямлі, а

багі звычайна разважлівыя і літасцівыя, прынамсі, самім сабе шкоды не наробяць. І, здаецца, Антанін што-нішто прыдумаў...

Аднаго разу перад варотамі вілы паўстала худая, прыгорбленая жаночая постаць. Ейныя ступні крывяніліся – выяўная пазнака таго, што жанчына адолела няблізкі шлях. І цяжка было даўмець, як гэта ёй удалося, бо, падобна, вандроўніца была невідушчаю – вочы засцілалі бельмы, а прыйшла яна без аніякага павадыра.

Жанчына парывалася патрапіць на тэрыторыю вілы, аднак вартавы, натуральна, яе не пусціў і нават агрэў па скурчанай спіне дзідаю. Акурат у гэты момант каля варотаў як з-пад зямлі вырас Антанін, пагрозна рыкнуў на вартавога і загадаў даць дарогу ўбогай вандроўніцы. Больш за тое, павёў яе адразу ў імператарскія апартаменты.

Адрыян нізавошта не хацеў прыняць і выслухаць нейкую знявечаную калеку. Ён і сенатараў не пускаў на парог, што ўжо казаць пра гэтую просталюдзінку. Антаніну давялося прыкласці шмат намаганняў, каб імператар усё-ткі спадобіўся даць ёй аўдыенцыю хоць на некалькі хвілін.

Як толькі Антанін прывёў жанчыну ў перыстыль і сказаў, што перад ёю, за некалькі крокаў наперадзе, знаходзіцца імператар, яна адразу ж бухнула на калені і папаўзла ва ўказаным накірунку, пры гэтым галосячы-заклінаючы:

– Імператар, бацька родны і бог! Злітуйся з мяне і прабач!

А калі падпаўзла і шурпатымі далонямі намацала ногі Адрыяна, дык апантана пачала цалаваць калені, шчодра кропячы іх слязьмі.

– Што табе трэба, убогая? – пагардліва-вісклява крыкнуў імператар і паспрабаваў грэбліва адштурхнуць жанчыну нагою. Аднак яна трымалася ўчэпіста, і каб выслабаніцца, Адрыяну давялося вутнуць яе каленам у твар.

Адступіўшыся на некалькі крокаў і трохі супакоіўшыся, імператар паўтарыў пытанне:

– Дык што табе трэба?

Усхліпваючы, жанчына скрозь слёзы коратка распавяла пра свой клопат:

– Мне прысніўся сон... даўно... можа, месяцы тры таму... голас з неба наказаў, каб я падалася ў Рым, знайшла цябе... і каб я сказала, што табе не варта ўчыняць самазабойства, бо хутка ты зноўку будзеш здаровым, боль знікне... А я не паслухалася таго голасу, не паспяшалася данесці да цябе прыемную вестку... і была за гэта пакараная... Неўзабаве на вочы мае насунулася заслона, і стала я зусім невідушчаю... адале мне прысніўся яшчэ адзін сон... той жа голас зноў наказаў знайсці цябе, пра ўсё расказаць і пацалаваць твае калені... і калі я зраблю гэта, маўляў, дык убачу белы свет уласнымі вачыма... і вось я тут, перад табою... і калені твае пацалавала...

– Ну, пацалавала, дык і што? Зрок да цябе вярнуўся? – імператар не ўтойваў здзекліва-зласлівай ухмылкі.

Тыльнымі бакамі далоняў жанчына памкнулася расціраць свае вочы, нібы сапраўды спадзявалася садраць з іх плёнку, аднак, калі расплюшчыла павекі, бельмы засталіся на ранейшым месцы.

– Прэч адсюль, ашуканка! – вызверыўся імператар і з усяе сілы выцяў жанчыну насаком у грудзі...

Тлумны візіт сляпачкі толькі сапсаваў Адрыяну настрой. Але праз тыдзень Антанін звярнуўся да яго з тою ж просьбаю, прычым голас гучаў прыўзнёсла, усхвалявана:

– Памятаеш сляпую жанчыну, якая перасцерагала цябе ад самазабойства?

Імператар зморшчыў твар:

– Навошта ты нагадваеш пра тую шэльму? Шкада, што я не загадаў адсекчы ёй галаву...

– А не трэба шкадаваць! Яна зноўку прыйшла і хоча цябе бачыць.

– Бачыць?

– Так, бачыць! У гэта цяжка паверыць, але жанчына насамрэч стала відушчаю! Куды толькі падзеліся тыя бельмы!

– Гм... – з выяўнаю цікавасцю чмыхнуў імператар. – Ну, вядзі яе сюды...

Было відавочна, што жанчына тая ж самая, аднак ейная пастава выпрасталася, твар пасвятлеў, а вочы праменіліся невыказнаю радасцю. Галоўнае ж – на іх сапраўды ўжо не было бельмаў!

Жанчына, як і раней, плюхнулася на калені і зноў папаўзла да імператара, праўда, ужо не галосячы, а ўтрапёна ўсклікваючы:

– Бог! Бог! Ты – бог! Дзякую табе за тое, што вярнуў мне зрок!

На гэты раз Адрыян не дазволіў жанчыне абхапіць ягоныя ногі, адступіўся ўбок і стрымана прапанаваў:

– Ну, расказвай...

– О, мой імператар, мой бог! Пасля тае сустрэчы я зняверылася і ў сваіх снах, і ў голасе з неба. Аднак, калі вярнулася дадому, першым чынам завітала ў храм... Як і належыць, абмыла там свае вочы вадою, расплюшчыла іх, і мне адкрыўся белы свет! Дзякую, дзякую табе, бог-імператар, усемагутны на зямлі і на нябёсах!

Адрыян пачуваўся разгублена, разважаў, ці варта верыць сваім вачам і вушам...

А назаўтра Антанін зноўку завёў размову з імператарам пра злекаваную жанчыну, пра яе прарочыя сны. Напрыканцы ж падсумаваў:

– Калі ўсё спраўдзілася наконт слепаты, дык чаму ж нам не верыць і ў астатняе? А яна ж напрарочыла, што неўзабаве да цябе вернецца здароўе, трэба трохі пацярпець...

Адрыян зірнуў на спадкаемцу хоць і з недаверам, але ўсё-ткі ў вачах бліснуў агеньчык надзеі.

Аднак жа, насуперак прароцтву, боль не праходзіў, і надзею трэба было неяк “падкормліваць”. Антанін угаварыў імператара, каб ён прыняў яшчэ аднаго сляпога чалавека...

Дзюбаючы па мармуровай падлозе сукаватым посахам, да імператарскага крэсла прыклыпаў векавечны стары з сівымі рэдкімі космамі да самых плячэй. Пад руку яго падтрымліваў Антанін. Бельмаў на вачах старца не было, аднак паводзіў ён сябе як існы невідушчы. Да таго ж, цела ягонае калацілася, а твар быў пабіты чырвонымі плямамі.

Адрыян зразумеў, што гэты стары не толькі сляпы, але і хворы на ліхаманку, бо такую ж хваробу зусім нядаўна ўдалося падужаць яму самому. Зрэшты, чаму ўдалося? Хоць ужо і зрэдчас, але па целу імператара усё яшчэ прабягаюць дрыжыкі, пот льецца ручаінамі, дакучае смага. Дый косці па-ранейшаму ломіць (праўда, не так балюча), дыхаць даводзіцца з напругаю і часта-часта.

– Адкуль ты будзеш, чалавеча? – спытаўся Адрыян, перш чым стары паведаў пра сваё гора.

– З Панноніі, мой імператар... – скрыпучым голасам азваўся старац.

– Ого! – непадробна здзівіўся Адрыян. – Гэта ж такая далеч...

– Што праўда, то праўда... Але ж бяда і на край свету завядзе...

– І якая ж у цябе бяда?

– Аслеп я... А ў народзе пагудкі ходзяць: варта абняць і пацалаваць твае калені – і слепата пройдзе... Вось я і прыцёгся... Дарэчы, быў час, калі цябе, імператар, я на ўласныя вочы бачыў. Ты тады быў у Панноніі са сваімі легіёнамі...

А вось гэта яму гаварыць не варта было, бо імператар спахмурнеў. Што магло застацца ў памяці старога? Тое, што ў Панноніі Адрыян абкрывавіў свой меч, утаймоўваючы дакаў ды сарматаў.

– Я бачу, табе не толькі слепата дакучае, – імператар паспяшаўся скіраваць размову ў іншае рэчышча. – Недзе і ліхаманку падхапіў – вунь як цябе калоціць...

– Яно так... Пакуль сюды дабіраўся, дык гэтая трасца і прычапілася...

– Ну, цалуй мае ногі, вылечвайся...

Стары павольна прысеў на калені, дрыжачымі рукамі абхапіў ногі імператара, стаў тыкацца ў іх сасмяглымі вуснамі. Калі ж адхіснуўся, дык радасна ўсклікнуў:

– Во! А мяне ўжо не так калаціць стала! Дый жар быццам бы схлынуў!.. Ты, імператар, сапраўдны чарадзей! А лепей сказаць – бог! Праўду людзі кажуць! Вось толькі я ўсё яшчэ нічога не бачу...

Адрыян кінуў на старога пільны позірк зверху ўніз. Падобна, ён не хлусіць: і рукі дрыжаць не так, як хвіліну таму, і чырвоныя плямы на твары зніклі...

– Не хвалюйся, станеш ты відушчым, – заспакоіў старца імператар, прыгадаўшы, што і ў жанчыны бельмы сышлі не адразу. – Тупай у сваю Паннонію, там у мясцовым храме пратры вочы вадою, і ўсё будзе як след... Ну, ідзі, ідзі, у мяне болей часу нямашака...

Стары, не ўстаючы з каленяў і не паварочваючыся спінаю да імператара, стаў ад яго адсоўвацца, і толькі адалеўшы з дзесятак метраў, з крэктам выпрастаўся. Аднак перш чым конча сысці пранікнёна мовіў:

– Шчырая мая падзяка! Але ж і я, імператар, не зусім просты чалавек – усіх нашых месцічаў лекую. І табе дапамагу. Вось пабачыш: заўтра ад твае ліхаманкі не застанецца і следу. Дый увогуле ўсе хваробы ад цябе адступяцца. Вось пабачыш...

Адрыян сумна ўсміхнуўся:

– Твае б словы ды богу ў вушы...

### **“Мая душа-вандроўніца...”**

Падсылаючы да імператара калек, Антанін спадзяваўся толькі на тое, што яны здолеюць палепшыць маральны стан Адрыяна, заселяць у ягоную душу надзею на хуткае выздараўленне. Таму спадкаемца вельмі здзівіўся, калі неўзабаве пасля візіту старца з Панноніі і ягонае абяцанкі, што “ўсе хваробы адступяцца”, здароўе імператара сапраўды пайшло на папраўку: ад ліхаманкі не засталося і следу, боль у галаве прытупіўся, а кашмарныя сны дакучалі толькі зрэдчас.

Доўгачаканую палёгку варта было замацаваць, і найперш ухіліцца ад дзяржаўных спраў (нягледзячы на пакуты, тады-сяды Адрыян усё ж падпісваў нейкія эдыкты, прымаў наведнікаў). Прычым імператар сам прыйшоў да такой высновы і прапанаваў Антаніну:

– Кіруй імперыяй, а я паеду ў Байі. Трэба адпачыць...

Выбар Адрыяна не быў выпадковым. Байі – невялікі курортны гарадок у паўднёвай правінцыі Кампанія, на беразе Неапалітанскага заліва. Вакол – горы, мінеральныя крыніцы... Нездарма яшчэ калісь гэтыя мясціны аблюбавалі Марый, Пампей, Юлій Цэзар.

Аднак у Байях Адрыян пачуваўся няблага толькі першы тыдзень. Аднаго разу імператар вяртаўся з узбярэжжа, і ногі раптам падкасіліся. Ён гупнуў бы на камяністую сцежку, калі б абачлівыя ліктары, якія неадступна следавалі за імператарам паўсюль, не падхапілі яго пад рукі. Самастойна дабрацца да вілы Адрыян не змог – хістаўся, траціў раўнавагу. Да таго ж неўтаймаваныя ваніты пачалі выварочваць ягонае нутро.

Ужо апынуўшыся ў ложку, Адрыян заўважыў, што ўсе рэчы – крэслы, картыбулы і нават столь ды сцены – чамусьці рухаюцца, варочаюцца вакол яго. Зрэшты, усё ўвогуле бачылася, бы ў тумане, ды яшчэ і двоілася. А калі ён паспрабаваў нешта сказаць, дык адчуў, што язык у роце варочаецца, як калода. Адрыян толькі і здолеў больш-менш разборліва прамармытаць:

– Хай сюды прыедзе Антанін...

З кожным днём імператару рабілася горш і горш. Апрача агульнай слабасці, раптам анямела ўся левая палова цела. Дапякалі смага, жар і пот. Сэрца тарахцела, як колы павозкі на брукаванцы. Але самае жахлівае –у галаву вярнуўся нясцерпны боль, нават болей пякельны, чым раней. Зноўку пачалі дакучаць кашмары...

Адрыян зразумеў: Харон ужо чакае яго на беразе Стыкса, каб пераправіць у царства Аіда. А тая палёгка, якую ён адчуў напярэдадні, – не больш як перадсмяротная саступка лёсу. Звычайна так і бывае: перш чым падгрэбсці пад сябе, смерць паслабляе хватку, дазваляе чалавеку напоўніцу нацешыцца вабносцямі зямнога жыцця – мусіць, для таго, каб ён усвядоміў, што яму давядзецца страціць назаўжды...

І цяпер, лежачы ў ложку, невыносна пакутуючы, Адрыян падсумоўваў, чаго дамогся ён у зямным жыцці, спрабаваў уявіць, што чакае яго наперадзе.

Спакон вякоў цароў і імператараў называлі багамі на зямлі. Ён, Адрыян, хоць і не пярэчыў гэтаму, але богам сябе не лічыў. Дый насамрэч: які ж ён бог, калі цудаў не творыць (Адрыян здагадваўся, што апошнія сустрэчы са сляпымі – штукарствы Антаніна), дый пакутуе ўпоравень з іншымі людзьмі, а можа, нават і болей. Зрэшты, гэта й не дзіўна, бо нездарма кажуць: чым больш чалавеку дадзена, тым больш з яго потым спагоніцца...

А хто ж яны, бог ці багі, перад якімі давядзецца трымаць справаздачу? За якія грахі прыйдзецца адказваць перад Небам? І што такое грэх увогуле?

Калі браць у разлік Юпітэра з ягоным шматлікім атачэннем, дык перад імі Адрыян, можна сказаць, бязгрэшны. Так, ваяваў, забіваў, раскашаваў, распуснічаў. І што з таго? Хіба ж самі рымскія багі не такія? Бясконца паглынаюць нектар і амброзію, а ўпіўшыся, калашмацяць адзін аднаго, абдурваюць, кідаюцца ў блуд. Так што калі на Нябёсах рэй вядзе Юпітэр, дык Адрыяну нічога не пагражае. Наадварот, яго, бадай, багі сапраўды прымуць у свой хаўрус, бо імператар рабіў усё, каб тут, на зямлі, іх належна ўшаноўвалі. Дый да іншаверцаў літасці не было...

А што калі праўду казала Сафія і насамрэч ніякіх рымскіх багоў няма-шака, а ёсць толькі міфы-небыліцы, прыдуманыя старажытнымі грэкамі, ды іхнія выявы-ідалы, змайстраваныя людзьмі з камення, дрэва і жалеза? Што будзе, калі ўвесь гэты свет сапраўды прыдумаў і верхаводзіць у ім

іудзейска-хрысціянскі бог? У такім разе грахоў у Адрыяна набярэцца – незлічона.

Зрэшты, у іудзеяў і хрысціян бог быццам бы і адзіны, але разумеюць і ўспрымаюць яны яго па-рознаму.

На горшы выпадак для Адрыяна, хай бы лепей мелі рацыю іудзеі. Бог у іхнім уяўленні сочыць, каб людзі прытрымліваліся Закона, выконвалі запаветы. Вядома, Адрыян на іх не зважаў, а тых самых іудзеяў амаль што вынішчыў на карані. Але ж гэтага вымагала ягоная пасада: імператару належыць забяспечваць парадак на падуладнай тэрыторыі, каб у зямным жыцці не было хаосу і бязладдзя, інакш будзе тварыцца немаведама што. Перад іудзейскім богам, магчыма, мецьмецца хоць нейкі шанец апраўдацца...

А вось калі правільна разумеюць бога хрысціяне, дык ніякага апраўдання для Адрыяна не будзе: усё ягонае жыццё – суцэльны грэх, бо прыхільнікі Хрыста лічаць, што грэх здзейснены не толькі тады, калі ты зрабіў ганебны ўчынак, але і тады, калі ты пра яго проста падумаў...

Дык на чые шалі будзе пакладзенае ягонае жыццё? Адрыян не ведаў, і гэта толькі дадавала пакутаў, найперш душэўных.

Ну чаму лёс наканаваў яму гэтае імператарства, пры якім непазбежна даводзіцца кагосьці забіваць, з кагосьці здзекавацца? Калісь жа, яшчэ з дзяцінства, душа Адрыяна прагла высокага, духоўнага, узнёслага, гарнулася да розных навук, да мастацтва, да літаратуры. Лепей бы ён проста пісаў вершы, хай сабе не такія майстравітыя, як у Марцыала і Герода... Ва ўсякім разе ні Юпітэр, ні Яхве ягоную паэзію за грэх не палічылі б...

Гаварыць Адрыян ужо не мог, але праваю рукою яшчэ валодаў і знакамі паказаў служкам, якія ні на хвіліну не адыходзілі ад ложка, каб яны паднялі яго і пасадзілі за картыбул. Калі загад быў выкананы, імператар дрыжачымі пальцамі ўзяў палачку егіпецкага трыснягу і схіліўся над аркушам папіруса...

Атрымаўшы вестку, што імператар конча занядужаў і кліча яго да сябе, Антанін, не марудзячы, выправіўся ў Байі. Коней гналі наўзгалоп, двойчы мяняючы экіпажы. Дапамагчы імператару Антанін, вядома ж, не мог, аднак спадзяваўся хоць бы заспець яго жывым.

Заспеў. Але радасці гэта не прынесла. Калі Антанін у дарожнай адзежы ўляцеў у спачывальню, імператар ляжаў з заплюшчанымі вачыма, ягоны твар быў барвовым, а вусны – сінюшнымі. Дыхаў Адрыян цяжка, хрыпла.

Антанін упаў перад ложкам на калені і адчайна ўсклікнуў:

– Імператар! Бацька! Не памірай!

Аднак Адрыян не азваўся. А праз некалькі хвілін і перастаў дыхаць...

Антанін узняўся з каленяў, ачмурэлы, зрабіў два крокі назад. Ягоны позірк слізгануў па гладкай паверхні картыбула, які месціўся побач з ложкам, і зачапіўся за аркуш папіруса. Антанін згроб яго пецярнёю і прабег вачыма па стракатых, няроўных радках, у якіх з цяжкасцю можна было распазнаць почырк Адрыяна:

Мая душа-вандроўніца
І госця цела тленнага,
Ты адлятаеш, бедная,
За далі невядомыя,
Панурыя і бляклыя.
І што цябе чакае там?..

**Эпілог**

Сонечны дыск толькі-толькі пачынаў усплываць з-за акаёму, там, дзе сыходзіліся неба і зямля, паказалася ўсяго дуга залацістага вобада, таму лянівыя промні выхапілі з паўцемрадзі не больш як грэбень узвышша, на якім цягнуліся ўгару чатыры крыжы. Здалёк, ды яшчэ ў прыцемку, выпадковаму падарожніку яны маглі здацца чалавечымі постацямі, якія, раскінуўшы рукі ўшыркі, ці то сустракалі вандроўніка з распрасцёртымі абдымкамі, ці то сваім выглядам папярэджвалі, што далей рухацца не варта і нават небяспечна.

Там, за узвышшам, раскінуў свае абсягі Рым. З-за таго, што сонечнае святло яшчэ не аблізала дахі будынкаў, Вечны горад выглядаў панура і змрочна.

Па пакатым схіле насустрач светлай пляме на вяршыні, якая з кожнаю хвілінаю пашыралася, угару рухалася карука. Крыху воддаль ад крыжоў яна спынілася. Белагаловы хлопец саскочыў на зямлю, працягнуў руку дзяўчыне, падсабляючы ёй сысці з карукі. Следам з павозкі самавіта ступіў чалавек сталага веку, і толькі ўжо потым козлы пакінуў фурман. Людзі няспешна пакрочылі да крыжоў. З таго дня, як яны з'явіліся на ўзвышшы, прайшоў роўна год, і сёння, згодна з хрысціянскім звычаем, крыжы заменяць на новыя, больш дыхтоўныя. Сёння тут збярэцца шмат хрысціян з усяго наваколля, каб ушанаваць памяць Веры, Надзеі, Любові і маці іх Сафіі.

Вірсавія выказала жаданне праведаць магілы як мага раней, калі яшчэ не будзе людское сумятні, калі ніхто не замінацьме ціхім малітвам. Архелай і Дыядор з ёю пагадзіліся, а Гней, які таксама наважыўся падацца разам з імі, натуральна, не запярэчыў. Ён сам прапанаваў нарэзаць у перыстылі цэлае бярэмя розных кветак, якія даглядаў-пеставаў, нібы родных дзяцей.

Расклаўшы кветкі на аселых грудках, маладзёны і Дыядор апусціліся перад імі на калені і пачалі ціха маліцца, зрэдчас адбіваючы паклоны. Вірсавіі рабіць гэта было не надта зручна, бо замінаў акруглелы жывоцік, які выпінаўся з-пад прасторнае столы...

Адступіўшыся крыху ўбок, Гней то акідваў суровым паглядам скамянелыя абшары шэрага горада, то з замілаваннем пазіраў на ўзнёслыя, прасветленыя малітвамі твары Архелая і Вірсавіі. І гэтая ўзнёсласць міжволі перадалася яму самому...

Цяпер, лічы, напрыканцы жыцця, у душы Гнея ўсталяваліся злагада і спакой. А чым было напоўненае ягонае жыццё раней? Агменамі, бітвамі ды крывёю. Праўда, ён праліваў тую кроў, выконваючы ваярскі абавязак, ды ўсё ж...

Хай сабе і запозненa, але Гнею ў рэшце рэшт адкрылася, для чаго людзі прыходзяць у гэты свет і дзеля чаго можна ахвяраваць уласным жыццём. Сын Архелай... Вірсавія... Неўзабаве з'явіцца ўнучак ці ўнучка... І не перарвецца нітачка, пацягнецца за жыццёвыя далягляды...

Той, хто стварыў зямное хараство, хто ўдыхнуў жыццё і сэнс у кожную травінку, кожную кузурку, мусіць жа, і меў на ўвазе, што чалавек, як вяршыня гэтага тварэння, ніколі не парушыць гармонію сваімі грэшнымі задумамі і ўчынкамі...

І хоць хрысціянінам Гней не стаў, у гэтыя хвіліны ў ягонай душы чамусьці з'явілася неадольная прага перахрысціцца. Ён нават зрабіў спробу ўзмахнуць праваю рукою і не адразу ўцяміў, што тае рукі няма. Нахлынулі прыкрасць і гаркота, але Гней не даў ім волю і ціха прашаптаў:

– Бог ёсць любоў... Любоў...



Валерыя Кустава



...толькі тыя,
каго будуць
біць у сэрцы
і біць па твары,
здолеюць узняцца
і здзейсніць свае
мары...

# У маёй краіне вайна

***Вершы з новай кнігі "Калыханка для Бога"***

### *ЦІ ПРЫЙДУЦЬ ЯНЫ ЗА ТАБОЙ...*

Быў шанец сысці
з крывёю
меншай...
Не выпала.
Вайна забірае найлепшых.
Б'е ў дыхала іх.

Ці прыйдуць яны за табой,
хлопчык мой...
мілы мой.

Як іх трымае зямля,
дзяўчынка мая...
мілая.

І гэта ўжо ненармальна,
калі ты мне снішся штоночы.
Было б ідэальна
сустрэцца
жывымі
аднойчы.

Бог і любоў з табою.
Шанец утоплены ў Леце.
Сумна, трывожна да болю
у беларускім свеце.

Ці прыйдуць яны за табой,
хлопчык мой...
мілы мой.

Як іх трымае зямля,
дзяўчынка мая...
мілая.

* * *

Гарачыя вочы начы.
І снег папялее за вокнамі.
Ты снамі прыходзіш. Маўчыш.
Рыпіш расхістанымі кроквамі.

Я чую, як шчэць расце
на шчоках тваіх запалых.
І сэрца маё, як твой цень,
блукае пралётам Купалы.

Размеле ў далонях жарству
Бог, Беларусі народжаны.
Будзе Раством улагоджаны
той, хто паверыць Раству.

*6-7 студзеня 2011, ноч*

## ГЕНЕРАЛЫ МАЁЙ КРАІНЫ

Генералы маёй краіны,
героі мае, камандзіры
палявыя
мне дораць кветкі,
як падлеткі.

Доўгія маналогі дадому,
як праводзяць, яны прамаўляюць.
І рукамі махаюць.
І каюцца.
І клянуць тых,
хто ім прастаўляе.

А калі настае час рушыць,
то чаму – у снягах і крыках –
разбягаюцца ў розных кірунках?
Генералы маёй краіны,
мне абрыдла.

Абдыміце мяне сцягамі,
заматайце
марлямі *ў крові.*
За мае зялёныя вочы,
за мае прыгожыя бровы,
за густыя мае валасы...
Будзьце мужнымі, мае псы.
Ну, падайце свае галасы!

Генералы маёй краіны,
героі мае, камандзіры –
па магілах,
па турмах,
па... хатах.
І апошняе ўсё часцей.
Забыцця вас чакае расплата.

Каб пасля на аглухлых адрынах
разам піць-сумаваць
па стратах.
Вінаваціць пры браце брата.

Генералы маёй краіны,
героі мае, камандзіры...
Дзе вы, дзе вы,
дзе вашы мундзіры,
генералы маёй краіны?..

## *У МАЁЙ КРАІНЕ ВАЙНА*

У маёй краіне вайна.
Кроў на душах,
кроў на снягах.
І балюча нават у снах.
Ад таго і сноў больш няма.

У маёй краіне вайна.
З ночы і
ажно давідна.
І ніяк несыйдзе зіма,
і ніяк не пачнецца вясна,
бо ў маёй краіне вайна.

Гэткіх зімаў не помніць ніхто.
Не было шчэ жалезнай зімы.
Каб сняжынкі лавілі ў сіло.
Каб, як турмы, стаялі дамы.

І на голы лес гром упаў.
Быць бядзе, браце, быць бядзе.
Той хто шчасця свайго не знаў,
той чужое сабе ўкрадзе.

Пасярод краіны сцяна,
за сцяною з табою мы –
пілігрымы тае вайны –
прычакаем канец зімы.

## *САТ'ЯГРАХА**
## *(канцэпцыя негвалтоўнага супрацiву)*

*Дар' і Каткоўскай*

Дружа,
калі ты вырасцеш,
цябе ляснуць аб ходнік,
будзь ты дзяўчынка ці хлопчык
цябе абавязкова
ляснуць.
аб ходнік.
Магчыма,
з разбегу,
з усёй дурноты,
якую
яны
назавуць законам,
цябе ляснуць аб ходнік,
помні.

Калі ты адчуеш – што кроў на вуснах,
калі пабачыш – у вачох пацямнела,

---

*Сат'яграха – *з санскрыту*: упартасць у ісціне; у Індыі – канцэпцыя негвалтоўнай барацьбы.

калі цябе страх агорне,
помні,
цябе папярэджвалі:
*не паводле права –*
*паводле закону,*
цябе абавязкова
ляснуць аб ходнік.

І калі ты будзеш
ляжаць у крыві і брудзе,
і цябе
будуць мінаць
незнаёмыя чужыя
і знаёмыя чужыя
людзі,

на цябе падзьме
the wind of change
(вецер пераменаў? –
не паверыш ты
і напоўніш ім грудзі).

Ён уздыме тваю чупрыну,
ён уздыме сцягі
і харугвы,
ён уздыме моўчкі
на прэнгу –
яго
уздыме.

А пакуль –
свята трывае,
мы будзем расхістваць цвердзь,
мы будзем расхістваць свет,
як круты Чэ, як святы Z.
Свабода альбо смерць –
мы будзем расхістваць.

We will we will rock you
we will we will clap
Будзем, будзем хлопаць,
мы пакінем след.

Дружа,
мярзоты большае,
але большае,
большае й згоды.
Вачыма маўчыць праўда,
вачыма ладзіць свабода.

І будзе заслона.
І воплескі ў залі.
А мы папярэджвалі,
а мы – ха! – казалі.
А мы ведалі,
што толькі тыя,
каго будуць
біць у сэрцы
і біць па твары,
здолеюць узняцца
і здзейсніць свае
мары.

** * **

гэтым чорным часам,
калі сэрца
ў чаканні марудзіць,
але яшчэ баліць,
карціць маўчаць,
ды мушу гаварыць,
пішу да цябе...
прашу цябе:
калі ласка, вярніся...
вярніся – і будзь жывы!
застанься
альбо зрабіся
іншым –
больш жорсткім
ці больш балючым.
толькі вярніся, чуеш?
толькі вярніся...
малюся.

### *САДА ЭНД МАЗА-ЛЭНД*
### *(на шляху да Стакгольмскага сіндрому)*

У мяне з Краінай кантакт.
Мы рухаемся у такт.
Я люблю яе,
а яна мяне – м*а*е.
Дыхаю толькі я.
А яна – нямая.
Неяк так.
Хто такое стрымае?

Бо краіна мая падсела
на чужое брыдкае цела –
да таго, хто гідуе ўлонне,
з якога калісьці героі
выходзілі.
Цяперака роем
з крывёю
выходзяць вырадкі.
Мае радкі
не вартыя імшы.
Толькі шашы.
Прабач мяне, прабач,
мая дарагая,
радзіма мая
крывая,
каравая мая,
любая,
касавурая.
Любая
на тваім месцы
магла быць.
Але з табою жыць.
Што тут варажыць.
Забраць цябе,
забраць да сябе ў сэрца.
І звесці, як неба,
з сабой.
У іншы лад,
у іншы крой.
Не дай за цябе памерці.
Не дай, каб гэтыя чэрці
распачалі забой.

Да якога прасіць Аладзіна,
Джына, Джа альбо іншага Гуру?..
Ды прасіць я ўсё ж такі буду.
І прашу я адно-адзіна:
вярні мне жывой Радзіму,
калі згвалтуеш яе ты
да нематы.

## *ДАЗВОЛЕНЫ ДЗЕНЬ ВОЛІ*

дазволены дзень волі
нешта у ім не тое
ідзеш у калоне
як з перапою

паветра замнога
але не хапае
ты знаеш
дарогу
ўдыхаеш

выходны і нават нядзеля
паветра ў дажджы і снезе
а ты на вуліцы недзе
і верыш што гэта дзеля...

*

хтосьці ідзе да лора
хтосьці да дзеўкі волі
а хтосьці бярэ малога
ці жонку на дзень волі

а потым кавярня з сябрамі
ты цэдзіш размову і каву
і цешышся: не забралі
нястрашнае нейкае свята

дазволены дзень волі –
нібыта надзея ў законе

*25 сакавіка 2012*

## САМЫ КАРОТКІ БЕЛАРУСКІ РАМАН

Кахала яна двух мужчынаў:
адзін быў неўязны ў Беларусь,
другі – з Беларусі.

Але аднойчы
дзяржава вырашыла,
якога грамадзянства
будуць яе дзеці –
і не падоўжыла візу.



# Анталогія перакладу расійскай рок-паэзіі

*Случилось так, что наша совесть и честь*
*Была записана у нас на кассетах;*
*Кто-то принес новой музыки –*
*И нам больше нечего стало стирать…*

***БГ***

***Задума гэтае Анталогіі з'явілася, калі музыка і даўні сябар "Дзеяслова" Юры Несцярэнка даслаў нізку перакладаў тэкстаў Андрэя Макарэвіча з наступнай прадмоўкаю: "Відаць, ужо час. Гэтыя простыя словы з песні Макарэвіча могуць азначаць многае – і тое, што нешта беззваротна сыходзіць, і тое, што нечакана з'яўляецца ў нашым жыцці. Ці думаў калісьці малады маскоўскі рок-музыка пра свае карані?.. А вось прайшоў пэўны час, і не так даўно музыкант прыязджаў у вёску Паўловічы, што на Бярозаўшчыне. На яго пытанне, ці праўда тое, што ў вёсцы да сённяшняга дня жывуць Макарэвічы, яму адказалі: "Так, практычна ў кожнай хаце". Вядома, не гэтыя факты сталі нагодай для перакладу твораў Андрэя Макарэвіча. Калі пачыналася праца, пра ўсё гэта яшчэ не было вядома. Было толькі адчуванне, што павінны яго вершы прагучаць на беларускай мове. Відаць, праглядала ў іх нейкая беларуская "разынка". Відаць, надышоў час такой цікавай спробы, у нейкім сэнсе і заканамернага, і нечаканага эксперыменту".***

***Вось і нам падалося: час надышоў.***

***Падрахаваўшы наяўнае і кінуўшы покліч, мы пачалі збіраць тэксты перакладаў расійскай рок-паэзіі пабеларуску. І шмат хто адгукнуўся, ператрэсшы свае хард-дыскі, а то й папрацаваўшы адмыслова для нашага праекту (за што апошнім – вялікая падзяка й бязмежны рэспект!).***

***Гэтую Анталогію склала тое, да чаго можна з поўным правам далучыць хай сабе крыху зацяганы, але, здаецца, цалкам справядлівы назоў "Легенды рускага року". Нам***

*Укладанне – Анатоль ІВАШЧАНКА.*

***падумалася, што ў эпоху Google смешна перагрувашчваць матэрыял нейкімі біяграфічнымі даведкамі. Грэбеншчыкоў, Хвасценка, Цой, Башлачоў, Дзягілева, Летаў, Умка, Шаўчук… За кожным з гэтых імёнаў – свой сімвал, свая вяха (а то й эпоха).***

***Калі сышла пена бурлівых 80-х і развеяўся дым "ліхіх" 90-х, апынулася, што шмат з таго, што падавалася брутальным выклікам існай мастацкай эстэтыцы, стаецца ўзорам пранізлівага лірызму. Тое, што выглядала як плакатныя тэксты-дзеля-пратэсту, загучала наноў, выявіўшыся і глыбейшым, і значна-знакавейшым. І – зноўку актуальным. Зрэшты, як тое і належыць класіцы. Не прычакалі мы – ужо не ведаю, на жаль ці на шчасце, – тых часоў, калі, як спяваў Башлачоў, "эти песни станут не нужны".***

***Скажу, можа, крыху пафасна, але рускі рок – масток паміж пакаленнямі. Спосаб паразумення. І няхай "поколенiе дворнiков i сторожей" саступіла месца пакаленню блогераў і офісных хамячкоў, няхай цяжка ўявіць сучаснага маладзёна, які выдрапвае на пад'ездная сцяне штосьці кшталту "Акварыум – лепшае віно"… Але ж ці хоць крышку страціў актуальнасці прыпеў Цоеўскіх "Перамен", забароненых – хто б мог падумаць! – у адной еўрапейскай краіне на пачатку XXI стагоддзя? Альбо – на тле нядаўняй антымайданаўскай і цяперашняй анексійна-захопніцкай істэрыі ў расійскіх мас-медыя – ці састарэў башлачоўскі "Подзвіг выведніка"? І, здаецца, нікога не здзівіла, што пры канцы 2013-га, акурат да юбілею Грэбеншчыкова, на Радыё Рацыя ў праграме Віктара Сямашкі "Кракатук" выйшаў цалкам паўнавартасны беларускі трыб'ют "Акварыума", куды ўвайшлі і песні, прадстаўленыя ў гэтай публікацыі.***

***Натуральна, "дзеяслоўскую" Анталогію нельга лічыць хоць колькі-небудзь вычарпальнай. Багата знакавых тэкстаў і імёнаў засталося па-за ёй. Між тым, заўважу, што і далёка не ўсё з наяўнага патрапіла сюды. Галоўнымі крытэрамі адбору была перадусім якасць перакладу (спявальнасць), а таксама, так бы мовіць, – ступень праграмнасці тэксту. Можна лічыць, што гэта такі сабе "The Best of" паводле версіі беларускіх перакладнікаў. Калі хтосьці выкарыстае гэты нумар "Дзеяслова" ў якасці спеўніка, можна лічыць, што мэта дасягнутая.***

***Дарэчы, нават наскі адпаведнік слову "рок-н-рол" з'явіўся (гл. пераклад Арцёма Сітнікава культавае песні БГ). І хаця сама з'ява ўжо неаднаразова была пахаваная, думаю, шмат хто не толькі з удзельнікаў гэтага праекту, але й той-сёй з прыхільнікаў З'явы падпішацца пад перафразам радка Аляксея Кортнева: калі ракенрол памёр, – то мы… яшчэ як!***

**Анатоль ІВАШЧАНКА**

## Андрэй МАКАРЭВІЧ



### *ДЗЕНЬ ГНЕВУ*

Прыходзіць наш найлепшы дзень,
Няхай над войскам сцяг лунае!
Прыходзіць наш найлепшы дзень –
Мы дурням бітву абвяшчаем.

Гады ляцелі, кожны з нас
Боль зведаў і трываў пакуты.
Але нарэшце выйшаў час –
Мы рукі вызвалім ад путаў.

Раздайце зброю па сябрах,
Заўжды між іх хапае смелых.
Раздайце зброю па сябрах,
І дурні знікнуць, зразумела.

Калі сканаў апошні вораг,
Труба зайграла перамогу –
Тады заўважыць кожны змог,
Як засталося нас няшмат.

*1978*

### *СНЕГ*

Снег. Горад губляе зрок.
Крок
У змрок ад святла, і зноў
Колер, як белы снег.
  Горад твой
  Стаў караблём,
  Лёдам забраны ў палон.

Ты
Ведаеш пэўна, як
Снег
Нам пакідае знак.
Ён робіць заўсёды так,
  І горад твой,
  Сонцам сагрэты,
  Плыве па вясновай вадзе.

Але
Ці дадзена нам зразумець,
Каму
Дзякаваць за цеплыню,
Што зводзіць няспынна снег.
  Сто доўгіх дзён
  Мацнейшым быў ён,
  І раптам знікае за пяць
  Цёплых дзён.

*1978*

### *З АДВЕЧНАЙ ПРАГАЙ ПЕРАМЕНЫ МЕСЦАЎ*

З адвечнай прагай перамены месцаў
Я блытаў развітанне з дараваннем,
Каштоўным у вандроўцы быў ад'езд,
Заўсёды з цяжкасцю давалася вяртанне.

Такі мой крыж – няма віны маёй
У прыжыццёвых зменах размяшчэння.
Прабачыць. Развітацца. Рушыць зноў далей –
З адвечнай прагай перамены месцаў.

І недзе, на апошніх берагах
Я скончу шлях, маніць няма прычыны.
Сабе наўрад ці змог бы даравацьь
Той думкі, што вяртанне немагчыма.

Але я буду так удзячны лёсу
За тое, што свой шлях абраў няспынны.
На тым шляху сваю я веру нёс –
Агнём у сэрцы грэюць успаміны.
З адвечнай прагай перамены месцаў.

*1983*

## ВІДАЦЬ, УЖО ЧАС

Відаць, ужо час,
Мы, падобна на тое, сыходзім –
Новых людзей за сталом надта шмат,
Усе гавораць аб іншым,
Гаспадыня здымае з плэера джаз,
І глядзіць на іх,
Як калісьці глядзела на нас.
Нашы кнігі ніхто не раскрые без нас.
Новы шум, новы тлум,
Новы флёр, новы дым –
Хай здымаюць кіно,
Хай танчаць пад тое, што так падабаецца ім, –
Наша справа – прыгожа сысці,
Нашым танцам бракуе месца
І тут, і ў бяздоннай сетцы.
Жыццё – толькі гульня,
Кароткая злая гульня,
Мы, здаецца, сыходзім,
Відаць, ужо час.
Толькі мора не ўзгадвае хваляў,
Толькі вецер хвалы не чакае,
Толькі неба не ведае слёз.

*2007*

## СВЯТА РАСПАЧНЕЦЦА ТОЛЬКІ ЗАРАЗ

Чуткі, быццам кулі,
Цяжка ад навінаў,

Так багата гледачоў заўзятых,
Зноў жа падманулі
Тыя, хто вялі нас, –
Толькі зараз распачнецца свята.

Можна акапацца
І ў святло не верыць –
Жахі рэтранслiруе антэна,
Ў стомленых баяцца
Знікне страх, напэўна, –
Свята толькі зараз распачнецца.

І твая дарога,
Родныя мясціны,
І святло, якое не згасае,
І часцінка Бога –
Ўсё ў табе самім –
Свята распачнецца толькі зараз.

*2009*

## ЗОРКАМ НЕ ТРЭБА МЕТРО

Шэры золак, праспект, увесь горад –
Навальніцы грымяць па начах.
Мокры асфальт, губляецца сноў глыбіня.
Адна наогул, з шэрым натоўпам,
Прымружанасць на вачах –
Спяшаецца зноўку ў метро яна.

Цесны перон, сіні вагон,
Жоўтыя плямы святла,
З цемры цягнік ляціць у чорны тунель.
У торбе на дне квіток запаветны,
Складзены напалам, –
Заўтра яна ідзе да яго на канцэрт.

*Нітачка дзён усё не сканчаецца,*
*Мы каралі на ёй, мы б’емся, як рыбы ў шкло.*
*Сустрэцца з ёй не атрымаецца –*
*Зоркам не трэба метро.*

Ноч, цішыня – лопні струна,
Быццам напятыя нервы.
Адзінота без сну – не навіна.
Ён зачыніўся, ён так стаміўся
Ад размалёваных сцерваў,
Ён не забыўся, што недзе ў метро – яна.

*Нітачка дзён усё не сканчаецца,*
*Мы каралі на ёй, мы б'емся, як рыбы ў шкло.*
*Сустрэцца з ёй не атрымаецца –*
*Зоркам не трэба метро.*

*2001*

## ТОЕ, ШТО ЛЮДЗІ СПЯВАЮЦЬ ПА ДАРОЗЕ ДАДОМУ

Рухі ў паветры – апошнія метры
Цяжка даліся мне,
Але дарога скончыцца там, дзе пачнецца дом.
І скончыцца шлях, здаецца,
І дом твой табе ўсміхнецца.
Таму людзі часта спяваюць па дарозе дадому.

Мой матор і дрымчыць, і дыміць,
Мой бензін на нулі,
Але машына ляціць і ляціць
Паралельна зямлі.
Ад нябеснага да зямнога
Я шукаю шляху прамога,
І спяваю – што людзі спяваюць па дарозе дадому.

Калі раптам здарыцца так,
Ты падумаеш – скончыўся шлях,
Не спяшайся – мы яшчэ не спявалі з табой
Пра тое, што людзі спяваюць па дарозе дадому.

*2004*

## НЕ ДАЙ МНЕ ЎПАСЦІ

Будзь побач са мной, не дай мне ўпасці,
Дарога трывожная, цьмяная, ахутвае ноч палі,
І гукі застылі, у сне не чутна дыхання зямлі –
Будзь побач са мной, не дай мне ўпасці.

Пакліч, і я азірнуся,
Павер мне – ніхто не заўважыць,
што нас больш няма за сталом,
Застанься са мной, я ніколі ўжо не вярнуся,
Будзь побач са мной, не дай мне ўпасці.

Ты чуеш сігнал –
Здолеў з ветрам чарот праспяваць,
Ты не зможаш ні мне, ні сабе
нязроблены крок дараваць.

Глядзі на мяне, і я буду жывы,
І дзень будзе доўгі і светлы, і горад у далечы знік,

І толькі дарога й святло ад нябёс і зямлі –
Будзь побач са мной, не дай мне ўпасці.

*2012*

*Пераклаў Юры НЕСЦЯРЭНКА.*

### КІЛ-БІЛ

Жыў-быў Кіл-Біл
Не быў мілы Біл
На ўсё забіў Біл

Піў Біл
І паліў Біл
Матам крыў Біл
Гадам быў Біл

Рэдкая кабыла
Не любіла Біла
Толькі Білу была мала
У яго стаяла, як шпала

Дый адна яго падставіла
Парушыла правілы
Зваліла і для Кіла-Біла
Шансаў не пакінула

У папа сабака быў
Ён яго любіў
Біл не забыў
Калаціў
Ледзьве не забіў
А-днак
Здарылася так
Што кабыла з пылу
Заваліла Біла
А казалі Білу
Дабіваць трэба была б

*Пераклаў Фёдар ЖЫВАЛЕЎСКІ.*

## Барыс ГРЭБЕНШЧЫКОЎ



### ДЗЕСЯЦЬ СТРЭЛ

Дзесяць стрэл на дзесяці вятрох,
Лук – лаза і цеціва – мурог.
Прыйдзе ён з далечыні,
Меч дажджу ў яго рукох.

Белы воўк вядзе яго, бы пёс,
Белы грыф глядзіць за ім з нябёс,
За ім прыйдзе аднарог,
Цудны цуд ён доўга нёс.

Дзесяць стрэл на дзесяці вятрох,
Лук – лаза і цеціва – мурог,
Прыйдзе ён з далечыні,
Цудны цуд ён доўга нёс;
Ўзыйдзе ён на твой парог.
Меч дажджу ў яго рукох.

## КАМЕННЫ ВУГАЛЬ

Каб каменны вугаль мог гаварыць,
ён не стаў бы весці размоваў з табой,
і карарскі мармур не стаў бы сачыць твой сыход,
але ты на вайне, ты страляеш
на тысячу міляў і тысячу год,
і я прамаўчу ў адказ на пытанне,
хто выйграе гэты бой.

Мадэрнісцкія сны маладых смеццяроў –
ў іх ты будзеш спайманы ў трубе,
і пыхлівыя панны прывяжуць цябе да станка.
Яны спавіюць твой голаў вянком,
і, спяваючы, кінуцца ў ноч,
іх таропкія вусны зракуцца імя твайго,
і ніколі ніхто не згадае тут пра цябе.

І калі Дзень Срэбра агорне свет
і заззяе ў руцэ аметыст,
і хто бег, той нарэшце знойдзе спакой на вякі,
ты паўстанеш з нетраў зямных, акрыялы,
ў няведанні, хто ты такі.
Я хацеў бы быць побач, калі
Вершнік працягне табе
яшчэ не крануты ліст.

## ГРУКАЦЬ У ДЗВЕРЫ ТРАВЫ

Я бачыў, як рэкі сплываюць уніз
І багі сузіраюць усход.
Я бачыў павевы сталёвых вятроў,
Я вярнуў свае стрэлы на ўзлёт.
І я быў бы рады застацца тут,
Ды паўсюль твае хатнія львы.

Дык не плач пра мяне, калі я пайду
Грукаць у дзверы травы.

Твая маці, прынесшы свой English tea,
Апавядзе пра свае дываны.
Твой бацька не ўстане падаць мне рукі
У стане халоднай вайны.
І ў доме тваім надта мала дзвярэй,
І наўкола яго – равы.
Дык не плач пра мяне, калі я пайду
Грукаць у дзверы травы.

Я бачыў у небе птушыны шлях
Ды зьніклі ўсе птушкі даўно.
Я бачыў, як тысяча пільных вачэй
Глядзіць у маё вакно.
І ты царыца красы, але мне абрыдла
Казаць тваёй мосці "вы".
Дык не плач пра мяне, калі я пайду
Грукаць у дзверы травы.

### *ГАСПАДАР*

Гаспад*а*ру, даруй, што турбую цябе –
Досыць дзіўны начны візіцёр –
На тваім паверсе гарэла святло,
Дзверы насцеж, і ўжо спіць вахцёр.
Кватаранты святкуюць улазіны,
П'юць і кажуць: цябе няма;
Ды я помню дзень першы ў гэтых мурох:
Гаспадару, ты – існасць сама.

Гаспадару, я проста йшоў ад сяброў,
І думаў пра ўсё, што было.
Яны жывуць у гэтых новых дамох
І, нібы дзеці, хваляць жытло.
Ды я згадваю мой дымны кут, вакно,
Ліхтар у ім, вежы й крыжы,
Гаспадару, й мне светла, бы ў снежную ноч,
І мне смешныя іх метражы.

Гаспадару, я досыць дзіўны жыхар,
І не любіць мяне аканом.
Твае служкі, магчыма, мілыя людзі,
Ды таксама не пояць віном.
І я іду паўз іх, як шаноўны госць,
Хоць я проста быў зняў гэты кут,

Гаспадару, даруй мне дзёрзкасць: твой дом –
Гэта мой дом, не лішні я тут.

Гаспадару, плачу я табе не так,
Але я плачу тым, што ёсць.
Гаспадару, я зняверaны ўшчэнт,
Але мне звеставаў вышні госць.
Гаспадару, я – ненадзейны падмурак
І, напэўна, благое стырно.
Ды маё рамяство, Гаспадару! Засмягшы,
Згадаеш, якое яно.

*Пераклала Марыя МАРТЫСЕВІЧ.*

## ВЁСКА

Я з’язджаю ў вёску,
Каб стаць бліжэй да зямлі;
Я спазнаю ўласцівасці красак ды траў.
Я кіну ў агонь духмяны чабор,
Дым уздымаецца ўгору – свой шлях адшукаў.

Я знайду корань дзягілю –
Зрабі весялейшым мяне;
Голле бярозы – прэч, дэманы, прэч...
Ў час, калі стане занадта цёмна,
Скончу чытаць табе,
Я адчыняю дзверы, і там стаіць ноч.

Хто гаворыць са мной;
Хто тут гаворыць са мной?

Радасці тым, хто шукае;
Мужнасці тым, хто спіць.
Трынаццаць дзён у бок поўні рушылі мы.
Я думаў, што мне гэта сніцца,
Што ж, вітаю вас, мае сны;
І я зразумеў, нашто да мяне вы прыйшлі;
Бо я з’язджаю ў вёску,
Каб стаць бліжэй да зямлі.

## ДВАЦЦАЦЬ ПЯЦЬ ДА ДЗЕСЯЦІ

Я інжынер за сотню рублёў,
І болей мне не атрымаць.
Мне дваццаць пяць, і да гэтай пары,
Я не знаю, чаго жадаць.
І, здаецца, няма аніякіх прычынаў
Ганарыцца лёсам сваім,

Але каб я мог выбіраць сябе, –
зноў стаў бы сабой самім.

Мне дваццаць пяць, і дзесяць з іх
Немавед пра што я пяю.
І пакуль так складана баяцца той,
Што пільнуе душу маю.
І няхай няпростыя словы мае,
Ў гэтым мала віны маёй;
Што ж да той, што за спінай стаіць –
Ўсе мы роўныя перад ёй.

Можа стацца, гадзіннікі ўсе, як адзін,
Пачнуць адваротны адлік,
І таму, каго з плачам здымалі з крыжа,
У далонь зноў загоняць цвік.
І пяшчотныя вусны, як і раней,
Будуць прагнуць свайго Хрыста;
Я спяваў, што хацеў: хоць у гэтым адным
Для папрокаў няма падстаў.

Я шчаслівы тым, як склалася ўсё,
Нават тым, што было не так.
Нават тым, што ў маёй галаве скразняк,
І ў храме маім бардак.
Я адно намагаўся расціць свой сад,
Не псаваць краявіду ніяк.
Зразумее начальнік заставы мяне,
І дарue мне сціплы рыбак.

## З ДРУГОГА БОКУ ЛЮСТРАНОГА ШКЛА

Ах, толькі б не мінала гэта ноч;
Здаецца мне, мой дом ужо не дом.
Глядзі, як светла ім – яны гуляюць у жыццё
На той сцяне за шклом.

Здаецца мне, я быў зусім такі,
Як хлопчык той, што вершы разгарнуў.
Ён стрэлкі сцяў рукой, каб гэты момант не мінуў,
І кроў цячэ з рукі.

А можа, гэта ўсё гульня была
З другога боку люстранога шкла;
І золак тут, ды мы ўсе засталіся пры сваім,
І зноў учора, што паробіш з ім?

*Пераклаў Аляксей ЧАРНЯЎСКІ.*

*Пераклады М. Мартысевіч і А. Чарняўскага паўсталі ў межах працы “Перакладніцкай майстэрні” пры Беларускім калегіюме. Друкаваліся ў газеце “Наша Ніва”.*

## ЧАМУ НЕ ПАДАЕ НЕБА

Я не цямлю, нашто ты прыйшла ў гэты дом,
ды давай вечар гэты ўдваіх правядзём,
калі скончыцца дзень – застанецца шчэ ром,
пляшку ў краме набыў кагадзе я.
Патушы ўсё святло ды хадзем назіраць,
як суседзі насупраць спрабуюць спяваць,
неўміручыя душы не супраць прадаць,
каб жыла неўдушэння надзея.

Тут двары, быццам студні, ды поўная суш,
калі хочаш – жыві, толькі руху не руш,
і бяжы то спрытней, то павольней, пад гуж
падстаўляючы голаў суседа.
А калі памылкова сюды завітаў
Аляксандар Сяргеіч з разрывам ірта,
то распяў яго люд, бо прыняў за Хрыста,
а пра хібу праз дзень толькі ўведаў.

Тут квітнее мастацтва складаць чорны спіс,
паглядаючы з вокнаў на тых, хто не спіць.
Калі ты без віны – льга віну прышчапіць,
Важна першым прыбегчы на споведзь.
А калі не «яшчэ», а «ўжо» раптам які,
і душа ў негліжэ рве каня на дыбкі –
вам паверх нумар два, там Вергілій такі –
ён у міласціне не адмовіць.

Тут кахацца й крычаць можна толькі цішком,
сутнасць тоіцца ў кубках з атрутным пітвом,
што паўмёртвых паэтаў бяссонным вачом
не дае адпачыць дастаткова.
Поўны лёду й імглы іхні позірк шкляны,
ды я часам не веру, што хлусяць яны –
я з народзінаў гэтым напоем п’яны,
тут такая ўжо светабудова.

Намалюй на сцяне мне няісны абраз,
тваё цела як ноч, ды ўваччу – ранні бляск,
Ты не выйсце, ды, мабыць, найлепшы адказ,
твой сыход як нагода для ўсмешкі.
Заўтра скажа мне вісельнік-раб: «Гаспадар,
ты дарэмна» – і я, прыгадаўшы твой твар,
адкажу: «Ты паблытаў, мой брат. Нат не мар,
у жыцці гэтым я непагрэшны».

### ЕЛІЗАВЕТА

Хто з Елізаветай сябруе? Конь – і той, хто ўва сне,
Нясе непарушны спакой шэпт імжы з-за вакон.
А там – як заўсёды нядзеля, і свечкі, і свята, і лета,
І смех, і няма забарон.

Скажы мне, нашто тады статуі падалі ў сець
правадоў,
Нашто было горлам пад пугі й пад кулі ляцець?
Да вуснаў маіх яна палец прыклала і шэпча:
рабі што заўгодна,
Толькі моўчкі, бо словы ёсць смерць, толькі смерць.

Наросхрыст адчыняцца нашыя целы ў нябёс
вышыню,
Туды, дзе так вольна аблокам ляцець наўздагон.
А там – як заўсёды нядзеля, і свечкі, і свята, і лета,
І смех, і няма забарон.

*Пераклаў Макс ШЧУР.*

### ЛЕБЯДЗІНАЯ СТАЛЬ

Вазьмі ў далонь попел, вазьмі ў далонь лёд.
Можа, гэта твой шанец, а, магчыма, твой дом.
І вось ён, твой боль, – дык няхай жа ён стане крылом,
Лебядзіная сталь ў вышыні чакае цябе.

Я заўжды быў адзін – ў гэтым права стралы,
Але, ведай, не будзе адзін нават той, хто так змог.
Колер нашых вачэй ненадзейны, як лёд па вясне,
Але мы станем, як сон, і тады сны стануць святлей.

Дык вазьмі канюшыну і мёд у далонь,
Няхай ловы, што ззаду лятуць, растануць, бы цень.
Мы ноч пражылі, дык паглядзім на сонечны дзень!
Лебядзіная сталь ў вышыні...
Лебядзіная сталь ў вышыні...
Лебядзіная сталь ў вышыні... чакае цябе...
Ляці!

*Пераклаў Уладзімір ДРЫНДРОЖЫК.*

### КАЛІНОЎСКІ

*(Вольны пераклад песні “Дубровский”)*

Калі ў ліхія гады
затхне народнай бядой,

тады начною парой
ціхі, някідкі,
з лесу выходзіць стары,
а глядзіш – ён зусім не стары,
а даволі-такі малады
красун Ка-
ліноўскі.

Прачніся, мой Беласток,
не спіце, Вільня й Смаленск.
Не век жа нам ліха цярпець
і плакаць аб хлебе.
Кастусь бярэ аэраплан,
Кастусь узлятае ўгару
і лятае над грэшнай зямлёй,
і піша па небе:

*“Не плач, Маша, я тут,*
*не плач, сонца узыйдзе,*
*скіруй да Бога пагляд,*
*а то як Ён нас знойдзе,*
*нябесны Ерусалім*
*гарыць праз холад і лёд,*
*і вось ён стаіць вакол нас*
*й чакае, чакае”.*

Ён кінуў свой шчыт і свой меч,
шпурнуў у канаву наган.
Ён сцяміў, што помсціць не след
і дыхае вольна.
Ў суворы і скрушлівы час
над намі ляціць яго аэраплан,
прыгожы, як іканастас
і піша, і пі-і-іша...

*Пераклаў Анатоль ІВАШЧАНКА.*

## *БЕЗ НАЗВЫ*[1]

Усё, што ёсць навокал,
Я нават не ўяўляю.
Іду ў вагні,
Але не згараю.
Коцішся па рэйках,
Табе здаецца, – прама.
І раптам тваё сэрца –
Адчыненая брама.

[1] Пераклад песні “Неизъяснимо”.

І вагон, дзе ты быў,
Паўз цябе пралятае.
І болей нішто назвы не мае.

Усё, што ёсць навокал –
Чароўная карціна,
Вясёлка па-над вежай
Святога Валянціна.
Усе мае праблемы
рассыпаліся ў порах,
А ўсё, што мне патрэбна,
Напісана ў зорах.
І думка за думкай,
Як дым, адлятае.
І болей нішто назвы не мае.

А цягнік едзе далей,
І сігнал будзе зноў.
І там, дзе пасажыры,
Усё ў чырвоным.
А я стаю і гляджу,
Я не ведаю слоў.
І што было таямніцай,
Раптам стала знаёмым.

Яшчэ сонца высока,
Яшчэ дарогі чакаюць.
Толькі гэтыя словы
Ўжо не дапамагаюць.
Я некалі ведаў
Што казаць, дзе схавацца.
Я болей не спрабую –
Навошта старацца?
Бо глыбока на дне
Агонь не згасае.
І болей нішто назвы не мае.

## МНЕ НЕ АДВЕСЦІ ВАЧЭЙ АД ЦЯБЕ

Я нарадзіўся зранку, сонца яшчэ не ўзышло.
Усё навокал маўчала, у мяне не было яшчэ слоў.
Я вітаю новы твар месяца і кволыя зорак агні,
Але гэты гук, што маўчаў ува мне, ўжо ўздымаецца з глыбіні.

Я нарадзіўся зімой, каб пабачыць сонца вясны.
Я не маю сяброў, каб захоўваць чыстымі сны.
Мора адступіла назад, змялела да самага дна,
І ва ўсёй акрузе не было такіх вагаў, каб узважыць плён майго дня.

*Мне не адвесці вачэй ад Цябе.*

Я нарадзіўся з крыламі, няхай гэта быў толькі знак,
Але я не хачу больш паўзці дасканала, не магу ўжо ляцець абы-як.
Я схаваўся ў начы, але гэта быў толькі Твой цень.
І я не магу згубіць цябе, як не мог бы не сустрэць гэты дзень.

*Мне не адвесці вачэй ад Цябе.*

*Пераклаў Раман ЯРАШ.*

## *РАКЕНРОЛ ПАМЁР*

Нервовыя твары – патыхае бядой.
Я памятаю неба, але дзе гэта было?
Мы стрэнемся зноўку, мы скажам: жыве!
У гэтым ёсць нешта не тое...

Але ракенрол памёр, а я яшчэ не.
Ракенрол памёр, а я...
Тыя, што нас любяць, глядзяць нам услед.
Ракенрол памёр, а я...

Ад гэтага часу час пойдзе наўпрост.
Крок угору, крок убок – руйнуецца мост.
Я спаліў іх жыццё, быццам стосы газет –
Застаўся толькі брудны асфальт.

*Але ракенрол памёр, а я яшчэ не.*
*Ракенрол памёр, а я...*
*Тыя, што нас любяць, глядзяць нам услед.*
*Ракенрол памёр, а я... яшчэ не.*

Локаць да локця, з цаглінаў сцяна.
Мы былі ганарлівыя – плацім утрая:
За тых, хто йшоў з намі, за тых, хто чакаў нас,
За тых, хто не даруе ніколі нам
тое, што...

*Ракенрол памёр, а мы яшчэ не.*
*Ракенрол памёр, а мы...*
*Тыя, што нас любяць, глядзяць нам услед.*
*Ракенрол памёр, а мы... яшчэ не!*

*Пераклаў Арцём СІТНІКАЎ.*

## Анры ВАЛХОНСКІ



### *ЗЛАТ-ГОРАД*[1]

Дзе неба найсіней,
Пад ім злат-горад ёсць[2]
З празрыстай вострай брамаю
І зорнай яскрынёй.
А ў горадзе тым сад.
Там красак не злічыць.
Звяры там ходзяць гожыя,
Што нельга і ўявіць.
Адзін – агністы жаўтагрывы леў,
Другі – бушлівы і шматвокі вол.
А яшчэ арол там – дзіва-птушка,
Златакрылая і яснавокая.
Дзе неба найсіней,
Там зорка ёсць адна.
Яна з табой, анёле мой,
З табой заўжды яна.
Хто любіць, той і люб.
Хто светлы, той і свят.
І ты за гэтай зоркаю
Ў дзівосны крочыш сад.
Цябе сустрэнуць жаўтагрывы леў,
Бушлівы сіні і шматвокі вол.
А яшчэ арол там – дзіва-птушка,
Златакрылая і яснавокая.

*Пераклаў Сяргей БАЛАХОНАЎ.*

## Анры ВАЛХОНСКІ, Аляксей ХВАСЦЕНКА



### *АРЛАНДЫНА*

Йшоў я апоўначы цвярозы,
Не адчуваючы пагрозы...
Бачу, з паненкі льюцца слёзы,
Як з ручая.
– Хто цябе скрыўдзіў, залатая?
Хто пра цябе не памятае?
Віна – чыя?
Ты Арландына, мой жаданы лёс!
Ідзі хутчэй сюды, не трэба слёз!..
– Так, гэта я!

---

[1] Пераклад зроблены з выкарыстаннем знакаў беларускай традыцыйнай культуры.
[2] Як вядома, арыгінальны верш Анры Валхонскага пачынаўся са словаў: “*Над* небом голубым есть город золотой”. Барыс Грэбеншчыкоў, спяваючы следам за Аляксеем “Хвастом” Хвасценкам гэтую песню, перайначыў пачатак на “*Под* небом голубым...”, кардынальна змяніўшы месца дзеяння...

Так, я завуся Арландына,
Бо мяне клічуць Арландына...
Толькі не клічуць Арландыну,
А хто – віной?!
Ты мяне скрыўдзіў, залатую,
Скрыўдзіў і кінуў, не жартую,
Аёй-аёй!
Але дарую, хоць паганец ты,
І атрымаеш новы шанец ты –
Буду тваёй!

– Цяжка ў самоце без падтрымкі –
Хутка ідзі ў мае абдымкі,
Перацалую ўсе радзімкі!..

І тут – кашмар:
Поўсцю пакрыўся лоб дзявочы,
Пачырванелі нос і вочы,
Скрывіўся твар,
Ваўчынай пашчай сталі вусны –
І я быў схоплены найгнюснай
З гнюсных пачвар.

– Ведаеш, я не Арландына,
Так, я зусім не Арландына.
Хопіць, прыйшла твая гадзіна –
Я Люцыфер!
Позна маліцца, ты не ў храме!..

І вырваў сэрца кіпцюрамі
Князь-людажэр,
І згінуў я паміж зубоў крывых.
Было мне добра жыць сярод жывых...
Кепска цяпер!

*Пераклаў Андрэй ХАДАНОВІЧ.*

## Віктар ЦОЙ



### *ПАЧАК ЦЫГАРЭТ*

Я сяджу і гляджу ў чужое неба з чужога вакна,
Дзе няма знаёмых зорак і агнёў.
Я блукаў па ўсіх дарогах, але, мабыць, дарма.
Азірнуўся і не змог адшукаць слядоў.

Ды калі у кішэні пачак цыгарэт,
То усё зусім няблага, хай то ноч або дзень.

І квіток на самалёт з зыркім срэбным крылом,
Што ўзлятае й пакідае нам толькі цень.

І ніхто не хацеў быць вінаватым без віна.
І ніхто не хацеў рукамі жар заграбаць.
А без музыкі й на людзях смерць губляе красу.
А без музыкі не хочацца прападаць.

Я сяджу і гляджу ў чужое неба з чужога вакна,
Дзе няма знаёмых зорак і планет.
Я блукаў па ўсіх дарогах, але, мабыць, дарма.
Азірнуўся і не змог расшукаць свой след.

*Пераклаў Алег ЖЛУТКА.*

### *ЗЯЗЮЛЯ*

Песняў, дагэтуль няствораных, колькі?
Пар*а*й, зязюля, як след:
месцічам мне быць ці жыць на хутары,
крыцай ляжаць ці азараць сусвет?
Сусвет.

Сонца маё – вачэй не хавай,
Зірні, я сціснуў далонь у кулак,
І даўшы мне порах, рады дай,
Што й як...

Хто памкне дарогаю самотнікаў?
Волаты адважныя
на нажы ўскіпелі ў полі ў баях.
Мала хто, унікнуўшы бяспамяцтва,
З розумам ясным здольны цярэбіць шлях.
Той шлях.

Сонца маё – вачэй не хавай,
Зірні, я сціснуў далонь у кулак,
І даўшы мне порах, рады дай,
Што й як...

А дзе ж ты цяпер, воля вольная?
У якіх краях золак залаты вітаеш і з кім?
Хораша з табой, ды кепска без цябе,
голаў свой ды плечы шматпакутныя пад кій,
пад кій.

Сонца маё – вачэй не хавай,
Зірні, я сціснуў далонь у кулак,

І даўшы мне порах, рады дай,
Што й як...

*Пераклаў Сяргей БАЛАХОНАЎ.*

## *МУРАШНІК*

Новы дзень пачынаецца,
і машыны туды-сюды.
Узыходзіць штораніцу
сонца, й нам, значыць, не бяды.
Наш мурашнік жыве,
хтосьці лапку зламаў сабе,
а да шлюбу зажыве,
а памрэ – дык так і трэ!

*Рэфрэн:*
Я дужа не люблю хлусню,
ды ад праўду стаміўся ушчэнт,
я хацеў быў знайсці цішыню,
кажуць, кепска шукаў яшчэ.
Й не вядома, які працэнт
звар'яцелых на гэты дзень,
ды калі верыць вачам і вушам,
ён няўхільна расце.

Мы маглі бы пачаць вайну
супраць тых, хто супраць нас,
толькі той, хто супраць тых, хто супраць нас,
не спраўляецца з імі без нас.
Наша будучыня, бы цень,
у мінулым – пекла і рай,
нашы грошы не лезуць ў кішэнь,
вось і ранне –
ўставай!

*Рэфрэн.*

## *ПЕРАМЕН!*

Заміж святла – выцвіласць шкла,
замест агню – дым.
У сетцы календара скрэслены дзень.
Чорнае сонца згарае датла,
дзень дагарае з ім.
На расплаўлены горад падае цень.

*Рэфрэн:*

Перамен! – прагнуць сэрцы здаўна.
Перамен! – просяць вочы святла.
Ў нашым смеху, у нашых слязах і ў пульсацыі вен:
Перамен! Чакай перамен!

Электрычнасць і ўночы працягвае дзень,
і з запалкамі зноў недагляд,
але ў кухні сіняю кветкай гарыць газ.
Цыгарэты ў рукох, чай на стале –
дужа просты расклад.
І больш нічога няма – ўсё знаходзіцца ў нас.

*Рэфрэн.*

Мудрым вокам ніхто не пахваліцца з нас
і умелымі рухамі рук.
Нам не трэба таго, каб адно аднаго паважаць.
Цыгарэты ў рукох, чай на стале,
кола замкнулася тут.
І вось нам становіцца страшна
штосьці змяняць.

*Рэфрэн.*

*Пераклаў Анатоль ІВАШЧАНКА.*

## Аляксандр БАШЛАЧОЎ

### *ПОДЗВІГ ВЫВЕДНІКА*



Ў працоўны дзень у вертыкальнай позе
Прачнуўся, прыхінуты да сцяны.
У адзіночку выйшаў я з запою,
Ды вось бяда – сягоння выхадны.

І час ішоў ні бокам і ні скокам.
Гарэў на кухні ліверны пірог.
Рыпела камунальная хрушчоўка
І тапачкі мурлыкалі ля ног.

Сусед Бурштэйн нягучна біў суседку.
Мы з ёй яму наставілі рагоў.
Я тут ні з кім бы не пайшоў ў выведку,
Няма з кім выйсці у варожы схоў.

Адзін зварыў сабе стальныя дзверы.
А іншы вершы лепіць да рання.
Самотны я. Нікому я не веру.

Ды далібог, няма тут страты велькай –
Ўвесь іхні брат ды іхняя сястра.

Экран, а ў ім звіняць канькі...
Ў хакей гуляюць тут сапраўдныя мужчыны.
Па радыё пяюць: няма прычыны для тугі,
І ў гэтым яе першая прычына.

У “Ніве”[1] сенсацыйная заметка
Пра тое, што дасюль шуміць тайга.
А мне да болю хочацца ў выведку,
Сысці і болей не вярнуцца ў клетку,
Сысці – як ёсць – у пастку ворага.

З краін братэрскіх нам вяшчае прэса:
Палякі адыходзяць ледзь ад стрэсу.
Прыціснуты паскуднік Лех Валенса,
Што марыў быў Варшаву узарваць.

Так, не да ўсіх яшчэ дайшло святло прагрэсу,
І ў соснах трох не заўважаюць лесу.
Бразгоча амуніцыяй агрэсар,
Ды ТАСС упаўнаважаны сказаць:

“Страшэнны смог ахутаў Вашынгтон.
Нявесела жывецца без работы
Ў хвалёных джунглях прывіднай свабоды,
Дзе правяць ЦРУ і Пентагон.

Сярод капіталістаў, нібы тля,
Расце угар ваеннага псіхозу.
Яны пужаюць рускаю пагрозай
Падманутых рабочых і сялян.

А Рэйган – чмут, каўбой і педзераст –
Абрынуў свет на ядзерную карту”.
Трывожна мне. Кусаю свой матрац.
Дрыжу, як СС-20 перад стартам.

Закончыўся хакей. Пайшлі стракозы,
А па другой узважваюць сама.
Ды як так можна, калі скрозь пагроза?!
Й нічога за яе страшней няма!

---

[1] “Ніва” – скарочаная назва газеты “Беларуская ніва”.

Своечасова выйшаў я з запою...
Не аддамо мы роднай Кастрамы!
Любімы горад можа спаць спакойна
І мірна зелянець сярод зімы.

Будзёнаўку насуну зухавата.
Ці ж я не патрыёт, хаця і п'ю?
Ў фонд міра здам мех пляшачак, рабяты,
Ну а з матраца парашут зраблю!

Вазьму аванс. Куплю сабе білет
На першы ж рэйс ў Заходнюю Еўропу.
Ў квадраце Гамбурга – пардон, я ў туалет! –
Дастану колца й разматаю стропы.

Прайду, бы рысь, ад Альпаў да Бярозы
Сцяжынай партызанскіх аўтастрад.
Ўсё пад адхон – трамваі ды калёсы.
Каб памяталі, падлы, Сталінград!

Пералічу усе штыхі і танкі.
Няхай раскрыты кораш-сувязны –
Я па-пластунску абыходжу пасткі
І у эфір выходжу хоць бы хны.

Я – шчыт і меч Савецкае Краіны!
І покуль мяне будуць абкладаць –
Пераламаю ўсім ракетам крылы,
Каб на Радзіму справаздачу даць:

Маўляў, выходзіць дуля з маслам Бону.
Скажыце маці – НАТА на хвасце!
Ваш сын змагаўся да апошняга патрона
І вернецца дадому на шчыце.

Хачу пад колы кінуцца з гранатай
Ды сцяг брыгады здолець праглынуць.
Пасля маўчаць на допытах зацята,
А перад смерцю – пра Кацюшу зацягнуць.

Бадун мацнеў. Пара прыняць таблетку.
Ўвушшу пішчаў сакрэтны пазыўны.
Ў выходныя так хочацца ў выведку.
А ну-ка, хлопцы, хто тут выязны?

*Пераклаў Анатоль ІВАШЧАНКА.*

## МУЗЫКАНТ

Найстарэйшы між нас,
Ён граў што давядзецца
Для штучных бландынак і п’яных мужчын.
Ён жаваў у антрактах паўколцы халодных кіўбас.
Музыкант аблысеў.
Яго талент пагас.
Зморшчыны замянілі прышчы.
Ён любіў шчасны час,
Калі сціх рытм і бас
І пара згортваць польку і джаз.

А скончыўшы гру,
Сціснуўшы ў кулаку рэстаранную мішуру,
Ён ставаў ля вакна,
І знаёмы прахвост падаваў яму чарку віна.
Ён бачыў снег на траве,
І шалёны аркестр збіраўся ў яго галаве.
Паўставаў дырыжор,
Дадаваў лёд мінор да гарачага жару мажор.

Ён пакідаў нас праз чорны ход,
Загарнуўшы рэшткі кіўбас
У паперу для нот.
Ён казаў мне: “Бывай”, –
Ён сядаў у трамвай,
Ён, вядома ж, вяртаўся дамоў.
Дзе найлепшай з навін
Была тая,
Што з гораду з’ехалі дочкі і сын.

Ӯлёгшыся да сцяны,
Як заўжды
Дэманструючы жонцы нікчэмнай абрысы спіны,
Уночы ён ізноў не мог заснуць
Ад гэтай музыкі...

Раніцой жонка, ясна, яго пілавала
Ржавым рыпучым смычком.
Называла яго павучком
І лавіла дзіравым сямейным сачком.
Ён ставаў ля вакна.
Бачыў снег. Млосна згадваў пра чарку віна.
Ён меў безліч прычын,
Каб увечары зноўку ўцячы,
Зноўку граць

Дзеля штучных бландынак
І іх непрыгожых мужчын.

Ён быў благі музыкант.
Але начамі ён чуў музыку...
Ён співаўся ўва ўсіх на вачах.
Але начамі ён чуў музыку...
Ён маліўся, каб жонку ліха ўзяло.
Але начамі ён чуў музыку...

## *ВОСЕНЬ*

Ноч плюецца на шкло
чорным
Лета? Лета пайшло
к чорту.
Вока вакна.
Пад сувоем сукна
Спіць Поўнач мая ў дрыгве.
Ды дзе ты, вясна?
Што ў тваёй галаве?

Восень. Ягадаў-губ
горыч.
Восень. Твой пажадлівы труп
поруч.
Усе мае песні ліпеня й жніўня
Восенню спалены ўшчэнт.
Раўнівая ў ролі жонкі маёй яшчэ.

Дзёр ад сырой махоркі.
Неба – як рондаль з коркай старой
жоўтай хлоркі.
І раніцой наўпрост нада мной
Крапае ржавы гной.
Госпад і той, мусіць, гуляў вясной.

Трэба скараць
горы.
Трэба мяняць
зоры.
Ды лісце, што марыць ляцець разам з птушкамі,
Падае толькі ўніз.
У кожным двары восень дае стрыптыз.

Вось і ў нас больш у куфлях не квас – піва,
ну, а ў вас?
Дамы праходзяць паўз нас ляніва –
і без акрас.
Ім не рэзон падабацца больш нам,
І на шпацыры сам
Я налічыў дзесяць вусатых дам.

Коням бы сані цягнуць па раллі.
Так абрыдлі калёсы.
Раллі – каб над ёю вуллі гулі
белых восаў.
Хто змажа нам раны
І перабінтуе нас?
Хто накладзе нам швы?
Напэўна, зіма ў ролі маёй удавы.

*Пераклала Марыя МАРТЫСЕВІЧ.*

## Канстанцін КІНЧАЎ

### *МАЁ ПАКАЛЕННЕ*



Дзве тысячы трынаццатых поўняў
аддадзена бязглуздай гульні,
ды зоркі астылай святло
там, дзе мой спеў.
Табе так цяжка паверыць –
твой шлях ад гэтай сцэны да гэтай сцэны.
Скажы:
ці ты мяне зразумеў?
Да жалю, слабы я, як і відавочца
падзеяў на Лысай гары.
Я здольны прадбачыць,
але не магу прадказаць.
Але калі рапатам убачыш
вочы мае ў сваім акне,
ведай, –
я прыйшоў, каб не даць табе спаць,

Бо гэта
*маё пакаленне маўчыць па кутах,*
*майму пакаленню не даюць спяваць,*
*маё пакаленне адчувае боль,*
*але дае сябе лупцаваць.*

*Маё пакаленне глядзіць уніз,*
*маё пакаленне баіцца дня,*
*маё пакаленне песціць ноч,*
*і пажырае сябе зранку.*

Сіне-зялёны дзень
там, дзе навальніца прайшла.
Якое цудоўнае свята,
ды ў ім яўна не хапае нас.
Табе так цяжка, ты прызвычаіўся
ўзважваць супраць, узважваць – за.
Заўваж,
я даю табе шанц.
Быць жывым – маё рамяство,
гэта дзёрзка, ды гэта мне ў плюс.
Я ўмею чытаць у аблоках
імёны здольных лятаць.
І калі ты аднойчы адчуеш
вялікай любові пульс,
ведай, –
я прыйшоў памагчы табе ўстаць.

*Пераклаў Анатоль ІВАШЧАНКА.*

## Янка ДЗЯГІЛЕВА

### КРЫЖОМ І НУЛЁМ



Крыжом і нулём запячатаны сіверны дзень,
Падобны на стоены ў сценах сямейны скандал.
Распалася слова на бляху ды голкавы звон,
А злая завея штурхнула да танцу ў вагні.

Стагоддзевай бессані ў горле гудуць правады.
Баліць галава, гэта проста баліць галава.
А вось і цана, і вясна, і пасцель, і сцяна.
Вось цуды, нябёсы, і галасы, і сляза.

Чужая дарога няпэўнаю левай рукой
Закрэсліла накрыж, нулём абвяла па краях.
А я ўсё чамусьці стаю і гляджу наўздагон,
Як шматпавярховы палёт зарываецца ў снег.

Сатлелая восень – як прысак на рэштках зубоў.
Ступень канчатковую стомы адмервае ноч.
Баліць галава, гэта проста баліць галава.
Стаяць і глядзець – гэта выбачыць і прамаўчаць.

Крыжом і нулём расхінуўся пустынны абшар.
У доме бясчасся за розумам ляснуў замок.
Распалася слова на бляху ды голкавы звон,
А злая завея натхніла на танцы ў вагні.

*Пераклаў Алег ЖЛУТКА.*

# Ягор ЛЕТАЎ



## НОЧ

*Прысвячаецца Аляксандру Увядзенскаму*

Трус цухмоліў капусны лісток
У шэсцьдзесят дзявятым годзе
быў знакаміты фэст Вудсток.
Я ручніком акуляры працёр
У коціка хвосцік знячэўку абгарэў
Увядзенскі ў пятлі плясаў
Маякоўскі кулю смактаў
Перадонаў зубамі ўва сне скрыгатаў
У Сібіры назіраўся каталіцкі бум
У сарціры коцік гукі дзіўныя выдаваў
Шэры коцік бляваў агурком
Быў абазваны мудаком
Ўсю ноч перад вокнамі сметнік гарэў
Травень шалеў
Пад раніцу з хмары дожджык папёр
Адчайна успацеў Ягор
Глабальныя рэчы гнялі галаву
Пальцы сноўдалі ў барадзе
Жэня Колесаў з'ехаў з канцамі ў Маскву
Федзя Фамін атрымаў п...ды
Я гэтым часам песенькі гарлаў
Перадонаў паміраў
Даваў недат*ы*камку напракат
У Аўстраліі ёсць такі звярок — вамбат
Кастанэда нічога аб тым не пісаў
Шэры кацейка ў пантофлю сцаў.

*Пераклаў Алег ЖЛУТКА.*

## КУЛЯ-ДУРА

Злая куля вучы мяне жыць
Добры камень вучы мяне плаваць

Гуманізм нарадзіў генацыд
Правасуддзе дало трыбунал
Адхіленні стварылі закон
Што мы сеялі, тое атрымалі

Куля дура вучы мяне жыць
Казмат навучы мяне волі

Аддай ім вячэру, аддай ім свой хлеб
Аддай ім сваю песню, аддай ім свой мозг
Аддай ім свой голад, аддай ім свой сполах
Не варта чакаць пакуль яны прыйдуць браць самі

Куля дура вучы мяне жыць
Атэіст навучы мяне верыць

Хто б мне паверыў калі б я быў жывы
Хто б мне паверыў каб ня быў я свавольны
Хто б мне паверыў калі б я быу правы
Хто б мне паверыў каб ня быў я дурны

Куля дура вучы мяне жыць
Агітатар вучы мяне думаць

*Пераклаў Фёдар ЖЫВАЛЕЎСКІ.*

## Умка (Анна ГЕРАСІМАВА)



** * **

Бывайце, вулічныя аўтаматы,
Бывайце, булачныя й гастраномы,
Бывайце, стрэленыя папяросы ды бульвар.

Дзесьці ўва мне якіясьці вар'яты
Мне ўсцяж пытанні задаюць нястомна —
Мне так абрыдла ўсё, я адлятаю, як камар.

Бывайце, мне файна тут было,
Ды там усё іначай, там усё іначай...
Мне так карціць глынуць якой труцізны,
Я так хачу чагосьці наглытацца,
Каб навакольную тугу й нудоту прыпыніць.

Ўва мне растуць дзівосныя расліны,
Ўва мне спявае рэдкаснае птаства,
Мяне загадкавыя клічуць гукі з вышыні.

Бывайце, мне файна тут было,
Ды там усё іначай, там усё іначай...

### ГЭТА КАНЕЦ

Ты ў сталоўках некалі збіраў аб'едкі,
Не выносіў цёплыя, сухія клеткі,
Без падранай камізэлькі госць быў рэдкі
І штоноч абы-дзе начаваў.

Зрэдчас з перапою прытуляўся ў Светкі,
Ля метро, як мае быць, “аскаў” манеткі,
У лядоўні белае шукаў крэветкі
І ўсю ноч у ложку гарцаваў.

А вось цяпер ты жыхар гэтай хаты,
Дзе ёсць сцены, падлога і столь,
І каб паесці – сядаеш за стол,
Разумеючы: гэта канец.
А раньш ты спаў там, дзе голад загушкаў,
Не пад коўдраю і без падушкі,
І будзіў цябе ў скверы лягавы,
І ў пад’ездзе – за “ўзровень” баец.

Ты сядзіш на крэсле, у руцэ – відэлец,
Комікс ці “Вайна і мір” – адна чытэльнасць.
На патыліцы “мустанг” цябе не цвеліць,
Аніводны не турбуе мент.
Адшпурнуў Талстога, адкрываеш Пруста,
Пад кароткай стрыжкай – заняпад і пустка.
На двары сутонне, у вусах капуста,
Дзесьці заваляўся пачак “Кент”...

А раньш ты спаў там, дзе голад загушкаў,
Не пад коўдраю і без падушкі,
І будзіў цябе ў скверы лягавы,
І ў пад’ездзе – за “ўзровень” баец...
І ты па звычцы бярэш недапалак,
Ты сярнічкі бярэш для падпалу
Ўсяе гэтай абрыдлай канторы,
Разумеючы: гэта канец.

*Пераклаў Макс ШЧУР.*

## Эдмунд ШКЛЯРСКІ



### З ЧАСОЎ, ЯК ЗГАРЭЛІ ДАМЫ

З часоў, як згарэлі дамы,
Ім лёгка і светла на свеце.
Здараецца так, што скрозь дні
Два Сонцы ім свецяць.

Смагу жэньшэнем спатольваюць.
Яны і не ведаюць самі,
Што любіць іх Жанчына Чорная
Са срэбнымі валасамі.
І імі Зямля ўспадкована
Пад ірванымі прамянямі.
І любіць іх Жанчына Чорная
Са срэбнымі валасамі.

### НІ ТВАЁ НІ МАЁ

Ні тваё ні маё,
Вось і шлях палягчэў.
Што было ў мяне,
Ўсё заціснуў у руцэ.

Калі гэта маё —
Не дзяліцца б ні з кім,
Толькі ўпотай глядзець,
Не паказваць усім,
І хаваць між цаглін.

Што тут ёсць — не забраць.
Немагчыма адняць.
Пад нагамі зямля
Ні твая ні мая,
Як нямая струна
Чужакам не пяе.
Ні тваё ні маё
Зноўку Сонца ўстае.

А, калі ўсё ж — тваё,
Застануся ні з чым,
Нібы з попелам тым
Ад астылых лучын,
Ад астылых...

Ні тваё ні маё...

*Пераклаў Уладзімір ДРЫНДРОЖЫК.*

## Юрый ШАЎЧУК

### АКТОРКА ВЯСНА



Акторка Вясна, прахварэўшы так доўга,
ізноў выступае:
Лёгка ўзляцеўшы на мокрую сцэну
на дахах дамоў,
Чытае балет, дзе каханне грашыць,
а здрада – святая,
Танцуе паэму пра юдаў-герояў
і сяброў-пацукоў.

Авацыі вуліц фарбуюць зялёным –
так доўга чаканым.
Ад гэтай малітвы з нябёсаў рванула
рака цеплыні,

Бясконцы біс плошчаў захутаў у бэз
месцы для закаханых,
Будынкі ў старых залатаных касцюмах
партэр занялі.

*Рэфрэн:*
Акторка Вясна,
Акторка Вясна,
Дазволь нам дажыць,
Дазволь даспяваць
Да вясны...

Сонца-генсек з ларнетам важдаецца ў царскае ложы,
Скардзіцца на расхістаныя нервы й дзіравы азон,
За падбародкі крыху прыўзнімае ўсмешкі прахожых
І ўсё ж пачынае семдзесят пяты тэатральны сезон.

*Рэфрэн.*

## ***ВАРОНЫ***

На небе вароны, манахі – унізе,
І я пасярод, між зямлёю і выссю
Ляжу ў вышыванцы, прыгожая квецень,
Яскравей за сонца, пяшчотней за вецер.
Мяне адпявалі ў вялізарным храме,
Была я нявестай, Прыўкраснаю Дамай,
Душа мая побач з усімі спявала,
А мноства людзей на труну пазірала.
Малітва і лёс памяняліся месцам,
Маўчаў мой каханы, і крыж, быццам месяц,
Нячаста на твар падаў водбліскам светлым.
Яму даравала, як і перад гэтым.

Вясна, затрымцеўшы ад сумнага звону,
Змахнула тры кроплі на лікі іконы,
Якую трымалі халодныя рукі.
Вясёлы агеньчык ёй слаў пацалункі.

Свяча дагарэла, хіснула кадзіла,
Зямля застагнала і стала магілай.
Я пырхнула ў неба за берагавушкай,
Цяпер я на волі, я белая птушка.

Кружляючы між сваякамі сваімі,
Смяялася я над іх горам-бядою.
Мы хутка сустрэнемся, толькі не тымі.
Мне трэба ляцець за сваёй чарадою.

## У АПОШНЮЮ ВОСЕНЬ

Апошняя восень. Ні слоў, ні паветра.
Апошнія песні шчэ летам зляцелі.
У вогнішчы – вецце ад нашага свету,
Мы сочым з табой за гульнёй светлаценю
Ў апошнюю восень.

У восеньскай буры рассыпала жартам
Усё, ад чаго па начох было кепска.
Усё, што душыла і перашкаджала,
Віхор разарваў на шматкі і аскепкі
Ў апошнюю восень.

Ах, Аляксандр Сяргеевіч, мілы,
Ну што ж Вы нічога нам не расказалі
Аб тым, як трымалі, шукалі, любілі,
Аб тым, што ў апошнюю восень спазналі –
Ў апошнюю восень.

Астылае сонца ў вадзе патанула,
І ў восеньскім ды заблокавым сёння
Вам не прыгадаць больш таго, што мінула,
І пыльнай травы не сціскаць у далонях.
Ў апошнюю восень сыходзяць паэты,
Не вернуцца больш – не адкрыць аканіцы.
Тут толькі дажджы і азяблае лета,
Ды рэшткі кахання ў старой камяніцы –
Ў апошнюю восень.

## ВЕЦЕР

Далячынь пакрысе паглынула нябёсы.
Як да любай, аблокі імкнуць да зямлі,
Дзе ты і я пад зялёным няскошаным дахам
Марым зліцца ў адно...
Што, што...

Што нам вецер адказаў па сакрэце,
Ляцеўшы скрозь ранне ды зламаўшы крыло?
Прамільгнуўшы між намі, так нядоўга каханых,
Разбіў ён абдымкі, быццам простае шкло.

Мы стаялі ў былым, мы чакалі пачатку,
Усутыч ля сцяны, там, дзе зніклі яны.
Дзе яшчэ адна смерць налажыла пячатку
На чыёсьці жыццё іскрай блізкай вайны.

Што нам вецер адказаў па сакрэце,
Ляцеўшы скрозь ранне ды зламаўшы крыло?
Прамільгнуўшы між намі, так нядоўга каханых,
Разбіў ён абдымкі, быццам простае шкло.

## ДОЖДЖ

Дождж, неба захінуў іскрыстай коўдрай майскі дождж.
Гром, прагрымеў па дахах, напалохаў котак гром.
Разнасцежыў я мокрае акно, і вецер весела ўляцеў
Ды раскідаў стос недарэчных вершаў, што пісаў я ў пустаце.

Грымнуў майскі гром, і п'янлівай хваляй накаціла весялосць:
"Гэй, хадзі сюды! Хопіць быць сур'ёзным –
стань такім, які ты ёсць.
Выбягай на двор і скачы па лужынах да раніцы ажно.
Як малы хлапчук, гойсай, забаўляйся ды нагамі мерай дно".

Кроплі на шчацэ – гэта проста дождж, а можа, плачу гэта я.
Дождж усё прамыў, і раптоўна хлюпаць пачала душа мая,
З дому пацякла ручаём туды, дзе сонца грэе сенажаць,
Парай паплыла ў новы і далёкі свет, якога не спазнаць.

Я сабе ўявіў: горад затапіла весялосць яго людзей.
Выйшлі ўсе пад дождж, танчылі, спявалі ды гулялі па вадзе.
Праглынуўшы страх смешным быць і потым
вельмі доўга прахварэць,
Людзі пад дажджом, як салют, страчалі гром –
вясновы першы гром.

## ГЭТА ЎСЁ

На пажоўклае лісце акна
Плача неба празрыстай вадой.
Ані смерці ў яе, ані дна.
Я развітваюся з табой.
Цеплыню пасля доўгай зімы
Данясем. І далей будзем жыць.
Тое, дзе памыліліся мы,
Час зацягне ў свае міражы.

*Гэта ўсё, што пакіну я на ўспамін.*
*Гэта ўсё, што вазьму я з сабой.*
З намі памяць сядзіць ля стала,
А ў далоні трапеча агонь.
Ты такой цудоўнай была.
Не маўчы. Словы зменшаць твой боль.

Крыкі чайкі на белай сцяне
Чорны месяц узяў у палон.
Намалюй гэты дзень на акне
І яму прашапчы наўздагон:

*“Гэта ўсё, што пакіну я на ўспамін.*
*Гэта ўсё, што вазьму я з сабой”.*

Уваскрэснем і разам дап’ем
Нашы мары і келіх віны.
Для чаго я сустрэўся табе?
Мной кіруюць сутонне ды сны.
Ты не плач. Калі зможаш, даруй.
Цукар горкі, а ў чаі – адчай.
Шлях вядзе мой туды, не адтуль.
Не “да заўтра” кажу, а “бывай!”

*Гэта ўсё, што пакіну я на ўспамін.*
*Гэта ўсё, што вазьму я з сабой.*

*Пераклала Вольга ГРОНСКАЯ.*

Васіль Быкаў



...фактычна я пастаўлены
перад немагчымасцю выдаваацца ў Беларусі
на беларускай мове...

# Дзякаваць богу, ёсць яшчэ на свеце сяброўства

***Лісты з Гародні (1963-1977)***

***1963 год***

НІЛУ ГІЛЕВІЧУ

*[9 кастрычніка 1963 г.]*

Ніл, дарагі чалавеча!

Дзякуй табе за твае добрыя словы і за спачуванне. Толькі на фільм[1] гэты я ўжо даўно плюнуў, як кажуць. Не па-мойму ён зроблен, шмат што не так, дрэнна, слаба – чорт з ім, з фільмам. Гэта балаган, а не мастацтва – кіно. У літаратуры, нягледзячы на ўсё, усё больш твайго, аўтарскага, а кіно – дрэнь.

Сёння атрымаў ліст ад Юркі Вылчава[2]. Ён між іншым просіць прысласць яму выклік чытаць лекцыі на 1 м[еся]ц ад

*Уступнае слова, публікацыя і каментары Сяргея ШАПРАНА.*

[1] Фільм «Третья ракета» («Беларусьфільм», 1963; аўтар сцэнарыя В. Быкаў, рэжысёр Р. Віктараў).

[2] Вылчаў Георгі Дзімітраў (нар. у 1926) – балгарскі крытык, літаратуразнавец, перакладчык.

Мінскага або Гродзенскага ўніверсітэтаў, як ён піша. Я зусім не ўяўляю, як гэта зрабіць і ці магчыма гэта.

Краўчанка, фотакор наш, яшчэ не знайшоў таго фота, што ты прасіў. Калі знойдзе, я табе прышлю.

Вось, бадай і ўсё.

Бывай здароў і добрых вершаў табе.

З шанаваннем – *Васіль.*

Прывітанне Івану Н[авумен]ку.

---

Рукапісны тэкст без даты. На штэмпелі – 9.10.1963 г. Арыгінал. Архіў Н. Гілевіча.

## ГРЫГОРЫЮ БАКЛАНАВУ[1]

*[1963 (?)]*

Дорогой Григорий Яковлевич!

Несколько дней хожу под впечатлением тихой и светлой радости, доставленной мне Вашим письмом и книгой. Не знаю, надо ли говорить тут, что Ваши повести в свое время ошеломили меня своим безжалостным искусством правды о войне, прочитав их, я вдруг понял то, что смутно чувствовал, но, наверно, не постиг еще сам, что – не скрою теперь этого – побудило меня взяться за «3[-ю] ракету». Правда, я не тщился достичь Вашего – у меня другой язык и, следовательно, другие выразительные возможности, м[ожет] б[ыть], другие способности, возможно, у меня получилось и получается значительно хуже, но главное – теперь ничто не заставит меня писать так, как многие другие до Вас и, м[ожет] б[ыть], как я сам писал прежде. Безусловно, Вы правы, говоря об основательном исследовании первопричин многих следствий, очевидно, это наиболее возможно в жанре романа, это очень заманчиво, только я, признаться, побаиваюсь этого и именно потому, что в таком случае следует без обиняков сказать всю правду. Но, как известно, правда часто оказывается нежелательной и тогда автору приходится, как говорят, перегонять кровь на водицу. Правда, у Вас в Москве все это м[ожет] б[ыть] легче – у нас же и с робкими попытками выразить новое не оберешься хлопот. «Третьей ракете» в свое время еще повезло, конечно, с Вашей легкой руки[2] (о чем я с благодарностью всегда буду помнить), да и то... После неудачной попытки разгромить повесть[3] ее продолжительное время замалчивали, Белгосиздат из года в год переносил издание, а в эту осень наконец и вовсе снял из плана мою книжку из трех повестей на русском языке, новые мои рассказы не печатаются, затевается неприятная возня с новой, еще не опубликованной повестью[4]. Обвинения все те же: пресловутый ремаркизм, абстрактный гуманизм, а также пацифизм, пессимизм. Правда, я не из пугливых и не из любителей дешевого успеха, но все же все это не может не воздействовать – невольно не хочется писать для корзины. (Не сочтите, однако, это за жалобу.)

---

[1] Бакланаў Грыгорый Якаўлевіч (Фрыдман); (1923-2009) – расійскі пісьменнік, кінадраматург; лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1982), Дзяржаўнай прэміі Расіі (1998).

[2] Маецца на ўвазе рэцэнзія Г. Бакланава «Мужественная повесть» (Литературная газета. 1962. 1 марта). «Я начал читать эту повесть ночью, думая только поглядеть, а прочесть завтра. И читал уже, не отрываясь, до конца. В ней нет острого сюжета, но в ней есть самое главное: правда, – пісаў Бакланаў і ў той жа рэцэнзіі прароча заўважаў: – В литературу нашу, никогда не скудевшую талантами, вошел еще один талантливый писатель. Его зовут Василь Быков. Запомните это имя. Оно еще встретится вам. И прочтите его повесть “Третья ракета” [...]. Она написана искренне, ярко, с хорошим чувством слова [...]».

[3] Магчыма, маецца на ўвазе рэцэнзія расійскага крытыка У. Бушына (Бушин В. Солдат и Джоконда // Москва. 1963. № 12. С. 196).

[4] Размова, відаць, пра «Альпійскую баладу».

Рад, что Вам понравилась моя «Фронтовая страница», хотя она и не новая – написана еще в 1960 г., до «Ракеты», но я ее никак не мог «протолкнуть» в печать и до сих пор не понимаю, почему ее напечатал «Октябрь»[1]. Рассказы в книге[2] также далеко не новые, кроме разве одного. К тому же переводы с белорусского чертовски трудны и дают только общее представление о содержании, почти начисто утрачивая все прочие качества изящной словесности.

Очень жду Ваше новое произведение, уверен в Вашем таланте и, главное – в его честности. Дай Вам бог!

С уважением
и братским рукопожатием *В. Быков.*

Рукапісны тэкст без даты. Копія. Архіў В. Быкава.

***1964 год***

НІЛУ ГІЛЕВІЧУ

Ніл, дарагі чалавеча!

Пісьмо тваё і вершы атрымаў. За пісьмо – дзякуй табе, таксама як за добрыя словы ў ім і за памяць. Вершы (два) ужо здаў у сакратарыят – будуць надрукаваны да 9 верасня. Адзін (Вапцарава[3]) не пойдзе, бо там туга, сум, а гэта, сам ведаеш, супрацьпаказана савецкаму чытачу. Таму начальства яго начыста забракавала. Хоць ён напісаны і даўно і ў братняй Балгарыі, але!..

Пра маё жытла. Жыву. Чытаю газеты і часопісы, патроху кніжкі, назіраю, што робіцца на свеце. Асабліва не тужу (у гэтым сэнсе я аптыміст, як гэта ім бываюць у Балгарыі – Юрка[4] расказаў). Чакаю пленуму, хачу паслухаць нашых разумнікаў пра новыя дасягненні беларускай раманістыкі. Патроху выдаюся-друкуюся – з неверагоднымі цяжкасцямі – у Мінску, трохі лягчэй – у Маскве. Лягчэй, бо Масква перарабляе толькі канцоўкі, а «Беларусь» наогул выкідвае мае кніжкі з планаў без усякіх тлумачэнняў. (Напр[ыклад], з плана 1965 г.)

Вось так і жыву.

Пішу, але ўжо загадзя прадбачу пераробкі, памячаю ў рукапісе, што дзе не пойдзе, трэба ж яшчэ прадумаць, чым і як замяніць. Карацей кажучы, для друку прыдзецца спецыяльна апрацоўваць – перакладаць, як апрацоўваюць вершы для песень.

Юрка быў у мяне з тыдзень. Пагутарылі, памаўчалі. Ён пра сваё, а я – пра сваё. А ўвогуле ўсё добра.

Як твае справы пісьменніцкія? Нешта ты змоўк. Дзе твае новыя замовы і закіды супраць усякае гідоты? Заўжды з вялікай цікавасцю кідаюся на твае радкі ў часопісах – бо праўдзіва і сумленна.

Ці бачыў цябе наш Ушацкі, ён неяк пытаўся ў мяне твой адрас. (Улетку яшчэ.)

На пленуме – дасць бог – пабачымся. Зноў жа – за мной бутэлька. За тое, памятаеш?

Будзь здароў, дружа
– твой *Васіль.*

*1 верасня 1964 г.*

Рукапісны тэкст. Арыгінал. Архіў Н. Гілевіча.

[1] Быков В. Фронтовая страница // Октябрь. 1963. № 9; пер. М. Гарбачова. У арыгінале аповесць вядомая пад назвай «Здрада» (упершыню: Полымя. 1961. № 3).

[2] Размова, відаць, пра кнігу – Быков В. Третья ракета. М.: Молодая гвардия, 1963.

[3] Вапцараў Мікола Ёнкаў (1909-1942) – балгарскі паэт. Быў расстраляны разам з іншымі антыфашыстамі.

[4] Георгі Вылчаў.

## *1965 год*

### ВАНКАРЭМУ НІКІФАРОВІЧУ[1]

Рэм,

харошы сябра мой!

Шчырае табе дзякуй за вершы і за віншаванне. Мне было вельмі прыемна пазнаёміцца з паэзіяй Б.[2], асабліва пасля таго, як я ўлетку чытаў стэнаграму. Сапраўды, вершы цікавыя, і я думаю, іх аўтар яшчэ калі-небудзь надрукуецца. Не можа быць, каб гэта не прабілася.

А я паціху пішу. Праўда, скончу яшчэ не хутка – праз месяц, другі. Не ведаю, што атрымаецца. Рызыкоўны вобраз асабіста я ўжо перарабіў[3]. Пасля «Пасткі» рашыў абхадзіць такія павароты, бо ўсё роўна іх ламаюць у рэдакцыях, а гэта горш, чым калі зробіш (паламаеш) сам. Праўда, тое, што хачу, я ўсё роўна скажу. Не праз той, дык праз другі вобраз. Рознай пошасці, на шчасце ці няшчасце, у нас хапае.

Напэўна, ты ўжо ведаеш пра мае адносіны з вашым выдавецтвам. Я пісаў Матузаву[4]. І што ж ты думаеш, ён прыслаў мне пісьмо, у якім усё спіхнуў на мяне. Піша, нібыта я забраў з выдавецтва рукапіс і таму выдавецтва не ўключыла яго ў план, бо не было рукапісу. І гэта ў той час, калі рукапіс паўтара года праляжаў ў шафе ў рэдакцыі мастацкай літаратуры. І я забраў яго толькі ў мінулую восень. А чаго варты метад рэцэнзіравання: Пашкевічу[5], а праз год Карпаву[6], абы толькі адмоўную рэцэнзію. І на што? На тое, што ужо выдадзена ў Маскве, у «Раман-газеце»[7]! Наогул мне усё гэта абрыдла, а то ёсць намер звярнуцца у ЦК.

Вось такія справы.

Яшчэ раз вялікае табе дзякуй. Буду ў Мінску, пабачымся. Хоць, прызнацца, няма ніякага жадання наведваць выдавецтва.

Моцна цісну тваю руку – твой *Васіль.*

*10/I–65 г.*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (далей – БДАМЛМ). Ф. 370. Воп. 1. Адз. зах. 155. Арк. 1-2.

### НІЛУ ГІЛЕВІЧУ

*[1 красавіка 1965 г.]*

Дарагі Ніл!

Дзякуй табе за пісьмо і за выразку, гэта, вядома, радуе. Хоць, праўда, трохі і засмучвае па прычынах, аб якіх ты пішаш і яшчэ таму, што тыраж кніжкі ў Балгарыі 25 тыс., а ў Беларусі – 7 тыс. Праўда, мяне гэта турбуе не ў дачыненні да маёй кніжкі, а болей да нашых кніжак. Таму, вядома, радасна чуць пра поспех самадзейнасці на Дэкадзе, але не трэба забывацца, што гэты поспех дасягнуты намаганнямі ўлад, якіх гэта турбуе вельмі, бо дае магчымасць каму-небудзь з ганарком зазначыць: «Ну, бачыў, як мае сёння тваіх абставілі! Мае малайцы!» Тут рухаюць, як мне здаецца, не законы мастацтва, а болей законы і звычаі спорта з яго голым азартам і стаўкай на перамогу ў што б там ні стала.

---

[1] Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр'янавіч (1934-2011) – беларускі крытык, перакладчык, сцэнарыст; у 1957-1965 гг. рэдактар мастацкай літаратуры выдавецтва «Беларусь». З 1993 г. жыў у ЗША.

[2] Асоба не высветлена.

[3] Маецца на ўвазе герой аповесці «Мёртвым не баліць» штабны афіцэр Сахно.

[4] Матузаў Захар Пятровіч (1911-1977) – дырэктар Дзяржаўнага выдавецтва БССР.

[5] Пашкевіч Нічыпар Еўдакімавіч (1924-2003) – беларускі крытык; галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» (1961-1969).

[6] Карпаў Уладзімір Барысавіч (1912-1977) – беларускі пісьменнік.

[7] Мабыць, маецца на ўвазе аповесць «Альпійская балада».

тебя, хотя и с опозданием, с приемом-вступлением[1], теперь этот год для тебя и еще для одного, неудачного, литератора будет памятен: тебе своим +, а ему –. Но что ж, каждому свое – как было написано над входом в Бухенвальд.

А мы вот только с пленума. Думал, ты тоже появишься в Минске, но из москвичей было лишь трое: З. Богданова (которая не может мне простить Бритвина[2], так сказала), ее заступница из «ЛГ» и Щедрина. Был юбилейный доклад Мележа, юбилейные прения, подпорченные, как всегда, выступлением А. Карпюка. На том все и кончилось.

Дорогой Вл.! «Родственников»[3] я читал, правда, они не показались мне неудачными, показались лишь опоздавшими на 5-6 лет. А вот «Горячий снег»[4] меня поставил в тупик. Я не знаю, что это такое? И зачем? Кочетова[5] я не читал, наслышан уже и без того об этой вещи[6]. Слышал, как В. Страфа собирается ему не подать руки...

За твоей уважаемой «ДН»[7] я, разумеется, слежу пристально, хотя и не все читаю. Теперь вот ожидаю окончания П. Куусберга[8], прочту непременно. Но что я могу предложить или пообещать вам? Ты же знаешь мое положение – не могу же я отказать тем, кто для меня столько сделал. А пишу я мало, впредь же намерен еще меньше. Как можно меньше! Потому что уже нет на теле живого места – все избито. Впрочем не только у меня плохо. Наше издательство окончательно вернуло книжки В. Короткевича, В. Адамчика, М. Стрельцова, А. Карпюка. Я даже и не обращался туда.

Так что когда-нибудь в будущем. Если придется.

Твоя книга[9] передо мной, я ее посмотрел, собираюсь внимательно прочесть. Материал, как видно, огромный, дай бог тебе умно распорядиться им. Да ты умеешь. Валя, ты же умница. Пусть тебе будет хорошо в этом мире.

Может, как-нибудь свидимся.

А пока – обнимаю. Твой *В. Б.*

*23 ноября 69 г.*

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

### *1970 год*

МІКАЛАЮ ПАШКЕВІЧУ[10]

Паважаны Мікола Пашкевіч!

Я шчыра дзякую за добрыя словы прысвячэння і за ўвагу, выказаную

---

[1] Размова, відаць, пра ўступленне В. Аскоцкага ў СП СССР.

[2] Брытвін – адмоўны персанаж аповесці «Круглянскі мост».

[3] «Родственники» – раман расійскага пісьменніка Бондарава Юрыя Васільевіча (нар. у 1924).

[4] Раман Ю. Бондарава.

[5] Кочатаў Усевалад Анісімавіч (1912-1973) – расійскі пісьменнік; з 1954 г. сябра праўлення СП СССР; з 1961 г. галоўны рэдактар часопіса «Октябрь».

[6] Размова, відаць, пра раман «Чего же ты хочешь?», у якім У. Кочатаў выступіў супраць разбурэння савецкага грамадства заходняй псеўдакультурай і прапагандай.

[7] Часопіс «Дружба народов».

[8] Куусберг Пауль Аўгуставіч (1916-2001) – эстонскі пісьменнік. Размова пра яго раман «В разгар лета» (Дружба народов. 1969. № 10–12).

[9] Размова, магчыма, пра кнігу – Оскоцкий В. Единство пути, многообразие поиска: (о национальном и интернациональном в советской литературе). М.: Знамя, 1969.

[10] Пашкевіч Мікалай Арсеньевіч (1936-1972) – беларускі педагог, літаратуразнавец, краязнавец; выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Сваткаўскай сярэдняй школе Мядзельскага раёна, працаваў намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай частцы той жа школы (1963-1967). Быў кіраўніком школьнага гуртка беларускай літаратуры, у пасяджэннях якога прымалі ўдзел М. Аўрамчык, Р. Барадулін, Я. Брыль, В. Быкаў, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, Н. Гілевіч, У. Караткевіч, А. Лойка, І. Навуменка, В. Рагойша, М. Танк і інш.

прысланнем кніжкі. Вы так многа паставілі перада мной пытанняў, што, відаць, адказаць на іх давядзецца ўсё ж вусна. Як-небудзь бліжэй да лета я пастараюся прыехаць да вас, тады пагаворым аб усім падрабязна.

Аб тым я паведамлю дадаткова.

А пакуль што шлю Вам асабіста і ўсім гурткоўцам самыя найлепшыя пажаданні.

Бывайце здаровы.

Са шчырасцю

*В. Быкаў.*

*12/II–70 г.*

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. 55. Воп. 1. Адз. зах. 168. Арк. 1.

## МІКАЛАЮ ТКАЧОВУ[1]

Шаноўны Мікалай Гаўрылавіч!

А. Карпюку патрэбна матэрыяльная дапамога хоць бы ў выглядзе фінансіравання з выпадку творчай камандзіроўкі[2]. Калі гэта немагчыма зрабіць на яго імя, дык я прашу аформіць такую камандзіроўку на мяне. Вельмі прашу Вас аб гэтым.

З павагай *В. Быкаў.*

*23.VII.70 г.*

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 281. Воп. 1. Адз. зах. 140. Арк. 2.

## МІКАЛАЮ ПАШКЕВІЧУ

Шаноўны Мікалай Пашкевіч!

Нам з Вамі яўна не пашэнціла ў гэтую вясну – так навалілася на мяне клопату, ды і хвароба, што, як бачыце, у маі-чэрвені паездка не адбылася. Запіску Вашу знайшоў 28[-га] па прыездзе з Масквы, дзе даўгавата прабыў, а цяпер, вядома, няма сэнсу рушыць. Значыцца адкладзем на восень – верасень-кастрычнік, авось тады лепш пашанцуе.

Я гэтым самым прашу ў Вас і Вашых вучнях прабачэння, але ж не наўмысна падвёў Вас. Акалічнасці, нярэдка здараецца, усё яшчэ мацнейшыя за нас.

Усяго Вам найлепшага ўлетку,

з вінаватасцю *В. Быкаў.*

*30/VI–70 г.*

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 55. Воп. 1. Адз. зах. 168. Арк. 2.

[1] Ткачоў Мікола (Мікалай Гаўрылавіч; 1918-1979) – беларускі пісьменнік; галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» (1957-1959); сакратар праўлення СП БССР (1959-1972).

[2] Пазней В. Быкаў сведчыў: «Несчастья обрушились на Карпюка, словно каменный обвал в горах. Первым делом его отстранили от работы секретарем областного отделения СП БССР (с окладом 80 рублей в месяц), различные редакции разом отказали во всех публикациях, из издательских планов были выброшены все карпюковские книги. А тут еще пришлось положить в онкологию жену-учительницу, на руках безработного остались двое детей-студентов и дочь-школьница. Жить стало не на что, кормить семью было нечем» (Быков В. В железной раковине: об одной писательской судьбе // Литературная газета. 1990. 4 апр.). Падставай для шальмавання А. Карпюка стала, відаць, яго адмова выступіць з публічнай крытыкай Быкава («...Я, коммунист со стажем, думаю критиковать распоясавшегося Быкова за очернение советской действительности или не думаю?»), на што змушаў яго сакратар Гарадзенскага абкама партыі па прапагандзе А. Ульяновіч (паводле: Карпюк А. Прощание с иллюзиями: хроника одного поколения // Нёман. 1993. № 5).

## ГРЫГОРЫЮ БАКЛАНАВУ

*8 сент[ября] 70 г.*

Григорий, дорогой дружище!

Сегодня получил твое письмо, которое сняло с меня какое-то душевное напряжение, какое-то беспокойство: было опасение, что тебе эта вещь не понравится[1]. Но теперь слава богу. В смысле художественном все зависит от бога, тут автор не очень волен, но что касается идейной стороны, то здесь хотелось бы избежать нежелательностей, тем более что по этой части каждый автор – хозяин. Тут все от него зависит, от его воли и намерений.

«Сотников», разумеется, не бог весть что, но меня интересовала эта проблема, весьма злободневная в жизни, материала для нее более чем достаточно. В Минске повесть все еще не вышла, было уже два обсуждения на редколлегиях, начальство относится очень настороженно[2]. Но на [«]новомирскую[»] публикацию появилась в Минске хорошая (положительная) рецензия[3], и это меня обнадеживает.

Надеюсь, у тебя все благополучно, роман подвигается? Жду увидеть твое имя на журнальных страницах. Давно пора!

А пока – с благодарностью
и сердечно обнимаю
твой Василь.

Привет Элле и сыновьям.

P. S. Читал в «Сов[етской] культ[уре]» о 3[-х] призах твоему фильму[4]. Рад. Поздравляю.

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## ПАЎЛУ КАБЗАРЭЎСКАМУ[5]

Дорогой Павел Семенович!

Был рад получить Ваше письмо с приятными известиями.

Гонорар за повесть пусть вышлют в мой домашний адрес:

Гродно,
ул. Олега Кошевого, 28, кв. 20.

Справку прилагаю.

У меня все слава богу, а вот А. Карпюк уже четвертый месяц без работы и без заработка. Пребывает в черном теле. Он благодарит за дружеский привет и в свою очередь кланяется.

Я тоже.

Спасибо за все.

Будьте здоровы.

С уважением *В. Быков.*

*8 сент[ября] 70 г.*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 31. Воп. 2. Адз. зах. 297. Арк. 3.

---

[1] Размова пра аповесць «Сотнікаў» (Новый мир. 1970. № 5; пер. аўтара).

[2] У рэдакцыі часопіса «Полымя», куды В. Быкаў прапанаваў аповесць «Ліквідацыя» (аўтарская назва «Сотнікава»), яму рэкамендавалі істотна «дапрацаваць» твор.

[3] Галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» Л. Прокша пісаў у прыватнасці: «“Сотнікаў” – гэта крок наперад пісьменніка Васіля Быкава ў мастацкім даследаванні мінулай вайны» (Прокша Л. Праўда партызана Сотнікава // Літаратура і мастацтва. 1970. 28 жн.).

[4] Размова, відаць, пра фільм «Был месяц май...», які зняў паводле апавядання Г. Бакланава «Почем фунт лиха» кінарэжысёр М. Хуцыеў.

[5] Кабзарэўскі Павел Сямёнавіч (Гардон Фавій Залманавіч; 1909-1970) – расійскі паэт, перакладчык беларускага паходжання (нарадзіўся ў Магілёве); укладальнік зборнікаў і анталогій беларускай літаратуры. З 1925 г. жыў у Ленінградзе (С.-Пецярбургу).

## МІКАЛАЮ ПАШКЕВІЧУ

Дарагі Мікола,

я, безумоўна, павінен павініцца перад Вамі, але і цяпер я не ведаю, што і як мне рабіць з Вашаю просьбай. Нейкі час я адсутнічаў у Гродні, ездзіў на Полаччыну, прыехаў не зусім здаровы, хаджу ў паліклініку, шмат розных літаратурных (і не толькі) спраў і тут – нязздзейсненае абяцанне. Вядома, я не супраць і з задавальненнем бы, але не ведаю і цяпер калі зробім гэта.

Але зробім!

Абавязкова прыеду ці адгэтуль, ці з Мінску, за які дзень да таго дам тэлеграму.

На тым і дамовімся.

Тады пагаворым пра ўсё.

А пакуль –

з прабачэннем

Ваш *В. Быкаў.*

*4.X.70 г.*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 55. Воп. 1. Адз. зах. 168. Арк. 3.

## АРКАДЗЮ КУЛЯШОВУ

*[Снежань 1970 г.]*

Дарагі

Аркадзь Аляксандравіч,

будзьце здаровы і шчаслівы ў Новым, 1971 годзе.

Мой шчыры паклон і найлепшыя пажаданні таксама Аксане Фёдараўне і Валі[1].

Ваш *В. Быкаў.*

---

Рукапісная паштоўка без даты. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 411. Воп. 1. Адз. зах. 165. Арк. 1.

## МІХАСЮ ЛЫНЬКОВУ

*[Снежань 1970 г.]*

Дарагі Міхась Ціханавіч!

Будзьце здаровыя і шчаслівыя ў Новым, 1971 годзе.

Усё жыццё збіраюся сказаць Вам, як я люблю Вас ад самага дзяцінства.

«Гой» была мая першая прачытаная ў жыцці кніжка, я тады быў зусім малы, а Вы – такі малады.

Са шчырасцю абнімаю Вас.

Ваш *Васіль Быкаў.*

---

Рукапісная паштоўка без даты. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 191. Воп. 1. Адз. зах. 314. Арк. 7.

*Заканчэнне будзе*

---

[1] Куляшовы Аксана Фёдараўна і Валянціна – жонка і дачка А. Куляшова.

Сяргей Шапран



...графаман заўжды разумнейшы ў жыцці,
чым у сваіх тэкстах,
паэт – наадварот...

# “Я й дагэтуль лічу, што гаршкі абпальваюць усё-ткі багі”

***Гутарка з Міколам Захаранкам***

***“І тады ўдарыў бом” – першая персанальная кніга паэта, празаіка і драматурга Міколы Захаранкі, чые творы пачалі з’яўляцца ў друку хоць і адносна нядаўна, але адразу звярнулі на сябе ўвагу не толькі чытачоў, але і прафесійных літаратараў: М. Захаранка – лаўрэат літаратурнай прэміі часопіса “Полымя” (2001), двойчы лаўрэат літаратурнага конкурсу газеты “Звязда” і Саюза беларускіх пісьменнікаў (1999, 2003). Невыпадкова Віктар Казько падчас уручэння Захаранку чарговай літаратурнай прэміі выказаў шчырае недаўменне: “Дзе ён быў дагэтуль? Так бурна ўварваўся ў тэатр, у публіцыстыку, у прозу...” А між тым яшчэ Кім Хадзееў, легендарны беларускі дысідэнт, якога з Захаранкам звязвала цеснае сяброўства, называў двух пачынаючых паэтаў – Міколу Захаранку і Грыгорыя Трэстмана – геніяльнымі носьбітамі Сапраўднага. Ужо значна пазней Хадзееў, адчуваючы свой хуткі сыход, прыязджаў развітацца***

***з маладзейшым сябрам і тады ж, пачуўшы яго апавяданне “Забойства на вуліцы з прысадамі” (упершыню: «Дзеяслоў» №1), шчыра здзівіўся: “Як можна было такое напісаць?!”, а пасля дадаў: “Усё, Колька можа паміраць”. То была вышэйшая хадзееўская адзнака літаратурнага таленту Захаранкі… І вось прайшло колькі гадоў, і нарэшце ў серыі “Кнігарня пісьменніка” з’явілася кніга “І тады ўдарыў бом”, куды ўвайшло ў тым ліку і “Забойства на вуліцы з прысадамі”. Уласна кажучы, з гэтага “будзённага факта біяграфіі” і пачалася нашая гутарка з Міколам Захаранкам.***

**Сяргей ШАПРАН**

***– Мікалай Андрэевіч, нядаўна пабачыла свет чаканая многімі Вашая кніжка “І тады ўдарыў бом”. Віншую Вас і – што скажаце з гэтай нагоды?***

– Я не маю асаблівага піітэту да выхаду кнігі. Так... будзённы факт біяграфіі. Хоць і прыемны.

***– І Вы, здагадваюся, тлумачыце прычыну такога Вашага філасофскага спакою ўмудроным узростам?***

– У першую чаргу. Гэта ў маладосці не тое што кніжка, нават надрукаваны на газетнай паперы верш – сакральная падзея. Але галоўная, сутнасная прычына маёй такой абыякавасці – становішча літаратуры, якая сама ўжо зрабілася будзённасцю. Яна была святам у XX стагоддзі. Канечне, калі б цяпер на двары было XX стагоддзе, а мне было трыццаць гадоў, я б хадзіў ды падскокваў ад таго, што кніжку займеў.

***– Яна не прынесла Вам радасці, нягледзячы нават на тое, што гэта першая Ваша персанальная кніга? Дасюль жа Вашыя творы з’яўляліся пераважна ў газетах і часопісах ці ў агульных зборніках прозы…***

– Чаму, я рады, але не так, як хацелася б. Проста я адчуваю ўтульнасць ад таго, што, сабраўшы разам тое-сёе найбольш каштоўнае для мяне, зараз магу трымаць гэта ў руках... Але лепей было б сказаць, што гэта не першая мая кніга, а апошняя. Да другой, мабыць, ужо ніколі рукі не дойдуць.

***– Ніколі не кажы “ніколі”…***

– Згодзен... тэарэтычна.

***– Тут жа, дарэчы, сабраная ўся Ваша проза?***

– Ну-у, уся мая *лепшая* проза.

***– А горшая дзе?***

– Горшая па завуголлях. *(Смяецца.)*

***– Вашая жонка Яўгенія Міхайлаўна распавядала, што самае лепшае і таленавітае, што было напісана Вамі яшчэ ў маладосці, было забыта ці то на вакзале, ці то на лавачцы ў парку. Можаце прыгадаць, што за творы згубілі тады?***

– Нічога фундаментальнага не забываўся – звычайныя хуліганскія рэчы. Не ведаю, чаму яна... У той час цяжка было з сур’ёзным выглядам пісаць тое, чаго патрабаваў дзяржаўна-выдавецкі “фармат”. Прынамсі, мне. Так, яшчэ ў 1967-м ці ў 1968-м годзе мяне абвінавацілі нават не ў антысаветызме – у песімізме. Гэта адбылося на літаратурным аб’яднанні пры газеце “Знамя юности”, кіраваў якім Пётр Валкадаеў – быў такі партыйны літаратар. Песімізм у той час разглядаўся як варожая з’ява. Былі патрэбныя жыццесвярджальная тэматыка і пафас будаўніка камунізму. Адсутнасць гэтага не давала дарогі ў афіцыйную літаратуру. Нават лірыка павінна была быць вясёлай ці хоць бы ўзнёсла-захопленай. А лірыка ў юнацтва якая? – “усяленская” трагедыя ва ўсім. Жыццё, каханне, смерць – усё побач, усё ўсур’ёз.

***– Цікава, як гэта бывае ў паэтаў: вось ён, звычайны чалавечак, такі як усе, ходзіць у школу, ганяе ў футбол і раптам – сыход у сябе, таемны занятак чымсьці незвычайным, пакуты творчасці…***

– Усе паэты пачынаюць з графаманства.
– **???**
– Цікава ж гуляцца ў рыфму ды строфіку.
***– І Вы – не выключэнне?***
– Вядома, не. Чаму б гэта я...
***– А з чаго пачалася Ваша паэзія?***
– З ганьбы і са здрады ўласным жыццёвым прынцыпам. Я ж быў “астраномфізік”. У спрэчцы 1960-х гадоў – хто найважней: фізікі ці лірыкі – для мяне не існавала ніякіх пытанняў. Фізікі, безумоўна. Лірыкі выклікалі толькі смех у мяне дый ва ўсёй нашай кагорты “фізікаў”. Але ў 10-м класе я, раптам здрадзіўшы астраноміі, пачаў пісаць вершы. А ўсё Жэня Сядзькова, дзевяцікласніца з суседняга Ведрыча... Нават і сёння не разумею, што гэта было за каханне, але розум мой памуціўся. У маё жыццё прыйшла *трагедыя*, а разам з ёй і вершы. Пісаў хаваючыся, бо калі б даведаліся сябры-“фізікі”, во было б сораму!.. Помніцца, першы верш быў вельмі такі шчымліва-шчыры, нават драматычна-трагедыйны, але, канечне, графаманскі. Зрэшты, дарогі назад не было – калі здрадзіў, дык ужо здрадзіў.
***– Вершы самі да Вас прыходзілі?***
– Кожны графаман ведае, як гэта бывае. Вершы да графамана прыходзяць разам з вострым адчуваннем неабходнасці выказацца. Ён не ведае як. І тады бярэцца за такі экзатычны інструментарый, як рыфма, строфіка, радок, і вось ужо словы кладуцца адно на адно, гучаць і цешаць слых графамана. Адбываецца разрадка таго невымоўнага воблака пачуццяў і прадчуванняў, якое перад тым навісла над графаманам, і яму здаецца, што ён сваім вершаскладаннем выказаў паэзію жыцця.
***– Працэс, які Вы зараз апісалі, гэта і ёсць натхненне графамана?***
– Яно, родненькае.
***– А вось Уладзімір Някляеў кажа, што яму і дасюль п р ы х о д з я ц ь паэмы – пра вершы ўжо не кажу. Дык атрымліваецца, што Някляеў і цяпер графаманнічае?***
– Я ж кажу пра пачатковы стан. Затым адбываецца цікавая рэч. Далей людзі, якія пачалі пісаць, дзеляцца на два патокі. Уласна графаман раз і назаўсёды ўладкоўваецца ў краіне прыгожага (і непрыгожага) пісьменства і шчыра цешыцца думкай, што апрыёры належыць чамусьці мілагучнаму, прыгожаму і *значнаму*, бо ўжо сам па сабе літаратурна арганізаваны графаманам тэкст дазваляе графаману гэтак думаць. Паэты – такія, як Някляеў, – ідуць далей. Аднойчы паэт сутыкаецца з новай з’явай: мова – падручны творчы матэрыял – сама працуе на яго! І ён ахвотна карыстаецца гэтым. Менавіта пра гэта класічнае ахматаўскае: “Когда б вы знали, из какого сора растут стихи, не ведая стыда”.
***– А ўласна графаман, як Вы кажаце, не карыстаецца?***
– У графамана няма густу, у паэта ён ёсць. Але густ – гэта не проста фізіёлагаэстэтычная здольнасць, скажам, музычны слых ці пачуццё слова, густ – глыбока захаваная філасофская якасць душы. Бо што робіць паэт? На свой пачатковы тэкст, які, па сутнасці, з’яўляецца глінай (з якой пасля і ствараецца паэзія), ён глядзіць праз падзорную трубу свайго густу і лепіць, лепіць нешта, з чаго пасля дзіўным чынам атрымліваецца Богам натхнёнае. І хаця сам працэс абсалютна не ўзвышаны, але ў выніку можа ўзнікнуць рэч паднябесна-касмічнага гучання. На такі адбор здольны выключна паэт. Матэрыял жа проста так не даецца, ён супраціўляецца. Графаман праклінае матэрыял за гэтае супраціўленне, паэт удзячны яму. Думаю, і той жа Някляеў удзячны, бо матэрыял супраціўляецца-супраціўляецца, а пасля р-раз! – і выдасць насустрач паэту такое, чаго сам паэт не хацеў сказаць. Таму, дарэчы, графаман заўжды разумнейшы ў жыцці, чым у сваіх тэкстах, паэт – наадварот.
Мяне смешаць наіўныя пытанні кшталту: як пішуцца вершы, з чаго яны

пачынаюцца... Ды з тлуму пачынаюцца! З тлуму і неўладкаванасці душы чалавечай, якая патрабуе і патрабуе нечага, сама не ведае чаго.

***– Але яны пішуцца. Цікава ж падглядзець працэс.***

– Паэзія не абавязкова рэалізоўваецца ў тэкстах. Гэта шчаслівы збег абставінаў, калі паэт знаходзіць суцяшэнне ў канструяванні тэкстаў. Але паэт можа быць паэтам і без тэкстаў – проста па сваім ладзе існавання. Непісьменны паэт пасвіць коз у лесе, спявае песні і жыве між людзей, як... паэт. Гэта значыць – не так, як усе. Вось прыдумалі, хоць часткова гэта і праўда, што паэт – гэта прарок, таму людзі яго і цярэбяць. Рамантычная такая версія. Дый нават калі ён нікому нічога не прарочыць, усё роўна жыве як ізгой. У паэта іншыя крытэрыі жыцця, іншыя каштоўнасці. Для большыні чалавецтва шкала каштоўнасцяў вызначаецца кар'ерна-матэрыяльнымі прыкметамі. Для паэта гэтая градацыя забойная.

***– Аднак што далей адбывалася з Вашай паэзіяй? Адзін графаманскі верш напісаўся, пасля, відаць, другі...***

– У мяне вершы ніколі не стаялі на патоку, ні тады, ні пазней. На маё няшчасце, у мяне не атрымлівалася цешыцца сваімі творамі. Я ж усё-такі нешта чытаў, і мне хацелася ўмець спяваць гэтаксама, як у кнігах.

***– А хто былі Вашыя паэтычныя настаўнікі?***

– *(Хмыкае.)* Якія могуць быць паэтычныя настаўнікі ў фізіка?! Я смяяўся з сябра, які са сваёй дзяўчынай на ўзлеску чытаў Ясеніна... *(Усміхаецца.)* Мне падабаўся Міхайла Ламаносаў:

Открылась бездна, звезд полна;
Звездам числа нет, бездне – дна.

***– Няўжо простая закаханасць здольная перарабіць рацыяналіста, якім Вы сябе маладога падаеце, у паэта-рамантыка?***

– Не такая яна й простая. Закаханасць – гэта ўжо рамантыка. А мая рацыянальнасць... Я думаў, што люблю *навуку* астраномію. Насамрэч вабіла паэзія Сусвету, ад бязмежнасці якога дух захоплівае. Высакалобага фізіка з мяне ўсё роўна б не атрымалася – даймаў філасофскі рамантызм. *(Смяецца.)*

***– Прабачце, Мікалай Андрэевіч, спытаюся не "ў тэму": чым скончылася Ваша рамантычнае каханне да той дзяўчыны з Ведрыча?***

– Каб жа яно скончылася... *(Усміхаецца.)* Я доўга, да трыццаці гадоў, не разумеў, чаму Пушкін "лепшы" за Лермантава – мяне захапляў вялікі рамантык Лермантаў. Я і сёння ўпэўнены, што рамантызм ёсць падмуркам сапраўднай паэзіі. У маім уяўленні паэзія можа быць выключна рамантычнай, лірычная яна ці грамадзянская – у ёй пафас! Днямі ў старых паперах знайшоў сваю занатоўку дванаццацігадовай даўніны: *"Пафас – гэта каэфіцыент, на які памнажаецца празаічная будзённасць, каб у выніку зрабіцца паэзіяй"*. Але на чым грунтуецца пафас? А ні на чым іншым, акрамя рамантызму. Хоць рамантызм – з'ява разбуральная... Складана гэта ўсё...

***– Вашы разважанні так з лёту не ўхопіш. Зараз пэўна зразумеў толькі тое, што адданасць рамантызму вывела Вас у шэраг беларускіх паэтаў.***

– Нікуды яна мяне не вывела. Ніколі ўсур'ёз не запісваў сябе як паэта ў літаратурны кантэкст. Паэтаў я люблю і паважаю, але сябе паэтам *якога б ні было шэрагу* не адчуваю.

***– Атрымліваецца... сябе не паважаеце?***

– Паэзію ў сабе паважаю, сябе ў паэзіі – не.

***– Але Вашыя вершы, якія ў свой час друкаваліся ў "ЛіМе", прыводзілі ў захапленне, прынамсі, такога строгага крытыка і паэта, як Леанід Галубовіч, дый не толькі яго – пра гэта распавядаў адзін знаёмы, таксама прафесіянал высокага кшталту.***



*Мікола ЗАХАРАНКА і Кім ХАДЗЕЕЎ*

– Людзі рознае кажуць... Не ведаю пра яго захапленне, але праўда, аднойчы Галубовіч патэлефанаваў і выказаў радаснае здзіўленне маімі вершамі. Проста Лёня з тых паэтаў, якія ўмеюць радавацца праявам чужога таленту, магчыма, нават перабольшана радавацца. Ды я й сам не кажу, што я дрэнны паэт. Але быць паэтам па жыцці і *рабіць літаратуру* – розныя рэчы. Апошняе вымагае адданасці, якой мне бракуе. Бо, на маю думку, каб ахвяраваць жыццём дзеля *жыцця ў літаратуры*, трэба мець падставу, якую мелі Купала з Коласам ды Караткевіч з Быкавым. Большасць маіх сяброў-літаратараў на гэты конт не замарочваліся і з карысцю ўдзельнічалі (і ўдзельнічаюць) у літаратурным працэсе. Я ім прывітальна зайздросціў, але...

– ***А можа, гэта ў Вас гардыня, Мікалай Андрэеевіч?***

– Усё можа быць... Але хутчэй наадварот – дзіцячы вясковы комплекс. Я й дагэтуль лічу, што гаршкі абпальваюць усё-ткі багі. У літаратуры, пагатоў.

– ***А чаму Вы ў гэтую кнігу не захацелі ўключыць свае вершы?***

– Гэта не я не захацеў. Справа ў тым, што спачатку мне паабяцаў выдаць яе ў “Літаратуры і Мастацтве” Алесь Карлюкевіч. Але пасля патрабавалі, каб я наклад сабраў. Я не паленаваўся – сабраў 385 экземпляраў. А ім трэба 800! Так і праляжаў мой рукапіс без выніку мо гады чатыры. Хоць, па праўдзе, калі я захацеў уключыць разам з апавяданнямі і п’есамі яшчэ і вершы, Карлюкевіч слушна заўважыў: “Ну, і для каго будзе гэтая кніга?” *(Усміхаецца.)*

– ***Што ён меў на ўвазе?***

– Чытачу болей па гусце проза. Драматургію рэдка хто купляе. А тут бы яшчэ й вершы...

– ***А калі і як Вы ўзяліся за драматургію?***

– Ды ў мяне ўсяго дзве п’есы і ёсць. Першая ставілася ды не паставілася ў Коласаўскім тэатры ў Віцебску, а другую Андрэй Андросік увасобіў-такі на сцэне Купалаўскага. Вось і ўся мая драматургія. Ды яшчэ, праўда, дзясятак дзіцячых п’есак для батлейкі.

– ***Рэжысёрам цяжка дагадзіць. Чым Вы так уразілі іх, што з дзвюх напісаных п’ес абедзве (!) былі прынятыя да пастаноўкі, і не абы дзе, а ў славутых нацыянальных акадэмічных тэатрах?***

– Я не ўражваў. Я ішоў “ад зваротнага”.

– ***Не чуў пра такі творчы метад.***

– Атрымалася так, што ў двух гэтых выпадках рэжысёры мяне самі знайшлі. У 1986 годзе галоўрэж Мазынскі да юбілею Коласаўскага тэатра ўзнамерыўся аднавіць эмблему тэатра – “Несцерку” Віталя Вольскага. Ён хацеў зрабіць спектакль па матывах фальклорнага героя Несцеркі з разгорнутым магутным фальклорна-песенным гучаннем (балазе, акцёрскія магчымасці тэатра дазвалялі, ды і час быў такі *рэнесансны*) і выйшаў на мяне як на драматурга.

– ***Вы былі такі знакаміты?***

– Мяне знакамітым ды таленавітым зрабіў у іх вачах сапраўды знакаміты Кім Хадзееў. Кім Іванавіч быў апантаны піяршчык сваіх сяброў! Ён і параіў Валеру, з якім на той час мы былі шапачна знаёмыя, звярнуцца да маёй асобы.

– ***І што здарылася з гэтым праектам?***

– А Бог яго ведае... Тэатр – непрадказальная стыхія. Я й сам не зразумеў тады: ці то перашкодзілі падзеі ўнутры тэатральнага калектыву (неўзабаве пасля таго Валера Мазынскі з’ехаў з Віцебска ў Мінск і ўзначаліў “Вольную сцэну”), ці то Валеру не задаволіла трэцяя дзея п’есы. Хутчэй за ўсё, і тое, і тое. Ракав*ы* збег абставін, як той казаў. Я напісаў дзве дзеі і прывёз у Віцебск. На чытку Мазынскі сабраў усю вялізную трупу тэатра, і, як мне падалося, артысты былі вельмі задаволеныя, нават натхнёныя на працу. І заінтрыгаваныя. З нецярпеннем чакалі працягу. Казалі: “Цік-а-а-ва, дзея развіваецца па нарастаючай!” Ужо былі размеркаваныя ролі. Несцерку павінен быў іграць Яўген Шыпіла, пана Бараноўскага – Уладзімір Куляшоў, Мальвіну – Таццяна Мархель... Але – вось жа сапраўды: не паказвай незавершанай працы! – пасля чыткі трэцяй дзеі (я не прысутнічаў) яны былі, відаць, расчараваныя. Па крайняй меры прыемных водгукаў болей да мяне не даходзіла.

– ***Дарэчы, а чаму ў Вашай кніжцы няма Вашай п’есы “Несцерка?”***

– Дарэчы, п’еса называецца “І зноў – Несцерка!”

– ***Прабачце.***

– Я доўга вагаўся, уключаць яе ў кніжку ці не. Па нядаўнім прачытанні яна мне здалася крыху груваткай і, па цяперашнім цынічным часе нацыянальна-духоўнага заняпаду, наіўна пафаснай. Дый, мабыць, сапраўды меў рацыю Мазынскі, калі папракаў мяне за фінал.

– ***Вашу п’есу “Паехалі!” паставілі ў Купалаўскім тэатры. Зноў жа, як гэта адбылося?***

– Аднойчы Андрэй Андросік узнамерыўся рэканструяваць аднаактоўку Крапіўніцкага “Па рэвізіі”. Будучы спектакль па ёй быў пастаўлены ў планы тэатра і ўжо анансаваны ў прэсе і нават на афішах. Але калі ён ушчыльную падышоў да працы – зразумеў, што не тое што ў тэрмін, а і ў прынцыпе не ведае, як гэта зрабіць – надта час і падзейныя рэаліі не знаходзілі сугучча з сённяшнім тэатрам ды і з часам наогул. І цэйтнот, цэйтнот! Прыйшоў з гэтым да Кіма Хадзеева... Ну, а далей я прыкладна ўяўляю іхнюю гутарку. Кім са смешнай кімаўскай катэгарычнасцю абвяшчае: “Сёння з гэтым можа справіцца адзіны чалавек у Беларусі – Коля Захаранка!” Самае смешнае, што Кім Хадзееў, знаўца тэатра і літаратуры і ўсяго-ўсяго на свеце, сам верыў у тое, што казаў. Ну, а потым Андросік з Хадзеем, як снег на галаву, прыязджаюць да мяне ў Швабы.

– ***Прыязджаюць і…***

– Я падмеўся, паабяцаў, назаўтра яны паехалі, а я лоб у лоб сутыкнуўся з той жа задачай, што перад тым і Андросік, – з аднаактоўкі векавой даўніны зрабіць “поўнаметражны” сучасны спектакль. Як?! Тады я плюнуў на абяцанае, даў сабе волю і пачаў выдумляць сваю асабістую п’есу. Ад Крапіўніцкага засталіся нібыта месца дзеяння – канцылярыя валаснога ўпраўлення – ды імёны дзеючых асобаў. Таму на афішы стаіць спасылка: “Па матывах твораў Крапіўніцкага”.

– ***Але Вы справіліся напісаць у тэрмін?***

– Паспеў... Бо Андросік прыспешваў. Прыязджаў да мяне і па кавалках адвозіў тэкст у Мінск – там ужо працаваў з мастаком і кампазітарам. Бліжэй да фіналу я ўжо сам стаў у тэатр наведвацца.

***– Хто яны былі – мастак і кампазітар?***

– Мастак Барыс Герлаван, з якім я й дагэтуль амаль незнаёмы, кампазітар Валодзя Кур’ян, мой блізкі сябар.

***– Мікалай Андрэеевіч, можа, прыгадаеце якіясь прыгоды або цікавыя моманты падчас стварэння спектакля?***

– Ды ўвесь працэс з маім удзелам – суцэльная прыгода! *(Смяецца.)* Скажам, у тэатры аднаго акцёра былі многія. А вось у тэатры *аднаго гледача*... Ну, калісь мог быць які-небудзь магнат ва ўласным тэатры, дзеля якога-небудзь Сталіна маглі, напэўна, граць *аднаму* ў пустой зале, можна такое ўявіць. А я сам меў гонар быць такім адзіным гледачом. Прычым граў *дзеля мяне* сам вялікі Генадзь Аўсяннікаў! Адбылося гэта ў фае на другім паверсе, дзе была зроблена так званая выгарадка – схематычная імітацыя сцэнічных дэкарацый. Там, каб не займаць сцэну, вяліся рэпетыцыі. Той раз рэжысёр Андросік рэпетаваў з Аўсяннікавым адзін з эпізодаў спектакля. Я сядзеў побач. Аўсяннікаў прамаўляў адзін з маналогаў свайго героя. Раптам з глыбіні сцэны, дзе ён павінен быў знаходзіцца па мізансцэне, Генадзь Сцяпанавіч рушыў да нас з Андросікам. Спыніўшыся на краі памоста, ён працягвае маналог, ужо гледзячы мне прама ў вочы, нават крыху схіліўся з памосту да мяне, і прамаўляе, прамаўляе з нарастаючай экспрэсіяй... Маё ўражанне было дваістае: з аднаго боку – непараўнальнае мастацкае ўздзеянне на цябе магутнага акцёра (ды зблізку!), а з другога – адчуванне, што ён “адхвастаў” цябе тваім жа тэкстам.

***– Што гэта было?***

– Я так да канца і не зразумеў, я чалавек не тэатральны і ў багатых нюансах тэатральнага этыкету і міжасабовых адносін мала кемлю. Але, падазраю, ён такім чынам адпомсціў мне за маю выхадку на папярэдняй рэпетыцыі, калі я меў неасцярожнасць і дурноту ўмяшацца і зрабіць заўвагу Наталлі Качатковай, якая грала Пантурчыху. Я здуру хацеў дапамагчы актрысе зразумець маю аўтарскую трактоўку яе гераіні, бо бачыў, што пачатковая версія Качатковай, актрысы таленавітай, моцнай і творча ўладнай, можа прывесці да перакосу нашай з Андросікам версіі ўсяго спектакля, бо ад логікі яе выканання залежалі паводзіны іншых герояў. Пантурчыха Качатковай выглядала такой запалошна-гаваркой “базарнай” бабай і чым далей, тым больш. А мая Пантурчыха была, мне здавалася, глыбейшая, родам ажно з фальклорна-паганскага часу. Каб быць карацейшым і вобразна выразным, я сказаў прыкладна наступнае: “Наталля Георгіеўна, Вы граеце *Трындычыху*, а трэба было б Пантурчыху...” Выказаўся палка, шчыра і, як атрымалася, – крыўдна для актрысы. Ну, нельга так сябе паводзіць аўтару *з вёскі* ў сталічным, Купалаўскім тэатры!!! Дацярпеўшы да канца рэпетыцыі, Качаткова падышла да мяне і *моцна* параўнала маю драматургію з драматургіяй Чэхава. Не на маю карысць, зразумела. Але Наталля Георгіеўна прафесіянал высокага кшталту. Пазней яна, не падаўшы выгляду, заўвагу маю ўлічыла і потым на сцэне была ўсё-ткі цудоўнаю *маёй* Пантурчыхай.

***– Ну, а сам спектакль меў поспех?***

– Як сказаць... У прафесіяналаў не вельмі, у гледачоў – вялізны. Але век у спектакля быў не доўгі, здаецца, не болей за два сезоны.

***– Чаму?***

– Там Андросік прыдумаў такую скульптуру дзядзькі з вусамі ў цэнтры кампазіцыі, вакол якой і адбывалася ўся дзея. Вельмі нагадвала ўсім вядомага дзеяча, такі палітычны шарж з намёкам. Ну, няхай бы, шарж дый шарж, гэткай бяды, тады яшчэ гэта дазвалялася. Але ж па тэксце п’есы гераіня Качатковай павінна была ў жаночым запале казаць: “Сабрала я слюняў дый плюнула: цьфу на цябе!” І тут кожны раз Наталля Георгіеўна падыходзіла да скульптуры і смачна

плявала ёй у твар. А Генадзь Сцяпанавіч (“Старшыня”) казаў: “Куды ты плюеш, свінячая морда, так проста і плюе на партрэт!”

А яшчэ па ходзе “местачковыя кабеты” як цені выходзілі з-за кулісаў у доўгіх сукенках, працягвалі рукі і ўмольна стагналі: “Бацька, родны, калі!!!” Дык хто сцерпіць? Вядома, ўсе гэтыя палітычныя алюзіі не маглі спрыяць доўгаму жыццю спектакля.



*Андрэй ЗАХАРАНКА і Андрэй ВАЗНЯСЕНСКІ*

– ***І яго знялі?***

– Яго не здымалі, як было здымаць – спектакль ішоў з аншлагамі, трэба было б тлумачыць прычыну, разварушваць апазіцыйную крытыку, прыцягваць увагу... Помню, яшчэ да прэм’еры ў кабінет Івана Вашкевіча, тагачаснага дырэктара, пры мне тэлефанавалі з газеты “Имя” і жыва цікавіліся, ці праўда, што ў тэатры ставіцца “вострая палітычная сатыра нейкага Міколы Захаранкі”? На што малайчына Вашкевіч спакойна адказваў: ”Не, не праўда. Звычайная гумарыстычная п’еса”. Так што зрабілі разумней – сталі пацiху-пацiху, усё радзей і радзей ставіць спектакль у афішу, звялі на нішто, спусцілі на тармазах.

– ***Між тым Вы адзін з нямногіх пісьменнікаў, якія ўдзялілі ўвагу дзіцячай драматургіі. Што прымусіла Вас напісаць п’есы-казкі для батлейкі?***

– Гора прымусіла. (*Смяецца.*) У тым і справа, што адзін з нямногіх... Па роду дзейнасці – я ж усё жыццё так ці інакш звязаны з дзецьмі – вымушаны быў шукаць матэрыял для дзіцячай самадзейнасці і заўсёды адчуваў рэпертуарны голад. Якасных вершыкаў ды песенек – у нас кот наплакаў, а сцэнічнага матэрыялу – падаўна. Аднойчы мусіў напісаць для швабскага садка п’еску “Унучка і ягады”. Жартам аддаў яе ў “Вясёлку”, а яны надрукавалі ды папрасілі яшчэ. Напісаў другую, трэцюю, ну, і атрымаўся цыкл п’ес-казак для батлейкі... Між іншым, водгукі былі захопленыя, пісалі з усёй Беларусі, у асноўным кіраўніцы дзіцячых драматычных калектываў. Прасілі яшчэ і яшчэ. Стала бачна – не адзін я такі “галодны”.

– ***І Вы пачалі пісаць яшчэ і яшчэ…***

– Каб жа... Але “Вясёлка” давала ўсяго адну п’есу ў год.

– ***Чаму? Яны ж самі прасілі.***

– Сам здзіўляюся. Можа, традыцыя такая...

– ***Вяртаючыся да “Знамёнкі” і літаб’яднання, дзе Вас абвінавацілі ў песімізме: што далей адбылося? Гэта неяк паўплывала на Ваш лёс?***

– На мой лёс? Заўвага літкансультанта мінскай камсамольскай газеты? Я не рызыкаваў ні пасадай, ні партбілетам, не стаяў у чарзе на выданне зборніка вершаў, бо не было ў мяне ні пасады, ні партыйнага, ні нават камсамольскага білета – недзе згубіў (дарэчы, разам з хуліганскай п’ескай). Ды і вершаў, па вялікім рахунку, не было. Я, здаецца, тады ўжо не быў студэнтам Політэхнічнага. Такое сацыяльнае зэро – каму я быў патрэбен? Гэта як у Жванецкага: “Паспрабуйце закінуць камара далёка-далёка...” *(Смяецца.)*

І потым, што значыць “паўплываць на лёс”? На мой лёс у свой час паўплываў тургенеўскі Базараў (як я захапляўся нігілістамі!), потым Андрэй Балконскі, яшчэ пазней Раскольнікаў з Алёшам Карамазавым. Старэйшы брат Андрэй з усім пакаленнем шасцідзясятнікаў паўплывалі. А тут Валкадаеў...

– ***Здаецца, задаў Вам не вельмі разумнае пытанне.***

– Чаму? Пытанне разумнае, толькі што не да мяне. *(Смяецца.)*

– ***Тады раскажыце, калі ласка, пра шасцідзясятнікаў – ведаю, Вы былі знаёмыя з Андрэем Вазнясенскім.***

– З Вазнясенскім сябраваў брат Андрэй, які працаваў у львоўскай акружной газеце "Слава Родины". А Вазнясенскага ў тое лета прызвалі на вайсковыя зборы і прыслалі "служыць" у ваеннай газеце. Тады яны пазнаёміліся і пасябравалі на ўсё астатняе жыццё. У паэме "Лейтенант Загорин" прататыпам героя (калі будзе да месца ў творчасці Вазнясенскага такі тэрмін) стаў брат. Гэтыя радкі, прынамсі, пра яго:

Я во Львове. Служу на сборах,
в красных кронах, лепных соборах.
Там столкнулся с судьбой моей
лейтенант Загорин. Андрей.

*(Странно... Даже Андрей Андреевич, 1933, 174. Сапог 42. Он дал мне свою гимнастерку. Она сомкнулась на моей груди тугая, как кожа тополя. И внезапно над моей головой зашумела чужая жизнь, судьба, как шумят кроны... "Странно", – подумал я...)*

З Беларусі ў гэты "вайсковы паход" у "Славу Родины" быў пасланы паэт Алесь Ставер, ён таксама здружыўся з Андрэем. У рэдакцыі працаваў будучы празаік і драматург Аркадзь Пінчук – зямляк і Андрэеў сябар дзяцінства. Яшчэ сярод іх помню Рамана Кудлыка, украінскага паэта.

Я ў тое лета жыў у брата і яго жонкі Эны. Помню ў фарбах тыя вечары з Вазнясенскім у іх аднапакаёўцы. За журнальным столікам з каваю ды печывам сядзяць тры паэты, два ваенныя журналісты з жонкамі і... я, дзевяцікласнік з Васілевіч. Вядзецца гутарка на розныя тэмы, але найбольш распавядае Вазнясенскі. І вершы, вершы... Такі імправізаваны вечар паэзіі. І вось жа якая шчырасць: Вазнясенскі ўжо зведаў вар'яцкага поспеху ў перапоўненых залах, меў усесаюзную славу і сусветную вядомасць, а тут – сядзіць з кубачкам гарбаты (адзіным за ўвесь вечар!) на кватэры якогась афіцэра і чытае вершы, якія чытаў у славутым Політэхнічным, распавядае пра стасункі з Хрушчовым, пра Эрэнбурга і Шолахава, пра Пастарнака, пра Карбюзье і... Керанскага – пра людзей са свайго жыццёвага досведу. Пры гэтым у перапынках паміж вершамі натхнёна і, галоўнае, старанна, як звычайна людзі без асаблівага слыху, спявае разам з усімі... пад маю мандаліну!

– ***Вы гралі на мандаліне?***

– Гэта быў мой першы інструмент, гітары яшчэ тады ў руках не трымаў... *(Задумаўся.)* Божа, як неўпрыкмет вершыцца жыццё – усіх іх ужо няма на гэтым свеце. Пра Кудлыка не ведаю, можа, яшчэ жывы...

– ***Цікава, што Андрэй Вазнясенскі мог расказваць пра Керанскага?***

– Ён сустракаўся з Керанскім падчас паездкі па Амерыцы. Той шкадаваў: "Эх, нарабіў Часовы ўрад памылак, уладу Леніну нізашто аддалі!" Такі, паводле слоў Вазнясенскага, бадзёры дзявяностагадовы амерыканскі дзед быў...

– ***Вершы адзін Вазнясенскі чытаў?***

– Не-не, Ставер з Кудлыкам таксама чыталі свае, ані не бянтэжыліся прысутнасцю славутага масквіча. Аднойчы распачалі дыскусію пра нацыянальныя лёсы ў літаратуры... Запомнілася фраза Алеся Ставера, прамоўленая нібыта з гумарам: "Украінцы – нашы браты ў барацьбе з вялікадзяржаўным шавінізмам!" Казаў ён гэта, хітравата кідаючы позірк у бок маскоўскага сабрата па пяры. Тыя яго словы і сёння грэюць мне сэрца. І помню стрыманую рэакцыю Андрэя Вазнясенскага – інтэлігентная такая, крыху паблажлівая рэакцыя небажыхара. Ах, як тады, у век хрушчоўскай адлігі, касмічных перамог, футурыстычных

спадзяванняў, касмапалітычных мрояў было неактуальна нейкае нацыянальнае пытанне!

А між тым, пад покрывам знешняга грамадска-палітычнага рэнесансу, пад міжвольным прыкрыццём яго пракрокаў рабіліся дзікунскія, па сутнасці, справы. Рабіўся наступ на нацыянальна-культурнае жыццё народаў імперыі. У піку нацыянальнай самаідэнтыфікацыі было абвешчана (ці яшчэ рыхтавалася абвестка – не помню) пра ўтварэнне так званай новай фармацыі – савецкага чалавека. Разбураліся і зачыняліся храмы, правілі баль камуністычны атэізм і нечуваныя, нават у параўнанні з пасляваенным Сталіным, ганенні на царкву. Адвесці вочы ад гэтага цемрашальства, як ні парадаксальна, дапамагалі стотысячныя стадыёны аматараў паэзіі... Камуністы хітра рабілі: раскрывалі кавалачак даху якой-небудзь царквы, што "не ўяўляла культурна-гістарычнай каштоўнасці", нябесная вільгаць рабіла сваю справу, а тады яе зносілі як непрыдатную.

***– Мо не будзем пра сумнае, Мікалай Андрэевіч...***

– Не будзем. Тым больш час быў усё-такі па-свойму светлы... Дарэчы, Вазнясенскі падпісаў мне тады ж фотаздымак: *"Коле с верой, с тревогой за него, с надеждой"*. Алесь Ставер напісаў: *"Слаўнаму беларусу Міколу Захаранку з пажаданнем высока несці нашу беларускю чэсць!"* А на зваротцы другога здымка надпісаў свой верш "Рамкі". Смелы па тым часе верш, нідзе тады, вядома, не надрукаваны:

Мяне заўсёды ўціскалі ў рамкі,
Вучылі з глупствам ладзіць і дружыць,
Каб не рыпеў я ад жыццёвай лямкі
І ўмеў, як кажуць, жыць – як набяжыць...

Мне хто са злосці, хто з любві казалі,
Каб меней чуў, каб меней бачыў я.
Не раз мяне бязлітасна каралі,
Ды пахіснуць не здолелі ніяк...

***– А пра трывогу чаму Вазнясенскі напісаў? Ці былі падставы для гэтага?***

– Не ведаю. Можа, ён ўбачыў ува мне той злашчасны "песімізм", што пазней і Валкадаеў? *(Смяецца.)*

***– Дарэчы, пра Валкадаева: Вы пасля яго крытыкі больш не наведвалі паседжанні літаб'яднання ў "Знамёнцы"?***

– Зрэдку заходзіў, чаму не. Ды я й раней не надта хадзіў. Мы яшчэ наведвалі "літо" ў рэдакцыі "Вячэрняга Мінска", бо там быў добры тэнісны стол. Хадзілі туды, як цяпер кажуць, больш тусавацца і прыкалвацца, чым вершы свае чытаць ды выслухоўваць ацэнкі. Мы былі таленавітымі і ганарыстымі маладымі людзьмі, якія пасмейваліся з графаманаў, думаючы, што ў нас ёсць падставы для гэтага.

***– Слухаючы Вас, можна падумаць, што літаб'яднанні наведвалі спрэс графаманы.***

– Вядома, не. Хадзіў жа Валодзя Някляеў.

***– Вы разам хадзілі?***

– Мы бачыліся, але блізка не сыходзіліся. Ён быў сур'ёзны, мы – не. Чамусьці нас насцярожвала такая яго сур'ёзнасць. Было відаць, што гэты хлопец мае на мэце зрабіцца "сапраўдным" пісьменнікам. Гэта выглядала крыху дэкларатыўна і для нас, маладых блазнаў, было непрымальным ужо таму, што планаванне сваёй будучыні ў краіне пяцігодак вельмі выдавала на тое, што ты прымаеш правілы *іхняй* гульні. Мы ж разумелі паэзію як вольніцу ў краіне няволі.

Пазней, праз колькі гадоў, я прыемна здзівіўся, сустрэўшы Някляева аднойчы ў студыі на тэлебачанні. Я нейкі час працаваў пазаштатнікам у маладзёжнай рэдакцыі. Той раз рыхтаваў і вёў тэлеперадачу, якраз пра літаб'яднанне пры

“Вячэрнім Мінску”. У дзень запісу я быў не надта ў “форме”, пасля дня народзін у... не важна, не помню, у каго. Прыйшло чалавек пятнаццаць “паэтаў” з літаб’яднання, і паміж іх Валодзя Някляеў. Такі разняволены светлавалосы прыгажун, упэўнены ў сабе, з бліскучай моваю. Пачынаецца тракт (папярэдні прагон), і Валодзя разам Наташай Татур упэўнена бяруць лейцы ў свае рукі. На мае досыць млявыя пытанні бойкая Наташа адказвае вычарпальна і звыш таго. Валодзя падтрымлівае гутарку, але, галоўнае, чытае і чытае свае вершы “сапраўднага” паэта! Малайчына, думаю, Някляй, чаго хацеў, таго дасягнуў. Калі б не яны, я перадачу як піць даць запароў бы. А так – пайшла на “Чырвоную дошку” за мілую душу.

– ***Вы ўжо неаднойчы прыгадвалі Някляева і ўскосна яго раман “Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без”. І хоць твор гэты не дакументальны, але, па сутнасці, гэта ж аповед і пра Вашыя маладыя гады…***

– Ну, калі глядзець па часе, месцы дзеяння, па імёнах...

– ***Таго ж Кіма Хадзеева Вы ведалі значна лепш за Някляева, хоць ён і не прэтэндуе на нешта выключнае – у сваіх інтэрв’ю Някляеў кажа ўсяго толькі пра эпізадычнасць знаёмства з Хадзеевым. У Вас жа былі больш блізкія адносіны з ім…***

– Я блізка сябраваў з Кімам Хадзеевым, але справа не ў гэтым. Я не магу сказаць, што раман Някляева выклікае ў мяне настальгію – а ён яе выклікае – толькі таму, што я сам жыў у той час і ў тым жа месцы з тымі ж людзьмі. Калі б я кіраваўся ўласнымі ўспамінамі, дык мог бы абурацца разам з некаторымі крытыкамі: маўляў, скажоная эпоха, скрыўленая карцінка свету! Але мяне прывабіла тое, што Някляеў зазірнў у *мой* час *маімі вачамі,* што настальгічная туга паэтычнай душы выманіла яго на сцежкі, па якіх хадзіў і я. Ён апеў у сваім рамане цэнтр Мінска, заселены ў асноўным людзьмі савецкай сацыяльнай перыферыі, задворкаў таго часу, “дзіўнымі людзьмі” ад Хадзеева да Освальда. Хаця – што казаць – сам ён на тых задворках ніколі трывала не пасяляўся, ішоў па *магістральным* праспекце, няхай сабе напачатку і разам з сябрамі-стылягамі. Ад гэтай дваістасці, дарэчы, уся перадузятасць ягоных крытыкаў. Прызнаюся, сам пачынаў чытаць раман з вялікім скепсісам. Але Някляеў вельмі парадаваў мяне, бо мог жа памясціць у раман і па-добраму кандовых беларускіх хлопцаў, сацыяльна ўладкаваных пісьменнікаў, з якімі вёў свой жыццёвы рэй. Паэт, відаць, адчуў, што ад іх бы сыходзіла паэзія з іншай інтанацыяй.

– ***Разважаючы пра кнігу прозы, Вы чамусьці моцна націскаеце на вартасці Някляева-паэта…***

– У гэтай празаічнай кніжцы нейкім дзіўным чынам праявіўся паэтычны дар Някляева. Больш за тое, менавіта гэтая яго проза вастрэй, чым лепшыя яго паэтычныя творы, паказала ў Някляеве паэта. Не буду казаць пра нейкія хібы рамана – мастацкія, дакументальныя, гістарычныя – пра гэта шмат напісана ў інтэрнэце справядлівага і не. Але чым ён мне дагадзіў? Па-першае, раман пакідае адчуванне нейкага Сусвету. Мастацкі твор, калі ён мастацкі, павінен мець у сабе створаны Сусвет, які можа быць прывідны, фантасмагарычны, радасны ці трагічны, светлы, чорны, нават пачварны і непрыемны чытачу. У залежнасці ад гэтага разумны чытач кажа, падабаецца яму пісьменнік ці не, але не сумняваецца ў мастацкіх вартасцях твора. Не важна, які Сусвет – абы ён быў. Гэты “Аўтамат з газіроўкай”, так шчодра некаторымі аблаяны, пакінуў ува мне адчуванне *прыемнага* сусвету. Мне нават хочацца калі-некалі яшчэ і яшчэ зазірнуць туды. Бо я ўбачыў юнака, які ўстае на дыбачкі і, заглядваючы цераз плечы дарослых, дзівіцца, што яны робяць. І ў гэтага юнака – па сутнасці, у дзіцяці – позірк чысты, незамутнёны, ён і бачыць дзіцячае, а значыцца, паэтычнае. У гэтым паэзія і зачараванасць кнігі. Дарэмна вінавацяць Някляева, і дарэмна сам ён часам апраўдваецца, што, маўляў, гэта не дакументальны, а мастацкі твор. У яго ёсць апраўданне мацнейшае: “Гэта

твор паэтычны, гэта мая паэтычная прыхамаць! Хто мае вушы, той пачуе". Вось гэтую мастакоўскую прыхамаць я і ўпадабаў у яго кніжцы.

– ***Падчас нашых ранейшых размоў Вы казалі пра тое, што Хадзееў выпісаны Някляевым як цень. Як на Вашую думку, там усе цені, апроч бадай толькі равеснікаў аўтара рамана, хлопцаў з тэхнікума?***

– Там індывідуальна-дэталёва нішто не прапісана, ні адна рыса ні аднаго героя. Перадай словы аднаго героя іншаму – нічога не зменіцца. Гэта абсалютна не драматургічна. І калі зірнуць з драматургічнага пункту гледжання, дык там няма герояў – там цені. Але ж у гэтым рамане свая драматургія – *аўтарская*. Гэта драматургія роздуму, інтанацыі, споведзі, памяці, настрою. Персанажы ў ёй не ствараюць сюжэту, яны існуюць лірычным фонам галоўнай дзеючай асобы – аўтара. Што датычыцца Кіма Хадзеева, дык ён настолькі цень, што нават выпадае з ансамбля астатніх ценяў. Магчыма, мне гэта кідаецца ў вочы праз добрае веданне "матэрыялу".

– ***Я вось чаму спытаўся: а як бы Вы выпісалі Хадзеева? У Някляева атрымаўся даволі непрывабны персанаж…***

– Мне падабаецца фармулёўка – "выпісаць Хадзеева"... *(Усміхаецца.)*

– ***Я меў на ўвазе – калі б Вы пісалі свой раман.***

– Раман кшталту "Аўтамата з газіроўкай"?

– ***Раман пра той час.***

– Тады, магчыма, мой раман увесь стаяў бы на Хадзееве. Гэта была б мая звышзадача. А выпісаць Хадзеева... Ён слаба падыходзіць на ролю службовага персанажа, які, як мастацкі сродак, мог бы паслугоўваць нейкім маім скурна-літаратурным мэтам – абавязкова перацягнуў бы коўдру на сябе. Хадзееў – асоба, магутная, інтэлектуальная, у яго быў сплаў эрудыцыі з моцным рацыянальным і філасофскім мысленнем. Але каштоўны ён быў для мяне (дый і для многіх іншых) якраз не эрудыцыяй – Хадзееў быў мысляром і меў *сістэму*, ён не проста ведаў філасофскія выкладкі – ён ведаў... Не, не так. Ён разумеў гісторыю і чалавечае апраўданне філасофіі. І яго мараль была выбудавана, вырашчана з гістарычнай маралі ўсяго чалавецтва. Пісаць пра Хадзеева – гэта значыць пісаць пра з'яву. Ён быў такі сабе шараговы, сціплы чалавечак-з'ява ўсяленскай культуры. На добры лад, пра яго трэба было б пісаць не ўспаміны, а *жыццё*, прычым у цыкле "Жизнь замечательных людей".

– ***А помніце, як пазнаёміліся?***

– Праз Пецю Кошаля. Я тады ў Політэхнічным інстытуце вучыўся, а Пеця той перыяд *жыў у Мінску*. Што гэта азначала? Ні жытла, ні радні, ні працы ў яго ў Мінску не было. І па-за Мінскам таксама. Але назваць яго бамжом нават міліцыя не рызыкнула б. Я б сказаў, Пеця Кошаль быў ганаровым госцем беларускай сталіцы. Ён чытаў вершы. Свае. Яго наперабой запрашалі ў госці ў "лепшыя дам*ы*". Я ўпершыню ўбачыў, як чалавек зарабляе сабе на *ганаровае існаванне* не знаёмствамі, не праз пасаду, не грашамі, не карпаратыўнай прыналежнасцю, не карпатлівай працай, а выключна талентам – голым, паэтычным, Боскім. Ну, як зарабляе? Амаль штовечар меў ён вячэру з выпіўкай і адданае шанаванне "філалагічных дзяўчат", як ён называў сваіх прыхільніц. Пецю з Кімам пазнаёмілі агульныя знаёмыя. Не дзіва, што дзве такія адыёзныя фігуры не размінуліся – усё-такі Мінск цесны горад. А потым Пеця прывёў мяне на нечы дзень нараджэння, дзе быў і Кім.

– ***Вакол Кіма Хадзеева збіраліся натоўпы людзей. Як Вы вызначалі сваё асабістае месца сярод іх?***

– Аніяк. Здаецца, і ніхто не вызначаў сабе такога месца. Кім быў такі ўніверсум, што яго хапала на ўсіх. Там у асноўным дзейнічаў прынцып: чым больш нас, таленавітых і розных, тым весялей. Былі, вядома, людзі, якія не ўпісаліся ў айкумену кімаўскага ўплыву, рэдка – не захацеўшы, часцей за ўсё – не здолеўшы.

Анатоль Астапенка ў сваёй скандальна вядомай "Сіняй кнізе" апісвае Кімаву

кватэру найперш як прытулак для п’яніц – паэтаў, мастакоў, музыкантаў... Не скажу, што ён маніць – кожны бачыць тое, што бачыць. Дый версія яго вымушаная. Па-першае, Кулон-Астапенка заангажаваны антыалкагольнай тэмаю сваёй кніжкі. Па-другое, фізік Анатоль быў “па-за гульнёй” у пераважна гуманітарнай стыхіі кімаўскага кола, там і яму было не цікава і з ім нікому не было цікава, апроч, зразумела, “выпіць”. Дый, магчыма, і той злашчасны зэдлік, якім раз’юшаны Кім рассёк Анатолеву галаву, вельмі моцна паўплываў на Анатолеў светапогляд. Дарэчы, з усёй адказнасцю заяўляю: ніякі гэта быў не зэдлік, а самы звычайны стул. І не за Анатолеву антыалкагольную прамову і высокамаральную заклапочанасць лёсам Кімавых “ахвяраў”, як, забыўшыся пра яшчэ жывых (!) сведкаў, распавядае Анатоль, а пасля неабачлівай рэплікі, за якую “на зоне” не пакінулі б жывога, былы зэк Хадзееў гэтак узвіўся. Калі б не я адвёў у апошні момант караючую Кімаву дзясніцу, дальбог, свет не пабачыў бы “Сіняй кнігі беларускага алкаголіка”. (*Смяецца.*)

***– Хадзееў жа быў старэйшы за Вас на дваццаць гадоў, і, нягледзячы на гэта, Вы менавіта сябравалі?***

– І я, і ўсе, хто з маіх гадоў, менавіта сябравалі. Кім быў вялікі дэмакрат. Дэмакратыяй ад яго патыхала за вярсту. Тытунём і дэмакратыяй. А яшчэ ён быў геніяльны педагог. Добры педагог заўсёды сябар вучню, а мы былі каля Кіма вучнямі *міжволі*. За знешне турбулентнымі паводзінамі хавалася нашая маладая цікаўнасць да ўсяго на свеце, якую Кім ахвотна спатольваў. Ягоную місію вучыць – не павучаць! – добра абгрунтавала ў сваіх лекцыях Юля Чарняўская, таксама Кімава вучаніца. Ён ахвотна працаваў на ўсіх нас, мы ахвотна і *няўдзячна* карысталіся. Мяне, напрыклад, рыхтаваў да экзаменаў на філфаку ўсе гады вучобы па любым прадмеце – ад філасофіі да старaславянскай мовы. Кім абкладваўся падручнікамі, мы займаліся дзень, паўночы і паўдня, і я ішоў на экзамен. Той жа Анатоль Астапенка, таксама зведаўшы кімаўскага навучання, удала апісвае гэты працэс.

***– І як здавалі?***

– Пасля кімаўскага тлумачэння я пачынаў разумець прадмет сістэмна, як адно лагічнае цэлае, ды яшчэ ў кантэксце іншых навук, і размаўляў з выкладчыкамі пра сам прадмет з вышыні гэтага разумення, а такое ў студэнцкім, у шкалярскім коле рэдка сустракаецца. Часцей за ўсё здзіўляў выкладчыкаў, асабліва, чамусьці, “страшных” – тых, што ў студэнцкіх колах лічацца “непрабіўнымі”. У мяне быў свой уласны крытэрый поспеху на экзамене – я дзяліў выкладчыкаў на “педантаў” і “мысліцеляў”. Педантаў цікавіць, *што ведаеш*, мысліцеляў – *як ведаеш*. У педанта, пры адносна неблагім веданні прадмета, я мог і на “трояк” напароцца. У мысліцеля, а гэта найчасцей – “страшнага”, пяцёрка была амаль гарантавана. Усё ж такая экспрэс-падрыхтоўка не гарантавала ведання факталагічных падрабязнасцяў прадмета. Ведаючы *прадмет*, я не мог не ведаць, што азначае – “паказаў выдатныя веды па прадмеце”. Таму, атрымаўшы пяцёрку, выходзіў з аўдыторыі бачком, з адчуваннем лёгкага сораму, нібыта нешта ўкраў ці падмануў харошага, мілага чалавека.

***– Калі б Кім быў выкладчыкам універсітэта, як бы ён сам ацэньваў Вас на экзаменах?***

– Як ні дзіўна, ён цалкам стаяў на баку “педантаў”. Хваліўся, што “быў бы самым страшным і жорскім, і такім абібокам, як ты (гэта значыць – я), паратунку б не даў!” На што я адказваў: “Бадучай карове Бог рог не дае!” Але займацца са мной нават любіў. Казаў: “Якое задавальненне мець справу з таленавітым чалавекам! Колька на ляту ловіць!”

***– Вы на “ты” былі?***

– Аж занадта... Помню, займаліся ў “Сабачым скверы”. Маладзейшыя ўжо не ведаюць, гэта на рагу вуліц Кірава і Леніна такі распівачны пятачок быў. Кім захоплена нешта апавядае, утаропіўся ў кніжку, нічога вакол не заўважае, я ціхенька залез на дрэўца над ім і маўчу. Нарэшце, убачыў, што мяне няма, заазіраўся, загукаў: “Колька! Колька!” Дадаў некалькі слоў недрукаванага тэксту,

сабраў пад паху падручнікі і пайшоў дадому. Ён жыў тады побач, на Энгельса. Такія вольнасці мы дазвалялі сабе з Кімам...

– ***А ён расказваў Вам пра свае няпростыя стасункі з уладаю?***

– Не толькі мне, ён усіх папярэджваў: “На вас, хто тут у мяне бывае, папкі з дасье у КДБ стаяць на палічцы”.

– ***Вас гэта не палохала?***

– Наадварот, мы адчувалі гонар і прыемны прыліў юнацкага адрэналіну. І яшчэ было адчуванне ўласнай значнасці. Хто я такі, і раптам такая ўвага да мяне!

Дый КДБ цікавіўся мной яшчэ раней – у Васілевічах, падчас вучобы ў школе. У дзясятым класе я арганізаваў такі дыскусійны клуб, пад моднай тады шасцідзясятніцкай назвай “Я и время”. На яго збіраліся ўсе старэйшыя класы (бо напрыканцы – танцы!) і настаўніцкі калектыў у поўным складзе. Прывёзшы са Львова вялізны абярэмак вальнадумства і вальналюбства, я палка са школьнай сцэны абвяшчаў нечуванае. Напрыклад, параўноўваў Сталіна з Гітлерам (ці не сам дадумаўся?), чытаў, здаецца, тады яшчэ забаронены “Рэквіем” Ахматавай, абвінавачваў камсамол і чакаючых – “калі гэтая мура скончыцца і пачнуцца танцы” – камсамольцаў у крывадушшы з хлуснёю. Нават у рэальнасці пабудовы камунізму выказваў сумненні. А быў ужо Брэжнеў, паціху вярталіся савецкія строгасці.

Зараз смешна, а тады дырэктару школы было не да смеху. На ўроках гісторыі мяне рэгулярна выклікалі ў дырэктарскі кабінет, дзе спачатку ўшчувалі, пасля пагражалі, потым загадалі заўтра не прыходзіць у школу. Я стаяў упарта і непахісна, як той Овад Этэль Войніч. А тым часам у класе гісторык расказваў маім сябрам, які я ёсць вораг народа і злосны здраднік. На перапынку я, горды сабою, вяртаўся ў клас і замест чаканага захаплення маім гераізмам і розумам бачыў спачувальныя і насцярожаныя вочы аднакласнікаў і аднакласніц. Асабліва аднакласніц... Шумная была гісторыя, настаўнікі падзяліліся на два варожыя лагеры па прынцыпе “за” Колю Захаранку і “супраць” яго, сябры-аднадумцы мусілі пісьмова адракацца ад мяне, дайшло ажно да Мінска... Як у іх атрымалася гэта замяць без асаблівых для сябе і мяне стратаў, не ведаю. Я ніяк не пацярпеў за свой гераізм. Адно што не далі медаля.

– ***Як гэта – не далі медаля?***

– Перапраўілі гадавую пяцёрку па біялогіі за восьмы клас на чацвёрку, і яна пайшла ў атэстат. Ды плюс яшчэ дзве чацвёркі (між іншым, па рускай і нямецкай мовах – я ж кажу, што фізік!) – у выніку на срэбны медаль і не хапіла. *(Смяецца.)*

Я несур’ёзна ставіўся да жыцця...

– ***Ці былі ў атачэнні Хадзеева людзі, якія пасля сталі вядомымі?***

– Тыя, хто ўжо займаўся сваімі справамі, напрыклад, Барыс Луцэнка або Анатоль Дзялендзік, шырока не афішавалі знаёмства з Хадзеевым. Кім быў “нарасхват” не толькі сярод студэнцка-вучнёўскай дробязі. Той жа Дзялендзік не заходзіў у кімаўскі вэрхал – ён браў каньячок і на белай “Волзе” вёз Кіма да сябе дадому. І Валерыю Мазынскаму, калі яму далі віцебскі тэатр, таксама было не вельмі зручна каля Кіма хадзіць, хоць – трэба ведаць Валеру – той не надта зважаў, хадзіў па-ранейшаму. І той жа Валодзя Някляеў не мог быць там проста па вызначэнні – яго жыццёвая праграма наўрад ці супадала з кімаўскім жыццёвым *стылем*.

– ***Ці можна сказаць, што Хадзееў быў адзінокім?***

– Ні ў якім разе! Ад гэтага жыццярадаснага халерыка меланхоліяй і не патыхала.

– ***Чамусьці ўспомнілася: калі Хадзеева не стала, нехта з яго блізкага атачэння напісаў, што пэўны час ён еў адно згушчонае малако, бо гэта здавалася яму і карысным, і смачным***.

– На 50 капеек у дзень можна было няблага пратрымацца, маючы на ўвазе

танны чорны хлеб, кільку, зельц, ліверную каўбасу і іншы студэнцка-бамжовы харч. Але Кім быў вялікі гурман, ён сабе такога не дазваляў. Перад выездам на сутачнае дзяжурства *яму адкрывалі* з вечара купленую банку згушчонкі, і ён, смакуючы ды нахвальваючы, нібыта Панікоўскі кефір, – выядаў яе з паўбоханам белага хлеба... Хаця не. Адзін час у яго ў хаду былі кансерваваныя “субпрадукты”. Вялікая, мо літровая, бляшанка са шлуннем розных свойскіх жывёлаў, на выгляд – зусім як тушонка. Звычайна яму яе нехта з “кватарантаў” адкрываў і разаграваў... У той злашчасны ранак мы былі з Кімам удвух. Я толькі ўчора быў прыехаў, і яшчэ не ведаў усіх нюансаў прыгатавання гэтага новага сняданку. Кім захоплена і на поўным сур’ёзе паабяцаў пачаставаць мяне “выдатным дасягненнем савецкай харчовай прамысловасці”! І аўтарытэтна дадаў: “Гатуецца герметычным спосабам”. Потым сходзіў на кухню і вярнуўся працягваць размову. Яе перапыніў страшэнны выбух. Мы кінуліся туды, на кухню... На сценах і на стале раўнамерна размеркавалася субпрадуктовае клочча – сутачны паёк Хадзеева... Гуманітарны Кім, вядома ж, паставіў бляшанку на газ, папярэдне не адкрыўшы яе. Мне зрабілася смешна, а Кім, наадварот, зрабіўся сур’ёзны, нават неяк горка-сур’ёзны, і моўчкі зазбіраўся выходзіць. Часу гатаваць нешта новае не было, дый, мабыць, і не было чаго. Спазненне яму пагражала звальненнем з пасады, а гэтым ён не мог рызыкаваць. Адносіны ў нас ніколі не былі сентыментальнымі, але ў той раз у мяне зашчымела сэрца ад жалю.

– ***А якую такую пасаду ён займаў?***

– Пасаду вартаўніка, вядома! Былы палітвязень і дысідэнт ніякай іншай пасады не мог мець па азначэнні. Ды і вартаўніком яму ўладкавацца было ой як няпроста. Не бралі праз “вялікі розум” – дыплом аб вышэйшай адукацыі і скончаная аспірантура фармальна забаранялі вартаўнікоўства. Таму час ад часу, у перыяд беспрацоўя Кіму пагражаў крымінальны артыкул за тунеядства і высылка “за сто першы кіламетр”. Асабліва падчас Алімпіяды – тады Кім на валаску вісеў.

Аднойчы, як зусім стала горача, ён – трэба сабе ўявіць! – каб пазбегнуць прымусовай высылкі, рашыўся на “дабравольную”. Да мяне ў Швабы. Я тады быў мастацкім кіраўніком у клубе, а месца дырэктара ў ім было вакантнае. Дамовіліся, што ён сходзіць у лазню, прыбярэцца, і мы паедзем у Лагойскі аддзел культуры – “наймацца”. Я яму, як суіскальніку дырэктарскай пасады, строга-настрага загадаў пастрыгчы пазногці і абавязкова начапіць які-небудзь гальштук. Кім добрасумленна ўсё выканаў... Праз тыдзень сустрэліся ў Лагойску, і я замест каларытнага, гордага савецкага бамжа-інтэлігента, якім у жыцці выглядаў Кім Хадзееў, убачыў бамжа смірнага, пацярпелага ад жыцця, у сціраным пінжачку, блакітнай, таксама добра пасціранай, але непрасаванай кашулі і пры гальштуку! Ад усяго яго маскараду павявала сіроцкім жабрацтвам. У кабінеце загадчыка аддзела культуры Кім пачаў сціпла распавядаць пра свае магутныя здольнасці, магчымасці і вопыт “у драматургічнай рэжысуры”. Загадчык, цудоўны далікатны чалавек, музыкант па прафесіі, адразу “раскусіў” нашую авантуру і, не ўмеючы груба адмовіць, папрасіў Кіма прыехаць праз тры дні “на зацвярджэнне ў першага сакратара райкама партыі”. Па жаху, які стаяў у яго ў вачах, мы таксама зразумелі, што ён *зразумеў*, і болей не сталі выпрабоўваць лёс... Я часам спрабую ўявіць, а што калі б у нас тады выгарэла – і не магу. Адзін Бог ведае, чым бы гэта скончылася для Кіма і для мяне. Як бы я сумяшчаў увасабленне кімаўскай “драматычнай рэжысуры” з удзелам у штосуботніх бойках калгаснай моладзі, адзін Бог ведае. І якая роля была б пры гэтым у Кіма?.. Несумненна адно: экзатычная яго постаць на доўгія дзесяцігоддзі засталася б у народнай памяці Лагойшчыны.

– ***Ён распавядаў што-небудзь пра тое, як сядзеў?***

– Першая “ходка” ў яго за тое, што ва ўніверсітэце, дзе тады вучыўся, заклікаў Сталіна забіць, не больш, не менш. Дарэчы, маці ў Кіма была хоць і чэкісткай, але антысталіністкай, гэткая старая бальшавічка, з таго пакалення, якое ў выніку

трапіла на іклы Сталіну. А другі раз – гэта якраз тая гісторыя, пра якую піша Някляеў у сваім "Аўтамаце". Тады Кіму далі два гады. Якія ён успамінаў, дарэчы, як лепшыя гады жыцця. Пасля яго выхаду з турмы я з ім і пазнаёміўся – можа, недзе праз год.

– ***Кажуць, у апошнія гады жыцця Кім быў ужо не той, што ў маладосці.***

– Я так не лічу. Здароўе не тое, энергетыка не тая, але асабовая сутнасць, душэўны тэмперамент ані не змяніліся. У апошні раз я бачыў Кіма, ужо зусім аслеплага, ён прыязджаў да мяне развітвацца... Яго прывёз Грышка Трэстман. Помню, мы сядзелі на кухні і з Грышам па чарзе чыталі мае апавяданні. Калі я скончыў "Забойства на вуліцы з прысадамі", Кім – рэдка калі я такое бачыў – прыйшоў у нейкае ўмільнае захапленне, зазіраў у вочы і раз-пораз перапытваў: "Ну, як ты напісаў так***о***е апавяданне?! Як можна было так***о***е напісаць?!" А выходзячы, ужо ў дзвярах, урачыста абвясціў жонцы: "Женечка, поздравляю, Колька может умирать!" Маўляў, Колька сваю лебядзіную песню спеў і можа спакойна памерці. *(Смяецца.)* На жаль, "Женечка" не ацаніла пахвалу і нават крыху пакрыўдзілася. Калі яны сядалі ў машыну, я спытаў: "Кім, дык я геній?" На што ён ці то жартам, ці то сур'ёзна адказаў: "А ў цябе ёсць рысы геніяльнасці". Потым падумаў і дадаў: "Але яшчэ не Караткевіч!" Гэта была мая апошняя з ім сустрэча.

– ***А з Караткевічам Вы былі знаёмыя?***

– Я ўсё жыццё неяк інтуітыўна пазбягаў новых знаёмстваў. Мабыць, зараз думаю, маладушна баючыся абцяжарыць жыццё лішнімі адносінамі. Дарэмна, канечне. Ніколі ж потым не шкадаваў. Вось і з Караткевічам мяне хацелі пазнаёміць некалькі разоў, але я ўпарта адкручваўся. "Ну, што значыць – пазнаёміцца з Караткевічам? – аднекваўся. – Навошта мне фармальнае знаёмства *з Караткевічам*? Гэта як японцу сфатаграфавацца ля Калізея. Самамэта, не болей за тое". І ўсё адкладваў да лепшых часоў.

– ***Шкадуеце?***

– Раней, калі Караткевіч памёр, шкадаваў. А зараз, калі перарос яго гадамі, – чаго шкадаваць...

– ***Мне даводзілася чуць ад знаёмых Вам людзей, што вось ёсць такі таленавіты пісьменнік Мікола Захаранка, у якога даволі складаны лёс, праз які ён вымушаны жыць у правінцыі. Маўляў, нешта такое адбылося, праз што ён і апынуўся ў вёсцы...***

– Маўляў, КДБ з уладамі мяне туды загналі? *(Смяецца.)* Ведаю такую пра мяне пагалоску. Не, яны памыляюцца. У тым, што жыву ў вёсцы, родную савецкую ўладу я абвінаваціць не магу, а калі б яна гэтаму і спрычынілася – толькі "дзякуй" сказаў бы. Проста я ў горадзе не магу жыць *сапраўдным* жыццём. У мяне, відаць, у гэтым сэнсе нечага не хапае ў галаве. Як можна жыць у вялікім горадзе напоўніцу? Пачынаць і заканчваць дзень, тыдзень, пару года, год; засынаць, прачынацца, начаваць і... *адчуваць*! Сябры-мінчане дзівяцца з мяне, а я на ўсе вочы дзіўлюся з іх. Я нават дзецям сваім не веру, мне здаецца, што яны прыкідваюцца, нібыта іхняе жыццё ў Мінску і ёсць *іхняе* жыццё. Употай я ўпэўнены: каб жыць у Мінску і быць пры гэтым шчаслівым, трэба быць не зусім паўнацэнным. Такі вось я затоены вясковы расіст. *(Смяецца.)* Да таго ж у мяне з зорным небам свае адносіны, а якое зорнае неба ў Мінску? У горадзе я ніколі не змог бы пісаць. (А я чамусьці ўсё жыццё *не пісаў*, але ўсё жыццё меціўся туды, *дзе можна пісаць,* – смешна, праўда?*)* У вёсцы жыву, як у цэнтры сусвету. Невыпадкова ж не я да сяброў, а часцей яны да мяне прыязджаюць. І падазраю – яны едуць, каб даведацца, шт***о*** на самой справе адбываецца ў свеце. *(Смяецца.)* І не таму, што я такі разумны, а таму што *сяджу на высокай гары* і ўсё бачу. У гэтым сэнсе я шчаслівы чалавек.

– ***Дарэчы, вось і Рыгор Барадулін увесь час вяртаецца думкамі ў родную Ушачу і кажа, што ўсё жыццё пражыў у Мінску нібыта ў камандзіроўцы.***

– Ну, тады я ў больш выгодным становішчы, чым Барадулін: я ўвесь час дома.

***– З Вашага пункту гледжання, Мікалай Андрэевіч, стольны горад Мінск выглядае як правінцыя…***

– Во-во! Як да мяне, горад – правінцыя духа. Менавіта з майго *вясковаг*а пункту гледжання. Правінцыялізм – гэта не аддаленасць ад нейкага “цэнтральнага” месца, а ўспрыняцце гэтага месца цэнтрам адліку ўласных духоўных вартасцей. Мяне вельмі пацяшае ўмільны гарадскі снабізм, таму што паходжаннем ён... з вёскі. Карэнны шматпакаленны масквіч ніколі не будзе мераць сваё чалавечае значэнне маскоўскім паходжаннем. Укарэненая вясковая “ліміта” – вось у каго на знамені герб месцапражывання! Мае сябры карэнныя мінчане, гм... – чамусьці ў большасці яўрэі – пры мне нават крыху саромеліся сваёй другаснасці адносна “прыроднай стыхіі”, да якой, на іх думку, я належаў у большай ступені, чым яны. Некалі паэт Грыша Трэстман у маёй прысутнасці наогул пакутваў комплексам непаўнавартасці праз тое, што мінчанін. Жартам, канечне.

А вось сябры-вяскоўцы, з досыць высокімі сацыяльнымі каардынатамі ў Мінску, тыя, што не разумеюць, чаму я сяджу ў вёсцы... Я ў думках пасяляю іх туды, адкуль яны выйшлі, і экстрапалірую іх лёсы назад у мінулае. Кім бы яны былі? І вельмі часта са здзіўленнем бачу – нікім. Іх упрыгожвае *месца* – што само па сабе добра. Але не дзіва, што яны не разумеюць.

***– Калі Вы прыехалі ў Швабы?***

– У 1974-м. Але да гэтага чатыры гады працаваў у вясковай школе на Гомельшчыне.

***– У Вас жа быў тады выбар: жыць і працаваць ці на Лагойшчыне, ці на Гарадзеншчыне.***

– Калі дакладна, дык на Смаргоншчыне. І мяне туды цягнула, бо геапалітычна там мне было больш утульна. Але ж не ў самой Смаргоні мне прапанавалі настаўнічаць – адтуль трэба было яшчэ на аўтобусе піліць і піліць. У такім выпадку Мінск стаўся б для мяне недасягальны. Я выбраў Лагойшчыну, каб быць бліжэй да Мінска.

***– А навошта Вам было “бліжэй да Мінска”?***

– Калі казаць сур’ёзна, горад – гэта найперш прытулак культуры. Менавіта ў гарадах генерыруецца культура чалавецтва, па вёсках культура *як сістэма* не захавалася б. У Мінску я свой сярод сваіх, а ў вёсцы, у вачах мясцовага люду, і дагэтуль не тое, што чужы, але ўсё ж нейкі крыху экзатычны суб’ект.

***– Вашы браты па рамяству і па паходжанні жывуць у Мінску, працуюць, пішуць пра беларускае жыццё, не маючы асаблівых праблем з “натуралізацыяй”…***

– Не маючы праблем... Яшчэ дагэтуль, у большасці выпадкаў, беларускі пісьменнік – гэта той, што прыехаў з вёскі ў горад, уступіў у Саюз пісьменнікаў і атрымаў кватэру. І хай ён піша таленавіта, у тым ліку і на гарадскі матыў, але не загаілася яшчэ пупавіна адрыву ад вёскі. У нас што жывое – толькі парасткамі з глебы. Пісьменніцкія лёсы дагэтуль хімерычныя. Каб прафесійна далучыцца да кніжнага пісьменства, трэба вызваліцца з вясковага палону, пакінуць родныя сцяжынкі, убіцца ў горад і тады ўжо адтуль вяшчаць пра беларускае жыццё. З горада – пра вёску! Таму што да апошніх часоў беларускае жыццё мела вясковае начынне. А нацыянальна-беларуская ўласна гарадская літаратура толькі нараджаецца. Таму ўва мне варушыцца лёгкі скепсіс адносна пісьменніка, які, з’ехаўшы з вёскі, сядзіць у тым жа Мінску і ні ў жыцці, ні ў творчасці не можа пазбавіцца ад дваістасці свайго становішча. Здаецца, гэта Міхась Стральцоў пісаў пра сена на асфальце?.. Расейскаму пісьменніку ў гэтым сэнсе прасцей.

***– Чаму, як утварылася такое адрозненне ад суседняй братняй літаратуры?***

– Усё матухна гісторыя. У Расіі быў час усталявацца мастаку ў горадзе, там, калі ласка, як прыклад – Срэбраны век, узрослы на натуральнай гарадской глебе. Гэта не ў нас, а ў Расіі мог з’явіцца Пецярбург Дастаеўскага і Гогаля, ці Масква Гіляроўскага.

Наогул кажучы, у Беларусі літаратура не да канца яшчэ *кніжная*, бо ў параўнанні з рускай спазнілася, як мінімум, на стагоддзе. Беларуская славеснасць каранямі яшчэ блізкая да вуснай, фальклорнай традыцыі, літаратурна-кніжная традыцыя шмат у чым запазычаная. Я не кажу пераймальная, але не зусім яшчэ аўтэнтычная. У свой час запазычанай была і руская кніжная літаратура, XVIII стагоддзе фармавалася пад уплывам у асноўным французскай і англійскай літаратур. Руская літаратура XVIII стагоддзя – гэта зусім яшчэ кволая літаратурка: Княжнін, Сумарокаў... Аднак у XIX стагоддзі яна, асіміляваўшы і арганічна засвоіўшы архітэктоніку і законы “кніжнага жанру”, зрабілася ўласна кніжнай і пачала існаваць менавіта як нацыянальная. У Беларусі не было XVIII стагоддзя ў гэтым сэнсе. І хоць беларуская літаратура згодна спрыяльнаму патрабаванню гістарычнага часу і пад культурна-прымусовым уплывам суседніх – найперш рускай і польскай – літаратур, даволі хуценька зрабілася кніжнай, аднак яна і дасюль яшчэ дарэшты не асімілявалася.

***– А сучасныя маладыя? Пра іх наўрад ці скажаш – фальклорныя ці вясковыя…***

– Так, літаратурны працэс ідзе, не спыняецца, усталёўваецца новы светапогляд, новая эстэтыка, напрацоўваецца новая традыцыя. На жаль, дасягненням у гэтай справе спадарожнічаюць выдаткі. Маладая ўпэўнена кніжная паэзія часам цесна суседнічае з другаснасцю, губляючы фальклорна-славянскую шчырасць, а засвоены ўрбанізм амаль мяжуе з касмапалітызмам. У нас ужо няма таго часу, які мела Расія, каб ужыць гэта на сваю нацыянальную карысць. Я ж кажу – спазніліся. Ды гэта ўжо гаворка не пра літаратуру.

Сярод маладых назіраю шмат таленавітых. Але шкада, што, аддаючы даніну тлумнаму нашаму часу, многія апынаюцца ў палоне гэтак званага постмадэрнізму ды іншых плыняў, як яны там сябе называюць. Вось дзе воля графаманству! Гэта ўжо не дэкаданс, які таленавіта і плодна апяваў дэпрэсію – нават катастрофу – душы і грамадства. Гэта амаль фізіялагічная дэгенерацыя чалавечага духу і таленту, калі немач і бязмоўе ужо не хаваюцца сарамліва, а агрэсіўна выстаўляюцца напаказ, нечым нагадваючы мне бядотных гомасексуалаў, патрабуючых ушанавання і прылюдных шэсцяў. Апалагеты і канструктары постмадэрнізму не бачаць, як яны са сваімі канструкцыямі і маніфестамі жаласна выглядаюць на фоне двухтысячагадовай хрысціянскай культуры. Бездараў не шкада, бяздарнасць заўсёды ўладкоўваецца пад рознага кшталту маніфестамі. Шкада таленавітых, ім давядзецца марнаваць час і сілу на вызваленне ад аблуднага ілжэвучэння. І яшчэ не факт, што вызваляцца.

– ***Калі Міхась Скобла зрабіў анталогію “Краса і сіла”, адзін знакаміты наш паэт сядзеў пасля і лічыў, колькі ў каго вершаў у той анталогіі. Я не магу ўявіць Вас за такім заняткам.***

– Чаму, мне таксама было б цікава, як Скобла, харошы паэт і знаўца, ацэньвае маю асобу. Можа, я таксама лічыў бы, калі б Міхась наогул уключыў мяне ў свой спіс гонару.

А той знакаміты паэт, відаць, нездарма падлічваў. Мабыць, яго Скобла бедна прадставіў, вось ён і ўзраўнаваў. Або закамплексаваў...

Згаджацца, што я сярэдненькі, ну, ніяк не выпадае паэту. Гэта як акцёру на сябе казаць, што я, маўляў, акцёрышка так сабе. Такая акцёрская сціпласць пакажа на яго прафесійную няздатнасць. Паэт – гэта вастрыня, гэта індывідуум. У ідэале кожны павінен употай лічыць, што ён – першы.

– ***А калі разумееш, што таленту бракуе?.. Калі быў жывы Анатоль Сыс, дык Барадулін разам з Някляевым казалі, што першыя не яны – Сыс першы. Гэта ж не пасмяротна было сказана.***

– Барадулін з Някляевым велікадушныя людзі. Тым не менш у падмурку любога мастацтва ляжыць суб’ектывізм, інакш было б не мастацтва, а сацыяльная з’ява. Мастацтва – рэч індывідуалісцкая. Сярод паэтаў, як і сярод мастакоў, заўсёды былі і будуць спрэчкі, хто першы. Гэта неабходныя “выдаткі прафесіі”, не трэба звяртаць і ўвагі. Хай чалавек лічыць сябе геніем, хай гэта выглядае смешна, але мяне гэта не абурае. Аднак толькі ў выпадку, калі чалавек – мастак. Я абураюся, калі гэта кажа графаман. Бо ён будзе рэалізоўваць сябе за кошт іншых – таленавітых.

***– А Вы, Мікалай Андрэевіч, які паэт? Першы?***

– Не.

***– Але ж Вы толькі што самі сказалі, быццам кожны паэт павінен лічыць сябе першым.***

– Дык першы ж Сыс! *(Смяецца)*.

***– А-а, ну, калі так... Ведаю, што Вы некалі нават ліст Сысу напісалі...***

– Аднойчы ў “ЛіМе” я выпадкова натыкнуўся на такі шэдэўр:

Начаваў я ў вуллі
пад крылом у пчалінае маткі,
            пчолы казкі гулі,
            трутні ноч
казыталі мне пяткі,
            а пад раніцу твар
            спаласнуўшы пчаліным гавенцам,
дзе мядовы аўтар,
перад маткаю стаў на каленцы,
каб дазволіла мне
пад крылом да вясны зімаваці.
Маці ўмёрла ў мяне,
хоць на зімку пабудзь маёй маці.

Тут цэлая касмагонія! Па адным гэтым вершы можна было меркаваць, што яго аўтар – паэтычная з’ява, а не проста паэт. Ён ходзіць па паэзіі, як па роднай хаце, – смела, вольна, нязмушана... Я тады не вытрымаў і напісаў яму захоплены водгук. Мне потым Галубовіч казаў, што Сыс, які даўно ўжо знаходзіўся ў сваім бядотным стане, хадзіў з тым лістом і ўсім паказваў – так рады быў. Я нават падазраю, што і свой зборнік ён назваў “Пчаліная матка” ці не пад уплывам маёй падтрымкі? Паэт жа не бачыць сам сябе.

***– А асабіста Вы сустракаліся?***

– Я бачыў яго толькі аднойчы, на апошнім перадраскольным пісьменніцкім з’ездзе, які вёў Чаргінец. Сыс, здаецца, з Федарэнкам, на хвіліну зазірнулі на “форум”, не прысядаючы. Толік Сыс акідваў нецвярозым позіркам публіку і з замілаваннем на ўсю залу усклікваў: “Ус-сіх ведаю!”

Пісьменнікі і пісьменніцы сядзелі, сарамліва апусціўшы галовы. І было ўражанне, што саромеліся не яго, а сябе. Самае ганаровае, што мелася ў кожнага – іх пісьменніцтва – не прыніжалася, не, а раўнялася з гэтым п’яным юродзівым, які прытым як пісьменнік не ніжэйшы, а роўны і вышэйшы за іх. Я і сам тады апусціў галаву ад шкадобы і сораму...

***– Калі вярнуцца да пачатку нашай размовы: вершы Вы пачалі пісаць па-руску, а ці ўжывалі ў маладосці беларускую мову?***

– Я вучыўся ў рускай школе. Чамусьці аднойчы ў восьмым класе рашыў паразмаўляць на беларускай мове. Гэта зусім не азначала – на мове бацькоў! Сам размаўляў і сяброў прымусіў. Гэта была экзотыка, бо размаўляць на *беларускай* мове сярод стыхіі жывой гаворкі ў палескіх Васілевічах яшчэ смяшней, чым, пажыўшы на канікулах у горадзе, першыя колькі дзён па прыездзе дамоў “русачыць”. Апошняму былі прэцэдэнты ў дашчэнту зрусіфікаваным дарослым свеце. У сем’ях і ў побыце гэта

высмейвалася, але ўспрымалася як знаёмы гумарыстычны казус, як распаўсюджанае прытворства, ступень якога залежала ад густу і розуму прытворшчыка.

Але з беларускай *літмовай* я тады натыкнуўся на непераадолены і да сёння ў беларускай глыбінцы бар'ер. Так званая беларуская літаратурная мова, заснаваная на мінска-маладзечанскім дыялекце, – гэта, па сутнасці, калі ўжывую, і ёсць мінска-маладзечанская мова. Як ужывую карыстацца ёю на Палессі? Як сёння нацыянальна свядомаму калінкавіцка-рэчыцкаму хлопцу размаўляць з роднай *маткай* на мове мінска-маладзечанскай *маці*?.. З якой нагоды?

Адзін мой сябар пісьменнік, зямляк-васілёвец штогод у Велікодныя дні тэлефануе і вітаецца: "Хрыстос васкр***о***с!" Калі б я ў нашым з ім дзяцінстве вітаўся так на вуліцы ў Васілевічах, мяне б палічылі прыдуркам ці нават блазнам-кашчуннікам. У Васілевічах – Хрыстос васкр**э**с! Але мой нацыянальна-свядомы пісьменнік *не чуе* фальшу.

Моўная няшчырасць – гэта праблема кожнага *не мінска-маладзечанскага* мастацкага літаратара, але пра гэта ніхто ў нас не гаворыць. Нават мова герояў Мележа мусіць мімікрыраваць пад максімальна набліжаныя да літаратурнай мовы герояў Купалы і Коласа. Так гістарычна сталася, што ў сучасным выглядзе літаратурная (кніжная) мова – літаратурная і кніжная ў многім *па дамоўленасці*, а не толькі па культурна-духоўнаму праву. Няхай пацвердзіць святы Кірыла Тураўскі.

Не хачу, каб мяне палічылі моўным сепаратыстам. Усім не дагодзіш, і беларуская літаратурная мова павінна быць стырнавой мовай нацыі. Без яе не будзе нацыянальнай літаратуры і не будзе перспектывы ў нацыянальнай моладзі. І калі ўсё ж спадзявацца на тое, што беларуская мова некалі будзе сродкам зносін беларускага люду, дык без літаратурнай мовы – унармаванай, кніжнай, крыху ўжо мёртвай – не абыйсціся. А раптам цемра адыйдзе і маладое пакаленне выжыве і падымецца? У Бога цудаў многа. І калі ў фантастычных мроях спадзявацца на Адраджэнне, дык толькі спадзеючыся на адзінае гучанне літаратурнай мовы, якая з цягам часу набудзе і свой дух, і жывасць, і натуральнасць ва ўсіх рэгіёнах. Мова ж мае ўласцівасць ажываць.

– ***А калі Вы пачалі пісаць па-беларуску і, як Вы кажаце, з якой нагоды?***

– У мяне хапала густу разумець, што я ўсё ж не валодаю ў поўнай ступені *стыхіяй* рускай мовы. А пісаць па-беларуску вымагала жыццё ў беларускамоўным культурным асяроддзі і ўсведамленне свайго асабістага месца ў ім. Я ж не мог усур'ёз прэтэндаваць на нейкае месца ў рускай літаратуры, а з часам зразумеў, што і *права* не маю. А да гэтага зусім не была для мяне відавочнай ісціна, што беларускі паэт павінен пісаць па-беларуску. Хоць спачатку па-беларуску пісалася вельмі марудна, бо руская і беларуская – розныя мовы, розныя энергетыкі. Я й сёння, калі хачу сказаць нешта злое, вострае ці надта "разумнае", аўтаматычна пераходжу на рускую.

– ***Між іншым ведаю, што Вы некалі пераклалі на беларускую мову паэму Андрэя Вазнясенскага "Ланжумо", аднак гэты пераклад, зрэшты, не быў надрукаваны. У якім годзе Вы яго зрабілі?***

– Здаецца, у 1968-м. Яго перадалі сябры на рэцэнзію самому Рыгору Барадуліну. Мяне тады ў Мінску не было, і не ведаю, што сказаў Барадулін. Праз паўгода я з ім сустрэўся на рагу праспекта і Камсамольскай, набраўся смеласці, падышоў і назваўся. Барадулін неяк абыякавата сказаў пра пераклад, заўважыў, што ў ім ёсць русізмы, і... папрасіў прыносіць яму вершы. На тым і разышліся. А праз нейкі час у друку з'явіўся барадулінскі пераклад "Ланжумо". Яны сябравалі з Вазнясенскім, і Барадулін па праву быў ледзь не афіцыйным у нас перакладчыкам Вазнясенскага.

– ***І ўсё? Вы не пацікавіліся лёсам свайго перакладу? Не спрабавалі, улічыўшы заўвагі, дапрацаваць яго?***

– Ды не.

– ***А вершы свае Рыгору Іванавічу аднеслі?***

– На жаль, таксама не.

– ***Але чаму?***

– *(Уздыхае.)* Такі тады быў мой “творчы метад”. Сказаць па праўдзе, вершаў, годных вачэй Рыгора Барадуліна, у мяне на той час і не было. Я гэта сам разумеў. А дапрацоўваць пераклад штосьці ў галаву не прыйшло.

***– А як думаеце, шасцідзясятнік Вазнясенскі сапраўды бачыў правадыра рэвалюцыі і стваральніка савецкай улады такім, якім намаляваў у паэме “Лонжюмо”?***

– Не ведаю, як пазней, а тады Вазнясенскі быў апантаны прыхільнік Леніна. Шасцідзясятнікі ж, яны як лічылі: Сталін – злачынца, а Ленін няздзейснены рамантык камунізму, маўляў, калі б не Сталін... Вось як пісаў Вазнясенскі:

Ленин – самое чистое деяние,
Ни насколько не замутнен.
Уберите Ленина с денег.
Он для сердца и для знамен.

Калі ён чытаў гэта ва Львове – мароз па скуры прадзіраў. Паэт-трыбун – так ён тады ўспрымаўся. Між тым сам верш ніяк мяне не пераканаў, што Ленін – “самое чистое деяние”. Маё ўспрыняцце Леніна было іншым, ды і ў паслухмяным народзе ўжо даўно не было пакланення правадыру. Вось анекдот таго, а мо ранейшага часу: дзед і баба трапілі ў маўзалей. Дзед кажа бабе: “Ты ж маўчы, баба, хаця нічога не ляпні”. А баба паглядзела на мумію, зажурылася, уздыхнула дый кажа ўголас: “Ленінка, Ленінка, і сам усох, і нас усушыў”. Бабу хоп пад мікіткі і павялі. Дзед ідзе ззаду і кажа: “Я ж табе казаў: не чапай чорта!” І дзеда – павялі...

У нас у сям’і, можа, па асцярожнасці, можа, па інтуітыўнай хрысціянскай чысціні дзецям было забаронена прамаўляць “Ленін” і “Сталін” як непрыстойнасць, як “не ў хаце кажучы”. Мне і сёння пры выпадку, калі даводзіцца прамаўляць “табу” дзяцінства, міжволі хочацца замяніць яго якім-небудзь эўфемізмам.

– ***Тады чаму ўзяліся перакладаць менавіта “ленінскую” паэму?***

– Трэба помніць, што, нягледзячы на нечуваную вядомасць, Вазнясенскі заставаўся напаўлегальным, у вачах уладаў, паэтам. А паэма “Лонжюмо”, нягледзячы на мастацкую шчырасць, з’яўлялася своеасаблівым рэверансам у іх бок. А таму і мой пераклад меў шанс быць надрукаваным у Беларусі. Усё ж такі я быў хітраваты малады перакладчык. Ну, але дзякуй Богу, мой грэх па-бацькоўску ўзяў на сябе Рыгор Іванавіч.

– ***Барадулінскі пераклад Вам спадабаўся?***

– У ім адчувалася рука моцнага майстра. Але мне здалося, надта вольна Барадулін абышоўся з рытмамі Вазнясенскага. Я сабе такіх вольнасцей па малалетству не дазваляў.

– ***Апроч Вазнясенскага Вы нікога больш не перакладалі?***

– Пятра Кошаля перакладаў. Пецьку падабалася, казаў: “Хорошо, здорово! А у меня скверно”. *(Смяецца.)* Яшчэ некага... Нават адзін кашчунны верш Антона Дэльвіга пераклаў. Помню першую страфу:

Аднойчы ранкам бог спрасна
Дыміў цыгаркай ля вакна,
І каб з нудоты чым заняцца,
Ён праз трубу стаў углядацца
У той забыты ім куток,
Дзе свеціцца зямля здалёк...

– ***Пісалі па-беларуску, а ў побыце на якой мове размаўлялі?***

– Гэта маё вечнае шкадаванне і праблема. У мяне нават вершык ёсць:

Язык мой раздвоенный, как у змеи.
О, как двуязычие мучит.
Оно двоедушию учит... і г. д.

– ***А Вам самому даспадобы Ваша проза?***

– Я магу асцярожна выказаць нейкую сваю ўпэўненасць у літаратурнай вартасці маіх апавяданняў. *(Усміхаецца.)* Добрыя людзі мае вершы хваляць, але свайго цвёрдага ведання, што яны (вершы) таго вартыя, у мяне няма. А апавяданні нічога сабе, я іх, бывае, сам хвалю. Аднак чаму хвалю? – зноў таму, што добрыя людзі хваляць. Першае ж апавяданне, якое аддаў у "Полымя", адразу было названа лепшым апавяданнем года. Дый астатнія, што прыносіў у рэдакцыю, успрымаліся з прыяззю.

– ***Але Вы гаворыце пра "Полымя" часоў Сяргея Законнікава?***

– Так, усе "палымянскія" апавяданні былі надрукаваны пры Сяргею. Пры Мятліцкім я ўжо нічога туды не аддаваў. Ні з якіх там ідэйных меркаванняў – проста не было чаго аддаваць.

– ***Ці можна гаварыць пра прататыпавасць Вашых герояў і сюжэтаў?***

– Назваць канкрэтныя асобы немагчыма, мабыць, мае героі – здані, прычым здані фальклорныя. Усё ж маё дзяцінства дый усё маё жыццё было фальклорна-песеннае, у гэтым сэнсе я даволі ўтульна ўладкаваўся – пражыў у песенным свеце. І вось гэтыя здані дзяцінства – дзядзькі, цёткі, іх гісторыі, лёсы, іх васілевіцкая гаворка – неяк праступілі ў маіх апавяданнях. Я празаік не празаічны – больш паэтычны... Скачу не ад рэалій побыту, а ад яго гучання.

Дарэчы, у адным чыімсьці інтэрв'ю з Някляевым я знайшоў нешта роднаснае: ён кажа, што пакуль не знойдзе інтанацыю, датуль пісаць не можа. Гэтак і я. Сто разоў будуць распрацаваныя сюжэт і характары, будзе відавочнай мараль – будуць ужо ўсе чыннікі, але пакуль я не *ўнюхаю* інтанацыю, тэмпарытм, я – амёба, я – бездар. А як толькі фраза затанцуе, усё – апавяданне гатовае, я толькі сяджу яго *прапісваю*. Я адно смакую інтанацыю – апавяданне пішацца само...

Зараз падумаў: калі мы з Някляевым кажам пра адно і тое незалежна адзін ад аднаго, значыць, абодва мы непадробныя мастакі! *(Смяецца.)*

– ***Наколькі ведаю, Васіль Быкаў цалкам распрацоўваў сюжэт – ён ведаў, з чаго пачне і чым твор скончыцца. Уладзімір Някляеў, калі пачынае пісаць, не ведае, што будзе далей – пішацца й пішацца. А Вы?***

– Быкаў – раманіст, а Някляеў – я ж кажу – празаік "паэтычны". Тое ж і ў мяне – як, напрыклад, я мог адпачатку ведаць сюжэт апавядання "Насланнё"? Я толькі заключны сказ ведаў: «З захаду зноў ішла навальніца, пачынаўся дождж, і шафёр уключыў "дворнікі"» – гэта ўжо гучала ў галаве, я да гэтай фразы ўсё і вёў. Што ж тычыцца апавядання "Усё будзе добра", дык гэта жоначка "прынесла" мне яго з крамы. Там, у краме, жанчыны абураліся ўчынкам дзяўчынкі Тані, маёй вучаніцы, дарэчы. "От, гадасць! – казалі яны, – з двоек не вылазіць, а людзей прадае". Там ужо была інтанацыя! Як было не напісаць апавяданне, пачуўшы фразу: "Што ты рабёнка б'еш? Ты ў сельсавет заяві, а рабёнка біць не імееш права". *(Смяецца.)* Усё было гатовае! Усё было ў букеце: іронія, сур'ёзнасць, замілаванасць, нават трагедыя. Заставалася толькі запісаць.

– ***Каму Вы ў сябе ў вёсцы першаму чытаеце тое, што напішаце? Жонцы Яўгеніі Міхайлаўне?***

– Як ні дзіўна, менавіта ёй. І калі яна ўхваляе, тады я ўпэўнены ў напісаным, нават калі самому не надта падабаецца. У яе інтуіцыя моцная. Тое ж апавяданне "Зайбоства на вуліцы з прысадамі", якое так спадабалася Хадзееву, я не задумваў як апавяданне. Проста ў мяне зламалася друкарская машынка, і я пачаў выпрабоўваць новую – друкаваў плынню свядомасці. Бяздумна адтарабаніў некалькі сказаў, перачытаў і заўважыў, што атрымліваецца нешта абяцальна цікавае. Паказаў жонцы, але ёй бязглуздзіца не спадабалася. Я стаў жартам "паляпшаць". Гляджу:

і сапраўды нешта афармляецца. Зноў прачытаў. Яна, не ведаючы, што я гуляюся, успрыняла прачытанае ўжо як *апавяданне*. Праўда, моцна раскрытыкавала. Тады я сеў і ўсур'ёз напісаў яго.

***– А Вам, Мікалай Андрэевіч, не шкада, што маглі б напісаць больш, але не напісалі?***

– Вось для мяне загадка: што значыць – многа напісаць і мала? Але я шмат якіх рэчаў, як цяпер кажуць, не даганяю. У дзясятым класе разумеў астраномію, затое, у адрозненне ад маіх аднакласнікаў-двоечнікаў, “не даганяў”, што такое – “клапаціцца пра неперарыўны працоўны стаж”, напрыклад... Што значыць – многа напісаць? Мастацтва не мераецца кілаграмамі... Верш Паўлюка Багрыма: “Зайграй, зайграй, хлопча малы” мне даражэй за ладную падборку ці кніжку шмат ой якіх добрых паэтаў! Здавалася б –прымітыўнае версіфікатарства, аднак нейкая няўлоўная слёзная нотка ёсць у інтанацыі... (Праўда, кажуць, што гэта ўжо не Багрым напісаў, ды ўсё роўна.) А гэтыя паліграфічныя меркі: маленькая кніжачка, таўсценькая кніжачка...

Апавяданне – гэта штучны тавар. Кожнага разу, калі саджуся пісаць, хачу атрымаць філігранна зробленую рэч, найперш рэч мастацкую. Тэма, ідэя, маральная нагрузка – усё гэта другаснае. Апавяданне толькі тады становіцца апавяданнем, калі яно само па сабе з'ява. Я маю на ўвазе вынайдзеную форму, вымаўленую мову, агучаную інтанацыю і – абавязкова – прысутнасць аўтарскага зроку. Калі гэта здзейснена, тады гэта завершаная рэч і прадмет мастацтва.

Аднак пісаць пры такіх патрабаваннях апавяданні адно за адным не хапае ні сілы, ні жыцця. Дый калі б пісаў болей, што б я з сябе *большага* выціснуў як мастак? Не Караткевіч жа.

***– Такім чынам, цягі да будзённай літаратурнай працы ў Вас няма?***

– Я баюся чыстага ліста паперы. Мне вельмі цяжка сябе прымусіць сесці за пісьмовы стол і нешта пачаць, не ведаючы, што з гэтага атрымаецца. У мяне звышкрытычны падыход ужо да першага сказа. Я зняважальна, з нейкім зларадным гумарам гляджу на свае патугі і высілкі. Гэта потым, калі яно прапішацца-выпішацца і часткай цэлага адчуецца, калі ўсё зайграе і вынік засвеціць, тады толькі крыху супакойваюся. А так увесь час пераадольваю знявагу да самога сябе. Гэта мне заўсёды вельмі шкодзіла.

Усе сусветныя сюжэты ляжаць у інтанацыі, а інтанацыя – у душы мастака... Я скептычна стаўлюся да такога крытычнага аналізу пісьменніцкай дзейнасці, які ўжывае звароты тыпу: *пісьменнік задумаў, пісьменнік захацеў паказаць*. Па факту, магчыма, яно і так, але, з іншага боку, так не бывае – проста сеў ды задумаў! Перад тым нешта абавязкова павінна *нарадзіцца*. У пісьменніка *нарадзілася* задума, *нарадзіўся* сюжэт – так будзе правільней сказаць.

***– А ў Вас зараз нічога не нараджаецца?***

– Зараз у мяне столькі ўсяго гатова нарадзіцца, але паколькі ўсё гэта жывое, дык яго трэба яшчэ прылашчыць, гэта значыць, патраціць шмат энергіі, якой у мяне няма. Гэта як з найлепшым сябрам некалькі гадоў не бачышся, а сустрэнешся – і не ведаеш, пра што гаварыць. І даводзіцца адаптавацца, прыцірацца, знаходзіць агульную тэму для размовы. Так у мяне з літаратурай: сюжэты і інтанацыі намацаныя, але надта ўжо я аддаліўся ад іх, дый няма стымулу. Раней шмат якія стымулы яшчэ так-сяк дзейнічалі. Напрыклад, жаданне пабачыць апавяданне надрукаваным...

***– Гэта раней?***

– Раней... Стымулам была і нейкая няўцямная надзея на тое, што пішаш не ў стол, не на плоце, а ўліваеш сваё ў яе вялікасць літаратуру. Але сёння гэта ўжо не дзіва. Бо сама літаратура ў крызісе, яна сама сябе не адчувае... Зараз шмат хто не піша па гэтай прычыне, па прычыне бесперспектыўнасці – не адзін я. А ёсць і больш глыбокія прычыны, якія звязаны ўжо са станам чалавечай цывілізацыі. Тыя функцыі, якія літаратура арганічна выконвала як абавязковыя і неад'емныя, цяпер сышлі на

нішто. Перарвалася повязь часоў. Я гэта адчуваю... Гэта ў XIX стагоддзі можна было пісаць з упэўненасцю, што калі *добра* напісана, дык будзе з цікаўнасцю чытацца і ў XX-м. Існавала пераемнасць культуры. А цяпер? Ці будуць мае апавяданні цікавыя праз дзесяць гадоў, прынамсі, маладым удзельнікам маладой літаратуры? – не ведаю, не ўпэўнены. Яны ўжо сёння могуць быць ім нецікавыя, і не праз літаратурную састарэласць ці занядбанасць маіх тэкстаў, а праз адсечанасць часу. Цяпер, у шырокім сэнсе, маладым трэба думаць, як выжыць. І ўсяму свету трэба думаць, як выжыць.

Кажуць, творы праходзяць выпрабаванне часам. Можа, так раней і было. А цяпер час такі нефундаментальны, што выпрабоўвацца ім – прыніжэнне для мастака.

Канечне, я ўтрырую, не так усё рэзка абразаецца. Ёсць яшчэ і чытачы, і пісьменнікі, і жывая сувязь паміж імі. Але раней мы былі звернуты да свету, мы былі на адным полі з Пушкіным, Тагорам, Сафоклам, Шэкспірам. Будучае было шматабяцальнае для нас. А зараз мы ўсеаднымі, даволі тлумнымі, сцежкамі топчамся...

– ***Дарэчы, ведаю, што пра Вас ёсць артыкул у кнізе-энцыклапедыі "Памяць", прысвечанай Лагойскаму раёну. Вы вядомы чалавек на Лагойшчыне?***

– Мабыць-такі, вядомы. Але, на жаль, не так, як Купала ці Гілевіч. Некалі стварыў дзіцячы фальклорны літаратурна-музычны гурт "Сваціца", які многіх у Беларусі ўражваў. Дык, можа, таму? А іншыя ведаюць па несамавіта-вясёлых прыгодах маладосці... Не ведаю, чым больш я там вядомы.

– ***Літаратурна-музычны... Музычны – зразумела, бо дзеці спявалі. А чаму яшчэ і літаратурны?***

– Яны ў мяне і вершы пісалі. І друкаваліся. Пераважна ў раёнцы, але было і ў рэспубліканскіх выданнях, і на радыё гучалі. Мікола Чарняўскі цэлую радыёперадачу пра маю "Сваціцу" зрабіў. З іх вершаў можна было б кніжку выдаць, калі б гэта сёння было магчыма...

– ***А Вы калі-небудзь пра нешта шкадавалі, што зрабілі так, а не гэтак?***

– Столькі глупства зроблена! Адзінае, што подласці не рабіў і не здраджваў. Ды і то, апостал Пётр зразумеў, што здрадзіў Настаўніку, ажно калі трэці певень прапеў... Мой певень пакуль што маўчыць, то і дзякуй Богу.

– ***А што новых зорак у небе не адкрылі, не шкадуеце?***

– Адну зорачку я якраз адкрыў. Восеньскай ноччу ў 1974-м зірнуў на неба – а ў сузор'і Лебедзя "лішняя" зорка! У такіх выпадках у астраномаў прынята адразу тэлеграму даваць, а я пісьмо ў Маскву, у Інстытут імя Штэрнберга адаслаў, ды і то праз два дні. І атрымаў адказ: "Уважаемый Николай Андреевич, Вы действительно наблюдали вспышку Новой..." І далей ішоў спіс тых, хто таксама гэта бачыў і адразу даслаў тэлеграму: першымі былі два японцы, затым ішоў нехта з Сібіры... Так што сваю зорачку я ўсё ж адкрыў. Але, як і ў літаратуры, не надта парупіўся аб прыярытэтах...

– ***І ўсё ж удакладню напрыканцы: наколькі разумею па Вашым настроі, Мікалай Андрэевіч, наўрад ці Вы збярэцеся напісаць нешта новае?***

– А ў мяне нічога не змянілася з узростам: усё жыццё я адчуваў сябе літаратарам, гэта быў перманентны стан душы. Пры гэтым я ніколькі не клапаціўся, каб сядаць за пісьмовы стол і гэта пацвярджаць. Я проста ведаў, што я – літаратар. Я і сёння не хачу абцяжарваць сябе ніякімі планамі і тэрмінамі. Абавязкова нешта яшчэ напішу, *калі захочацца*.

*P. S.* З Міколам Захаранкам мы гутарылі ў маі мінулага года, а ў снежні здарылася непапраўнае – памёрла яго жонка Яўгенія Міхайлаўна, тая самая "дзевяцікласніца з суседняга Ведрыча"... Прыміце спачуванні, Мікалай Андрэевіч. І трымайцеся.

Яўген Лецка



…дык што перад намі: сапраўды рэальны гістарычны факт выяўлення савецкімі спецслужбамі змовы супраць СССР з мэтай распачацця вайны ці распрацаваная ў засценках НКВД выдумка, зробленая з мэтай правесці масавыя рэпрэсіі і пакараць бязвінных людзей?..

# На чужыне палеглыя

***Раздзел з новай кнігі***

Апошнім часам даводзіцца шукаць сляды землякоў, ураджэнцаў Наваградскага краю, часта людзей неардынарных, жыццёва і творча актыўных, большасць з якіх, на жаль, не здолелі напоўніцу выявіць свой чалавечы патэнцыял і загінулі ці былі знявечаныя ў крывавых вадакрутах часу, на якія асабліва шчодрай была першая палова дваццатага стагоддзя. Тут і раней нечуваныя на ахвяры Першая і Другая сусветныя войны, не менш трагічная Грамадзянская, у дадатак яшчэ і савецка-фінская вайна, ды дзве савецка-польскія ў варыянце пачатку 20-х, а потым канца 30-х гадоў.

У перапынках паміж гэтымі бойнямі мірнага і бясхмарна-шчаслівага жыцця і блізка не было. Краіна Саветаў трымала ўвесь працоўны народ у знясіленым і паўгалодным жабрацтве, а асноўны патэнцыял скіроўвала на падрыхтоўку да новых войнаў, у першыя паслярэвалюцыйныя гады марачы пра Рэвалюцыю сусветную, а потым, калі з гэтага нічога не атрымалася, пра пашырэнне савецкай тэрыторыі за кошт сумежных краінаў. Вайна, такім чынам, насамрэч працягвалася і ў мірныя гады, але цяпер ужо з уласным народам. Не менш

крывавая і трагічная вайна, асабліва ў гады трыццатыя, роўнай якой на ахвяры ў сусветнай гісторыі знайсці цяжка...

На кнігу Валерыя Чарапіцы і Івана Бойкі «Чтобы помнили... (Уроженцы Гродненщины – жертвы политических репрессий в СССР (1937-1938)» я выпадкова натрапіў у сталічнай кнігарні «Эўрыка». Выдадзена яна ў 2010 годзе ў выдавецтве Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы накладам усяго 200 асобнікаў. Не ведаю, ці былі на гэтае бясспрэчна патрэбнае і працаёмкае выданне водгукі ў гарадзенскім друку, але ў рэспубліканскім я такіх не сустракаў і нічога пра яе ні па радыё, ні ад сваіх знаёмых не чуў.

Кніга, між тым, заслугоўвае шырокага розгаласу. Яе памер амаль паўтысячы старонак. Асноўную плошчу (270 старонак) складаюць кароткія персаналіі ад шасці і крыху больш радкоў тэксту пра арыштаваных, нявінна закатаваных (расстраляных) хлопцаў і мужчынаў, зрэдку жанчынаў, народжаных на тэрыторыі, што цяпер у асноўным уваходзіць у склад Гродзенскай вобласці.

Нашыя землякі па самых розных прычынах апынуліся ў Маскве і Ленінградзе, ці, дакладней, знайшлі свой апошні прытулак у межах гэтых дзвюх расійскіх сталіц у натуральных ці штучных равах, надзейна замаскаваных ад людскіх вачэй. Пад Масквой пахаванні маюць назоў Камунарка, Бутава; пад Ленінградам – Левашова. У першым выяўлена і зафіксавана больш за 20 тысяч, у другім – больш за 30 тысяч. Аперацыя была ўчыненая на працягу няпоўных пятнаццаці месяцаў са жніўня 1937 па лістапад 1938 года. Тэмпы – не давядзі Божа! Асабліва, калі ўлічыць, што гэта ўсяго толькі невялікая частка ад агульнай колькасці закатаваных на абшарах СССР, у тым ліку і ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы...

Карны меч не абмінаў нікога з людзей і ніводнага народа, хоць забітых прадстаўнікоў прапарцыйна да агульнай колькасці насельніцтва не аднолькава. У Бутаве і Левашове, як зазначаецца ў прадмове да кнігі – жыхары ўсіх рэгіёнаў СССР пяцідзесяці нацыянальнасцяў, а таксама грамадзяне замежных краін, найперш славянскіх.

Аўтары, каб выявіць сваіх землякоў-гродзенцаў, зрабілі вялікую пошукавую працу на падставе сямнаццаці ўнікальных Кніг памяці, падрыхтаваных даследчыкамі Масквы і Ленінграда, якім яны выказваюць шчырую ўдзячнасць. Бо калі б не было такога персанальнага мартыралогу, то не з’явілася б і кніга «Каб памяталі...» пра ахвяры ўраджэнцаў Гродзеншчыны.

Да гэтага рэгіёна аўтары адносяць сучасную Гродзенскую вобласць, якая паводле іх меркавання ў асноўным супадае з адміністрацыйнымі межамі колішняй Гродзенскай губерні ў складзе Расійскай імперыі. Але гэта не зусім так. Памеры губерні амаль удвая перавышалі памер цяперашняй вобласці: яе заходняя частка, вядомая як Беласточчына, пасля Рыжскай дамовы адыйшла да Польшчы, але пасля 17 верасня 1939 года вернута назад і ўключана пад назвай Беластоцкая вобласць у склад БССР як тэрыторыя з этнічным беларускім насельніцтвам, адрознага ад палякаў культурай і мовай. Аднак па просьбе польскага боку, паводле патрабаванняў іх эміграцыйнага ўрада ў Лондане і пэўнай падтрымкі з боку саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі і ўрэшце згоды Сталіна, было вырашана перадаць гэты абшар Польшчы. Да Гродзенскай губерні пачатку XX стагодзя таксама належала сучасная Брэсцкая вобласць з горадам Брэст-Літоўскам (Брэстам).

Што ж датычыць цяперашніх Карэліцкага і Навагрудскага раёнаў, якія будуць у цэнтры нашае гаворкі, то, як сведчыць змешчаная ў 5-м томе Энцыклапедыі гісторыі Беларусі адміністрацыйная карта Мінскай губерні, Наваградчына цалкам уваходзіла ў яе склад.

Адзначаная неадпаведнасць адміністрацыйнага падзелу сама па сабе мо і не вельмі істотная, але ж яна паўплывала на паўнату спісу ахвяраў, неапраўданага,

як мяркую, адлучэння ад яго беларусаў і тамтэйшых палякаў Беласточчыны, якія ў часы сталінскіх рэпрэсій былі жыхарамі Заходняй Беларусі і мелі аднолькавую долю з усім насельніцтвам гэтага краю...

Усяго аўтары выявілі, як засведчана ў пасляслоўі, і, адпаведна, апублікавана ў кнізе, «звыш 1500 кароткіх біяграфій і 64 фатаграфіі нашых землякоў-гродзенцаў, расстраляных толькі ў двух рэгіёнах СССР часцей за ўсё па хлуслівых палітычных абвінавачваннях, з парушэннем элементарных патрабаванняў законнасці». Хачу толькі дзеля дасведчанасці чытача ўдакладніць, што «кароткія біяграфіі» – гэта нішто іншае, як выбітыя з арыштаваных паказанні, дзе, як звычайна, ёсць не толькі праўда асабістага жыццяпісу, але і тое, чаго насамрэч не было, але яго патрабавалі катаўнікі-нкусаўцы, і яно з'явілася. Сляды пакут бачны амаль на ўсіх фотаздымках, таксама запазычаных аўтарамі з расстрэльных спісаў.

А цяпер пра тое, якім чынам трапілі нашыя землякі і іх супольнікі па няшчасці з іншых краін і краёў у тую маскоўска-ленінградскую бойню, як яны, кажучы словамі аўтараў, сталі «ахвярамі савецкай палітычнай мясарубкі». Бо, як вядома, Заходняя Беларусь была аддзелена дзяржаўнай мяжой ад «самай шчаслівай і справядлівай краіны ў свеце», калі казаць распаўсюджаным тады прапагандысцкім штампам. Цытую кнігу:

«Адны з іх (будучых ахвяраў. – *Я. Л.*) пад уздзеяннем камуністычнай прапаганды траплялі ў краіну нелегальна і адразу ж пасля пераходу савецка-польскай мяжы, пры арышце, рабіліся не сябрамі краіны Саветаў, а агентамі польскіх разведвальных службаў; іншыя апынуліся ў СССР па лініі Камінтэрну, меўшага шырокія магчымасці для перамяшчэння сваіх прадстаўнікоў з адной краіны ў другую.

І ўсё ж такіх людзей сярод ахвяр палітычных рэпрэсій у СССР была толькі нязначная частка. Асноўную масу гродзенцаў, пакараных па палітычных матывах, складалі тыя з іх, якія ў згаданыя гады ўжо даўно былі грамадзянамі СССР. Пераважную частку гэтай групы рэпрэсаваных папоўнілі ўцекачы часоў Першай сусветнай вайны, што па розных матывах не здолелі ці не пажадалі вярнуцца на радзіму ў Заходнюю Беларусь, якая знаходзілася пад польскім ярмом. Значнай была колькасць і тых гродзенцаў, якія ў розныя гады праходзілі службу ў расійскай імператарскай арміі, а таксама ў падраздзяленнях белых і чырвоных войскаў. Сярод прычын пражывання ўраджэнцаў Гродзеншчыны на тэрыторыі Савецкага Саюза ў 30-я гады, разумеецца, былі палітычныя, вытворчыя, сваяцкія і іншыя матывы».

Бяздушны карны меч сек галовы арыштаваных падчыстую, зусім не зважаючы на адзначаныя матывы: сярод ахвяр падлеткі і старыя, мужчыны і жанчыны, радавыя і генералы з адміраламі, непісьменныя і дактары навук, вясковыя святары і царкоўныя іерархі – архірэі і мітрапаліты. Ды, незважаючы ні на што, абвінавачванне кожнага паасобку і ўсіх разам амаль аднолькавае: прыналежнасць да контррэвалюцыі, а калі больш дакладна – шпіёнская дзейнасць на карысць Польшчы і, як адзін з яе складнікаў, антысавецкая прапаганда і агітацыя.

Суседняя дзяржава, з рэзка адмоўным прапагандовым азначэннем «буржуазная Польшча», вышэйшым савецкім кіраўніцтвам на той час прызнавалася асноўным, найбольш небяспечным і вераломным ворагам Чырвонай імперыі.

Пачынаўся і працягваўся той жахлівы кашмар наступным чынам:

«Нябачаныя па памерах расстрэлы 1937-1938 гг. былі вынікам пастановы Палітбюро УКП(б) за 2 ліпеня 1937 г. аб правядзенні шырокааб'ёмнай аперацыі па рэпрасаванні «антысавецкіх элементаў». Дзеля выканання гэтага рашэння выйшла, – працягваюць аўтары кнігі, – некалькі аператыўных загадаў НКУС СССР (народнага камісарыята унутраных спраў, па руску НКВД. – *Я. Л.*) за подпісам Яжова, што датычыліся розных груп насельніцтва дзяржавы як у сацыяльным,

так і ў нацыянальным выяўленні. Адзін з такіх загадаў наконт арышту ў 5-дзённы тэрмін (во якая аператыўнасць, толькі ўдумайцеся! – *Я. Л.*) «нямецкіх шпіёнаў», што заселі ў сацустановах па тэрыторыі ўсёй краіны, быў датаваны днём 25 ліпеня 1937 г. Услед за ім з'явіўся аналагічны загад ад 11 жніўня 1937 г. пад № 00485 наконт «фашыстоўска-паўстанчай, шпіёнска-дыверсійнай і тэрарыстычнай дзейнасці польскай выведкі ў СССР», які ў якасці асноўнай задачы патрабаваў «разгрому антысавецкай працы польскай разведкі і поўнай ліквідацыі яе асноўных людскіх кантынгентаў у СССР у 3-месячны тэрмін».

Заўважым, што на правядзенне гэтай, назавём яе польскай, акцыі, адводзіўся, ў параўнанні з папярэдняй нямецкай, час аж у васямнаццаць разоў даўжэйшы. Аднак і дзевяноста дзён, калі ацэньваць мерапрыемства нават не з прафесійнага гледзішча, а з пазіцыі не апантаных сатанінскім свербам службістаў, заклапочаных як мага хутчэй расправіцца з чарговымі «ворагамі» і заслужыць узнагароду, а чалавека звычайнага, таксама выглядае занадта сціслым, кароткім і ўвогуле нерэальным. Бо справа ж датычыла выкрыцця разгалінаванай шпіёнскай сеткі суседняй дзяржавы, вызначэння ролі і віны кожнага яе ўдзельніка, прафесійна для таемнай дзейнасці падрыхтаванага і законспіраванага...

У адпаведнасці з названым вышэй загадам, зазначаюць аўтары кнігі, «неадкладнаму арышту падлягалі ўсе выяўленыя ў краіне ваеннапалонныя польскага войска, перабежчыкі з Польшчы, палітэмігранты і палітабменнныя, былыя члены ППС (польскай партыі сацыялістычнай. – *Я. Л.*) і іншых палітычных партый, а таксама «найбольш актыўная частка мясцовых антысавецкіх нацыялістычных элементаў польскіх раёнаў».

«Усе арыштаваныя, – паведамляецца далей, – падлягалі ці расстрэлу, ці зняволенню ад 5 да 10 гадоў. З дня выхаду загада спынялася вызваленне з турмаў і лагероў зняволеных па прыкметах польскага шпіянажу... Даследчыкі таварыства «Мемарыял» слушна адзначаюць, што «гэты загад стаў «мадэльным» па ўсіх наступных нацыянальных аперацыях, уключаючы меры па стаўленню да чэхаў, славакаў, балгараў і югаславаў. У выніку таго, што дзяржавы, дзе гэтыя нацыі былі тытульнымі, займалі варожую пазіцыю да СССР, усе тыя, хто меў хоць нейкае дачыненне да іх, разглядаліся ў якасці патэнцыйнай пятай калоны і падлягалі татальнай чыстцы».

Такім чынам, замест канкрэтнага стаўлення да кожнага падазронага і вызначэння яго віны ці невінаватасці адбывалася татальнае вынішчэнне па нацыянальнай прыналежнасці, а гэта і ёсць, хоць аўтары кнігі такой высновы не робяць, найпершая прыкмета генацыду...

«Польская аперацыя, – зазначаюць яны, – была не толькі першай, але і самай буйной з нацыянальных аперацый па колькасці ахвяраў. Гэта тлумачыцца тым, што Польшча на ўсім працягу 20-30-х гадоў, безумоўна, адчувалася самай небяспечнай з дзяржаў – непасрэдных суседзяў СССР (існаваў і глыбока ўкараніўся міф пра яе асаблівае вераломства, яшчэ былі помнымі падзеі апошняй савецка-польскай вайны, водгукі былых польскіх паўстанняў і інтрыг супраць Расіі). Але і тым, што ў складзе насельніцтва гэтай краіны была значная колькасць беларусаў, украінцаў і рускіх, якія нібыта знаходзіліся пад моцным уплывам польскай прапаганды...»

Разважанні слушныя ў сваёй аснове, толькі, мяркую, рускія тут пастаўлены побач з беларусамі і ўкраінцамі па звыклай завядзёнцы, што нібыта гэтыя тры народы заўсёды былі разам, як у радасці, так і ў горы. Але ў дадзенай сітуацыі іх становішча не было аднолькавым і мера страт несувымерная. Найперш па той прычыне, што Расійская імперыя ў выніку рэвалюцый і наступных катаклізмаў страціла толькі невялікую частку сваёй тэрыторыі і людскіх рэсурсаў, ды яшчэ свой ранейшы імперскі назоў, ад чаго яе сутнасць і палітыка, скіраваная да сусветнага панавання, па сутнасці, не памяняліся. А вось Беларусь і Украіна

як былі, так і засталіся ў нацыянальна-дзяржаўным плане бяспраўнымі. А ў дадатак яшчэ і разменнай манетай для пануючай рускай нацыі, што больш чым наглядна і пераканаўча выявілася падчас падпісання Брэсцкага міру, а потым і дыскрымінацыйнай Рыжскай дамовы, паводле якой Заходнія Беларусь і Украіна адышлі да Польшчы. Але сваёй зямлі Чырвоная Расійская імперыя не ўступіла ні пядзі. Тое самае ў дачыненні да БССР будзе адбывацца і ў часе Другой сусветнай вайны, у выніку якой, пра што ўжо сцвярджаецца і на афіцыйным узроўні, загінуў кожны трэці жыхар Беларусі. Але краіна на алтар перамогі паклала не толькі людзей. Не меншы трагізм і ў тым, што нават не ворагі, а нібыта свой брат-паплечнік па змаганні пазбавіў яе значнай часткі тэрыторыі, вядома ж, разам з насельнікамі, перадаўшы па кавалках іншым дзяржавам. Самая вялікая з іх, РСФСР, атрымала ў якасці кампенсацыі за ваенныя страты частку Нямеччыны, суседнюю з Беларуссю, а не з Расіяй, колішнюю Прусію, недарэчна названую Калінінградскай вобласцю ў гонар самага, бадай, бяздумнага і паслухмянага, больш таго, агідна-амаральнага старога распусніка... Вось такая камуністычная «крыштальна чыстая» мараль, справядлівасць і братэрская любоў.

Але вернемся да кнігі «Каб памяталі...», да апублікаваных у ёй расстрэльных спісаў. Сярод ахвяр бутаўскіх палігонаў найбольшую колькасць складаюць масквічы, жыхары Падмаскоўя і навакольных абласцей. Апрача іх, у спісах загубленых нямала прадстаўнікоў рэспублік былога СССР, а таксама асобы замежнага паходжання і падданства. Па колькасці пасля рускіх, якіх у месцах пахавання налічваецца ад 60 да 70 %, найбольш латышоў, палякаў, яўрэяў, украінцаў, немцаў, беларусаў.

Падлікі гэтыя можна назваць бездакорнымі, бо яны зроблены на падставе сведчанняў саміх асуджаных, зафіксаваных карнікамі ў расстрэльных спісах. Але наколькі яны аб'ектыўныя і адпавядаюць рэальным фактам – пытанне адкрытае. Як асабіста для мяне, дык сумненні ўзнікаюць найперш наконт беларусаў і ўкраінцаў, найбольш зрусіфікаваных і дэнацыяналізаваных сярод іншых названых тут нацыянальнасцяў. Такую выснову ў дачыненні да беларусаў паспрабую пацвердзіць асабістай канкрэтнай дасведчанасцю. Звяртаюся да спісаў:

«Алешка Барыс Міхайлавіч. 1899 г. н., ураджэнец с. Беразавец Навагрудскага в-ва (ваяводства – *Я. Л.*) (па іншых звестках г. Пскоў), рускі, беспартыйны, адк. выканаўца Пскоўскага леспрамгаса, жыў: г. Пскоў Лен. вобл.».

Так, сапраўды, такі чалавек нарадзіўся і маленства з юнацтвам прабавіў у вёсцы Беразавец цяперашняга Карэліцкага раёна. Пасталеўшы, ужо дзецюком, выехаў у Расію, у Пскоў, дзе жыў і працаваў у лясгасе. Там і быў арыштаваны 5 верасня 1937 года, адпраўлены на следства ў Ленінград, дзе зазнаў катаванні, быў абвінавачаны ў шпіянажы на карысць Польшчы і праз два месяцы расстраляны. Невядома, ці быў раней запісаны рускім, ці такім сябе назваў у часе дазнання, ці і ў гэтым выявілася самавольства карнікаў...

Падобнае можна сказаць і пра Ваньковіча Радзівона з вёскі Купіцак, і пра Турка Мікалая з Лозак цяперашняга Навагрудскага раёна, і пра Раковіча Міхася з Заполля Карэліцкага раёна. Ва ўсіх названых вёсках я неаднойчы бываў, там жылі мае сваякі і знаёмыя, але ніхто там ніколі ні пра якіх рускіх не згадваў – да рэвалюцыі і ў міжваенны перыяд іх проста ў нашых вёсках не было, а калі б прышлы туды трапіў, то такая навіна звычайна з вуснаў вяскоўцаў не сыходзіла б, як, дарэчы, і пра належнага да нейкага іншага народа....

Да названых чатырох «рускіх» дадам Арцюха Мікалая з вёскі Моладава, Іванчыка Юзіка з мястэчка Уселюб, Казляка Івана з Тударава, Моніча Рыгора з Дольнай Руты, Мянзілу Сцяпана са Слабады, Пякарскага Уладзіміра з Дзеткавіч, Семянягу Сямёна з Грабава...

Нават мяркуючы па прозвішчах, можна даць стоадсоткавую гарантыю, што

перад намі ніякія не рускія, а самыя спрадвечныя, што называецца, з крыві і касці беларусы...

Крыху іншая сітуацыя з гэтак званымі, ці насамрэч палякамі, якія маглі трапіцца сярод беларускага, як, дарэчы, і ўкраінскага асяроддзя з заходніх рэгіёнаў абедзвюх краін.

Не сакрэт, што шмат хто з этнічных беларусаў нават цяпер, у часы незалежнасці, па прычыне сваёй нявызначанасці ў нацыянальным сэнсе атаясамліваюць нацпрыналежнасць не па этнічных, культурных і гістарычных чынніках, а ў адпаведнасці з тым, да якой веры належаць — «рускай», гэта значыць праваслаўнай, ці «польскай», то бок каталіцкай. А ў заходнебеларускі перыяд існавання народа ў складзе польскай дзяржавы такая асаблівасць выяўлялася яшчэ больш паслядоўна і выразна. Гэта адно. Не менш істотнае і тое, што нкусаўцы, імкнучыся дагадзіць начальству, проста «выбівалі» з беларусаў і ўкраінцаў «польскую» нацыянальнасць. Дасягнуць такога ў параўнанні з іншымі прызнаннямі было найлягчэй па прычыне нізкай патрыятычнай свядомасці беларусаў, звычайнай абыякавасці да таго, прадстаўніком якога народа цябе запішуць. А ў сітуацыі, калі, кажучы вобразна, музыку замаўляла і грала вядомая пастанова УКП(б) і адпаведныя загады НКУС аб татальным вынішчэнні палякаў у СССР, гэта звычайна рабілася пад жорсткім прымусам і, урэшце, заканчвалася вышэйшай мерай пакарання, якой, магчыма, і не было б, каб абвінавачаны не прызнаў сябе палякам...

У тыя часы раскручаны махавік рэпрэсій змалаціў не адну тысячу не толькі, як цяпер кажуць, несвядомых, рахманых і памяркоўных, але і моцных духам, зацятых і адважных беларусаў, што актыўна змагаліся супраць паланізацыі «забранага» краю, за свой патрыятызм сядзелі ў турмах, ці, каб унікнуць пакарання, уцякалі праз мяжу ў Саветы. А іх і тут, замест братэрскай сустрэчы, адразу ж вылоўлівалі і зноў садзілі, але ўжо ў савецкія вязніцы, адкуль, у адрозненне ад польскіх, выбрацца практычна немагчыма было...

Асабіста мне ўсё гэта вядома не толькі з літаратуры, але і з непасрэдных сведчанняў землякоў. На Навагрудчыне нацыянальна-вызвольны рух быў надзвычай развітым, імпэтным, самаахвярным, і ў вёсках, у тым ліку ў родным Пабрэззі і ў суседняй Баярскай, дзе найбольш свядомая і актыўная частка дзецюкоў і мужчынаў належалі ці да Работніцка-Сялянскай, статысячнай у памерах усёй Заходняй Беларусі Грамады (а гэта была самая шматлікая сялянская партыя ў свеце), ці да КПЗБ (Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі), у якой сяброў было ў некалькі разоў менш. У Саветы ад нас уцякло некалькі дзясяткаў хлопцаў. А колькі іх вярнулася пасля «вызвалення» ў верасні 1939 года ў родны кут, да сваіх сем'яў? Ведаю толькі аднаго – Багеля Івана Юстынавіча з Баярскай. Ён быў прызваны ў польскае войска і там сышоўся з такімі, як сам, беларускімі патрыётамі, грамадоўцамі ці капэзэбоўцамі, з якімі пачаў сустракацца і хаўрусавацца. Гэта выклікала падазрэнні, хлопцы пачалі заўважаць, што за імі віжуюць. І таму вырашылі ўцячы з войска у так прынадную савецкую Беларусь, дзе нібыта вольнае райскае жыццё і няма ніякага нацыянальнага прымусу і дыскрымінацыі. Задуманае ўдалося, мяжу перайшлі. І адразу ж трапілі ў рукі памежнікаў... Хлопцаў арыштавалі і перадалі нкусаўцам для следства.

І тут пачалося такое, што і ворагу не пажадаеш. Іхнюю групу патрактавалі як знарок засланую на савецкую тэрыторыю для правядзення тэрарыстычна-дыверсійных дзеянняў.

Зняволеных адвезлі ў Мінск, у так званую «амерыканку»[1], што і дасюль

[1] Унутранная турма НКУС, названая ад запазычанай у ЗША архітэктуры падобных устаноў для знявольвання ў форме круглай вежы памерам у некалькі дзясяткаў метраў. Захавалася ў ансамблі КДБ да нашых дзён, але ад цікаўных вачэй заслоненая ўзведзенай пазней прыбудовай.

захавалася ў сутарэннях нязрушнага Камітэта дзяржбяспекі. Будынак трывала стаіць ў самым цэнтры Мінска, а насупраць, праз праспект Незалежнасці, узвышаецца помнік жалезнаму Феліксу, першаму старшыні УНК (ВЧК), на рахунку якой мільёны рэпрэсаваных.

Івана Багеля трымалі ў адзіночцы, і яму ўвесь час было няўцям, дзе ягоныя хаўруснікі па пераходзе мяжы і што з імі адбываецца. А ў яго з дня ў дзень і з ночы ў ноч выбівалі прызнанне аб прыналежнасці да дыверсійна-тэрарыстычнай групы і пра інструкцыі, якія яны нібыта атрымалі да пераходу мяжы ў БССР. Чаго толькі з ім не вытваралі! Каб гэта хто, калі быў яшчэ на волі, ды сказаў яму, што Саветы на такое здатны са зняволенымі, тым больш тымі, хто быў у Заходняй Беларусі іх шчырым прыхільнікам, ён не тое што не паверыў бы, а такому «хлусу і правакатару» плюнуў бы ў бессаромныя вочы. Бо нават пра фашыстоўскія парадкі ў іхніх вязніцах і лагерах такога не расказвалі і не пісалі ні ў савецкім, ні ў польскім і заходнебеларускім друку...

Урэшце ягоным катам, мабыць, надакучыла ўся гэтая мітрэнга, і яму зрабілі апошняе папярэджанне: альбо пагодзішся з тым, у чым ужо прызналіся супольнікі, і будзеш памілаваны, альбо смерць. І сапраўды праз ноч у камеру ўварваліся чацвёра нкусаўцаў: двое павалілі яго на цэментную падлогу, скруцілі і звязалі рукі, потым паднялі і павялі-пацягнулі з камеры. Вывелі на двор, зачыталі прысуд, аб'явілі, што калі ён у гэты перадсмяротны момант не пакаецца і не прызнаецца, будзе расстраляны паводле прысуду...

– Чаго вы дачапіліся? У чым я буду прызнавацца, калі я нічога, пра што вы пытаеце, не чуў і не ведаю. За што вы людзей мучыце? Каб гэта ведаць... Я ж у парцію ўступаў, я верыў, што вы людзі. А вы, праклятыя! Страляйце, забівайце!..

Яму саданулі кулаком пад дых, ён скурчыўся на зямлі, яго паднялі, адзін падтрымліваў пад пахі, а другі лупіў што моцы кулакамі ў твар...

– Сволачы, нелюдзі, людаеды, чаго вы, што вам трэба, навошта я вам, прашу як людзей вас – застрэльце!..

І тут штосьці пракрычаў голас здалёку, і яны суняліся, падхапілі яго пад пахі і павалаклі назад у камеру...

Больш не дапытвалі і не катавалі. Бліжэйшай ноччу вывелі ў турэмны двор, дзе стаяла машына з будай з закратаванымі вокнамі, упіхнулі яго ўсярэдзіну, следам ускочылі два ахоўнікі, самаход завуркацеў, зачмыхаў і выехаў са двара. Праз некалькі хвілінаў былі на чыгуначным вакзале. Івана выцягнулі з буды, увапхнулі ў вагон-цялятнік і кудысьці павезлі разам з такімі, як ён сам. Праз пару сутак цягнік спыніўся, зняволеным загадалі выходзіць, таго, хто знядужаў, выцягнулі. Гэта, як потым выявілася, было ў Варонежы...

Яго тут дапытвалі зноў, але ён ужо мала што ўсведамляў. Адзінае, чаго жадаў, каб усё хутчэй скончылася. Ніякага ўнутранага супраціву, нязгоды ці асуджэння ўжо не было – усё неяк адбывалася міма яго волі, ішло па завядзёнцы. Так, напэўна, неўцямна і бязвольна рыпіць-скрыпіць дарэшты зношаны, састарэлы і саржавелы гадзіннікавы механізм, які ўжо не адлічвае часу, а проста ледзь чутно цікае, хоць стрэлкі не рухаюцца, толькі ўздрыгваюць і варушацца на месцы. Адзінае, у чым Багель неяк захаваў сваю волю, дык у тым, што ніяк не пагаджаўся з абвінавачваннямі і не падпісваў папераў. Зрэшты, гэта цяжка назваць ягонай воляй – проста натура зацыклілася на адным і спынілася, не рухаючыся ні ўзад, ні ўперад. І дапытнікі, мабыць, урэшце дапялі, што з ім ужо немагчыма нічога зрабіць. І гэта яго ўратавала...

Пара, тым часам, патлумачыць, як і чаму ён, звычайны заходнебеларускі хлопец, шараговы польскага войска, апынуўся ў самым цэнтры бальшавіцкай Расіі і чаму столькі сіл, нерваў і імпэту затрацілі на яго слаўныя байцы савецкага нябачнага

фронту, нкусаўцы-энкавэдзісты. Гэта ж вунь колькі пры такім старанні можна было адправіць на той свет «врагов народа»!!!

Справа наваградца, жыхара вёскі Баярская Багеля Івана, як гэта ні дзіўна (такое найчасцей бывае ў дэтэктыўнай літаратуры), непасрэдна сутыкнулася з прадметам даследавання сучасных гарадзенскіх аўтараў Валерыя Чарапіцы і Івана Бойкі, бо насамрэч гэтак званая польская справа пачалася куды раней, а не ў канцы трыццатых гадоў.

У пошуках адказу на гэтае пытанне я звярнуўся да адпаведнай літаратуры. Найбольш паспрыяла тут кніга «Індэкс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 1920-1950-я гг. у Заходняй Сібіры», выдадзеная ў мінскім выдавецтве «Медысонт» у 2002 годзе.

Пад грыфам “Совершенно секретно” там змешчаны, як мяркую, вельмі цікавы дакумент вярхоўнага начальніка ўсіх органаў бяспекі, адрасаваны «Народным Камісарам Унутраных спраў саюзных рэспублік, Начальнікам Упраўленняў НКВД аўтаномных рэспублік, абласцей і краёў «О фашистско-повстанческой, шпионской, диверсионной и террористической деятельности польской разведки в СССР». Дата выхаду паслання 11 жніўня 1937 года, № 59е98. Дакумент мае салідныя памеры і займае ў тэксце кнігі «Індэкс...» з 178 па 204 старонку. Скапіяваны ён з машынапісу (с. 89-136), што захоўваецца ў архіве Упраўлення Міністэрства ўнутраных спраў Украіны Харкаўскай вобласці. Падпісаны народным камісарам унутраных спраў СССР генеральным камісарам дзярж. бяспекі Н. Яжовым і завераны опер-сакратаром ГУГБ НКВД СССР камбрыгам Ульмерам.

Названы дакумент, пра што ўжо згадвалася, цытаваўся аўтарамі кнігі «Каб памяталі...», але не набыў там важкага навуковага і публіцыстычнага эфекту, як у «Індэксе...» Ігара Кузняцова, дзе ён перадрукоўваецца цалкам па арыгінале і выдатна ўпісваецца ў тагачасны грамадска-палітычны кантэкст, вельмі шмат дае сучаснаму чытачу для разумення далёкага ад нас трагічнага часу, сутнасці і механізму вызначальнай для абедзвюх кніг аперацыі НКВД пад назвай «Польская арганізацыя вайсковая («ПАВ»). Узнікае правамернае пытанне: няўжо навуковец з салідным стажам Валерый Чарапіца разам са сваім маладым калегам Іванам Бойкам, беручыся за такую адказную і значную тэму, не ўлічылі элементарнага, але так для даследавання патрэбнага: не вывучылі зробленага папярэднікамі? Ды не чагосьці, што трэба шукаць у архіўным пыле альбо дзесьці за морам-акіянам, а проста разгарнуць даступную кнігу, сама назва якой указвае на агульнасць тэмы. Як для салідных навукоўцаў, такое няведанне і нездагадлівасць выглядае проста непраўдападобна.

Дык у чым прычына, што кніга І. Кузняцова імі нават не згадваецца і не цытуецца?

Узнікае падазрэнне ў яе свядомым замоўчванні, у існаванні нейкіх пабочных матываў, якія паўплывалі на такое стаўленне да зробленага папярэднікам. Прычыны гэтыя асабіста мне бачацца ў ідэалагічнай заангажаванасці (чытай, зашоранасці) не толькі іх, а цэлай плоймы іншых “дыпламаваных” аўтараў, якія з вузка ідэалагічных патрэб і меркаванняў згодныя белае называць чорным, адмаўляць тое, што ёсць на самой справе, карацей кажучы, з улікам палітычнай і ідэалагічнай кан’юнктуры ісці на яўныя падтасоўкі.

Кніга В. Чарапіцы і І. Бойкі моцная факталагічнай насычанасцю, балючым, без дай прычыны загубленым і страчаным «чалавечым матэрыялам», яшчэ і святая, светлая памяць пра нашых бяспраўна загубленых землякоў, помнік тысячам ахвяраў, вернутых аўтарамі з небыцця. Аднак яе тэарэтычны грунт, высновы і абагульненні маглі б быць больш важкімі, аналітычнымі, маральна дасканалымі. І тады нам лягчэй было б зразумець, як гэта атрымалася, што рэвалюцыянеры, змагары з царызмам за праўду, справядлівасць і іншыя дэмакратычныя каштоўнасці

адразу ж, як толькі захапілі ўладу, раптоўна перарадзіліся ў штосьці вычварнае, жорсткае, у шматкроць больш жахлівае і недарэчнае, чым ранейшы лад і ягоныя шанавальнікі-абаронцы. Яго, гэты лад, рэвалюцыянеры гнеўна асуджалі, заклікалі на рашучы, бескампрамісны і апошні з ім бой, абяцаючы пасля перамогі людзям амаль рай на зямлі...

Перамаглі. І адразу ж забыліся пра цацанкі-абяцанкі. Краіна, якая дагэтуль мела высокія духоўныя ідэалы і бясспрэчныя здабыткі ў розных абсягах культуры, раптам ад іх адвярнулася, аб'явіла перажыткам мінулай эпохі. З асаблівай апантанасцю тагачасныя ідэолагі абвяргалі хрысціянскія каштоўнасці, заклікаючы выкінуць на сметнік гісторыі ўсё, што было звязана з рэлігіяй і Богам.

Пазбаўленыя духоўных арыенціраў і засцерагальнікаў краіна і грамадства ўсё больш дэградавалі і пераўтвараліся ў суцэльны канцэнтрацыйны лагер, што функцыянаваў па ўласных законах, а, дакладней, без усялякіх законаў і агульначалавечых маральных вартасцяў.

Механізм унутраннага перараджэння рэвалюцыйных ідэалаў і ажыццяўлення на практыцы новага ладу у кнізе «Каб памяталі...» амаль не раскрываецца, прынамсі, грунтоўна не даследуецца, галоўны дырыжор перамен Іосіф Сталін калі і згадваецца, дык мімаходзь, без асэнсавання яго чалавеканенавісніцкай сутнасці і дэманізму.

Што датычыць «Індэкса ўраджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 1920-1950-я гг. у Заходняй Сібіры», то ў кнізе І. Кузняцова не толькі абнародаваны кароткія звесткі пра асуджаных двойкамі-тройкамі і ў большыні расстраляных, але паказаны таксама імёны і сутнасць «герояў» тых дзён; тут, апрача вышэй названага, падпісанага Н. Яжовым, змешчаны і іншыя характэрныя для таго часу дакументы, што дазваляюць непасрэдна адчуць каларыт і сутнасць той эпохі... Цытую пачатак вышэй згаданага дакумента:

«НКУС Саюза выкрыў і ліквідуецца буйнейшая і, мяркуючы па ўсіх дадзеных, асноўная дыверсійна-шпіёнская сетка польскай выведкі ў СССР, што існавала ў выглядзе так званай Польскай арганізацыі вайсковай («ПАВ»). Напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі і непасрэдна пасля яе Пілсудскі стварыў на савецкай тэрыторыі сваю буйнейшую палітычную агентуру, што ўзначаліла ліквідуемую цяпер арганізацыю, а потым штогод сістэматычна перакідваў у СССР, пад выглядам палітэмігрантаў, абменных палітзняволеных, уцекачоў, шматлікія кадры шпіёнаў і дыверсантаў, якія ўключаліся ў агульную сістэму арганізацыі, што дзеіла ў СССР і папаўнялася за кошт вярбоўкі сярод мясцовага тутэйшага насельніцтва.

Арганізацыя кіравалася цэнтрам, што знаходзіўся ў Маскве, — у складзе Уншліхта, Муклевіча, Ольскага і іншых, і мела моцныя адгалінаванні ў Беларусі і на Украіне, галоўным чынам у памежных раёнах і шэрагу іншых мясцін СССР.

Да гэтага часу, калі ліквідавана, у асноўным, толькі галоўка і актыў арганізацыі, ужо вызначылася, што антысавецкай работай арганізацыі былі ахоплены — сістэма НКУС, РККА, Разведупр РККА, апарат Камінтэрна, — перш за ўсё польская секцыя ІККІ, Наркамінсправ, абаронная прамысловасць, транспарт — пераважна стратэгічныя дарогі заходняга тэатра вайны, сельская гаспадарка».

Далей у дакуменце ідзе падрабязнае апісанне, як усё адбывалася, з чыім удзелам, дзе і калі здзяйснялася...

Дык што перад намі: сапраўды рэальны гістарычны факт выяўлення савецкімі спецслужбамі шпіёнскай дзейнасці, змовы супраць СССР з мэтай распачацця вайны і захопу яе тэрыторыі суседняй дзяржавай, ці суцэльная, інспіраваная і распрацаваная ў засценках НКВД выдумка, зробленая з мэтай правесці масавыя рэпрэсіі і пакараць бязвінных людзей?..

Мяркую, што ў гэтым выпадку нельга даваць адназначную ацэнку дакумента як суцэльнай правакацыйнай фальшыўкі, а тым больш даверліва бачыць у ім

дакументальна праўдзівае сведчанне падрыўной работы, што вялася спецслужбамі суседняй дзяржавы супраць маладой савецкай краіны...

Стараючыся ў гэтым пытанні захоўваць аб'ектыўную пазіцыю, грунтуюся не толькі на факталагічна багатай, досыць лагічна і пераканаўча выбудаванай і знешне ў асноўным праўдападобнай фактуры яжоўскага дакумента. Але найперш зыходжу з пераканання, зробленага апрыёры. А мо памыляюся?

У такім разе давайце, шаноўныя, спакойна і разважліва памяркуем: няўжо дзве краіны, адна з якіх акупавала і на працягу стагоддзяў уціскала другую, пазбавіўшы яе старажытнай, еўрапейскага ўзору, дзяржаўнасці і ўмоў для паўнакроўнага духоўнага самавыяўлення народа, імкнучыся ўсялякім чынам прынізіць яго нацыянальную годнасць і гонар, а другая ўсялякім чынам гэтаму супраціўлялася, не выключаючы збройнага супраціву, што выявілася ў некалькіх паўстаннях, на жаль, загадзя асуджаных на паразу, бо нельга было на імпэце і мужнасці перамагчы магутную Расійскую імперыю. У выніку і польскі, і беларускі, і літоўскі, а часткова і ўкраінскі народы неслі незаменныя страты... Але жаданне да волі і незалежнасці не страчвалася. І вось цяпер, калі Польшча ў выніку савецка-польскай вайны адрадзіла сваю дзяржаўнасць і здабыла незалежнасць, хіба маглі пасля ўсяго паміж дзяржавамі-суседкамі ўсталявацца насамрэч прыязныя, добразычлівыя і даверлівыя стасункі?..

Абедзве дзяржавы былі напагатове і рознымі метадамі адсочвалі падрыхтаванасць сваёй візаві да вайсковых дзеянняў, стараліся выкрыць падступныя дзеянні чужых спецслужбаў на сумежнай тэрыторыі. У гэтым не было нічога незаконнага і выключнага — такое ў практыцы многіх цывілізаваных дзяржаў. Але калі Польшча такую цывілізаванасць і ў гэтым няпростым пытанні захоўвала, то СССР не зважала ні на якія нормы і правілы. Шпіёнска-разведвальная служба была ўсяго толькі кветачкамі ў параўнанні, скажам, з засыланымі на польскую тэрыторыю тэрарыстычна-дыверсійнымі атрадамі «сталінскіх сокалаў» — Арлоўскага, Варвашэні, Ваўпшасава ды іншых падобных...

Багата можна цяпер пералічаць крыўдаў і высоўваць абвінавачванняў як з расійска-савецкага, так і з польскага боку, але ці шмат гэта дае для сённяшняга жыцця, якое сапраўды мусіць быць добрасуседскім, спакойным і зычлівым з абодвух бакоў. Незалежна ад гэтага, мінуўшчына павінна быць аб'ектыўна і ўзважана асэнсаванай, маўчаць ніяк не выпадае, хаваючы, як той страус, галаву ў гэтым выпадку не ў рэальны сыпучы, а ў зляжалы гістарычны пясок...

Але вернемся да канкрэтыкі 30-х гадоў, да лёсу майго земляка Багеля Івана Юстынавіча. Час адказаць на пытанне, чаму яго, як злавілі пры пераходзе савецкай мяжы, не рассстралялі ці не пасадзілі ў турму альбо ў лагер адбываць пакаранне, абвінаваціўшы ў спробе шпіёнства і тэрарыстычна-дыверсійнай дзейнасці. Спачатку я з Іванавым сынам Валодзем (мы аднагодкі і хадзілі ў адзін клас спачатку Каса-Дворскай, потым Нягневіцкай СШ) меркавалі, што прычына была ў пакуль што не раскручаным на ўсю моц сталінскім рухавіку масавых рэпрэсій. Але чаму тады з Іванам і, зусім верагодна, з іншымі хлопцамі з іх групы столькі валаводзіліся спачатку ў Мінску, а потым у далёкім Варонежы? Чым яны заслужылі да сябе такую ўвагу і настойлівасць нкусаўскіх службоўцаў?..

Адказ мне дала кніга Ігара Кузняцова і змешчаны там дакумент за подпісам Яжова. У ім пералічваюцца дзясяткі кіраўнікоў «ПАВ» на цэнтральных і рэгіянальных пасадах Польскай арганізацыі вайсковай у СССР, сярод якіх і сёння больш-менш дасведчаным людзям такія добра вядомыя дзеячы, як, напрыклад, наркам абароны СССР Міхаіл Тухачэўскі, а з беларускіх – старшыня Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР, па сутнасці першая асоба ў рэспубліцы Алесь Чарвякоў, старшыня ўрада Мікалай Галадзед. Неаднаразова

там згадваецца рэзідэнт 2-га аддзела ПГШ (польскі галоўны штаб) І. Сасноўскі, адна з ключавых постацяў на працягу дзесяцігоддзяў у дзейнасці Польскай арганізацыі вайсковай.

Мы на гэтым функцыянеры засяроджваем увагу найперш па той прычыне, што лёс Івана Багеля пэўным чынам перасёкся з ягоным. Бо па версіі яжоўскага дакумента Сасноўскі курыраваў паўднёвы накірунак дзейнасці «ПАВ» з цэнтрам у Саратаве, блізкім да Варонежа горадзе. Вось чаму, мяркую, туды нкусаўцы справодзілі нашага земляка, бо там была магчымасць наладжваць яму вочныя стаўкі з іншымі арыштаванымі, пераважна нядаўнімі польскімі вайскоўцамі...

Багелю, не дамогшыся ад яго патрэбнага прызнання, прысудзілі 5 гадоў канцэнтрацыйнага лагера ў Комі АССР і 10 гадоў вольнага пасялення. Было гэта ў 1932 годзе, калі сапраўды прысуды, у параўнанні з пазнейшым часам, былі больш мяккія. 1932+5=1937 год вядомай пастановы УКП(б) і загаду па лініі НКВД, пасля якіх пачалося дзікае паляванне на выхадцаў з Польшчы, уключна з Заходнімі Беларуссю і Украінай, незалежна ад таго, калі і як яны трапілі ў колішнюю Расію, ці ў СССР. Асноўнай "улікай" было месца нараджэння і нацыянальнасць, а ў дадатак і нярускае гучанне прозвішчаў. Пачалося масавае вынішчэнне – сапраўдны генацыд – палякаў, беларусаў, украінцаў, латышоў, літоўцаў і іншых прадстаўнікоў памежных з СССР тэрыторый, ратавацца ад якога практычна было немагчыма. Бо расстрэльвалі пагалоўна ўсіх, каго ўдалося выявіць і злавіць, пра што часткова сведчаць расстрэльныя спісы ўраджэнцаў Гарадзеншчыны, апублікаваныя ў кнізе Чарапіцы і Бойкі, і, таксама часткова, «Індэкс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 1920-1950-я гг. у Заходняй Сібіры» Кузняцова.

Ну, а што атрымалася з рассакрэчваннем на працягу дзесяцігоддзяў (пачынаючы з 1914 года) справы з выкрыццём славутай Польскай арганізацыі вайсковай, з чаго меркавалася зрабіць гучны выкрывальны судовы міжнародны працэс?

З прафесійнага гледзішча выйшаў самы звычайны пшык, і выносіць тое на людзі, на шырокую сусветную аўдыторыю, палічылі непатрэбным. Але з такой настойлівасцю праведзеная работа па выяўленні палякаў, беларусаў і ўкраінцаў, а заадно і падазроных іншых нацыянальнасцяў не прайшла марна. На падставе яе пачаўся нечуваны тэрор 1937-1938 гадоў. Здзяйсняць яго выявілася куды больш «вынікова», чым разблытваць агентурную сетку суседняй дзяржавы, дзеля чаго патрэбен быў высокі прафесіяналізм, на які «слаўныя сталінскія сокалы» былі проста няздатныя. Іншая справа – масавая бойня грамадзянаў сваёй (СССР) дзяржавы, ці роднасных славянскіх братоў, якія шукалі ў краіне Саветаў паратунку ад нацыянальнага і сацыяльнага ўціску. Няшчасных, ні ў чым не вінаватых людзей ніхто ўратаваць не мог, дый, мабыць, асабліва і не быў заклапочаны гэтым....

Пра тое, як усё адбывалася, – адзін фрагмент з кнігі Ігара Кузняцова: «Канвеер смерці працаваў бездакорна. Калі сканчвалася «сырье», дастаўляліся новыя партыі. «Врагов народа» стваралі штучна. Абласныя і гарадскія ўпраўленні НКВД атрымлівалі разнарадкі з цэнтра на выяўленне іх у патрэбнай колькасці».

А вось вытрымка з тагачаснага афіцыйнага дакумента: «Партыя і народ прадоўжылі тэрмін працы «троек» да 1 студзеня 1938 года. За два-тры дні, што засталіся да выбараў у Вярхоўны Савет СССР, вы павінны правесці падрыхтоўку да аперацыі, а 13 студзеня – пасля выбараў, пачаць нарыхтоўку (адна тэрміналогія чаго вартая! – *Я. Л.*). Даю вам тры дні на нарыхтоўку, а потым вы павінны націснуць і хутка закончыць справы... Узроставым складам арыштаваных я вас не абмяжоўваю – давайце старых. Нам трэба націснуць, бо нашы ўральскія суседзі нас моцна падціскаюць. Па РОВСу вы павінны даць да 1 студзеня 1938 года не менш за 1100 чалавек, па паляках, латышах і інш. не менш за 600 чалавек у дзень, але ў цэлым я ўпэўнены, што за гэтыя дні

вы дагоніце да 2000 чалавек. Кожны вядучы следства павінен заканчваць не менш чым 7-10 спраў у дзень... Улічыце, што шэраг гараддзелаў – Кемераўскі, Пракоп’еўскі і Сталінскі – нас могуць выперадзіць. Яны ўзялі на сябе абавязкі вышэй, чым я вам цяпер прапанаваў...» (З выступлення 10 снежня 1937 г. начальніка УНКВД па Захсібкраю І. А. Мальцава на нарадзе аператыўнага складу ў г. Новасібірску).

Пераглядаліся ранейшыя прысуды, выцягвалі зняволеных па «польскай» аперацыі з турмаў, канцлагераў, і «двойкі» ці «тройкі» пасля экстраннага перагляду спраў прысуджалі пакутнікаў да вышэйшай меры (такой здзеклівай тэрміналогіяй карысталіся ў тагачасных судах) «социальной защиты» – расстрэлу...

А што з Іванам Багелем? Ці ўдалося яму ацалець і ўратавацца ў той крывавай катавасіі?

Пра такіх кажуць: нарадзіўся ў кашулі. Яму і на гэты раз пашанцавала, як і тады, калі іх калону з чыгуначнай станцыі на працягу некалькіх сутак сваім ходам гналі да месца прызначэння – у адзін з канцэнтрацыйных лагероў у Комі АССР. Галодных і халодных, у саракаградусны мароз па таёжным снезе. Тых, хто знясілена падаў, канваіры дабівалі, пакідаючы цела на здабычу звярам. На адным з прывалаў, калі паступіла каманда: «П-а-ад’ём!», знясілены Іван не здолеў устаць на ногі. Але ці яго (ляжаў, прысланіўшыся да кедравага камля), не заўважылі, ці пашкадавалі (толькі пытанне – самога ці патрона, бо ўратавацца на марозе ад смерці зняможаны чалавек у тайзе ўсё адно не мог). Калона рушыла наперад, а ён застаўся ляжаць нерухома. Аднак мо праз якую гадзіну ачомаўся і па пратупаных слядах павалюхаў услед за зняволенымі. І толькі пад раніцу натрапіў на людскі гурт ля вогнішчаў...

А ў канцы 1937 года скончыўся прызначаны тэрмін у канцлагеры, і ён быў выпушчаны на вольнае пасяленне. Гэта было ўсяго за пару тыдняў да вядомай нам пастановы Палітбюро і наступных указаў НКВД, якімі распачалася масавая бойня... Працаваў на суднаверфі на рэчцы Пячоры. Дасканала асвоіў прафесію цесляра, яму пасля вяртання ў родную Баярскую не было роўных у гэтай спецыяльнасці ў наваколлі, пра што можа сведчыць хата, якая і дагэтуль мае паглядны выгляд, зрубленая ім уласнымі рукамі. Вярнуўся пасля адбыцця тэрміну (гэта было ў 1947 годзе) не адзін, а разам з жонкай, прыгожай жанчынай, якую пасля раскулачвання разам з бацькамі выслалі на пасяленне з-пад Варонежа ў Комі АССР. Бацькоў кадэбісты закатавалі, выбіваючы з іх прызнанне, куды яны схавалі нажытае золата. Цётка Наталля перажыла свайго мужа, памерла 31 траўня 2011 года ва ўзросце 94 з паловай гады. А дзядзька Іван спачыў 20 жніўня 1999 года, пражыўшы 88 гадоў. Хай, як кажуць у нас, будзе ім лёгкае паляжанне пасля перажытых пакут...

Апрача расстрэльных спісаў у кнізе В. Чарапіцы і І. Бойкі змешчаны і больш ці менш разгорнутыя матэрыялы пра рэпрэсаваных, найперш асоб святарскага звання. Валерый Мікалаевіч – прызнаны аўтарытэт як гісторык праваслаўнай царквы ў гарадзенска-беластоцкім рэгіёне. У раздзеле 2 кнігі змешчаны «Даследаванні, праведзеныя па матэрыялах кніг Памяці»: «Жыццё святамучаніка протаіерэя Яраслава Савіцкага (1882-1937)», «Новыя штрыхі з трагічнага жыцця архіепіскапа Феафана (Семянякі) (1879-1937)». Перад намі лёсы сапраўды годных у царкоўнай іерархіі людзей, высокаадухоўленых, моцных духам і нязломных у цяжкіх выпрабаваннях, што выпалі на іх долю ад грубай і бездухоўнай сілы, для якой вера ў Бога была ці не адным з самых цяжкіх злачынстваў. Пра духоўную ўзвышанасць і дасканалы паэтычны талент епіскапа Феафана (Семянякі) сведчаць яго вершы, два з якіх перадрукаваны ў кнізе з часопіса «Русский паломник» (1907, № 13, 31 сакавіка). Увазе чытачоў прапаную верш «Ночью» нашага земляка з вёскі Дзятлава Слонімскага павета.

Часто, часто и я при ночной темноте
Выхожу не спеша на дорогу
Созерцать эту даль и миры в высоте, —
И невольно уста шепчут гимн красоте,
Забывая земную тревогу.

Посмотри же и ты, как светила горят
В бесконечном небесном просторе,
И как твердо они пути Божьи творят,
И как ясно с собой о творце говорят
Всем забывшимся в жизненном горе.

И твой дух, что порою летит в небеса,
В это море без дна и без края,
Пусть горит, как в час утра на ветке роса,
Где собралась лучистая солнца краса,
Чтобы петь о Творце не смолкая.

Паэзія, і не абы якая! А гэта ж першы верш айца Феафана. І хто ведае, якога не толькі святара-прапаведніка, але і паэта мы страцілі ў яго асобе. Апошнім зямным прыстанкам яму стаў Бутаўскі палігон пад Масквой...

У завяршэнне гаворкі пра святароў цытата з кнігі «Каб памяталі...»: «23 лютага 1933 года ўладыка Феадосій быў арыштаваны. Пры допытах выявілася, што ён наведваў Мінск, сустракаўся з япіскапам Феафанам. Гэты факт і стаў нагодай для новых арыштаў. У Феафана (Семянякі) чэкісты зрабіліператрус, але ніякага кампрамату, патрэбнага ім, не выявілі. Усё адно ноччу 5 красавіка яны схапілі некалькі блізкіх япіскапу чалавек. Сярод іх архімандрыт Гаўрыіл (Горбач), протаіерэй Мікалай Цілінскі, іераманах Нікан (Вераб'ёў), манахіня Людміла (Палянская), Ангеліна (Зом), Еўдакія (Лукашэвіч), Еўфрасіння (Гутар), Алена (Галкіна) і Ксінія (Лецка) і т. д.».

Асабіста ў мяне асаблівую зацікаўленасць выклікае апошняе прозвішча народжанай у родным мне Пабрэззі жанчыны, не ведаю толькі, як блізка нашаму роду, але сваячкі. Больш падрабязныя звесткі пра яе занатаваны ў энцыклапедычным даведніку ў 2-х тамах самага на сённяшні час паслядоўнага і дасведчанага даследчыка балючай для грамадства тэмы сталінізму Леаніда Маракова «Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна- і царкоўнаслужыцелі Беларусі. 1917-1967». У 2-м томе гэтага капітальнага выдання чытаем: «Лецка (Лецко) Ксенія Гаўрылаўна (1892, Навагрудскі пав. Мінскай губ. – ?), манахіня. Беларуска. З сялянскай сям'і. У першай палове 1920-х г. насельніца Спаса-Праабражэнскага манастыра ў Мінску. Потым прыхаджанка Мікалаеўскай царквы ў пас. Казырава. Падчас арышту працавала хатняй работніцай у прафесара Руфіма Выдры. Арыштавана 27.04.1933 у Мінску па адрасе: зав. Маляўскі, д. 28, кв. 2. Асуджана з інш. манахінямі і святарамі Мінскай епархіі нарадай пры АДПУ за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў пазбаўлення правоў жыць у 12 населеных пунктах і на Урале. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 12.06.1989 пракуратурай БССР. Групавая справа Л. і інш. № 24819-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі. Кр.: БНДЦЭД; Синодик за веру и церковь Христову пострадавших в Минской епархии» (Мінск. Беларускі Экзархат. 2007. Том 2. С. 30)».

Як ні скрушна, але, на жаль, і ў дачыненні да Л. Маракова, гэтай і іншых яго кніг, Валерый Чарапіца і Іван Бойка, як і ў выпадку з Ігарам Кузняцовым, праявілі ці незразумелую недасведчанасць, ці свядомае ігнараванне здзейсненага папярэднікамі, і адмаўчаліся...

Новы і дасюль невядомы нам матэрыял асэнсаваны імі ў артыкуле «Заходнія і паўднёвыя славяне – ахвяры палітычных рэпрэсій у СССР (1937-1938 гг.)», а таксама «Лідчане ў Бутаве і Левашове», «Новыя штрыхі да біяграфіі ўраджэнца

Гродзеншчыны наркама Я. А. Якаўлева (1896-1938)». Нарэшце, раздзел 3 і 4 прысвечаны трагічным лёсам савецкіх вайскоўцаў.

А яшчэ ў кнізе В. Чарапіцы і У. Бойкі ёсць невялікі памерам матэрыял з красамоўнай назвай «Раман Семашкевіч (1900-1937) – мастак ні з кім не параўнальны». Уласна кажучы, ён запазычаны (спасылка і выходныя дадзеныя ў кнізе «Каб памяталі» ўказаны: Головкова, Л. А. Художники и Бутовский полигон / Л. А. Головкова // Бутовский полигон. Вып. 5. – С. 38-40). Зусім слушна ўдакладняецца, што хоць Р. Семашкевіч запісаны ў следчай справе палякам, але насамрэч ён беларус. А вось наконт ягонага месца нараджэння ў вёсцы Лебедзева зроблена, прашу прабачэння, проста недарэчная крытычная заўвага, якая атрымалася ў выніку недакладнага (пра гэта гаворка вялася напачатку нашага матэрыялу) вызначэння межаў колішняй Гродзенскай губерні, якія нібыта супадаюць з памерамі і абрысамі сучаснай Гродзенскай вобласці. Наконт мястэчка Лебедзева зазначаецца, што, «верагодна, тут атрымалася памылка, бо такіх населеных пунктаў у губерні не было. Трэба сказаць, што ў Лідскім уездзе Віленскай губерні было мястэчка Лебяда. Магчыма, яно і было месцам нараджэння мастака. – *В. Ч.*)».

Пра наяўнасць вёскі Лебяда не спрачаюся, але факт неаспрэчны, што Раман Семашкевіч нарадзіўся ў Лебедзеве цяперашняга Маладзечанскага раёна. Не ведаю толькі дакладна, належала яно за царом да Віленскай ці да Мінскай губерні. Каб пераканацца, раю адгарнуць кнігу мастацтвазнаўцы Сяргея Гваздзёва «Крэскі да партрэтаў мастакоў з Заходняй Беларусі», выдадзенай у бібліятэчцы газеты «Новы час». Там змешчаны асобны матэрыял з таксама характэрнай назвай «“Пішу як Рафаэль...” Мара калекцыянера Рамана Семашкевіча», прысвечаны мастакам заходнебеларускага перыяду і творчасці Рамана Семашкевіча ў прыватнасці, пра якога, дарэчы, мастацтвазнаўца пісаў і раней. Дарэчы, каб шаноўны В. Чарапіца быў цясней далучаны да ўласна беларускай культуры, то ён напэўна згадаў бы імя яшчэ аднаго таленавітага ўраджэнца таго краю, выдатнага, таксама са сваім непаўторным голасам, хоць і ціхім, а не такім узрыўным, як талент мастака Семашкевіча, пісьменніка (паэта, празаіка, аўтара гумарыстычнай аповесці «Бацька ў калаўроце», эсэіста, крытыка, літаратуразнаўцу, – пранікнёнага і глыбокага даследчыка нашаніўскага перыяду беларускай літаратуры, кандыдата філалагічных навук) Рыгора Семашкевіча. На жаль, ягонае жыццё таксама скончылася на трагічнай ноце ў маладым веку, але ўжо ў наш час...

Мне не вельмі зручна заканчваць першую частку свайго матэрыялу на крытычнай ноце ў дачыненні да пазіцыі В. Чарапіцы. Цытую ў арыгінале: «Сегодня церковь остается единственной (? – *Я. Л.*) силой, которая связывает воедино православных христиан братских славянских (а да каго, прабачце, аднесці каталікоў, уніятаў, а тым больш Украінскую праваслаўную Царкву Кіеўскага патрыярхата, да якой, як да Прамаці, РПЦ, асцерагаючы, ці што, свой аўтарытэт, настроена адназначна негатыўна? – *Я. Л.*) народов, оказавшихся в разных государствах по воле врагов (ого, як моцна, у добра вядомым нам духу! – *Я. Л.*) и разрушителей державы Российской». Адзін сказ, а колькі пытанняў, пярэчанняў і нязгоды. Мяркую, не толькі ў мяне. Хочацца спадзявацца, што малады даследчык Іван Бойка не па-вучнёўску, а як сталы навуковец са сваёй пазіцыяй, выхаваны ва ўмовах не сталінскага, а новага часу, грамадзянін незалежнай Беларусі, таксама не згодзен з такімі пасажамі свайго настаўніка. Па якой дарозе ён накіруецца – пажывем, пабачым...

Беручыся за напісанне гэтага матэрыялу, я старанна праштудзіраваў расстрэльныя спісы ахвяр, змешчаныя ў кнізе «Каб памяталі...», і выявіў сто пяцьдзясят чалавек, родам з сённяшніх Карэліцкага і Навагрудскага раёнаў, пахаваных пад Масквой і Санкт-Пецярбургам. Гэта заняло 26 старонак набранага

на кампутары тэксту. Памер не для часопіснай публікацыі. Таму вырашыў адабраць паводле свайго разумення пару дзясяткаў імён. А рэшту, калі будзе жаданне мясцовых уладаў, я з лёгкай душой прапанаваў бы для публікацыі ў раённых газетах «Полымя» і «Новае жыццё». Гэта, перакананы, выклікала б жывы водгук нашых сучаснікаў, суперажыванне за знявечаныя лёсы сваіх землякоў, а нярэдка родных і блізкіх людзей, дало б нагоду шмат што ўдакладніць, дапоўніць спісы новымі імёнамі пацярпелых.

Спісы друкуюцца ў даслоўным перакладзе з рускай мовы па кнізе «Каб памяталі...». Заўвагі і ўдакладненні наконт прозвішчаў і геаграфічных назваў – нашыя.

**Айзенберг Вольф Шоламавіч.** 1889 г.н., ураджэнец г. Навагрудак Мінскай губ., яўрэй, член УКП(б) у 1920-1930 гг, загадчык медыцынскай бібліятэкі Дома Санітарнай культуры Ленгарздрава, жыў: г. Ленінград, вул. Някрасава, д. 60, кв. 56. Арыштаваны 17 верасня 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 18 кастрычніка 1937 г. прысуджаны па арт. 58-6 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 24 кастрычніка 1937 г.

**Арабей Барыс Лукіч.** 1900 г.н, ураджэнец в. В. Бобрына[1] Навагрудскага пав. (Польшча), паляк, беспартыйны, дырэктар сярэдняй школы, жыў: г. Пскоў Лен. вобл. Арыштаваны 17 жніўня 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 3 лістапада 1937 г. прысуджаны па арт. 17-58-8; 58-10 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 10 лістапада 1937 г.

**Арцюх Міхаіл Міхайлавіч**. 1893 г.н., ураджэнец в. Моладава Навагрудскага пав. Мінскай губ., рускі, член УКП(б) у 1918-1932 гг., дарожны майстар 8-га акалодка 5-й дыстанцыі службы пуці Кіраўскай чыг. Арыштаваны 20 лістапада 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 2 снежня 1937 г. прысуджаны па арт. 58-7-9-10-11 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 10 снежня 1937 г.

**Баранчык Віктар Іванавіч.** 1895 г.н., ураджэнец в. Навасёлкі Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., паляк, беспартыйны, шафёр гаража Галоўваенпорта ЧБФ, жыў: г. Кранштат, вул. Мартынава, д. 15, кв. 10. Арыштаваны 29 лістапада 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 12 студзеня 1938 г. прысуджаны па арт. 58-6-10-11 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў г. Ленінградзе 21 студзеня 1938 г.

**Богуш Пётр Арсеньевіч.** 1899 г.н., нарадзіўся ў в. Дзяляцічы Навагрудскага павета Мінскай губ. (Польшча), паляк, з сялян, б/п, адукацыя вышэйшая, інжынер-праекціроўшчык завода № 51 у Маскве. Жыў: г. Масква, вул. Арбат, д. 6, кв. 31. Арыштаваны 17 лютага 1938 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР ад 27 сакавіка 1938 г. па абвінавачванні ў прыналежнасці да шпіёнска-шкодніцкай групы прызначана вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Прысуд прыведзены ў выкананне 11 красавіка 1938 г. Рэабілітаваны 22 верасня 1956 г.

**Буляк Сямён Андрэевіч.** 1885 г.н., нарадзіўся ў в. Лясок Навагрудскага пав. (Польшча), паляк, з сялян, б/п, адукацыя вышэйшая, урач амбулаторыі Цэментнага завода. Жыў: Маскоўская вобл., Васкрасенскі р-н, пас. Цэментнага завода, д. 16, кв. 1. Арыштаваны 3 сакавіка 1983 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР ад 29 ліпеня 1938 г. па абвінавачванні ў шпіянажы і антысавецкай дзейнасці прызначана вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Прысуд прыведзены ў выкананне 27 жніўня 1938 г. Рэабілітаваны 12 мая 1960 г.

**Бушма Ануфрый Лукіч.** 1985 г.н.[2], ураджэнец в. Слабодка Навагрудскага пав. Мінскай губ., член УКП(б) з 1929 г., выключаны ў 1937 г. у сувязі з арыштам, беларус, нарміроўшчык корпуснага цэха суднабудаўнічага завода імя Жданава. Да арышту жыў у г. Ленінградзе. Арыштаваны 2 верасня 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 22 верасня 1937 г. прысуджаны па арт. 58-9-11 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Прысуд прыведзены ў выкананне 29 верасня 1937 г.

**Быт Іван Мікітавіч**[3]. 1899 г.н., ураджэнец в. Сялец Навагрудскага пав. Мінскай губ., паляк, беспартыйны, вучань 1-га ўчастка Мурманскага гандлёвага порта, жыў: г. Мурманск, вул. Харчавікоў, д. 22, кв. 3. Арыштаваны 11 снежня 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 10 студзеня 1938 г. прысуджаны па арт. 58-6-9-10-11 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў г. Ленінградзе 15 студзеня 1938 г.

---

[1] Верагодна, в. Вялікая Вобрына (суч. Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.).

[2] Гэтую дату памылкова падаюць В. М. Чарапіца і І. В. Бойка. У некаторых інтэрнэт-крыніцах – 1895 г.н.

[3] Жыў на кватэры разам з братам Антонам. Іх разам арыштавалі, разам, у адзін дзень і час, і расстралялі.

**Ванькович Радзівон Сямёнавіч**. 1875 г.н., нарадзіўся ў в. Вялікія Купіскі[4] Навагрудскага павета Мінскай губ., рускі, з рабочых, чл. УКП (б), адукацыя ніжэйшая, зменны майстар МАДЭСа. Жыў: Масква, Дравяная пл., д. 8, кв. 31. Арыштаваны 19 кастрычніка 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР ад 28 лістапада 1937 г. па абвінавачванні ў шкодніцкай рабоце прызначана вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Прысуд прыведзены ў выкананне 8 снежня 1937 г. Рэабілітаваны 13 кастрычніка 1956 г.

**Вір Міхаіл Антонавіч.** 1905 г.н., нарадзіўся ў в. Мольнічы Навагрудскага павета (Польшча), беларус, з сялян, б/п, адукацыя сярэдняя, эканаміст завода «13 октября». Жыў: ст. Вешнякі Маскоўска-Казанскай чыг., вул. Сацыялістычная, д. 28. 2 жніўня 1938 г. па абвінавачванні ў шпіёнскай рабоце на карысць Польшчы прызначана вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Прысуд прыведзены ў выкананне 10 жніўня 1938 г. Рэабілітаваны 6 жніўня 1962 г.

**Галубка (Галубко) Павел Іванавіч.** 1892 г.н., ураджэнец в. Зарэчча Навагрудскага пав. Мінскай губ., паляк, беспартыйны, манцёр аддзела капітальнага рамонту Лен. тэлефоннай дырэкцыі, жыў: г. Ленінград, вул. Каляева, д. 16, кв. 40. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 17 студзеня 1938 г. прысуджаны па арт. 58-6-11 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў г. Ленінградзе 25 студзеня 1938 г.

**Гросіе (Гросіс) Канстанцін Эрнеставіч.** 1896 г.н, ураджэнец м. Любча Навагрудскага пав. Мінскай губ., рускі, член УКП(б), пам. камандзіра па матэрыяльным забеспячэнні 70-га артпалка, маёр. Арыштаваны 13 кастрычніка 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 2 снежня 1937 г. прысуджаны па арт. 58-6-7 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 8 снежня 1937 г.

**Грыб Іосіф Міхайлавіч.** 1885 г.н., ураджэнец с. Вераскава Мінскай губ., беларус, былы член УКП(б), дырэктар леспрамгаса ў г. Белая Царква (УССР). Асобай нарадай пры НКУС СССР 22 верасня 1935 г. асуджаны на 5 гадоў ППЛ. Адбываў пакаранне ў Салавецкай турме. Асобай тройкай УНКУС ЛА 25 лістапада 1937 г. прысуджаны па арт. 58-10-11 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 8 снежня 1937 г.

**Дмухоўскі Іван Казіміравіч.** 1887 г.н., ураджэнец в. Гарбатава[5] Навагрудскага пав. Мінскай губ., паляк. Беспартыйны, ст. рабочы 2-й дыстанцыі службы пуці ст. Волхаўбуд-1 Кіраўскай чыг. Арыштаваны 21 лістапада 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 14 снежня 1937 г. прысуджаны па арт. 58-7-8-9-10-11 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Рассстраляны 20 снежня 1937 г.

**Забаўскі Сяргей Мікалаевіч.** 1907 г.н., ураджэнец м. Ярэмічы Навагрудскага пав. (Польшча), беларус, беспартыйны, студэнт Лен. дзярж. пед. інстытута імя Герцэна, жыў: г. Ленінград, вул. Жалябава, д. 27, пак. 131 (інтэрнат). Арыштаваны 26 кастрычніка 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 19 лістапада 1937 г. прысуджаны па арт. 58-6-9 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 24 лістапада 1937 г.

**Іванчык Іосіф Канстанцінавіч.** Нарадзіўся ў 1905 г. у в. Уселюб Навагрудскага пав. Мінскай губ., рускі, б/п, адукацыя пачатковая, чорнарабочы. Жыў у Варшаве: вул. Бяднарска, д. 24, кв. 32. Арыштаваны 6 студзеня 1938 г. пры нелегальным пераходзе мяжы з Польшчы ў СССР. Прыгавораны да расстрэлу 25 красавіка 1938 г. ВКВС СССР па абвінавачванні ў шпіянажы. Расстраляны 25 красавіка 1938 г. Рэабілітаваны 20 ліпеня 1992 г. Пракуратурай РФ.

**Ігнатчык Канстанцін Пятровіч.** 1892 г.н., ураджэнец в. Варошычы[6] Навагрудскага павета, беспартыйны, беларус, гарматны наводчык марскога аддзела Навукова-выпрабавальнага артылерыйскага палігона. Да арышту жыў у г. Ленінградзе. Арыштаваны 1 жніўня 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 31 жніўня 1937 г. прысуджаны па арт. 58-9-11 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Прысуд прыведзены ў выкананне 15 верасня 1937 г.

**Казляк Іван Раманавіч.** 1882 г.н., ураджэнец в. Трударава[7] Навагрудскага пав. Мінскай губ., рускі, беспартыйны, пісьманосец 13-га паштовага аддзялення сувязі, жыў: г. Ленінград, Мала-Дзецкасельскі пр., д. 25/12, кв. 40. Арыштаваны 25 верасня 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 12 кастрычніка 1937 г. прысуджаны па арт. 58-6-11 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 17 кастрычніка 1937 г.

---

[4] Цяпер – в. Купіск у Навагрудскім р-не Гродзенскай вобл.

[5] У рускім напісанні: Горбатово. Верагодна, в. Горбатавічы (суч. Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.)

[6] У рускім напісанні: Ворошичи. Верагодна, в. Варонча (суч. Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.).

[7] У рускім напісанні: Трудорово. Хутчэй за ўсё, в. Тударава (суч. Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.). Менш верагодна – в. Труднава (суч. Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.).

**Кайдак Пётр Ільіч.** 1890 г.н., ураджэнец в. Аюцавічы[8] Навагрудскага пав. Мінскай губ., беларус, беспартыйны, аўтагенны зваршчык 54 школы глуханямых Кастр. чыг, жыў: г. Ленінград, Дравяны зав., д. 10, кв. 7. Арыштаваны 27 жніўня 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 10 студзеня 1938 г. прысуджаны па арт. 58-6-11 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 10 лістапада 1937 г.

**Каляда Віктар Сафронавіч.** 1897 г.н., нарадзіўся ў в. Панямонь Навагрудскага павета Мінскай губ., беларус, з сялян, чл. УКП(б), адукацыя ніжэйшая, оперупаўнаважаны райаддзела УНКУС Маскоўскай вобласці. Жыў: Маскоўская вобл., г. Нагінск, д. Саветаў 6, кв. 30. Арыштаваны 20 жніўня 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР ад 19 кастрычніка 1937 г. па абвінавачванні ў сувязях з ворагамі народа і аказанні ім судзеяння прызначана вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Прысуд прыведзены ў выкананне 21 кастрычніка 1937 г. Рэабілітаваны 4 снежня 1957 г.

**Каранкевіч Арсеній Кузьміч.** 1894 г.н., нарадзіўся ў с. Мітраполле[9] Навагрудскага павета (Польшча), паляк, з сялян, б/п, адукацыя вышэйшая, галоўны бухгалтар чыг. імя Дзяржынскага. Жыў: г. Масква, вул. Няглінная, д. 29/14, кв. 17. Арыштаваны 1 лістапада 1937 г. Тройкай пры УНКУС СССР па МВ ад 14 чэрвеня 1938 г. па абвінавачванні ў падрыўной рабоце на чыгуначным транспарце прызначана вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Прысуд прыведзены ў выкананне 10 ліпеня 1938 г. Рэабілітаваны 27 лютага 1961 г.

**Карп Іван Антонавіч.** 1894 г.н., ураджэнец с. Вялікая Слабада Ярэміцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ, былы член УКП(б), службовец, вучыўся ў Міжнароднай Ленінскай школе, жыў: г. Масква. (У СССР прыбыў з Польшчы). Калегіяй АДПУ 28 чэрвеня 1932 г. асуджаны на 10 гадоў канцлагера. Адбываў пакаранне ў Салаўках. Асобай тройкай УНКУС ЛА 14 кастрычніка 1937 г. прысуджаны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў Карэльскай АССР (Сандармох) 1 лістапада 1937 г.

**Кокалаў Аляксандр Андрэевіч.** 1908 г.н, нарадзіўся ў в. Зенявічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., беларус, з рабочых, б/п, адукацыя вышэйшая, выкладчык тэхнікума савецкага гандлю. Жыў: г. Масква, вул. Гаўрыкава, д. 3/1, кв. 42. Арыштаваны 2 лістапада 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР ад 1 снежня 1937 г. па абвінавачванні ў тым, што нелегальна перайшоў мяжу з Польшчы ў 1924 г., падтрымліваў цесную сувязь з польскім шпіёнам і перадаваў звесткі польскай разведцы, прызначана вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Прысуд прыведзены ў выкананне 9 снежня 1937 г. Рэабілітаваны 28 лістапада 1989 г.

**Латвінскі[10] Адам Селіверставіч (Сільвестравіч).** 1868 г.н., ураджэнец г. Навагрудак Мінскай губ., паляк, беспартыйны, легкавы рамізнік, жыў: г. Старая Руса. Арыштаваны 22 кастрычніка 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 10 студзеня 1938 г. прысуджаны па арт. 58-10 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў г. Ленінградзе 15 студзеня 1938 г.

**Ліс Канстанцін Адамавіч.** 1898 г.н., нарадзіўся ў с. Лозкі Навагрудскага пав. (Польшча), паляк, з сялян, б/п, адукацыя няскончаная сярэдняя, намеснік галоўнага бухгалтара цэментнага завода «Гигант». Жыў: Маскоўская вобл., Васкрасенскі р-н, пас. Цэмзавода, д. 13, кв. 2. Арыштаваны 10 студзеня 1938 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР ад 19 лютага 1938 г. па абвінавачванні ў шпіянажы на карысць Польшчы прызначана вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Прысуд прыведзены ў выкананне 25 сакавіка 1938 г. Рэабілітаваны 30 жніўня 1957 г.

**Лісіцкі Аляксей Іванавіч.** 1912 г.н., нарадзіўся ў в. Кашалёва[11] Гродзенскай губерні[12], паляк, з рабочых, б/п, адукацыя ніжэйшая, старшы дзяжурны слесар Хлебазавода № 6 у г. Маскве. Жыў: Масква, вул. Вялікія Кочкі, д. 14, барак 6, кв. 7. Арыштаваны 2 лютага 1938 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР ад 26 лютага 1938 г. па абвінавачванні ў контррэвалюцыйнай шпіёнскай дзейнасці прызначана вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Прысуд прыведзены ў выкананне 8 сакавіка 1938 г. Рэабілітаваны 25 студзеня 1965 г.

**Манюк Вікенцій Сцяпанавіч.** 1879 г.н., ураджэнец в. Уселюб Навагрудскага пав. Мінскай губ., паляк, беспартыйны, кухар сталовай № 3, жыў: п. Баксітагорск. Арыштаваны 20 лютага 1938 г. Асобай тройкай УНКУС ЛА 20 сакавіка 1938 г. прысуджаны па арт. 58-10-11 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў г. Ленінград 9 красавіка 1938 г.

**Марозава Лідзія Іванаўна.** 1898 г.н., нарадзілася ў г. Навагрудку Мінскай губ.

---

[8] Найверагодней Ацюкевічы.

[9] У рускім напісанні: Митрополье. Правільна: в. Мітраполь (суч. Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл.).

[10] Верагодна, Літвінскі.

[11] Правільна: в. Кашалёва (суч. Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл.).

[12] У 1912 г. в. Кашалёва знаходзілася на тэрыторыі Мінскай губерні.

(Польшча), руская, з сялян, беспартыйная, адукацыя сярэдняя, бібліятэкар школы № 33 Краснапрэсненскага р-на Масквы. Пражывала: Масква, Спаса-Глінішчаўскі зав., д. 4, кв. 41. Арыштавана 9 кастрычніка 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР ад 28 лістапада 1937 г. па абвінавачванні ў тым, што ў 1921 г. эміграваў ў Маньчжурыю і, пражываючы ў Харбіне, уваходзіла ў колы ворагаў СССР, прызначана вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Прысуд прыведзены ў выкананне 4 снежня 1937 г. Рэабілітавана 17 лістапада 1956 г.

**Мартышэўскі Іван Антонавіч.** 1889 г.н., нарадзіўся на хутары Паплавы Навагрудскага павета, Мінскай вобл., беларус, з сялян, б/п, адукацыя ніжэйшая, рабочы завода № 20 у Маскве. Жыў: Маскоўская вобл., пас. Вайкавец, д. 11, кв. 7. Арыштаваны 11 сакавіка 1938 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР ад 29 ліпеня 1938 г. па абвінавачванні ў шпіянажы на карысць Польшчы прызначана вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Прысуд прыведзены ў выкананне 10 жніўня 1938 г. Рэабілітаваны 9 жніўня 1957 г.

**Матчэня Канстанцін Лявонавіч.** 1894 г.н., ураджэнец в. Тухавічы[13] Навагрудскага пав. Мінскай губ., беларус, член УКП(б) у 1924—1937 гг., тэхнолаг гарачай апрацоўкі завода ВАРЗ, былы загадчык групавой прыёмкі сыравіны АТК завода імя Жданава, жыў: г. Ленінград, В.В., 16-я лінія, д. 27, кв. 6а. Арыштаваны 1 лістапада 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 19 лістапада 1937 г. прысуджаны па арт. 58-9-11 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 24 лістапада 1937 г.

**Моніч Рыгор Іванавіч.** 1886 г.н., нарадзіўся ў в. Дольня[14] Навагрудскага павета Мінскай губ., рускі, з сялян, б/п, адукацыя ніжэйшая, вагонаважаты Растокінскага трамвайнага парку. Жыў: г. Масква, вул. Малая Пераяслаўская, д. 40, кв. 20. Арыштаваны 5 верасня 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР ад 19 кастрычніка 1937 г. па абвінавачвані ў антысавецкай агітацыі прызначана вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Прысуд прыведзены ў выкананне 21 кастрычніка 1937 г. Рэабілітаваны 2 кастрычніка 1989 г.

**Муха Аляксандр Маркавіч.** 1890 г.н., ураджэнец м. Мір Мінскай губ., беларус, беспартыйны, старшы бухгалтар 1-й псіхакалоніі Ленгарздрава, жыў: в. Ламахі Араніенбаўмскага р-на Лен. вобл. Арыштаваны 29 верасня 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 9 лістапада 1937 г. прысуджаны па арт. 58-6 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 15 лістапада 1937 г.

**Мычко Піліп Мітрафанавіч.** 1894 (1893) г.н., ураджэнец в. Купіск Навагрудскага пав. Мінскай губ., паляк, беспартыйны, пуцявы брыгадзір 10-й дыстанцыі пуці, жыў: ст. Тайбола Мурманскай акр., д. 4. Арыштаваны 20 лютага 1938 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 31 мая 1938 г. прысуджаны па арт. 58-6-7-9-10 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў г. Ленінградзе 28 чэрвеня 1938 г.

**Раковіч Міхаіл Лявонцьевіч.** 1898 г.н., ураджэнец в. Заполле Навагрудскага пав. Мінскай губ., рускі, беспартыйны, заг. магазіна Пушкінгандлю, жыў: г. Пушкін Ленінградскай вобл., вул. Радзішчава, д. 7, кв. 8. Арыштаваны 29 верасня 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 12 кастрычніка 1937 г. прысуджаны па арт. 58-6 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 17 кастрычніка 1937 г.

**Рут** (ён жа **Рудніцкі, Шольц**) **Рычард-Натан Ісакавіч.** 1899 г.н., ураджэнец г. Навагрудка, яўрэй, член УКП(б) у 1930-1937 гг., слухач Ваенна-медыцынскай акадэміі РСЧА, жыў: г. Ленінград. Арыштаваны 5 кастрычніка 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 2 снежня 1937 г. прысуджаны па арт. 58-6-10 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 8 снежня 1937 г.

**Савіцкі Вадзім Міхайлавіч.** 1903 г.н., нарадзіўся ў с. Поўбераг Навагрудскага павета (Польшча), беларус, з сям'і святара, б/п, звестак аб адукацыі няма, настаўнік спецшколы № 15. Жыў: г. Разань, вул. Фрунзе, д. 4., кв. 2. Арыштаваны 8 верасня 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР ад 19 кастрычніка 1937 г. па абвінавачванні ў сістэматычнай антысавецкай агітацыі сярод насельніцтва і контррэвалюцыйнай прапагандзе прызначана вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Прысуд прыведзены ў выкананне 21 кастрычніка 1937 г. Рэабілітаваны 16 студзеня 1989 г.

**Турок Мікалай Іванавіч.** 1893 г.н., нарадзіўся ў с. Лазок[15] Навагрудскага пав. Мінскай губ., рускі, з сялян-серадлякоў, б/п, адукацыя ніжэйшая, загадчык біялагічнай станцыі Працоўнай камуны № 2 НКУС. Жыў: Маскоўская вобл., г. Люберцы, Працкамуна № 2, вул. Дзяржынскага, дом біястанцыі Працкамуны. Арыштаваны 9 сакавіка 1938 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР ад 16 мая 1938 г. па абвінавачванні ў шпіянажы на карысць

---

[13] Верагодна, в. Жухавічы (суч. Карэліцкі раён Гродзенскай вобл.).

[14] Верагодна, в. Дольная Рута (суч. Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.).

[15] У рускім напісанні: Лозок. Правільна: в. Лозкі (суч. Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл.).

Польшчы прызначана вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Прысуд прыведзены ў выкананне 26 мая 1938 г. Рэабілітаваны 11 лістапада 1957 г.

**Тушынскі Фёдар Сцяпанавіч.** 1893 г.н., ураджэнец м. Мір Навагрудскага пав. Мінскай губ., беларус, беспартыйны, вайсковец артшколы ЧБФ, інтэндант 3-га рангу. Арыштаваны 26 жніўня 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 1 снежня 1937 г. прысуджаны па арт. 58-2-6-10 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 9 снежня 1937 г.

**Часноўскі**[16] **Іван Іосіфавіч.** 1898 г.н.. ураджэнец м. Мір, паляк, беспартыйны, дырэктар зоныРаслеспаперзабеспзбыту, жыў: г. Масква. Арыштаваны 20 лютага 1938 г. Камісіяй НКУС і пракуратуры СССР 14 красавіка 1938 г. прысуджаны па арт. 58-6-11 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў г. Ленінградзе 26 красавіка 1938 г.

**Шыманскі Мікалай Іванавіч.** 1906 г.н., нарадзіўся ў в. Пясочына (Пясчана)[17] Навагрудскага павета Мінскай губ. (Польшча), беларус, з сялян, б/п, адукацыя вышэйшая, планавік-фінансіст УНДІ ўгнаенняў, агратэхнікі і аграглебазнаўства. Жыў: г. Масква, Новая шаша, д. 42, кв. 7. Арыштаваны 4 лістапада 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР ад 13 снежня 1937 г. па абвінавачванні ў шпіянажы прызначана вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Прысуд прыведзены ў выкананне 19 снежня 1937 г. Рэабілітаваны 15 верасня 1989 г.

**Шэйман Сямён Пятровіч.** 1892 г.н., ураджэнец в. Валокі Навагрудскага пав. Мінскай губ., немец, беспартыйны, праваднік вагонаў 3-га аддзялення пасажырскай службы Кастр. чыг., жыў: г. Пушкін, вул. Пралеткульта, д. 28, кв. 2. Арыштаваны 11 красавіка 1938 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 28 красавіка 1938 г. прысуджаны па арт. 58-9-10-11 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў г. Ленінградзе 1 чэрвеня 1938 г.

**Юрчык Канстанцін Пятровіч.** 1890 г.н., ураджэнец в. Ваўковічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., беларус, беспартыйны, ст. кандуктар пасажырскіх цягнікоў ст. Ленінград Варшаўскай лініі Кастрычніцкай чыг., жыў: г. Ленінград, 11-я Чырвонаармейская вул., д. 16, кв. 17. Арыштаваны 26 жніўня 1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР 10 кастрычніка 1937 г. прысуджаны па арт. 58-6-10 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 14 кастрычніка 1937 г.

Некаторыя скарачэнні:

б/п – беспартыйны
ВАРЗ – гл. СВАРЗ (Сакольніцкі) вагонарамонтны завод
в-ва – ваяводства
ВКВС СССР – Ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР
к.-р. – контррэвалюцыйны
Кастр. чыг. – Кастрычніцкая чыгунка
КК – Крымінальны кодэкс
ЛА – Ленінградская акруга
Лен. вобл. – Ленінградская вобласць
МАДЭС – Маскоўская дзяржаўная электрычная станцыя
МВ – Маскоўская вобласць
НКАП – Народны камісарыят абароннай прамысловасці
пас. ІТР – пасёлак інжынерна-тэхнічных работнікаў
ППЛ – папраўча-працоўны лагер
РСЧА – Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія
СПХА —супрацьпаветраная і хімічная абарона
УНДІ – Усесаюзны навукова-даследчы інстытут
УНКУС – Упраўленне наркамата ўнутраных спраў
ЧБФ – Чырвонасцяжны Балтыйскі флот

---

“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць свайго сталага аўтара
**Яўгена Лецку** з сямідзесяцігоддзем
і зычаць яму моцнага здароўя, аптымізму,
душэўнае трываласці і новых твораў!

---

[16] Прозвішча В. І. і І. І. Часноўскіх у рускім напісанні – Честновский.
[17] Верагодна, в. Пясочная (суч. Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.).

Леанід Галубовіч



...у ім закладзена квінтэсенцыя
ўсяго беларуска-свядомага
з усімі магчымасцямі і наступствамі...

# Ад Марціна Кухты да Кастуся Цвіркі

***Да 80-годдзя паэта, пісьменніка і выдаўца***

Калі я гляджу на роўны чырвона-залацісты шэраг на сваёй кніжнай паліцы, то абавязкова прыгадваю прозвішча аднаго чалавека. Добрым словам, вядома. Перафразуючы Маякоўскага: “гавару “Беларускі кнігазбор” – маю на ўвазе Кастуся Цвірку”... Маю на ўвазе заслужана, як і пераважная большасць нашай нацыянальнай інтэлігенцыі.

Адзін пыхліва спехам напіша пра нацыянальнага песняра як пра Каяна Лупаку і, пад хіхіканне хаўруснікаў, будзе даводзіць, што гэта і ёсць найноўшы аб’ектыўны погляд на нашага народнага песняра, а другі тым часам годна выдасць том Янкі Купалы ў залатой серыі “Беларускага кнігазбору” і будзе мець ціхую ўхвалу ў пакаленнях...

Іншы з апломбам змагара два дзесяцігоддзі ўлегцы прабегае з бел-чырвона-белым сцягам і лозунгам “Жыве Беларусь!” (хоць бачна, што яна хворая, знаходзіцца ў крытычным стане і яе трэба лячыць і падымаць на ногі), тады як другі ў гэты час без шуму і гвалту знаходзіць хоць якую магчымасць працаваць на карысць нацыянальнай справы Айчыны...

Зрэшты, і сам Канстанцін Аляксеевіч Цвірка чалавек

не апалітычны, больш за тое, заўсёднік пратэстных сходаў, дэманстрацый і мітынгаў. Пра гэта мы маем згадкі як самога Цвіркі, так і іншых людзей... Усе ведаем, што восеньскі мітынг на Дзяды 1988 года быў разагнаны. Кастусь Цвірка таксама быў сярод удзельнікаў тых падзей, і вось як ён тое ўспамінае: "...уздым такі быў! ...калі туды ішоў, звярнуў увагу, што на Маскоўскіх могілках вельмі шмат было міліцыянтаў, якія трымалі сабак на павадках. Я гэта заўважыў, хацеў сфатаграфаваць, але мне не далі, міліцыянт засланіў, і так і не сфатаграфаваў. А як ішлі назад, убачыў, як два хлопцы-здаравякі ў цывільнай вопратцы схапілі аднаго з удзельнікаў шэсця, у якога быў магнітафон. Яны – адзін з аднаго боку, другі з другога – хацелі ўжо весці яго ў машыну. А я блізка быў, узяў і штурхануў аднаго з іх у грудзі. Ён адскочыў. А той хлопец з магнітафонам выслізнуў і ўцёк... Я такі, як быў, такі і застаўся. ...Разумеў тады і цяпер разумею..."

Агулам жа Канстанцін Аляксеевіч – чалавек арганічны і натуральны, ад мазаля і чарназёму. Пра яго нельга сказаць спрошчана: інтэлігент, нацыяналіст ці патрыёт, бо ў ім закладзена квінтэсенцыя ўсяго беларуска-свядомага з усімі магчымасцямі і наступствамі. Сухарлявы, жылісты, падцягнуты, шчыры, спакойны, руплівы і надзейны... Ну і, безумоўна, – з божым дарам літаратурнага таленту. На такіх наша зямля і трымаецца. Толькі пра іх мала хто калі згадвае. На жаль. У нашай сучаснай літаратуры ведаю трох падобных волатаў: А. Вярцінскага, У. Дамашэвіча і Дз. Бугаёва. К. Цвірка – чацвёрты.

Нарадзіўся ён 28 сакавіка 1934 года ў вёсцы з прыгожай назвай Зялёная Дуброва, як згадвае ён у сваіх "дзённіках", "невялікай, аднавулічнай вёсачцы на самым ускрайку лясістага Старадарожскага раёна, непадалёку ад вытокаў ракі Арэсы і возера Скачальскага. Гэта – Верхняе Палессе, наша гістарычная Случчына". Яго бацька быў на фінскай вайне. Пасля вяртання з фронту моцна захварэў і хутка памёр у 1942 годзе ва ўзросце Хрыста. 28-гадовая маці адна гадавала пяцёра дзяцей. Часта з лесу прыходзілі патызаны, дзе быў родны бацькаў брат. Аднойчы фашысты схапілі маці на допыт, але яна цудам выратавалася...

Жылося і выжывалася на жылах. Аднак жа Кастусь скончыў сярэднюю школу ў Старых Дарогах, а пасля і аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1958). Два гады выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Труханавіцкай сярэдняй школе на Капыльшчыне. Працаваў у райгазеце "Рудзенская праўда", рэдактарам на Беларускім радыё, старшым метадыстам рэспубліканскага Дома народнай творчасці, старшым інспектарам Упраўлення па распаўсюджванні друку Міністэрства сувязі БССР. Скончыўшы аспірантуру пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР быў там навуковым супрацоўнікам (кандыдат гістарычных навук, 1972). З 1981 года працаваў у выдавецтве «Юнацтва», а з 1984-га – рэдактарам аддзела паэзіі часопіса «Полымя». З гэтай пары я ўжо і сам Кастуся Цвірку добра помню і ведаю. Ён выдрукаваў у гэтым салідным выданні маю першую нізку вершаў. Даў, як кажуць, вясковаму электрыку пачувацца "сапраўдным паэтам".

З 1996 года і да гэтага часу Канстанцін Аляксеевіч – кіраўнік і галоўны рэдактар выдавецтва "Беларускі кнігазбор".

Такая вось, на першы погляд, звычайная жыццёвая біяграфія.

Біяграфія ж творчая ў гэтага чалавека нашмат глыбейшая і каларытнейшая. Як паэт К. Цвірка пачаў пісаць даволі рана, яшчэ ў старэйшых класах школы. Друкаваўся з сямнаццаці гадоў. А ў дваццаць пяць ужо трымаў у руках свой першы паэтычны зборнік "Такія сэрцы ў нас". Агулам выдаў каля дзесяці кніжак вершаў.

Будучы чалавекам зямным, нават прыземленым, у добрым сэнсе гэтага слова, К. Цвірка ведае цану рукам і душы. Памятаю, як першы раз прачытаў яго прозвішча на чорнай вокладцы зборніка вершаў "Чарназём". Надта ж уражвала і пасавала



*Кастусь ЦВІРКА з кнігамі залатой серыі выдавецтва "Кнігазбор"*

майму вясковаму статусу такая назва. І добра пра гэтую характэрную рысу паэта напісаў калісьці А. Вярцінскі: "Думаю, што справа тут не ў нейкай агульнай ідэалізацыі вёскі, не ў простай паэтызацыі сельскага ўкладу жыцця. Справа ў пошуку жыццёвага ідэалу, сапраўдных жыццёвых каштоўнасцей. (...) Паэт імкнецца дайсці да сутнасці, да ісціны. Яго непакоіць пытанне: як чалавек павінен жыць?" К. Цвірка насамрэч быў тонкім лірыкам, які суперажываў жыццё чалавека і прыроды ва ўсіх іх праявах. Безумоўна, адштурхоўваючыся ад уласнага "я". Сярод традыцыйнай, ідэйна выверанай па тым часе рыфмаванкі (пра што з сорамам згадвае паэт сёння ў сваіх "вясковых дзённіках", аддадзім і тут належнае яго шчырасці) у кожным яго зборніку трапляліся і вершы самай высокай пробы. Ну вось як не працытаваць гэтыя строфы з другога зборніка "Бягуць раўчукі" (1962):

Звінелі росы на Крушні,
Каровы рыкалі за Талам.
А сцежка, дажджом прыцярушаная,
Конікамі стракатала.
Выходзіла сонца з аблокаў,
Гарэў небасхіл пажарам.
І дзесьці на дне глыбока
Песня ў сэрцы ляжала.

Як цяпер бачыцца, яна (песня) чакала свайго пэўнага часу. Зрэшты, ужо і па тым часе ў паэта з'яўляліся радкі, якія мала хто насмельваўся пісаць. Ну, вось падзівіцеся на гэты ўзор сатырычага ўхілу творчасці і праяўлення грамадзянскай пазіцыі, якія і сёння выглядалі б не менш злабадзёнымі (з верша 1965 года):

Ён строгі сабакар, іх гаспадар, –
Заўсёды верным паслухмяным будзь ты.
Штодня кідае ім агрызкі ў дар,
Дае за службу ўсім па цёплай будцы.
Ды як жа за яго ім не брахаць?
За костку – толькі дайся ім у знакі –
Яны любога могуць разарваць...
Ды я іх не віню: яны ж – сабакі.

Не абыходзіў у сваёй творчасці К. Цвірка і гарачую тэму беларускага патрыятызму і нацыянальнага гонару. Гэта было ў сэрцы і з сэрца выплёсквала адрэналін духоўнага супраціву, калі савецкая рэчаіснасць дарэшты пераймала творчы дых:

Дзеці лесу, мы воляй гордыя –
віся, восеньскіх лісцяў рой!
Колькі раз чужацкія орды
край капыцілі пад зарой!

Нам багоў сваіх неслі і ёрмы,
ды праз вываратні і равы
гналі прэч іх ад нашых зор мы:
мы – яцвягі,
мы – не рабы!

Гэта верш 1978 года. Але ў творчасці паэта ўласна мяне не менш захапляе яго лірыка “чыстай красы”. У тым ліку і любоўная. Бо хіба можна без нейкай патаемнай інтымнасці душы чытаць і ўжывацца ў пачуццёвае трымценне чалавечай істоты, якая апынаецца на вяршыні першароднага духу, не зважаючы на сваю прыродную аголенасць, як тыя Адам і Ева?!

Былі тады – ноч,
Ты ў слабенькім паркаліку,
Арэшнік,
Ды я, грэшнік.
А зоркі ўсе стаялі, як адна,
У возеры расчыненым, без дна.

Дадам яшчэ, што К. Цвірка пісаў казкі і вершы для дзяцей. Выйшлі чатыры кніжкі.

Нельга прамінуць і адносна нядаўняй празаічнай кніжкі паэта (па натуры ён для мяне ўсё ж паэт) – рамана “Воўчая выспа”, які ўвайшоў і ў кнігазбораўскі том выбраных твораў Кастуся Цвіркі. Фармальна гэта абсалютна самабытны твор нацыянальнай літаратуры, які па-цяперашняму можна аднесці да жанру фэнтэзі (альбо прыгодніцкага рамана), накладзенага на рэалістычны фон арыгінальнага мастацкага выяўлення. Твор нацыянальны па сваёй ідэі, чалавечны і гуманны па сутнасці, не зважаючы на ўсе паднявольныя і пад’ярэмныя акалічнасці яго сюжэтнай гісторыі. Чалавек уцякае са сталінскай лагернай Сібіры ў родную Беларусь. Апынаецца на Радзіме ў балотнай непадступнай выспе ў лясной пушчы, шукаючы скрадзенага воўчай зграяй свайго малалетняга сына. Знаходзіць і вучыць яго беларускай мове, чалавечым паводзінам, маральна і псіхалагічна спрабуе вярнуць яго да людскога жыцця... У рамане шмат сімвалічных пасылаў, якія даюць уяўленне пра чалавечае падзенне і ўзвышэнне. Найперш, вядома, духоўнае. Даецца яскравы прыклад высакароднасці чалавека як Боскага стварэння, насуперак усім зямным нягодам, запалохванням і рэпрэсіям. Некаторыя рэцэнзенты небеспадстаўна параўноўвалі пэўныя эпізоды рамана з творамі Ф. Аляхновіча (“У кіпцюрох ГПУ”), Я. Коласа (“Дрыгва”) ды І. Мележа (“Людзі на балоце”). І гэта гаворыць пра тое, што раман К. Цвіркі з’яўляецца адметным і па-мастацку яркім творам сучаснай беларускай літаратуры.

Спавядальна-запаветную частку літаратурнай творчасці вядомага пісьменніка і паэта складаюць мемуарная аповесць “Будзіла вёску берасцянка” і нядаўні “Вясковы дзённік” (“Дні мае, падарункі”), што друкаваўся ў трох нумарах часопіса “Дзеяслоў” (гл.: №№57-59). Гэтыя запісы – своеасаблівая энцыклапедыя сучаснага вясковага жыцця. Аўтар шчыра і безаглядна апісвае ў сваім стылі цяперашні побыт роднай родавай вёскі на Старадарожчыне. Тут і жывыя людзі, і іх мова, звычкі

і традыцыі. На першы погляд, усё прыземленае, празаічнае, фальклорнае, але ж наколькі сваё, жывое, балючае і любае. Адным словам, шмат адсылаў і націскаў на крэўную прывязанасць аўтара да малой бацькаўшчыны, да беларускай вёскі, да сваёй роднай зямлі. Але вось жа – парадокс, пры такой любові да бацькоўскага парога сам К. Цвірка (пэўна, нечакана і для сябе самога) на завяршэнні “дзённіка” піша так: “...от дзіва: зімой рваўся сюды, у Зялёную Дуброву, а цяпер мару пра Мінск. Бо ўжо надта скора пачынае цямнець, дзень карацее і карацее. Яно та люба выйсці вечарам пад месяцам і зорамі за вёску, на пустэльную дарогу, паслухаць цішыню. Але доўга шпацыраваць гэтак усё ж надакучвае. Хочацца на святло, на добра асветленыя ліхтарамі гарадскія праспекты і вуліцы, у светлыя, аж сліпучыя ад пераліvістых люстраў холы і калідоры бібліятэк – нацыянальнай і акадэмічнай, што ўсё больш становяцца для мяне другім домам...” Няхай і другім, а ўсё ж – домам. Ёсць пра што паразважаць над праявамі і эвалюцыяй сучаснага беларускага інтэлігента. Нават у такім яго пашанотным узросце. І зразумець, бо ён “прыходзіць туды “чэрпаць” усё добрае, усё самае цікавае для “Беларускага кнігазбору” і для ўласных задумак”...

Што да архіўнага пылу і затоенай цішыні бібліятэчных чытальных залаў, то тут сапраўды трэба адзначыць, што К. Цвірка правёў там шмат свайго творчага часу. Добра ведаючы польскую літаратуру, спрычыніўся ён да перакладу польскамоўных паэтычных твораў ураджэнцаў Беларусі: Т. Зана, А. Міцкевіча (у тым ліку паэмы “Дзяды”), У. Сыракомлі, Я. Чачота, М. Рукевіча... Падняў глыбокі пласт айчыннай літаратурнай спадчыны. Да таго ж, часта выступаў як фальклярыст, этнограф і літаратуразнаўца. Аўтар кніг мастацкіх нарысаў “Той курган векавечны”, “Лісце забытых алеяў”, манаграфіі “Слова пра Сыракомлю”, з’яўляецца складальнікам аднаго з тамоў (“Вяселле. Абрад”) фальклорнай серыі “Беларуская народная творчасць”. (Дарэчы, тут варта згадаць выпадкова прачытаную мной зацемку крытыка А. Сідарэвіча: «...ідэалагічную дыверсію ўчыніў навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Кастусь Цвірка... Інстытут выпускаў тады шматтомную серыю “Беларуская народная творчасць”. У томе “Вяселле: Абрад” К. Цвірка апублікаваў артыкул “Слуцкае вяселле”. Зноў-такі, артыкул як артыкул, але вось імя аўтара... Юрка Лістапад. Слуцкі паўстанец, эмігрант, потым галоўны фігурант гучнай палітычнай справы. Нават тэрмін “лістападаўшчына” быў...»). Гэта яшчэ адзін штрышок да яго грамадзянскай пазіцыі ў справе нацыянальга адраджэння.

У 1995 годзе з ініцыятывы пісьменьніка Кастуся Цвіркі наша інтэлігенцыя стварыла Міжнародны фонд “Беларускі кнігазбор”. Цвірка быў апантаны марай выдаць усё найлепшае з нацыянальнай літаратуры цягам усёй яе гісторыі. З 1996 года пачалі з’яўляцца ў свет першыя тамы “залатой серыі” выдавецтва “Беларускі кнігазбор”, заснаванага К. Цвіркам і Г. Вінярскім (першы том – творы Яна Чачота).

Залатая скарбніца беларускага пісьменства, на думку заснавальнікаў, павінна была змясціцца ў 200 тамах... Увесь план-каталог быў папярэдне падзелены на тры падсерыі: мастацкая літаратура, гістарычна-літаратурная і пераклады замежнай класікі. Агулам пабачыла свет ужо каля сямідзесяці тамоў. Тут спадар Цвірка – і галоўны рэдактар, і складальнік, а пры вострай неабходнасці – і “майстар на ўсе рукі”... За тое і павага ўсеагульная. Не сакрэт, на пачатку плён працы даваўся вельмі цяжка. Да прыкладу, планавалася на год па дзясятку кніг, а ўдавалася выдаваць два-тры тамы. Не так проста было сабраць і падрыхтаваць арыгінальнае выданне па амаль акадэмічных канонах. Але вера ў сваю ідэю, упартасць і паўсядзённыя намаганні, у рэшце рэшт, прыносілі свае плады. Тым больш, што колішняяя праца ў Інстытуце астацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору заклалі добры прафесійны падмурак для падобнае працы.

Як прыпамінае К. Цвірка: “Пачыналі мы з нуля, ніякіх сродкаў не было. Але была вера і жаданне вялікае. І гэта намі рухала. (...)Каб былі сродкі, дык справа нашая пайшла б вельмі шпарка, і каб была падтрымка дзяржавы. Дзяржаўнае падтрымкі ў нас няма. (...)Мы павінны намаляваць гэтым кнігазборам праўдзівую гісторыю літаратуры, і будзем даваць гэтыя тэксты так, як яны напісаныя, без ніякіх купюраў, будзем даваць усё найлепшае, нягледзячы на розныя палітычныя меркаванні, будзем даваць толькі аб’ектыўную карціну нашай літаратуры. (...)Я думаю, гэта вельмі важна, каб даваць не толькі класікаў, пісьменнікаў, якія даўно ці нядаўна адышлі ад нас, але і тых сучасных пісьменнікаў, якія ўжо паказалі сябе ў літаратуры”. Мяркую, большасць чытаючых беларусаў пагодзіцца і з вядомым грамадскім дзеячам, бібліяфілам і філолагам А. Фядутам: “Тое, што зрабіў Цвірка як асветнік, тое, што ён пачаў выдаваць гэтую серыю – гэта быў першы крок, каб мы ўсвядомілі, што мы насамрэч маем за літаратурную спадчыну. “Беларускі кнігазбор” – гэта спроба зрабіць узорную літаратурную серыю. І дзякуй спадару Цвірку, што ён такое прыдумаў”. Што і казаць, такія людзі, як Кастусь Цвірка, выклікаюць вялікую людскую павагу.

Можа, грэх казаць, тым больш мне, былому алкаголіку, а то яшчэ хто і за рэкламу прыме, але не магу сябе стрымаць, каб не ўспомніць колішняе сваё маладое. Недзе на пачатку 70-х, калі я працаваў электрыкам у Слуцкіх раённых электрасетках, нярэдка брыгадай, вяртаючыся на машыне з абходу ліній, заварочвалі мы ў бліжэйшую прылесную вёску на Старадарожчыне, каб купіць там пляшку не якой-небудзь таннай сівухі, а чыста хлебнай – 70-цігradуснай! – самагонкі. На ёй не было ніякага асаблівага знаку якасці, апроч райгазетнага корка, – знак якасці быў у ёй самой. Тое ведаюць да гэтай пары пітушчыя людзі ці не па ўсёй Беларусі, а то і далей. Прабачаюся, але нават такім грэшным прыкладам я хачу падкрэсліць, што прырода і людзі на старадарожчыне адзначаныя высокай непадробнай метай. Сярод іх і Кастусь Цвірка.

Сам жа ён кажа, што, каб зрэалізаваць задуманы кнігазбораўскі двухсоттомнік, “запланаваў сабе яшчэ пяцьдзясят гадоў жыцця”. І жартуе, што пры сваім цяперашнім узросце “нават цешыцца з такой перспектывы”.

Ай ды Цвірка, ай ды малайчына! Хутчэй за ўсё, нават тады, калі многіх з нас забудуць, яшчэ доўга будуць згадваць імя пачынальніка залатога “Беларускага кнігазбору”, а шмат каму, асабліва з сучасных беларускіх паэтаў, пэўна, хацелася б яшчэ пры сваім жыцці сказаць, перафразуючы вядомыя радкі Масіма-кніжніка, прыкладна так:

Ў краіне роднай, дзе дажываю,
дзе зніч свабоды пакуль не зыркі,
я не самотны, я кнігу маю
з дазволу дзядзькі Костуся Цвіркі...

---

“Дзеяслоўцы” далучаюцца да гэтых віншаванняў
і шчыра зычаць **Кастусю Аляксеевічу**
радасці, натхнення, дабрабыту!

Ірына Клімковіч



...асілкі набываюць рысы
культурных герояў –
міфічных кавалёў ці аратых і б'юцца
з разбуральнымі хтанічнымі сіламі...

# Волаты, асілкі, багатыры...

***Міфічныя першапродкі беларусаў***

Шмат у якіх народаў свету захаваліся старажытныя паданні і міфы пра людзей велічэзнага памеру – вялікалюдаў, якія існавалі на зямлі з векапомных часоў. Шмат хто лічыць такіх вялікалюдаў дачалавечай расай або першапродкамі людзей, якія жылі пасля багоў ці нават папярэднічалі ім. Так, у старажытнагрэцкай міфалогіі алімпійскім багам папярэднічалі гіганты і тытаны – багі першага пакалення, увасабленне стыхіі прыроды з усімі яе катастрофамі, у скандынаўскай міфалогіі такімі веліканамі былі ётуны, а ў стараіндыйскай – асуры. Беларускія легенды і паданні таксама захавалі падобныя міфічныя вобразы, гэта волаты, асілкі, багатыры. Праўда, шматлікія фальклорныя апісанні адносяць іх да першага пакалення людзей: “*Гэто цяпер людзі здрабнелі, а даўней былі такія велізарныя, што роўна з лесам. Яшчэ й цяпер у зямлі знаходзяць іх косці, дак тая адна костачка ў косы сажэнь*”. А калі веліканы злаваліся і пачыналі біцца паміж сабой, здараліся навальніцы і непагадзь. Магчыма і сапраўды, наш народ уяўляў першапродкаў вялізнымі волатамі, якія былі яшчэ не аддзелены ад прыроды, а таму не маглі засвоіць такія

культурныя навыкі, як земляробства, жывёлагадоўлю і рамёствы. Тым не менш, волаты бралі ўдзел у стварэнні прыродных аб'ектаў – азёраў, рэк, камянёў і гор, а з прыходам сапраўдных людзей самі ператварыліся ў тыя аб'екты.

Вось як апісваюць волатаў беларускія паданні:

*"Першымі людзьмі на нашай зямлі былі векалюды – волаты. Гэта такія вялізныя людзі, што цяперашнія нават ім да калена не дасталі б. Кажуць, найглыбейшыя рэкі ім не глыбей, як да калена былі. У іх галовы, кажуць, былі, як цабры, вялізныя. Ідзе волат праз лес, возьме за верх агромністую сасну, вырве з карэннем і папіраецца ёю як кіем... Волаты павытоптвалі зямлю, пааралі яе карчамі так, што на тых месцах стаяць азёры і рэкі, панасыпалі горкі ды параскідалі ўсюды па свеце вялізарныя камяні, якія і цяпер трапляюцца дзе-нідзе на полі ці ў лесе. Яны, бывала, набяруць каменне вялізарнага, бы валы, ды як пачнуць шыбаць іх угору, дык яны толькі ввуу!... А як пойдуць барукацца ці біцца, ды пачнуць рваць дуб'ё, дык аж зямля стогне.*

*Не было на зямлі нікога, хто б мог з волатамі памерацца сілаю. От яны смела хадзілі сабе ды сваволілі. Ведама, калі хто нікога не баіцца, то ён заўжды пачне дурэць, пачне рабіць ліха. Так і тыя волаты пачалі губіць на зямлі жывёлу і ўсялякую расліну, а ў неба шыбаць каменнем. Хацелі нават з Богам дужацца. За тое Бог і пакараў волатаў. У адных адняў розум, так што яны пачалі лбамі разбіваць каменныя горы. Разгоніцца той волат, бы баран, ды як рэзнецца лбом аб камень, дык мазгі і пацякуць, а ён сам зваліцца на зямлю, патрапеча трохі нагамі дый дух вон... Іншую частку волатаў, якія пайшлі супраць Бога, ён закляў: «Быць вам дужымі і стаяць вякамі, а плады вашы будуць свінні есці». І ператварыў іх у дубы. Астатніх абярнуў у малых ды кволых людзей, якія і цяпер жывуць".*

Паводле паданняў, зафіксаваных у многіх месцах Беларусі, волаты пахаваны ў доўгіх курганах – *валатоўках* – невысокіх валападобных земляных насыпах. Гэтая назва пашыраная на поўначы Беларусі і ў сумежных раёнах Смаленшчыны, Пскоўшчыны, Латвіі, у мінулым карэнных землях крывічоў. Месцамі на Віцебшчыне валатоўкамі называюць таксама звычайныя могілкі. Заўважым, што ў некаторых месцах нашай краіны існаваў звычай на Радаўніцу перад наведваннем магіл блізкіх заходзіць на валатоўкі, каб пакінуць там яйка і другую ежу, а часам і частавацца імі на курганах. У Паўночна-Усходняй і Цэнтральнай Беларусі існуюць нават назвы паселішчаў кшталту *Волаты, Валатоўкі* і ім падобныя. Так, вёскі Валатоўкі ёсць у Лепельскім, Міёрскім, Расонскім і Шумілінскім раёнах, вёскі Валатава ў Гомельскім і Валаты ў Слуцкім раёнах, а засценак Волатаў і ўрочышча Волаткава Поле каля Барысава. У некаторых мясцовасцях Беларусі каня таксама называлі "*волат*", а жарабя – "*валаток*" або "*валацёнак*". Шмат якія беларускія паданні гаспадара лесу – лесуна малююць як вялізнага волата, памеры якога сягаюць самага вялікага ляснога дрэва. Украінская мова ведае слова "*велетень*", што азначае чалавека велізарнага росту і сілы. Дзе-нідзе ў Расіі падчас жніва аўса пакідалі нязжатымі некалькі пучкоў каласоў – "*волотей*", існаваў нават звычай у час дажынак пакідаць "*волотку на бородку*". Верагодна, некалі ў даўнія часы нязжатыя каласы лічыліся "*Воласавай бародкай*", а сам звычай пакідаць іх у такім выглядзе – частка архаічнага земляробчага абраду старажытных славянаў, прысвечанага боству плоднасці і багацця Вялесу. Цікава, што падобны звычай захаваўся ў беларусаў у выглядзе шкоднай магіі і называўся "*рабіць залом*" на ніве ці на лузе.

Улічваючы вышэйсказанае і тое, што назвы "*Вялес-Волас*" і "*волат*" маюць агульную этымалогію, некаторыя даследчыкі звязваюць міфічных вялікалюдаў з богам Вялесам. Як гэты бог, так і волаты маюць адносіны да замагільнага свету і забяспечваюць урадлівасць.

## Міфічныя жыхары гарадзішчаў

Але не толькі пра волатаў расказвалі ў народзе. З вуснаў у вусны перадаваліся паданні пра другіх вялікалюдаў – асілкаў, якія нібыта некалі жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі і пакінулі пасля сябе старажытныя гарадзішчы ды велізарныя камяні з адбіткамі рук ці ног. Былі тыя веліканы таксама агромністага росту і сілы, кідаліся яны камянямі, "*нібыта мячыкамі*", і цягнулі дрэвы з каранямі з лесу.

*"Дайно-дайно, калі яшчэ людзі жылі па лясах дрымучых, прыйшлі на нашу зямлю асілкі і пачалі сяліцца па берагах рэк. У лясах вадзіліся звяры ўсялякія: мядзведзі, ваўкі, ласі, кабаны, лісіцы, рысі, а па рэках і азёрах жылі выдры. Рыбы ў водах было такое мноства, хоць кашолкай чэрпай. Асілкі былі людзі здаровыя, ростам цэлы сажань, у плячах аршыны з два. Голас мелі магутны. Бывала, калі крыкне на ўвесь голас ды свісне, дык якое б дрэва ні было вялікае, а зваліцца. І жонкі іхнія былі ў пару ім: рослыя, дужыя і раджалі кожны раз па двое, па трое дзяцей. Гаспадарку асілкі ніколі не трымалі. Не было ў іх ніякай худобы, ні скацінкі дамашняй, ні прыпасу, ні запасу. Ні хлеба, ні лёну не сеялі. Карміліся яны тым, што лавілі па лясах звяроў ды па рэках рыбу. Адзежу сабе яны шылі са звярыных скур. Вось так і жылі.*

*Спадабалася асілкам наша зямля, бо тут ім усяго досыць было. Звяр'я па лясах было не злічыць. Рыбы ў рэках таксама, а ім больш нічога і не трэба было. Задумалі яны тут пасяліцца і пачалі будаваць гарадзішчы. Інструменту ў іх амаль ніякага не было, толькі на ўсіх адна сякера, ды і тая не жалезная, а якаясь медзяная. Не маючы досыць інструменту, асілкі перакідвалі сякеру з гарадзішча на гарадзішча, бо не хацелі траціць часу на хаджэнне. Зыкне асілак з аднаго гарадзішча ў другое: сякеру давай! На другім гарадзішчы нехта возьме сякеру ды і кіне яму. Гэта яшчэ нішто — сякеру перакінуць вярсты за тры. Калі была патрэбна на будоўлю драўніна, пойдзе асілак у лес, вырве дрэва з коранем ды так і прыцягне на гарадзішча. Спатрэбіцца камень, дык ён возьме яго ды і кіне за вярсту, а то і больш — прама на гарадзішча.*

*Ёсць такія мясціны, якія ледзь не засыпаны камянямі. Дзяды казалі, што на гэтых самых мясцінах асілкі ваявалі, кідаючы камяні адзін у аднаго. Яны і звяроў забівалі камянямі, ад таго камяні ляжаць і па лясах. Потым асілкі сышлі адсюль, як толькі перавяліся ў лясах звяры і паменшала рыбы ў вадзе, бо ім не стала з чаго жыць. З той пары і гарадзішчы іхнія запусцелі, бо пасля іх не скора прыйшлі сюды нашы дзяды*".

Асабліва шмат беларускіх паданняў пра тое, як веліканы–асілкі перакідваліся адзін з адным дзеля забаўкі агромністымі каменнымі сякерамі або нават млынавымі жорнамі. Так, на гары Літоўка каля в. Чарнавокі Верхнядзвінскага раёна нібыта "*ў час дайняй вайны жылі асілкі-літоўцы, якія кідалі каменныя сякеры на гару Заточынку каля вёскі Дабраплёсы*", месца святкавання Купалля. З некаторых паданняў мы даведваемся, што ранейшыя вялікалюды жылі на розных гарадзішчах па абодвух берагах ракі і, каб не згубіць час на пераправу праз раку, перакідваліся сваім рыштункам праз ваду. Захавалася паданне пра гарадзішча-свяцілішча каля вёскі Дзямідаўка на этнічна беларускай Смаленшчыне, якое пацвярджае гэта. Нібыта на гарадзішчы некалі жыў велікан, ён перакідваўся сякерай праз Дняпро з



іншым веліканам. Апроч таго, ён бясплатна шыў людзям вопратку. Толькі трэба было прынесці тканіну, пакінуць яе на гарадзішчы і парасіць неабходнае адзенне. Самога велікана ніхто ніколі не бачыў, але на наступны дзень вопратка была гатовая. Тым не менш, знайшоўся чалавек, які папрасіў пашыць яму "*ні тое, ні сёе*". Раніцай ён атрымаў абы як пашытае адзенне – рукаў да палы, каўнер збоку... Велікан пакрыўдзіўся і кінуў увогуле шыць. Дарэчы, матыў падобнага падання аналагічны паданням пра камяні-краўцы, звязаныя з хтанічным культам.

Некаторыя міфічныя асілкі гінуць ад удару каменнай сякеры. Да прыкладу, каля фальварка Тупічын непадалёк ад вёскі Валынеж Касцюковіцкага раёна адзін з вялікіх насыпаў у курганным могільніку называлі Волатава Магіла. Расказвалі, што малодшы брат забіў каменнай сякерай старэйшага брата і пахаваў у кургане. Часам у такіх паданнях рысы асілкаў пераймаюць легендарныя князі. Як у паданні, дзе на Рагнедавай Гары ў Расонскім раёне нібыта ў бітве быў забіты каменнай сякерай полацкі князь Рагвалод. А на Расоншчыне з гарой Літоўшчынай звязана паданне, паводле якога літоўцы біліся каменнымі сякерамі праз раку Свольну. Часам зброя ў руках асілкаў – каменная булава. Так, у маляўнічым урочышчы Каменная Гара на поўнач ад вёскі Чамярня Веткаўскага раёна знаходзяцца рэшткі старажытнага культавага гарадзішча-свяцілішча. З пятнаццаціметровага ўзвышша добра бачна наваколле Свяцілавіч і Вялікіх Нямкоў. Месца гэтае жыхары Чамярні завуць Чортавай Гарой. Паводле падання, у спрадвечныя часы на гары жыў асілак, які кідаў адсюль вялізарныя каменныя молаты. І молаты тыя чароўным чынам даляталі да наваколля Вялікіх Нямкоў. Апроч назвы Чортава, гэтая святая гара мае назву Серыкава Гара. А па суседстве з Чамярнёй у вёсцы Вялікія Нямкі знаходзіцца ўрочышча Чэнчыкава Гара, дзе таксама маецца гарадзішча. Паводле другога падання, у глыбокай старажытнасці на Серыкавай і Чэнчыкавай гарах жылі князі-асілкі Серык і Чэнчык, якія таксама перакідваліся паміж сабою каменнымі сякерамі.

## Хто ёсць хто

Азнаёміўшыся з паданнямі пра асілкаў і волатаў, на першы погляд здаецца, што тыя і іншыя нічым не адрозніваюцца. І волаты, і асілкі – вялізнага росту і маюць агромністую сілу, якая дазваляе ім вырываць з каранямі магутныя дубы і кідацца камянямі, млынавымі жорнамі. Часам у некаторых паданнях асілкаў і волатаў блытаюць: як адным, так і другім прыпісваюць разбуральныя сілы. Але больш уважлівае параўнанне беларускіх легендаў дазваляе прасачыць розніцу паміж гэтымі міфалагічнымі персанажамі. Так, у адрозненні ад волатаў, якія звязаны з курганамі-валатоўкамі, асілкі з'яўляюцца жыхарамі старажытных гарадзішчаў. І зброяй гэтых вялікалюдаў у асноўным з'яўляюцца каменныя сякеры, молаты і жорны. Апроч гэтага, у беларускіх чарадзейных казках асілкаў звязваюць з громам, яны без асаблівых высілкаў кідалі свае каменныя булавы ў неба, чым выклікалі грымоты: кінутая імі ўверх булава "*гудзе ў небе, бы гром гудзіць*". Са Случчыны вядомая казка пра тое, як асілак разбівае булавой каменную сцяну, за якой пакутвалі выкрадзеныя цмокам людзі. У некаторых казках цар Гром, як і асілкі, разбівае камяні і дрэвы.

З іншых легенд і міфаў мы ведаем, што ўсе гэтыя атрыбуты адносяцца да бога маланак і грымотаў – Перуна. Тыя ж самыя камяні і каменныя сякеры называюцца ў народзе "*перуновымі стрэламі*". А яшчэ ў народзе кажуць, што Пярун трымае ў руках вялікія жорны, трэ імі і б'е адзін аб другі, ад чаго і ўтвараюцца гром і маланкі. Такім чынам, нашы асілкі ў фальклоры асацыюююцца з атрыбутамі бога навальніцы. Да таго ж, ад назвы каменнай прылады, якою даўней выкрасалі агонь, паходзіць слова "*асялок*" – тачыльны камень, а таксама стараславянскае "*осла*", "*аселак*". З гэтымі словамі навукоўцы і звязваюць этымалогію слова "*асілак*" і

мяркуюць, што міфічныя вялікалюды з’яўляліся разнавіднасцю веліканаў, пэўным чынам звязаных з Перуном.

Назва ж “*волат*” паходзіць ад кораня *vel-* і звязана, як мы казалі вышэй, з богам замагільнага свету і ўлады – Вялесам. Цікава, што гэтае боства пазней, ужо ў хрысціянскія часы стала асацыявацца з д’яблам. Так, захавалася апакрыфічнае паданне пра паходжанне балота і чорта, дзе апошні паказаны ў выглядзе волата:

“*Ішоў Спас па сіняму мору, бачыць – мора пачынае пеніцца, пачынаюць біць незвычайна моцныя хвалі, з’явіўся аграмадны вадзяны стоўб. Спас падыходзіць да гэтага стаўба паглядзець і бачыць у сярэдзіне яго жывога волата, які паварочваецца, але не можа ўстаць. Спас узяў гэтага волата і выкінуў на бераг. З’явіўся такі прыгажун, што прыгажосці яго здзівіўся сам Спас...*”

Далей апавядаецца, як Спас, па другім варыянце – Бог, разам з гэтым волатам ствараюць свет, дзе апошняму прыпісваецца ўдзел у стварэнні балот, гор, камянёў і падобнага нязручнага для чалавека ландшафту. Пазней за непаслушэнства і пыху перад Богам той ператварае волата ў чорта і скідвае яго ў балота, месца, якое велікан і стварыў. У выніку былы паплечнік Бога робіцца ягоным антаганістам. Варта звярнуць увагу, што ў згаданай легендзе пра паходжанне д’ябла волат з’яўляецца з вады. А Вялес, як мы ведаем, таксама звязаны з вадой, балотамі і другімі зямнымі водамі. Адной з іпастасяў Вялеса ў міфалогіі беларусаў з’яўляецца вобраз агромністага Змея – Цмока. З другіх беларускіх міфаў вядома пра заўсёдную барацьбу Перуна з Вялесам або Чортам ці Змеем. Зразумела, што ў гэтых міфах функцыі ранейшага Бога пераходзяць да пазнейшага Перуна. А прыналежнасць волата да чорта пацвярджаецца яшчэ адным беларускім павер’ем, згодна з якім крыніцай надзвычайнай сілы гэтага велікана з’яўляецца наяўнасць у яго “*чортавага рабра*”. Так называлі ў народзе трынаццатае, суцэльнае, “*бы абруч*”, “*лішняе*” рабро, якое прыпісвалася міфічным волатам і вельмі моцным людзям: “*задужыя, бо маюць чортава рабро*”.

Такім чынам, нашы легендарныя асілкі, якія звязаны з вышэйшым нябесным боствам і карыстаюцца ягонай зброяй – каменнымі сякерамі і жорнамі, таксама з’яўляюцца супернікамі Вялеса ў ягоным хтанічным пераўвасабленні. Ва ўсялякім разе, пра гэта нам кажуць іншыя беларускія легенды, паданні і казкі, дзе асілкі набываюць рысы культурных герояў – міфічных кавалёў ці аратых і б’юцца з разбуральнымі хтанічнымі сіламі. Так, у чарадзейных казках такі каваль выкоўвае цудоўную булаву, якой змагаецца супраць Цмока. Прыкладам, возьмем легендарных Кузьму і Дзям’яна або Мікіту Кажамяку, якія майструюць агромністае рала, перамагаюць пачварнага Змея і робяцца першымі ратаямі. У выніку іх культурнай дзейнасці таксама з’яўляюцца горы або валы, ці вытокі і рэчышчы. У Беларусі, згодна з легендамі, так узніклі Змиевы валы па баках Дняпра, рака Сож, прыток Дняпра і рака Віць, прыток Прыпяці. Паводле падання, Камянецкую вежу пабудаваў велізарны каваль, легендарны князь Радар і, седзячы ў ёй, чакаў прыходу агромністага змея Крагавея, які служыў у польскага караля Ляха і панадзіўся ва ўладаннях каваля губіць жывёлу. Але Радар не проста сядзеў, а пры дапамозе свайго гіганцкага молата стварыў агромністы плуг. І, калі Крагавей, прыцягнуты незвычайнымі ўдарамі молата, прыляцеў, каваль-князь разам са сваёй дружынай прымусіў яго ўпрэгчыся ў плуг. Потым Радар стаў араць на змеі, а калі дайшлі да ракі, загадаў: “*Гайда, бух*!”, каб той кінуўся ў раку. Змей жа паспеў вырвацца, затое ўтапіў плуг, які, паводле падання, яшчэ доўга тырчэў з вады. Напалоханы змей прыбег да свайго гаспадара Ляха і, канаючы, паспеў крыкнуць: “*Помні, ляша, па Бух наша*!” З таго часу мяжа з Польшчай стала праходзіць па Бугу (Буху), а пабудаваная Радарам вежа дагэтуль стаіць у Камянцы.

Як бачым, у гэтых паданнях асілкі выступаюць ужо яркімі архетыпамі эпічных герояў, якія, дзякуючы сваёй мужнасці і адвазе, змагаюцца з увасабленнем хаосу і

неўпарадкаванасці, увасобленымі ў вобразе пачварнага цмока ці змея. Да таго ж, гэтыя багатыры з'яўляюцца пасярэднікамі паміж Богам і людзьмі – даюць пачатак кавальству і земляробству, а пры дапамозе сваёй вялікай фізічнай сілы ствараюць культурную прастору: не толькі выкарчоўваюць дрэвы, але займаюцца і будаўніцтвам.

## Легендарныя разбойнікі і багатыры

Легендарнага асілка, князя-каваля Радара, дзякуючы якому з'явілася рака Буг і Камянецкая вежа, можна параўнаць з другім, не менш легендарным і міфічным асілкам – таксама князем, млынаром і чарадзеем Менескам. Але гэты вобраз выступае ў нашым фальклоры не зусім адназначна станоўчым. Згодна з паданнем, Менеск быў заснавальнікам Мінска (Менска, Менеска) і жыў паміж пазнейшым Татарскім канцом і Пярэспай. Кажуць, што ён пабудаваў на Свіслачы вялікі мураваны млын з сямю коламі, дзе мука малолася не са збожжа, а з камянёў. Менеск быў чараўніком, яго ніхто ніколі не бачыў, толькі ўначы на млыне былі чутны нейкія няўцямныя крыкі, кшталту гікання, музыка і скокі. Ды яшчэ апоўначы чулі, як Менеск раз'язджае на сваім млыне па навакольных дарогах ды збірае сабе ў дружыну дужых і адважных людзей, ад якіх потым тут і ўтварыўся асобны народ. Сцвярджаюць, што дружыннікі Менеска былі яго хаўруснікамі ў разбойных справах: разам яны рабавалі наваколле. У тутэйшых жыхароў захавалася нават прымаўка: "*Не пайду я да Менска ад шляху Віленска, а (калі) пайду па шляху Віленскім, спаткаюся з Менескам*". Нарэшце людзям надакучыла рабаўніцтва князя Менеска і яны звярнуліся па дапамогу да яшчэ больш магутнага чараўніка. Той і сапраўды дапамог: спаліў небяспечны млын, прагнаў назаўсёды Менеска, але памяць пра князя-рабаўніка захавалася ў назве горада.

Узнікае пытанне, як успрымаць вобраз Менеска, намаляваны ў гэтым паданні. З аднаго боку, няўцямныя начныя крыкі і гіканне на млыне, рабаўніцтва свайго насельніцтва, што вельмі нагадвае выхадкі чартоўскай сілы. Тым больш, млын заўсёды працуе на вадзе і, паводле беларускіх павер'яў, ягоная праца залежыць ад вадзяніка – больш пазнейшага ўвасаблення таго ж Вялеса, які апроч іншага загадваў зямнымі водамі. Тым не менш, з другога боку, Менеск мае справу з млыном, дзе перамолваюцца вялізныя камяні, што нагадвае выкрасанне Перуном-Грымотнікам маланак з камянёў ці каменных жорнаў. Да таго ж, Менеск, як князь, з'яўляецца правадыром дружыны, што, безумоўна, зноў збліжае яго з богам маланак і навальніцы, апекуном вайсковай справы. Парадокс, але вобраз асілка і чарадзея Менеска ўвабраў у сябе рысы абодвух боставаў, што кажа пра ягоную архаічнасць, калі функцыі асноўных беларускіх боставаў яшчэ не былі канчаткова размеркаваны, або, наадварот, яны прыпісваліся адзінаму богу.

Цікава, што матыў паданняў пра разбойнікаў, імя якіх потым дало назву гораду, быў вельмі пашыраны на беларускіх землях. Дастаткова прыгадаць паданне пра назву Магілёва, дзе распавядаецца, што на месцы сённяшняга горада стаяў цёмны, непраходны лес, і там жыў страшны разбойнік Машэка. Прычым у паданні падкрэсліваецца, што ён валодаў такой жа моцнай фізічнай сілай, як і вышэйзгаданыя асілкі і волаты. Ён "*адною рукою спыняў экіпаж з васьмірыком коней на ўсім скаку, ухапіўшыся за калясо, і за раз вырываў з карэннем высокія сосны, а хадзіў ён у мядзведжай скуры, поўсцю наверх. Машэка наводзіў жах на ўсе навакольныя селішчы. Не раз выходзілі супроць Машэкі цэлымі палкамі; але ён жыў у такой непраходнай пушчы, што ніхто не знаходзіў не толькі яго бярлогі, але і дарогі назад, і ўсе або паміралі з голаду, або гінулі ад удару кісцянём*".

Калі Машэку напаткала смерць ад каханай жанчыны, яго пахавалі ў пушчы разам з касцямі ягоных ахвяр, насыпаўшы над імі велічэзную гару. Потым высокую Машэкаву магілу сталі зваць "Магілай льва". З часам на гэтым месцы з'явіўся

горад Магілёў. Верагодна, у дадзеным выпадку мы бачым, як старажытныя паданні пра асілкаў накладаюцца на больш познія, звязаныя з канкрэтнымі міфалагічнымі героямі, заснавальнікамі дадзеных паселішчаў.

У беларускіх легендах, паданнях і казках даволі часта можна сустрэць яшчэ адну разнавіднасць веліканаў, не менш магутных і дужых. Гэта багатыры. Яны таксама ўтваралі рэкі, перасоўвалі горы, вытоптвалі азёры, вырывалі дрэвы... Навукоўцы лічаць, што слова "багатыр" паходзіць ад цюркскага "багатур". Тым не менш, у сучаснай беларускай мове слова "багатыр" семантычна звязана са словам "багаты". І багатага чалавека ў нас часам называюць "багатыр".

Вельмі пашыраны вобраз багатыра у казках, дзе мы можам сустрэць такіх герояў, як Мікіта Кажамяка, Кацігарошак, Івашка Мядзведжае Вушка ды іншыя. Усе яны багатырскага росту, валодаюць незвычайнай цудадзейнай сілай, мужнасцю, цярпеннем і пры дапамозе агромністай булавы, спецыяльна выкаванай для іх, перамагаюць пачварнага Змея або Кашча Неўміручага. Але, нягледзячы на бытаванне гэтага вобраза ў казках, зразумела, што яно пазнейшае. Фальклорная назва "багатыр", хутчэй за ўсё, традыцыйна звязана з эпічнымі падзеямі і персанажамі, замацаванымі ў міфах, паданнях, былінах. Да прыкладу, у некаторых месцах Беларусі былі распаўсюджаныя паданні пра старажытнарускіх былінных герояў-багатыроў, кшталту Іллі Мурамца, Вольгі Усяслававіча, Мікулы Селянінавіча і г.д.

## Багатырка, валатоўна, ваярка

Калі слова багатыр у адносінах да мужчын-герояў у беларускім фальклоры сустракаецца даволі рэдка, часцей іх называюць волатамі ці асілкамі, у дачыненні да жанчын яно сустракаецца часцей. Таму доказам шматлікія паданні і павер'і. Так, у ваколіцах Полацка ёсць узгорак пад назвай Багатыр-Гара. Як сцвярджае паданне, на гары калісьці жыла жанчына велізарнага росту і гэткай жа сілы. "*Ваду на гару яна насіла за дзесяць вёрст з возера Нешчарда, адразу па два цэбры, у якія ўлазіла па 15 судаў* (30 вёдраў*). Каромыслам ёй служыў дубовы калодзежны вочап. Аднойчы яе затрымалі татары і спыталі: як бліжэй патрапіць у Полацк? Жанчына адказала, што не чула пра такі горад, а між тым з гары ў яснае надвор'е была бачна Святая Сафія. Татары раззлаваліся і накінуліся на багатырку. Яна сваім каромыслам бадай што ўсіх перабіла, але адна з татарскіх стрэл трапіла ёй у сэрца. Багатырку пахавалі на гэтай гары. Адсюль і назва гары – Багатыр-Гара. Кажуць, што з цэбраў пацякла вада, і ўтварылася рэчка Багатырка*".

Пра тое, што жанчыны багатырскага росту суадносяцца з гарамі, гаворыць паданне пра Дзявочую Гару ў Мсціславе, якую быццам насыпалі фартухамі дзяўчаты-багатыркі на месцы пахавання багатыра. Потым яны ўсе аплаквалі яго і штогод у пэўны дзень спраўлялі па ім трызну, ладзілі ігрышча. У ваколіцах вёскі Колкі Петрыкаўскага раёна ўздоўж правага берага ракі Трэмлі цягнецца града ўзвышшаў ("горкі") пад назвай Хімкіны Горы. Яны, паводле падання, названы ў гонар жанчыны-багатыркі Хімкі, якая быццам жыла тут спрадвеку. І хаця людзі штораз з ёй сутыкаліся на "горках", жытла яе ніхто не бачыў. Казалі, што Хімка валодала немалой фізічнай сілай, лёгка ўскарасквалася на дубы, хавалася ў шатах і чакала, пакуль непажаданыя госці сыдуць. Узброена Хімка была лукам, і занадта цікаўныя рызыкавалі атрымаць ад яе стралу.

У паданнях жанчыны-багатыркі маюць непасрэднае дачыненне і да камянёў. Да прыкладу, некалі на беразе Свіслачы ляжаў валун пад назвай "*След Валатоўны*", які быццам пакінула дзяўчына, калі пераступала праз раку. А ў Паазер'і існаваў камень "*Дзявочы след*", пра які расказвалі, што след на камені належаў таксама валатоўне. Вядомае паданне пра Сіні Калодзеж, што побач са Слаўгарадам, былым Прапойскам, распавядае пра багатырку Кацярыну. Да яе сваталіся два багатыры

– Сцяпан і Марка, але ёй падабаўся больш Сцяпан, хаця ён быў і не такі дужы, як нялюбы Марка. Кацярына сказала, што пойдзе замуж за таго, хто далей кіне валун з высокага правага берага Сажа на луг. Нялюбы Марка кінуў камень якраз туды, дзе цяпер вёска Кліны, а любы, але слабейшы Сцяпан кінуў не так далёка. Каб не пайсці за нялюбага, Кацярына стала на ягоны камень і сказала: "*Лепш пайду вадой служыць, чым з нялюбым жыць*". Потым падскочыла, грымнулася аб валун, разлілася вадой і выскачыла з-пад зямлі вёрстаў за пяць ад Прапойска, дзе і ўтварыўся Сіні Калодзеж. Пасля гэтага на камні Марка застаўся след Кацярыны, а на Сцяпанавым валуне сляды пальцаў ягонай рукі.



*Багатырка Настасся. Мастак С. Саломка.*

Часта ў паданнях міфічныя багатыркі надзелены тымі ж чароўнымі якасцямі, што і вышэйапісаныя асілкі і волаты. Так, на востраве Асвейскага возера ёсць гара Пярунка, на якой, паводле падання, здаўна жыла багатырка і чараўніца на імя Княгіня, якая на Купалле перакідвалася вялізнымі бярвёнамі са сваёй знаёмай валатоўнай Даротай. А тая Дарота жыла на гары, назва якой і пайшла ад яе імя – Дароціна Гара, што каля вёскі Канчаны. Іншы варыянт гэтага падання наступны, нібыта, Дарота была жанчынай-воем, якая змагалася з ворагамі ў нейкую даўнюю вайну і загінула на гэтай гары.

Некалькі паданняў пра багатырак вядома з тэрыторыі былога Лепельскага павета. У адным з паданняў Багатырка перамагла волата і ягонае войска, а затым перакуліла і паставіла дагары каранямі вялізную елку. У другім лепельскім паданні Багатырка падымае высока над галавой коней і ідзе "*валяць*" чужаземнае войска. У Смалявіцкім раёне багатырка гары Замак білася з багатыром Юзэфаўскага замка. Бойка адбылася праз балота, па якім цячэ рака Усяж.

Падобны вобраз беларускай багатыркі-ваяркі сустракаецца нават у былінах кіеўскага цыклу. Адным з герояў былінаў з'яўляецца багатыр Дунай Іванавіч. Яму, як паслу, даручылі прывезці годную нявесту для князя Уладзіміра. Дзеля гэтага ён і паехаў у "*харобрую Літву*" сватаць "*літоўскую*" Апраксу-каралеўну. Прычым Дунаю было наказана ў выпадку нязгоды з боку каралеўны ўзяць яе сілай. Гэты былінны эпізод вельмі нагадвае гістарычны факт "сватання" Уладзіміра да полацкай князёўны Рагнеды. Падчас свайго візіту Дунай пазнаёміўся з сястрой Апраксы Настасяй-каралеўнай, дзяўчынай-рыцарам, якая была не толькі вельмі прыгожай, але моцнай і адважнай, да таго ж, пераўзыходзіла ў майстэрстве стральбы з лука нават юных ваяроў. Закахаўшыся ў Дуная, Настасся з'язджае з ім у Кіеў. Там, пасля жаніцьбы, Дунай вырашае паказаць сваю перавагу над ёю на адным з кіеўскіх спаборніцтваў, але прайграе каралеўне. Абражаны, ён вырашае застрэліць сваю абранніцу. Настасся просіць даравацъ ёй жыццё, бо носіць у сабе дзіця Дуная. Багатыр не паслухаў яе і застрэліў багатырку з луку. Калі ж разрэзаў цела, пераканаўся, што каралеўна і сапраўды была цяжарнай. У роспачы Дунай скончыў жыццё самагубствам. Там, дзе пралілася ягоная кроў, пацякла рака Дунай, а дзе пралілася кроў багатыркі, пацякла Настасся-рака.

Найбольш ярка і падрабязна багатырскі вобраз дзяўчыны-воя намаляваны ў беларускіх народных баладах. Вядомы стараліцвінскі звычай падчас варожай небяспекі склікаць паспалітае рушэнне – "Пагоню" – зафіксаваны ў адной з такіх балад. Так, стары войт з-за таго, што ў яго няма сыноў, а толькі адна дачка,

вымушаны па загадзе караля ісці на вайну сам. Каб дапамагчы бацьку, дзяўчына бярэ каня са збруяй, падпярэзваецца мячом і, апрануўшы рыцарскі строй, ідзе ў войска, дзе яе лічаць хлопцам. Падчас бітвы з ворагам дзяўчына-рыцар здзяйсняе багатырскія подзвігі: "*Адным замахам маханула – сямсот казакоў заснула.// Другім замахам маханула – палавіна войска заснула.// Трэцім замахам маханула – ды ўсё войска заснула*". Агаломшаны кароль хоча выдаць за адважнага "ваяра" сваю дачку, а ў адказ чуе: "*Нашто мне дачка-каралеўна,// Калі я сама вайтоўна.// Я твайго каралеўства не хачу,// А свайго вайтоўства не трачу*". Пасля гэтага кароль прапаноўвае ваярцы ўсынавіць яе, але зноў атрымлівае адмову.

На думку шмат якіх навукоўцаў, вобраз багатыркі-валатоўны ў беларускім фальклоры падобны да вобразу Вялікай Багіні-Маці ў яе іпастасі Дзевы-ваяркі. Таму што ў большасці прыведзеных вышэй выпадкаў міфічная багатырка выступае перад намі ўжо не як захавацелька плоднасці, урадлівасці і дабротаў, як, да прыкладу, багіні Мокаш і Лада, ці Лёля, а нясе разбуральныя сілы, вайну і смерць. У гэтым беларускія валатоўны падобныя да кельцкай багіні вайны Марыган, скандынаўскай Брунгільды, германскіх ваяўнічых дзеў-багатырак Валькірыі і Дысы ў прускай міфалогіі.

Л і т а р а т у р а:

Акты, издаваемыя Виленскою археографическою комиссиею (АВАК). Т. XIII. Вильно, 1886. С. 373, 375—376.

Балады. Кн.2. (укладальник Л.М.Салавей, Т.А Дубкова). Мн., 1978. С. 130-139.

*Бараг Л.Г.* "Асілкі" белорусских сказок и преданий (к вопросу о формировании восточнославянского эпоса)// Русский фольклор. Вып. VIII. М.-Л. 1963. С. 29, 37, 40.

Беларускі народны каляндар. Мн., 1993. С. 180.

*Богданович А.Е.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1895. С. 76.

*Віцьбіч Юрка.* Плыве з-пад Сьвятое горы Нёман: Рэпрынтнае выданне. Мн., 1995. С. 35.

*Дучыц Л.У.* Гарадзішчы ў светаўспрыманні беларусаў //Гісторыя і археалогія гарадзішча Маскавічы. Рыга, 2013. С. 337-338.

Жыцця адвечны лад: Беларускія народныя прыкметы і павер'і. Кн. 2. Мн., 1998. С. 62, 179.

*Зайкоўскі Э.М.* Месца Вялеса ў дахрысціянскім светапоглядзе насельніцтва Беларусі. Мн., 1998. С. 10,12.

*Иванов Вяч. Вс.* Кузнец// Мифы народов мира. Т.2. М., 1992. С. 21-22.

*Иванов Вяч. Вс., Топоров В.Н.* Исследования в области славянских древностей. М., 1974. С. 95.

*Касьпяровіч М.І.* Валатоўкі і звязаныя з імі перажыткі (першапачатковыя вынікі даследавання) //Наш край. 1929. № 6-7. С. 84-89.

*Криничная Н.А.* Русская народная историческая проза: Вопросы генезиса и структуры. Л., 1987. С. 118-153.

Легенды і паданні. Мн., 1983. С. 40-41; 48-51, 133-134, 274, 277-278, 400, 415.

*Ляпушкин И.И.* Славяне Восточной Европы накануне образования дрквнерусского государства //МИА. Л., 1968. № 152. С. 5-12, 170-171.

*Ляўкоў Э.А.* Маўклівыя сведкі мінуўшчыны. Мн., 1992. С. 150.

*Марзалюк І.А.* Магілёў у XII-XVII стст. Этапы роста гарадской тэорыі// Старонкі гісторыі Малілёва. Магілёў, 1998.

*Мачинский Д.А.* "Дунай" русского фольклора на фоне восточнославянской истории и мифологии //Русской Север: Проблемы этнографии и фольклора. Л., 1981. С. 110-171.

Міфалогія Беларусаў. Энцыклапедычны слоўнік. Мн., 2011. С. 24, 26-27, 36, 68, 87-89, 113, 149, 161-162, 207, 233, 262—265, 287-288, 298, 300-301, 392-393, 394, 396, 469.

*Писаренко Ю.Г.* Могилы волотів на Русі //Український історичний журнал. 1988. № 5. С. 123-129.

*Писаренко Ю.Г.* Велес-Волос в язичницькому світогляді давньої Русі. Київ, 1997.

*Романов Е.Р.* Белорусский сборник. Т. 1. Вып. 4. Сказки космогонические и культурные. Витебск, 1891. С. 173.

*Сементовский А.М.* Белорусские древности. Вып. 1. СПб., 1890. С. 21.

*Сержпутоўскі А.* Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета. Мн., 1926. № 23.

Чарадзейныя казкі. Ч. 1. Мн., 1973. С. 340.

*Шпилевский П.М.* Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Мн., 1992. С. 132.

Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 1. А-Б. Мн., 1978. С. 168-169, 174-175.

Уладзімір Сіўчыкаў



...беларуская літаратура заўсёды ўмела з пэўнай доляй іроніі дый гумару распавядаць пра мінулае...

# Трынаццаты чын

***Водгук-бурлеск***

***Пятро Васючэнка. Дванаццаць подзвігаў Геракла. Раман-бурлеск / Мастак Г. Хінка-Янушкевіч. – Мінск, Выдавецкі дом "Звязда", 2013.***

Два грэкі-казапасы, сівабароды і рудабароды, адзін ушчэнт старажытны, другі крыху маладзейшы, цёгаюцца са сваім статкам пакручастымі сцяжынамі Пелапанэса. За вячэрамі прыкладаюцца да бурдзюка з віном і час ад часу становяцца сведкамі прыгодаў і здзяйсненняў асілка з юначай душой Алкіда, які набывае ў дэльфійскім храме Апалона новае імя, новы лёс і новае пакліканне.

Галоўны алімпійскі бог, стары юрлівец Зеўс замест таго, каб несупынна падтрымліваць належны лад у завоблачных вышынях і на зямлі, перадаручыў многія функцыі падначаленым дый нярэдка ўлягаў за спадніцамі не толькі багінь, але і зямных жанчын.

Скарыстаў ён момант, калі мікенскі герой Амфітрыён выправіўся ў камандзіроўку, нібыта той Фантамас, прыняў амфітрыёнава




аблічча дый падлабуніўся на некалькі дзён да красуні Алкесты, а паводле іншых крыніцаў Алкмены. І праўда, неверагодна наіўныя былі тыя эліны дый элінкі: ну, добра, стаўся Зеўс блізнюком з твару, а як жа паходка, звычкі, манера гаварыць, абдымаць дый іншае?! Але ж пусціў бог-алімпіец на свет божы і на зямлю мальца Алкіда, мацнейшага целам за любога мужчыну не толькі ў Мікенах, а і ва ўсёй Эладзе.

Дзіўнаваты быў той мацак – аніразу не згадаў жанчыну, што падаравала яму жыццё, затое нястомна дабіваўся любові, прагнуў матчынай ласкі ад Зеўсавай жонкі, багіні Геры. Тая, наадварот, узненавідзела яго, не звала інакш як байструком і старалася не толькі не дапусціць на Алімп, але і зжыць са свету, назаўсёды выправіць у падземны Аід. Аднак з лёгкай рукі ці, хутчэй, вуснаў дэльфійскай піфіі, мімаволі паўдзельнічала яна ў наданні імені Гераклу, “герою, які здабывае славу праз пераслед Геры”.

Свет тады быў вельмі шчыльна населены багамі, тытанамі, героямі (сярэднеарыфметычнае паміж багамі і людзьмі), кентаўрамі, людзьмі...

Героем у нашым сённяшнім разуменні назваць Геракла даволі цяжка. Яшчэ немаўляткам пакусаў грудзі, што сыцілі яго, ды так, што Млечны Шлях пралёг паўз усё неба. У шкалярскія гады дзякуючы неўтаймоўнаму нораву раззлаваўся быў на заўвагу брата Арфея, выкладчыка музыкі Ліна дый праламіў яму чэрап ліраю – не толькі струнным, але і ўдарным, аказваецца, інструментам! Пасля перамогі над царом Архамена, у бітве з якім загінуў Гераклаў айчым Амфітрыён, герой паадразаў у вестуноў з Архамена насы! Але і гэта драбяза ў параўнанні з тым, што ў прыпадку шаленства, насланага Герай, пазабіваў асілак не толькі сваіх дзяцей, але і дзяцей свайго брата Іфікла!

Пазней удзельнічаў у паходзе арганаўтаў разам са сваім юным каханкам Гіласам, што радасна могуць пакрэсліць на сваіх вясёлкавых штандарах сённяшнія прыхільнікі аднаполага кахання!

“Калі зваліў дужы Геракл у пыл Антэя”, як пісаў наш класік, калі перамог у барацьбе асілка-лівійца, якога, мабыць, аплакваў і нядаўні дыктатар Муамар Кадафі, дык зрабіў дзіцёнка Сафака Антэевай удаве Тынгіс. А як выратаваў Гесіёну, дачку траянскага цара Лаамедонта, але не дачакаўся ўзнагароды, дык ушчэнт разбурыў горад, а з царовых сыноў пакінуў жывым толькі юнага Прыама!

Выпадкова, але ж забіў свайго сябра Іфіта! Ізноў жа мімаволі, але падстрэліў свайго мудрага настаўніка і выхаваўцы кентаўра Хірона атручанай стралою, і той пакутваў бясконца, бо быў несмяротны, покуль не саступіў свой дар на карысць Праметэю!

“Ніштаваты паслужны спіс!” – можа зазначыць юнак, які раздумвае, з каго б зрабіць жыццё, але Пятро Васючэнка толькі пры неабходнасці згадвае пра некаторыя з гэтых “подзвігаў”. Геракл у яго – асоба неаднaзначная і супярэчлівая, а выпісваць такога героя аўтару адна мілата і задавальненне.

Даследчыкі старажытнагрэцкай гісторыі і міфалогіі сцвярджаюць, што ў Геракла было ад шасці да дваццаці чатырох прататыпаў, а колькасць ягоных пераадоленняў сягала за сотню. (Ці не ад старажытнагрэцкага героя знакаміты барон Мюнхаўзен, той самы, што знайшоў вечны спачын на могілках у Глыбокім, займеў за звычку будзённа, ледзь не штодня планаваць подзвіг?!)

Але Васючэнка ў сваім аповедзе апелюе да дванаццаці кананічных подзвігаў героя з доўбняю і ў львінай скуры, здзейсненых ім на службе ў нікчэмнага і баязлівага стрыечнага дзядзькі.

Крыху бянтэжыць тое, што тытанічныя, выбачаюся, гераічныя высілкі Геракл здзяйсняе не па сваёй ахвоце. Найчасцей выконвае ён волю багоў, якая рэ-

транслюецца яму праз цара Мікенаў Эўрысфея. Дый некаторыя і тыя Гераклавы патугі больш чым сумнеўныя, што тактоўна акцэнтуе аўтар-апавядальнік.

Зразумела, у кожнай сваёй выправе магутны элін рызыкаваў жыццём, але наўрад ці варта было залічваць за геройскі ягоны элідскі збройны чын, тое, як ачысціў ён стайні цара Аўгія, папярэдніка Пятра Машэрава па гіганцкіх жывёлагадоўчых комплексах. Нават зброяй паслужыла яму там не доўбня, а вялізная рыдлёўка! Наадварот, за тое, што скіраваў рачную плынь на горы гною, яго трэба было б асудзіць як ці не першага ў гісторыі экалагічнага злачынцу! Альбо ўзяць тое, як дзеля бздураў Эўрысфеевай дачкі Адметы здабыў ён пас царыцы амазонак Іпаліты, падараваны той богам вайны Арэсам, – проста выпрасіў яго ў паненкі, якая ўпадабала Гераклавага сябра, афінскага цара Тэзея!

* * *

Зірнуўшы на вокладку кнігі “Дванаццаць подзвігаў...”, дасведчаны чытач мусіць здзівіцца чарговай іпастасі аўтара, якога ўжо ведае як удумлівага літаратуразнаўцу, абазнанага драматурга, празаіка з бездакорным стылем, паэта-гумарыста, эсэіста-культуролага...

Але здзіўленне даволі хутка мінецца, калі згадае ён Васючэнкавы казачныя аповесці “Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі”.

Вядома, што разняволены мастацкі пераказ нярэдка спараджае новы, самакаштоўны, арыгінальны твор на іншай мове і ў іншай літаратуры. І наўрад ці хто стане спрачацца, што ў “Залатым ключыку, або Прыгодах Бураціны” Аляксей Талстой наследаваў “Прыгодам Пінокіа” Карла Калодзі, што “Чараўнік Смарагдавага горада” Аляксандра Волкава – гэта сачыненне паводле “Дзівоснага чараўніка з краіны Оз” Лаймэна Франка Баўма. Дык не памыліцца аматар літаратуры, калі выкажа меркаванне, што перад ім аніякім разам не акадэмічны пераказ старажытнагрэцкіх міфаў і легенд а ля Мікалай Кун, а адметны мастацкі твор.

Праўдзіваю будзе і чытацкая здагадка, што ў дванаццаці навелах прачытае ён пра подзвігі асілка, які змагаецца з коньмі-людажэрамі цара Дыямеда, з эрыфманскім вепруком, з крыцкім быком і іншымі монстрамі, ліхадзеямі, разбойнікамі дый неадменна перамагае іх.

Не схібіць кнігалюб, калі дапусціць, што чакае яго расповед у фірмовай Васючэнкавай манеры – займальна, з іроніяй і гумарам. Аўтар абвяшчае свой твор на тытульным аркушы нібыта жартоўным, але сюжэты, здагадаецца чытач, разгортвае сур’ёзныя, а часам і трагічныя.

Будзе мець рацыю аматар прыгожага пісьменства і калі палічыць, што аўтар узяў пад увагу вопыт нацыянальнай класікі – як мінімум, парадыйных паэм “Тарас на Парнасе” і “Энеіда навыварат”.

Не памыліцца чытач, калі ўявіць, што збеларусіў Васючэнка і асучасніў антычныя сюжэты, бо зможа прачытаць: “У нас, на Крыце, паважаюць правы жанчын”, “Дыяніс – малады, але перспектыўны бог вінаробства. Гатовы паспрачацца, хутка ён набудзе папулярнасць і ў вас”, “...якія, дзякуючы правільнай дыеце, з людажэраў ператварыліся ў вегетарыянцаў”, “Бандыт ляснуўся аб зямлю, але, без сумневу, застаўся жывы; інакш адкуль бы ўзяліся сучасныя мафіёзі?”.

“Я ўявіў сабе тагачасную Грэцыю, у сваёй свядомасці накрэсліў яе карту з яе гарамі і доламі, з вінаграднікамі, козамі і пастухамі, і яна падалася мне падобнай на маю радзіму – Полаччыну, або Крыўю, таксама старажытны і запаветны край, адкуль вытокі мудрасці і кніжнасці Беларусі, – прызнаецца ў прадмове аўтар. – Чалавецтву, што выйшла з улоння прыроды, настаў такі час расці і мудрэць, і вось з’яўляюцца героі і мудрацы, падлеткі Антычнасці. Адным з такіх быў легендарны Геракл, тынэйджар паводле свае імпульсіўнай, наіўнай, запытальнай натуры, але ўжо дарослы чалавек сваім целам. Геракл перамагае дэманаў мінулых эпох, па сутнасці, перамагае адвечны страх чалавека перад незразумелым, ліхім, невытлумачальным”.

Старажытны герой паводле Васючэнкі робіць і часткова выпраўляе свае памылкі, расце інтэлектуальна і маральна, а таму твор ягоны можна назваць і раманам дыдактычным.

Але чытач не павінен спалохацца гэтага азначэння – той, хто любіць экшн, неверагодныя прыгоды, авантуры, метамарфозы і двубоі, у дастатку знойдзе іх у кнізе.

Выданне і надзвычай інфарматыўнае, таму чытачу часам трэба і напружыцца, каб не паблытаць, нібыта ў бразільскім тэлесерыяле, хто каму даводзіцца сынам, пасынкам, дачкою, жонкаю, шваграм ці іншым сваяком, які бог за што адказвае, які цар уладарыць у якім краі, што азначае тое ці іншае імя або мянушка...

Напэўна ж, чытаць гэты твор будзе не сумна й таму, што напісаны ён выдатным стылем, з мноствам прыхаваных цытат і алюзій ("Што за хамавітая натура! Разбіраецца ў мастацтве як свіння ў апельсінах"), з дыялогамі, выбудаванымі спрактыкаваным драматургам, з дазаваным выкарыстаннем слэнгу і жарганізмаў, падслуханымі аўтарам і ў ягоных спрытных на язык студэнтаў – лінгвістаў і журналістаў ("А што, калі выпрабаваць Геракла на кемлівасць? Не сумняваюся, што гэты лох заваліць заданне...").

* * *

Мабыць, у постмадэрнісцкай традыцыі было б набрацца смеласці і перафразаваць хрэстаматыйныя радкі Анатоля Вярцінскага на ўзор: "Я фільм глядзеў. Там Геркулес змагаўся / З нямейскім львом і гідраю лярнейскай...". Па праўдзе, адзін з наймацнейшых дзіцячых кінаўспамінаў поруч з амерыканскім "Спартаком", тым самым, дзе галоўную ролю граў патомны гамяльчук Кірк Дуглас, на якога як дзве кроплі вады падобны, з гэткай самай ямінкай на падбароддзі, ягоны сын Майкл, быў італьянскі пеплум "Подзвігі Геракла". Выканаўцу галоўнай ролі Стыва Рыўза не ўдалося пераўзыйсці нават Арнольду Шварцэнэгеру ў адной з пазнейшых, мадэрновых версій – "Геркулес у Нью-Ёрку". Акрамя паўдзясятка кінематаграфічных версій ёсць яшчэ столькі ж кампутарных гульняў, а таксама паўнаметражны дыснэеўскі мультфільм пра Геркулеса, як паіменавалі Геракла рымляне, а следам за імі і многія іншыя народы.

У галівудскіх стужках зазвычай неверагодна доўгія, падрабязныя тытры. Кінематаграфісты ўмеюць быць удзячнымі і згадваюць, мабыць, і таго, хто ўкруціў на здымачнай пляцоўцы электралямпачку ці прынёс кубачак кавы. Практычна ў кожнай амерыканскай кнізе поруч з прадмоваю і ўводзінамі знойдзецца старонка на раздзел "Падзякі". На жаль, у нашым кнігавыданні пакуль што не прыжылася традыцыя пазначаць такую важную асобу як аўтар ідэі. А вось Пятро Васючэнка не пасаромеўся, не забыўся праз колькі гадоў нагадаць аўтару гэтых радкоў пра ягоную ідэю беларускай версіі "Дванаццаці подзвігаў...". (У інтэрнэт-тэксце тут належала б уставіць смайлік!)

* * *

Зразумела, што асоба Геракла хвалявала не толькі кінематаграфістаў. Адзін толькі пералік увасабленняў ягоных прыгодаў, подзвігаў і апафеозу ў выяўленчым мастацтве (асабліва любілі яго скульптары) і ў музыцы заняў бы не адну старонку! Але вернемся да літаратуры.

Апявалі Гераклавы здзяйсненні такія волаты прыгожага пісьменства, як драматург Эсхіл у трагедыях "Геракл, якога вызваляюць" і "Геракліды" і эпік Гамер у паэме "Адысея". Герой – дзейная асоба драмаў Сафокла "Геракл-немаўля" і "Геракл на Тэнары, або Кербер", трагедый "Геракл", "Трахінянкі", трагедыі Еўрыпіда "Алкестыда", трагедыі Сенэкі "Геракл на Эце", камедый Арыстафана "Птушкі" і "Жабы". Паслужыў ягоны лёс крыніцаю натхнення для твораў Ж. Ратру "Смерць Геракла", Ф. Веднэкінда "Геракл", Г. Л. Олдзі "Герой мусіць быць адзін" і іншых.

У куды бліжэйшыя да нас часы знакамітая Агата Крысці дала імя Эркюль

(французскі варыянт імя Геркулес) свайму надзвычай разумнаму і дапытліваму, але зусім не маладому персанажу-курдупелю. Пазней яна нават стварыла свае “Подзвігі Геркулеса” – зборнік з дванаццаці навел, кожная з якіх была названая ў гонар пэўнага геройскага чына, дзе дэтэктыў-бельгіец  Пуаро разгадваў чарговую загадку.

А ў наш сённяшні дзень Геракла, ужо як бога, прывёў Лявон Баршчэўскі, які пераклаў са старажытнагрэцкай камедыю Арыстафана “Жабы”.

* * *

Дванаццаць... Што толькі ні нанізвалася, нібыта апетытныя кавалкі мяса на шампур, на гэтую чароўную лічбу!

У годзе дванаццаць месяцаў, традыцыйна налічваюць дванаццаць знакаў Задыяку, а ў дні і ночы па дванаццаць гадзін. Богачалавек Ісус Хрыстос меў дванаццаць вучняў, а дванаццаць Радзівілаўскіх залатых апосталаў дагэтуль не даюць спакою скарбашукальнікам.

Неверагодна папулярны тузін у фальклоры, дзе фігуруюць дванаццаць братоўмалойцаў, а дзяўчынцы дапамагаюць выканаць неверагодныя заданні дванаццаць месяцаў. Можна прыгадаць дванаццаць сыноў, дванаццаць разбойнікаў, дванаццаць старцаў, дванаццаць дружыннікаў. Івашка Мядзведжае Вушка робіць булаву на дванаццаць пудоў, каб адолець дванаццацігаловага Цмока, а Кацігарошак наведваецца ў Цмокаву стайню, дзе кожны з дванаццаці жарабцоў прыкаваны дванаццаццю ланцугамі.

Даўней нявеста падвешвала да свайго вянка дванаццаць стужак, а на Дзяды і на Калядную куццю гатавалі па дванаццаць страў. У летапісах можна адшукаць згадкі пра дванаццаць сыноў Вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага Альгерда.

Браты Грым пісалі пра дванаццаць паляўнічых, а Ільф і Пятроў – пра дванаццаць крэслаў. “Дванаццаць шляхецкіх быліц” напісаў Адам Міцкевіч, а на беларускую гаворку перавярнуў Вінцэнты Дунін Марцінкевіч. “Дванаццаць” – вядомая паэма Аляксандра Блока. Дванаццаць біблейскіх баладаў стварыў Рыгор Барадулін, а Артур Клінаў распачаў серыю “Дванаццаць” з адпаведнай колькасці альбомаў беларускага актуальнага мастацтва.

Аднак і лічба “13” вельмі вядомая ў гісторыі і мастацтве куды раней за загад французскага караля Філіпа IV знішчыць ордэн тампліераў у пятніцу, трынаццатага. Кепскай лічбай трынаццаць лічылася яшчэ ад часоў Гамера.

Некаторыя мужчыны не супраць прадэманстраваць сваю дасведчанасць і ахвотна расказваюць пра трынаццаты подзвіг Геракла. (Выключэнне складае найперш Фазіль Іскандэр, апавяданне якога “Трынаццаты подзвіг Геракла” не мае наўпраставага дачынення да грэкаў). Паводле міфа, герой прабавіў адну з начэй з пяцідзесяццю цнатлівіцамі, дочкамі цара Фаслія, і ўсе яны сталіся плоднымі, нарадзілі сыноў, прычым найстарэйшая і наймалодшая – двайнятаў.

Шкада, што Васючэнкава кніга адрасуецца нібыта падлеткам. Цікава было б пачытаць пра гэтыя геройскія высілкі ў ягоным апісанні. Застаецца хіба што спадзявацца, што шаноўны аўтар калі-небудзь возьмецца пісаць кінасцэнарый на трынаццаць серый або сцэнарый да беларуска-грэцкага мультфільма для дарослых.

Чамусьці мроіцца – а ці не трынаццатая гэта мастацкая кніжка ў Васючэнкавым літарацкім спісе?!

* * *

Беларуская літаратура заўсёды ўмела з пэўнай доляй іроніі дый гумару распавядаць пра мінулае, пра значныя і знакавыя рэчы. Тое самае робіць аўтар новай версіі Гераклавых прыгодаў. Гэта несумненная творчая ўдача Пятра Васючэнкі. У актыў сабе можа смела заносіць яе і ўся беларуская літаратура для дзяцей і падлеткаў.

Алеся Лапіцкая



...чытач заўважае, што дэтэктыў,
які пачынаў здавацца халодным і шэрым,
пакрысе ператварыўся ў авантурны раман
і нават у чароўную казку...

# Кампазіцыя на няіснай мове

***Рэцэнзія на кнігу Віктара Марціновіча "Сфагнум"***

***Віктар Марціновіч. Сфагнум. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 320 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; вып. 42).***

Нягледзячы на тое, што сёння Віктар Марціновіч – адзін з самых папулярных беларускіх пісьменнікаў, раман "Сфагнум" у лічаных выпадках з'яўляўся аб'ектам літаратурнага разгляду. Адмысловая творчая стратэгія аўтара вызначыла больш глабальны падыход да яго прозы – у шырокім агульнакультурным кантэксце. Між тым, В. Марціновіч назваў апошні раман "самым важным з напісанага мной пра Беларусь". "Сфагнум" атрымаўся вельмі непадобным як да папярэдніх рэчаў пісьменніка, так і да большасці твораў беларускай літаратуры, у якіх размова ідзе пра вёску, злачынцаў ды ведзьмакоў (з вясковым Грынем Люлькам, клубнай дзяўчынай Вічкай і затрыманнем рэдактара – ужо цяплей). Было б цікава не толькі разабрацца, як зроблены раман, але і супаставіць уражанне ад двух варыянтаў твора – рускамоўнага арыгінала і перакладу на беларускую мову, здзейсненага Віталём Рыжковым.

## Узлёт і катарсіс

Ёсць кнігі (і нават раманы!), для якіх паслядоўнасць чытання тэксту амаль не ўплывае на ўражанне ад твора – за іх можна брацца з сярэдзіны, з канца, з якой заўгодна старонкі. “Сфагнум” можна чытаць толькі з пачатку, і, пажадана, за некалькі дзён. Бо галоўны сакрэт гэтага твора – яго кампазіцыя.

Многія вялікія празаічныя рэчы – як сведчаць самі тэксты і заўвагі “ад аўтара” – пішуцца і абдумваюцца гадамі, потым рэдагуюцца цягам доўгіх гадзін, прычым асобныя часткі даводзіцца дарабляць, скарачаць, мяняць месцамі... У выніку твор атрымліваецца выверaным, узважаным, вылічаным ледзь не да сказа, магчыма, вельмі актуальным і інтэлектуальным, але часта пазбаўленым адчування ўзнёсласці і ўздыму, якое можа натхніць, запаліць, прыўзняць чытача над будзённасцю. У “Сфагнуме” ж, як і ў папярэдніх раманах Марціновіча, ёсць і палёт, і “лёгкі подых” (цытуем Лідзію Міхееву). Можна назваць некалькі дзясяткаў беларускіх пісьменнікаў, якія выдатна апісалі б арышт Кабана ці паступова вывелі на авансцэну бабу Любу, але прадумаць арганізацыю твора на ўзроўні “Сфагнума” атрымалася б далёка не ў кожнага.

Пры гэтым В. Марціновіч нібыта не робіць нічога асаблівага – проста замест карпатлівай распрацоўкі загадзя падрыхтаванай схемы піша паслядоўна, вольна і з імпэтам. Яго не палохае адсутнасць зададзенасці і сіметрычнасці, і калі ў пэўны момант пісьменніку здаецца, што нечага не хапае, ён не вяртаецца назад, каб выправіць і ўраўнаважыць, а адразу штосьці змяняе ці дадае. Так, Аўтар нечакана пачынае сігналізаваць пра сваю прысутнасць у тэксце праз амаль навуковыя каментарыі да рэплік і ўчынкаў персанажаў, праз доўгія пасажы з пералікам знакамітых людзей культуры. Па вялікім рахунку гэта мае адзіную мэту: выявіць уласную адукаванасць і такім чынам своечасова адмежавацца ад Шульгі, які паспеў засведчыць пісьменніцкія інтэнцыі, – каб ніхто раптам не атаясаміў героя з Аўтарам.

Гэтаксама нечакана чытач заўважае, што дэтэктыў, які пачынаў здавацца халодным і шэрым, пакрысе ператварыўся ў авантурны раман і нават у чароўную казку. Блуканні па балоце, фантастычнае ўздзеянне гарбаты з палескіх зёлак, цуды, якія амаль здараюцца, – усё гэта вабіць і прымушае забыцца на падпалкоўніка Выхухалева і пісталет “Тульскі Токараў”. Першапачатковы жанр нагадвае пра сябе некалькімі кароткімі раздзеламі, і тым больш моцнай атрымліваецца нечаканая развязка – сур’ёзныя людзі на пакеты з “баксамі” не забываюцца.

Пісьменнік закалыхвае чытача небам, зоркамі, варанамі ды сфагнумам – і раптам здзяйсняе апошні аблом, пасля балотнай цішы ды шчымлівага развітання скідвае на вуліцы Глуска чорны аўтамабіль, які нагадвае “труну дэ-люкс для волата”, ладзіць ДТЗ і чарговае жорсткае затрыманне... Хаця крыху раней, здаецца, усё апынулася на сваіх месцах і было падрыхтавана да хэпі-энду: Шульга застаўся адзін і яму ўжо не трэба разам з Серым і Хамяком пацвельвацца з блізкага і зразумелага, яго апаноўвае адвечная беларуская меланхолія, туга па *сваёй хаце* і *сваёй зямлі*, якія даводзіцца пакідаць, хаця ніхто асабліва не прымушае. Баба Люба на працягу рамана ператвараецца з недалёкай хітраватай кабеты ў мудрую і прадбачлівую захавальніцу вёскі, каханне сцвярджаецца як каханне, а не прымітыўнае “дала – не дала”. З’яўляецца лірычная інтанацыя, знікае брыдкаслоўе, змяняецца асноўная эмоцыя твора – і вось узлёт, прарыў, катарсіс...

Суладдзе руйнуецца прызабытым Пінжаком і эпізадычным Андрушам, якія паўстаюць у рамане пад акампанемент Веркі Сярдзючкі. Каб не было шкада галоўнага героя, пісьменнік другім разам пасля эпіграфа нагадвае пра мастацкую ўмоўнасць і нерэальнасць падзей. Але калі б Шульга ўзяў у аўтавакзале білет не да Мінска, а да дзедавай вёскі Буды – раптам усё скончылася б інакш?




Тут сапраўды хочацца “выцягнуцца да хрусту ў спіне, прыўстаць на дыбачкі і гаркнуць з усёй сілы так, каб вёска прачнулася <...> каб развіднела як след, нарэшце”. Бо і ў гэтым рамане – зачараванае кола беларускай літаратуры, беларускага жыцця: усе сумуюць па кінутай вёсцы, і ніхто не спрабуе зразумець, чаму яе немагчыма змяніць, зрабіць прынаднай для нармалёвага чалавечага існавання. Зачараваная ў нас вёска, ці што? А можа яе зусім не трэба змяняць, хай дажываюць там простыя, крыху наіўныя людзі, якія шчыра дзівяцца кампутарным мышам, – з імі лягчэй дыхаць, яны як сфагнум...

Калі ж вяртацца да кампазіцыі, то трэба адзначыць, што В. Марціновіч вельмі прафесійна вядзе чытача па сваім творы, ён нібы надзелены рэдкім інтуітыўным прадчуваннем чытацкай рэцэпцыі. Пісьменнік хоча сказаць адразу пра многае і не прысвячае доўгія абзацы таму, пра што можна элементарна здагадацца. Ён прапускае месцы, дзе героі павінны дзейнічаць ці выказвацца па вядомых схемах: размову Шульгі і Насці, сумесны вечар Серага і Русалкі, рыбалку ведзьмака-Сцяпана, на якую запрошаны выключна “калхознік” Шульга. Тут маглі прагучаць важныя, але звыклыя словы, і, з іншага боку, не толькі ў жыцці, але і ў рамане могуць быць вельмі прыватныя моманты, значныя менавіта тым, што пра іх *не раскажаш*.

Замест таго, каб *паўтараць*, аўтар, відавочна, вырашыў зрабіць раман займальным – каб чытач-такі дачытаў яго да канца. Як вядома з даўно выведзеных законаў літаратуры, галоўны рухавік кожнага цікавага твора – канфлікты, калізіі, перыпетыі, праблемы, якія шчодра сыплюцца на галовы герояў. А далей – болей дынамікі! У “Сфагнуме” ўсё гэта ёсць: героі спрачаюцца, ездзяць туды-сюды, іх планы зрываюцца, балота паўстае зонай рызыкі і небяспекі. Калі штосьці атрымліваецца добра, значыць хутка будзе *аблом*: “Тут калі гаўно адбываецца – гэта назаўжды. А калі што добрае – вось тады адварожыцца, так. Каб гаўном зрабіцца”.

Самай неверагоднай падзеяй падаецца адзін з ключавых момантаў рамана: цяжка ўявіць, каб сур’ёзныя хлопцы, якія некалькі дзён таму выпадкова забілі таварыша, выправіліся блукаць па Глускім раёне ў пошуку скарбаў. Той, хто на гэта згадзіўся, паверыць і ў каўтун, і ў дождж з залатых манет. Але наогул чытач знаёміцца з героямі і аглядае родныя мясціны вельмі натуральна, як у жыцці. Так, агульнае ўражанне ад персанажа заўсёды больш глыбокае, чым пасля першай сустрэчы з ім. Вядома, аўтар і ў першых раздзелах мог прэзентаваць бабу Любу як амаль сімвалічны вобраз, але ўпэўненасць гераіні ў веданні нечага важнага і сакральнага ўспрымаецца іншымі іранічна. Толькі падзеі твора сцвярджаюць яе ў адмысловым статусе.

Шульга напачатку амаль не адрозніваецца ад “пацанчыкаў”, але Сцяпан і баба Люба не выпадкова вылучаюць яго як *свайго*. Нават калі ён патрапіў у свет *махачу, шлюх, малінаў* ды *коксу* гэта чалавек *свой* – і для беларускай вёскі, і для беларускай літаратуры. “Нафіг тады ўся гэтая гісторыя з Масквой, з братвой?” – спытаемся мы разам з Хамяком, на што Шульга няўцямна адказвае: “Бо я хацеў пісьменнікам зрабіцца, які пра жыццё піша. <...> Бо ў жыцці трах, гаўно і трындос”.

Аўтар не імкнецца і да настойлівага захаплення роднымі краявідамі. Глуск паўстае шэрым правінцыйным горадам з прозы Чэхава і Салагуба, падчас шпацыраў па вёсцы таварышы найперш заўважаюць напаўразбураныя будынкі. Прыгажосць немагчыма назіраць заўсёды, прыгажосць – не фон, а адкрыццё, нечаканасць. Таму рэдкія эпізоды, дзе героі захапляюцца ўбачаным, больш чапляюць, чым

манатонныя апісанні маляўнічых пейзажаў, і калі Шульга на развітанне аглядае вёску ды збірае на полі валошкі, гэта насамрэч кранае. Мары і ўспаміны герояў, усё значнае і праніклівае апісваецца стрымана, лаканічна. Запамінальна – і ніякіх "ружовых сопляў".

Віктар Марціновіч піша прафесійна, што ў кантэксце беларускай прозы прыкметна вылучае пісьменніка. Насця, для якой прызначаны букет валошак, – верная першаму каханню загадчыца неіснуючай бібліятэкі – з'яўляецца ў рамане толькі як сілуэт, але яе вобраз надзіва поўны і запамінальны. У цэнтры ўвагі пісьменніка знаходзяцца не прыватныя гісторыі персанажаў, а наогул *жыццё*, і тым не менш герой – гэта заўсёды ідэя. Пра рознае разуменне кахання, пра светапогляд сталых вяскоўцаў, пра асаблівасці міліцэйскай службы ў двух словах не скажаш, а вось рамана амаль дастаткова!

## Іншая мова – іншы свет

У многіх інтэрв'ю В. Марціновіч адзначаў, што галоўнай умовай выдання «Сфагнума» на беларускай мове была магчымасць пэўнай перапрацоўкі тэксту: «цалкам прыбраць мацюкі!». Але моцныя слоўцы не зніклі з рамана, проста ў некаторых выпадках для іх знайшліся больш мілагучныя адпаведнікі, што, здаецца, зрабіла мову галоўных персанажаў больш разнастайнай. Змены сапраўды мелі падставу: беларускамоўны чытач не вельмі прызвычаены да агрэсіўных тэкстаў, дзе на адной старонцы можа быць з дзясятак мацюкоў.

Больш істотным падаецца іншы момант: у арыгінале галоўныя героі ўжываюць пераважна рускую мову, а другасныя персанажы размаўляюць на дзіўнай сумесі дзвюх дзяржаўных моваў. У беларускім варыянце маўленне герояў робіцца больш аднародным і таму менш характарыстычным, змяняецца да непазнавальнасці і моўная карціна Глускага раёна.

У сённяшніх варунках рэдактар раёнкі, які размаўляе па-беларуску, і рэдактар, які ўжывае літаратурную рускую мову, – гэта дзве розныя асобы, хаця іх існаванне ў адным вымярэнні цалкам дапушчальнае. Ведзьмака Сцяпана таксама можна надзяліць нацыянальнай самасвядомасцю, хаця аўтар «Сфагнума» гэтага не зрабіў. Што ж тычыцца Выхухалева, яго шэфа, Шульгі, Серага і Хамяка, то беларуская мова ў іх вуснах падаецца абсалютна неверагоднай. Гэтую праблему неаднойчы закранаў Сяргей Кавалёў: калі міліцыянт пачынае размаўляць на сцэне па-беларуску, глядач не верыць ні акцёру, ні рэжысёру, ні аўтару п'есы – што ёсць вялікай праблемай для сучаснага драматурга і тым больш для празаіка.

Але самае кардынальнае пераўтварэнне здараецца ў дваццаць першым раздзеле. Рэцыдывіст Пятніца размаўляе на фені, але ў перакладзе зыходнай мовай з'яўляецца беларуская – і ў лексіконе зэка побач з *вертухаллю* і *выхлапам* прысутнічаюць такія словы, як *капялюш*, *павага* і *трус* – у самым правільным беларускім значэнні. Пятніца моцна здзіўляецца «калгаснай» мове вясковага румянага Мішы Матарышына, і калі ў арыгінале гэта тлумачыцца неадпаведнасцю трасянкі нармалёвай рускай мове, то ў перакладзе сэнс робіцца іншым: чаму гэта вясковы хлопец не ведае, як правільна назваць *іспалком*, кажа *ўжэ* замест *ужо* і *знаюць* замест *ведаюць*. Карацей, Пятніца ператвараецца ў носьбіта моцнай і самаўпэўненай беларускай мовы: магчыма, ён скончыў некалі беларускі філфак, у якім так і не давялося вучыцца В. Марціновічу?

Варта адзначыць, што пры напісанні рамана аўтару зусім не пашкодзіла б веданне дыялекталогіі, бо за маўленне сталых вяскоўцаў, кшталту бабы Любы і Грыні Люлькі, робіцца вельмі крыўдна. Калі герой размаўляе на трасянцы, недастаткова проста чаргаваць рускія і беларускія словы, псаваць рускія дзеясловы няправільнымі канчаткамі. Маўленне – заўсёды сістэма, заканамернасць, і мала-

верагодна, каб між *агародам* і *перагонам* прагучала слова *река*, каб *это* чаргавалася з *гэтым* і ў адной рэпліцы гуртаваліся словы *идти, идзи, дайдзеце* і *прыдзеце*. Калі б у маўленні бабы Любы паслядоўна выяўляліся пэўныя фанетычныя з'явы, яе гаворка была б больш прыгожай і мілагучнай. У арыгінале ж «Сфагнума» здаецца, што аўтар проста паздзекаваўся з мовы персанажа, – зрэшты, беларускі тэкст, надрукаваны рускім шрыфтам з памылкамі ў некаторых славах заусёды будзе здавацца смешным і недарэчным скажэннем вялікай і магутнай суседскай мовы. Такіх прыкладаў вельмі шмат у газетных публікацыях, калі маўленне вяскоўцаў, у прынцыпе беларускае, перадаецца ў рускай транскрыпцыі.

Зразумела, што ў перакладзе баба Люба размаўляе па-беларуску амаль чыста – тут ужо руская мова з'яўляецца прыкметным адхіленнем ад нормы, і пачварнай трасянкай узнагароджваюцца адно старшыні райвыканкамаў. Іншая мова – іншы мастацкі свет. Пераклад В. Рыжкова больш камфортны для беларускамоўнага чытача, хаця на беларускай мове падзеі рамана набываюць злавесную набліжанасць. Забойствы, арышты, зэкаватыя пацанчыкі, грошы, якіх «да хяра», – пра ўсё гэта па-руску пісалі, бадай, дзясяткі тысяч разоў, і яшчэ столькі ж перакладалі. А ў беларускай літаратуры такое здараецца радзей, і, дзякуючы перакладу, раман адразу набывае пагрозлівае значэнне.

Арыгінальны твор пакідае беларускамоўнага чытача ў сумнай адзіноце: беларуская мова тут увогуле не гучыць – хаця для радыё альбо мясцовага «Шляху Радзімы» пісьменнік мог зрабіць выключэнне. Сяляне не клапоцяцца аб тым, каб іх маўленне адпавядала граматычным і лексічным нормам, а іншыя героі даўно зрабілі выбар на карысць рускай мовы. Беларуская літаратурная мова ў кантэксце рамана паўстае нечым штучным, ненатуральным і наогул няісным.

Затое некаторыя героі часам пераходзяць на трасянку: каб не вылучацца між тутэйшых жыхароў (Шульга), каб «прагнуцца перад чалавекам, вышэйшым за сябе, выстаўляючы сябе больш дурным і неадукаваным, чым ёсць» (Выхухалеў). Беларуская мова – даўно ўжо мова *слабая*, мова малапрыкметных і неўплывовых людзей – сялянаў ды інтэлігенцыі. А бізнесоўцы, падпалкоўнікі ды крымінальныя аўтарытэты не ўжываюць яе, бадай, з часоў Вялікага княства. Адпаведна, Хамяк і Серы пры кожным зручным выпадку імкнуцца апусціць, прынізіць і беларускую вёску, і беларускую мову. І калі вёска крыху выпростваецца пасля Сцяпанавай крытыкі гарадскога жыцця, то значнасць *мовы* пісьменнік сцвярджае выключна фактам перакладу «Сфагнума». Аднак моўная сітуацыя акрэсліваецца амаль на ўзроўні навуковага даследавання (калі не ўлічваць дзікую трасянку) – відаць, што гэты аспект быў для аўтара вельмі значным.

Пабачым, што напісаў В. Марціновіч пра мову ў сваім новым рамане – ужо сур'ёзна і па-беларуску!



# І тады ўдарыў Бом

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Мікола Захаранка. І тады ўдарыў Бом. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 220 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 41).**

Паэт, празаік, драматург, публіцыст Мікола Захаранка выдаў кнігу – цяжка паверыць, але першую сваю кнігу! – “І тады ўдарыў бом”. У яе ўвайшлі апавяданні і п’есы. Ужо самі назвы, а таксама жанравыя пазнакі некаторых з іх даволі красамоўна гавораць пра накірунак творчага мыслення гэтага вельмі адметнага аўтара: “Васілевіцкія маналогі на «трасянцы»”, любоўна-крымінальная фантасмагорыя, камедыя-фарс... “Трагедыя чалавечага жыцця і яго святочная весялосць кіруюць думкамі і ўчынкамі герояў гэтай кнігі”, – паведамляецца ў анатацыі да зборніка. Будзённыя падзеі пераплятаюцца ў аповедзе з фантастычным і казачным, таму чытачу не будзе сумна. Як і самому аўтару, які гуляецца з сумяшчэннем несумяшчальнага, балансуе на мяжы трагедыі і камізму.



**Уладзь Лянкевіч. 70% вады. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 54 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; Пункт адліку).**

Філолаг, выкладчык, перакладчык, рок-музыкант... Уладзь Лянкевіч нарэшце парадаваў сваіх прыхільнікаў кнігай вершаў з самакрытычнай назвай “70% вады”. Як лаканічна пазначана ў анатацыі, кніга “ўключае адзін скрадзены і некалькі дзясяткаў сваіх вершаў з музыкай і без”. Уладзь Лянкевіч, несумненна, адзін з самых перспектыўных аўтараў свайго пакалення, які адначасна працуе ў некалькіх відах мастацтва і розных літаратурных жанрах. Некаторыя з вершаў, змешчаных у зборніку, пазначаныя не традыцыйнымі “зорачкамі”, а нотным знакам: гэтыя тэксты сталіся песнямі, якія ўваходзяць у рэпертуар арт-рок і псіхадэлік гурта *TonqiXod [ТонкіХод]*, дзе Уладзь Лянкевіч з’яўляецца вакалістам і гітарыстам.




**Алесь Няўвесь. Кукіш у кішэні. – Смаленск: Універсум, 2014. – 400 с.**

Пабачыла свет чарговая кніга вершаваных фельетонаў Алеся Няўвеся. Як і раней, у поле зроку вядомага сатырыка трапляюць востра надзённыя, камічныя і трагікамічныя эпізоды беларускай рэчаіснасці. Кніга “Кукіш у кішэні” – творчая справаздача створанага аўтарам за 2013 год. Нагадваем, што ў электронным выглядзе гэтую і іншыя зборнікі Алеся Няўвеся можна набыць на сайце: www.alesnauwes.com.

**Вячаслаў Рагойша. Вочы ў вочы, мыслі ў мыслі. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 296 с.**




Гэтая кніга ёсць своесаблівым падрахункам зробленага знаным тэарэтыкам літаратуры Вячаславам Пятровічам Рагойшам як перакладчыкам паэзіі. Яе склалі пераклады (ці, як зазначае аўтар у прадмове, – увасабленні) на беларускую мову вершаў украінскіх, сербскіх, харвацкіх, баснійскіх, славацкіх, грузінскіх і казахскіх паэтаў. Прадмова да кнігі – “Пра мастацкі пераклад жартам і ўсур’ёз” – уяўляе з сябе займальны і карысны майстар-клас для перакладчыка. Уражвае бібліяграфія перакладаў Вячаслава Рагойшы, што займае восем старонак.

**Падручны гістарычны слоўнік субстантыўнай лексікі: давед. выд.: у 2 т. Т. 1: А-О / Нац. акад. навук Беларусі; склад.: І.У. Будзько [і інш.]; пад рэд. А.М. Булыкі. – Мінск: Беларус. навука, 2013. – 531 с.**




У выдавецтве «Беларуская навука» ўбачыла свет праца, якую можна лічыць наватарскай не толькі ў Беларусі, але і на ўсёй постсавецкай прасторы. Падручны слоўнік» ахоплівае лексіку, што была зафіксавана ў пісьмовых дакументах да сярэдзіны XVIII стагоддзя. У ім дадзена семантычная характарыстыка звыш за 24 000 назоўнікаў з арыгінальных і перакладных пісьмовых помнікаў рознай жанрава-стылёвай прыналежнасці. Звярнуўшы ўвагу на пэўныя лексічныя пропускі, Лявон Баршчэўскі ў рэцэнзіі на выданне адзначыў, што “аўтары... мусілі прарабіць велізарную працу, зважаючы на тое, што, па-першае, шмат якія старабеларускія словы зафіксаваныя ў розных правапісных і структурна-марфемных варыянтах (іх колькасць часам даходзіць да дзясятка), а па-другое, далёка не заўсёды было лёгка ўстанавіць значэнне таго або іншага назоўніка. У цэлым беларускія мовазнаўцы з гэтымі задачамі справіліся, з чым іх можна павіншаваць”.

**Тарас Шаўчэнка. Мастак. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 204 с.**




Да 200-годдзя з Дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі ў выдавецтве “Кнігазбор” выйшла кніга твораў украінскага класіка ў перакладзе на беларускую мову пад назвай “Мастак”. Перакладчыкам і ўкладальнікам выдання выступіў вядомы майстар мастацкага перакладу Валер Стралко. Першы раздзел кнігі “На вечным шляху да Шаўчэнкі”, напісаны Іванам Дзюбам і Міколам Жулінскім, акадэмікамі Нацыянальнай акадэміі навук Украіны, прысвечаны апісанню і аналізу асноўных вехаў жыцця, творчасці і светапогляду Кабзара. Другі раздзел змяшчае паасобныя вершы Тараса Шаўчэнкі розных гадоў. У трэцім — адна з найлепшых аповесцей класіка “Мастак” у перакладзе з рускай мовы. Ёсць у кнізе і шэраг выказванняў вядомых творцаў і грамадскіх дзеячаў пра Тараса Шаўчэнку.

Кніга выдадзена дзякуючы спрыянню Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Міхаіла Ежэля і Ганаровага Консула Украіны ў г. Гродна Валянціна Байко. Падтрымана выданне і ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”. Паслямову да кнігі напісаў Барыс Пятровіч.

# Нашыя аўтары

**Балахонаў Сяргей** – паэт, празаік. Аўтар зборнікаў вершаў «Сонцавароты», «Брама сталасці», «Мой беларускі...», «Дваццатае вока вясны, «Паляванне на тэкст», кнігі прозы «Імя грушы» і інш. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Гомелі, дзе і жыве.

**Барадулін Рыгор** — паэт, перакладчык, эсэіст. Народны паэт Беларусі (1992). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1976). Аўтар кніг паэзіі «Маладзік над стэпам», «Рунець, красавацъ, налівацца!», «Нагбом», «Адам і Ева», «Рум», «Вечалле», «Евангелле ад мамы», «Здубавецце», «Руны Перуновы», «Ксты», «Anima» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе на хутары Верасоўка на Ушаччыне. Памёр 2 сакавіка 2014 года.

**Быкаў Васіль** — празаік, публіцыст. Народны пісьменнік Беларусі (1980). Лаўрэат шматлікіх дзяржаўных і міжнародных літаратурных прэміяў. Аўтар кніг «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Альпійская балада», «Воўчая зграя», «Пайсці і не вярнуцца», «Знак бяды», «Кар’ер», «Сьцяна», «Пахаджане», «Доўгая дарога дадому» і інш. Нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Бычкі на Ушаччыне. Памёр у 2003 годзе.

**Вежнавец Ева (Святлана Курс)** – празаік. Аўтар кнігі «Шлях дробнай сволачы». Нарадзілася ў 1972 годзе ў вёсцы Загалле на Любаншчыне. Цяпер жыве ў Польшчы.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гронская Вольга** – паэтка, перакладчыца, літаратуразнаўца. Аўтар кнігі вершаў «АдВольная міфалогія». Нарадзілася ў 1978 годзе ў г.п. Крывічы Мядзельскага раёна. Жыве ў Мінску.

**Дрындрожык Уладзімір** – паэт, музыка. Скончыў Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт (аддзяленне «Дызайн»). Выдаў музычны альбом «Зрабі крок назад» і намаляваў комікс «Пра Кастуся» паводле п’есы У. Караткевіча. Удзельнік музычнага гурта «Шэпт Срэбра». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Віцебску. Жыве ў Мінску.

**Дубоўскі Валеры** – паэт, выдавец. Працаваў журналістам, кіраўніком у розных беларускіх перыядычных выданнях, дырэктарам выдавецтва «Беларусь». Аўтар кнігі вершаў «На пачатку маўчання». Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Хацькова на Шклоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Жлутка Алег** — празаік, перакладчык. Скончыў Мінскі Дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт, Беларускую акадэмію мастацтваў. Двойчы вязень сумлення (2002, 2006). Нарадзіўся ў 1980 годзе на Заходняй Украіне. Жыве ў Мінску.

**Захаранка Мікола** — празаік, паэт, публіцыст, драматург. Аўтар кнігі «І тады ўдарыў Бом». П’еса «Паехалі» (1996) ставілася на сцэне Нацыянальнага тэатру імя Янкі Купалы. Проза і паэзія друкаваліся ў «Полымі», «Літаратуры і мастацтве», «Звяздзе» і інш. выданнях. Нарадзіўся ў 1949 годзе ў г. Васілевічы на Гомельшчыне. Жыве ў вёсцы Швабы на Лагойшчыне.

**Івашчанка Анатоль** — паэт, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Вершnick», «Хай так», «Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Клімковіч Ірына** – публіцыст, журналіст, этнограф, фалькларыст. Працавала ў часопісах «Крыніца» і «Маладосць», сузаснавальнік і каардынатар ГА «Этнагістарычны цэнтр «Явар», цяпер навукова супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Аўтар ідэі, каардынатар і суаўтар энцыклапедычнага слоўніка «Міфалогія беларусаў», суаўтар кніг «Сакральная геаграфія Беларусі» і «Культавыя і гістарычныя валуны Беларусі», аўтар кнігі «Калі адчыняюцца нябёсы». Нарадзілася ў 1956 годзе на Сахаліне. Жыве ў Мінску.

**Кудравец Анатоль** — празаік, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай

прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1986). Аўтар кніг прозы «Зімы і вёсны», «На зялёнай дарозе», «Раданіца», «Сачыненне на вольную тэму», «Смерць нацыяналіста», «За дальнім прычалам» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Аколіца на Клічаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Кустава Валерыя (Валярына)** – паэт, літаратарка. Аўтарка кніг «Кроў Сусвету», «Каб неба сагрэць...», «Тамсама». Лаўрэат літаратурнай прэміі «Залаты апостраф» у галіне паэзіі за 2009 год. Нарадзілася ў Мінску, дзе і жыве.

**Лапіцкая Алеся** – крытык, празаік, публіцыст. Лаўрэатка конкурсу «Беларуская літаратура XXI стагоддзя: постаці, тэндэнцыі, перспектывы» (2010), што ладзіў «Дзеяслоў». Нарадзілася ў 1990 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Лецка Яўген** — празаік, перакладчык, публіцыст, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Па цаліку», «Дарога ў два канцы», «Хараство і боль жыцця» і інш. Нарадзіўся ў 1944 годзе ў вёсцы Пабрэззе на Навагрудчыне. Жыве ў Мінску.

**Мартысевіч Марыя** – паэт, крытык, журналіст. Аўтар кніг «Цмокі лятуць на нераст», «Амбасада». Перакладае паэзію і прозу з англійскай, польскай, рускай, украінскай, чэшскай моваў. Як эсэістка і паэтка ўдзельнічала ў шэрагу міжнародных фестываляў культуры ў Беларусі, Польшчы, Літве, Славакіі, Украіне. Нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Мудроў Вінцэсь** — празаік. Аўтар кніг «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.

**Несцярэнка Юры** — празаік, рок-музыкант. Рэдактар самвыдатнага часопіса «Грыфаман», стваральнік музычных праектаў «Блюз белай ночы», «NESTARы BAND», «Карцінкі Садовай вуліцы». Нарадзіўся ў 1965 годзе ў вёсцы Прыбар на Быхаўшчыне. Жыве ў Бялынічах.

**Сільнова Людка (Людміла)** – паэтка, публіцыст, крытык. Аўтарка кніг паэзіі «Ластаўка ляціць...», «Рысасловы», «Зеленавокія вoі і іх прыгажуні», «Зачараваная краіна», кнігі візуальнай прозы «Агністыя дзьмухаўцы», кнігі крытыкі «Крышталёвы сад». Нарадзілася ў 1957 годзе ў Маладэчна. Жыве ў Мінску.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар», а таксама альбомаў «Жодзінцы» і «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Стэфановіч Андрэй** – перакладчык, празаік. Паводле адукацыі архітэктар. Цікавіцца паэтычным перакладам, якім заняўся для таго, каб мець магчымасць чытаць сусветную паэзію па-беларуску. Друкаваўся ў часопісе «ПрайдзіСвет». Перакладае з ангельскай, французскай і нямецкай. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску. Жыве ў Лондане.

**Усеня Алесь** – паэт, празаік, сатырык, выдавец. Аўтар кніг «Я хачу на сваю планету», «Здань на хутары», «Дзежка дзёгцю», «Пустадомкі», «Мой лістапад» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Пасека на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны», «Дэжа вю» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай і ўкраінскай моваў. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва, якія друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Советская молодежь» (Рыга), «Белорусская деловая газета» і інш. Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

**Шчур Макс** — паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кніг «Спадарыня Адзіноцтва», «Амфітэатар», «Ранні збор», «Амальгама», «Ліст, знойдзены на папялішчы» і інш. Перакладае з чэшскай, іспанскай і ангельскай моваў. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Берасці. Жыве ў Празе.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца*** ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

### Лаўрэаты літаратурнай прэміі «Залаты апостраф» — за лепшыя публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» у 2013 годзе:

***«Проза».*** **Віктар КАЗЬКО. За нізкі апавяданняў “Пра моцю”, №64; “Вечны покліч вады”, №67.**

***«Паэзія».*** **Леанід ГАЛУБОВІЧ. За нізку вершаў “Зазімак”, №67.**

***«Non-fiction».*** **Алесь БЯЛЯЦКІ. За артыкул “«Дзяды» былі з намі. *З нагоды 25-годдзя першага масавага мітынгу ў Беларусі*”, №66.**

***Прэмію часопіса «Дзеяслоў» і Алеся Усені «За ўклад у развіццё сучаснай беларускай літаратуры»*** **атрымаў Генадзь БУРАЎКІН.**






**«Дзеяслоўцы» шчыра віншуюць новых лаўрэатаў.**

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.



У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Юрыя Дзядзінкіна, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.